## Прадмова

Кніга Алеся Бяляцкага «Халоднае крыло Радзімы» — своеасаблівы працяг кніг «Асьвечаныя беларушчынай» ды «Іртутнае срэбра жыцьця» — выданьняў, якія былі падрыхтаваныя падчас зьняволеньня аўтара.

«Халоднае крыло Радзімы» (занатоўкі, эсэ, інтэрв'ю) — пятая кніга Алеся Бяляцкага, да гэтага ужо пабачылі сьвет літаратуразнаўчая манаграфія «Літаратура і нацыя» (1991), кніга нарысаў і эсэ «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера» (2006), «Асьвечаныя беларушчынай» — артыкулы па гісторыі беларускай літаратуры і крытыка (2012), «Іртутнае срэбра жыцьця» (2014) — нататкі пра праваабарончую дзейнасьць.

Праваабаронца Алесь Бяляцкі быў арыштаваны ў жніўні 2011 года, да суда знаходзіўся ў сумнавядомым СІЗА № 1 — на вуліцы Валадарскага ў Менску (Пішчалаўскі замак), пасля ў СІЗА г. Жодзіна, а пасля ў папраўчай калоніі-2 ў Бабруйску. Калі рыхтавалася кніга «Халоднае крыло Радзімы», пайшла трэцяя вясна за кратамі.

У лісьце ад 1 сакавіка 2014 года Алесь Бяляцкі піша: *«Роўна два гады, як выгрузілі мяне ў Бабруйску. Чарговая памятная дата. І гэта ўжо будзе трэцяя бабруйская вясна. Апошнія тыдні падзеі ва Украіне займаюць увагу і думкі: у асноўным пра тое, як там будзе далей».*

Палітвязень, праваабаронца і літаратар Алесь Бяляцкі ў зняволенні вывучаў лёсы рэпрэсаваных беларускіх пісьменьнікаў. Пра гэта ён паведамляў у адным са сваіх лістоў.

Алесь Бяляцкі піша: *«Я зараз захапіўся Барысам Мікулічам і апошнія два тыдні перад Новым годам і ўжо два тыдні пасля Новага года (2014) займаюся распляценьнем заблытаных нітак ягонага лёсу і характару».* А таксама: *«У “Новым часе” прачытаў артыкул Сяргея Чыгрына да стагодзьдзя Тодара Лебяды, і прыемна мяне зьдзівіла ягоная жонка Бася Цыпіна, якая сьмела і адважна, з рызыкаю для сваёй свабоды заступалася за яго і здолела выцягнуць усіх іх (Лебяду, Сяднёва ды інш.) на*

*перасуд, дзе іх засьпела вайна. Дзякуючы ёй яны не згінулі ў лагерах і напісалі што-кольвек вартае».*

На прэзентацыі кнігі «Асьвечаныя беларушчынай», якая адбылася ў Менску ў сакавіку 2013 года, «ідэолагам адкрытай беларушчыны» называе Алеся Бяляцкага журналіст і літаратар Сяргей Дубавец:

«Пасьля таго, як Алесь трапіў за краты, давялося не адзін раз падумаць, хто ён, што ён значыць для мне і для іншых. Сярод розных іпастасяў Алеся ёсьць і такая: ідэолаг адкрытай беларушчыны. Што гэта такое? Беларушчына ёсьць закрытая, якая толькі бароніцца, і ёсьць адкрытая для грамадства, якая імкнецца да пашырэньня, каб болей людзей гаварылі пабеларуску, ведалі нашу гісторыю, нашу культуру і любілі гэта ўсё. І такі Алесь. Я перакананы, што толькі ў гэтым выйсьце з той сітуацыі, у якой мы ўсе апынуліся. Бо як нас стане болей, калі мы толькі баронімся?

Сама беларуская ідэя была сфармуляваная ў нашаніўскую пару братамі Луцкевічамі як адкрытая ідэя: прыходзьце ўсе; на якой мове вы гаворыце, якія ў вас насы, які ў вас сацыяльны статус — ад княгіні да селяніна — гэта абсалютна неістотна; істотна, што вы адкрыліся да беларушчыны, вы гатовыя палюбіць яе, вы гатовыя прыняць нас, і нас стане шмат. І ў нашаніўскую пару мы бачым, што людзі абсалютна ўсіх веравызнаньняў былі аб’яднаныя беларускай ідэяй, з-за чаго яна стала настолькі моцнай, што ў 1918 годзе стала магчымым абвясьціць Незалежнасьць.

Другі эпізод. Мне згадаўся вельмі цяжкі, драматычны час, калі ў Вільні ў 1942 годзе Беларускі Нацыянальны камітэт узначальваў Францішак Аляхновіч — чалавек абсалютна адкрыты і прывабны для іншых… Чым яны займаліся? Выцягвалі людзей з фашыстоўскіх засьценкаў — як маглі, усялякімі праўдамі-няпраўдамі. Імкнуліся выратаваць як мага болей людзей — Францішак Аляхновіч і Зоя Каўшанка (Кратовіч), якая пакінула пра гэта ўспаміны. Займаліся праваабарончай дзейнасьцю, як на сёньняшнія часы казаць.

Эпізод трэці. У пачатку 80-х гадоў узьнікае моладзевы рух вось на гэтай самай ідэалогіі адкрытай беларушчыны — мы не тоімся ні ад кога, а наадварот, ідзём да людзей, бяром іх за рукі і прыводзім да сябе, нас робіцца шмат, пасьля нас робіцца вельмі шмат, што таксама спрыяе новым пераўтварэньням у краіне.

Дык вось, думаючы пра братоў Луцкевічаў, пра Францішка Аляхновіча, пра “Майстроўню” і “Талаку” 1980-х гадоў, пра гэтую тыпалёгію адраджэньня, я думаю сёньня найперш пра Алеся Бяляцкага, якога моцна не стае. Не стае ўсім нам з розных прычынаў. Але яго не стае і грамадству. Яго не стае грамадству як ідэолага адкрытай беларушчыны, зь ягонай гатоўнасьцю ўпісваць Беларусь у маштабныя шматлюдныя праекты, якія

вонкава, можа быць, ніяк не афарбаваныя нацыянальна. Ён іх афарбуе абавязкова. І гэта ўсё ўрэшце ператвараецца ў зародкі сапраўднага беларускага грамадства. І сёньня, калі ў беларускім асяродку ідуць жорсткія палемікі, дыскусіі і нават сваркі, не стае такога чалавека, які проста паглядзеў бы на гэта ўсё са сваёй абаяльнай усьмешкай, проста рабіў бы справу, далей аб'ядноўваў людзей, рушыў у будучыню. Ну, і мы б пацягнуліся ўсьлед за ім».

У кнізе «Халоднае крыло Радзімы» шмат аўтабіяграфічных тэкстаў і ўспамінаў, якія тычацца падпольнай і паўпадпольнай грамадскай дзейнасьці аўтара падчас існаваньня СССР, калі іншадумства сярод беларускай інтэлігенцыі было не толькі антыкамуністычным, але і нацыянальна арыентаваным. У кнізе значнае месца займаюць успаміны пра культурны супраціў у Беларусі ў 80-я гады, адным зь лідараў, якога быў Алесь Бяляцкі. У 1987–1989 гадах Алесь Бяляцкі зьяўляўся старшынёй Аб'яднаньня маладых літаратараў «Тутэйшыя».

Пра ролю «Тутэйшых» Алесь Бяляцкі піша ў лісьце ад 6 сьнежня 2013 года: *«"Тутэйшыя" ўзьніклі ды існавалі ў вельмі шчыльнай зьвязцы з тагачасным беларускім рухам. Мы былі натуральнай часткай руху і не існавалі ў ізаляцыі. І сувязі гэтыя былі ў сотнях гаворак, сустрэчаў, кантактаў, сумесных імпрэзах. І ў гэтым яшчэ грамадская і нацыятворчая роля "Тутэйшых": яны кшталтаваліся самі і нацыянальна і духоўна кшталтавалі іншых — закладалі тыя ідэі, якія вырашаюцца і ніяк не вырашацца апошнія чвэрць стагодзьдзя»* (6 сьнежня 2013 года, Бабруйск, ІК-2).

Як супрацьвагу камуністычнай і савецкай ідэалогіі ўдзельнікі нацыянальна арыентаваных моладзевых суполак прапаноўвалі новую беларускую ідэнтычнасьць у кантэксьце еўрапейскай цывілізацыі, заснаваную на шанаваньні беларускай мовы, гісторыі і культуры. *«Напачатку 80-х прыйшло новае пакаленьне,* — сьцьвярджае Алесь Бяляцкі. — *Тыя, хто быў перад намі, нарадзіліся ці адразу пасьля вайны, ці яшчэ перад вайною, ці падчас вайны, — пакаленьне Пазьняка. Гэта былі дзеці вайны, і яшчэ, можна сказаць, — дзеці сталінскіх рэпрэсій. Гэта моцна паўплывала на тое асяродзьдзе, у якім яны выхоўваліся. Нашае пакаленьне зусім іншае, гэта пакаленьне дзяцей, якія ніколі не галадалі. Усе, хто хацеў, мелі магчымасьць атрымаць адукацыю — хто хацеў, той вучыўся, нягледзячы на свой сацыяльны статус. Але нам ужо мала было толькі матэрыяльнага дабрабыту…»*

Менавіта першыя нацыянальна-дэмакратычныя «нефармальныя суполкі» 80-х заклалі падмурак разьвіцьця структур грамадзянскай супольнасьці Беларусі. Улады цяперашняй Беларусі да гэтых структур, як і ў

СССР, працягваюць ставіцца падозрана, па-ранейшаму бачаць у іх «антыдзяржаўныя элементы». Гэта і вызначае сьпецыфіку дзейнасьці няўрадавых арганізацый сёньня ў Беларусі — татальны кантроль, крымінальная адказнасьць, прадугледжаная за дзейнасць «ад імя незарэгістраванай арганізацыі», значна абмяжоўваюць магчымасьці структур грамадзянскай супольнасьці.

У пэўнай ступені адбываецца працэс, калі няўрадавыя арганізацыі, пазбаўленыя рэгістрацыі, робяцца «паўпадпольнымі». Іх становішча аналагічнае стану нефармальных аб'яднаньняў 80-х. Гэта адзначае Алесь Бяляцкі: *«Хаця што значыць: легальных-нелегальных? Зараз "Вясна" незарэгістраваная, і фармальна яна нелегальная, але гэта рэальная арганізацыя. У нечым падобная сітуацыя тады была».*

Кніга Алеся Бяляцкага мае назву «Халоднае крыло Радзімы», такую назву абраў аўтар кнігі падчас зьняволеньня ў бабруйскай калоніі і патлумачыў сэнс назвы ў лісьце ад 30 сакавіка 2014 года наступным чынам: *«Назва шматзначная. Чаму крыло "халоднае" — зразумела. І Радзіма тут выглядае птушкай — зязюляй? чайкай? І зязюляй, бо не глядзіць сваіх дзяцей, і чайкай, бо ў іх, калі яны ляцяць, крылы срэбныя спадыспаду, калі глядзець на яе, і адліваюць на сонцы холадам. І такое крыло пакуль не грэе сваіх птушанятаў, пад якімі можна разумець усіх, хто ходзіць і жыве пад яе крылом»*.

*Паліна Сьцепаненка*

Алесь Бяляцкі — беларускі літаратуразнаўца, грамадскі і культурны дзеяч, віцэ-прэзідэнт FIDH, кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна».

Алесь Бяляцкі нарадзіўся 25 верасьня 1962 года ў мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёна Карэліі, куды ягоныя бацькі выехалі зь Беларусі на заробкі. У 1964 годзе бацька Віктар Усьцінавіч і маці Ніна Аляксандраўна вярнуліся ў Беларусь. Месцам жыхарства сям'я абрала малады горад Сьветлагорск.

У 1979 годзе Алесь Бяляцкі паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе распачаў літаратуразнаўчую і грамадскую дзейнасьць. У 1984 годзе атрымаў дыплом выкладчыка філалогіі. Перад паступленьнем у асьпірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР працаваў настаўнікам у Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласьці.

У 1985 годзе Аляксандра Бяляцкага прызвалі ў Савецкую Армію. Служыў пад Сьвярдлоўскам, механікам-вадзіцелем бранiраванага цягача ў артылерыйскім зьнішчальным супрацьтанкавым батальёне.

Пасьля вяртаньня з войска працягваў вучобу ў асьпірантуры, займаўся навуковай, літаратурнай і грамадскай дзейнасьцю. У 1986 годзе Бяляцкі быў адным са стваральнікаў Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», потым быў абраны старшынёй гэтай арганізацыі (1987–1989).

У 1988 годзе выступіў адным з заснавальнікаў таварыства «Мартыралог Беларусі», быў сябрам Арганізацыйнага камітэта Беларускага народнага фронту «Адраджэньне», сакратар Управы (1996—1999), намесьнік старшыні (1999–2001) БНФ «Адраджэньне», зьяўляўся заяўляльнікам першай з масавых акцый — «Дзяды». У 1990 годзе выступіў адным з арганізатараў Беларускай каталіцкай грамады.

З 1996 года — кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна».

Асьпірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР скончыў вясной 1989 года, на аснове дысертацыі ў 1991 годзе выдаў манаграфію «Літаратура і нацыя».

Працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам Музея гісторыі беларускай літаратуры. У выніку конкурсу ў 1989 годзе быў абраны дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. На гэтай пасадзе працаваў да жніўня 1998 года. Пад яго кіраўніцтвам завершана падрыхтоўка экспазіцыі «Беларускай хаткі» і цэнтральнага Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Менску. Прымаў актыўны ўдзел у мерапрыемствах, прысьвечаных 100-годзьдзю з дня нараджэньня Багдановіча, якія праводзіліся ў Беларусі, а таксама ва Украіне і ў Расеі. Пад яго кіраўніцтвам у першай палове 1990-х гадоў праводзілася будаўніцтва і адбылося адкрыцьцё філіяла музея ў вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна Менскай вобласьці і музея Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі. Ініцыятар выданьня архіўных зборнікаў, прысьвечаных публікацыі матэрыялаў пра жыцьцё Багдановіча, яго родных і знаёмых, выданьня ўспамінаў бацькі паэта Адама Багдановіча. У 1991—1995 гадах Алесь Бяляцкі — дэпутат Менскага гарадскога Савета дэпутатаў.

Алесь Бяляцкі зьяўляецца дзейным сябрам творчых саюзаў: Саюза беларускіх пісьменнікаў (1995), Беларускага ПЭН-цэнтра, Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Праваабаронца **Алесь Бяляцкі** быў арыштаваны ў жніўні 2011 года, да суда знаходзіўся ў сумнавядомым СІЗА № 1 — на вуліцы Валадарскага ў Менску (Пішчалаўскі замак), у СІЗА г. Жодзіна, а пасьля — у калоніі № 2 у Бабруйску. Кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 года турмы ў лістападзе 2011-га. Яго прызналі вінаватым у нясплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў, бо ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасьць.

Краіны Еўразьвязу, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Алеся Бяляцкага палітвязьнем, а прысуд яму — палітычна матываваным.

Мужная і пасьлядоўная пазіцыя Алеся Бяляцкага па адстойваньні правоў чалавека ў Беларусі і ва ўсім сьвеце адзначалася шматлікімі міжнароднымі ўзнагародамі, у тым ліку і Прэміяй Вацлава Гавэла ў галіне правоў чалавека — у студзені 2013 года. Алесь Бяляцкі пяць разоў вылучаўся на Нобелеўскую прэмію міру, а ў 2007 і 2012 гадах кандыдатура Алеся Бяляцкага ўвайшла ў шорт-ліст Нобелеўскай прэміі.

# ПРАВААБАРОНЦА

## Першыя крокі

Нарадзіўся 25 верасьня 1962 года ў Карэліі, у мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёна. У савецкія часы ў Сартавалах рабілі вядомыя на ўсю краіну лыжы. На іх тады каталіся даволі многія. Патлумачу, чаму так далёка, бо я зь беларускай сям'і.

Пасьля савецка-фінскай вайны трэба было асвойваць далучаныя тэрыторыі, і ў запрыгоненых савецкіх сялян зьявілася магчымасьць вырвацца з «калгаснага раю». Заможная некалі сям'я Бяляцкіх пасьля калектывізацыіператварылася амаль у жабрацкую. На пачатак 1940 года шасьцёра дзяцей майго дзеда Усьціна пачалі пухнуць ад голаду, бо, літаральна, не было чаго есьці, ён вырашыў пакінуць родныя мясціны, Рагачоўшчыну, і паехаў «па вярбоўцы» на «акупіраваныя землі».

Так мой бацька Віктар Усьцінавіч (1929 года нараджэньня) у 10-гадовым узросьце апынуўся за Ладагай. Маці, Ніна Аляксандраўна Кавальчук, родам з Нараўлянскага раёна. У Карэлію яна трапіла таксама па вярбоўцы, але толькі ўжо па іншай. Было гэта пасьля Другой сусьветнай вайны. Мяне назвалі ў гонар майго дзеда. Спачатку ён быў у партызанах, а потым «прапаў безь вестак» на фронце.

Пазнаёміліся яны там і пажаніліся ў 1956 годзе, а ў 1964 годзе, калі мне было два гады, вярнуліся ў Беларусь.

Аднак першыя дзіцячыя ўспаміны зьвязаныя менавіта з Карэліяй. Добра памятаю свой дзіцячы садок, шум рэчкі, праз якую па мосьце мяне везьлі на вазку ў ясьлі, і скалы вакол. Памятаю пажар, які я зрабіў на варыўні, наклаўшы на электрычную плітку газет і ўключыўшы плітку, а потым, калі яны загарэліся, а ад іх і фіранкі, пабег у спальню, паскардзіўся сьпячай пасьля начной зьмены маці і пасьпяхова ўцёк да суседзяў на першы паверх.

У тыя часы ў Беларусі пачалі будавацца заводы, якім былі патрэбныя рабочыя кадры. Мае бацькі выбіралі паміж шахтамі Салігорска і хімзаводам у Сьветлагорску. Паехалі ў Сьветлагорск Гомельскай вобласьці, бо ён знаходзіўся бліжэй да Рагачова і Нароўлі... Зь ім і зьвязана сьвядомая частка майго дзяцінства.

Жыць не было дзе, і рабочым дазволілі будаваць «времянки». Будавалі з усяго, што трапіла ў рукі, з дошак, заваліны засыпалі зямлёю. Зімою вецер аж гудзеў у шчылінах, мышы бегалі па падлозе. Адну я злавіў і паднёс маці ў падарунак. У нейкім сэнсе я быў фаермэнам. Зараз «урамянак» ужо няма, а раней каля вакзала паўз чыгунку там былі сапраўдныя трушчобы. Дык вось. Я падпальваў сваю «халупу» разы са тры. У савецкія часы дзіцячыя садкі былі перапоўненыя, падзець мяне не было куды, таму аднаго пакідалі ў хаце: старэйшы брат ішоў у школу, а бацькі на працу. Кожны раз яны баяліся, што я згару разам з домам, і кожны раз Бог мяне абараняў. Неяк я знаходзіў запалкі і рабіў пажары. Шанцавала. То суседзі заўважаць, то сам уцяку, калі нешта пачынала тлець і зьяўляўся першы дым. Зачынены ў хаце, адзін раз разрэзаў нажніцамі абіўку з матэрыі на радыёпрыймачы, шукаў там маленькага чалавечка, другі раз вываліў на ложак зямлю з вазона, а саму кветку парэзаў на дробныя кавалкі, так было прыгожа — чорная зямля на белай прасьціне і зялёная кветка на ёй.

Вельмі любіў лазіць па дрэвах. Забіраўся высока-высока, і ніхто не мог зьняць. Прыманьвалі цукеркамі. Унізе чакала вялікая крыўда, бо замест абяцаных цукерак атрымліваў па срацы.

У мяне быў любімы сабака Тузік. Часам ён прыносіў зь лесу крыху прыдушаных зайцаў. Дарэчы, нашая «ўрамянка» стаяла сярод хваёвага лесу. Я любіў самастойна вандраваць — то на недалёкі чыгуначны вакзал траплю, то ў лесе заблукаю, то яшчэ куды пайду, і бацькі баяліся, каб не здарылася нешта трагічнае.

Яны палохалі тым, што калі-небудзь мяне скрадуць цыганы. А цыганы тады жылі на вакзале і часта хадзілі паўз нас. Аднойчы на дарозе я заўважыў дзьвюх цыганак і падумаў, што гэта па мяне. Сказаў Тузіку: «Фас!» і кінуўся ў атаку. Бедныя цыганкі...

Як чалавек, які вырас не «на асфальце», вельмі любіў зьбіраць грыбы. Асабліва калі быў у бабулі па маці, у Красноўскай Будзе. За Нароўляй такія лясы! Побач мяжа з Украінай і грыбнікі хадзілі туды-сюды. Больш за 200 баравікоў ніколі не браў — не данесьці. Цяпер так рабіць немагчыма. Чарнобыль.

У тыя гады стаў чытаманам, якім зьяўляюся і па сёньня. Пры гэтым ніхто мяне чытаць не вучыў. Асвоіў усё сам. У пяць гадоў па буквары, пытаўся ў старэйшага брата: а што гэта за літара, а якая гэта? Потым пачаў чытаць, і бацькі зьдзівіліся. Да пятага класа любіў біцца, не ведаў страху і рабіў гэта паспяхова, бо ніхто не чакае ўдару ад ляўшы. А потым так захапіўся кнігамі, што стаў больш часу праводзіць у кватэры.

Зь ляўшы зрабілі праўшой, прымусілі пісаць правай, таму на савецкую сістэму выхаваньня ў мяне крыўда (смяецца. — ***Заўв. А. Т.***) з маленства.

**Выбар лёсу**

У Сьветлагорску скончыў сярэднюю школу № 5. Зь першага да апошняга класа адвучыўся там, а жыў праз дарогу. У першы клас у школу пайшоў сам, без бацькоў, не хацеў, каб яны ішлі са мной. Вучняў было шмат, таму патрапіў я

аж у першы «І». Клас у нас быў вельмі дружны. Ужо ў старэйшых класах езьдзілі «на бульбу», «на буракі», самавольна хадзілі ў паходы. Не толькі ў школе, але і па-за ёй мы ўвесь час тусаваліся разам. Што толькі не рабілі... Напрыклад, разам выпілі шмат партвейну. Дарэчы, папаступалі ў інстытуты і ўніверсітэты потым амаль усе, бо вучыліся добра.

Я абраў Гомельскі ўніверсітэт, дакладней — беларуска-рускае адзьдзяленьне гісторыка-філалагічнага факультэта.

Правучыўся там пяць гадоў. Кампанія ў нас была вельмі цікавая, бо разам сам мной вучыліся Анатоль Сыс (на два гады старэйшы), Эдуард Акулін і Сяржук Сыс (аднагрупнікі), Анатоль Казлоў (маладзейшы на год), Вольга Куртаніч і Ліля Плыгаўка. Словам, дастаткова актыўная паэтычная беларуская сябрына.

Менавіта там мы пачалі задумвацца над пытаньнямі беларускай мовы, разьвіцьця гісторыі, культуры. Увогуле лёсу Беларусі. Аналізаваць, што з гэтага будзе і ў якім мы становішчы знаходзімся. Мяне ўжо тады пачалі хваляваць пытаньні нацыянальнай адметнасьці, беларушчыны. Я яшчэ пасьля дзясятага класа хацеў напісаць ліст у «Известия» ці якую іншую цэнтральную газету пра несправядлівае становішча зь беларускай мовай, зрабіў чарнавік на пяць старонак, але не перапісаў і не даслаў. Мо і добра, а то б не бачыць бы тады мне ўніверсітэта, прыйшлося б ісьці на «хімдым» да бацькі, гайкі круціць.

У 1981 годзе на грошы, заробленыя ў будаўнічым атрадзе, адправіўся ў вандроўку па гістарычных мясьцінах Беларусі. Дзе на маршрутных аўтобусах, дзе «аўтастопам», дзе пехам.

Уражаньняў было шмат. Галоўнае — беларуская мова жыве! У адрозьненьне ад цяперашняга часу на ёй сапраўды размаўлялі ў вёсках і мястэчках, амаль паўсюль.

Падчас той вандроўкі мне пашанцавала пабываць у Мікалаеўшчыне, што, як вядома, была «родным кутом» Якуба Коласа. Якраз набліжалася 100-годзьдзе з дня нараджэньня дзядзькі Якуба, таму там працавалі нейкія мастакі. Мабыць,

такі быў дзяржаўны заказ. Самым актыўным зь іх быў Мікола Купава. Мяне ўразіла іхняя беларуская мова. Гэта і стала прычынай знаёмства. Мікола спытаў: «Як цябе завуць?» Я адказаў: «Саша». А Купава сказаў: «Не, цябе завуць не Саша, а Алесь». Так што зь 19 гадоў я стаў Алесем, размаўляю выключна па-беларуску, і вырашыў, што ўсё з гэтым зьвязанае будзе для мяне галоўным на ўсё астатняе жыцьцё. Фактычна так яно і атрымліваецца.

Дарэчы, менавіта Купава пазнаёміў мяне зь менскімі актывістамі-студэнтамі (сярод іх былі Вінцук Вячорка, Сяржук Сокалаў), якія потым і складуць «касьцяк» беларускіх адраджэнцаў хвалі 1990-х. Ужо ў іх я браў негатывы з рознымі забароненымі выданьнямі 30-х гадоў, Міколы Ермаловіча і вёз у Гомель, дзе раздрукоўваў і даваў чытаць іншым.

У 1984 годзе я скончыў унівэрсітэт і некалькі месяцаў папрацаваў настаўнікам у Лельчыцкім раёне Гомельшчыны, а потым паступіў у асьпірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР. Гэта быў самы пачатак новай хвалі нацыянальнага адраджэньня і росквіт знакамітай творчай «Майстроўні». Праз яе прайшлі некалькі соцень чалавек, большая частка зь якіх і зараз працуюць на карысьць беларушчыны.

Дарэчы, на гэты ж момант выпадае і першая акцыя пратэсту. «Наверсе» вырашылі разбурыць дом, дзе ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя была пастаўлена першая беларуская п’еса Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, і актывісты «Майстроўні» наладзілі публічны супраціў. На акцыю з плакатамі выйшлі калі дзесяці чалавек (Вінцук Вячорка, Зьміцер Саўка і іншыя) і вельмі хутка апынуліся ў міліцыі. Праз пэўны час усіх адпусьцілі. Камуністычная ўлада зрабіла выгляд, што нічога неардынарнага не адбылося.

Праз паўгода мяне прызвалі ў Савецкую Армію, бо ніякіх адтэрміновак для асьпірантаў тады не было. Служыў пад Сьвярдлоўскам, механікам-вадзіцелем бранiраванага цягача ў артылерыйскім зьнішчальным супрацьтанкавым батальёне.

Аднойчы адбыўся такі выпадак. У «акумулятарных» было

вельмі цёпла, і салдаты там узімку адсыпаліся, калі была вольная хвіліна. У тым ліку і я. Адзін раз прачынаюся — няма побач майго земляка. Праз 10 і 20 хвілін — тое самае. А на вуліцы мінус 20. Устурбаваўся, выйшаў, каб паглядзець. Аказалася, тэхнічны парк, пакуль мы спалі, здалі пад ахову, і малады паставы з Арменіі ўвесь час трымаў яго на мушцы аўтамата. Упрасіць адпусьціць не ўдалося, прыйшлося вылазіць праз акно і бегчы да разваднога, добра, што знаёмага сяржанта, каб аддаў загад адпусьціць.

На жаль, армейская служба складалася не толькі з такіх прыколаў і давалася мне цяжка. Не фізічна — маральна. Думкамі я быў у Беларусі. З войска «выскачыў», як корак з пляшкі. Пасьля салдацкай службы былі прадугледжаныя яшчэ і двухмесячныя афіцэрскія курсы. Атрымліваць лейтэнанцкія «зорачкі» не стаў, зрабіў «дэмбельскі акорд», каб толькі не заставацца на лішнія месяцы ў войску, і вярнуўся вучыцца. Як кажуць, чыстыя пагоны — чыстае сумленьне.

### Супраць ветру

Калі я звольніўся з арміі ў запас, то ў беларускай сталіцы дзьмулі ўжо новыя вятры. Было заснавана і актыўна працавала моладзевае аб’яднаньне «Талака», ва ўніверсітэце і розных інстытутах зьявіліся шматлікія нефармальныя групоўкі. Вясной 1986 года адбыўся і першы разгон моладзі, якая ў Траецкім прадмесьці спрабавала сьвяткаваць «Гуканьне вясны». Улады падбухторылі былых «афганцаў» пабіць «фашыстаў», якія рэальна ж вучыліся ў мастацкай школе імя Івана Ахрэмчыка.

Грамадства ў той час было ў нейкім сэнсе наэлектрызаванае, і ў мяне адразу зьявілася шмат новых вельмі цікавых знаёмых. Асобаў сапраўды каларытных. Дастаткова ўзгадаць толькі аднаго Алега Бембеля, у бацькоўскім доме якога зараз музей, дзе неаднойчы праходзілі літаратурныя, паэтычныя, філасофскія сустрэчы.

Мы стварылі больш вузкае кола, у якое тады ўваходзілі Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Алесь Суша, Сяргей Воюш, я, Генадзь Сагановіч ды яшчэ некалькі асобаў, дзейнічалі ў кансьпіратыўным стылі, зьбіраліся ў заводскай падсобцы на радыятарным, дзе тады грузчыкам працаваў Віктар Івашкевіч, які таксама быў нашым аднадумцам, у дзіцячым садочку, дзе па начох вартаваў нехта з маіх сяброў, распрацоўвалі планы дзейнасьці і ставілі перад сабой цалкам палітычныя мэты. Нагадаю, што ішоў толькі 1986 год. Калі б пра ўсё даведаліся адпаведныя органы, для нас гэта б не скончылася дабром...

Зноў пашанцавала. Пачаўся час перабудовы, і магчымасьці для працы зьявіліся значна большыя. Тое, за што на пачатку 80-х жорстка перасьледавалі, у другой палове дзесяцігодзьдзя стала амаль законным. Зразумела, пры пэўных кансьпіратыўных момантах, бо сама сістэма заставалася такой, якой яна была раней.

Уся наша дзейнасьць падзялілася на дзьве часткі.

Падпольная. Не больш за тузін аднадумцаў вырашаў стратэгічныя накірункі дзейнасьці і найбольш эфектыўныя шляхі дасягненьня нашай мэты. Друкаваліся яны ў часопісе «Бурачок», за распаўсюд якога міліцыянты ўпершыню арыштавалі брата Віктара Івашкевіча — Яўгена.

Другі момант — легальны. Гутарка пра работу так званых «нефармальных» арганізацый, якія аб'ядноўвалі моладзь па інтарэсах. Адну зь іх мы прыдумалі і стварылі разам з Анатолем Сысом — таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя».

Сітуацыя сярод пішучай моладзі таксама была дастаткова крытычная. Творцы ўжо хацелі пісаць так, як хацелі, каноны сацыялістычнага рэалізму не толькі не спрацоўвалі, але ад іх ужо блажыла. Хацелася чагосьці іншага, больш праўдзівага.

Калі на першае наша паседжаньне ў інтэрнат Анатоля Сыса (вуліца Авангардная) сабралася дзевяць чалавек, то літаральна праз два месяцы на гэтыя сходы прыходзіла ўжо

па некалькі дзясяткаў маладзёнаў. Сёньня гэта касьцяк сучаснай беларускай літаратуры.

Такім чынам, маё жыцьцё як бы падзялілася на дзьве паловы — літаратурны дасьледчык і грамадская дзейнасьць, бо мяне абралі прэзідэнтам «Тутэйшых». І першае цалкам залежала ад другога. Адбываўся злом эпохі. Валіліся былыя аўтарытэты, друкаваліся неабгрунтавана забытыя пісьменьнікі, людзі пачыналі размаўляць на забароненыя тэмы.

Словам, ускалыхваньне грамадства было вельмі значным. І адпаведны водгук ператвараўся ў пэўны супрацію. На працягу некалькіх гадоў ішло балансаваньне паміж дазволеным і не. Урэшце людзі перасталі баяцца.

У 1987 годзе адбыўся сплаў па Дзьвіне супраць пабудовы там гідраэлектрастанцыі, першыя «Дзяды», першы паход на Курапаты, які прайшоў адразу пасьля друкаваньня «ЛіМам» артыкула Зянона Пазьняка, а таксама мітынг у абарону Верхняга горада.

Некаторыя памылкова лічаць, што першыя «Дзяды» прайшлі ў 1988 годзе, калі ў Менску запахла міліцэйскай «чаромхай». На самай справе гэта не так. Яны былі праведзены на год раней каля помніка Янку Купалу. Па-сутнасьці, там адбыўся мітынг-рэквіем. Адпаведная заяўка была пададзена своечасова, аднак ніякай рэакцыі на яе не было, таму тыя 300 чалавек, што прыйшлі, не ведалі, чым усё скончыцца. Дзякуй Богу, «хапуна» не адбылося. Кіраўніцтва краіны банальна разгубілася, бо за 60 гадоў савецкай улады ніякіх «непадкантрольных» мітынгаў не было.

І, вядома, «Дзяды» каля Маскоўскіх могілак, які праводзілі «Тутэйшыя» ды іншыя грамадскія аб’яднаньні. Заяўку ў Мінгарвыканкам падавалі я і Анатоль Сыс. Да нас далучылася гарадское Таварыства аховы помнікаў і культуры, якое тады ачольваў мастак Васіль Шаранговіч, але яны потым «адпалі», бо ўлады афіцыйна забаранілі правядзеньне гэтага сьвята, у «сувязі з 60-годзьдзем камсамола», якое адзначалася менавіта тады.

Мы вырашылі правесьці акцыю, хаця ўлады неаднаразова залікалі на яе не хадзіць. Нават спрабавалі запалохаць. Гэта выклікала супрацьлеглую рэакцыю. На нашае зьдзіўленьне, на «Дзяды-88» прыйшлі тысячы людзей.

Улады рыхтаваліся да разгону і недапушчэньня акцыі. Ужо пазьней у рукі мне трапіў дакумент з рэгламентацыяй, што яны зьбіраліся рабіць. Адна група нейтралізуе лідараў, другая захоплівае сродкі агучваньня і г. д. Па гэтым сцэнары яны і дзейнічалі.

Мяне арыштавалі адразу. Трэба сказаць, што рэзананс ад гэтай акцыі для іх быў вельмі нечаканым. Грамадства абурылася, народ пачаў думаць над тым, што адбываецца вакол і што трэба рабіць. Улічваючы, што за месяц перад тым быў створаны арганізацыйны камітэт Беларускага народнага фронту, гэта дало новаму руху тысячы прыхільнікаў. Дэмакратычныя зьмены ў Беларусі пачалі адбывацца вельмі імкліва. Ніхто такога прадбачыць не мог. Юнацкая мара пра незалежнасьць краіны стала рэальнасьцю.

Дарэчы, у 1988 годзе я атрымаў першы ў сваім жыцьці штраф — 200 савецкіх рублёў. Гэтыя грошы сабралі калегі па Інстытуце літаратуры АН. Мабыць, тады ўва мне і пачаў нараджацца будучы праваабаронца.

## Новыя колеры

Асьпірантуру я скончыў вясной 1989 года, але кандыдацкай дысертацыі не абараніў, бо пачаліся такія часы, што на абарону не хапіла часу. Яна датычылася публіцыстычнай беларускай паэзіі пачатку XX стагодзьдзя, вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, якія прарочылі зьмену сітуацыі і заклікалі народ да абуджэньня. У нейкай ступені нашы часы супадалі, таму мне гэта было асабліва цікава. На базе дысертацыі ў 1991 годзе выпусьціў кніжку «Літаратура і нацыя» і вырашыў, што гэтага дастаткова.

Асабліва браць на працу мяне не хацелі. Спрабаваў уладкавацца ў Магілёўскі, Віцебскі педінстытуты. Дарэмна. У акадэмію мяне браць не хацелі таксама, бо за часы вучобы двойчы фармальна выганялі з асьпірантуры за дзейнасьць, пра якую казалася раней. Кожны раз абыходзілася. Дырэктар Інстытута літаратуры Віктар Каваленка быў добрым чалавекам і заўсёды мяне бараніў. Афіцыйна яны сказалі партыйным уладам «о’кей», правялі сход інстытута, дзе віцэпрэзідэнт акадэміі Іван Навуменка крычаў: «Як такое можа быць, што адзін асьпірант двум акадэмікам і шасьці дактарам у шапку насраў!», прынялі адпаведную пастанову аб выключэньні. Аднак калі праз два дні я прыйшоў забіраць дакументы, Каваленка сказаў: «Вучыцеся, Алесь, вучыцеся!» Парадоксы тых часоў.

Нікуды мяне не хацелі браць, таму па разьмеркаваньні заставаўся толькі Гомель, адкуль я і прыехаў. Але зьявілася магчымасьць «зачапіцца» за Менск, дакладней за Музей гісторыі беларускай літаратуры, які толькі-толькі пачынаў працаваць. Туды былі патрэбны новыя дасьледчыкі, і пра дапамозе сьвядомых дзяўчат, якія там працавалі, перш за ўсё талакоўкі Ірыны Марачкінай, мяне ўзялі.

Па Саюзе ішла хваля (з самага верху), калі выбіралі кіраўнікоў розных прадпрыемстваў і ўстаноў. Неўзабаве такі конкурс абвясьцілі і ў суседнім музеі Максіма Багдановіча.

Я працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам і вырашыў узяць у ім удзел.

Было чатыры кандыдаты, але ўсе галасы аддалі мне. Так вырашыў калектыў. Трэба адзначыць, што гэта выклікала ў Міністэрстве культуры, мякка кажучы, непаразуменьне. Там добра ведалі маю папярэднюю біяграфію. Месяц зацьвярджэньня не было, а потым тагачасны міністр Яўген Вайтовіч махнуў рукой — прызначайце.

У прафесійным плане перада мной паўсталі новыя задачы, таму што музея як звычайнай экспазіцыі яшчэ не было. А быў будынак, складзеныя ў фондах экспанаты, экспазіцыйны план, цудоўныя супрацоўнікі, сярод якіх асабліва

хацеў бы адзначыць Веру Мікуту і выдатнага мастака, творца мастацкага вобраза музея Эдуарда Агуновіча. У 1991 годзе меркавалі шырока сьвяткаваць 100-годзьдзе Максіма Багдановіча, і да гэтай даты планавалася адкрыцьцё музея ў Траецкім прадмесьці.

Пачалася літаральна шалёная праца. Шмат у чым яна была зьвязана з мастакамі, экспазіцыйным бачаньнем сітуацыі, чаго не было раней, экспанатамі, навуковай працай і плюс з асаблівасьцямі тагачаснага Савецкага Саюза. У краіне панаваў татальны дэфіцыт. Даваліся грошы, за якія немагчыма было што-небудзь купіць, кантролю з боку Міністэрства культуры вялікага не было, але была вялізная ўнутраная адказнасьць. Мы павінныя былі зрабіць гэты музей у тэрмін. Дзякуй Богу, усё атрымалася. Праз пару гадоў пасьля адкрыцьця экспазіцыя музея атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі.

Цікавы момант. У 1990 годзе мяне абралі дэпутатам сталічнага гарсавета, і калі ў 1991 годзе там разглядалася пытаньне нацыянальнай сімволікі, я загадзя прынёс бел-чырвона-белы сьцяг, які перад гэтым упрыгожваў фае музея. Пасьля ўхвалы гарсаветам новай нацыянальнай сімволікі гэты сьцяг празь некалькі хвілінаў залунаў над будынкам Мінгарвыканкама. Першы ў краіне. За два тыдні да таго, як ён стаў дзяржаўным.

Пакуль працаваў у музеі, за дырэктарства асабліва не трымаўся, разглядаў музей як нацыянальную пляцоўку, а не сховішча мёртвых рэчаў, таму там больш за год месьціліся і герменчукоўская «Свабода», і дубаўцоўская «Наша Ніва», праводзіліся сходы Управы і Сойму БНФ, адбывалася сьвяткаваньне ўніяцкіх Калядаў, зьбіралася Беларуская каталіцкая грамада, былі зарэгістраваныя дзясяткі няўрадавых арганізацыяў. Адным словам, музей быў напоўнены сучасным беларускім жыцьцём.

Дырэктарам прапрацаваў да 1998 года і звольніўся па ўласным жаданьні. За час майго кіраўніцтва музей адчыніў яшчэ тры экспазіцыі ў розных будынках (адну нават у Ярас-

лаўлі), праводзіў значную навуковую работу, у ім праходзілі шматлікія літаратурныя імпрэзы. Як мне падаецца, музей у тыя часы быў адным зь лепшых у краіне.

### Гуканьне вясны

Калі вясной 1996 года стала канчаткова зразумела, куды павядуць краіну новыя ўлады і што новую хвалю нацыянальнага адраджэньня чакаюць нялёгкія часы, мы вырашылі стварыць грамадскую праваабарончую арганізацыю, якую так і назвалі — «Вясна-96». Галоўная мэта — салідарная падтрымка першых палітычных зьняволеных. А яшчэ дзеля таго, каб аказваць юрыдычную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсій, зьбіраць і распаўсюджваць праваабарончую інфармацыю, праводзіць адукацыйную праваабарончую работу.

Дапамога была рознай. У тым ліку і матэрыяльнай. «Першы блін» у гэтым сэнсе атрымаўся даволі незвычайны. Адзін з дабрачынцаў прывёз паўтоны ўсялякай ежы — макароны, цукар, розныя крупы і г. д. Сарціроўкай па пакетах, якія затым раздаваліся пацярпелым, займаліся ўсе нашы валанцёры.

Два першыя гады я працаваў у «Вясьне» паралельна з працай у музеі. А потым адтуль вымушаны быў сысьці, мае літаратуразнаўчая і музейніцкая біяграфіі цалкамператварыліся ў праваабарончую.

Шчыра кажучы, калі стваралі гэтую арганізацыю, я не думаў, што яна праіснуе так доўга. Лічыў, праз 2–3 гады (максімум 5) патрэба ў ёй увогуле адпадзе, і мы вернемся да звычайнай работы — музейнай, літаратурнай, навуковай, палітычнай. На жаль, памыліўся.

Сярод таго, чым зараз мы займаемся, асабліва хачу вылучыць назіраньне за выбарамі — вось без чаго немагчымыя якія-небудзь зьмены ў прынцыпе. У нашай сітуацыі гэта надзвычай важна, там тое, дзякуючы чаму тыя людзі, якія прыйшлі ў 1994 годзе, так доўга застаюцца пры ўладзе. Калі

б у нашай краіне ўсё адбылося празрыста і дэмакратычна, улада ўжо памянялася б, і не адзін раз.

Партнёрамі «Вясны» сёньня зьяўляюцца больш за тузін міжнародных і замежных арганізацыяў, а сам праваабарончы цэнтр прыняты сябрам у дзьве міжнародныя структуры. У тым ліку і ў вядомую Міжнародную федэрацыю правоў чалавека (FIDH) са штаб-кватэрай у Парыжы, якая аб'ядноўвае больш за 170 праваабарончых арганізацыяў з усяго сьвету.

На кангрэсе ў Лісабоне ў 2007 годзе мяне абралі віцэпрэзідэнтам FIDH. Двойчы нарвежскія парламентарыі вылучалі на атрыманьне Нобелеўскай прэміі міру. І галоўнае ў гэтым была не асоба. Мэта іншая: прыцягнуць увагу міжнароднай супольнасьці да сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

А рацыя, на жаль, такая ёсьць. Не буду пералічваць усё, што адбываецца падчас так званай «лібералізацыі па-беларуску». Адзначу толькі: у «Вясну» штогод па розных прычынах зьвяртаюцца па дапамогу некалькі тысяч беларусаў. А гэта гаворыць пра многае.

У 1998 годзе праваабарончы цэнтр «Вясна-96» быў зарэгістраваны, праз два гады, са зьяўленьнем філіяў, стаў арганізацыяй рэспубліканскага маштабу. Сёньня сябрамі гэтай структуры зьяўляюцца некалькі сотняў валанцёраў. У 2003-м рэгістрацыю скасавалі і не аднавілі па гэты дзень. Ні пад старой, ні пад новай («Наша вясна») назвай.

Фактычна мы вярнуліся да таго, з чаго я пачынаў у сваёй маладосьці, але ўжо на іншым узроўні, зь мільёнамі прыхільнікаў дэмакратыі і правоў чалавека ў краіне. Наперадзе яшчэ вялікая праца, і, як і раней, жніва шмат, а сейбітаў мала.

*Гэта матэрыял быў падрыхтаваны Аляксандрам Тамковічам і мае назву «Алесь Бяляцкі — праваабаронца»*

**Аўтарскае пасьляслоўе Аляксандра Тамковіча**

Пра іх дзейнасьць я пачуў за некалькі гадоў да таго, як асабіста пазнаёміўся з Алесем Бяляцкім. Апазіцыянераў новыя ўлады тады яшчэ толькі-толькі пачалі «зачышчаць», і гэта было для незалежных журналістаў чымсьці сенсацыйным. Каля Савецкага РУУС нас сабралася каля дзясятка. Ноч. Зімна. Нейкая дзяўчынка цікавіцца ўсімі абставінамі затрыманьня. Пытаюся ў калег, хто такая. І чую — нядаўна створаны праваабарончы цэнтр «Вясна-96».

Наша сустрэча адбылася 25 лістапада 2009 года. Скажу шчыра, што раней я ставіўся да мясцовых праваабаронцаў даволі скептычна. Маўляў, чым менш у нашай краіне становіцца розных правоў, тым больш зьяўляецца тых, хто іх абараняе. А падчас размовы зразумеў, што Алесь Бяляцкі змагаецца з афіцыйнымі ўладамі не дзеля піяру, а каб больш за гэта не змагаўся ніхто.

# ХАЛОДНАЕ КРЫЛО НАД МАЛАДЫМІ ГАЛОВАМІ

## *Успаміны пра супрацiў*

### Спадзяюся на памяць...

Згадваю найбольш вострыя моманты ў маім жыцьці. Іх набралася даволі нямала, калі я мог апынуцца ці апынаўся за кратамі. Некаторыя зь іх былі зьвязаны з падзеямі, якія ўжо сталіся значнымі ці менш значнымі вехамі нашай гісторыі, а некаторыя засталіся адно памяткамі майго жыцьця. Я не магу зараз паглядзець адпаведных дакументаў, пагартаць перыёдыку даінтэрнэтаўскай пары ці, урэшце, зайсьці ў інтэрнэт, каб удакладніць неабходныя даты і больш дакладна прапісаць падзеі, якія я згадваю. Ня цалкам спадзяюся на сваю памяць. І калі штосьці з апісанага будзе пярэчыць таму, што памятаюць іншыя ўдзельнікі гэтых падзей, дык няхай яны не судзяць мяне, а напішуць сваю версію навэлы, так будзе цікавей.

### Мы — не адныя

У 1983 годзе, дзесьці позьняй вясною, прыбег да нас у 61-ю кватэру гомельскага інтэрната кватэрнага тыпу, дзе жылі і вучыліся тады ва ўнівэрсітэце я і Эдзік Акулін, вяртлявы,

як ртуць, Сяржук Сыс. Мы былі тады ўжо на чацьвёртым курсе і жылі разам з чатырма гісторыкамі-першакурсьнікамі і адным эканамістам. А Сяржук пасьля войска працаваў грузчыкам на кандытарскай фабрыцы «Спартак», якая месьцілася насупраць нашага інтэрната, на другім баку вуліцы Савецкай.

Кватэра наша была амаль уся беларускамоўнай. Першакурсьнікі — хлопцы ў асноўным зь вёсак Гомельшчыны — настройваліся ў горадзе гаварыць «па-гарадскому», але наш з Эдзікам прыклад і пэўная тлумачальная праца прывялі да хуткага іх вяртаньня да мовы. Размовы пра гаротны лёс нашай мовы, якой камуністы прадвыраклі хуткі і вечны спачын, пра тое, што трэба ўпірацца, супраціўляцца, паўсюль размаўляць па-беларуску і сваім прыкладам прапагандаваць нашую мову, ішлі ў нас амаль штодзень. Вядома, што мова была толькі вяршыняй айсберга, пад якой хаваўся значна большы і аб'ёмнейшы кантэкст. Мова была нашай відавочнай, легальнай маркаю, праз якую мы выразна гаварылі: мы хочам бачыць Беларусь сапраўды беларускай.

І вось у гэтую нашу беларускую хату прыбег з ашалелымі вачыма і з заклапочаным, трохі блазнаватым выразам на худым і смуглявым твары наш сябра Сяржук Сыс. Усхваляваным, перарывістым голасам ён сказаў: «Я зайшоў у тэлефонную будку патэлефанаваць, а там ручкаю напісана: "Жыве Беларусь!"». Я напачатку не паверыў яму. Не можа быць, каб у нашым цалкам зрусіфікаваным Гомелі, дзе непадкантрольнае камуністамі беларускае жыцьцё ў асноўным і варылася вакол нашага асяродка, знайшоўся яшчэ хтосьці, хто ведаў, ШТО ГЭТА ТАКОЕ — «Жыве Беларусь!». Напісаць такое ў тагачасным Гомелі было раўназначна дыверсіі. Адна справа — патаемна раздрукоўваць з фотастужак, узятых у Вінцука Вячоркі і прывезеных мной зь Менска, здымкі, на якіх былі працы Міколы Ермаловіча, ці Ігната Абдзіраловіча, ці заходнебеларускія часопісы 1930-х гадоў «Шлях моладзі» і «Калосьсе», і даваць іх пачытаць знаёмым студэнтам, іншая справа — выйсьці вось так і адкрыта напісаць:

«Жыве Беларусь!». Але яшчэ мацней мяне ўразіла тое, што ў Гомелі знайшоўся яшчэ хтосьці, хто жыў на адной з намі хвалі.

Было ўжо позна, гадзін мо дзесяць вечара, я падхапіўся як апараны, і мы пабеглі на вуліцу да той будкі з гэтым неверагодным надпісам. Па дарозе я не раз перапытваў у Сержука, ці не разыграў ён мяне і ці не зрабіў гэты надпіс сам. «Ды не!» — шумна абураўся Сяржук. І вось я стаю ў тэлефоннай будцы на вуліцы Савецкай, бліжэй да цэнтра, чытаю гэты выразны, зроблены шарыкавай ручкай надпіс, і хваля шчасьця і поўнага захапленьня агортвае мяне з галавы да ног: «Мы не адныя!» Ніколі ў жыцьці я не адчуваў такога ўздыму і, як цяпер гавораць, кайфу.

«Мы павінны пакінуць пазнаку пра сябе, — паведамляю я Сержуку, — каб і яны ведалі, што яны не адныя, што і ў іх ёсьць аднадумцы».

Мы ў цемры ўжо бяжым у інтэрнат, хапаем асадкі, выскокваем на Савецкую і метадычна абпісваем надпісам «Жыве Беларусь!» усе тэлефонныя будкі, якія сустракаюцца на нашым шляху. Эмоцыі і пачуцьці б'юць з нас крыніцай. Мы, нібы шалёныя, носімся па горадзе і пішам, пішам...

Назаўтра я вырашыў, што прыйшоў час дзейнічаць больш актыўна. Сяржук Сыс па маёй замове выразаў на цьвёрдым аркушы паперы трафарэт з надпісам «Жыве Беларусь!», я купіў балончык з чырвонай аўтамабільнай эмальлю, а таксама пластмасавыя бутэлечкі з тушшу і пэндзлі. Неўзабаве ўвечары я і падбіты і разагітаваны Толік Казлоў, яшчэ адзін наш сябра, захапіўшы пэндзлі і гуаш, выйшлі «на справу» ў гомельскі парк. Была позьняя цёплая вясна. Вечарэла. Зялёная лістота, трава, кветкі ўкрывалі ўвесь парк. Мы хадзілі па парку і шукалі зручнае месца, дзе б нам напісаць чароўныя і запаветныя словы. Урэшце спыніліся на драўлянай лесьвіцы, якая сыходзіла з высокага парку на бераг Сожа. Сходы былі высокія, з парэнчамі, яны перабіваліся драўлянымі пляцоўкамі для адпачынку. Мы пачалі з долу, падымаючыся ўгору, абпісваць прыступкі і пляцоўкі чырвонай гу-

ашшу: «Жыве Беларусь!», «Жыве Беларусь!». І толькі мы напісалі апошні лозунг, толькі склалі свае прылады працы ў торбу, як на сьцежцы, якая ішла з парку да лесвіцы, проста на нас з-за густых кустоў бэзу выйшаў міліцэйскі нарад. Сэрца ў мяне адчайна забілася, кроў прыліла да галавы. Няўжо яны заўважылі? Няўжо нас зараз затрымаюць? Але ўсё абышлося. Міліцыянты павярнулі на іншую сьцежку і пайшлі уздоўж стромкага берага. А мы перавялі дух.

Наступны раз мы выйшлі зь Сержуком Сысом у горад і каля інтэрната ў цэнтры Гомеля праз трафарэт на сьцяне дома напырскалі надпіс «Жыве Беларусь!». Глядзелася будзённа і па-дзелавому. Як быццам бы мясцовы ЖЭС напісаў указальнік у бліжэйшае бамбасховішча. А потым аказалася, што ветраны Сяржук выпрабаваў трафарэт проста ў нас у пакоі. З гэтага самага балончыка ён набіў некалькі надпісаў, напырскаўшы паўсюль чырвонай эмалі — глядзелася прыгожа. «Ну ты і дундук! — адчытаў я яго. — Як жа зараз мы будзем пісаць гэтай фарбаю ў горадзе?» Уся нашая канспірацыя зьнікла як дым.

Сустрэча ў парку зь міліцыянтамі і бяздумнасьць Сержука Сыса былі для мяне халодным душам. Было відавочна, што любая наша вулічная лозунгавая актыўнасьць, як толькі яна стане вядомай КДБ, непазьбежна прывядзе да нас, бо болей на той час у горадзе беларускіх актыўных асяродкаў і не было. А што было б потым, не хацелася і думаць. Я адганяў гэтыя думкі, як надакучлівых мух. Так мы спыніліся пісаць лозунгі, зноўку пераключыліся на працу і на пошук аднадумцаў. А тыя, хто зрабіў самы першы надпіс «Жыве Беларусь!» у Гомелі, так і не знайшліся. Мы не аднойчы ў сваіх размовах вярталіся да гэтага эпізоду і ўрэшце вырашылі, што гэта быў хтосьці з заезджых мінчукоў.

А ўжо значна пазьней, у наш час, чытаючы кнігу Людмілы Аляксеевай пра дысідэнцкі рух у СССР, я прачытаў пра тое, што менавіта 1983 год вылучаўся масавымі зачысткамі дысідэнтаў па ўсім Савецкім Саюзе. КДБ вырашыла назаўсёды пакончыць з дысідэнцкім рухам у СССР. І сотні, калі не

тысячы іншадумцаў з Расіі, Украіны, Прыбалтыкі і Закаўказьзя былі арыштаваныя, асуджаныя і паехалі ў псіхушкі і лагеры. Гэта быў змрочны, безнадзейны год, калі мароз таталітарызму, здавалася, на доўгія гады скаваў здранцьвелае цела грамадства і наперадзе не было відаць ніякага прасьвету.

Менавіта ў тыя гады адбываліся апісаныя мной падзеі. Вось так часам няведаньне агульнай карціны дапамагае чалавеку захаваць лакальны аптымізм, не расчаравацца і не апусьціць рукі. Тым не менш халоднае крыло магчымых наступстваў прашалясьцела над нашымі маладымі галовамі.

*14 верасьня 2011 года.*

## Пра часопіс «Бурачок» і палкоўніка Даніліна

У 1987 годзе мы вырашылі на «Міктарацe» выдаваць перыядычны часопіс. «Міктарат» — так мы называлі паміж сабой падпольную групу беларускай моладзі, якая арганізоўвала і рэальна кіравала ў той час беларускім маладзёжным нефармальным рухам. Аб’яднаньні, групы і групкі ў абласных гарадах і ў Менску расьлі тады як грыбы. «Талака», «Тутэйшыя», «Сьвітанак» у Менску, «Паходня» ў Гродне, «Узгорак» у Віцебску, другая «Талака» ў Гомелі ды іншыя групоўкі актыўна «варылі беларускую кашу», шукалі аднадумцаў, праводзілі асьветніцкую ды адукацыйную працу, пачынаючы з 1987 года сустракаліся ды ладзілі супольныя акцыі, абмяркоўвалі бядотны стан, у якім тады знаходзілася Беларусь, складалі планы наконт будучыні. Мы былі амбітнымі і не баяліся думаць за ўсю Беларусь.

Часопіс назвалі «Бурачок» па асацыяцыі з псеўданімам Францішка Багушэвіча — Мацей Бурачок. У сваёй прадмове да «Дудкі беларускай» Ф. Багушэвіч упершыню, мабыць, так ясна і зразумела сфармуляваў беларускую ідэю, якая прывяла да стварэньня беларускага нацыянальнага руху. Так

і «Бурачок» мусіў, па нашай задумцы, выконваць ролю актывізатара разрозьненага беларускага асяродка, уздымаць і выводзіць яго з культурна-асьветніцкага на палітычны ўзровень. Размовы шэптам пра беларускую незалежнасьць, дэмакратыю і свабоду мусілі стаць прадметам адкрытага абмеркаваньня.

Некаторыя матэрыялы для «Бурачка» мы абмяркоўвалі разам, вызначалі асноўныя думкі, праграмныя тэзы, якія, як мы лічылі, былі б важныя для агучваньня і абмеркаваньня. Бралі ўдзел у падрыхтоўцы «Бурачка» Сяргей Дубавец, Вінцук Вячорка, Алесь Суша, Віктар Івашкевіч і я. Напісаныя матэрыялы зьбіраліся, друкаваліся на сьпецыяльна набытай для гэтай справы на нашы агульныя штомесячныя складнікі друкарскай партатыўнай машынцы. Раздрукоўкі рабілі на папяроснай паперы. У кожнай закладцы было 6–7 чытэльных асобнікаў. Усяго выдрукоўвалася да 50 асобнікаў «Бурачка», якія затым Яўген Івашкевіч, родны брат Віктара, рассылаў і разносіў па загадзя вызначаным сьпісе, у які ўваходзілі людзі, якія, як мы меркавалі, маглі разьвіваць і трансьліраваць далей выкладзеныя ў «Бурачку» думкі. З тых адрасатаў, каго я памятаю, «Бурачок» атрымлівалі Данута Бічэль-Загнетава ў Гродне і Алег Аблажэй у Вільні.

Калі друкаваўся другі нумар «Бурачка», я вучыўся ў асьпірантуры Інстытута літаратуры Акадэміі навук і жыў у асьпіранцкім інтэрнаце па вуліцы Акадэмічнай, 3. Тады ж там жылі і вучыліся гісторык літаратуры Алесь Жлутка, гісторык Генадзь Сагановіч, археолагі Мікола Крывальцэвіч і Ірына Ганецкая. Пакой 33, у якім я жыў, быў на той час сапраўдным цэнтрам маладых беларускіх літаратараў. У ім ніколі не зачыняліся дзьверы. Тут праходзілі першыя зборкі «Тутэйшых», амаль штодня бываў мой сябра, культавы паэт канца 80-х — пачатку 90-х гадоў Анатоль Сыс, заходзілі маладыя паэты Ігар Бабкоў, Сяргей Кавалёў, Людка Сільнова, празаікі Андрэй Федарэнка, Вітаўт Чаропка, Паліна Качаткова-Сьцепаненка ды многія іншыя.

Я забраў друкарскую машынку ў Віктара Івашкевіча. Ён

хаваў яе закапанай у зямлю недзе ў лесе пад Менскам і даставаў яе толькі ў выпадку патрэбы. У нас былі дзьве такія прыхаваныя друкаркі. Дзеля абы-чаго іх не выкарыстоўвалі, каб КДБ не змог па асаблівасьцях адбіткаў літар і знакаў выйсьці на гэтую машынку, а празь яе — і на нас. Затым я дамовіўся з Генадзем Сагановічам, які жыў у аднаасобным маленькім пакойчыку, што калі ён зьедзе, то пакіне мне ключ ад свайго жытла. Купіўшы пачак папяроснай паперы і пачак капіркі, я друкаваў цэлую ноч, устаўляючы закладку за закладкай, пакуль не выдрукаваў патрэбную колькасьць асобнікаў. Зранку я вынес рэшткі нескарыстанай паперы і капіркі ў бак са сьмецьцем. Затым старанна працёр друкарку ад адбіткаў пальцаў і аднёс яе Віктару разам з выдрукаванымі і змацаванымі асобнікамі «Бурачка». За вокладку пайшла звычайная пісчая папера. Пры маёй актыўнасьці ў «Тутэйшых» такая начная праца была даволі небясьпечнай. Але і давяраць яе каму-небудзь было рызыкоўна.

Першыя два нумары «Бурачка» нарабілі фурору. Але ён падштурхнуў і КДБ, што я неўзабаве адчуў на сабе. У адзін з ранкаў мяне паклікалі да тэлефона. Усе асьпіранты ў інтэрнаце карысталіся ў той час адным гэтым тэлефонам, які стаяў на вахце. Калі я ўзяў слухаўку, мужчынскі голас паведаміў, што са мной хоча сустрэцца гродзенскі гісторык Міхась Ткачоў, вядомы як шчыры беларус і аўтар папулярнага дасьледаваньня «Замкі Беларусі», кіраўнік гродзенскай «Паходні». Я, быўшы тады старшынёй Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», даўно хацеў пазнаёміцца з Ткачовым.

І вось я, падскокваючы, хутка крочу ў цэнтральны будынак Акадэміі навук, заходжу ў вялікі хол, высланы бліскучым мармурам, і азіраюся, кручу галавой, вышукваю мажную постаць Ткачова, якога ведаў па фотаздымках. Літаральна адразу да мяне хуткай энергічнай хадою падыходзіць невысокі малады чалавек у касьцюме, пад гальштукам, з кароткай акуратнай стрыжкай з праборам і з сур’ёзным выразам на твары. Ён дастае чырвоную кніжачку, на якой я прачытваю: «Комитет государственной безопасности», прад-

надпісе на кніжцы: «Няма на зямлі сітуацый без выйсьця. Калі Бог зачыняе дзьверы, то акно адчыняе...» Чаму яна выбрала гэтыя радкі зь Яна Твардоўскага? І што яна мела на ўвазе — не ведаю. Бо гэты вобраз, гэтая думка выклікае багата асацыяцыяў на розныя выпадкі жыцьця. Я дык убачыў у гэтых радках пэўную гарэзьлівасьць думкі паэта. Бо калі ўявіць сабе літаральна, то выглядала б яно крыху сьмешна: вось з грукатам захлопваюцца дзьверы — і адразу ж з трэскам расчыняецца акно! І гэта ўсё дзеі Госпада! Але Ян Твардоўскі, мабыць, хацеў сказаць: «Не здавайцеся! Няма безвыходных сітуацыяў!» І яшчэ мне згадваецца прымаўка беларуская, а мабыць, і ў палякаў яна ёсьць, калі пра асабліва настырнага і надакучлівага чалавека кажуць: «Не ў дзьверы ўвойдзе, дык у акно ўлезе!» Паэт крыху падправіў гэты вобраз — перавёў настырнасьць у настойлівасьць. Хаця тут можа быць і такое: тое, што ў беларусаў лічыцца настырнасьцю, у палякаў прымаюць за настойлівасьць. Але ў любым выпадку мне пасуе гэты паэтычны вобраз паэта Яна Твардоўскага, якога не варта блытаць зь іншым паэтам, беларусам са Смаленшчыны, які пісаў па-руску, Аляксандрам Твардоўскім.

Калі я згадаў тут пра вернікаў у зьняволеньні, то першым, які ўсплывае ўваччу, назаву Паўла Севярынца. Рэч такая, што мы, сядзельцы, не можам пісаць адзін аднаму, з калоніі ў калонію, але вось з «хіміі» ў калонію і наадварот перапіска дазволена. Мы лістуемся з Паўлам. І ўсе свае лісты ён сканчвае спасылкамі на Новы Запавет. Вось і ў апошнім лісьце Павел пажадаў, каб «Ён (Хрыстос) нараджаўся ў Вашым сэрцы і адчуваў сябе там як дома». І паслаў мяне «Да рымлянаў» (5: 1-10). Я люблю чытаць лісты Паўла Севярынца. Яны непадроблена сьветлыя і аптымістычныя. Павел верыць у Бога, у Беларусь і заражае гэтай вераю іншых. Некалі ў 1996-м годзе, у дні канстытуцыйнага крызісу, мы хадзілі зь ім разам па коле па плошчы Незалежнасьці, перад будынкам, дзе тады сядзеў гінучы парламент, вадзілі за сабой людзей, як чачэнцы ў сваім спрадвечным, паганскім,

бясконцым танцы. На жаль, нічога тады не выхадзілі, і зараз працягваем ісьці ў тым самым накірунку.

### Словы падтрымкі ад сваякоў палітвязьняў

*Зь ліста Алеся Бяляцкага ад 30 сьнежня 2012 года.*

Найбольш уважліва я стаўлюся да лістоў сваякоў былых і цяперашніх палітзьняволеных. Хоць і пішуць яны часам вельмі лаканічна, але я з асаблівай увагаю прачытваю гэтыя радкі, напісаныя жонкамі, матулямі, бабулямі. Пішуць жанчыны. Мужчыны ў нас звыклыя перажываць праблемы і эмоцыі ў сабе. Вось Надзея К. з Горадні піша: «Толькі тое, што ёсьць Вы ды Вашыя калегі, дае натхненьне ісьці далей. Мой муж быў фігурантам справы па Плошчы. Веданьне таго, што я не адна, што мне дапамогуць, не дало мне звар’яцець».

М. зь Менска жадае, «каб кожнае сьвята Вы сустракалі са сваёй сям’ёй». Яна не можа сустракаць Раство з сынам вось ужо трэці раз. Таму М. зычыць мне таго, чаго сама жадае сабе і свайму сыну. І я ёй вельмі ўдзячны.

А вось В. зь Менска піша: «Нягледзячы на нашыя сумныя абставіны, я вельмі радая, што сустрэла на сваім жыцьцёвым шляху такіх сапраўдных людзей, як Вы і Вашая жонка». З В. асабіста мы не знаёмыя. Значыць, нашае знаёмства адбылося «дзякуючы» агульным праблемам, праз маю жонку. І я чытаю гэтую паштоўку зь ціхай радасьцю, як ад вельмі даўняй і добрай знаёмай.

І вось М. М. апісвае: «Была ў апошні дзень у офісе “Вясны”, сфатаграфавала на памяць вялізны ватман з пажаданьнямі, але столькі там было напісана, што крывыя здымкі выйшлі, не ўсё зьмясьцілася. А найболей спадабалася чыёсьці: «БЕРАЖЫЦЕ КВАТЭРУ. ГАСПАДАР ХУТКА ВЕРНЕЦЦА!!!»

*Зь ліста Алеся Бяляцкага ад 4 студзеня 2013 года.*

Пішуць мне таксама былыя палітвязьні ці іхнія сваякі з замежжа.

Вось Павел піша, што «ў Польшчы таксама мелі мы цяжкія часы. Багата маіх калегаў і я таксама сядзелі ў вязьніцы. Тым бліжэйшым ёсьць для мяне твой лёс». І Генрык распавядае, што «сам сядзеў на Ракавецкай (цэнтральная турма ў Польшчы) некалькі гадоў, і вельмі цешылі мяне ўсялякія віншаваньні, паштоўкі. Падчас вайсковага становішча тагачасныя ўлады прапускалі тыя паштоўкі». А вось Натальля з Парчава дзеліцца сямейнай гісторыяй: «Мой дзядуля быў палітычным вязьнем. Ён чуў сьмяротны прысуд у 19 гадоў. Затым ён правёў два гады ў ГУЛАГу, у Сібіры, але быў моцным, верыў у свабоду. Мой дзядуля ўбачыў свабоду».

## Пра паэтычныя экспромты — студэнцкія і сёньняшнія

*Зь ліста Алеся Бяляцкага ад 30 сьнежня 2012 года.*

Сапраўдным калядным падарункам для мяне зьявіўся пакет са зборнікам майго сябра, выдатнага беларускага паэта Эдуарда Акуліна «Малітва воч». Эдуарду на праваслаўнае Раство, 7 студзеня, споўніцца 50 гадоў, «залаты» юбілей. Вось у такія залатыя колеры і аформлены зборнік вершаў і перакладаў. Мне хочацца напісаць пра гэты зборнічак болей. І я гэта пастараюся зрабіць крыху пазьней. А вось на Новы год я буду чытаць яго вершы...

Едрусь падпісаў мне гэты зборнік паэтычным экспромтам:

Як сонца з хмары,
Як мова зь песьні —
Мы не загінем,
Мы ўваскрэсьнем!

Памятаю, як у студэнцкія гады мы жартавалі, гарэзьнічалі і выдурняліся, складаючы паэтычныя экспромты на любы выпадак. Кінуты адным з нас у паветра, на ўдачу, паэтычны радок другі мусіў падхапіць і працягнуць. Атрымлівалася часам сьмешна. Ды Едрусь даўно ўжо дасягнуў таго ўзроўню паэтычнага майстэрства, калі ўсё, што ім пішацца, зьяўляецца Паэзіяй. Беларускае слова зь ягоных вуснаў зараз як гарачае жалеза на кавадле ў каваля, гнуткае і падатлівае. Ён можа выштукаваць з яго ўсё, што задумае і захоча.

Значэньне літаратараў у жыцьці народаў велізарнае. Яны дапамагаюць кшталтаваць душу народа. І калі празаікі паказваюць яе сутнасьць і глыбіню, то паэты — здольнасьці роднае мовы.

Эдуард Акулін — рыцар беларускага прыгожага пісьменства. Яго рыцар і бард. У цяперашні няпросты для беларускай мовы час ён — знакавы паэт сучаснасьці. І «сонца з хмары» — гэта ўсе мы, гэта ўся нашая беларушчына, гэта мы ў ёй, а яна ў нас. І ўсё, што было да нас і будзе пасьля. Едрусь перакананы, што хмары сплывуць, а сонца — застанецца!

**Мовазнаўчыя**

*Зь ліста Алеся Бяляцкага ад 29 сьнежня 2012 года.*

Мой стары-стары сябра Вінцук Вячорка да калядаў напісаў мне цэлы ліст. Не так даўно прыслалі мне раздрукоўку з інтэрнэту, дзе Вінцук піша, што мы знаёмыя зь ім з 1982 года. Хачу ўдакладніць: з 1981. Вось так даўно гэта было, што ўжо і гады блытаюцца. Але я дакладна ведаю, што гэта быў 1981 год. Бо менавіта ў верасьні 1981-га, атрымаўшы пасьля будатрада грошы, я выбраўся ў вандроўку па Беларусі. Ішоў, пад’язджаў аўтастопам па Берасьцейшчыне, Гродзеншчыне, Міншчыне, і ў Мікалаеўшчыне сустрэўся з мастаком Міколам Купавам, які праз тыдзень у Менску і зьвёў мяне зь

Вінцуком. Гэта была гістарычная для мяне сустрэча. Тыя ўрыўкі, кавалачкі і шматкі маіх тлумных і нясьмелых памкненьняў у бок беларушчыны ў адзін дзень набылі ясную форму. Я дакладна зразумеў, што я буду рабіць у сваім жыцьці.

Дык вось, Вінцук, апроч усяго, выдатнейшы «жывы» беларускі мовазнаўца, піша: «Слова “Каляды” нічым не пярэчыць хрысьціянскаму канону, і я не ўхваляю яго татальную замену словам “Раство” (або “Раждажаство”)... Яшчэ моўны асьпект Калядаў: ялінка, а не “ёлка”. З-пад якой і зычу таго, чаго і сам сабе зычыш».

Далей Вінцук Вячорка піша, што адная з тэмаў, якая яго турбуе, гэта сітуацыя з выкарыстаньнем беларускага лацінскага алфавіту, які пачалі ўжываць пры напісаньні беларускіх геаграфічных назваў, напрыклад у метро. Ён нагадвае, што правапіс лацінкаю беларускай мовы ўжо быў распрацаваны, і не абы-кім, а мовазнаўцам Бараніславам Тарашкевічам і навукоўцам Янам Станкевічам. Вінцук піша: «Памылкова лічыць, што лацінка ў нас адпачатку плён польскае абэцэды. У XVI–XVII стст. квітнела лацінамоўная культура і адукацыя. Гусоўскі — толькі малая частка айсьберга... Былі тысячы іншых мастацкіх, перыядычных, дыпламатычных, прыватных, навучальных тэкстаў *на лацінскай мове*, пісаных беларусамі для беларусаў, бо мы былі часткаю лацінскае цывілізацыі. І ў гэтых тэкстах ужываліся беларускія геаграфічныя назвы, асабовыя імёны, сталыя моўныя формулы. Гэта значыць, безь ніякага пасярэдніцтва польскае мовы беларусы выкарыстоўвалі графічны рэсурс лаціны для беларускіх словаў».

## Пра дзіцячую дабрачыннасьць

*Зь ліста Алеся Бяляцкага ад 30 сьнежня 2012 года.*

Я, калі бачу лісты ці малюнкі, дасланыя школьнікамі, заўсёды згадваю акцыі салідарнасьці, якія праводзілі савецкія дзеці. Яны мелі ідэалагічны падтэкст, але тады я не здагадваўся пра гэта, ды і не так гэта было важна. Я памятаю, як мой старэйшы брат, які ўжо вучыўся ў школе, мусіў здаць 20 капеек на пенал, драўляную асадку са стальным пяром, тонкі сшытак і сьцёрку для падарунка в'етнамскаму школьніку. Тады паўночныя в'етнамцы ваявалі з паўднёвымі і з амерыканцамі, а вось такія школьныя наборы як быццам бы куплялiся за добраахвотныя зборы гэтых капеек савецкіх школьнікаў.

Маці, наколькі памятаю, не ўхваляла гэтую ідэю. Яна моцна падазравала, што гэтыя капейкі могуць не дайсьці да в'етнамскіх бедных дзяцей у выглядзе школьных падарункаў. Але ў мяне, пяцігадовага, проста дух захоплівала, як я ўяўляў, што такі ж, як я, маленькі мурзаценькі в'етнамскі хлопчык будзе трымаць у руках драўляны пенал. А так здарылася, што ў бульбяной мешанцы нашаму парсючку, якога трымалі бацькі, бо жылі мы тады ў самаробнай урамянцы ў Сьветлагорску, я быў знайшоў тры капейкі. І вось гэтую манетку я з урачыстасьцю ў душы перадаў на пенал для в'етнамскіх дзяцей. Такі быў першы мой дабрачынны ўнёсак.

І вось зараз я атрымліваю гэтыя лісты і паштоўкі ад дзяцей рознага ўзросту з розных краінаў. Тое, што падлеткі цікавяцца і нават спачуваюць абаронцам правоў чалавека, багата гаворыць пра іхні ўнутраны сьвет. У беларускіх школах, на жаль, абмеркаваньне тэмаў пра правы чалавека не вітаецца. А нішто так не кшталтуе душу чалавека, як суперажываньне і спачуваньне іншаму. Я думаю, што такім чалавечым якасьцям характару, як спагада, суперажываньне, салідарнасьць, трэба навучаць зь дзяцінства.

## «Хай Бог дасьць пажыць у праўдзе — усім-усім!»

*Зь ліста 2–3 студзеня 2013 года, Бабруйск*

**Паштоўку з такім пажаданьнем напярэдадні Новага года атрымаў Алесь Бяляцкі ад Лявона Баршчэўскага. Яна, відавочна, вельмі ўзрадавала і натхніла палітвязьня, навеяўшы ўспаміны пра агульную справу і пройдзеныя разам шляхі.**

**Свайму даўняму паплечніку і сябру Алесь прысьвяціў адзін зь першых у распачаўшымся годзе лістоў:**

*«2–3 студзеня 2013 года, Бабруйск*

Прыйшла паштоўка ад Лявона Баршчэўскага.

Лявон — адна з самых сьветлых галоў у Беларусі. Выдатны грамадскі дзеяч, выдатны перакладчык, выдатны педагог. Разам зь Лявонам мне давялося папрацаваць рука аб руку амаль тры гады, у 1996–1998, калі ён застаўся выконваць абавязкі старшыні Беларускага народнага фронту пасьля эміграцыі Зянона Пазьняка на Захад. Я тады быў сакратаром Управы Фронту.

Лявон Баршчэўскі зьяўляецца пасьлядоўным прыхільнікам еўрапейскага шляху, еўрапейскага выбару для беларускага народа. А фактычна гэтая ж праблема — бачаньне далейшага разьвіцьця беларусаў як еўрапейскай нацыі, як часткі супольнай еўрапейскай сям'і, насуперак ізаляцыянізму, кансервацыі, безвыходнаму эгацэнтрызму, якія, на мой погляд, вядуць у нікуды, — і была галоўнай прычынаю расколу Фронту ў 1998 годзе.

Разам зь Лявонам мы вялі калону дэманстрантаў 2 красавіка 1996 года, пратэстуючы супраць саюзных пагадненьняў. І не дапусьцілі тады правакацыяў на Нямізе, дзе пад мостам нашу дэманстрацыю ўжо чакала пройма амапаўцаў, хаця далося гэта нялёгка.

Другая палова 90-х была надзьвычай складаным часам для Беларусі. Тады мы маглі вельмі лёгка страціць толькі

што набытую незалежнасьць. Адчайная, самаахвярная пазіцыя актывістаў Фронту пад кіраўніцтвам Лявона Баршчэўскага, якія, нягледзячы на масавыя рэпрэсіі і перасьлед, раз за разам выступалі ў абарону незалежнасьці, дэмакратыі, правоў чалавека, была адной з важкіх прычынаў, якія не дапусьцілі такога разьвіцьця падзеяў.

Хто сказаў, што перамагаюць толькі ў наступе? Стратэгічна перамагаюць і ў абароне. У зацятай, жорсткай, доўгай, вымотваючай абароне. І тады перамога становіцца вынікам абароны. Толькі капітуляцыя, унутраная, маральная капітуляцыя, вынік бязвер'я і страху, прыводзіць да незваротнай і поўнай паразы.

У тыя 90-я гады Лявон неаднаразова перасьледаваўся за сваю грамадскую дзейнасьць. Асабліва небясьпечнай была вясна 1996 года. Тады пасьля разгону Чарнобыльскага шляху, у красавіку, было затрымана амаль усё кіраўніцтва Фронту, у тым ліку і Лявон Баршчэўскі. Была ўзбуджаная крымінальная справа за арганізацыю масавых беспарадкаў, але ўрэшце ўсіх беларусаў выпусьцілі, у турму пайшлі толькі грамадзяне Украіны.

Па маёй ініцыятыве пераклаў Лявон са шведскай мовы дзіцячую кніжку Астрыд Ліндгрэн «Мы — дзеці зь Бюлербю». Усе апошнія гады, хоць Лявон і адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасьці, ён застаецца уплывовай грамадскай асобаю. Ён і надалей актыўна працуе як педагог і перакладчык. Ён па інтэлекце, па аналітычных здольнасьцях на дзьве галавы вышэйшы за той народ, які зараз ашываецца па высокіх калідорах.

За тыдзень да ягонай паштоўкі мне прыйшоў па падпісцы чарговы нумар часопіса «Дзеяслоў». І ў ім — пераклад, зроблены Лявонам Баршчэўскім і Алесем Жлуткам. Рэч надзвычай важная для разьвіцьця беларускай культуры. Пераклад знакамітых старагрэцкіх і лацінскіх аўтараў на беларускую мову мае шматвяковую традыцыю. Але багата важных і знакавых тэкстаў не перакладзена. Бязспрэчна, што толькі тую мову і той народ, якія маюць пласт перакладаў, умоўна ка-

жучы — «ад Гамера да Апулея», можна лічыць цывілізаваным. І тое, што мае сябры Лявон і Алесь робяць дабрачынна зараз, застанецца найтрывалейшым валуном у падмурку беларускай культуры як часткі еўрапейскага абшару.

Дык вось, Лявон у паштоўцы сваёй да мяне піша: «Я раблю ўсё, на што хапае часу... Заўтра павінен выйсьці ў друк мой «Польска-беларускі слоўнік для школьнікаў і студэнтаў». А сканчвае паштоўку ён такімі словамі: «Хай Бог дасьць пажыць у праўдзе — усім-усім!»

## З нагоды Калядаў і Новага года

*Зь ліста Алеся Бяляцкага ад 30 сьнежня 2012 года.*

Ксёндз Дз. віншуе са сьвятам Божага Нараджэньня. Я заўважыў, што людзі знаходзяць у гэтай падзеі розныя акцэнты, нюансы, нейкія моманты, якія найбольш уражваюць іх. І для мяне гэта надзвычай цікава, бо сьведчыць пра вялікую разнастайнасьць успрыманьня людзьмі адных і тых жа падзеяў. Гэтыя бясконцыя інтэрпрэтацыі сьведчаць пра тое, што няма ў сьвеце людзей, падобных адзін на аднаго. Усе мы розныя. І ўсё ж усе гэтыя зьвілістыя шляхі чалавечага сьветаўспрыманьня прыходзяць да аднае высновы. І гэта таксама для мяне вялікае дзіва. Гэта значыць, што, нягледзячы на ўнікальнасьць кожнае чалавечае істоты, мы можам прыйсьці да агульнага выніку. Мы можам дамовіцца.

Дык вось, у нараджэньні дзіцяці Хрыста ксёндз Дз. убачыў наступнае: «Таямніца ўцелаўленьня дзіўным чынам ахінута бясконцай цішай». «Нараджэньне Яго Сына» ён называе «самым ціхім з усіх здарэньняў». Яго ўразіла гэтая сусьветная, усёаб'емная ціша, у якой здарыўся найвялікшы цуд у сьвеце.

А я гэтым разам, у віншавальных паштоўках і лістах, спыняўся на іншым. На тым, што цуд адбыўся ў найбольш змрочны ў прыродзе час, калі мала сьвятла, сонца, стаяць

доўгія ночы, калі ўсё жывое прыснула, зьнерухомела пад мёртвым покрывам сьнегу. І ў гэты час панаваньня змроку і тлену нарадзілася жыцьцё, якое неўзабаве зьменіць сьвет. І амаль ніхто яшчэ не ведае пра гэта, але яно ўжо ёсьць, яно ўжо існуе! Вось што найбольш уразіла мяне ў гэтае Раство, на стыку 2012 і 2013 гадоў.

З Божым Нараджэньнем, Раством непарыўна зьвязанае і сьвята Новага года. І мае яно больш старажытныя, паганскія карані. І называлася яно некалі па-іншаму. І было зьвязана з важнай астранамічнай зьяваю. Пачынаў павялічвацца дзень і зьмяншацца ноч. І хоць зараз Новы год адзначаецца на некалькі дзён пазьней, але я дасюль захапляюся назіральнасьцю старажытных астраномаў, якія пэўна што былі і сярод нашых продкаў, якія здолелі адсачыць гэты момант зьмены прыроды, калі яна разварочваецца і пачынаецца адваротны адлік. Я дасюль не магу зразумець, як яны гэта здолелі вылічыць.

Новы год па савецкай, ды яшчэ і ранейшай традыцыі сьвяткуецца ў нас шумна і весела. Ідзе ацэнка года старога, і ў новым годзе ўсе спадзяюцца жыць лепей, пакінуўшы ў старым годзе ўсё дрэннае і паганае і ўзяўшы ў новы год толькі ўсё добрае.

Віншуючы мяне з Новым годам, Уладзімір Г. прыслаў урывак зь верша Якуба Коласа, навагодняга верша, і ёсьць там наступныя словы:

Каб больш сьлёзы не ліліся,
Каб не падаў чалавек,
Каб астрогі запярліся
Ад людзей на вечны век.

Вось жа, сто гадоў таму напісаў Якуб Колас гэтае рамантычнае і нават утапічнае, здаецца, пажаданьне. Асабліва ўтапічным яно падаецца, калі ўявіць сабе, колькі беларусаў за гэтыя сто гадоў прайшлі праз астрог — турму. Ды няма аніводнай беларускай сям'і, у якой хтосьці з родных не ся-

дзеў бы за гэтае стагодзьдзе ў турме! А чаму ж тады вочы мае зачапіліся за гэтыя радкі і не прымружыліся ў салодкай мары, уяўляючы: «Каб астрогі запярліся / Ад людзей на вечны век»... Як я разумею Якуба Коласа! Так напісаць мог толькі чалавек, які адсядзеў у Пішчалаўскім замку тры гады. І я там сядзеў — зараз там знаходзіцца СІЗА № 1.

**Пра крыніцы аптымізму**

*Зь ліста Алеся Бяляцкага ад 29 сьнежня 2012 года.*

Прыйшоў ліст ад журналіста Валера Каліноўскага, які напісаў кнігу «Справа Бяляцкага», якая толькі як пабачыла сьвет. Што датычна кнігі, Валер піша: «Пішучы “Справу Бяляцкага”, я ставіў перад сабою задачу адлюстраваць тры рэчы: несправядлівы характар твайго крымінальнага перасьледу, ролю праваабаронцаў у нашых умовах і час, у які мы з табою жывём...» Распавядае: «У першы дзень сьнежня ў мяне ўпершыню зацьвіла новая кветка. Яна такая зімовая, мая суседка называе яе “дзекабрыстам”, а сябар па Фэйсбуку неяк патлумачыў, што па-беларуску яе правільна называць “каляднікам”, бо зацьвітае перад Калядамі. Я атрымаў гэтую кветку летась, роўна праз год пасьля сьнежаньскіх пратэстаў 2010-га ў Менску, і пасадзіў яе ў гонар нашых “дзекабрыстаў”, вязьняў Плошчы». І яшчэ Валер піша: «Твае лісты з турмы сапраўды нейкія аптымістычныя, часам мне падаецца, што мы тут на волі столькі аптымізму не маем». Вось жа, сапраўды, мне хацелася, каб мае лісты былі аптымістычнымі, але не легкадумнымі.

Наступнае ж пасланьне ўжо ў мяне выклікае ўзмоцнены аптымізм. Гэта тэлеграма. Тэкст шчыры, хаця прымусіў мяне паразважаць, што тут і да чаго, бо адсутнасьць знакаў прыпынку робіць яго крыху загадкавым.

Тэлеграмы па-беларуску маюць пэўныя праблемы. І лепшая зь іх — гэта тэлеграфісткі. Напісаў быў Уладзімір Няк-

ляеў, што калі ў верасьні дасылаў мне тэлеграмаю свой верш, то сутыкнуўся з рэакцыяй работніцы пошты: «Што? Верш тэлеграмаю? І па-беларуску?» Прыйшлося яму яе «ўгаворваць», і ўрэшце той памятны мне верш я атрымаў.

Так вось і ў гэтым тэлеграмным тэксьце, чытаючы «нехай», «гволту», я падазраю бязграматнасьць тэлеграфісткі ў беларускай мове. Вось слова «навароджанага» таксама выклікае пытаньне, ці то гэтая дзяўчына прапусьціла адзін склад, ці то невядомы аўтар тэлеграмы сьпяшаўся, бо ж слушна будзе: «нованароджанага». Пасьля ж словазлучэньня «Ірадаву уладу гволту» мяркуецца паўза, знак прыпынку. Па сэнсу, я так разумею, аўтар тэлеграмы адсылае мяне да легенды-апокрыфа пра тое, што, каб не дапусьціць нараджэньня новага «цара», цар Ірад загадаў забіваць усіх немаўлятаў, народжаных у той перадкалядны вечар.

А апошнія ў тэлеграме літары «ЖБ», я так разумею, трэба чытаць як «Жыве Беларусь!». Вось жа і хітрая тэлеграфная мова!

А мой даўні сябра Г. піша: «...Я тут бачыў твой партрэт. На майцы. А майка — на дзяўчыне. Твае абрысы так вабна аблягаюць ейныя грудзі!.. Я папрасіўся: “Можна прытуліцца да Бяляцкага?” Яна дазволіла. Я прытуліўся...» Дадаць тут што-небудзь цяжка.

Зь Нью-Ёрка прыйшла паштоўка, падпісаная беларусам Міколам Шчэрбам. Ён сканчае сваё віншаваньне такім сказам: «Бог дасьць — мы пераможам!» Коратка, лаканічна і па сутнасьці. Спадар Мікола ўжыў стары беларускі выраз: «Дасьць Бог». Ён надзьвычай ёмкі і асацыятыўны. Там столькі ўсяго закладзена — і веры, і спадзеву, і ўпэўненасьці. Вось гэтая вера ў нашую будучыню і мусіць жывіць усіх нас.

## Метамарфоза «нефармала»

*Зь ліста Алеся Бяляцкага ад 29 сьнежня 2012 года.*

28 сьнежня мяне канчаткова заваліла лавіна лістоў і паштовак: атрымаў каля 500 пасланьняў зь Беларусі і з усяго сьвету.

І такім пераходным мастком паміж лістамі з-за мяжы ды лістамі, якія прыйшлі да мяне зь Беларусі, магла б стаць віншавальная паштоўка, падпісаная амбасадарамі і прадстаўнікамі дыпламатычных місіяў. Гэта такое вельмі сур’ёзнае і афіцыйнае пасланьне, нягледзячы, здавалася б, на неафіцыйную нагоду — сьвята Божага Нараджэньня і Новага года. Ды і я не зьяўляюся ніякай афіцыйнай асобаю.

Раней, за саветамі, такіх, як я, ды іншых прадстаўнікоў беларускіх няўрадавых арганізацыяў называлі «нефармаламі». Але вось такая дзіўная ў Беларусі склалася сітуацыя, што афіцыйныя прадстаўнікі цывілізаваных еўрапейскіх краінаў і ЗША віншуюць са сьвятам чалавека, які сядзіць у зьняволеньні і якога беларускія ўлады лічаць злачынцам.

## Пра адзін жыцьцёвы шлях да беларушчыны

*Зь ліста Алеся Бяляцкага ад 2–3 студзеня 2013 года.*

Прыйшла паштоўка ад <...> Г. і З. — старая, выпушчаная ў 1990 годзе з нагоды 500-годзьдзя Францішка Скарыны. Трэба сказаць, што ў СССР выходзіла зусім мала паштовак па-беларуску, на беларускія тэмы. Таму я добра памятаю вось гэтую — у тыя гады, пасылаючы якія віншаваньні, я актыўна выкарыстоўваў яе. І да паштоўкі Г. напісаў цікавы для мяне тэкст: «Перачытваю тваю паштоўку... Падыходзіць Анатоль Сыс, з якім я сустрэўся толькі адзін раз у майстэрні Мары (А. Марачкіна. — ***А. Б.***). У нас застаўся яго Вялікі маленькі «Агмень» (тыраж 4158 экз.) са словамі да З.: “Па-

мятаеце, як Вы мне дапамаглі стаць на ногі ў сталіцы — гэтыя вершы былі напісаныя якраз той парою! Вашая доля ў іх ёсьць таксама. 12.10.88". Вось яшчэ адная згадка пра Анатоля Сыса, таленавітага, геніяльнага паэта нашай сучаснасьці, як залацінка, якая ляжала, чакала свайго часу. «Я хацеў цябе трохі разварушыць», — піша спадар Г. І гэта яму ўдалося.

Стары знаёмы гісторык і археолаг Г. напісаў мне цікавы і хвалюючы тэкст: «Па-сапраўднаму пачалося ўсё з Алеся Бяляцкага ў ліпені 1983 г. Натуральна, што ва ўнівэрсітэце ў той час ніводны выкладчык не размаўляў па-беларуску, нават Прафесар. Навуковыя кіраўнікі археалагічных раскопак у Мірскім замку зь Менска і нешматлікія валанцёры (як зараз модна казаць) паміж сабою і з намі ўвесь час размаўлялі на нашай роднай беларускай мове. Трохі старэйшыя за нас студэнты з Гомельскага ўнівэрсітэта — Алесь Бяляцкі і Эдуард Акулін навучылі беларускім песьням: "А ў бары, у бары...", "Ад панядзелка да панядзелка...", "Як сарву я ружы кветку..." і іншым. [Захавана пунктуацыя А. Б., але далей ён, напэўна, пераказвае тэкст свайго знаёмага. — ***Рэд.***] Яго гэта кранула. Ён нават не задумваўся, а ў 20 год было цяжка рэфлексаваць, — стыхія беларушчыны паглынула. Адразу загаварылася і пачалося думацца па-беларуску. Ён у мясцовай бібліятэцы ўзяў кнігу Валянціна Грыцкевіча і Адама Мальдзіса "Шляхі вялі праз Беларусь". З сябрамі і калегамі па будатрадзе пачаў спрабаваць размаўляць па-беларуску. Было сьмешна, часам дурнавата, вось ён, вынік культурнай і псіхалагічнай асіміляцыі. "Вельмі інтарэсная кніга" — першая памылка і мора кпінаў з боку тых самых сяброў і калегаў. Было лета, былі раскопкі ў Мірскім замку, былі цікавыя асобы з навуковага і інтэлігентнага асяродзьдзя Менска, таму моўныя дзікасьці з ягоных вуснаў яго не бянтэжылі. Наадварот, мова ўцягвала яго як чароўная плынь чыстай і сьветлай ракі. А яшчэ быў першы ліст па-беларуску бацькам. Тады ў эксьпедыцыі ў Мірскім замку ён канчаткова вылечыўся і абудзіўся ад русіфікацыі і савецкасьці.

Падчас размоваў з Алесем Бяляцкім для яго адкрываліся невядомыя старонкі мінулага Беларусі, а галоўнае — новыя тэксты: Мікола Ермаловіч, Алесь Разанаў, Юрка Віцьбіч».

Вось так мой даўні сябра Г. апісаў працэс свайго ўсьведамленьня, прыходу да беларушчыны, у якім, як аказалася, я адыграў ролю, як ён піша, «галоўнага абуджальніка». Але ж ён ніколі за гэтыя 30 гадоў не казаў мне пра гэта!

Нечакана і неяк прыемна было прачытаць гэтыя радкі. Бо ж мы тады сапраўды адной са сваіх галоўных мэтаў ставілі пошук аднадумцаў і агітацыю людзей, гатовых слухаць пра беларушчыну. У тыя 80-я гады я правёў сотні такіх размоваў і сустрэчаў. Бо з-за адсутнасьці іншых магчымасьцяў сумоўе, гутарка, дыскусія былі асноўнымі нашымі інструментамі перакананьня. Часам гэта было безвынікова, часам наадварот — па-рознаму. У Анатоля Сыса ёсьць вельмі добры верш на гэтую тэму — «Пошасныя». Але гэтая неспатольная прага распаўсюджваць беларушчыну засталася ў мяне і дасюль. Хіба што зьмяніліся сродкі і аргументы і зьявілася болей магчымасьцяў. Што тычыць Г., то, я мяркую, ягоны жыцьцёвы шлях усё-роўна раней ці пазьней прывёў бы яго да беларушчыны. Але так сталася, што з такім, «пошасным», заразным беларускай ідэяй, са мною, ён сутыкнуўся ўпершыню ў Мірскім замку ў 1983 годзе, 30 гадоў таму.

*http://spring96.org*

**З чаго пачалася мая беларускасьць**

*17 сакавіка 2013 года, Бабруйск*

Захапленьне беларушчынай у савецкія часы непазьбежна і аб’ектыўна падводзіла людзей да крытычнага асэнсаваньня рэчаіснасьці. Крыўда за беларускую мову, культуру, гісторыю, якія ў СССР былі асуджаныя да падзеньня і ліпеньня і

ўрэшце да зьнікненьня, выклікала нязгоду і пратэст, расплюшчвала вочы на несправядлівасьць, несвабоду ўсёй савецкай сістэмы. А нязгода і пратэст штурхалі да дзеяньня. Гэтым шляхам прайшоў багата хто з актывістаў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху ў 80-я гады.

Добра памятаю пашыраную зборку моладзевых актывістаў у 1983 годзе, дзе мы, прадстаўляючыся, казалі колькі слоў, як мы прыйшлі да беларушчыны, мелася на ўвазе — да ўсьведамленьня сваёй беларускасьці і жаданьня дзейнічаць. Амаль усе назвалі: крыўда за беларускае.

А з чаго пачалася мая беларускасьць? Згадваючы пра пачаткі свайго нацыянальнага ўсьведамленьня, я назаву некалькі адпраўных пунктаў. І першы — гэта беларуская мова. Аўтэнтычная, чыстая, беларуская моўная стыхія, у якую я акунаўся з галавой, бавячы штогод летнія вакацыі ў бабулі, мамінай маці, у вёсцы Двор (Будніцкі Двор) на Нараўляншчыне. Там не проста казалі па-беларуску, там казалі танальна, павышаючы ці паніжаючы тон голасу ў канцы ці пачатку фразаў. Атрымліваліся размовы-сьпевы.

Памятаю, мы з маім старэйшым родным братам Валодзем стаім на двары, паглядаем на дзяўчат, якія ідуць паўз нашую хату з лесу з кашалямі, поўнымі чарніцаў, і слухаем. Дзяўчаты голасна размаўляюць міжсобку. Валодзя сьмяецца: «Ничего не понятно, о чем они говорят». Мне гадоў дзевяць. Я слухаю пералівы моўнай інтанацыі дзяўчатаў, гэта моўны сьпеў. І ён зачароўвае мяне. І для мяне зусім не важна, пра што яны гавораць, галоўнае ж — як прыгожа!

Гэта было чыста эстэтычнае захапленьне ад гучаньня беларускай мовы. Пазьней я ніколі не ўспрымаў тое, што чуў часам пра беларускую мову: грубая, немілагучная, неразьвітая. Ды поўная лухта! Беларуская мова, якую я чуў ад простых вясковых людзей, была прыгожая, разьвітая, метафарычная, значна багацейшая за квадратныя бедныя, нежывыя канструкцыі рускай мовы, на якой размаўлялі ў горадзе перавучаныя беларусы.

Таму хоць я і размаўляў з дзяцінства да 19 гадоў па-

руску, пераход на беларускую мову быў для мяне працэсам вяртаньня да свайго. Таго, што заўсёды прысутнічала ў маёй падсьвядомасьці. Гэта быў салодкі і пакутлівы працэс успамінаў, калі словы, чутыя некалі ў дзяцінстве, узьнікалі ў галаве і самі прасіліся на язык.

Два першыя гады навучаньня ў Гомельскім універсітэце я засвойваў беларускую мову, вядома ж, адказваў на іспытах, багата чытаў па-беларуску, часам не ўсур'ёз размаўляў па-беларуску з сябрамі. А ў 19 гадоў, пасьля сустрэчы зь Вінцуком і Арынай Вячоркамі, Сяргеем Запрудскім, Міколам Купавам у Менску, я загаварыў у адзін дзень і назаўсёды.

*http://spring96.org/be/news/62141*

*18 сакавіка 2013 года, Бабруйск*

Што яшчэ спрыяла маёй беларускасьці? «Песьняры». У 70-я гады яны вынесьлі беларускае слова на гарадскі асфальт. Прычым зрабілі гэта так, што за беларускую музыку, беларускае паэтычнае песеннае слова было сапраўды не сорамна. А быў гонар. «Ручнікі», «Касіў Ясь канюшыну» сталі сапраўды народнымі. Іх сьпявалі і за сталом, і падвыпіўшыя кампаніі на вуліцах Сьветлагорска. Гэтая вясковая традыцыя — голасна сьпяваць песьні на вуліцы — у 70-я гады яшчэ існавала ў маладым горадзе, заселеным пераважна дзецьмі вёскі.

Я ведаў на памяць амаль усе іхнія песьні, як і купалаўскую паэму «Курган», якую яны прасьпявалі таксама. А вось першы радок іхняй знакамітай песьні я разумеў як: «Касіў Яська нюшыну». Для мяне, гарадскога дзіцёнка, што нюшына, што канюшына — было аднолькава. Толькі пазьней, у старэйшых класах, я зразумеў, што беларуская «канюшына» — гэта будзе рускі «клевер».

***

Раней у школьных журналах запісвалі кароткія зьвесткі пра вучняў, сярод якіх была графа «нацыянальнасьць». У трэцім класе я неяк зазірнуў у журнал і даведаўся, што поўненькая, смуглявая з густым румянцам і доўгімі чорнымі косамі, падобная на іранскую прынцэсу Іна Караблёва — яўрэйка, а мой лепшы сябра, бялёсы і канапаты Слаўка — чуваш. Насупраць майго прозьвішча стаяла — беларус. Гэтыя зьвесткі выклікалі ў мяне цікавасьць, але ніякіх эмоцыяў і думак. Проста запомнілася, што вось, аказваецца, у нечым мы розныя.

***

У трэцім класе я быў здаровым і актыўным дзіцёнкам. Я быў лідарам і даказваў сваё лідарства ці барацьбою, ці кулакамі. Я паборваў ці пабіваў усіх, хто быў гатовы счапіцца са мной з паралелі трэціх класаў, а іх у школе было дзевяць. Толькі з адным хлопчыкам у нас былі роўныя паядынкі. Каб усё ж вызначыцца, хто дужэйшы, мы зь ім схопліваліся некалькі разоў. Так і не вызначыліся.

Добра памятаю, што ў мяне цалкам адсутнічаў страх перад бойкаю ці дужаньнем. Я заўсёды быў упэўнены, што перамагу, і перамагаў. У бойцы я быў вопытным і кемлівым, кідаўся пад ногі, хапаў суперніка за нагу і валіў з ног, заломваў рукі і пальцы, умеў перахопліваць рукамі нагу, якой супернік жадаў выцяць мяне, адступаў, удаючы слабейшага, умела захіляўся і ўхіляўся ад удараў, а затым імкліва ішоў у атаку і цэліў у нос. Быў непераможным і біўся амаль кожны дзень. Дужаўся я не толькі ў школе, але і ў двары, і там часта валіў і старэйшых дзяцей. Але ўсе гэтыя двубоі былі «па правілах»: без касьцетаў і камянёў, да моманту, калі супернік павалены і прыціснуты да долу, да першай крыві, са згоды абодвух брацъ удзел у двубоі. Усё па-чэснаму. Калі часам бацькі падужаных мной дзяцей прыходзілі сварыцца з маім бацькам, той заўсёды адпраўляў іх без выніку.

А зь пятага класа я кінуў біцца, пачаў запоем чытаць

кніжкі, кінуў гуляць у футбол і іншыя дваровыя гульні. Чытаньне стала маім улюбёным заняткам.

Хоць і напісанае тут не мае ніякіх адносінаў да беларушчыны, але, па-першае, відавочна, што я быў звычайным хлапчуком і падлеткам, а па-другое, любоў да кнігі ўвогуле стала перадумовай любові да беларускай кнігі, што зьявілася ў мяне ў старэйшых, 9-м і 10-м, класах школы.

***

Чытаць я навучыўся сам, дзесьці ў пяць гадоў, незаўважна для бацькоў. Ляжаў у нашай «урамянцы», круціў-чытаў буквар, пытаўся ў старэйшага брата: «Як гэтая літара называецца? А як гэтая?» Два разы прапыкаў-прамыкаў буквар і навучыўся чытаць.

***

Першая беларуская кніга, якую я прачытаў дзесьці ў класе пятым, была «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра. Чыталася яна павольна, значна марудней за рускамоўныя кніжкі, але была цікавою, таму я не кінуў яе і дачытаў. Больш за тое, яна стала адной з маіх любімых кніжак і я рэгулярна перачытваў яе. Усяго разоў сем. Беларуская мова ў ёй і не цікавіла і не спыняла мяне. Для мяне быў цікавым яе прыгодніцкі сюжэт.

***

Упершыню ад мяне патрабавалася самастойна вызначыцца з нацыянальнасьцю ў 14 гадоў, атрымліваецца, у 1976 годзе, калі мы хадзілі ў ваенкамат і афармлялі прыпісное пасьведчаньне. Афіцэр, які запаўняў бланк, спытаўся ў мяне: «Нацыянальнасьць?» — «Беларус», — адказаў я. А калі выйшаў з ваенкамата, яшчэ некалькі разоў сам сабе прагаварыў: беларус. Дагэтуль я ніколі ні сабе, ні іншым не адказваў на гэтае пытаньне. А вось зараз я цьвёрда ведаў: я — беларус.

***

Беларускую мову ў сярэдніх класах у нас выкладала старая ўжо настаўніца пенсійнага веку. Была яна пэўна што жанчынай неблагой, былой партызанкаю, але выкладала вой як нецікава... Яна прайгравала па ўсіх мерках настаўніцы рускай мовы і літаратуры, нашай класнай Антаніне Міхайлаўне. Тая была маладзейшай, падыходзіла да ўрокаў творча, была артыстычнай натураю, сама любіла чытаць і дэкламаваць уголас і нас заахвочвала. Ад яе я ўпершыню пачуў на ўроках апавяданьні В. Шукшына, зь ёй мы развучвалі і паказвалі на школьнай сцэне пушкінскіх «Цыганоў». Я граў у гэтай п'есе старога цыгана. Першы свой верш па-руску я напісаў у 6-м класе і чытаў яго са школьнай сцэны. Ён быў прысьвечаны Чалавеку.

***

А ў 9-м класе да нас беларускую мову і літаратуру прыйшоў выкладаць Сямён Сямёнавіч, малады, яшчэ да трыццаці гадоў настаўнік, які прыходзіў у школу ў модным тады вялізным, да пятаў, з высокім каўняром, жоўтым кажуху, так што не было відаць яго галавы, і з дыпламатам. Ён быў на той час па-сучаснаму падстрыжаны — з раскідам чубчыка на два бакі і невялікай хвалістай грыўкаю на патыліцы, у акулярах. Зьяўленьне Сямёна Сямёнавіча павысіла маю цікавасьць да беларускай літаратуры. Хаця выкладаў ён, наколькі я памятаю, пасрэдна. Антаніна Міхайлаўна была непераўзыдзенай. Але ён быў мужчынам і выклікаў у мяне большы давер. На ягоных уроках я пісаў творы зазвычай на вольную тэму. Атрымліваліся эсэ. Чытаючы іх, Сямён Сямёнавіч хваліў мяне, ставіў пяцёркі і заахвочваў пісаць далей.

Дзесьці ў той год я напісаў першую сваю замалёўку, прысьвечаную вясьне, і паслаў у сьветлагорскую раёнку. Яе надрукавалі, мне даслалі ганарар.

Паглядзеўшы на Сямёна Сямёнавіча, я пераканаўся, што і мужчыны могуць працаваць настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры, і сам вырашыў паступаць на беларускае адзь-

дзяленьне філфака. Чаму яшчэ на філфак? Хоць ніколі не казаў пра гэта, але ж я сьціпла марыў стаць пісьменьнікам. І менавіта беларускім пісьменьнікам, бо ж я быў беларус! А дзе, як не на філфаку, я мог вывучыць беларускую мову, каб пісаць на ёй? А калі не стану пісьменьнікам, суцяшаў я сябе, дык буду настаўнікам.

*19 сакавіка 2013 года, Бабруйск*

Творы Уладзіміра Караткевіча моцна паўплывалі на маю нацыянальную сьвядомасьць. Ягонае «Дзікае паляваньне караля Стаха» даў мне пачытаць Сямён Сямёнавіч. І гэта было сапраўднае адкрыцьцё! Затым я прачытаў «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», затым «Каласы пад сярпом тваім». І я стаў сьвядомым беларусам.

Уладзімір Караткевіч паказаў чароўны і таямнічы сьвет схаванай ад мяне, амаль страчанай радзімы. Я сьніў і трызьніў аб гэтай Беларусі, я пачаў ганарыцца тым, што я беларус, ганарыцца сваім калісьці слаўным народам, сваёй краінаю. І гэта быў правільны гонар. Ён узьнік не на пачуцьці перавагі і нелюбові да іншых. А на разуменьні таго, што мы — не горшыя, што і мы маем чым ганарыцца, што паказаць усяму сьвету.

Творы Уладзіміра Караткевіча моцна гуманістычныя па сваёй сутнасьці. Яны ўмацоўваюць нацыянальную сьвядомасьць і адначасова ўзвышаюць агульначалавечыя каштоўнасьці. Яны накіраваныя на тое, каб закласьці беларускія веды і агульначалавечы гуманізм, на тое, каб зрабіць чалавека лепшым. І я ўсё ўспрыняў літаральна так, як ён гэтага жадаў.

Толькі самому валодаць такім адкрыцьцём было для мяне невыносна. Мне не цярпелася падзяліцца зь іншымі. Я з захапленьнем распавядаў пра творы Караткевіча аднаклсьнікам і сябрам. Некалькі чалавек прачыталі «Дзікае паляваньне». Але маё захапленьне было большым і мацнейшым.

Я пачаў чытаць усё болей і болей беларускіх кніжак. Чытаў хутка і багата. У школьнай бібліятэцы прачытаў усе больш-менш цікавыя беларускія кніжкі, у тым ліку трохтомнік Віталя Вольскага — бацькі Артура і дзеда Лявона Вольскага, чатырохтомнік Янкі Маўра і пяцітомнік Івана Шамякіна.

На выпускным іспыце па беларускай літаратуры ў школе я адказваў зь веданьнем справы. Настаўнікі, якія былі ў камісіі, гэта адчулі і пранікліся. Ужо пасьля ўсіх пытаньняў і адказаў папрасілі пачытаць што-небудзь на памяць. Я запамінаў тыя вершы, якія мне падабаліся, і прачытаў верш Сяргея Грахоўскага. І гэта была самая моцная пяцёрка ў маім атэстаце.

***

Да дзясятага класа з намі вучылася дзяўчына па імю Рыта. Рытка-маргарытка, Атыраграм, як я жартаваў з яе, чытаючы яе імя наадварот. Рудая, з зялёнымі вачыма, белай парцалянавай скураю, эфектная, яна мела гучны, з хрыпотцаю, глыбокі голас. Грала на піяніна. Я сябраваў зь ёй, бо яна была адзіная ў класе, апроч мяне, хто чытаў розныя кніжкі. У дзявятым класе мы з ёй часта размаўлялі пра літаратурныя навінкі. Яна давала мне чытаць Рэмарка, а я ёй — Караткевіча. На той час ён стаў маім самым любімым пісьменьнікам.

*20 сакавіка 2013 года, Бабруйск*

На выходныя, у суботу і нядзелю, у сьветлагорскім Палацы культуры хімікаў ладзіліся танцы. Грала жывая музыка, пад канец танцаў уключалі магнітафонныя запісы. Як на цяперашні мой густ, узровень музыкаў і рэпертуар, які яны гралі і сьпявалі, быў даволі прыстойным і сучасным па тым часе. Багата кампазіцыяў сьпявалі-перапявалі па-ангельску.

На танцах зьбіралася сьветлагорская моладзь: старшакласьнікі гарадскіх школаў, навучэнцы ПТВ, тэхнікума. Туды часта прыходзілі патусавацца і мы, некалькі маіх аднакласьнікаў і сяброў з паралельных класаў. Некалькі чалавек з нас хадзілі на танцавальны гурток, быў такі пры Палацы, і мелі бясплатны ўваход на дыскатэку.

І вось аднаго разу стаяў я ў шчыльным натоўпе на танцавальнай пляцоўцы, падзеленым на невялікія групкі і копцы, якія ўвесь час рухаліся і зьмяняліся. Хтосьці шукаў знаёмых, хтосьці, пакуль была паўза, сьпяшаўся зьбегаць у прыбіральню. Мы таксама пра нешта размаўлялі, як заўсёды, сьмяяліся.

І я раптам пачуў зь недалёкага суседняга кола, як там хтосьці гучным і ўпэўненым голасам штосьці сказаў пра «Дзікае паляваньне караля Стаха». Я пачуў толькі ўрывак з размовы. Сказана было наступнае: «Вось гэта — сапраўдная беларуская літаратура! Вось што трэба чытаць!» Я аж падскочыў. Мяне як варам абдало. Гэта ж акурат тое, што думаю і пра што я распавядаю сваім сябрам! Няўжо яшчэ хтосьці прачытаў Караткевіча і незалежна ад мяне прыйшоў да такіх самых высноваў? Няўжо існуе чалавек, зь якім мы маем падобныя літаратурныя густы? Родная душа?

Я спытаўся ў некага з сяброў: «А хто гэты хлопец?», паказаўшы яму на юнака, які быў прамовіў гэтую тыраду. Мне адказалі, што гэта — Юркавец, наш равесьнік, што ён вучыцца ў той і той школе і што ён добры знаёмы яшчэ аднаго нашага аднакласьніка.

Неперадавальнае адчуваньне ахапіла мяне. Тут, на сьветлагорскіх танцульках, сустрэць чалавека, які чытае беларускія кніжкі, і якраз тыя кніжкі, якія трэба чытаць! Я ўпершыню, у 16 гадоў, у сваім захапленьні беларускай літаратурай, а праз Уладзіміра Караткевіча ўжо і захапленьні беларушчынай — і мовай, і гісторыяй, яшчэ не ведаючы добра ні адной, ні другой, але ўжо глыбока эмацыйна адчуваючы ўсю веліч храма беларушчыны, пачуў чалавека, які прамовіў ва ўнісон з маімі думкамі і ўяўленьнямі. Я ўпершыню адчуў,

што я не адзін, не самотны дзівак-рамантык, флюіды і пасылы якога выклікаюць у сяброў у лепшым выпадку спакойнае разуменьне, што ёсьць людзі, якія думаюць акурат як я.

Мне нясьцерпна хацелася пазнаёміцца зь Юркаўцом, паразмаўляць найперш пра Караткевіча, а можа і яшчэ пра што. Але ў той вечар падысьці да яго я пасаромеўся. А потым так і не атрымалася. Я чакаў якой-небудзь нагоды, сам ініцыятывы не праяўляў і не шукаў яго, хаця знайсьці і сустрэцца ў невялікім гарадку было даволі проста. Пэўна, мне хапала і веданьня таго, што ў гэтым зрусіфікаваным савецкім Сьветлагорску жыве чалавек, які ведае, хто такі Караткевіч, і які цэніць яго таксама, як я.

Спаткаліся мы зь Юркаўцом болей чым празь дзесяць гадоў, калі абодва жылі і працавалі ў Менску. Напачатку 90-х у музей Максіма Багдановіча, дзе я тады працаваў дырэктарам, прыйшоў мой прыяцель мовазнаўца Зьміцер Саўка. «Вось, — прадставіў ён усьмешлівага, з русай барадою, у акулярах з тоўстымі шкельцамі хлопца, — мой прыяцель і твой зямляк Юркавец». Я паціснуў яму руку, і ў мяне заныла сэрца. Я адразу згадаў ягоны ўпэўнены голас, «Дзікае паляваньне», танцы ў Сьветлагорску ў 1978 годзе. Вось ён, гэты Юркавец, на адзіны выраз якога, пачуты ў шуме натоўпу, я абапёрся тады, як сасьмяглы падарожнік на кій, з тым, каб упэўнена пакрочыць далей. Я і не забываў яго ніколі, як нельга забыць той адпраўны пункт, ад якога ты пачынаеш сваю доўгую хаду.

*20 сакавіка 2013 года, Бабруйск*

«Дачны ўчастак», ці, як называюць у Сьветлагорску, агарод, у нас быў недалёка ад хімічнага завода. З прахадной бацькі даходзілі пешшу за сем хвілінаў. Месьціўся ён у гэтак званым зялёным поясе, які высадзілі вакол хімзавода дзеля экалагічных мэтаў. Не ведаю, каму затым з гарадскога і за-

водскага начальства прыйшла ў галаву гэтая «цудоўная» думка — паміж зялёных палосаў, засаджаных таполямі, нарэзаць зямлю пад агароды для працаўнікоў «хімдыма». Людзі пасадзілі сады, пабудавалі хаткі, падвялі ваду з рэчкі, угнаілі сьветлагорскі пясочак і былі задаволеныя. Мяне амаль ніколі не змушалі рабіць што-небудзь у нашым агародзе. Бацькі самі ўпраўляліся на нашых шасьці сотках, ім гэта падабалася. Але там, ад іх я палюбіў поркацца ў зямлі, што прачнецца ўва мне значна пазьней.

Дык вось там, на нашым агародзе, улетку 1979 года ў маленькай летняй хатцы, у засені саду і кустоў, я пражыў некалькі дзён — пісаў адкрыты ліст у абарону беларускай мовы.

Я не разумеў, чаму так мала ў нашым жыцьці месца для беларускай мовы. Некалькі разоў на ўроках ці падчас класнай гадзіны я пытаўся пра гэта ў нашай «класухі», як мы называлі Антаніну Міхайлаўну. Яна вяла нас з пятага класа, таму ў каго, як не ў яе, мне спрабаваць атрымаць адказ на пытаньне пра гэтую відавочную несправядлівасьць.

Яна штораз адказвала, што ў нас кожны можа размаўляць на той мове, на якой хоча: ці па-руску, ці па-беларуску. Але мяне не задавальняў такі адказ. Талерантнасьць гэтая была ўяўная і няшчырая. Яна не давала ніякіх шанцаў для беларускай мовы. І гэта выклікала ў мяне нязгоду і абурэньне. Я часам знарок ужываў беларускія словы, выразы, сказы, выказваўся і ў класе, і сярод сваіх сяброў за беларускую мову. І ўрэшце зьявілася разуменьне, што праблема захаваньня, разьвіцьця, ужываньня беларускай мовы — гэта праблема грамадская. Таму грамадства павінна думаць, як яе вырашыць. Таму і надумаў я напісаць адкрыты ліст у буйныя саюзныя газеты «Известия», «Труд» і рэспубліканскую «Советскую Белоруссию».

У гэтым годзе я скончыў школу, зьбіраўся ехаць на падрыхтоўчыя курсы на беларуска-рускае адзьдзяленьне гісторыка-філалагічнага факультэта ў Гомельскі ўніверсітэт. Я ўжо меў запрашэньне на падрыхтоўчыя курсы і вось сядзеў

і пісаў свой ліст у абарону беларускай мовы. І я напісаў яго, выказаўшы ўсе свае крыўды і трывогі. Хіба ж я мог тады падумаць, наіўны, што палітыка асіміляцыі беларусаў, палітыка русіфікацыі і была дзяржаўнай палітыкай? А тых, хто выступаў насуперак, білі па руках.

Я тады гэтага яшчэ не ведаў. Але калі я прачытаў свой ліст, я зразумеў, хоць ніхто мне гэтага не тлумачыў і не засьцерагаў, што калі я пашлю напісанае, то наўрад ці паступлю на філфак, а пайду тады, хутчэй за ўсё, круціць гайкі на «хімдым», туды, дзе працуюць мае бацькі. І я не паслаў гэты ліст. Я паклаў яго ў папку і паехаў у Гомель рыхтавацца да іспытаў. У 10-м класе настаўніка-беларусіста ў нас не было. Сямён Сямёнавіч сышоў на нейкую цікавейшую для яго працу. Беларускую літаратуру ў нас яшчэ так-сяк выкладалі зьменныя настаўнікі, а на ўрокі беларускай мовы іх не хапала, і мы ішлі гуляць у футбол. Я мусіў хоць трохі падцягнуць беларускую мову.

*http://spring96.org/be/news/62262*

# ЗАЛАТАЯ БЕЛАРУСЬ. НАТАТКІ З БАБРУЙСКАЙ КАЛОНІІ

...З занядбалых руінаў і зарослых пустазельлем беларускіх падмуркаў мы жадалі адрадзіць незалежную і дэмакратычную, нашую «залатую Беларусь»...

Тады яму было столькі гадоў, колькі цяпер мне, — 50, а мне, адпаведна, на 25 гадоў меней. Вось такая ў нас розьніца ў часе, у чвэрць стагодзьдзя, у адно пакаленьне.

Прачытаў у «Нашай Ніве» віншаваньне з 75-гадовым юбілеем Юрыя Хадыкі. Юрыя Хадыку я ведаю даўно, чвэрць стагодзьдзя, з 1988 года — па супольнай працы ў арганізацыйным камітэце Беларускага народнага фронту.

Я зь сімпатыяй і павагаю стаўлюся да Юрыя Хадыкі. Ён — беларускі інтэлектуал, адзін з найбольш выбітных дзеячаў у беларускім грамадскім жыцьці, навуковец, доктар фізіка-матэматычных навук.

Навукоўцы-фізікі ў СССР вылучаліся вальнадумствам. Даволі згадаць акадэміка, бацьку савецкай вадароднай бомбы Андрэя Сахарава, які неўзабаве стаў адным з самых пасьлядоўных і цвёрдых дысідэнтаў у Савецкім Саюзе. Партыйныя бонзы пэўны час праз пальцы глядзелі на крытыку савецкай сістэмы навукоўцамі-фізікамі, бо важнейшай для іх была ядзерная дубіна, якую яны атрымалі дзякуючы гэтым «летуценьнікам».

Фізік Юрый Хадыка спрыяў стварэньню балістычных ракет, якія ўздымалі ў космас спадарожнікі і з гэткай жа лёгкасьцю маглі пераносіць ядзерныя зарады ў любую кроп-

ку зямной кулі. Таму Юрыю Хадыку таксама дазвалялі маленькія, бо Менск усё ж не Масква, вольнасьці. Яму з групаю аднадумцаў ласкава дазволілі стварыць у Акадэміі навук музей старажытнага беларускага мастацтва.

У вачах камуністычнага кіраўніцтва Беларусі гэта была немалая саступка. Афіцыйная трактоўка беларускай гісторыі сьцьвярджала, што толькі з усталяваньнем у Беларусі савецкай улады пачыналася праўдзівая гісторыя беларускага народа. А ўсё, што існавала да гэтага часу — архітэктура, мастацтва, — не мела ніякай каштоўнасьці і нават было шкодным для працэсу выхаваньня новага савецкага чалавека.

Вось жа Юрыю Хадыку зь ягонымі аднадумцамі дазволілі езьдзіць па зачыненых і закінутых цэрквах і касьцёлах, шляхецкіх сядзібах ды зьбіраць старажытныя абразы, кнігі, скульптурныя выявы. Наўзамен за ракетныя распрацоўкі яму дазволілі ратаваць сваіх сланоў — парэшткі старажытнай еўрапейскай культуры.

З 1988 года Юрый Хадыка актыўна займаўся грамадскай і палітычнай дзейнасьцю. Падчас роскввіту БНФ напачатку 90-х гадоў ён быў намесьнікам старшыні найбуйнейшай на той час палітычнай арганізацыі, якая мела на мэце ўсталяваньне незалежнасьці і дэмакратыі ў Беларусі. Заставаўся ён намесьнікам старшыні і ў наступныя, менш спрыяльныя для дэмакратыі ў Беларусі часы, калі палітычная актыўнасьць БНФ была выціснутая са сьценаў парламента на менскія вуліцы.

У 1996 годзе за арганізацыю Чарнобыльскага шляху, саракатысячнай акцыі пратэсту, ён быў арыштаваны і амаль месяц галадаваў. Ведаючы характар Хадыкі, я мяркую, што, калі б яго тады не вызвалілі, ён бы пайшоў да канца.

Праз чвэрць стагодзьдзя грамадскай барацьбы свой юбілей Юры Хадыка сустрэў у ЗША, у сям'і сына, дзе ён часова дапамагае даглядаць сваіх унукаў. Ягоны сын мае добрую адукацыю сьпецыяліста-міжнародніка, але сёньня ён не можа знайсьці працу па сьпецыяльнасьці на радзіме, два гады таму выехаў у Амерыку і працуе там кіроўцам.

Мне хацелася б асабіста павіншаваць Юрася Хадыку. Мне заўсёды падабаліся ягоная ўнутраная энергія, свабода, філасофскі склад мысьленьня, упартасьць і пасьлядоўнасьць у адстойваньні сваіх поглядаў. Ды я не магу гэта зрабіць. І я на зоне, і Юры Хадыка ў Амерыцы.

А быў жа час, 15 гадоў таму, калі мы разам з прафесарам Хадыкам адсядзелі дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту ў адной камеры. Нас судзілі за арганізацыю праваабарончай антыфашысцкай дэманстрацыі. У камеры было пяцёра. Трое дэманстрантаў і двое падсадных інфарматараў.

Мы ляжалі на агульных драўляных «палацях» упокат, без прасьцінаў, матрацаў і падушак, у адзеньні. Дзе елі, там і спалі. Спаў у асноўным я, а Юрась Хадыка распавядаў правакатарам лекцыі з гісторыі бібліістыкі. Прафесар Хадыка выдатна ведаў Біблію, нягледзячы на тое, што фізік, быў вернікам і адмыслоўцам у беларускай старажытнай сакральнай культуры. Ён умеў чытаць схаваную сімволіку беларускіх іконаў-абразоў.

Я слухаў спакойны, добразычлівы, крыху аднастайны голас Юрася Хадыкі. Ён распавядаў пра дабро і зло, пра першародны грэх і выкупленьне Хрыстом. Я не мог утрымацца. Вейкі мае зьліпаліся, і я засынаў лёгкім і сьветлым сном, празь які чуў голас барадатага Хадыкі. Ён, як біблейскі апостал, настаўляў стукачоў-грэшнікаў на шлях праўды. Такая сонная тэрапія для мяне і навучаньне вераю ды праўдаю для нашых сукамернікаў працягвалася ўсе дзесяць дзён.

Я запісваю гэтыя радкі 3 ліпеня. Беларуская гісторыя сёньня сьціснулася яшчэ болей, чым высушаная скура, і свой адлік змушана бярэ з дня вызваленьня Менска, якое адбылося 3 ліпеня 1944 года. А за год перад тым, 70 гадоў таму, у ліпені 1943 года венгерскія вайскоўцы выпалілі палову вёсак у Нараўлянскім раёне. Згарэла і сядзіба, у якой жыла сям'я маёй маці. Яна, сямігадовая дзяўчынка, ляжала на ўзьлеску ў разоры і глядзела, як палае іхняя хата. Гэта былі самыя яркія ўспаміны яе дзяцінства. Людзі, папярэджаныя кімсьці са сваіх паліцэйскіх, своечасова схаваліся ў лесе, і

мадзяры забілі толькі двух старых, якія вырашылі паміраць дома.

За акном на тэнісным стале цокае пластмасавы мячык, на калідоры чуюцца сьвяточныя гукі маршу. Я выходжу ў калідор і іду на ПВР, у агульны атрадны пакой, дзе стаіць тэлевізар, акварыум, моцныя лакіраваныя лавы ды ляжыць падшыўка газеты «Зьвязда». Па тэлевізары паказваюць сьвяточны парад. Праўдзівым Днём Незалежнасьці я лічу 25 сакавіка, калі ў 1918 годзе была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка. 3 ліпеня застанецца для мяне днём вызваленьня Менска ад фашыстаў.

Я яшчэ чамусьці думаю, што, калі пачалася вайна, у чэрвені 1941 года зьняволеных у менскіх турмах, і ўжо асуджаных, і яшчэ не асуджаных, каго не пасьпелі эвакуяваць, у прымежных Берасьці, Горадні, Глыбокім, калоны вязьняў, якія далёка не адышлі ад Менска, расстралялі. Лічбы і даты, даты і лічбы, нікуды ад іх не падзецца.

А потым я згадваю, што ўсё ж аднойчы хадзіў 3 ліпеня на парад. Гадоў з сем таму ў Менск прыехаў мой сябра, старшыня Саюза беларусаў у Польшчы, гісторык і журналіст Яўген Вапа. Яму заманілася паглядзець парад. Мы пайшлі з ім з праспекта Перамогі на праспект Пераможцаў, былы Машэрава... Там ён убачыў калоны камбайнаў, трактароў і МАЗаў, парадныя шыхты спартовых чэмпіёнаў розных гадоў — і быў шакаваны. Ён атрымаў эмацыйны ўдар. Але найбольш уразіла яго вялізная шматпавярховая кветка, зробленая зь дзяўчынак-пялёсткаў, якія зладжана выгіналіся, прысядалі, пацягваліся і ўздымалі рукі з насаджанымі на кійкі букетамі, ад чаго ўся дзявочая кветка бесьперастанку варушылася і зьмянялася. Мабыць, дзяўчынкі былі гімнасткамі.

«Такога не ўбачыш нідзе! — у захапленьні казаў Яўген, — гэта падобна на гістарычную рэканструкцыю парадаў, якія праходзілі тут, у Менску, 80 гадоў таму». — «Гэта не гістарычная рэканструкцыя, — сумна запярэчыў я. — Гэта нашае рэальнае жыцьцё».

А яшчэ мне хацелася б пры сустрэчы зь Юрасём Хадыкам

запытацца ў яго, ці задаволены ён пражытым жыцьцём. Юры Хадыка — амбітны чалавек. І мяне цікавіць: на ягоную думку, ці спраўдзілася галоўная мара ў ягоным жыцьці? Пэўна ж, у кожнага чалавека, не прыбітага ўшчэнт жыцьцём, ёсьць такая мара.

Юрыю Хадыку — 75, мне — 50, майму сыну — 24. Я і сам не заўважыў, як прыйшоў час, калі мой сын таксама ўжо можа задаць мне такое самае пытаньне...

Працягваю пісаць далей. Я не веру ў магію лічбаў. Сёньня — 4 ліпеня 2013 года, 23 месяцы, як я ў зьняволеньні. І што я адчуваю, углядаючыся ў гэтыя лічбы? Ды нічога. Прабыты ў зьняволеньні час я лічу месяцамі. Усяго па выраку суда ў мяне іх 54. Некаторыя вязьні, каму да свабоды, «да званка» застаецца менш за год, лічаць днямі. А вось нядаўна «заехаў» у атрад новы «пасажыр» і «прывёз» з сабой больш за 20 гадоў. Яму, мабыць, давядзецца лічыць адбыты час гадамі.

Лічбы маюць для мяне іншую прывабнасьць. Ад іх можна адштурхнуцца, як ад рачнога берага падчас купаньня, як ад чагосьці пэўнага і трывалага, каб паплыць на хвалях сваёй памяці, каб паразважаць.

Мне было столькі ж гадоў, колькі цяпер майму сыну, калі мы стварылі Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Пісьменьнік і інтэлектуал Сяргей Дубавец у сваёй кнізе, прысьвечанай беларускаму моладзеваму дэмакратычнаму руху 80-х гадоў XX стагодзьдзя, назваў зьяўленьне гэтага руху «гісторыяй аднаго цуду». Я не веру ў цуды па-за верай, але гэтым разам згодны зь ім. Сапраўды, узьнікненьне непадкантрольных Саветам моладзевых суполак у 80-я гады мінулага стагодзьдзя можна лічыць за цуд. Бо перад намі, а я быў далучаны да нацыянальна-дэмакратычнай дзейнасьці ў 1981 годзе, сапраўды не было амаль нічога. Камуністы ўпэўнена кантралявалі ўсе праявы грамадзянскага жыцьця. Недабітыя сталіншчынай, зацкаваныя ў пасьлясталінскую эпоху, зацугляныя інтэлектуалы, мастакі, пісьменьнікі былі пад пільным кантролем сьпецслужбаў, партыйных камітэтаў і сядзелі ў глыбокім падпольлі.

Здавалася, што мы зьявіліся зьнянацку, ніадкуль, як россып пралесак, якія нечакана растапілі сваім калівам глыбокі снег, што надзейна пакрываў зямлю, — і пацягнуліся да вольнага веснавога сонца.

Праўда, мабыць, можна казаць, што гэты цуд усё ж быў наканаваны. Бо існавала ценькая сувязь паміж living рознымі пакаленьнямі сьвядомых беларусаў, а ў 1980 годзе ў суседняй Польшчы выбухнула «Салідарнасьць». Дэманстрацыі, акцыі пратэсту, легендарныя лідары (якія не баяліся ахвяраваць сабой ды ішлі ў турму), глухі грукат за жалезнай сьцяною, падпольны самвыдат з Польшчы, гэтак званыя «бібулы», якія траплялі ў нашыя рукі, — усё гэта бурапеніла нашую кроў.

Неўзабаве і ў Савецкім Саюзе загучала нязвыклае дасюль слова «перестройка». Камуністы зьбіраліся перабудоўваць тое, што пабудавалі за 70 гадоў панаваньня, тое, што безнадзейна састарэла, забуксавала, засклізгатала і не жадала каціцца далей. Але ж мы зьбіраліся адраджаць! Эсэсэсэраўская гаргара перабудове не падлягала. З занядбалых руінаў і зарослых пустазельлем беларускіх падмуркаў мы жадалі адрадзіць незалежную і дэмакратычную, нашую «залатую Беларусь»...

Да пабачэньня. Абдымаю — Алесь.

*3–4 ліпеня 2013 года, Бабруйская калонія.*

# «ДЗЯДЫ»

## *З нагоды 25-годзьдзя першага масавага мітынгу ў Беларусі*

### Замест прадмовы

Канец 80-х — пачатак 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя... Час, калі вырашаўся лёс Беларусі на многія гады наперад. Азіраюся назад, углядаюся ў тыя гады, і некалькі падзеяў высокімі стромамі ўздымаюцца над завірухаю ўсемагчымых фактаў, тэндэнцыяў, якія склалі захапляльнае ніціва таго няпростага, радаснага і нервовага часу. Часу, рухавікамі якога былі і мы, часу, які хутка прывёў нас да незалежнасьці. Адной з такіх падзеяў сталі «Дзяды» 1988 года.

Ужо быў праведзены ў 1987 годзе самы першы ў краіне за апошнія 60 гадоў мітынг у абарону Верхняга горада, ужо адбылося разам з латышскімі актывістамі нефармальных рухаў воднае ралі па Дзьвіне супраць пабудовы Дзьвінскай гідраэлектрастанцыі, у выніку якой былі б затопленыя дзясяткі беларускіх вёсак у пойме ракі. Ужо прайшлі першыя «Дзяды» з антысталінскім падтэкстам, ужо адбыліся шматлікія талокі па ўпарадкаваньні гістарычных мясьцінаў, а на сходы нефармальнага аб’яднаньня «Талака» штотыдзень зьбіраліся сотні маладзёнаў, якія шукалі адказы на пытаньні, датычныя будучыні Беларусі. Ужо бурліла беларуская інтэлігенцыя, у Саюзах пісьменьнікаў, мастакоў, згуртаваная пры

Фондзе культуры. Ужо стала вядомая праўда пра Курапаты. Ужо снаваліся планы аб стварэньні першай грамадскай-палітычнай арганізацыі, якая магла б скласьці альтэрнатыўны цэнтр камуністычнай уладзе. Вось такі гэта быў час.

Не памятаю, хто першы ў 1987 годзе вылучыў ідэю адзначэньня «Дзядоў». Падштурхнула, мабыць, тое, што ў тым годзе спаўняліся 50-я ўгодкі змрочнага 1937-га з масавымі расстрэламі і амаль поўным вынішчэньнем беларускай інтэлігенцыі. Дата трагічная для беларускага народа і надта непрыемная для камуністаў і КДБ. Мы разумелі, што антысталінская тэматыка ў часы, калі пачала адкрывацца праўда пра маштаб сталінскіх рэпрэсіяў, будзе біць пад дых існуючай уладзе. Бо гэтая ўлада мела свае ідэалагічныя карані ў тых часах і не адмаўляла гэтага. Сама структура ўлады, яе хрыбетнік быў выбудаваны ў сталінскія часы. Таму яны, прамыя пераемнікі «сталінскіх сокалаў», і не зьбіраліся ні прызнаваць ранейшыя памылкі, ні каяцца, ні пераглядаць карэнным чынам свае адносіны да агульных грамадскіх і палітычных свабодаў і грэблівае стаўленьне да беларускай культуры і мовы.

«Дзяды» пасавалі нам яшчэ з тае прычыны, што мы адначасна адраджалі і старажытнае народнае сьвята памінаньня продкаў, раней характэрнае для ўсёй і праваслаўнай, і каталіцкай Беларусі, а на той час пункцірная традыцыя адзначэньня яго захавалася хіба толькі ў Заходняй Беларусі. Мы адраджалі сьвята, якое дзесяцігодзьдзямі перасьледавалася камуністамі. Лепшую нагоду і прыдумаць было цяжка.

У 1987 годзе на адным з чарговых сходаў «Міктарату» — падпольнай групы беларускай моладзі, якая і ініцыявала разьвіцьцё нефармальнага моладзевага руху ў Беларусі — было вырашана, што ўсе фармальныя моманты па арганізацыі «Дзядоў» возьмуць на сябе сябры Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Я, старшыня «Тутэйшых», пагадзіўся, бо наймацнейшым аргументам было тое, што мы, адзіныя з усіх тагачасных Менскіх нефармальных суполак, мелі амаль легальны статус. Мы працавалі «пры Саюзе пісьмень-

нікаў Беларусі», які хоць і ніякім чынам не аформіў нашыя стасункі, але афіцыйна прызнаваў нашае існаваньне. Таму ў перамовах з уладамі мы маглі абапірацца на гэтае «пры...». Трэба мець на ўвазе, што на той час вага Саюза пісьменьнікаў у структурах беларускай улады была непараўнальнай зь цяперашняй. Апроч таго, адчувалася, што ўжо прыйшла нашая чарга браць ініцыятыву (і агонь) на сябе, бо арганізатарам усіх папярэдніх вялікіх акцыяў заўсёды выступала «Талака».

Мне важна было, каб з прапановаю пагадзіўся Анатоль Сыс. Я быў перакананы, што ў зьвязцы зь ім мы здолеем арганізаваць правядзеньне сьвята. Анатоль выслухаў мяне і ўспрыняў гэтую ідэю з энтузіязмам.

На «Тутэйшых» прапанова аб адзначэньні «Дзядоў» таксама была ўхваленая. І першыя «Дзяды» ў 1987 годзе адбыліся гэтак, як мы і меркавалі, — сталі адраджэньнем старажытнай нацыянальнай традыцыі, мелі адкрыты антысталінскі, дэмакратычны зьмест.

І яшчэ найважнейшым вынікам правядзеньня першых «Дзядоў» было выцісканьне страху з грамадскай сьвядомасьці і грамадскага жыцьця. Гэта быў першы за многія дзесяцігодзьдзі заяўлены мітынг, які і арганізоўваўся менавіта як мітынг, заяўку на правядзеньне яго падавалі ў выканкам Цэнтральнага раёна А. Бяляцкі і А. Сыс. Мы зь неспакоем чакалі рэакцыі ўладаў. На нашае зьдзіўленьне, улады ніякім чынам не адрэагавалі на наш зварот, і мы правялі «Дзяды», што называецца, па факце.

Пры набліжэньні наступных «Дзядоў» — 1988 года — пазіцыя моладзевых арганізацыяў і «Тутэйшых» заставалася нязьменнай: праводзіць! Але пазіцыя ўладаў цяпер была адваротнаю — забараніць! На гэтае рашэньне паўплывалі і канкрэтныя падзеі, якія здарыліся напярэдадні, а гэта абвяшчэньне 19 кастрычніка 1988 года першай беларускай праваабарончай арганізацыі «Мартыралог Беларусі», а таксама стварэньне аргкамітэта Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэньне». Мабыць, улады ўрэшце зразу-

мелі і ідэалагічную небясьпеку для іх пытаньня, зьвязанага са сталінскімі рэпрэсіямі.

Узьнікненьне аргкамітэта БНФ «Адраджэньне» — гэта асобная гісторыя, пра якую больш падрабязна могуць распавесьці старэйшыя — Зянон Пазьняк, Міхась Чарняўскі, Алесь Марачкін ды яшчэ іншыя з тых, хто задумвалі стварэньне масавага дэмакратычнага руху, я ж толькі адзін ці два разы быў запрошаны на папярэднія сходкі Камітэта-58 — правобразу «Мартыралога». Памятаю адзін з такіх арганізацыйных сходаў, які праходзіў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук, дзе тады працавалі Зянон Пазьняк і Міхась Чарняўскі. Абмяркоўвалася ідэя стварэньня Беларускага народнага фронту, выказваліся перасьцярогі, каб гэтую ідэю не перахапілі беларускія камуністы і не сплюгавілі яе.

Памятаю, як улетку 1988 года ў сядзібе Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры на Траецкім прадмесьці праходзіла паседжаньне адной з камісіяў таварыства. На ім сабраўся тагачасны беларускі актыў — мастакі, гісторыкі, пісьменьнікі. Ад беларускіх моладзевых арганізацыяў былі талакоўцы: Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч, Алесь Суша, ад «Тутэйшых» быў я. Апроч іншых пытаньняў, на ім абмяркоўвалася назва будучага дэмакратычнага руху, які мы былі намераныя стварыць. На гэтае паседжаньне запрашаліся людзі правераныя і надзейныя, з тым, каб раней часу дакладная інфармацыя пра арганізацыю такога руху не стала вядомай камуністычным уладам. Выступалі Зянон Пазьняк, яшчэ нехта, прапаноўваліся: «Грамада» і «Народны фронт». Выказваліся розныя аргументы «за» і «супраць». За «Грамаду» была гістарычная традыцыя, за Фронт — таксама апеляцыя да франтоў у Заходняй Беларусі і Францыі, а таксама да нядаўна створанага Народнага фронту ў Эстоніі. Мы, моладзь, згодна падтрымалі «Народны фронт», з чым пагадзіліся і ўсе ўдзельнікі паседжаньня.

Мне даручылі арганізацыю дружыны падчас правядзеньня агульнага сходу некалькіх творчых саюзаў — пісьменьнікаў, кінематаграфістаў і мастакоў — 19 кастрычніка ў Чыр-

воным касьцёле, тагачасным Доме кіно. Меркавалася, што дружына будзе адфільтроўваць несяброў творчых саюзаў, каб не пусьціць «чужых» у памяшканьне. Ды арганізацыю гэтай дружыны я пасьпяхова праваліў. Намовіў хлопцаў, падрыхтавалі бел-чырвона-белыя павязкі, прыйшоў, як і добрая палова маёй дружыны, у Дом кіно раней за пачатак сходу, але там ужо амаль уся зала была занятая як сябрамі саюзаў-ініцыятараў, так і рознымі старпёрамі, запрошанымі гаркамам кампартыі. Такім чынам, наганяючы сваіх людзей, улады ўжо і раней спрабавалі зрываць паседжаньні «Талакі». Падышоў да Пазьняка: «Што рабіць?» Той толькі махнуў рукою — дзе ж вы прападаеце... Далей дзейнічалі па сітуацыі. Мы з Вадзімам Александровічам, актывістам «Талакі», стаялі на сцэне каля выступоўцаў. Сход, тым не менш, прайшоў так, як і планавалі арганізатары. Адзінае, што дружыньнікам, мне і Вадзіму, тады давялося зрабіць, дык гэта вывесьці пад рукі супрацоўніка ЦК КПБ Р. Бузука, які быў захапіў трыбуну і не даваў выступаць Васілю Быкаву, баючыся, што той абвесьціць аб стварэньні БНФ. Камуністычнага «бонзу», мабыць, упершыню ў жыцьці зганялі з трыбуны, і ён паводзіў сябе, як загіпнатызаваны. У лісьце да Натальлі П. я тады так пісаў пра гэтыя падзеі: «У сераду (19-га) здарылася ў жыцьці нашай рэспублікі гістарычная падзея — абвясьцілі стварэньне Народнага фронту Беларусі!! Куды таемна ад мяне (бо ўсё рабілася таемна) уключылі і мяне ў арганізацыйны камітэт. Я ўжо 2-ю ноч не сплю амаль, і зараз гадзіна ночы, еду ў Вільню на іх Сойм Фронту, ужо ад імя Камітэта. Загружанасьць страшэнная. Добрая частка тэхнічнай працы — на мне».

Такім чынам, уладам не ўдалося сарваць стварэньне альтэрнатыўнага грамадска-палітычнага руху, і ім патрэбны быў рэванш. Такі рэванш яны вырашылі ўзяць на «Дзядах».

На фоне гэтых падзеяў мне з Анатолем Сысом і даводзілася займацца ўсімі фармальнасьцямі па арганізацыі «Дзядоў». Анатоль стала працаваў. Я, як асьпірант, быў вальнейшы, таму рыхтаваць, друкаваць паперы, хадзіць на перамо-

вы з уладамі давялося ў асноўным мне. Да помніка Янку Купалу ўлады нас не пусьцілі, спасылаліся на тое, што ў гэты дзень пляцоўка будзе занятая пад фальклорныя калектывы, тады мы папрасілі іншае месца для правядзеньня «Дзядоў» — сквер каля Маскоўскіх могілак. Да арганізацыі мітынгу падключыўся гарадскі адзьдзел Фонду культуры на чале з мастаком, прарэктарам тэатральна-мастацкага інстытута В. Шаранговічам, а пасярэднікам у перамовах з уладамі выступіў чамусьці парткам Акадэміі навук. Мусіць, таму, што я тады вучыўся ў асьпірантуры Інстытута літаратуры Акадэміі навук. Але і гэта не ўратавала нас ад забароны гарадскімі ўладамі мітынгу.

24 кастрычніка гарвыканкам адмовіў А. Бяляцкаму і В. Шаранговічу ў правядзеньні «Дзядоў» з фармулёўкаю «ў сувязі з адсутнасьцю ў горадзе традыцый правядзеньня Дня памяці... а таксама ў сувязі з правядзеньнем 29–30 кастрычніка ўрачыстасьцяў, прысьвечаных 70-годзьдзю ўтварэньня ВЛКСМ».

Цікавая фармулёўка, якая вельмі добра характарызавала той фантасмагарычны час. Яшчэ сьвяткаваліся «дні нараджэньня» камсамола, гэтага састарэлага аслаблага монстра. Ідэалагічная савецкая машына, загрузлая ў фармалізме, круцілася па завядзёнцы, у той час як літаральна побач нараджалася нешта новае, непрымальнае для старой улады, пакуль што, здавалася, бяскрыўднае і нешматлікае, з чым можна было лёгка справіцца і, калі спатрэбіцца, задушыць. Памятаю нашую размову зь Нілам Гілевічам, на той час сакратаром Саюза пісьменьнікаў Беларусі. Прачытаўшы «Маніфест “Тутэйшых”», дзе мы жорстка крытыкавалі «прыкарытнікаў» — прыкормленых уладамі пісьменьнікаў, а таксама сацыялістычны рэалізм як асноўны творчы метад у літаратуры, паслухаўшы нашую крытыку ўладаў за іхнія адносіны да беларускай мовы і культуры, ён папярэджваў мяне і Анатоля Сыса: «А вы ведаеце, зь якой сілай вы сабраліся змагацца? Вы ведаеце, што за імі стаіць і кампартыя, і КДБ, і войска — уся сістэма?» Але мы не збаяліся. Мы «адвязаліся». Было перакананьне, што робім сапраўдную справу, а далей — што будзе, тое і будзе.

Увогуле, праглядаючы нашыя тагачасныя заявы, скаргі, просьбы, пратэсты, напісаныя за месяц падрыхтоўкі «Дзядоў-88», атрымліваю задавальненьне ад таго, наколькі грунтоўна мы, зусім нявопытныя ў гэтай справе, падышлі да спробы атрымаць афіцыйны дазвол на правядзеньне «Дзядоў». Мы адчайна прадзіраліся празь бюракратычную машыну, б'ючы ва ўсе званы. Пасьля афіцыйнай адмовы адышоў ад арганізацыі «Дзядоў» гарадскі Фонд культуры з В. Шаранговічам, але мы вырашылі працягваць падрыхтоўку «Дзядоў» далей. З аднаго боку — дабівацца афіцыйнага дазволу на правядзеньне сьвята: напісалі скаргу ў Савет Міністраў БССР, даслалі тэлеграму ў Маскву; з другога боку — ухітрыліся адбіць на нейкай інстытуцкай памнажальнай машыне дванаццаць тысячаў абвестак з заклікам прыйсьці на «Дзяды» і заклеілі імі менскія пад'езды. На той час гэта было ноў-хаў. Я клеіў абвесткі ў пад'ездах каля ўнiверсама «Рыга» і пасьля вымушаны быў змываць плашч, спрэс заліты сьпераду сілікатным клеем, бо клеевых алоўкаў тады яшчэ не было.

Пасьля папярэджаньня, вынесенага мне пракурорам горада, стала зразумела, што ўлады не зьбіраюцца жартаваць і што магчымыя рэпрэсіі супраць арганізатараў «Дзядоў» і актывістаў. Было крыху вусьцішна, я разумеў, што гэта можа скончыцца для мяне зьняволеньнем, але адступаць нават і думкі не ўзьнікала. Было адчуваньне, што вось нарэшце прыйшла тая хвіліна, калі штосьці ў справе дэмакратызацыі ў Беларусі наўпрост залежыць ад мяне, ад маёй асабістай пазіцыі. Адступіць ці збаяцца ў такой сітуацыі было раўназначным здрадзіць усяму таму, чаму я прысьвяціў апошнія сем гадоў свайго жыцьця.

Памятаю, як насьцярожана ўспрынялі інфармацыю пра «Дзяды» некаторыя сябры Аргкамітэта БНФ «Адраджэньне», баяліся, што могуць быць затрыманыя ці зьбітыя, ніхто тады яшчэ не меў вопыту арыштаў і адсідак. На адным з паседжаньняў я падаў інфармацыю пра тое, што «Дзяды» будуць праходзіць у любым выпадку, нягледзячы на забарону ўладаў і што, як бы Аргкамітэт ні вырашыў для сябе, мы,

моладзь, будзем браць у сьвяце ўдзел. Хтосьці прамаўчаў, хтосьці асьцярожна выказаўся, што могуць быць правакацыі і, як вынік, — затрыманьні. Зянон Пазьняк рашуча сказаў, што на «Дзяды» пойдзе.

Захавалася даволі падрабязнае, зробленае мною, апісаньне ходу падрыхтоўкі правядзеньня «Дзядоў», надрукаванае ў бюлетэні «Тутэйшых», які выходзіў пад назовам «Кантроль». Захавалася старонка тэксту, набітая мной на друкавальнай машынцы сабе на памяць адразу па гарачых сьлядах пасьля «Дзядоў», а таксама прыватны ліст з апісаньнем падзеяў і сьведчаньне паэткі Тацьцяны Зіненкі, перасланае мне адразу пасьля «Дзядоў». Цікавасьць выклікае і міліцэйскі дакумент, які паказвае, якім чынам да гэтага мерапрыемства рыхталіся ўлады. Ён таксама сьведчыць пра тое, што рашэньне пра разгон «Дзядоў» прымалася на самым высокім узроўні. Гэтыя дакументы, нататкі, гістарычныя сьведчаньні свайго часу падаю ніжэй. Зь іх відавочна, што мы разумелі, якое значэньне мела правядзеньне «Дзядоў» на той час, нягледзячы на гвалтоўныя дзеяньні ўладаў, якія спрабавалі не дапусьціць правядзеньне сьвята.

Вынікі ад разгону «Дзядоў-88» аказаліся надта неспрыяльнымі для ўладаў. Разгон выклікаў адваротны эфект: замест усёпаглынальнага страху — выбух грамадскай актыўнасьці і поўнае непрыняцьце грамадскасьцю падобных паводзінаў уладаў. «Дзяды» адыгралі вялізнае значэньне для далейшага лёсу краіны, паслужылі пэўным Рубіконам, пасьля якога працэс дэмакратызацыі, дасягненьня незалежнасьці набыў незваротны характар. Сотні і тысячы людзей шукалі магчымасьць уступіць у БНФ «Адраджэньне», такім чынам выказваючы сваю грамадзянскую пазіцыю, пратэстуючы супраць гвалту ўладаў і падтрымліваючы насьпелыя перамены. Пачаўся поўнамаштабны працэс зьменаў грамадскай сьвядомасьці. «Дзяды» 1988 года былі першым штуршком, відавочным прадвесьнікам тых шматлікіх і шматлюдных грамадскіх акцыяў, мітынгаў, дэманстрацыяў, іншых падзеяў, якія скаланулі Беларусь у наступныя гады і якія ўрэшце

прывялі да незалежнасьці краіны. Упершыню на гэтых «Дзядах» быў адкрыта ўзьняты бел-чырвона-белы сьцяг.

Вынікі разгону «Дзядоў» сталіся перасьцярогай для ўладаў. Пасьля гэтага аж да 1995 года ў Беларусі хаця і былі спробы абмяжоўваць права на свабоду маніфестацыяў і сходаў, але не быў гвалтоўна разагнаны ні адзін мітынг, ні адна дэманстрацыя. Апроч усяго, пасьля 1988 года нам удалося вярнуць традыцыю адзначэньня «Дзядоў» на ўсенародны ўзровень. Пэўны час пасьля замены савецкай эсэсэсэраўскай на адносна незалежную і дэмакратычную ўладу «Дзяды» адзначаліся ў краіне як дзяржаўнае сьвята. Урэшце, арганізацыя і правядзеньне «Дзядоў» аказалася вяршыняй у грамадскай дзейнасьці Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя».

*Напісана ў 2008 годзе да 20-х угодкаў «Дзядоў».*

**«Дзяды» былі з намі. Публікацыя ў бюлетэні «Тутэйшых» «Кантроль» № 1 за сьнежань 1988 г.**

«Дзяды» былі за намі. Леташняя шуміха вакол іх[1], унутраная насьцярога, зь якою ўпершыню, без загаду зьверху, не ведаючы, чым гэта для іх скончыцца, да помніка Купалы выйшла тры сотні чалавек, спроба ачарніць «Дзяды» «папяляевымі», важкае слова «за» ў «Советской Белорусии» В. Быкава і поўная падтрымка ў «Литературной газете» А. Казловічам, які падвёў рысу: «Мероприятие носило благородный, традиционный, народный характер», — усё гэта сьведчыла, што правядзеньне і сёлетніх «Дзядоў» — за «Тутэйшымі».

Падрыхтоўка пачалася за месяц да прызначанага тэрмі-

[1] Першыя публічныя «Дзяды» былі адзначаныя дэмакратычнай беларускай моладзьдзю ды інтэлігенцыяй 30 кастрычніка 1987 года каля помніка Янку Купалу і былі прысьвечаныя 50-й гадавіне масавых рэпрэсіяў супраць беларускіх пісьменьнікаў.

ну. 3 кастрычніка 1988 года ў Цэнтральны райвыканкам г. Менска была пададзеная заяўка такога зьместу: «Просім дазволіць Таварыству маладых літаратараў пры СП БССР "Тутэйшыя" пры садзеяньні Беларускага адзьдзяленьня Фонду культуры СССР правядзеньне гістарычна-літаратурнага беларускага сьвята Дзяды на тэрыторыі вашага раёна (у скверы Я. Купалы, каля помніка Я. Купалу).

Мэта правядзеньня: Ушанаваньне памяці продкаў (што адпавядае тысячагадовым традыцыям беларускага народа).

Тэмат выступаў і лозунгаў на плакатах: Закранаюць пытаньні гісторыі, ушаноўваюць памяць продкаў.

Час правядзеньня: 30 кастрычніка, нядзеля, 11–14 гадзін.

Прыкладная колькасьць удзельнікаў: Тысяча чалавек.

Маючы вопыт правядзеньня "Дзядоў" у 1987 годзе, просім райсавет забясьпечыць парадак у час правядзеньня мерапрыемства пры дапамозе органаў правааховы. Просім зарэгістраваць групу па падтрыманьню парадку з членаў "Тутэйшых", маючых пасьведчаньні ДНД. Просім забясьпечыць мерапрыемства сродкамі ўзмацненьня гуку.

Адказныя за правядзеньне: Бяляцкі Аляксандр Віктаравіч, Сыс Анатоль Ціханавіч (5)».

12 кастрычніка старшыня райвыканкама А. А. Мількота сабраў камісію па народнай адукацыі і культуры, якая выслухала нас і сказала, што яны ні ў якім разе не супраць, яны за такі высакародны звычай і што яго абавязкова трэба адраджаць, але ў гэты час у раёне будуць праходзіць Дні Брэсцкай вобласьці і пляцоўка перад (Янкам) Купалам будзе занятая. Мы прапанавалі іншае месца, на што нам адказалі, што там будзе дзіцячы сьпектакль і ўвогуле гэта недалёка адтуль, дзе будзе таньчыць самадзейнасьць. Тады мы прапанавалі неяк урэгуляваць графік аднаго і другога мерапрыемства ці зьмяніць час правядзеньня «Дзядоў» (перанесьці на 2 лістапада), на што нам адказалі, што гэта немагчыма.

Назаўтра мы атрымалі такую паперу: «Исполнительный комитет районного Совета народных депутатов РЕШИЛ:

1. Согласиться с предложением постоянных комиссий

районного Совета народных депутатов по народному образованию и культуре; по социалистической законности и охране общественного порядка и отказать гр-нам Беляцкому А.В. и Сысу А.Т. в проведении данного мероприятия 30 октября 1988 г. в Центральном районе г. Минска ввиду того, что с 24-30 октября 1988 г. в Центральном районе г. Минска будут проходить Дни Брестской области в рамках III Всесоюзного Фестиваля народного самодеятельного творчества. Территория сквера Я.Купалы и ряда других точек района 30 октября 1988 г. будет предоставлена для выступлений коллективов художественной самодеятельности г. Бреста и Центрального района г. Минска. Проведение 2-х подобных мероприятий, отличающихся по своей направленности, считать несовместимым.

2. Рекомендовать товариществу молодых литераторов при СП БССР "Тутэйшыя" впредь продумать вопрос о проведении праздника Дзяды, связанного с ритуалом поминовения, не у памятников культуры и местах массового отдыха минчан, а в других точках, более соответствующих подобным ритуалам.

3. Контроль за выполнением данного решения возложить на отдел внутренних дел Центрального районного Совета народных депутатов г. Минска тов. Папковского В. М.

Председатель исполкома А. Милькота.

Секретарь исполкома В. Папковский».

Пасьля гэтай адмовы мы падалі скаргу ў гарадскі выканкам, бо лічылі, што адмова парушае Закон «Аб правядзеньні мітынгаў...», і адразу ж 14 кастрычніка падалі заяўку ў Першамайскі раён на правядзеньне «Дзядоў» каля Курапатаў, мяркуючы, што праводзіць «Дзяды» трэба ля сьвятых месцаў. І калі адмовілі ля Купалы, правядзём іх там, дзе ляжаць сотні тысяч ахвяраў генацыду, дзе ніякія Дні гарадскімі ўладамі сьвяткаваць не намячалася. У адрозьненьне ад першай заяўкі, мы ўказалі, што прыкладная колькасьць удзельнікаў мітынгу-рэквіему будзе 3 тысячы чалавек.

15 кастрычніка было пасяджэньне «Тутэйшых», дзе пасьля

абмеркаваньня сітуацыі маладыя літаратары аднадушна прыйшлі да высновы: нягледзячы на тое, які будзе адказ бюракратыі, — «Дзяды» праводзіць. Ні леташні Дзень памяці, ні мітынг у Курапатах не былі дазволеныя. Менскія бюракраты робяць што хочуць, у іх хапае сумленьня не дазваляць нават спрадвечны нацыянальны абрад (некалі ж хапала калядоўшчыкаў міліцыя).

Праз два дні А. Бяляцкі сустрэўся са старшынёй гарадскога Фонду культуры В. Шаранговічам[2], якому «Дзяды», ад граху далей, «спусьціў» дэзарганізаваны І. Чыгрынавым[3] і Л. Валяевым[4] рэспубліканскі Фонд культуры. Гутарка адбылася ў парткаме Акадэміі навук у прысутнасьці сакратара М. Мулярчыка і яго намесьніка А. Кавалёва, дзе В. Шаранговіч сказаў, што ён у прынцыпе з гаркамам дамовіўся. Улады ля Курапатаў нам мітынг не дазволяць, таму Фонд прапануе правесьці «Дзяды» ля Маскоўскіх могілак.

А. Бяляцкі засумняваўся: «Як нам яны адмовілі, так і вам адмовяць».

А. Кавалёў заспакоіў: «Ничего, мы поможем».

Мы, безумоўна, пагадзіліся. Але абяцанкі-цацанкі, а 19 кастрычніка ў выканкам Першамайскага раёна г. Менска ад «Тутэйшых» пайшла наступная папера: «У дадатак да пададзенай Таварыствам заявы на правядзеньне гістарычна-літаратурнага сьвята-мітынгу “Дзяды”: Таварыства ўзгадніла месца правядзеньня “Дзядоў” з гарадскім адзьдзяленьнем Фонду культуры г. Менска і згоднае з Фондам культуры аб неабходнасьці замены месца правядзеньня сьвята-мітынгу “Дзяды”.

Просім выканкам Першамайскага раёна г. Менска даз-

---

[2] Васіль Шаранговіч — беларускі мастак, на той час прарэктар тэатральна-мастацкага інстытута.

[3] Іван Чыгрынаў — беларускі пісьменьнік, на той час старшыня рэспубліканскага Фонду культуры.

[4] Л. Валяеў — першы намесьнік старшыні Праўленьня Беларускага фонду культуры.

воліць правядзеньне “Дзядоў” каля Маскоўскіх могілак у скверы паміж апошнімі дамамі раёна і Маскоўскімі могілкамі.

Час правядзеньня: 14–17 гадзін».

Тады ж А. Бяляцкі разам з В. Шаранговічам падалі заяву ў гарвыканкам з аналагічнаю просьбаю.

Першым адказаў гарвыканкам: «Решением Мингорисполкома от 24.10.88 г. в проведении митинга 30 октября 1988 года отказано в связи с отсутствием в городе традиций проведения “Дня памяти” и изучением в настоящее время исполкомом горсовета общественного мнения по вопросу установления даты ежегодного “Дня памяти” погибших в годы Великой Октябрьской социалистической революции, Гражданской и Отечественной войн, жертвам сталинских репрессий, воинов-интернационалистов и всех тех, кто боролся за свободу Белоруссии в предшествующее время, а также в связи с проведением 29-30 октября торжеств, посвященных 70-летию образования ВЛКСМ. Секретарь исполкома Л.Н. Володькина».

Вось так. Ужо як быццам бы мы і супраць камсамола са сваімі «Дзядамі» выступаем. 70-годзьдзе ж 29-га. А калі б мы на 2-е падалі? Тыдзень, мабыць, камсамол сьвяткавалі б. Адказ гэты А. Бяляцкаму ўручылі Л. Валодзькіна і Кішкурна, доўга спрабавалі пераканаць у непахіснасьці довадаў, указаных у гэтым дакуменце, на што той упарта цьвердзіў пра незаконнасьць забароны. Калі яны зразумелі, што старшыню «Тутэйшых» не пераканаць, то паведамілі на разьвітаньне, што яго чакае гарадскі пракурор.

Адступім крыху ад гэтай папяровай тузаніны і падумаем: адкуль такі шоргат? Калі «Тутэйшых» можна «бартануць» між іншым, то В. Шаранговіч, вядомы мастак, ён жа прарэктар аднаго з самых прэстыжных менскіх інстытутаў — тэатральна-мастацкага, кіраўнік гарадскога Фонду культуры, па мерках чынавенства — «большой человек», і так беспардонна зь ім абысьціся? Але загадкі тут няма. Якраз 19-га ў

Менску быў абвешчаны «Мартыралог Беларусі»[5], грамадскае гісторыка-асьветнае таварыства памяці ахвяраў сталінізму, а таксама — Аргкамітэт Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэньне»[6]. І пакуль задаволеная інтэлігенцыя адпачывала ад сходу ў Доме кіно, апарат не спаў, думаючы, як спыніць інфармацыю пра Камітэт-58[7] і пра Камітэт Фронту. Перш ударылі па маладых — па «Талацэ». Потым — па Камітэце-58 і Фронце. Нечага антысакалоўскага[8] чакалі і ад «Дзядоў». Нельга было выпусьціць хоць нейкую праўду пра «Мартыралог» і Камітэт Фронту.

Зь іншага боку, вельмі шмат значыў гэты мітынг-рэквіем — яго дазвол ці забарона, не толькі для ўстанаўленьня традыцыі Дня памяці, але і для разьвіцьця дэмакратыі (яшчэ раз нагадаем, да гэтага часу ніводзін мітынг у Менску не быў гарвыканкамам дазволены) у нашай сталіцы. Страх чыноўнікаў, што як сьмерці баяцца рэальнае дэмакратыі, быў такі вялікі, што гарвыканкам і тыя, што стаяць за яго сьпінаю, прыйшлі да адзінай высновы: забараніць! Парушэньне зако-

---

[5] «Мартыралог Беларусі» — праваабарончая арганізацыя, якая ставіла на мэце раскрыць сталінскія злачынствы ў Беларусі, ушанаваць памяць сталінскіх рэпрэсіяў, правесьці дэсталінізацыю Беларусі. Была ўтворана 19 кастрычніка 1988 года на сходзе беларускай інтэлігенцыі ў Доме кіно.

[6] Аргкамітэт Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэньне» — першае дэмакратычнае грамадска-палітычнае ўтварэньне ў савецкай Беларусі, якое адыграла выключную ролю ў правядзеньні зьменаў ў грамадскім і палітычным жыцьці краіны ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў. Ініцыявала працэс незалежнасьці Беларусі і дэмакратызацыі ў краіне.

[7] Камітэт-58 — арганізацыйная праваабарончая група, якая выступала за абнародаваньне праўды пра сталінскі тэрор, а таксама за правядзеньне ў краіне дэмакратычных рэформаў.

[8] Маюцца на ўвазе негатыўныя паклёпніцкія публікацыі ў перыялычным друку з мэтай ачарніць вышэйзгаданыя арганізацыі ды іх дзейнасьць. Яфрэм Сакалоў — на той час першы сакратар ЦК КПБ.

ну ўладамі (фармальныя матывы не адпавядалі ўказу пра мітынгі, але не маглі ж яны сказаць, што забараняюць «Дзяды», бо хаваюць ад народа факт утварэньня «Мартыралога» і Народнага фронту) дало нам маральнае права не слухаць іх. Механізм «перакананьня» быў у руках гарвыканкама, і таму назаўтра «Тутэйшых» пацягнулі ў гарадскую пракуратуру. Там іх папярэджвалі пра тое, што ў выпадку правядзеньня мітынгу яны будуць адказваць па законе. А. Бяляцкаму выдалі на рукі афіцыйнае папярэджаньне: «Предостережение о недопустимости нарушения закона. Проверкой материала установлено, что в соответствии с законодательством БССР решением Мингорисполкома от 25.10.88 г. Вам отказано в проведении митинга-реквиема, посьвященного памяти предков (“Дзяды”). Несмотря на это, вы намереваетесь осуществить указанное мероприятие. В случае нарушения Указа Президиума Верховного Совета БССР от 4.04.88 г. Вы будете привлечены к административной ответственности.

Заместитель прокурора г. Минска мл. советник юстиции П.Н. Степанчук».

А. Бяляцкі ў сваю чаргу падаў пратэст ад імя «Тутэйшых», у якім прасіў праверыць законнасьць рашэньня гарвыканкама. Пратэст прыняў пракурор горада, але там не было подпісу (былі надрукаваныя толькі адрас і прозьвішча пратэстанта). У суботу, 29-га прыйшоў ліст з пракуратуры: «В прокуратуру города Минска Вами подано заявление, в котором оспариваются действия Мингорисполкома. Указанное заявление не подписано, а поэтому, в соответствии с действующим законодательством, рассмотрению не подлежит». І гэта нягледзячы на тое, што мы прасілі як мага хутчэй разглядзець пратэст, каб прадухіліць магчымыя ўскладненьні.

Пасьля адмовы ў гарвыканкаме 26 кастрычніка мы падалі скаргу ў Савет Міністраў БССР: «Мінскім гарадскім выканкамам разгледжана заява Таварыства маладых літаратараў пры СП БССР “Тутэйшыя” і гарадскога Фонду культуры на прадмет правядзеньня 30 кастрычніка ў г. Мінску Дня памяці продкаў мітынгу-рэквіема “Дзяды”. У парушэньне

Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР "Аб парадку і правядзеньні збораў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і дэманстрацыяў у СССР" ад 28 ліпеня 1988 г. гарвыканкам адмовіў нам у правядзеньні старажытнага фальклорнага, маючага тысячагадовыя традыцыі, Дня памяці, акрамя ўсяго парушыўшы натуральнае права нашай нацыі. Рашэньне Мінскага гарвыканкама не засноўваецца на Указе "Аб парадку...", такім чынам, не мае пад сабою сілу гэтага Указа.

Для папярэджаньня магчымых ускладненьняў паміж народам і ўладамі, а таксама магчымых правакацыяў з боку экстрэмісцкіх элементаў (людзям на "Дзяды" прыйсьці не забароніш), просім у самы кароткі тэрмін разглядзець пытаньне і прыняць законнае справядлівае рашэньне, не дапусьціць падаўленьня нацыянальнай культуры, пазьбегнуць усесаюзнага скандалу (на "Дзядах" будуць прадстаўнікі ўсесаюзнай прэсы)».

Тады ж, 26 кастрычніка, была адбітая тэлеграма ў Маскву: «Москва, Старая площадь, ЦК КПСС, члену Политбюро Медведеву, члену Политбюро Чебрикову. Власти города Минска запрещают проведение 30 октября Дня поминовения предков "Дзяды", посягая этим на белорусскую народную традицию. Допустимо ли использование Указа от 28 июля о митингах для подавления национальной культуры?»

У горадзе ў гэты час адміністрацыяй розных рангаў па загаду праводзіліся масавыя папераджальныя гутаркі на заводах, у інстытутах, паўсюль, куды магло дапяць слова афіцыйнага прапагандыста. У адказ на гэтую кампанію стыхійна за падрыхтоўку «Дзядоў» узялася ўся прагрэсіўная гарадская моладзь. Такім чынам, справа «Дзядоў» стала ўжо не толькі справай «Тутэйшых». Ля тэатральна-мастацкага інстытута запрашэньне на Дзень Памяці вывешваў студэнт гэтага інстытута воін-інтэрнацыяліст А. Пушкін[9]. Ён быў затрыманы міліцыяй і паводле Указа «Аб правядзеньні

[9] Алесь Пушкін — беларускі мастак.

мітынгаў...» (закон што дышла...) яму выпісалі пяць сутак арышту і пасадзілі да крымінальнікаў. Да Анатоля Сыса прыставілі ягонага начальніка, які неадступна хадзіў сьледам і летапісаў кожны ягоны крок у нататнічак. Усе рыхтаваліся да нядзелі.

Пра тое, як праходзілі «Дзяды», ужо шмат пісалі газеты, была створана камісія пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР, якая не зусім удала замаскіравала праўду, зараз працуе грамадская камісія пры Аргкамітэце Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэньне», якая зьбірае ўсе матэрыялы, што «не заўважыла» камісія з мэтай стварыць аб'ектыўную карціну таго, што адбылося ля Маскоўскіх могілак.

Што меркавалі рабіць «Тутэйшыя»? Папярэдне вырашылі, што калі міліцыя будзе паводзіць сябе лаяльна, «Дзяды» спакойна правядзем, а адказным, якіх аштрафуюць, зьбярэм грошы. Турбаваліся толькі за правакацыі, і ўсе былі папярэджаныя — ні ў якім выпадку ў бойку не ўступаць, на правакацыі не адказваць. Калі ж не дадуць магчымасьці прамаўляць — ускладзем кветкі на могілках і ціха пастаім, зробім не хвіліну, а гадзіну маўчаньня.

На справе ўсё аказалася зусім не так. Яшчэ да пачатку «Дзядоў» пачаўся «хапун». Людзі ў цывільным тыцкалі пальцам у мастакоў М. Купаву і А. Марачкіна, была спроба затрымаць старшыню «Мартыралога Беларусі» З. Пазьняка. Ратуючы яго, «заляцелі» адразу аж трое «тутэйшых»: В. Мартыненка[10], А. Дэбіш[11], А. Бяляцкі. Іх забралі, затое Пазьняка народ адбіў. А Бяляцкага «апрацавалі» сьлезацечным газам, з 10 сантыметраў аэразолем проста ў вочы. Ужо на Курапатах, куды дабраліся некалькі групаў, правёў «Дзяды» «тутэйшавец» І. Бабкоў[12], пасьля чаго яго таксама пасадзілі ў машыну.

---

[10] Вітаўт Мартыненка — публіцыст, журналіст.

[11] Анатоль Дэбіш — паэт.

[12] Ігар Бабкоў — пісьменьнік, філосаф.

А. Сыс вырваўся з-пад кантролю і прыбег з працы, калі ўсе ўжо разыходзіліся. Астатнія «Тутэйшыя» хадзілі рассыпаныя між народу. Бачылі, як у прастору паміж міліцыянтамі і народам нехта кінуў пластмасавую цацку-аўтамат: «Страляйце!» Бачылі, як курсанты, счапіўшыся і ціснучы людзей, білі дзяўчынак чаравікамі па лытках, а тыя крычалі. Бачылі, як у ланцугу з пластыкавымі шчытамі і каскамі нехта пасьлізнуўся, і чалавек пяць, як даміно, паваліліся адзін на аднаго. Скандавалі разам з народам: «Ван-дэ-я! Ста-лі-ні-сты!» А недзе ў суседнім будынку разьмясьціўся штаб, і высокапастаўленыя асобы аддавалі стратэгічныя ўказаньні, як разганяць «Дзяды». Ганьбаваліся не толькі мы, ганьбавалася памяць пра нашых продкаў. Міліцыянты казалі: «Мы вам вторые Курапаты устроим!», афіцэры хадзілі з ухмылкамі на тварах і адварочваліся ад аб’ектываў. Аперацыя ўдалася? «Дзяды» разагналі? І так, і не так. Усё ж па дарозе на Курапаты адбыўся масавы мітынг, на якім людзі даведаліся праўду і пра «Мартыралог», і пра Народны фронт, зразумелі, хто гамуе перабудову на Беларусі, і, можа, упершыню адчулі сябе народам.

Тых жа, каго затрымалі, павезьлі ў міліцыю, склалі пратаколы. Бяляцкаму напісалі: «Выкрикивал антисоветские лозунги». Потым зразумелі, што перабралі, пратакол перапісалі, ізноў пад подпісамі сьведкаў пайшла стандартная фармулёўка: «Участие в митинге», за якую Бяляцкі атрымаў у судзе 200 рублёў кары. Пакаралі і І. Бабкова. Судзьдзя Менскага раёна Мышкавец павучаў яго, што ён не мае права меркаваць пра Сталіна, а калі даведаўся, што І. Бабкоў антысталініст, заляпіў яму ўсе 200 р. Вось такія вынікі «Дзядоў». Камісія Прэзыдыума Вярхоўнага Савета сьцьвярджае, што «адказнасьць за ўзьнікненьне канфрантацыі з органамі ўлады» нясуць «Тутэйшыя» і што «дакументальныя сьведчаньні, якія мае камісія (лозунгі, лістоўкі, заклікі і да т. п.), пацьвярджаюць, што, наперакор афіцыйным заявам, некаторыя арганізатары мітынгу мелі намер выкарыстаць яго для ажыцьцяўленьня мэт, якія не маюць нічога агульнага з ры-

туалам памінаньня продкаў». Зацікавіліся гэтым і мы, бо самі ніякіх адносінаў да «дакументальных сьведчаньняў» не мелі. Распыталі, аказалася, лозунгі былі прысьвечаныя К. Каліноўскаму, сталінскім ахвярам, «Дзядам», «Мартыралогу» і Фронту («Мы за Фронт!»). А лістоўкі аказаліся лістамі для подпісаў супраць недэмакратычнага закона пра дэманстрацыі.

У рэспубліцы разгон мітынгу спусьцілі на тармазах. Пазіцыя, занятая кіраўніцтвам горада і кіраўніцтвам рэспублікі на прадмет правядзеньня «Дзядоў», паказала іх поўную некампетэнтнасьць і боязь народнай ініцыятывы. Сходы Саюза пісьменьнікаў Беларусі, Саюза мастакоў, кінематаграфісты, тэатр Купалы, шматлікія грамадзяне, працоўныя калектывы выказалі сваё абурэньне з прычыны забароны і разгону «Дзядоў». Пайшлі шматлікія лісты ў Маскву. Ды што Масква! Там сваіх спраў хапае.

Яшчэ паўгода таму, 15 мая 1988 года, на гадавой нарадзе Таварыства маладых літаратараў пры СП БССР «Тутэйшыя» ў адкрытым лісьце да XIX партканферэнцыі было ўказана: «Досьвед мінулых гадоў паказаў, што кіраўніцтва рэспублікі падыходзіць да вырашэньня палітычных, сацыяльна-эканамічных і культурных праблем зь бюракратычна-адміністрацыйных пазіцый. У сувязі з гэтым нарада выказвае незадаволенасьць дзейнасьцю кіраўніцтва рэспублікі ў асобе першага сакратара ЦК КПБ Я. Я. Сакалова, сакратара ЦК КПБ В. А. Пячэньнікава, загадчыка адзьдзела агітацыі і прапаганды ЦК КПБ С. Я. Паўлава і сумняваецца, ці зможа і захоча кіраўніцтва рэспублікі кардынальна зьмяніць цяперашні стан спраў».

Пасьля «Дзядоў», пасьля маўклівай згоды на пабудову Віцебскай атамнай электрастанцыі, пасьля разьятранага цкаваньня «Мартыралогу» і Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэньне», «Талакі» і ўсіх без выключэньня патрыятычных суполак, пасьля спробаў пасеяць недавер паміж творчай інтэлігенцыяй рэспублікі і рабочым класам усялякія сумненьні зьніклі, мабыць, не толькі ў нас.

*Сьнежань 1988 г.*

### Нататка, напісаная ўвечары 30 кастрычніка 1988 года, адразу па гарачых сьлядах пасьля «Дзядоў»

Апісваю сёньняшні бурны дзень, 30 кастрычніка 1988 года, калі ТМЛ «Тутэйшыя» выращыла правесьці «Дзяды». Аб тым, як нам іх не дазвалялі, — гэта асобная гісторыя. Сёньня я паехаў туды, да Маскоўскіх могілак а 12 гадзіне[1], бо спадзяваўся наладзіць хоць якую сувязь зь міліцыянтамі, каб яны далі нам магчымасьць правесьці мітынг. Ля сквера[2] віселі дзьве шыльды з абвесткамі аб кары пра парушэньні закона. Народу яшчэ не было. Дзьмуў халодны вецер. Я трохі прыпазьніўся і парушыў да сквера. Ля апошняга дома сустрэў Палачанаў[3] і Пінцэта[4]. Павярнулі і пайшлі да крамы, пагрэцца. Там давалі гарбату. Я папрасіў «розового чаю», па-наску гэта ці то гарбата з ружаў, ці то ружовая гарбата. Папілі, потым выйшлі. Пацяплела.

Пачалі а першай падыходзіць паступова людзі. Я з Сушыхаю[5] пайшлі да могілак. Тоўпіліся цывільныя дружыньнікі, размахвалі рукамі, як яны будуць біць «сіцылістаў», атрымоўвалі інструктаж. Потым мы павярнуліся і пайшлі назад да крамы. Без пятнаццаці дзьве люд паваліў натоўпам. Яшчэ раней перакрылі метро, пусьцілі ў аб'езд аўтобусы, таму, як высьветлілася пазьней, частка народу спазьнілася і людзі ішлі да паловы на трэцюю. Я ўсіх папярэджваў, што а другой выходзім на пляц[6]. Потым мы пайшлі

---

[1] Мітынг-рэквіем быў прызначаны на 14 гадзін.

[2] Цяпер — сквер на скрыжаваньні праспекта Незалежнасьці і вуліцы Кастуся Каліноўскага.

[3] Сяржук Сокалаў-Воюш са сваімі прыяцелямі з Наваполацка.

[4] Адна з падпольных мянушак Вінцука Вячоркі.

[5] Галіна Суша, журналістка, актывістка моладзевага руху ў 80-х гадах.

[6] Меркавалася правядзеньне мітынгу-рэквіема на пляцоўцы ў скверы за перасячэньнем праспекта Незалежнасьці і вуліцы Кастуся Каліноўскага.

назад. Міліцыянты стоўпіліся ля перакрыжаваньня[7]. Паўз Каліноўскага стаялі аўтобусы, перамежаваныя «Волгамі», пасажыркі (аўтобусы. — ***А. Б.***) былі набітыя пад завязку міліцыянтамі, яны нават стаялі. Калі мы падышлі да перакрыжаваньня, народ, я не бачыў з-за чаго, пачаў кідацца на міліцыю. Потым я пачуў, што схапілі Купаву[8], Марачкіна[9], кідаўся Тарасаў[10], я стаў супакойваць усіх, не ведаючы, чаму народ кідаецца на міліцыю.

За перакрыжаваньнем стаяў Пазьняк[11]. Я падышоў. «Ну што, пачынаем?» — спытаўся ён. «Хадземце», — сказаў я і хацеў пайсьці на цэнтр пляца. Пазьняка абкружылі чатыры ў цывільным. Хтось схапіў аднаго і закрычаў: «Пазьняка забіраюць!» Я схапіўся за другога і зароў тое ж. У гэты момант падбег міліцыянт і пырснуў аэразолем[12] мне ў твар. Я адразу перастаў бачыць. Ірвануўся ад яго, вырваўся і трохі прабег. У гэты час міліцыянты, што стаялі побач, пачалі хапаць хлопца з магнітафонам. «У него магнитофон!» Я крыкнуў яму: «Бяжы!» Ён ірвануўся, але там яго чакалі яшчэ

[7] Скрыжаваньне прасьпекта Незалежнасьці і вуліцы Кастуся Каліноўскага.

[8] Мікола Купава — мастак, грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў грамадскага руху «Беларускі народны фронт “Адраджэньне”», адзін з актывістаў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху 70–90-х гадоў.

[9] Аляксей Марачкін — мастак, грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў грамадскага руху «Беларускі народны фронт “Адраджэньне”», адзін з актывістаў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху 70–90-х гадоў.

[10] Кастусь Тарасаў — беларускі пісьменьнік, публіцыст. На той час працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» — рупары нацыянальна-дэмакратычнай інтэлігенцыі канца 80-х — 90-х гадоў.

[11] Зянон Пазьняк — беларускі гісторык, публіцыст, грамадскі дзяяч. Адзін зь лідараў беларускага адраджэньня ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў.

[12] Супраць дэманстрантаў падчас мітынгу міліцыянты ўжывалі сьлезацечны газ.

двое. Я ўжо інстынктыўна пачаў дапамагаць, ірвануўся да іх. Мяне падхапілі ззаду і павялі. Усё. Узялі.

Я ірвануўся, але яны ўтрымлівалі мяне, ды і не зьбяжыш, бо вялі пасярэдзіне Каліноўскага, увесь народ стаяў па бакох і глядзеў. З вачэй цяклі сьлёзы, і з носа цякло таксама. Нейкі новы міліцыянт заламаў мне руку. Я ўбачыў разгублены твар Клімковіча[13] з кветкамі ў руках. Мяне папёрлі да газіка празь Ленінскі прасьпект. Там ля яго стаяў Някляеў[14] са Станютам[15]. Твары перакрыўленыя. Някляеў нешта хацеў сказаць, але было бессэнсоўна. Мяне зацягнулі ў зад машыны, дзе толькі што два крэслы і памяшчаліся. Ля машыны аказалася чамусьці Тацьцяна Зіненка[16]. Яна памахала мне. Я паспрабаваў пасьміхнуцца. Вось была, мусіць, карціна — мокры твар і скрыўленая ўхмылка. Потым мы разьвярнуліся і прыехалі на старое месца — яшчэ ж адное месца заставалася вольным. Тут мяне ўбачылі філфакаўкі[17], пазналі і паляпалі па шкле далонямі. Мяне гэта вельмі падтрымлівала. Загрузілі таго незадачлівага магнітафоншчыка, і мы паехалі. Я згадаў, што ў мяне ляжаць паперы для збору подпісаў за НФ[18] і супраць забароны мітынгу. Я прасунуў іх у шчылку, і яны разьвеяліся па асфальце. Кіроўца нешта заўважыў адзаду і разьвярнуўся. Людзі падбіралі паперкі. Калі мы пад’ехалі, засталася толькі адна. Капітан падняў яе і зноў вярнуўся, каб аддаць (начальству), і толькі потым мы рушылі ў цэнтр.

У міліцыі Першамайскага раёна ён, злы на мяне, напісаў пратакол, у якім сьцьвярджаў, што я выкрыкваў антысавец-

[13] Максім Клімковіч — беларускі пісьменьнік, сябра ТМЛ «Тутэйшыя».

[14] Уладзімір Някляеў — беларускі пісьменьнік.

[15] Аляксандр Станюта — беларускі пісьменьнік.

[16] Тацьцяна Зіненка (4 сакавіка 1960 г. — 1 лютага 2011 г.) — паэтка, сябра ТМЛ «Тутэйшыя».

[17] Студэнткі філфака БДУ Паліна Качаткова, Натальля Кавалеўская і Алена Кульбеда.

[18] Народны фронт.

кія лозунгі. Калі старлей (старшы лейтэнант) даведаўся, каго я прадстаўляю (ТМЛ, асьпірант[19]), пратакол быў перапісаны, і зноў за подпісам сьведкаў. Вось так рэчы! Скончылася тым, што мой інтэлігентны выгляд і спакойная размова з судзьдзёю абышлася толькі ў 200 р. Хаця маглі, як арганізатару, уляпіць і 15 сутак. Вочы рэжа яшчэ дасюль. Хлопцы пачалі ўжо зьбіраць грошы на штраф.

**Ліст А. Бяляцкага да Натальлі П.**

Добры дзень, Н.!

Урэшце магу спакойна напісаць табе. Учора адбыліся «Дзяды». Слушней сказаць, учора разагналі «Дзяды». Якая гэта камедыя была! Усё пачалося з таго, што калі абвясьцілі Народны Фронт, то нам афіцыйна адмовілі ў правядзеньні «Дзядоў». Мы сказалі: усё роўна праводзіць будзем. У «Вечаровым Менску» надрукавалі адмову гарвыканкама на «Дзяды». Мы раздрукавалі некалькі тысячаў паведамленьняў і расклеілі па ўсім Менску. Адзін хлопец-афганец Аляксандр Пушкін, студэнт з тэатральна-мастацкага, ляпіў абвестку вялізную каля свайго інстытута, і яго залавіў участковы. Далі пяць сутак арышту. Гэта быў першы, але не апошні пацярпелы. І вось урэшце нядзеля. Я падышоў, як арганізатар, трохі раней. А што там было! Міліцыі — дзесяць «Ікарусаў» біткам набітых. Салдатні, машынаў... Як потым сказалі — тры тысячы міліцыянтаў толькі былі сьцягнулі — з усяго Менска і наваколья. Хутка паваліў народ. Гэта ўсё было каля Маскоўскіх могілак, ужо амаль за горадам. Перакрылі «по техническим причинам» метро, пусьцілі ў абход аўтобусы. Як пералякаліся!

І вось, у дзьве дзесяць, калі ўжо хацелі пачынаць мітынг,

[19] На той час А. Бяляцкі вучыўся ў асьпірантуры Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі.

яны сталі выхопліваць людзей з натоўпу, а людзі пачалі кідацца на іх. Прычым, мабыць, яны ўжо ведалі, каго цягнуць. Схапілі мастакоў Марачкіна і Купаву, потым таго-сяго з талакоўцаў. Я стаяў каля Пазьняка. Калі яго акружылі чатыры мардавароты ў цывільным і пачалі акуратна цясьніць, я ўчапіўся ў аднаго і зароў: «Пазьняка бяруць!», чаго мне не даравалі. Падбег міліцыянт і пырснуў сьлезацечным газам у вочы. Трымаў мяне адною рукою, таму я вырваўся і пабег, і набег проста на хлопца з магнітафонам, якога «бралі» за магнітафон. Сьлёзы ў мяне цякуць, нічога не бачу, але ў запале стукнуў аднаго міліцыянта па рукох, і хлопец пабег, а яны мяне падхапілі, праўда, і хлопец далёка не ўбёг. Нас з ім разам у машыну і засадзілі. Далей я ўжо нічога не бачыў, што там рабілася. Скончылася для мяне тым, што далі 200 р. штрафу і адпусьцілі. Прыйдзе папера ў інстытут, будзе разбор, але народ настроены добра — і ў інстытуце, і ўвогуле ўся менская інтэлігенцыя. СП прыняў рэзалюцыю, у якой асуджае дзеяньні міліцыі. Як і тэатр Купалы, бо там галоўнаму рэжысэру пырснулі ў твар... Так што замнуць. Як для афіцыйнага арганізатара, 200 р. — гэта яшчэ па-боску. У інтэрнаце і інстытуце зьбіраюць грошы на «пацярпелага». Увесь Менск абураны. А далей яны пачалі «чляніць» народ на часткі (усяго было каля 10 000), без толку кідаліся ад адной часткі да другой, а ў кожнай зь іх адбыўся мітынг і нават выкінулі бела-чырвона-белы сьцяг, праўда, хапалі таго-сяго.

Народу ўвогуле набралі вельмі шмат (чалавек 100–150), а па тэлевізіі сёньня выступаў нейкі палкоўнік і казаў, што арыштавалі 6 чалавек, але толькі са мной у адной кампаніі было болей.

Карацей, «Дзяды», з аднаго боку, і не адбыліся, а з другога боку, дык і адбыліся ўсё ж такі. Пісьменьнікі пішуць наконт усіх гэтых спраў (траўлі моладзі, Фронту) ліст Гарбачову. Карацей, наступіў яўны «крызіс вярхоў». (...) Людзі страшэнна цікавяцца Фронтам, але ўся інфармацыя перакрыта, таму... У бліжэйшы час будзе агульны сход усіх твор-

чых саюзаў, дзе мала чаго прыемнага будзе сказана ў бок уладаў.

(...)

*Алесь. 1 лістапада, гадзіна ночы.*

**Заява Тацьцяны Зіненкі**

Пасьля падзеяў 30 кастрычніка, сьведкай якіх я зьяўлялася, больш за ўсё мяне абурыла мана сакратара Белсаўпрафа, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР М. І. Роша, які ў гутарцы з кар. БелТА А. Бальчэўскім на пытаньне аб прымяненьні газаў аўтарытэтна заявіў, што «газавыя балоны ў той дзень не выдаваліся... Ніводнага грама газу не зрасходавана («Звязда», 3–4 снежня 1988 года).

Ды можа ўсё, што я бачыла, — прывід?

Нечакана на Алеся Бяляцкага, які моўчкі стаяў на вуліцы Менска, з-за сьпіны наляцелі два асілкі, адзін зь якіх спрытна пырснуў хлопцу ў твар газам з даволі прыгожанькага балончыка. Вочы ў Алеся заслаліся сьлязьмі... Вядома, не таму, што ён вырашыў заплакаць. І ў той жа момант яго пацягнулі ў машыну... Пры гэтым парвалі рукаў новага сіняга паліто...

Скамянеўшы ад убачанага, я пайшла сьледам да машыны... Алесь — мой сябар, і я зусім не намервалася аддаваць яго ў нечыя рукі... Я папрасіла ў другіх хлопцаў у форме паказаць дакументы і растлумачыць народу: «За што ўзялі?» Толькі мае парываньні былі марнымі. Яны груба адпіхнулі мяне...

Побач са мной, як я потым заўважыла, былі Уладзімір Някляеў і Алесь Станюта.

*Т. Зіненка, г. Барысаў.*

## Адкрыты ліст «Тутэйшых»

*Прэзідыуму Вярхоўнага Савета БССР, Саюзу пісьменьнікаў БССР, Грамадскай камісіі па вывучэньні абставінаў, зьвязаных з забаронаю «Дзядоў» і разгонам мітынгу-рэквіема, «Чырвонай Зьмене», «Літаратуры і мастацтву», «Советской Белоруссии», «Знамени Юности».*

Таварыства маладых літаратараў пры СП БССР «Тутэйшыя» на сваім пасяджэньні 17 лістапада 1988 г. уважліва разглядзела Пастанову Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР «Об итогах изучениях обстоятельств, связанных с запрещением проведения и прекращением митинга в г. Минске 30 октября 1988 года», апублікаваную 17.XI.88 у газеце «Советская Белоруссия», дзе паведамляецца пра вынікі работы камісіі, утворанай Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 4 лістапада 1988 года (дакладчык т. Смірноў Ю. П.), і прыйшло да наступных высноваў:

1. Ліч*ы*ць паводзіны арганізатараў мітынгу справядлівымі, надалей праводзіць штогадова Дзень памяці продкаў «Дзяды» разам зь іншымі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі. Патрабаваць ад уладаў кампетэнтнасьці ў пытаньнях нацыянальнае гісторыі, культуры і традыцыяў, а таксама зацікаўленасьці ў дэмакратычным разьвіцьці гэтых традыцый, павагі да пачуцьцяў і здаровых несанкцыянаваных ініцыятываў народа. Толькі на такой аснове і магчымы і неабходны дыялог паміж уладамі і народам.

2. Ліч*ы*ць забарону гарадскімі ўладамі мітынгу-рэквіема «Дзяды» незаконнаю, бо матывы забароны (адсутнасьць традыцыяў, сьвяточныя гуляньні, Дні Брэсцкай вобласьці) не зьяўляюцца юрыдычна абаснаванымі.

Лічыць забарону мітынгу памяці продкаў з боку гарадскіх уладаў прынцыповым нежаданьнем лічыцца з народнымі ініцыятывамі, бо яшчэ ні адзін з падобных мітынгаў, арганi-

заваных з высакароднымі мэтамі (Верхні горад[1], Курапаты[2], Дзяды-87, Дзяды-88) не быў дазволены ўладамі г. Менска.

3. Асудзіць кампанію запалохваньня, калектыўнага і персанальнага папярэджваньня людзей, разгорнутую ўладамі напярэдадні «Дзядоў».

4. Прызнаць, што органы аховы парадку перавысілі свае паўнамоцтвы, ужываючы сьлезацечны газ, метады фізічнага ўзьдзеяньня, запалохваньне дубінкамі і вадамётамі, абражаючы прысутных бруднаю лаянкаю, уносячы ў зусім спакойныя паводзіны людзей нервознасьць, правакуючы масавыя беспарадкі.

Прызнаць органы УУС Мінгарвыканкама вінаватымі ў зрыве важнага патрыятычнага мерапрыемства.

5. Асудзіць аднабаковыя і некампетэнтныя выступленьні ў друку, якія маюць на мэце дыскрэдытаваць мітынг і ягоных арганізатараў ды абяліць вінаватых. «Тутэйшыя» адзначаюць ананімнасьць дырэктыўнага артыкула «На словах і на справе», невядомасьць Ю. П. Сьмірнова (ні на тэлебачаньні, ні ў друку не прадстаўленыя пасада і род заняткаў гэтага дэпутата Вярхоўнага Савета).

«Тутэйшыя» асуджаюць дэзынфармацыю на старонках газетаў «Комсомольская правда» і «На страже Октября», дзе сьцьвярджалася, што падчас мітынгу выкрыквалі антысавецкія лозунгі, і сьцьвярджаюць, што гэта абсурдная хлусьня. Мітынг па дарозе ў Курапаты праходзіў у поўнай адпаведнасьці з патрабаваньнямі Канстытуцыі БССР.

«Тутэйшыя» выказваюць пратэст супраць выкарыстаньня ў афіцыйных газетных паведамленьнях пра склад камісіі Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР імя народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі, які высноваў камісіі не падпісваў.

---

[1] Ці не першы мітынг у новай гісторыі Беларусі, праведзены прадстаўнікамі беларускіх моладзевых арганізацыяў («Талака», «Тутэйшыя» ды інш.) у абарону Верхняга горада ў 1987 г.

[2] Антысталінскі мітынг і дэманстрацыя 19 чэрвеня 1988 г.

6. Прызнаць плакаты і лозунгі з падтрымкаю Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэньне», таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралога Беларусі», якія былі падрыхтаваныя людзьмі да мітынгу, — адпаведнымі тэме і парадку «Дзядоў», бо:

а) мэты «Мартыралога Беларусі» і БНФ «Адраджэньне» ўключаюць у сябе, між іншым, адзначэньне Дня памяці продкаў;

б) ТМЛ «Тутэйшыя», арганізатар мітынгу, падтрымлівае мэты і задачы «Мартыралога Беларусі» і БНФ «Адраджэньне».

7. Лічыць выкарыстаньне людзьмі на мітынгу-рэквіеме старажытнай беларускай сімволікі (герба «Пагоня» і бела-чырвона-белага сьцяга) правамерным.

8. Зьвярнуцца да гасьцей мітынгу з Масквы, Прыбалтыкі, Украіны з прабачэньнем за разгон мітынгу, за незаконныя паводзіны праваахоўных органаў і за абразы, нанесеныя ім у рэспубліканскім друку.

Падтрымаць работу Грамадскай камісіі па вывучэньню абставінаў, зьвязаных з забаронаю «Дзядоў» і разгонам мітынгу-рэквіема, створанай пры Народным фронце «Адраджэньне». Патрабаваць пакараньня віноўных.

### Гэта наш набытак

*Пасьляслоўе*

У кастрычніку 1986 года я вярнуўся з войска, у якім адбыў паўтара года. Служыў на Урале, звольніўся радавым, не застаўся на афіцэрскія курсы, бо настальгія ледзь не заела мяне. Калі прыехаў у Менск, дык адчуваў сябе шчасьлівым і перапоўненым энергіяй. У Менску я кінуўся ў вір беларускага грамадскага жыцьця з галавой, хадзіў на «Талаку» — нефармальнае аб’яднаньне актыўнай беларускай моладзі, сустракаўся са сваімі сябрамі, тады яшчэ мала каму вядомымі пісьменьнікамі, гісторыкамі, мастакамі, насычаўся

інфармацыяй, агітаваў пацыху, дыскутаваў у больш вузкім падпольным коле. У канцы восені нарадзілася ў нас ідэя стварыць суполку маладых беларускіх літаратараў. Штосьці такое вісела ў паветры, падштурхоўвала і змушала нас варушыцца і дзеіць.

За некалькі месяцаў «Тутэйшыя» згуртавалі творчую пішучую беларускую моладзь — больш за 100 маладых празаікаў, паэтаў, крытыкаў. Як напісаў колішні актыўны тутэйшавец, доктар філалагічных навук, пісьменьнік і драматург Сяргей Кавалёў, які выкладае сёньня ва ўнівэрсітэтах Любліна і Менска, — «Тутэйшыя» аб'ядналі маладых літаратараў «зь вельмі падобнымі нацыянальна-адраджэнскімі ідэаламі і грамадска-палітычнымі перакананьнямі».

1987 год быў багатым на падзеі. Беларуская нацыянальна сьвядомая моладзь ладзіла разнастайныя выправы, талокі, сустрэчы, дыскусіі, вечарыны. Мы шчыравалі як апантаныя, і зямля круцілася пад нашымі нагамі. Моладзевыя нефармальныя суполкі расьлі па ўсёй Беларусі як грыбы. На супольных сходах у Менску, у Полацку мы пачуваліся вялікай братняй грамадой. Было адчуваньне, што нараджаецца штосьці вялікае і масавае ў параўнаньні зь першай паловай 80-х гадоў, калі ўсе сьвядомыя беларусы ведалі адно аднаго ў твар.

А можа, гэта толькі мае асабістыя суб'ектыўныя ўспаміны? Можа, гэта толькі ўяўлялася мне масавым рухам?

Было, што мы з энтузіязмам дыскутавалі з камуністычнымі і камсамольскімі прапагандыстамі па пытаньнях беларускай гісторыі, нацыянальнай сімволікі, а калі адна зь дзяўчын-актывістак адважна і патаемна вывесіла над гмахам тэатра оперы і балета бел-чырвона-белы сьцяг, дык ён правісеў там тры дні. Ані міліцыя, ані пільныя грамадзяне з партбілетамі ў кішэні не зьвярталі на яго ўвагу, бо, відаць, не ведалі, чый гэта сьцяг і што ён сімвалізаваў.

У шэрагу размаітых акцыяў ды імпрэзаў крыху асобна стаялі «Дзяды». Старажытнае беларускае сьвята памінаньня продкаў аказалася літаральна насычаным сімвалічным пад-

тэкстам. Камуністы дзесяцігодзьдзямі змагаліся зь «Дзядамі» як з праяваю рэлігійнасьці і забабонаў. Мы ж вырашылі адрадзіць «Дзяды» і абвяшчалі такім чынам, што памяць пра продкаў, пра беларускую гісторыю, якую так пасьлядоўна і з такой нянавісьцю выбівала з галоваў беларускіх савецкая ўлада, грукае нам у сэрца.

А як жа ж ім не хацелася згадваць гэтую гісторыю! Там усё было заліта сьлязьмі і крывёю іхніх ахвяраў. Бо там жа было раскулачваньне і масавыя рэпрэсіі. Там было антыбальшавіцкае паўстаньне случакоў у 1920 годзе, якія, як у іх было напісана на сьцягу, «ішлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына». Вось жа, савецкія ўлады старанна хавалі сваю страшную спадчыну — праўду пра крывавы тэрор.

Адраджаючы «Дзяды», мы зьвярталіся да славутай мінуўшчыны беларусаў, утаптанай у бруд. Мы шукалі ў ёй духоўнае і маральнае апірышча, мы шукалі сапраўдную, не бутафорную Беларусь. Як наш геніяльны зямляк Адам Міцкевіч у сваёй паэме «Дзяды» клікаў містычны дух продкаў і заклікаў праз яго адрадзіць гонар, славу і магутнасьць беларусаў-ліцьвінаў, што палеглі ў магілах і курганах пад ціскам ворагаў, так і мы жадалі аднавіць велічнае сьвята беларускай гістарычнай памяці і высока ўзьняць з запусьценьня і паняверкі беларускі гонар і годнасьць.

Нездарма асноўнаю тэмаю першых «Дзядоў» у 1987 годзе былі сталінскія рэпрэсіі. Мы праводзілі гэтае сьвята ў цэнтры Менска каля помніка Янку Купалу, роўна праз 50 гадоў пасьля масавых расстрэлаў сталіністамі беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. Сабралася на «Дзяды» пару сотняў чалавек. Тады я быў вельмі задаволены — гэта было нечакана шмат...

Неўзабаве, у сьнежні 1987 года, моладзевыя нефармальныя арганізацыі сабраліся на Вальны сойм, дзе абмеркавалі і прынялі першую ў Беларусі праграму дэмакратычных пераўтварэньняў. За мэту яны мелі здабыцьцё дзяржаўнай незалежнасьці, пабудову рынкавай эканомікі, беларускага войска, дзяржаўнасьці беларускай мовы. Арганізатарамі Вальнага сойму выступілі «Талака», «Тутэйшыя» і «Сьвітанак».

Што гэта было? Юнацкія максімалісцкія мары і летуценьні ці рэальная праграма і план дзейнасьці? У той неверагодна сьціснуты час першае хутка станавілася другім.

1988 год быў яшчэ больш імклівы і наэлектрызаваны. Трэсла ўвесь Савецкі Саюз. Пад ціскам грамадскасьці камуністы вымушаныя былі абвясьціць шматпартыйнасьць, плюралізм думак і магчымасьці для існаваньня незалежнай прэсы. У нашых суседзяў-прыбалтаў ледзь не адкрыта казалі пра незалежнасьць, у Эстоніі стварыўся першы Народны фронт. Да ўтварэньня масавых незалежных рухаў няўхільна ішлі Латвія і Літва.

19 кастрычніка 1988 года быў праведзены ўстаноўчы сход Беларускага народнага фронту. Гэтая падзея ўзьняла градус напружанасьці і чаканьняў у беларускім грамадстве, якое пакуль што глуха і сьцішана бурліла. Мы, нягледзячы на розныя перашкоды і клопаты, упарта рыхтавалі наступныя «Дзяды». У Інстытуце літаратуры Акадэміі навук, у асьпірантуры якога я тады вучыўся, мяне пагражалі выключыць з вучобы, у гарадской пракуратуры абяцалі пасадзіць, мая жонка настаўнічала ў Калінкавіцкім раёне, была цяжарная, але нішто не магло змусіць мяне спыніцца.

Двойчы ў жыцьці мяне ахоплівала такое адчуваньне, калі да пэўнага моманту цябе трымаюць у абдымках розныя турботы, калі ты разумееш, што ёсьць яшчэ час адступіць, але ўсё роўна ідзеш наперад у спадзяваньні, што ўсе клопаты неяк расьсеюцца самі па сабе. А потым надыходзіць такі момант, калі гэтыя клопаты нечакана разрастаюцца і паўстаюць перад табой сьцяною, мурам. І ты адкідваеш усе сумненьні, табе робіцца абыякава, абыдзецца яно ці не. Тваё «я» становіцца паслухмянай прыладаю невядомай волі, якая спала ў табе і прачнулася, якая сталёвай рукою кіруе тваімі ўчынкамі і дзеяньнямі.

Першы раз я адчуў гэты стан за некалькі дзён перад «Дзядамі» ў 1988 годзе, а другі раз — перад маім арыштам у жніўні 2011 года.

Дык вось тады я баяўся толькі аднаго — «заваліць» пра-

вядзеньне «Дзядоў». Прыйдуць людзі ці не? Пераадолеюць страх, які ўзгадоўваўся ў пакаленьнях, ці асьцерагуцца? Вось у чым было галоўнае пытаньне і загадка, інтрыга тых «Дзядоў».

Ёсьць некалькі дзён у маім жыцьці, якія, здаецца, адбіліся ў памяці навечна. І гэты хрумст ранішняга восеньскага лядка пад нагамі, і рудое падмерзлае кляновае лісьце на клумбах, і трывожнае чаканьне невядомасьці, і ціхая радасьць ад плыні людскіх ручаінаў, якія зьліваліся ў шматтысячную грамаду, і яркія плямы букетаў у руках людзей. Гэтага не забуду ніколі.

Побач, на Маскоўскіх могілках ляжаў у «пісьменьніцкім сектары» геніяльны Уладзімір Караткевіч, які верыў у беларусаў і ўсё жыцьцё засяваў беларускі палетак думкамі і марамі пра волю і годнасьць, але не дажыў некалькі гадоў да таго, каб убачыць народ, які сабраўся на «Дзяды», той народ, да якога ён зьвяртаўся: «Ёсьць у вас, як і ў іншых, сьвятыні! Не давайце сьвятыні псам!» Памятаю яшчэ адное пачуцьцё — страшэнную трывогу, бо адразу пачаліся арышты арганізатараў і вядомых людзей. А потым затрымалі мяне, і было адчуваньне безнадзейнасьці і катастрофы, якое ахапіла тады.

Адбылося тое, чаго я так баяўся, толькі ўсё неяк наадварот. Людзей прыйшло шмат. Столькі, колькі ніхто не чакаў. Але я быў ізаляваны ад тых людзей. Вось дык арганізатар! А я ж павінен быў там быць!

Чалавек схільны перабольшваць свае беды і памыляцца ў ацэнках падзеяў, калі ён не валодае дастатковай інфармацыяй. Вось так у той момант у сваіх пачуцьцях і ацэнках памыляўся і я. Ды што там я. Сур'ёзна памылілася і тагачаснае кіраўніцтва БССР, якое абрала варыянт брутальнага разгону «Дзядоў», якое не ўбачыла, што за «Тутэйшымі» і «Талакой» стаіць народ.

Разгон мірнага шэсьця, арышты, сьлезацечны газ, дубінкі — усё гэта было для грамадства як удар маланкі. Нечаканая дэманстрацыя гвалту выклікала ў людзей зусім

не паніку і страх, а незвычайную актыўнасьць і супраціў, што ўзьняліся як цунамі, якое немагчыма было спыніць.

Няспынная і ўзрастаючая актыўнасьць грамадства ўрэшце прывяла нас і нашую Беларусь да незалежнасьці. Хоць і не такой, пра якую мы марылі тады, пры якой я цяпер знаходжуся на зоне. Вось жа, злы жарт, у які ніколі б не павераў тады. Сяджу ў турме ў незалежнай Беларусі. Ды жыцьцё немагчыма прадбачыць і прадугадаць. Яно заўсёды больш нечаканае і наравістае за твае ўяўленьні. Як казаў адзін з герояў рамана Фёдара Дастаеўскага «Прыніжаныя і зьняважаныя» Маслабоеў: «Усё можа з чалавекам здарыцца, нават тое, што і не сьнілася яму ніколі». Гэты раман я знайшоў на паліцы сярод дэтэктываў і фантастыкі ў агульным пакоі ў атрадзе і зараз перачытваю.

Я дасюль не магу дакладна і пэўна адказаць, чаму ў 1988 годзе людзі прыйшлі на «Дзяды». Мабыць, супалі нейкія нябачныя энергетычныя хвалі арганізатараў і тых, хто адгукнуўся на заклік і прыйшоў, каб выказаць сваю нязгоду і сваю веру, што назапасілася ў кожным. Немагчыма было ўжо трымаць у сабе тое пякучае жаданьне «людзьмі звацца», і яно вырвалася вонкі. Далёка не заўсёды ў арганізатараў і актывістаў усё атрымліваецца так суладна. Масавыя акцыі значна часьцей бываюць правальнымі, чым удалымі.

Мяне цешыць, што арганізацыяй тых «Дзядоў» займаліся маладыя беларускія пісьменьнікі. Хто больш актыўна, хто менш, але «Тутэйшыя» падтрымалі правядзеньне «Дзядоў». І гэта ўжо заўсёды будзе нашым набыткам. Як рух філаматаў зьвязаны з імёнамі Адама Міцкевіча і Тамаша Зана, як паўстаньне 1831 года — зь імем Адама Рыпінскага, як паўстаньне 1863 года — з Кастусём Каліноўскім і Францішкам Багушэвічам, як падзеі 1905 года — зь Якубам Коласам і Алесем Гаруном, як «Наша Ніва» — з Аляксандрам Уласавым, Іванам і Антонам Луцкевічамі, як дзейнасьць БНР — з Вацлавам Ластоўскім і Янкам Купалам, вось так і пачатак беларускай вясны ў другой палове 80-х гадоў цяпер назаўсёды будзе зьвязаны з «Тутэйшымі». І не так істотна,

што хтосьці з нас не вытрымаў далейшага жыцьцёвага марафону даўжынёй у 25 гадоў, адышоў, ці, як тут у нас на зоне кажуць, «апусьціў грыву», паддаўся ціску ці розным жыцьцёвым абставінам. Важна тое, што ў той вырашальны і адказны момант мы былі аднадушныя і ўсе заадно. Важна тое, што мы не збаяліся, бо я ведаю: ад баязьлівасьці да подласьці — адзін крок.

Для мяне таксама важна, што на тых «Дзядах» быў Уладзімір Някляеў, які праз 22 гады ішоў ды не дайшоў на сваю Галгофу.

Беларускія пісьменьнікі ад самага пачатку кшталтаваньня беларускай нацыі былі разам з народам, у першых яго шэрагах. Мяркую, што так яно будзе і далей. Бо выбар мовы творчасьці амаль заўсёды быў у нас адначасова і выбарам грамадзянскай пазіцыі творцы.

Пасьля «Дзядоў» 1988 года маё жыцьцё складаецца такім чынам, што ўвесь час даводзіцца глядзець наперад. Я імкнуся штосьці запомніць з таго шэрагу падзеяў, якія праходзяць каля мяне, у якіх я сам удзельнічаю, якія застаюцца па-за мной, занатаваць уражаньні, запісаць дэталі, але не пасьпяваю. Бесьперапынна накочваецца, надыходзіць штосьці новае, якое забірае ўсю энергію і ўвагу.

Гэта нагадвае мне пасьпешлівае пакіданьне жытла, калі зусім няма часу падумаць, што варта ўзяць з сабой, і ты хапаеш першае, што трапляе пад руку, ды яшчэ нейкая незразумелая дробязь аказваецца ў тваёй торбе і кішэнях. І ўсё. А пра сапраўды важнае і каштоўнае, што засталося там, назаўсёды, можна толькі шкадаваць. Праходзіць нейкі час, і ўцёкі з чарговага перыяду твайго жыцьця паўтараюцца зноў.

Часам у думках я міжволі вяртаюся туды, у кастрычнік 1988 года. Можа, гэта і быў для мяне самы значны і высокі пік, на які мусіў ускараскацца, чаго б гэта ні каштавала.

Апошнія 20 гадоў грамадскага жыцьця, калі яго разабраць на асобныя падзеі і канкрэтныя эпізоды, уяўляе сабой бясконцы ланцуг паразаў. Іх і не пералічыць. І мае ўласныя адносіны зь дзяржаваю складваліся ўсё горш і горш. «Хто не

з намі, той супраць нас». Адкуль гэты лозунг? З рымскіх часоў? Ад акупацыі Беларусі Расіяй у канцы XVIII стагодзьдзя? З грамадзянскай вайны 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя? Ці з часоў сталінскага тэрору ў 30-х гадах? А можа, ён сфармуляваны ўсімі гадамі існаваньня савецкай улады? Вымушаны сыход з пасады дырэктара Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, дзе я прапрацаваў дзевяць гадоў, шматлікія затрыманьні, суткі арышту, якіх набралася больш за месяц. Дробныя непрыемнасьці і правакацыі ўсе гэтыя гады, фізічнае адчуваньне хвалі нянавісьці і боязі з другога боку, і вось, урэшце, турма. «Хто не з намі, той супраць нас!» — навязьліва гучыць у маёй галаве апошнія 20 гадоў.

Але не загнаць мяне ў роспач. Болей я не падмануся. Я запомніў на ўсё жыцьцё, яшчэ з тых памятных «Дзядоў», што асабістая параза можа ўрэшце стацца агульнай перамогай.

Пішу гэтыя радкі і чую, як па радыё FM «Магілёў-1», якое прымаюць радыёкропкі на нашай зоне, дыктар распавядае пра Купальле, што адбылося ў Александрыі. Сабралася 60 тысячаў чалавек. Зьелі пяць тон шашлыку, выпілі дзесяць тысячаў літраў піва і столькі ж квасу. Прыязджала і сьпявала Вера Брэжнева. З гонарам было сказана. З падтэкстам — а колькі ж яшчэ было выпіта і зьедзена таго, што людзі з сабой прывезьлі! І я зь цяжкасьцю ўяўляю сабе Купальле з такою грамадою людзей. І мы ж таксама некалі ў 80-х гадах, ды і пазьней, сьвяткавалі Купальле, сьпявалі песьні, вадзілі карагоды, хадзілі па цемрыве шукаць папараць-кветку, выбіралі Купалінку, скакалі праз агонь, дзяўчаты пускалі сплеценыя з кветак вяночкі на ваду. Гэта было дзейства на ўсю ноч... Як добра, што хоць «Дзяды» пакінутыя ўладамі ў спакоі.

Ці можна казаць, што спраўдзілася пакаленьне «Тутэйшых», «Талакі»? Тых, каму цяпер у межах пяцідзесяці гадоў? У асабістым і прафесійным жыцьці, пэўна, што так. У кожнага з нас ёсьць свае назапашаныя салодкія коржыкі: кніжкі, дыскі, навуковыя ступені ды іншыя дасягненьні. Пакалень-

не «Тутэйшых» — аб'ёмная зьява ў беларускай літаратуры, якую неўзаважна не пераскочыш. Як піша доктар навук Сяргей Кавалёў, «прадстаўнікі гэтага пакаленьня вызначаюць сёньня твар беларускай літаратуры».

Салодкія коржыкі, уласныя перамогі і бар'еры, якія ўдалося адолець. Але ці дасягнулі мы самага галоўнага? Хто пераможа ў гэтай бойцы, тупая сіла ці адухоўлены інтэлект? Мы змагаемся зь ценямі і духамі мінулага, якія ў вечаровым паўзмроку вылазяць зь цёмных куткоў і запаўняюць усю прастору.

Зусім нядаўна перачытваў «Майстра і Маргарыту» М. Булгакава, гартаючы паміж працоўнымі зьменамі пажоўклыя старонкі патрапанай кнігі, ізноў жа ўзятай у агульным пакоі казармы, — гэтага адначасова і сьветла-сумнага, і змрочнага рамана пра чалавека да такой ступені загнанага ўладамі і жыцьцёвымі абставінамі ў кут, што нават саюз з д'яблам не палохае яго і ўяўляецца яму натуральным выйсьцем і крыніцаю марна шуканага ў сьвеце супакою. Чытаючы, прыпыніўся і выпісаў сабе наступнае: «Ці не зробіш ты ласку падумаць над пытаньнем: што б зрабіла твая дабрыня, каб не існавала зла, і як бы выглядала зямля, калі б зь яе зьніклі цені? Бо цені ўтвараюцца ад прадметаў і людзей».

Рызыкоўная справа займацца гістарычнай рэканструкцыяй. Але захапляльная. Яна зацягвае, як вір. А што было б, калі б у канцы XVIII стагодзьдзя Рэч Паспалітая здолела ўтрымацца? Беларусь як нацыя сфармавалася б не на пачатку XX стагодзьдзя, а на паўстагодзьдзя раней. Нашыя продкі не здолелі супрацьпаставіць сілу сіле, і ўсе спробы паўстаньняў у XIX стагодзьдзі скончыліся паразаю. У гэтым была і асноўная прычына няўдачаў БНР.

Але беларуская справа не загінула. Яна, як той неспакойны ручай, абыходзіла завалы і плаціны, торыла сабе новае зьвілістае рэчышча і прабівалася далей, наперад. За два з паловай стагодзьдзі цяжкога выжываньня ні прымус, ні гвалт не маглі яе стрымаць. І ўсё ж у Беларусі ніколі не набіралася моцы, каб беззваротна вырашыць справу на сваю карысьць.

Спрадвечная праблема ўсіх малых народаў Еўропы. Выжываньне на мяжы існаваньня. І 240 гадоў не спыняліся гэтыя спробы знайсьці свой шлях і ўтрымацца на ім.

Калі не стае сілаў, дык мусіш шукаць іншыя, асіметрычныя адказы. Хто з сур'ёзных і практычных людзей 25 гадоў таму браў у разьлік нейкі дзясятак нефармальных суполак, раскіданых па ўсёй Беларусі? Кім былі гэтыя «Тутэйшыя», «Талака», «Паходня», «Узгор'е», «Сьвітанак», у чым была іх сіла, калі на кожнага з актывістаў прыходзілася па некалькі хлопцаў у цывільным і цэлыя хмары камсамольцаў? Хто лічыўся з той жменькаю непрафесійных энтузіястаў і летуценьнікаў? Хто апроч нас саміх верыў у тое, што нам ці з нашаю дапамогаю ўдасца сьпіхнуць з наезджанай каляіны савецкую махіну? Дык ці не быў канец 80-х — пачатак 90-х гадоў усё ж нашым зорным часам? Ці абмінула нас незайздросная доля страчанага пакаленьня?

У кожнага з пакаленьняў ёсьць свае паразы і перамогі. Згадваю Вітаўтаса Ландсбергіса, Вацлава Гавэла, іншых тагачасных лідараў. Зразумела, якой была перамога іхняга пакаленьня. Яны далі нашым краінам незалежнасьць, яны вызвалілі іх ад камунізму, яны паставілі крыж на блоку сацыялістычных дзяржаваў і на Савецкім Саюзе, яны выціснулі таталітарызм за межы Еўропы. І як бы там ні было, але сьвет у гэтай частцы Еўропы непазнавальна зьмяніўся. Ён стаў іншым, наш сьвет.

Згадваючы кожнага зь іх, — а я сустракаўся зь імі і размаўляў, — я думаю, што на чалавечым узроўні іх аб'ядноўвае адная агульная рыса. Яны ў сваім жыцьці заўсёды былі аптымістамі. І ўсе часта пасьміхаліся.

Я асьцерагаюся змрочных і суровых людзей. За суровым і таямнічым выразам твару часта хаваецца звычайная пустата. Пэўна, што такія людзі не зьмяняюць гэты сьвет да лепшага. Шчырая ўсьмешка — прыкмета ўнутранай дабрыні чалавека. Выглядае, што нам усім трэба набірацца ўменьня і цярпеньня ўсьміхацца наступныя 25 гадоў. Нават калі будзе не да сьмеху...

«Дзяды-88». Хіба што гэтая старонка беларускай гісторыі і нашага жыцьця перагорнутая. Трэба ісьці далей.

*16–17 ліпеня 2013 года, Бабруйск.*

## ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ ТАМУ

Справу, якую распачыналі некалькі дзясяткаў чалавек, зараз вядуць дзясяткі тысячаў. Цяпер, калі назіраю за рознымі ініцыятывамі, групамі, аб’яднаньнямі, якія гуртуюцца ў Асамблеі НДА, я згадваю часы 80-х гадоў.

Незаўважна праляцелі тыя часы, калі мы распачыналі няўрадавую грамадскую дзейнасьць. Варта паспрабаваць напісаць пра гэта, бо падзеі зьмяняюцца так шпарка, нанізваюцца адна на адну, што шмат чаго забываецца, губляюцца дэталі, эпізоды. Я асабліва і не імкнуўся запамінаць іх, адзінае што заўсёды адчуваў плынь часу.

Даўно ўжо мінуў час, калі мы ведалі адзін аднаго ў твар, калі кожнага новага чалавека прымалі ў грамаду так, як прымалі неафітаў у раньнехрысьціянскую супольнасьць. Панавала атмасфера нявер’я ў рэальнасьць якіх-кольвек зьменаў у будучыні Беларусі: камуністычная ідэалогія як панцырам скавала цела народа, у большасьці адбіла жаданьне думаць і што-небудзь рабіць дзеля пазітыўных зьменаў. Але дзякуючы маладосьці, вялізнаму аптымізму мы рабілі што маглі.

Гуртаваньне моладзі адбывалася на падмурку антыкамунізму і нацыянальнай ідэі. Усе мы не цярпелі тагачасны камсамол, які хоць і лічыўся грамадскай арганізацыяй, але сьмярдзеў дзяржаўнай мярцьвячынай. Хлусьлівасьць і крывадушша, угодніцтва і кар’ерызм — усе заганы чалавечай натуры трэба было шукаць там. Недарма пляяда камсамоль-

чыкаў сямідзясятых–васьмідзясятых вырадзіла нам Лукашэнку. Бачыў я такіх самых у Гомельскім унівэрсітэце, дзе вучыўся з 1979 па 1984 год. Асобная каста адданых і паслухмяных хлопчыкаў і дзяўчынак, якія праз камсамол зазнавалі першы п'янкі пах улады, першую кроў. А за імі, як за маладымі ваўчанятамі ў вывадку, уважліва назірала партыйнае вока, каб пасьля самых сьлізкіх і спрытных разьмеркаваць на партыйную работу, тупаватых і больш угрызьлівых — у КДБ, растраньдзяеў — у розныя таварыствы кшталту «Ведаў», прафсаюзы і г. д.

На камсамольскую працу ішлі ў асноўным цынікі. У мяне камсамольшчына, увесь гэты пафас, савецкі псеўдапатрыятызм выклікае пачуцьцё агіды і спазмы ў страўніку. Выбачайце за натуралізм, але камсамол быў як тая вясковая прыбіральня ўлетку з усім наборам пахаў, колераў і жыўнасьці. Нармальная моладзь туды не йшла.

Нацыянальная ідэя, «беларушчына», як яе ёмка называлі адраджэнцы пачатку XX стагодзьдзя, — гэта быў другі полюс нашага жыцьця. Занядбаная, вытручаная са сьвядомасьці народа, зьняважаная, гэтая ідэя моцным магнэсам прыцягвала нас. І паступова, крок за крокам беларушчына адкрывала свае скарбы, сваё сьціплае аблічча, захоплівала і ўраж- вала сваёй праўдзівасьцю і прыгажосьцю, каб урэшце змусіць нас будаваць сваё жыцьцё ў неадрыўнай сувязі зь ёю. Кожны прыходзіў да гэтага адкрыцьця паасобку, насуперак тагачаснай плыні жыцьця, інфармацыі, ідэалогіі.

Мая першая сустрэча зь менскай моладзьдзю адбылася ўлетку 1981 года. Па запрашэньні мастака Міколы Купавы, зь якім мы выпадкова сустрэліся ў коласаўскай Мікалаеўшчыне падчас вандроўкі па Беларусі, я прыехаў у Менск. Купава на ноч разьмясьціў мяне ў майстэрні мастака Маркаўца, якая была ў зьнесеным зараз доме на вуліцы Дзімітрава, 3.

10 сьнежня 2001 года, у дзень падпісаньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, каля руінаў гэтага дома, за які летась беспасьпяхова змагалася інтэлігенцыя, Алесь Пушкін

з падтрымкі праваабарончага цэнтра «Вясна» ладзіў свой пэрфоманс. Алесь Пушкін, даўгагрывы, высокі, у падобнай на сьвятарскую суконнай сутане, як балотны пустэльнік, падпяразаны жалезным крывавым ланцугом і з прышытымі сухімі рыбкамі на плячах, чытаў ля драцянога плота, дзе былі разьвешаныя забароненыя рэжымам Лукашэнкі мастацкія творы, дэкларацыю свабоды творчасьці. А я згадваў, як дваццаць гадоў таму быў тут на другім паверсе, ляжаў на цьвёрдай канапе з адчуваньнем, што далучаюся да чагосьці значнага, таго, што можа зьмяніць усё маё наступнае жыцьцё. Я гартаў зборнік апавяданьняў Гарэцкага «Рунь», які ўзяў з паліцы Маркаўца...

У тое лета аднойчы зраніцы ў майстэрню ўвайшоў малады хударлявы, рухавы хлапец у акулярах і назваўся Вінцуком. Так я пазнаёміўся зь Вячоркам, які адвёў мяне на кватэру бацькоў, дзе ў ягоным пакойчыку чакалі нас Сяргей Запрудскі, Арына Вячорка, Сяргей Сокалаў-Воюш і дзе мы тры гадзіны запар размаўлялі пра беларушчыну.

У Менску яны ўжо дзейнічалі: працавала «Майстроўня», хадзіў па руках самвыдатаўскі часопіс «Люстрадзён», ладзіліся першыя Каляды. Яны прасявалі, як праз сіта, моладзь, шукалі тых, для каго беларушчына не была пустым гукам. Яны сьвядома размаўлялі па-беларуску, былі больш абазнаныя ў гісторыі Беларусі. Мяне яны таксама спрабавалі «прамацаць», дазнацца, чым я дыхаю, але самі надта не раскрываліся. Нашыя думкі былі блізкія: і тое, што беларуская мова мілагучная, і што наш народ нармальны, і што краіна ў нас прыгожая, і што трэба супраціўляцца русіфікацыі і адраджаць адметнае, беларускае, прапагандаваць і разьвіваць яго — усё гэта было для нас зразумелае.

«Вось толькі з гісторыяй нам не пашэньціла, — паскардзіўся я. — Каб нам хоць троху незалежнасьці ў мінулым...» Сокалаў з Запрудскім з усьмешкаю паглядзелі на мяне і прачыталі гадзінную лекцыю пра Вялікае Княства Літоўскае і БНР, пасьля чаго, памятаю, я сказаў, што ў нас ёсьць усё, каб адрадзіць Беларусь.

У Гомель я вяртаўся з задачаю згуртаваць студэнтаў, блізкіх па духу да менскай беларускай групоўкі. Я не спаў усю ноч і думаў пра тое, што ўрэшце знайшоў тых людзей, якія ведаюць, што рабіць, зь якімі мы даб'ямося зьменаў, нават калі дзеля гэтага давядзецца працаваць усё жыцьцё. І не адзін я, гэта ўсе мы добра ўяўлялі. Зараз я думаю, што тады мы слушна настройваліся на працяглую працу. Колькі народу перагарэла толькі з-за таго, што настройвалася на год-два, максімум на пяць-сем гадоў працы. Напачатку дзевяностых шмат людзей адышлі ад грамадскай дзейнасьці, бо думалі, што незваротныя зьмены ўжо адбыліся і надышоў час заняцца асабістымі справамі, мастацтвам, бізнесам, літаратурай і г. д. Яны памыляліся: прыйшоў 1994-ы, і многія зноў вярнуліся да грамадскай працы.

З тае сустрэчы ў Менску я пачаў размаўляць па-беларуску, што выклікала спачатку кепікі з боку сяброў, якія пазаканчвалі беларускамоўныя школы: «Кінь, не выдурняйся, усё адно ў цябе нічога не атрымаецца». «Саша, брось, ну какой ты Алесь, — дражніўся Толік Сыс, — у тебя же такой чистый московский акцент». Але праз два-тры месяцы ўсе й забыліся на тое, што некалі я размаўляў толькі па-расейску. Я працягваў вучыцца на беларуска-расейскім адзьдзяленьні гісторыка-філалагічнага факультэта, чытаў расейскую літаратуру, вучыў расейскую мову (і, дарэчы, даволі добра ведаў яе), але выразна ўсьведамляў, што вучу ЧУЖУЮ мову і ЧУЖУЮ літаратуру. Хай сабе і цікавую, і вялікую — але не сваю.

Ужо пазьней, у 1985 годзе, калі я ішоў у войска, мяне блаславіў беларускі пратэстанцкі сьвятар Эрык Сабіла. На разьвітаньне ён сказаў: «Ідзі і добра служы, вучыся ў гэтых Саветаў: можа, яшчэ давядзецца пaваяваць за незалежную Беларусь».

Беларуская мова была нашым адметным знакам. Адразу ж на літаратурную мову з трасянкі перайшлі Толік Сыс і Едрусь Акулін, Толік Казлоў і Сяргей Сыс, трохі пазьней яшчэ некалькі асобаў. Упершыню за доўгія гады ў Гомелі

зьявілася група моладзі, якая сьвядома размаўляла па-беларуску. А зь Менска пайшлі да нас самвыдаты ў выглядзе пераразьнятых на фотакарткі артыкулаў з заходнебеларускіх часопісаў «Шлях моладзі», «Калосьсе», «Заходняя Беларусь», разьдзелы з «Хрэстаматыі беларускай літаратуры» Гарэцкага, брашураў Доўнар-Запольскага ды Канчэўскага. Частку такіх «фотаздымкаў», зачыніўшыся ў лазенцы інтэрната кватэрнага тыпу, рабіў я сам.

Праз самвыдаты мы дэталёва вывучалі беларускую гісторыю, беларускую філасофскую думку, у самвыдатах чыталі палемічныя антыкамуністычныя артыкулы. Мы ўбачылі, што значную частку нашай нацыянальнай спадчыны камуністы хавалі ад нас. Самвыдат вельмі хутка пазбавіў нас ад комплексу нацыянальнай непаўнавартаснасьці.

У ліпені 1981 года нас, студэнтаў, адправілі на практыку ў піянерскі лагер. У Клёнках пад Гомелем, на беразе Сожа, куды за паўстагодзьдзя да таго на пленэр выязджаў драматург, рэжысёр і мастак Уладзіслаў Галубок, я ўпершыню зразумеў, наколькі ўспрымальныя да мовы сямігадовыя дзеці. Праз тыдзень мой самы малодшы атрад на загад выхавацелькі ўзяць з сабой на пляж «полотенца» дружна крычаў у адказ: «Не полотенца, а ручнікі!» Ацаніў маю работу і выхавальнік-габрэй з суседняга атрада, настаўнік матэматыкі. Некалькі разоў ён асьцярожна скардзіўся: «Правільна робіце, малады чалавек, правільна. І вам, беларусам, цяжка, і нам, габрэям, таксама. Нашыя дзеці не ведаюць ідыш, адмаўляюцца ад сваёй нацыянальнасьці, у інстытуты паступаюць адзінкі, толькі самыя падрыхтаваныя. Нас не лічаць за людзей».

У жніўні па запрашэньні Вінцука Вячоркі я паехаў на раскопкі ў Мірскі замак. Праводзіў раскопкі Ігар Чарняўскі, тады малады археолаг. Мы вялі раскопкі на дзядзінцы, а таксама пад вежамі і мурамі, аблазіўшы кожны закутак замка. Уражваў «пакой ваяра», да якога зь лёхаў быў доўгі зьвілісты праход, што выводзіў у маленькі пакойчык, літаральна метр на метр, з байніцай у цэнтральнай вежы. Най-

больш цікавымі знаходкамі былі паліхромныя кафлі з радзівілаўскім гербам — арол са шчытом на грудзях, у які былі ўпісаныя тры паляўнічыя рогі. Мы хадзілі на закінутыя татарскія, габрэйскія могілкі, залазілі ў закінуты касьцёл, у заняпалую каплічку, на праваслаўных могілках, аглядалі майстэрні мірскіх ганчароў, з доўгімі падземнымі дымаходамі ад хатняй печы ў майстэрню, рабілі шурфы на цэнтральнай плошчы Міра, пакрытай брукам у некалькі слаёў, ніжэйшы і старажытнейшы зь якіх знаходзіўся на двухметровай глыбіні. Гэта была наша беларуская гісторыя, да якой можна было дакрануцца рукамі. Аднойчы ў выходныя мы зь Вінцуком Вячоркам выехалі на роварах у Ішкалдзь, мястэчка за 15 кіламетраў ад Міра, дзе знаходзіўся гатычны касьцёл XV стагодзьдзя, з заездам у мястэчка Паланэчку, дзе былі драўляны барочны касьцёл і палац. Па дарозе Вінцук сказаў, што існуе падпольная група, якая паставіла сабе за мэту змагацца за незалежнасьць Беларусі і супраць камунізму. Ён запытаўся, ці не пагаджуся і я ўвайсьці ў групу, сябрамі якой ёсьць толькі правераныя людзі — трэба было захаваць яе ад КДБ. Я цудоўна ведаў, наколькі гэта небясьпечна. Па «Свабодзе» ўвесь час перадавалі інфармацыю пра расейскіх праваабаронцаў, пра ўкраінскіх і літоўскіх незалежнікаў, якія сядзелі ў турме. Хадзілі чуткі, што і ў Беларусі такіх групаў было шмат (на жаль, гэта было не так). Тым не менш я разумеў, якое адказнае рашэньне павінен быў прыняць у той дзень. Бо за словам «так», верагодна, таксама былі допыты ў КДБ і ўсё астатняе, што выпісвалі тады людзям, якія змагаліся з камуністычным рэжымам.

Я ўжо ведаў пра рэпрэсіі ў дачыненьні да дзядзькі Ігара — гісторыка Міхася Чарняўскага, які за некалькі гадоў перад гэтым пацярпеў «за беларушчыну». А з другога боку, я адчуваў гонар за тое, што ўва мне бачылі асобу, вартую даверу. Было адчуваньне, што я скачу ў вялікую прорву. Было страшна, але не бачыў іншага выйсьця: я разумеў, што для такой дзейнасьці мець у душы беларускасьць недастаткова — да яе трэба далучаць і ахвярнасьць. Але як можна было змагацца

за Беларусь паасобку? І калі б такой групы не было, дык раней ці пазьней я сам прапанаваў бы яе стварыць. Таму з палёгкаю сказаў: «Так». Калі я запытаўся, ці ўваходзіць у гэтую групу Ігар Чарняўскі, Вінцук адмоўна паківаў галавой. Тым не менш нас траіх на тых раскопках аб'яднала адная таямніца, пра якую сёньня ўжо можна напісаць. На замкавым дзядзінцы мы зрабілі раскоп метраў на пяць з паловай у глыбіню — шукалі мацерыковую глебу. Знайшлі яе і таксама тонкі слой цёмнай глебы з кавалкамі керамікі яшчэ бронзавага веку, на які быў зроблены насып пры пабудове Мірскага замка. Аднойчы ўвечары на беразе замкавага возера каля вогнішча мы выпілі пляшку шампанскага, а пасьля склалі і запісалі тэкст «пасланьня», своеасаблівага прысяганьня, у якім абяцалі да канца жыцьця змагацца за незалежную Беларусь і супраць камуністаў. Падпісаўшы аркуш, мы залілі яго парафінам, скруцілі ў трубку і запячаталі ў пляшцы. Позьнім вечарам у раскопе зрабілі яшчэ глыбейшую ямку, у якой схавалі пляшку з «пасланьнем», вызначылі арыенцір, каб запомніць, у якім месцы дзядзінца яна ляжыць. А пасьля дамовіліся, што сваім сынам у іхнае шаснаццацігодзьдзе перадамо гэтыя арыенціры, каб яны ведалі пра «пасланьне» і перанялі яго прынцыпы. Дарэчы, толькі ў Ігара Чарняўскага тады быў сын, які меў колькі месяцаў ад нараджэньня. Нават не ведаю, ці езьдзіў Ігар са сваім Альгердам у Мірскі замак, але ў мяне такая паездка адбудзецца праз тры гады.

Там, у раскопе, сфатаграфаваў нас Ігар Гермянчук, практыкант у газеце «Голас Радзімы». Дзіва, як яму тады ўдалося зрабіць пра нашыя раскопкі фотарэпартаж.

У адведкі да Ігара Чарняўскага прыязджаў Уладзя Арлоў. Да гэтага знаёмства я чытаў ягоныя першыя апавяданьні ў «Маладосьці» — адразу было відаць, што ў літаратуру прыйшоў яскрава таленавіты пісьменьнік. Нашае знаёмства зь ім пачалося з таго, што Уладзя выпіхнуў у каршэнь з замка нейкага п'янога хлопца-местачкоўца. Арлоў прывёз Чарняўскаму зроблены на фотаздымках самвыдат Міколы Ермало-

віча «Па сьлядах аднаго міфа». Тады ж я пазнаёміўся зь Ігаравым начальнікам — Анатолем Трусавым, які спрабаваў спалучыць беларускую работу зь сяброўствам у кампартыі. На гэты конт у іх была размова зь Вячоркам: той быў незадаволены пазіцыяй Трусава. Яны, даводзіў Анатоль, хочуць увайсьці ў партыю і там адстойваць інтарэсы беларушчыны. Але мы маем горкі досьвед дваццатых гадоў і ведаем, што ў выніку рабілі з нацыянальнымі камуністамі — Чарвяковым, Галадзедам, Ігнатоўскім. «Хутчэй партыя выкарыстае нас супраць беларускасьці, чым мы — партыю» — пярэчыў Трусаву Вячорка. Я быў зь ім згодны — прыйшоў час нонканфармізму. Я не разумеў, як можна было супрацоўнічаць з тымі, хто прыкладаў усе намаганьні, забараняў і хлусіў, каб затлуміць беларушчыну, зьнішчыць яе, перарабіць нас у савецкі народ.

На раскопках у Міры я пазнаёміўся з Генадзем Сагановічам, які прыехаў на пару дзён з групай студэнтаў-гісторыкаў. Яны ладзілі пасьвячэньне ў археолагі — сьвята зь пераапрананьнем у старажытныя строі і жартаўлівымі іспытамі. Генадзь таксама на той час ужо быў беларускамоўным.

***

У гомельскім інтэрнаце па вуліцы Кірава, дзе я жыў у адным пакоі з Толікам Казловым (цяпер ён празаік), мы зьбіралі зацікаўленых студэнтаў, ладзілі прагляд слайдаў з вандровак па гістарычных беларускіх мясьцінах, сьпявалі беларускія песьні. З маладзейшых курсаў да нас далучыліся Вольга Куртаніч (цяпер паэтка) і Ліля Плыгаўка (цяпер дэкан факультэта беларускай філалогіі ў Віленскім педагагічным унівэрсітэце). Неяк перад сном я пераконваў Казлова, шго рана ці позна Беларусь будзе незалежнай, але ён зь недаверам пярэчыў мне. Тады гэта ўяўлялася недасяжнай фантазіяй. У 1991-м, калі Беларусь сапраўды атрымала незалежнасьць, я з усьмешкаю згадваў нашыя спрэчкі. Хіба маглі мы падумаць, што пройдзе ўсяго дзесяць гадоў — і нашыя юнацкія мары зьдзейсьняцца.

Дзеля папулярызацыі беларушчыны мы шукалі асьветніцкія і культурніцкія формы. Менавіта тады, у 1981 годзе, узьнікла ідэя стварыць беларускамоўны рок-гурт — мы назвалі яго «Баскі». Музыку і словы для гурту пісаў Едрусь Акулін. Былі выступы; на ўніверсітэцкіх канцэртах, выезды на дыскатэкі ў Веткаўскі і Хойніцкі раёны, але не было ўпэўненасьці ва ўласных сілах — гурт распаўся, калі мы скончылі ўніверсітэт.

Таксама не зусім удалай была ідэя стварыць гомельскую «Майстроўню» на ўзор менскай. Мы зьбіраліся некалькі разоў, сьпявалі народныя песьні, на чым праца «Майстроўні»-2 ціха спынілася. Але гэтыя арганізацыйныя спробы прыдаліся пазьней, у другой палове 80-х. Больш пасьпяхова ішла праца ў літаратурнай творчасьці. Кожны з нас штосьці пісаў. Добра памятаю першы пачуты верш Толіка Сыса, які ён прачытаў нам зь Едрусем Акуліным. Гэта быў верш пра забітага дэльфіна, які гойдаўся на сініх марскіх хвалях, а побач зь ім гойдаліся ягоныя мазгі. Мы доўга потым сьмяяліся з гэтага аж занадта натуралістычнага сюжэту. Але вядомасьць і папулярнасьць Анатоля на факультэце была вялікай. І тое, што ён, старэйшы за нас на два курсы, пісаў па-беларуску, а потым, прыгледзеўшыся да нас, перайшоў пад нашым уплывам з трасянкі на літаратурную мову, засьцерагала нас ад некаторых праблемаў з боку русафілаў.

У 1982 годзе мы зь Едрусем пераехалі з інтэрната на Кірава ў інтэрнат кватэрнага тыпу на Савецкай, дзе ў кватэры жылі сем студэнтаў. Да нас падсялілі эканаміста і трох гісторыкаў-першакурсьнікаў. Як жа зьдзівіліся гэтыя звычайныя хлопцы з гомельскіх вёсак і мястэчак, калі мы настойліва папрасілі іх размаўляць у кватэры па-беларуску. Менавіта тады мы пераканаліся, што незалежна ад поглядаў, грамадскай актыўнасьці для нашых суграмадзянаў дастаткова аднаго дня, каб пры неабходнасьці пачаць размаўляць на роднай мове. Хутка яны і самі ўвайшлі ў смак. З гэтага часу на працягу двух гадоў 61-я кватэра ў інтэрнаце па Савецкай была своеасаблівым рассаднікам беларушчыны.

Мы зь Едрусем пайшлі яшчэ далей: даволі часта хадзілі на лекцыі ў звычайных куфайках з кірзавымі лесьнікоўскімі торбамі на баку, у вышытых беларускіх кашулях. На агульных з рускімі філолагамі і гісторыкамі лекцыях даставалі з торбаў рэзальную дошку, сала, хлеб, наразалі яго і дэманстратыўна елі, а затым сьпявалі беларускія народныя песьні. Любімай нашай песьняй была «Валы». Такім чынам мы прывучалі ў асноўным гарадскіх студэнтаў з суседніх адзьдзяленьняў да беларушчыны. Рэагавалі яны нармальна, разумеючы, што гэта ўсё, як цяпер кажуць, рабілася «па прыколу». Некаторыя гісторыкі і рускія філолагі таксама размаўлялі з намі па-беларуску. Цудоўна размаўляў па-беларуску Лёня Клімовіч з рускага адзьдзяленьня філфака, зараз вядомы па праграме «Что? Где? Когда?».

Пазьней я са зьдзіўленьнем прачытаў пра «этнаграфізм» Каруся Каганца, беларускага пісьменьніка: шляхціц па паходжаньні, ён хадзіў па Менску, адмыслова апрануты ў беларускую народную вопратку. Так жа рабілі і мы. Гэта быў своеасаблівы пратэст супраць русіфікацыі беларускага грамадства, зьнявагі з усяго беларускага.

Мы былі першымі, хто з трэцяга курса здаваў усе іспыты па-беларуску. Нават на нашым беларускім адзьдзяленьні большасьць прадметаў тады выкладалася па-расейску, таму нашая беларускамоўнасьць была пэўным выклікам выкладчыкам. Дзякуй Богу, большасьць зь іх паводзіла сябе шляхетна, некаторыя нават адкрыта падтрымлівалі і, прынамсі, не зьніжалі за мову адзнакі. Хаця і мы выдатна разумелі, што не мусім даваць нагодаў для прыніжэньня беларушчыны праз непадрыхтаванасьць. Але пэўныя канфлікты на глебе беларушчыны ўсё ж здараліся.

У канцы 1982 года ва ўнівэрсітэце адбылася канферэнцыя, прымеркаваная да выхаду кнігі гістарычных эсэ расейскага пісьменьніка У. Чывіліхіна. Погляд на расейскую гісторыю ў яго быў больш рускім, чым савецкім, што выклікала пэўнае зацікаўленьне і спрэчкі ў колах тагачаснай інтэлігенцыі. Я выпадкова патрапіў на гэтую канфэрэнцыю, хаця пра-

чытаў быў перад гэтым Чывіліхіна і нават рабіў выпіскі, дзе ён трактаваў Вялікае Княства Літоўскае як варожую для Расеі дзяржаву. Перапіска з Алегам Трусавым, ягоныя падказкі па бібліяграфіі, што да беларускай гісторыі, асобныя артыкулы М. Ермаловіча, А. Грыцкевіча, А. Мальдзіса, іншых беларускіх гісторыкаў давалі мне факталагічны грунт, каб казаць пра нашую гісторыю як пра гісторыю асобнай дзяржавы з уласнымі інтарэсамі ў мінулым.

Наколькі памятаю, размова на канфэрэнцыі ішла пра рускі патрыятызм, пра расейскую гісторыю, як быццам бы канферэнцыя адбывалася не ў Гомелі, а дзе-небудзь у Яраслаўлі. У спрэчках выступіў і я, падкрэсьліўшы, што гісторыя Расеі мангольскага перыяду — менавіта гэты перыяд у асноўным дасьледаваў У. Чывіліхін — зусім не нашая гісторыя. Што тычыцца беларускай гісторыі, то аўтар тут вельмі далёкі ад аб'ектыўнасьці. Напрыканцы я закінуў аднаму з выступоўцаў, які казаў пра «прызваных у гомельскія ваенкаматы рускіх мальчыкаў, каторыя ваююць у Афганістане, абараняючы Расію», што ў яго «штосьці з геаграфіяй не ў парадку, бо дзе ён мог знайсьці гэтых “рускіх мальчыкаў” у беларускім Гомелі». Адзіны выступ па-беларуску падтрымалі апладысментамі. Але літаральна назаўтра ва ўнiверсітэцкім калідоры мяне спыніла адна з выкладчыц расейскай мовы і пачала істэрычна даказваць, шго расейскую мову любяць нават в'етнамцы, якім яна выкладала. На ейнае пытаньне, чаму гэта я не люблю гэтай мовы, я адказаў, што мне ўсё адно, што там любяць в'етнамцы, але мяне больш турбуе лёс роднай мовы.

У гэты ж час прыязджалі да нас з Наваполацка Алег Мінкін і Вінцэсь Мудроў, якія пасьля знаёмства з намі дзівіліся, што тут, у Гомелі, ёсьць нейкае беларускае жыцьцё і ёсьць іхныя аднадумцы.

Праз пэўны час мы прыйшлі да высновы, што апроч «асьветніцкай» работы трэба было б пачынаць рабіць у Гомелі штосьці публічнае. Дзьве з такіх акцыяў прыдумаў я. Нейк, купіўшы гуашы і пэндзьлі, мы з Толікам Казловым пайшлі

ў гомельскі парк, што над Сожам, і пачалі маляваць на драўляных прыступках высокіх сходаў, пакладзеных на стромах парку, «Жыве Беларусь!». Малявалі, аж пакуль не сутыкнуліся зь міліцэйскім патрулём, які так і не разабраўся, што гэта мы робім. Перапэцканыя гуашшу і трохі напалоханыя, мы вылецелі з парку. Пазьней я папрасіў Сяргея Сыса (ён нейкі час вучыўся з намі на адным курсе) выразаць трафарэт «Жыве Беларусь!».

Дзеля гэтага я адмыслова набыў балёнчык чырвонай аўтамабільнай эмалі. І якое ж было маё расчараваньне, калі аднойчы пасьля заняткаў я ўбачыў Сяргея, які хваліўся сваёй майкай з надпісам праз наш трафарэт «Жыве Беларусь!». Кансьпірацыя была праваленая. Празь нейкі час ён прыбег у інтэрнат з шалёнымі вачыма і пацягнуў мяне на вуліцу, дзе паказаў будку тэлефоннага аўтамата, у сярэдзіне якой флямастарам было напісана тое ж магічнае «Жыве Беларусь!». Мы аббеглі яшчэ некалькі будак, і паўсюль бачылі гэты чароўны лёзунг. Нас ахапіла невыказаная радасьць: няўжо ў Гомелі ёсьць яшчэ нехта, хто спрабуе штосьці рабіць дзеля беларушчыны?! На наступны дзень я зь Сяргеем ужо абмалёўваў амаль усе будкі ў цэнтры. На жаль, мы так і не выйшлі на тых людзей; мне і зараз цікава было б даведацца, хто б гэта мог быць: заезджыя ці ўсё ж такі гомельскія беларусы...

Болей падобных акцыяў мы не праводзілі. Я разумеў, што як толькі гэтым зацікавіцца КДБ, ён непазьбежна выйдзе на нас, бо іншага беларускамоўнага асяродзьдзя ў горадзе папросту не было. Таму мы стараліся выкарыстоўваць і іншыя нагоды.

Увосень 1982 года менскае «Дынама» выйграла на саюзным чэмпіянаце. Матч адбываўся пад вечар. Адразу пасьля выйгрышу студэнцкія інтэрнаты ў Гомелі падазрона заціхлі, а праз гадзіну ўжо вясёлыя студэнты вывалілі на Савецкую. Гэта была, мабыць, першая несавецкая дэманстрацыя ў горадзе за доўгія гады. Пад тысячу чалавек пайшло па вуліцы ў цэнтр, скандуючы: «"Дынама" — чэмпіён!» Сярод іх, натуральна, былі і мы, а таму празь некалькі хвілінаў грамада

падхапіла нязвыклае для ўсіх, але хутказапамінальнае «Жыве Беларусь!». Мы крычалі так, што пазрывалі галасы.

У кастрычніку 1983 года пасьля разьні, якую наладзілі марксісты, на Грэнаду высадзіўся амерыканскі дэсант. Рэакцыя Саюза была дастаткова вострай і аператыўнай: па ўсёй краіне хуценька былі арганізаваныя студэнцкія дэманстрацыі пратэсту. У Гомельскім універсітэце з заняткаў паздымалі малодшыя курсы, далі ім нейкія лозунгі і загадалі дэфіляваць па Савецкай, якраз пад вокнамі нашага інтэрната. «Свабоду Грэнадзе!» — гукаў наперадзе калоны нейкі камсамольчык. «Свабоду!» — адгукаліся студэнты, узрадаваныя нечаканай уласнай свабодай ад лекцыяў. «Жыве Беларусь!» — крычалі мы ў адчыненае акно. «Жыве!» — адказвала нам вясёлая дэманстрацыя.

Я рэгулярна наведваўся ў Менск да Вячоркаў, кватэра якіх была сапраўдным штабам беларушчыны. Памятаю, Вінцук праважаў мяне, а пасьля меўся сустрэцца са сьпеўным дуэтам, каб «папрацаваць» зь ім — то бок пераканаць пісаць беларускія песьні. Мы размаўлялі на вуліцы, аж пакуль не падышлі Алесь і Кася Камоцкія. Тады ўпершыню я пабачыў Камоцкіх, а неўзабаве пачуў іхныя беларускія песьні. Значыць, «размова» была выніковай.

Ва ўмовах кансьпірацыі, пад бел-чырвона-белымі сьцягамі мы зьбіраліся ў лесе пад Менскам, у Смольні, на сядзібе Якуба Коласа, дзе тады працаваў навуковым супрацоўнікам Сяржук Сокалаў-Воюш. Прыязджалі ў асноўным менчукі; апроч вышэй згаданых таксама Алесь Суша, Сяргей Дубавец, Віктар Івашкевіч. Мы праводзілі, як цяпер кажуць, «мазгавыя штурмы», вызначалі, што рабіць далей, як працаваць больш эфектыўна. Спыніліся на тым, што для праводзеньня беларускай работы патрэбна прыкрыцьцё пад выглядам больш-менш легальных студэнцкіх, моладзевых аб'яднаньняў, якія б дазвалялі адкрыта працаваць зь людзьмі.

У 1983 годзе ў Гомель прыехаў працаваць Сяргей Дубавец з жонкаю, Тацьцянай Сапач. Дубаўца разьмеркавалі ў «Гомельскую праўду», і ён пачаў шукаць людзей, прыхіль-

ных да беларушчыны, сярод свайго асяродзьдзя. Я зьвёў яго з нашым студэнцкім колам — у 1986 годзе некаторыя з гэтых людзей сталі заснавальнікамі гомельскай «Талакі».

Праз колькі гадоў я пазнаёміўся зь людзьмі, на жыцьцё якіх нашая дзейнасьць аказала вялікі ўплыў. Мы нават не былі добра знаёмыя, але нашыя дзеяньні, нашае існаваньне, як мне распавялі пазьней, урэшце прывяло і іх да беларушчыны. Гэты факт толькі пацьвярджае тэзу: ніколі нельга дакладна ацаніць сваю працу, заўсёды ёсьць нябачны для цябе ўплыў, незаўважныя на першы погляд вынікі тваёй працы, якія прабіваюцца на паверхню значна пазьней.

Улетку 1984-га я зноў быў на раскопках у Гальшанах зь Ігарам Чарняўскім, і па ягонай падказцы пабываў у Вішневе, дзе пазнаёміўся з Уладзіславам Чарняўскім, першым беларускім ксяндзом, якога давялося ўбачыць на ўласныя вочы, першым беларусам яшчэ зь мінулага, дасавецкага часу. Ягоная ўпартая адданасьць беларушчыне, ягоныя аповеды пра ксяндза Адама Станкевіча, друйскіх марыянаў, ксяндзоў-беларусаў у эміграцыі давалі адчуваньне існаваньня беларушчыны ў часе і прасторы. Пасьля размовы зь ім я зразумеў, што мы не першыя, што мы — чарговае пакаленьне, нашчадкі тых, хто змагаўся за беларушчыну і дзясяткамі, сотнямі тысячаў загінуў за яе. І мне чамусьці верылася, што наш лёс будзе лепшым.

У 1984 годзе я скончыў універсітэт і быў разьмеркаваны на працу ў сярэднюю школу ў Грабянях Лельчыцкага раёна. Вучням я даваў чытаць Караткевіча і распавядаў пра «Зялёны дуб», які ў іх мясьцінах ваяваў супраць бальшавікоў за незалежную Беларусь. Вёска спрэс размаўляла па-беларуску. У пятым класе быў адзін хлопчык, бацькі якога прыехалі з Расеі. За месяц на маіх вачах ён перайшоў на беларускую мову, каб быць такім, як усе.

Паралельна я рыхтаваўся да іспытаў у асьпірантуру пры Акадэмічным інстытуце літаратуры ў Менску. Калі ў жніўні я прыязджаў у Гомель па рэкамэндацыю да Івана Штэйнэра, загадчыка кафедры беларускай літаратуры, той па сакрэце

распавядаў, што ў ліпені на кафедру прыходзілі гэбісты, распыталіся пра мяне, цікавіліся, чым займаюся, што за групоўка існуе на факультэце. Нічога ім пэўнага не сказалі, але ў мяне сьціснула сэрца, павеяла халадком. «Вось яно, да чаго рыхтаваўся ўвесь час, пранюхалі і пайшлі па сьлядах, як ваўкі. Раней ці пазьней гэта павінна было здарыцца, але трэба працягваць рабіць беларускую работу і старацца не падстаўляцца», — думаў я.

*Бюлетэнь Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі, 2002 год.*

## ПРАГРАМА КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК — ПЕРШЫ Ў НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫІ ЛЕГАЛЬНЫ ПРАГРАМНЫ ДАКУМЕНТ НЕЗАЛЕЖНІЦКІХ СІЛАЎ

Машынапіс бюлетэня аб’яднаньня «Талака» пад назваю «Ратуша» быў падрыхтаваны і надрукаваны ў перыяд паміж 19 чэрвеня 1988 года, калі адбылася першая дэмакратычная антысталінская дэманстрацыя — паход у Курапаты, і 13 жніўня 1988 года, калі планавалася нарада паўнамоцных прадстаўнікоў беларускіх суполак у Вязынцы, для якой у бюлетэні і выкладаліся падрыхтаваныя праграмныя тэзы.

Значэньне Першага Вальнага сойму для кшталтаваньня беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху яшчэ чакае свайго асэнсаваньня. 16–17 сьнежня 1987 года ў вёсцы Палачаны было прынятае рашэньне заснаваць Канфедэрацыю беларускіх суполак — першае аб’яднаньне моладзевых дэмакратычных арганізацыяў, якое шмат у чым падштурхнула стварэньне ў кастрычніку 1988 годзе першай усеагульнай масавай дэмакратычнай арганізацыі — Беларускага народнага фронту.

Ва ўступным артыкуле бюлетэня апісваецца агульная грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне, якая вызначалася напружанасьцю і дынамізмам; крытыкуецца камуністычнае кіраўніцтва Беларусі, якое не жадала ісьці на дэмакратычныя зьмены ў рэспубліцы. У артыкуле адзначалася, што «ў БССР надзьвычай моцныя пазіцыі маюць ідэолагі стагнацыі,

антыперабудоўчыя сілы». Абмяркоўваецца праблема стварэньня масавага дэмакратычнага руху. За ўзор прыводзяцца народныя рухі, створаныя ў балтыйскіх рэспубліках. Аўтар робіць выснову, што «ў нас у рэспубліцы ёсьць рэальная сіла, здольная актыўна падтрымліваць рух дэмакратызацыі і перабудовы. Гэта — беларускі рух моладзі». Аб'яднаньне «палітычна і нацыянальна сьвядомай моладзі, якая выступае ў падтрымку радыкальнай перабудовы ў Беларусі», прапаноўваецца ў выглядзе Канфедэрацыі беларускіх суполак.

Надзьвычай цікавымі для разуменьня шляхоў разьвіцьця дэмакратычнай грамадскай і палітычнай думкі канца 80-х гадоў XX стагодзьдзя ёсьць праграмныя тэзы, выкладзеныя ў бюлетэні. Фактычна гэта першая цэльная праграма пераўтварэньня камуністычнага таталітарнага грамадства ў дэмакратычную, праўную, рынкавую і незалежную беларускую дзяржаву. Шмат у чым гэтыя праграмныя тэзы былі наватарскімі ды рэвалюцыйнымі для часу, калі яны былі напісаныя. Шмат у чым яны зыходзілі з канкрэтнай геапалітычнай і эканамічнай сітуацыі, у якой знаходзілася наша краіна.

У тэзах на першым месцы стаіць разьдзел, прысьвечаны **суверэнітэту Беларусі.** Сьцьвярджаецца, што рэальны суверэнітэт адсутнічае, і ставіцца мэта дабівацца фактычнага суверэнітэту, дзеля чаго прапануецца зьмяніць Канстытуцыю: Раскрыць статус суверэннасьці Беларускай ССР у Канстытуцыях БССР і СССР, увесьці статус беларускага грамадзянства, дамагчыся прадстаўніцтва Беларусі ва ўсіх міжнародных органах, а таксама прызнаць нацыянальную беларускую сімволіку — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг.

У разьдзеле **«Эканоміка»** фактычна прапаноўваецца адзьдзяленьне гаспадаркі Беларусі ад саюзнай і ўвядзеньне рынкавых дачыненьняў. Структуру эканомікі Беларусі прапаноўваецца зьмяніць, зрабіўшы акцэнт больш на ўласныя эканамічныя патрэбы, а не на патрэбы СССР. Таксама прапанаванае ўвядзеньне міжсаюзнай валюты, разьдзяленьне мясцовых і рэспубліканскага бюджэтаў, што ўзмацніла б рэальнае самакіраваньне, г. зн. эканамічны суверэнітэт. Для разьвіцьця

прадпрыемстваў магчыма выкарыстоўваць замежны капітал. Таксама пастулюецца разьдзяржаўленьне сродкаў вытворчасьці й передача іх у калектыўную і прыватную ўласнасьць.

У разьдзеле **«Дэмакратызацыя»** прапанаваны дэмантаж савецкай камуністычнай сістэмы кіраваньня ў Беларусі: адмена кіроўнай ролі камуністычнай партыі, замацаванай у Канстытуцыі; стварэньне шматпартыйнай сістэмы; павелічэньне ролі Саветаў. Надзвычай важным у разьдзеле «Дэмакратызацыя» ёсьць гэтаксама і праваабарончы асьпект. Так, прапаноўваецца прывесьці заканадаўства Беларусі ў адпаведнасьць з Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека, падпісаць Факультатыўныя пратаколы да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, стварыць Канстытуцыйны суд. Для пабудовы прававой дзяржавы прапануецца забясьпечыць беларускім грамадзянам асноўныя грамадзянскія і палітычныя свабоды: свабоду СМІ, адмену цэнзуры, раскрыцьцё сьпецсховаў і архіваў, прапануецца ўвесьці дазвальны прынцып правядзеньня мітынгаў і дэманстрацыяў, свабодны выезд і ўезд у краіну. Пастулююцца адмена прапіскі, свабода сумленьня, права на стварэньне грамадскіх і палітычных аб'яднаньняў, свабода атрыманьня і распаўсюду інфармацыі. Прапануецца абмежаваць функцыі КДБ, зрабіць яго працу больш празрыстай, забараніўшы камітэту займацца палітычным перасьледам; зрабіць празрыстай дзейнасьць дзяржаўных органаў, павялічыць ролю суда ў спрэчках паміж грамадзянінам і дзяржаваю; палепшыць умовы ўтрыманьня ў месцах зьняволеньня, увесьці там грамадскі кантроль. Таксама прапануецца больш актыўна змагацца з арганізаванай злачыннасьцю. Тэзы перадбачаюць стварэньне беларускіх вайсковых фармаваньняў паводле тэрытарыяльнага прынцыпу. Гэтаксама прапануецца ўвядзеньне ў войску альтэрнатыўнай службы.

Асобным пунктам у тэзах гучыць неабходнасьць стварэньня масавай дэмакратычнай арганізацыі: «лічым, што ўзьнікла пільная патрэба яднаньня ўсіх дэмакратычных сілаў рэспублікі пад сьцягам масавага руху за радыкальную перабу-

дову. Заклікаем духоўных лідараў беларускага народа выступіць з ініцыятываю стварэньня такога руху».

У разьдзеле **«Нацыя, мова, культура»** прапануецца надаць беларускай мове статус дзяржаўнай і прыярытэтнай, крытыкуецца палітыка расейска-беларускага двухмоўя. Асаблівае значэньне надаецца разьвіцьцю нацыянальнай культуры, прапаноўваецца падтрымліваць беларускія дыяспары. Гэтаксама прапануецца зьняць дзяржаўную манаполію ў сістэме асьветы.

Шмат што з прапанаванага ў тэзах моладзевых суполак улетку 1988 года стала праграмнымі тэзамі ўсяго нацыянальна-дэмакратычнага руху канца 80-х — пачатку 90-х гадоў і, безумоўна, паспрыяла атрыманьню Беларусьсю незалежнасьці. Шмат чаго з дэмакратычных пераўтварэньняў, якія пачалі зьдзяйсьняцца на пачатку 90-х гадоў, не ўдалося ўтрымаць пасьля 1994 года. І цяпер яшчэ значная частка праграмных тэзаў, нягледзячы на тое, што прайшло амаль чвэрць стагодзьдзя, яшчэ чакае свайго ўвасабленьня.

***Ад рэдакцыі.*** Публікаваны ніжэй праект адноўлены Алесем Бяляцкім і Вінцуком Вячоркам па-беларуску з расейскамоўнага перакладу, падрыхтаванага для публікацыі ў расейскамоўным бюлетэні. Праект узяты за аснову Звароту II Вальнага Сойму Канфедэрацыі беларускіх суполак 14–15 студзеня 1989 года ў Вільні, апублікаванага ў бюлетэні Каардынацыйнае рады Канфэдэрацыі беларускіх суполак «Супольнасьць», № 1, 1989. Многія палажэньні «Ратушы» пазьней увайшлі ў Праграму БНФ.

## ЗВАРОТ ІНІЦЫЯТЫЎНАЙ ГРУПЫ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК ДА БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ

***(разьдзелы праекту)***

З часу Вальнага Сойму беларускіх суполак у Палачанцы пад Менскам прамінула паўгоду[1]. За гэты пэрыяд у нашай рэспубліцы, як і ва ўсім СССР, адбылося шмат падзеяў, якія выразна зьмянілі палітычную сытуацыю. Натуральна, перш за ўсё мы маем на ўвазе палеміку "Праўды" зь "Нінай Андрэевай"[2], падрыхтоўку грамадзтва да партканфэрэнцыі і саму

---

[1] Першы Вальны сойм маладзёвых беларускіх суполак адбыўся 16–17 сьнежня 1987 года ў вёсцы Палачанцы.

[2] 13 сакавіка 1988 года ў газеце ЦК КПСС «Советская Россия» быў зьмешчаны ліст за подпісам выкладчыцы Ленінградскага тэхналагічнага інстытута Ніны Андрэевай пад назваю «Не магу паступіцца прынцыпамі», дзе была апалогія Сталіна, заваёваў сацыялізму і характарыстыка перабудовы як «паўзучай контррэвалюцыі». Ліст Н. Андрэевай быў перадрукаваны шэрагам іншых газетаў. Толькі праз два тыдні ў цэнтральным органе камуністаў «Праўдзе» выйшаў рэдакцыйны артыкул, у якім ліст Н. Андрэевай быў названы антыперабудовачным і асуджаны.

канфэрэнцыю[3] (большасьць рашэньняў якой нельга не вітаць). Як паказала канфэрэнцыя, разуменьне перабудовы зусім рознае ў чыноўніка і практыка, у эстонскай і беларускай дэлегацыяў. Ворагі перабудовы, кляса бюракратаў яднаюцца, узгадняюць плятформу, каардынуюць дзеяньні, імкнуцца выклікаць у людзей расчараваньне ў палітыцы перабудовы і нявер'е ў перспектывы. Здаровыя сілы грамадзтва, незалежна ад партыйнае прыналежнасьці і сьветапогляду, разумеюць неабходнасьць гуртаваць намаганьні, ставіць канкрэтныя задачы і выпрацоўваць аптымальныя спосабы іх вырашэньня. Агульная мэта гэтых сілаў — пабудова дэмакратычнага гуманнага сацыялізму.

У братніх прыбалтыйскіх рэспубліках ужо аформіліся як агульнанацыянальныя, так і маладзёвыя масавыя дэмакратычныя рухі. У Эстоніі гэта Народны Фронт у падтрымку перабудовы і Эстонскі незалежны маладзёвы форум. У Латвіі — Народны Фронт Латвіі і рух аховы навакольнага асяродзьдзя. У Літве — Літоўскі Рух Перабудовы. Стварэньне гэтых рухаў выклікала небывалы ўздым грамадзка-палітычнага жыцьця.

У Беларусі пакуль што няма такога разуменьня руху. І не таму, што перабудова ў нас даўно адбылася, як спрабаваў пераканаць удзельнікаў партканфэрэнцыі першы сакратар ЦК КПБ тав. Сакалоў Я. Я. Мы добра ведаем, якая самастойнасьць прадастаўляецца творчым калектывам; мы ведаем, чым пахне паветра ў Наваполацку і якая на смак зямля ў

[3] XIX Усесаюзная партыйная канферэнцыя (28.06–01.07.1988) мела дастаткова прагрэсіўны характар: была прызнаная магчымасьць шматпартыйнасьці, створаная працоўная група, якая падрыхтавала Закон «Аб палітычных партыях». М. Гарбачоў на партканферэнцыі паспрабаваў увесьці ў дакументы партыі панятак «гуманнага, дэмакратычнага сацыялізму». У адпаведнасьці з рашэньнямі канферэнцыі быў заснаваны новы найвышэйшы орган заканадаўчай улады — Зьезд народных дэпутатаў СССР — і адпаведныя рэспубліканскія зьезды.

Салігорску. Дзіўна прагучала заява Сакалова — ад імя ўсіх беларусаў — пра тое, што мэліярацыя стала ледзь ня Божым дарам для Палесься. Пра Чарнобыль ён увогуле не згадаў. Што да палітычнай перабудовы, дык адсутнасьць яе ў Беларусі не патрабуе доказаў.

З стварэньнем масавага руху мы адстаем зь іншых прычынаў. Па-першае, гэта слабасьць нацыянальнае сьвядомасьці беларусаў і, што адсюль вынікае, спадзяваньне на рэформы "з цэнтру". Па-другое, і гэта таксама вынік нізкае нацыянальна-палітычнае сьвядомасьці народу, у БССР надзвычай моцныя пазыцыі маюць ідэолягі стагнацыі, антыперабудоўчыя сілы. Беларусь сталася як бы палігонам перабудовы безь перабудовы. Гэта надае сілы і ўпэўненасьці мясцовай бюракратыі, і яна не цураецца ніякіх мэтадаў, каб захаваць кантроль над становішчам: тут і прафанацыя ідэяў, і пасквілі ў газэтах, і "чорная прапаганда", і закулісныя інтрыгі.

Але, нягледзячы на жорсткі бюракратычны націск, за апошнія месяцы адбыліся падзеі, якія паказалі, што будучыня менавіта за БЕЛАРУСКІМ АДРАДЖЭНЬНЕМ. Маем на ўвазе шматтысячныя мітынгі на менскім Пляцы Волі[4], ва ўрочышчы Курапаты пад Менскам[5], у Навапо-

[4] Мітынг у Менску на пляцы Волі адбыўся 20 сакавіка 1988 года на месцы разбуранай на той час гарадской ратушы. Быў арганізаваны «Талакою» ў абарону Верхняга горада, супраць пабудовы другой лініі метро праз гістарычны цэнтр Менска. Сабраў некалькі сотняў чалавек. Вёў мітынг С. Вітушка, сярод выступоўцаў былі К. Тарасаў, А. Сыс, З. Пазьняк, В. Вячорка, С. Харэўскі ды інш.

[5] Мітынг у Курапатах, адбыўся 19.06.1988. Сабраў больш за тысячу ўдзельнікаў. Заяўнікамі шэсьця і мітынгу былі адныя зь лідараў «Талакі» С. Вітушка і В. Івашкевіч. Штуршком для акцыі стала публікацыя ў газеце «Літаратура і мастацтва» артыкула Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты. Дарога сьмерці». На мітынгу выступалі З. Пазьняк, М. Ткачоў ды інш. Затым арганізатары мітынгу былі асуджаныя і аштрафаваныя.

лацку[6] і Горадні[7]. Гэты акцыі, розныя па накіраванасьці — у абарону культуры, антысталінскія, экалягічныя, але якія закранаюць самыя балючыя для людзей праблемы, апроч усяго паказалі, што ў нас у рэспубліцы ёсьць рэальная сіла, здольная актыўна падтрымліваць рух дэмакратызацыі і перабудовы. Гэта — беларускі рух моладзі. Гэтая зьява зусім натуральная. Бо толькі на глебе патрыятызму, занепакоенасьці лёсам сваёй зямлі магчыма стварыць рух за рэвалюцыйныя зьмены.

На першым Вальным Сойме мы прынялі плятформу, большаа частка тэзаў якой мусіць захоўваць моц. Але час патрабуе ўдакладніць або дадаць да тае плятформы многія пункты, выказацца па самых балючых пытаньнях жыцьця рэспублікі, і — галоўнае — зрабіць плятформу правамоцным дакумэнтам усяго беларускага маладзёвага руху.

Дзеля гэтага мы мусім згуртавацца. Аптымальнаю формаю згуртаваньня ў нашых варунках зьяўляецца згуртаваньне на прынцыпах КАНФЭДЭРАЦЫІ. Прапаноўваем для згуртаваньня назву КАНФЭДЭРАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК.

На нашую думку, Канфэдэрацыя павінна паставіць сабе за мэту аб’яднаньне ўсяе палітычна і нацыянальна сьвядомае моладзі, якая выступае ў падтрымку радыкальнае перабудовы на Беларусі. Дзейнасьць Канфэдэрацыі мусіць быць адкрытая і весьціся ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй БССР.

Тэзы, якія прапануюцца ніжэй, — гэта не вычарпальная

---

[6] У Наваполацку ў 1988 годзе адбылася акцыя пратэсту супраць пабудовы ў горадзе бялкова-вітаміннага камбіната, які мог пагоршыць і так нездавальняльную экалагічную сітуацыю ў горадзе. Сход па абмеркаваньні гэтага пытаньня адбыўся ў Палацы культуры хімікаў. У той самы час на плошчы каля палаца сабралася грамада навапалачанаў у некалькі тысячаў чалавек.

[7] У Горадні летам 1988 года адбылося шэсьце з экалагічнымі патрабаваньнямі супраць разбудовы ў горадзе хімічных прадпрыемтваў «Азоту» і «Хімвалакна». У шэсьці, якое ішло ад абутковай фабрыкі да плошчы Леніна, узялі ўдзел каля 400 чалавек.

праграма з поўным тэарэтычным і фактычным абмеркаваньнем, гэта плятформа для дыскусіі.

Для нарады паўнамоцных прадстаўнікоў суполак, якая адбудзецца 13–14 жніўня 1988 г. у Вязынцы, прапаноўваем наступныя тэзы.

## СУВЭРЭНІТЭТ РЭСПУБЛІКІ

З Канстытуцыяў БССР і СССР вынікае, што Беларуская ССР — гэта сувэрэнная дзяржава. На практыцы гэтага сувэрэнітэту не існуе. Мы лічым, што толькі фактычны сувэрэнітэт забясьпечыў бы гармонію інтарэсаў БССР ды іншых рэспублік, якія ўваходзяць у СССР, і дазволіў бы без цэнтралізатарскіх шаблёнаў ажыцьцяўляць у нашай рэспубліцы найбольш адпаведныя яе спэцыфіцы палітычныя, эканамічныя і культурныя праграмы. Думаем, што рэальны сувэрэнітэт БССР ды іншых саюзных рэспублік прывядзе да сапраўднага, непаказнога адзінства народаў у іхных адносінах да галоўных задачаў сучаснасьці. Для гэтага неабходна:

1. Раскрыць статус сувэрэннасьці Беларускай ССР у Канстытуцыях БССР і СССР. Каардынацыя супольных зь іншымі саюзнымі рэспублікамі палітычных, эканамічных і культурных праграмаў павінна адбывацца на шматбаковай аснове (праз агульнасаюзныя органы) ці на дзьвюх-, трохбаковай аснове з агульнае згоды рэспублік.

2. Распрацаваць на аснове цэнзу аселасьці і валоданьня беларускаю мовай статус рэспубліканскага грамадзянства. Вызначыць правы і абавязкі грамадзяніна БССР.

3. Дамагчыся непасрэднага прадстаўніцтва БССР у міжнародных палітычных, эканамічных, культурных, спартовых ды іншых арганізацыях. Прадстаўнікі БССР у ААН павінны абірацца ўсенародным галасаваньнем.

4. Патрабаваць афіцыйнага прызнаньня нацыянальнай

беларускай сымболікі: гербу “Пагоня” і бел-чырвона-белага сьцягу. Недапушчальна нацыянальную беларускую сымболіку супрацьпастаўляць дзяржаўнай сымболіцы БССР.

## ЭКАНОМІКА

Эканамічная палітыка сталінізму, якая разглядае СССР не як САЮЗ сувэрэнных дзяржаваў, а як дзяржаву з нацыянальна-адміністрацыйным падзелам, адзіным народнагаспадарчым комплексам і каманднa-адміністрацыйнаю сыстэмаю кіраўніцтва, бязьлітасна зьнішчае разнастайнасьць тых формаў сацыялізму, якія ў найбольшай ступені прымальныя для розных сацыялістычных рэспублік. Надышоў час даць максымальна выявіцца і разьвіцца гэтай рознабаковасьці. Структура эканомікі БССР павінна быць пабудаваная такім чынам, каб было забясьпечанае ў першую чаргу разьвіцьцё тых галінаў, якія выкарыстоўваюць мясцовыя рэсурсы, даюць эканамічную карысьць рэспубліцы, прымальныя з этычнага гледзішча і адпавядаюць традыцыям гаспадараньня.

1. Народная гаспадарка Беларусі павінна быць пераведзеная на гаспадарчы разьлік, асноўныя прынцыпы якога выпрацавалі эстонскія навукоўцы:

а) усе аб’екты народнай гаспадаркі, якія знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, павінны знаходзіцца пад поўнай юрысдыкцыяй рэспублікі. Перадусім гэта датычыцца прадпрыемстваў, якія знаходзяцца цяпер у саюзным падпарадкаваньні (саюзная юрысдыкцыя падобных прадпрыемстваў звычайна не абумоўленая агульнасаюзнымі інтарэсамі: часьцей прысутнічае толькі ведамасны інтарэс), чыгункі, транспарту і г.д.;

б) абмен таварамі як з рэспублікамі, краямі, абласьцямі Савецкага Саюзу, так і зь іншымі краінамі зьдзяйсьняецца праз наўпроставыя сувязі вытворцы і спажыўца;

в) у якасьці міжнароднага агульнапрынятага сродку разьліку мог бы выкарыстоўвацца канвэрсоўны рубель (што не азначала б забароны выкарыстаньня іншых валютаў). Ім

рабіліся б разьлікі з прадпрыемствамі, арганізацыямі іншых рэгіёнаў Савецкага Саюзу;

г) зь бюджэтам Саюзу рэспубліка зьвязаная як цэлае. Выплаты БССР у саюзны бюджэт вызначае Вярхоўны Савет СССР са згоды рэспублікі на аснове доўгачасовых нарматываў. Для фармаваньня бюджэту рэспублікі ствараецца асобная сыстэма адлічэньняў. Мясцовыя бюджэты аддзяляюцца ад рэспубліканскага;

д) пераход на гаспадарчы разьлік зьдзяйсьняецца на ўсёй тэрыторыі рэспублікі і на ўсіх узроўнях эканамічнай дзейнасьці;

е) для заснаваньня і дзейнасьці прадпрыемстваў выкарыстоўваюцца як грашовыя сродкі жыхароў рэспублікі, так і замежны капітал. Якасьць прадукцыі вызначаецца на аснове міжнародных стандартаў;

ж) для забесьпячэньня галоснасьці ў справе разьмеркаваньня публікаваць поўны балянс увозу і вывазу з рэспублікі, міжрэспубліканскіх і зьнешнегандлёвых паставак. Інфармацыя павінна давацца ў натуральных і грашовых паказьніках;

з) з рэспублікі можна вывозіць толькі тыя тавары, якімі ўжо насычаны яе ўнутраны рынак.

2. Пераадоленьне бюракратычнага байкоту перабудовы ў галіне эканомікі магчымае толькі пры зьдзяйсьненьні наступных пунктаў кардынальнай эканамічнай рэформы:

а) перадаць усе сродкі вытворчасьці, якія знаходзяцца ва ўласнасьці дзяржавы, без усялякага выкупу ў калектыўную ці асабістую (па рашэньні працоўных калектываў) уласнасьць саміх працоўных. Гэтая мера прадыктаваная тым, што фактычна валодае дзяржаўнай ("ананімнай") уласнасьцю бюракратыя. Таму бюракратыю неабходна трактаваць як клясу, прыватнай уласнасьцю якой зьяўляецца дзяржава (К. Маркс). Перадача "ананімнай" уласнасьці ва ўласнасьць саміх працоўных пазбавіць бюракратыю як клясу эканамічнай базы існаваньня;

б) у галіне эканамічнага кіраўніцтва і плянаваньня вярнуцца да закону вартасьці і таварна-грашовых адносінаў;

в) арганізацыі вышэйшага рангу, а таксама розныя формы каапэрацыі мусяць стварацца толькі па ініцыятыве прадпрыемстваў, калі калектывы прадпрыемстваў палічаць гэта неабходным. Дзейнасьць прадпрыемстваў можа грунтавацца на прынцыпах акцыянэрных таварыстваў;

г) плянавацца мусяць толькі агульныя прапорцыі і пэрспэктывы, а органы плянаваньня павінны разьлічваць толькі на эканамічныя мэтады.

3. Рэалізацыя сталінскай камандна-адміністрацыйнай эканомікі прывяла да таго, што жыцьцёвы старт маладых сем'яў стаў вельмі цяжкім. Натуральны прырост беларускай нацыі зьмяншаецца. Неабходна забясьпечыць маладым сем'ям беларускага грамадзянства эканамічныя прывілеі. У прыватнасьці, стварыць фонд маладой сям'і, куды накіраваць сродкі ад падатку за бязьдзетнасьць.

4. Неабходна тэрмінова ўзьняць жыцьцёвы ўзровень людзей, асабліва тых, якія з-за інфляцыі апынуліся па-за рысай беднасьці.

5. Неабходна палепшыць памяшканьні і ўмовы працы ўстановаў сацыяльнай сфэры (мэдыцынскіх, асьветных, культурных) за кошт кіроўных установаў.

6. Неадкладна ўвесьці грамадзкі кантроль за інвэстыцыямі ў вытворчую і сацыяльную сфэры.

ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ

1. Палітычны плюралізм, адкрытае супастаўленьне ідэяў і інтарэсаў немагчымыя без прынцыповага афармленьня адкрытых і выразных палітычных структураў, якія б адлюстроўвалі розныя праграмы сацыялістычнага будаўніцтва. Выбар паміж альтэрнатыўнымі кірункамі забясьпечыў бы знаходжаньне аптымальных варыянтаў.

2. Рэальнай гарантыяй супраць вяртаньня сталінскае дэс-

патыі зьяўляецца адмена канстытуцыйна замацаванага лідарства КПСС. Партыя, якая сапраўды дбае пра інтарэсы асобы і нацыі, не патрабуе канстытуцыйных падпорак. Яна сьмела бярэ ўдзел у барацьбе палітычных поглядаў, здабывае найшырэйшую сацыяльную глебу, кіруе не адміністрацыйнымі мэтадамі, а сілаю свайго маральнага аўтарытэту, праз сваіх прадстаўнікоў у іншых арганізацыях.

Наяўнасьць іншых палітычных партыяў спрыяла б самаачышчэньню Камуністычнае партыі і выпрацоўцы ёю аптымальнае палітыкі.

Шматпартыйная сыстэма, як паказвае і практыка, і хада разьвіцьця тэарэтычнай думкі ў сацыялістычных краінах, не супярэчыць сацыялізму.

3. Не падтрымліваем прапановы (фактычна — заканадаўчае) аб'яднаць пасады першых сакратароў адпаведных камітэтаў партыі з пасадамі старшыняў адпаведных Саветаў. Гэта — прамое парушэньне канстытуцыйнае гарантыі раўнапраўнасьці грамадзянаў (некамуніст ня мае права ўзначаліць Савет, хаця можа быць несумненным лідарам у той ці іншай мясцовасьці). Гэта — канцэнтрацыя ўсяе мясцовае ўлады ў адных руках (дэпутаты-камуністы, кіруючыся партыйнай дысцыплінай, будуць заўжды на баку свайго сакратара). Гэта — процідзеяньне разьдзяленьню функцыяў органаў кампартыі і Савецкае ўлады.

Кіруючая роля Камуністычнай партыі павінна грунтавацца на фундамэнтальнасьці прапановаў і распрацовак; партыі ў ідэале — калектыўны дарадца калектыўнай народнай думкі. Сыстэма аб'яднаньня пасадаў — гэта зрашчэньне партыі з Саветамі, небясьпека ззьнікненьня яшчэ аднога, наймагутнага зьвяна бюракратычнае сыстэмы.

4. Вольнае і неабмежаванае права вылучаць кандыдатаў у дэпутаты Саветаў усіх узроўняў і самавылучацца павінны мець любыя аб'яднаньні грамадзянаў і асобныя грамадзяне. Усім кандыдатам павінны прадастаўляцца роўныя магчымасьці выкладаць свае перадвыбарчыя праграмы ў сродках масавай інфармацыі, на сходах і мітынгах.

5. (...)

6. Усе прынцыповыя пытаньні ўнутранае і зьнешняе палітыкі рэспублікі ці жыцьця рэгіёну рэспублікі павінны вырашацца шляхам правядзеньня рэфэрэндумаў. Неабходна заканадаўча вызначыць падставы для правядзеньня рэфэрэндумаў.

7. Заканадаўства БССР павінна быць прыведзенае ў адпаведнасьць з Усеагульнай Дэклярацыяй правоў чалавека. Неабходна, каб БССР ратыфікавала два пратаколы заключанага ў 1966 годзе Пакту аб правах чалавека, што зрабіла б магчымым пашырэньне дзейнасьці Камітэту па правах чалавека ў БССР. Неабходна ўтварыць Канстытуцыйны суд БССР.

8. Стварэньне сацыялістычнае прававое дзяржавы мае на ўвазе рэальныя гарантыі канстытуцыйных правоў грамадзянаў. Неабходна:

а) забясьпечыць грамадзкім арганізацыям, групам грамадзянаў, асобным грамадзянам свабоду стварэньня друкаваных органаў, арэнды тэле- і радыёканалаў. Рэгістрацыя друкаваных органаў павінна грунтавацца на прынцыпе паведамленьня, а не дазволу;

б) перадаць у вольны продаж памнажальную тэхніку і друкарскую паперу;

в) адмяніць папярэднюю цэнзуру. Калі праваахоўныя органы палічаць, што выдавецтва парушыла заканадаўства, яны маюць права падаць у суд, які канчаткова і вырашыць справу;

г) зьліквідаваць усялякія абмежаваньні на доступ да айчыннае і замежнае літаратуры, да архіўных матэрыялаў. Забясьпечыць правы і магчымасьці капіяваньня арыгіналаў. Вызначыць трыццацігадовы тэрмін даўнасьці для сакрэтных архіўных матэрыялаў.

Лічым, што:

д) арганізацыя мітынгаў, дэманстрацыяў, шэсьцяў павінна грунтавацца на прынцыпе паведамленьня, а не дазволу.

Калі органы ўлады вырашаюць, што правядзеньне якой-небудзь арганізацыяй мерапрыемства мае антыканстытуцыйны характар, яны зьвяртаюцца да суду. Цяперашні закон аб правядзеньні мітынгаў і дэманстрацыяў супярэчыць Канстытуцыі і павінен быць адменены;

е) кожны грамадзянін БССР павінен мець права абіраць для сталага або часовага (напрыклад, з мэтаю вучобы) жыхарства любую краіну сьвету і вяртацца на Радзіму. Права ў кожны час вярнуцца на Радзіму павінны мець нашыя суайчыньнікі за мяжою. Прапіска мусіць быць скасаваная як перажытак фэадалізму і сталінізму. Міграцыйныя працэсы трэба рэгуляваць Законам аб грамадзянстве БССР і эканамічнымі способамі;

ж) павінна быць забясьпечаная рэальная свабода сумленьня, роўнасьць усіх канфэсіяў, магчымасьць адраджэньня ў Беларусі дзейнасьці Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы і Беларускай грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы. Для абароны беларусаў-каталікоў ад апалячваньня неабходна стварыць Беларускае біскупства Рыма-каталіцкага касьцёлу. Беларуская мова павінна стаць асноўнаю моваю набажэнстваў усіх хрысьціянскіх канфэсіяў. Усе храмы, якія зараз ніяк не выкарыстоўваюцца, або форма выкарыстаньня іх неэтычная, мусяць быць вернутыя адпаведным канфэсіям.

9. Неад’емнае права кожнага грамадзяніна ў дэмакратычнай дзяржаве — гэта права на стварэньне грамадзкіх (грамадзка-палітычных) арганізацыяў. Рэгістрацыя арганізацыяў у мясцовых органах улады павінна зыходзіць з прынцыпу паведамленьня. Калі органы ўлады палічаць, што арганізацыя, яе мэты і формы дзейнасьці маюць антыканстытуцыйны характар, яны падаюць на арганізацыю ў суд, які і вызначае лёс апошняе.

10. Актам найвышэйшае справядлівасьці сталася б прыцягненьне да судовае адказнасьці арганізатараў і выканаўцаў сталінскага тэрору, бо такія злачынствы не падлягаюць тэрміну даўнасьці.

11. Антыканстытуцыйнай практыкай належыць лічыць

наяўнасьць намэнклятурных пасадаў. Толькі асабістыя здольнасьці і аўтарытэт чалавека, а не сяброўства ў партыі, мусяць быць крытэрамі вылучэньня яго ў кандыдаты на тую ці іншую пасаду. Мусяць быць зьліквідаваныя ўсе прывілеі намэнклятуры. Увогуле прыналежнасьць да палітычных арганізацыяў не павінна даваць ніякіх прывілеяў па-за межамі гэтых арганізацыяў.

12. Магчымасьць карыстацца правам на свабоду здабыцьця і пашырэньня інфармацыі несумяшчальная з прысутнасьцю ў Крымінальным кодэксе БССР артыкулу, які прадугледжвае кару за “распространение заведомо ложных измышлений, порочащих государственный и общественный строй” як за дзяржаўнае злачынства. Гэты артыкул выкарыстоўваўся і выкарыстоўваецца бюракратыяй як юрыдычная падстава для падаўленьня крытыкі. Судовае адказнасьці за паклёп цалкам дастаткова, каб засьцерагчыся ад сьвядомага скажэньня фактаў нядобрасумленнымі людзьмі.

13. Вызваліць КДБ ад функцыяў палітычнае паліцыі, абмежаваць дзейнасьць гэтай інстанцыі ў кірунку захаваньня ідэалагічнай аднароднасьці грамадзтва. Адзіная задача органаў бясьпекі — абараняць краіну ад замахаў звонку. Дзейнасьць рэспубліканскіх органаў бясьпекі мусіць быць справаздачнаю перад Вярхоўным Саветам БССР. У Вярхоўным Савеце павінна існаваць камісія па справах дзяржаўнае бясьпекі.

14. Неабходна зрабіць даступнымі ўсе дакумэнты і інструкцыі, якія рэглямэнтуюць дзяржаўнае жыцьцё, у тым ліку дзейнасьць партыйных і праваахоўных органаў.

15. Кожны грамадзянін БССР павінен мець права знаёміцца з інфармацыяй, зьбіранай пра яго ў дзяржаўных установах; карыстацца неабмежаваным правам зьвяртацца ў суд, у Канстытуцыйны суд і Камітэт па правах чалавека.

16. У месцах адбываньня пакараньня лягернага тыпу ня толькі немагчымае перавыхаваньне пакараных, але, наадварот, там паглыбляецца злачынная скіраванасьць людзей, бо сыстэматычна парушаюцца правы чалавека. Насьпелі рады-

кальныя зьмены карнае сыстэмы і незалежны грамадзкі кантроль над ёю. Правапарушальнікі — грамадзяне БССР павінны адбываць пакараньне на тэрыторыі рэспублікі.

17. Стварыць падсправаздачны грамадзкасьці спэцыяльны орган па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю (мафіяй).

18. Павінны існаваць гарантыі прэзумпцыі бязьвіннасьці. Адвакат, пачынаючы з сьледзтва, мусіць браць удзел ва ўсіх стадыях судаўніцтва, прысутнічаць на допытах і ўзяцьці паказаньняў.

19. Заканадаўству саюзнай рэспублікі павінны падпарадкоўвацца і вайсковыя часткі. Грамадзяне БССР павінны адбываць вайсковую службу на тэрыторыі БССР. Неабходна аднавіць гвалтоўна спыненую ў 1930-я гады практыку стварэньня тэрытарыяльных беларускіх вайсковых фармаваньняў, служба ў якіх павінна адбывацца на беларускай мове. Беларускія вайсковыя часткі павінны выводзіцца за межы БССР толькі з агульнанароднай згоды, выказанай на рэфэрэндуме. Гэта ж датычыцца і ўвядзеньня тых ці іншых войскаў на тэрыторыю БССР. Наконт вайсковай службы лічым таксама неабходным:

а) сіламі незалежнай грамадзкай камісіі публічна прааналізаваць парадак праходжаньня тэрміновай службы з пункту погляду сучаснай стратэгіі дзяржаўнай абароны, а таксама шкодны ўплыў парадку праходжаньня службы на эканоміку, культуру, асобу;

б) у мэтах захаваньня працоўных навыкаў, павелічэньня колькасьці занятага стваральнаю працаю насельніцтва і выкараненьня нестатутных адносінаў, якія прыніжаюць чалавечую годнасьць, скараціць тэрмін службы ў войску да аднаго году;

в) вызваліць ад тэрміновае службы студэнтаў, выпускнікоў ВНУ, каб захаваць кваліфікаваных спэцыялістаў для прафэсійнае працы. Замяніць вайсковае навучаньне школьніцаў дамаводзтвам;

г) увесьці працоўную службу для тых, хто з ідэйных ці рэлігійных меркаваньняў ня можа насіць зброю або складаць прысягу.

20. Лічым, што узьнікла пільная патрэба яднаньня ўсіх дэмакратычных сілаў рэспублікі пад сьцягам масавага руху за радыкальную перабудову. Заклікаем духоўных лідараў беларускага народу выступіць з ініцыятываю стварэньня такога руху.

## НАЦЫЯ, МОВА, КУЛЬТУРА

Мы зыходзім з таго відавочнага факту, што беларуская нацыя апынулася на мяжы духоўнага зьнішчэньня. Заняпад беларускае нацыянальнае культуры — вынік адсутнасьці ў беларускага народу апошнімі стагодзьдзямі фактычнае дзяржаўнасьці і калянізатарскае палітыкі царскае і сталінскае бюракратыі. Нацыянальнае адраджэньне патрэбнае нам дзеля кансалідацыі нацыі, бо без кансалідацыі няма як дамагчыся дэмакратычных правоў і свабодаў. У сваю чаргу сапраўднае нацыянальнае адраджэньне магчымае толькі ў варунках рэальнае сувэрэннасьці і дэмакратыі. Таму рэальны сувэрэнітэт рэспублікі, скасаваньне ўлады бюракратыі, фактычная народная ўлада — зарука ўратаваньня нашае нацыянальнае культуры.

Мова — гэта асноўны сродак культуры, у ёй адбіваецца душа народу. У мове замацоўваецца гістарычны досьвед народу, адлюстроўваюцца непаўторныя асаблівасьці ягонае псыхікі і мысьленьня. Мова валодае найбольшым унівэрсалізмам, забясьпечвае аптымальную магчымасьць нацыянальнага разьвіцьця і гарантыю існаваньня народу. З прызнаньня самакаштоўнасьці кожнае мовы вынікае і асабістая адказнасьць кожнага чалавека перад сваім народам, перад усім чалавецтвам за захаваньне і разьвіцьцё перш за ўсё свае роднае мовы. Адчуваючы гэтую адказнасьць, мы патрабуем:

1. Беларуская мова павінна быць дзяржаўнай моваю БССР, што мусіць быць адлюстравана ў Канстытуцыі.

2. З тэзы пра дзяржаўнасьць мовы вынікае абавязковасьць выкарыстаньня беларускае мовы ва ўсіх сфэрах грамадзка-палітычнага і эканамічнага жыцьця, на ўсіх узроўнях наву-

чаньня. Толькі дзяржаўнасьць мовы вырашыць праблемы, а не стварэньне асобных беларускіх клясаў, існаваньне якіх не падмацаванае ані падрыхтоўкаю кадраў, ні далейшаю пэрспэктываю навучаньня для выпускнікоў.

3. Неабходна нарэшце адмовіцца ад антынавуковай тэзы пра агульнанароднае «беларуска-рускае двухмоўе». Гэтая тэза ўзьнікла ў гады застою як іншасказ русіфікацыі і служыць апошняй. Цэлы народ ня можа быць двухмоўны. Цяперашні стан паўмоўя, пры якім большасьць беларусаў ня можа карыстацца ніводнаю з моваў, прыводзіць да зьнішчэньня інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі, што абумоўлена псыхалінгвістычнымі прычынамі. Прыярытэтам на Беларусі павінна карыстацца беларуская мова.

4. Цалкам падтрымліваем палітычную і практычную частку праграмы беларусізацыі, распрацаваную Моўнаю камісіяй Беларускага фонду культуры.

5. Прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў у БССР павінны мець права і рэальную магчымасьць разьвіваць асьвету, прэсу і культуру на сваіх родных мовах.

6. Адзін з найпершых абавязкаў ураду і грамадзкасьці БССР — канкрэтная дапамога беларускім нацыянальным меншасьцям у Польшчы, Літоўскай ССР, Латвійскай ССР, РСФСР, Канадзе, ЗША, Аўстраліі, Аргентыне і інш. Дзяржава павінна падтрымліваць і заахвочваць культурна-навуковыя і прыватныя кантакты з суайчыньнікамі.

Зрабіць захады для аднаўленьня значэньня Вільні як беларускага культурнага цэнтру. Дзеля разьвіцьця беларускага нацыянальна-культурнага руху на Беласточчыне надаваць пільную ўвагу і аказваць матэрыяльную дапамогу будаўніцтву Беларускага музэю ў Гайнаўцы.

7. Захаваньне і разьвіцьцё нацыянальнае культуры павінна быць прыярытэтнаю задачаю дзяржавы. Усе буйныя эканамічныя, будаўнічыя ды іншыя праекты павінны праходзіць экспэртызу грамадзкіх экспэртных камісіяў на адпаведнасьць нацыянальна-культурным інтарэсам беларускага народу.

8. Прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці ўсіх вінава-

тых у зьнішчэньні і пашкоджаньні помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Перагледзець праект другой чаргі Менскага мэтрапалітэну, якая пракладаецца пад найбольш каштоўнаю гістарычнаю часткаю гораду, бо гэты праект не забясьпечаны ані з этычнага, ані з праўнага, ані з тэхналягічнага гледзішча.

9. Ушанаваць помнікамі ўсе месцы масавых расстрэлаў і пахаваньняў бязьвінных людзей у часы сталінскага тэрору. Апублікаваць поўныя пайменныя сьпісы ахвяраў рознага роду рэпрэсіяў.

10. Кіраваньне асьветай і культурным жыцьцём Беларусі павінна належаць кампэтэнцыі БССР. Крытэры якасьці адукацыі ў Беларусі — міжнародны прэстыж беларускага атэстату аб адукацыі.

11. Дзеля павышэньня ўзроўню адукацыі пагадзіцца з плюралізмам у сфэры асьветы. У стварэньні і ўдасканаленьні адукацыйных установаў павінны мець права ўдзельнічаць любыя арганізцыі і прыватныя асобы.

12. Спыніць навешваньне палітычных ярлыкоў на тых дзеячоў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, якія, своечасова разгледзеўшы антычалавечную сутнасьць сталінізму, адвярнуліся ад яго.

13. Стварыць Інстытут беларусазнаўства, які б займаўся прапагандай беларускае культуры ў краіне і сьвеце.

***

Натуральна, мы мусім цалкам усьведамляць, што нацыянальнае адраджэньне Айчыны немагчымае без радыкальнае перабудовы, без рэвалюцыйных зьменаў у нашым грамадзтве.

**Заклікаем далучыцца да КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК!**

## «КАМІТЭТ-58» — «МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ» — БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ

Другая палова 80-х гадоў XX стагодзьдзя ў Беларусі характарызавалася ўздымам нацыянальнага-дэмакратычнага руху і зьяўленьнем шматлікіх нефармальных суполак, якія за мэту ставілі пытаньні нацыянальнага, дэмакратычнага, палітычнага, культурнага, сацыяльнага адраджэньня беларускага народа. «Нефармальныя» суполкі аб'ядноўвалі пераважна моладзь. Ужо з 1987 года насьпела пытаньне аб'яднаньня разнастайных грамадскіх ініцыятываў у арганізаваны рух. 16–17 сьнежня 1987 года ў вёсцы Палачанцы адбыўся Першы Вальны сойм беларускіх суполак — нарада прадстаўнікоў моладзевых нефармальных аб'яднаньняў, які абмеркаваў пытаньне стварэньня Канфедэрацыі беларускіх суполак. Стварэньне народных франтоў і рухаў у балтыйскіх падсавецкіх краінах ставіла такое пытаньне і перад беларускім дэмакратычным актывам.

Улетку 1988 года мы абмяркоўвалі канцэпцыю ды розныя магчымыя назвы масавага дэмакратычнага народнага руху. Апроч «Народнага фронту», гучалі іншыя, больш «памяркоўныя» прапановы, але бальшыні тады спадабалася менавіта гэтае — Беларускі народны фронт.

«Старэйшыя» адраджэнцы ў гэты час гуртаваліся каля гісторыка-мемарыяльнай камісіі Беларускага фонду культуры, якую ўзначальваў пісьменьнік Міхась Дубянецкі, а рэальным лідарам ды ідэолагам быў гісторык культуры і архе-

олаг Зянон Пазьняк. Падзеі актывізаваліся пасьля зьяўленьня 3 чэрвеня 1988 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» артыкула З. Пазьняка і Я. Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці».

Тады ж, па ўспамінах З. Пазьняка, «*у канцы жніўня 1988 году група людзей, куды акрамя мяне ўваходзілі Міхась Дубянецкі, Алег Белавусаў, Алесь Лукашук і яшчэ некалькі чалавек, пачала рэгулярна зьбірацца і працаваць над статутам новай грамадзкай арганізацыі, пасьвечанай змаганьню за гістарычную праўду па выяўленьні сталінскіх злачынстваў супраць народу. Рабочая назва арганізацыі была "Камітэт-58". Меўся на ўвазе 58-ы артыкул Крымінальнага кодэксу СССР, па якім арыштоўвалі і каралі "ворагаў народу"*».

На адным з такіх паседжаньняў «Камітэта-58», як прадстаўніку моладзевых суполак і старшыні Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», давялося прысутнічаць і мне. Яно адбывалася ў памяшканьні Інстытута гісторыі Акадэміі навук, дзе на той час працаваў З. Пазьняк. На паседжаньні таксама былі некалькі гісторыкаў, супрацоўнікаў інстытута. Яшчэ мне запомніўся малады асьпірант з рудымі кашлатымі валасамі Юры Дракахруст. На паседжаньні абмяркоўвалася правядзеньне ўстаноўчага сходу арганізацыі. У заснавальніках «Камітэта-58» пагадзіліся выступіць рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва», а таксама, наколькі памятаю, творчыя саюзы мастакоў і пісьменьнікаў. Зянон Пазьняк пераконваў удзельнікаў наконт прапанаванай ім канчатковай версіі назвы арганізацыі: **«Мартыралог Беларусі»**. Шчыра кажучы, тады я гэтае слова пачуў упершыню, але яно мне спадабалася сваёй нязвыкласьцю і грунтоўнасьцю.

Ці на гэтым, ці на іншым паседжаньні арганізацыйнай групы «Камітэта-58» З. Пазьняк папрасіў мяне арганізаваць дружыну на час устаноўчага сходу. Сход меў адбыцца ў Чырвоным касьцёле, які на той час быў прыстасаваны пад Дом кіно і належаў Саюзу кінематаграфістаў Беларусі. З дружынаю мы прыйсьці спазьніліся, у залю налезла поўна статыс-

таў, але мы затым выправілі сваю памылку, сьцягнуўшы з трыбуны партыйнага функцыянера Р. Бузука, які перашкаджаў гаварыць Васілю Быкаву.

Зараз ужо не памятаю, ці ведаў я, што будзе абвешчаны Арганізацыйны камітэт БНФ «Адраджэньне». Чаго я дакладна не ведаў, дык гэта што буду прапанаваны З. Пазьняком у сябры Аргкамітэта. Як пісаў З. Пазьняк, «*пра стварэньне Фронту тады ў Беларусі паўсюдна гаварылі і крычэлі розныя маргіналы, перабудовачныя “казнадзеі” і проста агентурныя правакатары*». Стварыць звычайным спосабам прадстаўнічы і варты даверу Аргкамітэт Фронту ў такіх умовах было немагчыма. Таму і рашылі выкарыстаць «Камітэт-58» і арганізацыю «Мартыралога».

Сяргей Навумчык, адзін з удзельнікаў гэтага гістарычнага ў гісторыі беларускага народа сходу, захаваў і выдрукаваў тэкст запрашэньня на сход: *«Арганізацыйная група па стварэньню Беларускага камітэта памяці ахвяраў сталінізму (Камітэт 58) запрашае Вас прыняць удзел ва ўстаноўчым сходзе, які адбудзецца 19 кастрычніка ў 18-00 па адрасу Савецкая, 15 (Дом Кіно, Мінск). На сходзе Камітэта «58» будзе прынята праграма дзеяньняў, статут, выбраны кіруючыя і рабочыя органы»*.

А ў маіх паперах засталіся праекты **Дэкларацыі** «Камітэта-58», **Анкеты** для збору інфармацыі пра рэпрэсаваных ды **Статута** «Беларускага грамадскага гісторыка-асьветніцкага таварыства памяці ахвяр сталінізму — КАМІТЭТ-58». Практычна гэта была першая праваабарончая група, якая меркавала распачаць працу ў Беларусі. Але задачы, якія ад самага пачатку ставіла арганізацыйная група, былі шырэйшыя. Бо асуджэньне сталінізму аўтаматычна азначала асуджэньне існай грамадска-палітычнай сістэмы савецкай Беларусі 80-х гадоў, якая наўпрост базавалася на падвалінах, закладзеных у сталінскія часы. Такім чынам, барацьба са сталінізмам, абвешчаная Камітэтам, азначала і барацьбу зь існым камуністычным рэжымам.

У Статуце «Камітэта-58», выдрукаваным тарашкевіцай,

гаварылася: «*Назва арганізацыі — Камітэт “58” гучыць напамінкам аб адпаведным артыкуле Крымінальнага кодэксу РСФСР, па якім былі несправядліва асуджаны мільёны людзей па ўсіх рэспубліках СССР. Ідэйнай сутнасьцю дзейнасьці Камітэту “58” зьяўляецца гуманізм*». Мэтай «Камітэта-58» абвяшчалася імкненьне «*выявіць, дасьледваць, вывучыць і абазначыць у гісторыі глыбіню трагедыі беларускага народу, што адбывалася ў часы сталіншчыны (20-я — пач. 50-х гадоў) у межах яго дзяржаўнай, гістарычнай і этнічнай тэрыторыі — усюды, дзе жыве беларускае насельніцтва*». У дзейнасьці і дасьледаваньнях «Камітэта-58» меркавалася «*ўлічваць усе нацыянальныя групы жыхароў Беларусі*».

Асноўнымі задачамі «Камітэта-58» называліся:

а) выяўленьне поўнай і праўдзівай карціны масавых забойстваў, рэпрэсіяў і тэрору на Беларусі ў часы сталіншчыны; вывучэньне іх прычынаў і вынікаў;

б) высьвятленьне пайменна колькасьці людзей, што загінулі ў часы рэпрэсіяў, тэрору і вынішчэньня 1920-х — пачатку 1950-х гадоў на Беларусі, на этнічных тэрыторыях, дзе жыве беларускае насельніцтва, а таксама ў месцах яго высылкі і зьняволеньня;

в) стварэньне мартыралогіі насельніцтва Беларусі, пацярпелага ад сталінскага генацыду;

г) увекавечваньне памяці ўсіх бязьвінных ахвяраў сталіншчыны на Беларусі.

«Камітэт-58» дэкляраваў, што ён вядзе наступную дзейнасьць:

«*а) Агітуе грамадзкасьць і мабілізуе грамадзкую думку на стварэньне “Мартыралёгу Беларусі” ў Менску, помнікаў і абэліскаў замучаным і забітым людзям. Выкарыстоўвае пры гэтым грамадзка-палітычныя, культурна-нацыянальныя, маладзёвыя, прафэсійныя рухі, канфэсійную дзейнасьць і іншыя законныя спосабы прапаганды і агітацыі.*

*б) Праводзіць збор сродкаў на помнікі і “Мартыралёг” шляхам дабраахвотных ахвяраваньняў і ўкладаў ад насельніцтва і арганізацыяў на спэцыяльны рахунак Камітэту.*

*в) У выпадку, калі рашэньне аб будаўніцтве мэмарыяльнага комплексу “Мартыралёг Беларусі” будзе прынятае, садзейнічае і ўдзельнічае ў яго праектаваньні і пабудове. Пасьля пабудовы спрыяе яго функцыянаваньню, прымае ўдзел у навукова-дасьледчай працы “Мартыралёгу”.*

*г) Зьбірае любую вусную, пісьмовую, гукавую, відавую і іншую дакумэнтальную інфармацыю, якая датычыць любых фактаў і абставінаў, зьвязаных са сталінскімі рэпрэсіямі, зьнішчэньнем людзей, і падзеяў, што спадарожнічалі палітыцы генацыду 20-х — першай паловы 50-х гадоў, прыймае дакумэнтальную інфармацыю ў дар, па тастамэнце, па актавай перадачы арганізацыі.*

*е) Складае неабходную картатэку зьвестак, матэрыялаў і дакумэнтаў, забясьпечвае іх улік і захаванасьць, стварае даведачныя матэрыялы.*

*ж) Праводзіць дасьледчую і асьветніцкую работу, публікуе дакумэнты, артыкулы, кнігі, арганізуе лекцыі, даклады, дыспуты, спатканьні, выставы, выдае разавыя і пэрыядычныя выданьні, стварае дакумэнтальныя фільмы, спрыяе пранікненьню трагічнай тэматыкі народу ў мастацкую творчасьць. Садзейнічае разьвіцьцю палітычнай, прававой, культурна-нацыянальнай сьвядомасьці грамадзянаў, моладзі ў духу непрыняцьця і асуджэньня палітычнай сістэмы сталінізму і сталіншчыны, прымусовых, гвалтоўных, недэмакратычных метадаў вырашэньня сацыяльных, палітычных і эканамічных праблемаў».*

У Статуце таксама адзначалася, што *«Ганаровымі сябрамі таварыства могуць быць выбраныя асобы, якія нявінна пацярпелі ад рэпрэсіяў, а таксама тыя людзі, што зрабілі істотны ўклад у справу барацьбы са сталіншчынай»*.

«Камітэт-58»таксама меркаваў дбаць пра сваіх сяброў: *«У выпадку адміністрацыйнага, палітычнага, судовага, маральнага і іншага прасьледаваньня за гуманістычную дзейнасьць, накіраваную на ажыцьцяўленьне Дэкларацыі Камітэту і не супярэчную яго Статуту, кожны сябра таварыства атрымлівае грамадзкую калектыўную дапамогу і маральную падтрымку Камітэту “58”»*.

Таксама дэкляравалася, што *«кожны сябра Камітэту “58”, змагаючыся са сталіншчынай, павінен прытрымлівацца гуманістычных прынцыпаў у маралі, культуры, грамадзкай і палітычнай дзейнасьці»*.

У разьдзеле «Узаемаадносіны зь іншымі арганізацыямі» абвяшчалася, што «Камітэт-58» узаемадзейнічае з усімі савецкімі, дзяржаўнымі, палітычнымі, грамадскімі, прафсаюзнымі, творчымі, навуковымі, патрыятычнымі, маладзёвымі, нефармальнымі ды іншымі арганізацыямі, якія будуць падтрымліваць яго дзейнасьць і садзейнічаць ажыцьцяўленьню яго праграмных задачаў.

У праекце Анкеты для апытваньня рэпрэсаваных пазначалася яе мэта:

*«КАМІТЭТ “58” зьвяртаецца да ўсіх, хто памятае аб сталінскіх злачынствах на Беларусі, да тых, хто пацярпеў сам, да тых, чые блізкія, сябры, знаёмыя сталі ахвярамі сталінскага тэрору. Просім Вас паведаміць па магчымасьці поўныя зьвесткі аб лёсе рэпрэсаваных, адказаўшы на пытаньні нашай анкеты. Мы будзем удзячныя Вам ня толькі за адказы на гэтыя пытаньні, але і за ўсе іншыя зьвесткі, паведамленьні ў любым выглядзе і форме. Мы таксама будзем удзячныя Вам за прапановы па працы і дзейнасьці нашага Камітэту»*.

Анкета пачыналася эпіграфам: «Ніхто не забыты, нішто не забыта», вынікі анкетаваньня прасілі дасылаць на адрас газеты «Літаратура і мастацтва» для «Камітэта-58».

Тэкст праекта Дэкларацыі «Камітэта-58» мы вырашылі зьмясьціць цалкам, бо гэта адзін зь першых грамадска-палітычных дакументаў беларускай найноўшай гісторыі, у якім праглядаюцца некаторыя задачы і праблемы, якія будзе вырашаць беларуская дэмакратычная супольнасьць у наступныя гады: барацьба са сталіншчынай азначала барацьбу за дэмакратычную, незалежную, нацыянальна самабытную, праўную Беларусь. Адной з мэтаў Камітэта, прапісаных у Дэкларацыі, ставілася правядзеньне судовага працэсу над Сталіным і сталінізмам як антычалавечай дзяржаўна-палітычнай сістэмай ды ідэалогіяй.

«Камітэт-58» быў правобразам першай праваабарончай арганізацыі ў Беларусі. На жаль, сёньняшняя беларуская дзяржава афіцыйна не асудзіла злачынствы сталінізму, дасюль у Курапатах няма афіцыйнага мемарыяла ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў, таксама дзяржава не ініцыюе навуковых і архіўных дасьледаваньняў, якія б пралілі больш сьвятла на маштабы гэтай сацыяльнай катастрофы, якая абрынулася на беларускі народ у мінулым стагодзьдзі. Больш за тое, кіраўнік дзяржавы неаднаразова станоўча выказваўся пра метады кіраваньня І. Сталіна. Таму Дэкларацыя «Камітэта-58» яшчэ чакае свайго жыцьцёвага ўвасабленьня.

Дэкларацыя «Камітэта-58» лягла ў аснову Дэкларацыі «Мартыралога Беларусі», якая была прынятая на Усебеларускім устаноўчым сходзе грамадскіх прадстаўнікоў па стварэньні таварыства «Мартыралог Беларусі» 19 кастрычніка 1988 года.

## КАНСЬПІРАЦЫЯ

*Успаміны Алеся Бяляцкага пра пачатак беларускага грамадска-палітычнага незалежніцкага руху зьяўляліся на старонках «Бюлетэня Асамблеі НДА» на працягу 2002 года. Сёньня яны надзвычай актуальныя, бо так сталася, што досьвед нелегальнай і паўлегальнай працы «нефармалаў» 80-х можа спатрэбіцца беларускім грамадскім актывістам пачатку XXI стагодзьдзя. А яшчэ гэтыя ўспаміны і зьмешчаныя дакументы зьяўляюцца каштоўнай крыніцай для дасьледчыкаў, якія калі-небудзь будуць вывучаць гісторыю трэцяга сектара Беларусі.*

Пачынаючы ад канца 1970-х гадоў у Беларусі пачалі паўставаць культурна-асьветніцкія моладзевыя суполкі, якія займаліся адраджэньнем беларушчыны ў русіфікаванай за гады савецкай улады рэспубліцы. Гэтыя «нефармальныя аб'яднаньні» можна лічыць пачаткам будучага грамадска-палітычнага руху, які ў 1991 годзе прывёў нашую краіну да незалежнасьці. Іх можна лічыць і пачаткам трэцяга сектара ў Беларусі. Але дагэтуль не было вядома, што «нефармальны» рух фактычна кіраваўся сябрамі беларускай кансьпірацыйнай партыі, якая ўтварылася якраз дваццаць год таму.

Зьбіраючыся на свае «міктараты» (чамусьці гэтак мы называлі нашыя сходкі, якія адбываліся адзін-два разы на месяц ці ў рабочай падсобцы на радыятарным заводзе, дзе тады грузчыкам працаваў Віктар Івашкевіч, ці ў дзіцячым

садку, дзе вартаваў нехта са знаёмых), мы абгаворвалі планы нашай легальнай і нелегальнай працы. Зь легальнай працай усё было зразумела — стварэньне культурніцкіх гуртоў, у якія можна было б адкрыта прыцягваць моладзь, захопленую беларушчынай, альбо нават проста цікаўных людзей, людзей, стомленых брэжнеўскім сацыялізмам, каб там паступова іх апрацоўваць у нацыянальным кірунку. А вось наконт нелегальнай працы было шмат спрэчак і меркаваньняў. Абмяркоўваліся розныя варыянты барацьбы з савецкай сістэмай. Нават памятаю, як адзін зь «міктаратаўцаў» прапаноўваў валіць лініі высакавольтных перадачаў з тым, каб выразна паказаць, што ў Беларусі існуе антысавецкі супраціў. Але гэтая прапанова была адхіленая, бо перамагла думка, што эфект ад такой работы наўрад ці працаваў бы на незалежную Беларусь. Трэба было ўздымаць народ, а чым ты яго ўздымеш апроч як словам? На гэтым і пагадзіліся.

Урэшце, вялася гэтая работа і раней. Усю першую палову васьмідзясятых гадоў дзясяткамі асобнікаў разыходзіліся ў Беларусі адфатаграфаваныя ў Вільні і ўклееныя ў савецкія кніжкі нумары «Калосься» (даваенны заходнебеларускі літаратурна-публіцыстычны часопіс), «Студэнцкай думкі», «Шляху моладзі», хрэстаматыі беларускай літаратуры, складзенай Ігнатам Дварчанінам і Максімам Гарэцкім, кніжкі Натальлі Арсеньневай, Ларысы Геніюш, Ігната Абдзіраловіча, гістарычныя артыкулы М. Прашковіча, працы М. Ермаловіча і г. д. Мне дастаўся адзін з асобнікаў «Расейска-беларускага (крыўскага) слоўніка» Вацлава Ластоўскага, які быў адтыражаваны на ксераксе (ці не ў Наваполацку?).

Для зручнейшай агітацыі вырашылі падрыхтаваць нейкую сваю працу аб Беларусі і мы. Нам увесь час даводзілася адказваць на адны і тыя ж пытаньні, датычныя эканомікі (напрыклад, пра эканамічныя магчымасьці існаваньня Беларусі як самастойнай дзяржавы), гісторыі Беларусі, мовы, літаратуры і г. д. Напачатку 1985 года ў групе людзей былі падзеленыя тэмы. Мне дасталася тэма «Рэлігія і Беларусь». Пасьля двух месяцаў пошукаў і працы ў бібліятэцы свой

разьдзел я зрабіў, але, на жаль, агульная праца так і не была даведзеная да канца.

Прыкладна ў 1983–1984 гадах былі падрыхтаваныя праграма і статут нашай кансьпірацыйнай суполкі, у якой за час існаваньня (я быў далучаны да яе ў 1982 годзе) было недзе каля 12 асобаў.

Суполка амбітна называла сябе партыяй, і, мабыць, самае істотнае ў гэтай сітуацыі — мы сапраўды лічылі сябе партыйцамі. Нашая дзейнасьць і адданасьць справе насамрэч рабілі нас такімі.

Што датычыцца праграмы, то яна была дастаткова незалежніцкай і праеўрапейскай, але, як на сёньняшні мой погляд, аж занадта сацыял-дэмакратычнай. Пад некаторымі тэзамі я б цяпер не падпісаўся, а некаторыя і дагэтуль зьяўляюцца для мяне асноўнымі ў маім грамадскім жыцьці. Але трэба разумець час, калі ствaралася праграма, і разглядаць яе найперш з пазіцыяў таго часу. І тады, калі мала хто ўвогуле думаў, што з Савецкім Саюзам можа штосьці зрабіцца, мы верылі ў незалежную і дэмакратычную Беларусь і бачылі менавіта такім далейшы яе шлях.

Што да статута, то ён быў амаль бездакорны. Адзінае пытаньне, якое, наколькі я памятаю, выклікала спрэчкі, — гэта адказнасьць за здраду. Бо мы ведалі, у якія гуляем гульні, і разумелі, што будзе, калі нават пра нашыя памкненьні, не кажучы ўжо пра нейкія дзеяньні, даведаюцца гэбісты. Урэшце прынялі такую лаканічную фармулёўку:

«Адказнасьць: разгалошваньне таямніцаў караецца максімальна...» Але нам пашанцавала, бо так і не прыйшлося сутыкацца з гэтай праблемай і вырашаць яе.

Адвечная праблема існаваньня кансьпірацыйных суполак падчас рэжымаў і дыктатураў: эфектыўнасьць працы патрабуе павелічэньня складу, а такое пашырэньне непазьбежна прыводзіць да «слабых зьвёнаў» і, у выніку, да правалаў. Наш статут, што акрэсьліваў існаваньне **правадзейных сяброў,** якія былі цалкам пасьвечаныя ў планы і задумы арганізацыі, **кандыдатаў,** што знаходзіліся пад апекай адна-

го зь сябраў, і абавязковая праца ў культурніцкіх суполках, дзе гуртаваліся ўсе далучаныя да беларушчыны, забясьпечвалі нам уважлівы адбор у кандыдаты, а затым толькі частку зь іх — у праўдзейныя сябры. Гэтае «сіта» адбору дазволіла нам праіснаваць ужо з праграмай і статутам каля пяці гадоў.

У патыліцу нам дыхалі гэбісты. У іх, мне здаецца, было разуменьне, у якім асяродзьдзі прымаюцца палітычныя рашэньні разьвіцьця беларускага моладзевага руху, але не было фактаў і доказаў, не было дастатковых каналаў уцечкі інфармацыі, каб прыперці нас да сьценкі. Толькі ўжо ў канцы 1987 года быў схоплены родны брат Віктара Івашкевіча Яўген, які распаўсюджваў выдаваны намі падпольны часопіс «Бурачок». Але, патрымаўшы яго некалькі гадзінаў, гэбісты склалі пратакол, а пасьля Я. Івашкевіча адпусьцілі. Ужо надышлі іншыя часы...

Статут і праграма, раздрукаваныя на папяроснай паперы, былі раздадзеныя кожнаму сябру партыі. Назва статута была замаскаваная такім чынам: «Статут славацкага аб’яднаньня «Млада Фронта», але ў праграме размова канкрэтна вялася ўжо пра Беларусь. Пісалі статут і праграму, наколькі я памятаю, Вінцук Вячорка і Алесь Суша.

Свой асобнік я захоўваў у асьпіранцкім інтэрнаце, які знаходзіўся па вуліцы Акадэмічнай, 3. Прыклеіў яго спадыспаду шпалеры, а затым акуратна падклеіў да сьцяны і саму шпалеру. Пазьней перахоўваў яшчэ дзесьці, пакуль ён канчаткова не зьнік. Цяпер маю толькі ксеракопію з арыгінала, які захаваўся ў Алеся Сушы.

# СТАТУТ СЛАВАЦКАГА АБ’ЯДНАНЬНЯ «МЛАДА ФРОНТА» (1929)

1. Сябрамі «Фронты» могуць быць асобы старэй за 18 год, славакі, якія стала жывуць на тэр. Славаччыны, прызнаюць праграму «М. Ф.», займаюць актыўную нац[ыянальна]-грамадскую пазіцыю, дзеюць у складзе зборкі, плоцяць складкі і паўсюдна на тэр[ыторыі] Славаччыны карыстаюцца славацкаю мовай.

Належаць да кандыдатаў у «М. Ф.» могуць асобы старэй за 18 год. Патрабаваньні гэткія ж, як да правадзейных сяброў, але дзеюць самастойна ў кантакце з адным з сяброў. Кандыдацкі тэрмін чатыры месяцы. Калі кандыдат праявіў сябе станоўча, пасьля працэдуры прыёму ён становіцца правадзейным сябрам.

2. Сябры «М. Ф.» абавязаныя: падпарадкаваць усё жыцьцё дасягненьню канцовых мэтаў «М. Ф.»; браць удзел у зборках (або пасылаць дэлегатаў ад мяйсцовай суполкі); выконваць загады радных органаў; плаціць складкі: пры заробку да 20 крон 50 гелераў, больш як 20 — крону; працаваць у адной са славацкіх культурных установ ці суполак і ўтвараць там палітычнае ядро, ажыцьцяўляючы фактычнае кіраўніцтва (вызваляцца ад гэтага абавязку сябры могуць толькі паводле рашэньня раднага органа); захоўваць належную таямніцу ўва ўсім, што датычыць нутранога жыцьця «М.Ф.».

3. «М. Ф.» — дэмакратычная ўстанова, таму справы яе

вядуць усе сябры на роўных пачатках. Усе бяруць удзел у абмеркаваньнях і адкрытых галасаваньнях.

4. Адказнасьць: разгалошаньне таямніцаў караецца максімальна; невыкананьне загадаў і плянавых даручэньняў вядзе да кары ад 5 кронаў і вышэй; дзеяньні, што кампраметуюць асобу і славацкі рух у вачох грамадзтва, караюцца матар'яльна.

Зборкі правадзейных сяброў адбываюцца раз на месяц. Яны вызначаюць плян дзейнасьці да наступнае зборкі. Зборка на 3 месяцы прызначае каардынатара. Ім можа быць чалавек з ня менш як трохгадовым стажам. Ён вырашае бягучыя пытаньні на пэрыяд паміж зборкамі, арганізуе і вядзе зборкі. Прызначае дзень і час наступнае зборкі і адказнага за падрыхтоўку мейсца.

Рашэньні прымаюцца звычайнаю большасьцяй галасоў і пасьля прыняцьця набываюць моц закону для сяброў. У разе патрэбы галасуюць паўторна. Зборкі правамоцныя, калі ёсьць (прадстаўлена) 2/3 сяброў.

Правадзейныя сябры разам з кандыдатамі арганізуюць дзейнасьць разнастайных славацкіх арганізацыяў і кіруюць ёю беспасярэдне ці пасродкавана. Стратэгічныя пытаньні дзейнасьці такіх арганізацыяў разглядаюцца на зборках «М. Ф.»

Кандыдатаў спраўджаюць у іхняй працы ў такіх арганізацыях або ў выкананьні разавых даручэньняў. Асобы, залічаныя ў кандыдаты на падставе рэкамэндацыі прав[адзейнага] сябра, знаёмяцца з праграмовымі мэтамі «М. Ф.». Рэкамэндавальнікі нясуць пэрсанальную адказнасьць за рэкамэндаваных і апякуюцца імі.

*Правапіс дакумента захаваны.*

# ПРАГРАМА БЕЛАРУСКАЙ КАНСЬПІРАЦЫЙНАЙ ПАРТЫІ («ГРУПА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ»)

Партыя кіруецца адным нязьменным інтарэсам дабра Бацькаўшчыны. П. мае за ідэал суладнае разьвіцьцё як грамадзтва, так і адзінкі. Перадумова суладнага разьвіцьця краіны, грамадзтва, суполкі, сям'і, асобы — самабытнасьць, адрознасьць ад іншых. Гэтая перадумова рэалізуецца пры поўным ажыцьцяўленьні прынцыпу незалежнасьці Бацькаўшчыны. П. мае на мэце чым найпаўнейшае ажыцьцяўленьне прынцыпу незалежнасьці:

- палітычнай, эканамічнае і культурнае незалежнасьці краіны Беларусі ад іншых краінаў у яе этнаграфічных межах;
- незалежнасьці працоўных калектываў і ўсіх іншых суполак ад усялякага змусу, як гарантыі самастойнага выбару мэтаў і характару дзейнасьці;
- незалежнасьці адзінкі, недатыкальнай і непадпарадкаванае, як пачатку яе сьвядомае актыўнасьці і перадумовы еднасьці народу.

**УЛАДУ — НАРОДУ!**

Сьвядомы выбар беларускім народам свае долі — сьвятыня і закон для П. Перадумова сьвядомага выбару — дэмакратычны, справядлівы і разумны дзяржаўны і грамадзкі лад. Дзеля гэтага П. выступае супраць усіх ладаў і ўрадаў, накінутых Бацькаўшчыне чужымі рукамі, бо яны арганічна ня могуць кіравацца сапраўднымі інтарэсамі Беларусі. П. мае на мэце стварэньне Незалежнага ўраду працоўных беларусаў — Нацыянальнага Сойму і органаў мясцовага самакіраваньня — Соймікаў (Радаў). Поўнае і дэмакратычнае прадстаўніцтва ўсяго беларускага народу ў Нацыянальным Сойме і Сойміках гарантуецца:

- свабодай дзейнасьці партыяў, прафсаюзаў, палітычных

і эканамічных суполак і ўсіх іншых беларускіх арганізацыяў;

- свабодай слова, друку, сходаў, мітынгаў, страйкаў, маніфэстацыяў.

П. улічвае патрэбу дзяржаўнае забароны арганізацыяў, якія маюць на мэце гвалтоўнае скасаваньне Незалежнага ўраду працоўных беларусаў.

П. выступае за забарону прапаганды вайны.

**ЗАВОДЫ — РАБОЧЫМ! ЗЯМЛЮ — СЯЛЯНАМ!**

Перадумова шпаркага разьвіцьця народнай гаспадаркі Беларусі — дэмакратычная сацыялістычная эканоміка.

У прамысловасьці П. мае на мэце перадачу ўсіх сродкаў вытворчасьці ва ўласнасьць працоўных калектываў:

- кожны працоўны калектыў ёсьць поўны гаспадар прадпрыемства;

- кожны працоўны калектыў кіруе прадпрыемствам праз выбарную рабочую раду;

- усе рабочыя рады вольныя самастойна вызначаць характар і асартымэнт прадукцыі прадпрыемства, выбіраць партнёраў па каапэрацыі ў краіне і за мяжой, разьмяркоўваць прыбытак, наймаць і звальняць адміністрацыю і г. д.;

- заробак работніка цалкам залежыць ад прыбытку прадпрыемства;

- эксплуатацыя забаронена, сацыяльныя інтарэсы работнікаў бароняць незалежныя прафсаюзы;

- прадпрыемства выплочвае дзяржаве прагрэсіўны падатак.

П. улічвае дзяржаўную патрэбу кіраваньня прамысловасьцю праз галіновае плянаваньне, сістэму крэдытаў, верхні і ніжні бар’еры цэн (дзеля частковага абмежаваньня канкурэнцыі), дапамогу беспрацоўным.

У сельскай гаспадарцы П. мае на мэце перадачу зямлі ва ўласнасьць тым, хто яе абрабляе:

- кожны селянін можа высяляцца з вёскі на хутар і весьці самастойную гаспадарку;

- усе сяляне могуць аб’ядноўвацца ў новыя каапэратывы ці заставацца рабочымі ў буйных калектыўных гаспадарках, выбіраючы дзеля кіраўніцтва рабочую раду на ўзор прамысловых прадпрыемстваў;

- эксплуатацыя забаронена.

П. улічвае патрэбу дзяржаўнага рэгуляваньня продажу зямлі.

**ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ — ПРАЗ ДЭМАКРАТЫЮ!**

П. змагаецца за дэмакратычныя зьмены ў краінах, да якіх цяпер належыць Беларусь. П. лучыцца зь іншымі дэмакратычнымі сіламі Беларусі, стварае і ўзначальвае адзіны фронт. П. аддае перавагу мірнаму шляху здабыцьця незалежнасьці.

Гарантыя захаваньня здабытае незалежнасьці — дэмакратычная і незалежная ад звышдзяржаваў адзіная Эўропа.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ НЯ ЁСЬЦЬ ІЗАЛЯВАНАСЬЦЬ!**

У СССР Беларусь адгароджана штучнай «жалезнай завесай» ад заходніх партнёраў. Толькі незалежнасьць дазволіць ёй наладзіць узаемавыгодныя кантакты з усімі краінамі на роўнапраўнай аснове.

Існаваньне ЕЭС і СЭУ, інтэграцыяў унутры гэтых супольнасьцяў, разьвіцьцё эканамічных кантактаў паміж імі стварае падмурак эўрапейскаму аб’яднаньню. Гэтаму ж спрыяюць нацыяналізацыя прамысловасьці і каапэрацыя сельскай гаспадаркі ў Зах. Эўропе і дэмакратызацыя палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага бакоў жыцьця ва Усх. Эўропе. Па-рознаму, але ўсе эўрапейскія краіны кіруюцца да дэмакратычнага сацыялізму.

Краіны ЕЭС падтрымліваюць саюзьніцкія адносіны з ЗША зважаюча на «савецкую» пагрозу. Нэйтральныя эўрапейскія краіны не ўваходзяць у ЕЭС з боязі быць уцягнутымі ў канфлікт паміж СССР і ЗША. Краіны Варшаўскае дамоўленасьці у саюзе з СССР утрымліваюць савецкія войскі.

Дэмакратычная рэвалюцыя ў СССР і ад[з]ьдзяленьне ад

яго эўрапейскіх рэспублік скасуюць галоўныя перашкоды на шляху стварэньня Адзінай Сацыял-Дэмакратычнай Эўропы.

Узаемаадносіны паміж краінамі Адзінае Эўропы могуць быць наладжаны на ўзор цяперашніх структур СЭУ і ЕЭС*.

*Правапіс дакумента захаваны.*

---

* *СЭУ — «Савет эканамічнай узаемадапамогі» (краіны тагачанага сацыялістычнага лагера), ЕЭС — «Еўрапейская эканамічная супольнасьць». — **Заўв. А. Б.***

# УСЯГО ТОЛЬКІ СУТКІ

17 лістапада ў чацьвер зранку я патэлефанаваў маёру Прузану, начальніку адзьдзела па ахове грамадскага парадку Цэнтральнага раёна Менска. Менавіта ён паўтара месяцы назад забіраў на офісе праваабарончага цэнтра «Вясна» камп'ютарнае абсталяваньне. Папярэдне мы дамовіліся, што той камп'ютар, які належыць асабіста мне, міліцыянты мусяць аддаць менавіта ў гэты дзень. Пасьля маіх настойлівых просьбаў нейкім няпэўным голасам маёр прызначыў сустрэчу на «пасьля абеду». Мяне гэта насьцярожыла, але я сьпісаў яго нехаць на нежаданьне прызнаваць уласныя праколы.

Па камп'ютары паехалі зь Віктарам А., які даглядае нашу апаратуру, і з Алесем Д. на ягонай машыне. Перад гэтым Віця бурчэў: маўляў, што гэта за справы такія, міліцыянты забралі тэхніку, дык няхай самі вязуць яе назад. Мы адкінулі гэты варыянт, бо давялося б чакаць яшчэ некалькі месяцаў, пакуль бы яны прывезьлі камп'ютар. А працаваць трэба.

Маёр Прузан узяў нашыя паперы ды пайшоў да начальніка на зацьвярджэньне, а як потым высьветлілася, не толькі для гэтага. Камп'ютар выставіў ягоны намесьнік, нейкі худы рудаваты маёр, проста на падлогу ў калідоры.

— Забірайце!

— Будзем правяраць, — адказаў я.

— А што там правяраць, калі ён у нас на складзе стаяў?

— А халера яго ведае, што там кадэбэшнікі зь ім зрабілі, — не пагадзіўся я.

Тады маёр знайшоў нейкую разетку на калідоры, дзе Віця і падключыў камп'ютар. Той запрацаваў, і мы гэтым задаволіліся.

— Хадземце расьпіску напішаце, — прапанаваў маёр.

Я пайшоў зь ім, хлопцы панесьлі камп'ютар у машыну. У канцы расьпіскі маёр прапанаваў мне напісаць, што прэтэнзіі да міліцыі я не маю.

— Маю, маю, — адказаў я, — вось хай пракуратура з вамі разьбіраецца, на якой падставе вы забралі маю маёмасьць з кватэры, якую я афіцыйна здымаю.

Маёр сумеўся, але папрасіў пачакаць, бо Прузан, ягоны начальнік, нешта мае да мяне.

Праз пару хвілінаў увайшоў маёр Прузан.

— А зараз, Аляксандр Віктаравіч, — сказаў ён, крыва пасьміхаючыся, — я хачу вам паведаміць «пренеприятнейшее известие»: загадана даставіць вас у Савецкі РАУС.

— Эх, Анатоль Іванавіч, падставілі вы мяне. Хіба не маглі папярэдзіць пра гэта па тэлефоне? — паіранізаваў я.

— А хіба вы не ведаеце, Аляксандр Віктаравіч, што тэлефоны праслухоўваюцца?

«Вось дык і забраў камп'ютар», — падумаў я.

Мы выйшлі з РАУСа. Прузан пайшоў папярэдзіць маіх сяброў пра гэтую «непрыемнасьць», а мы зь яго худым намесьнікам селі ў козьлік і паехалі да завулка Якуба Коласа, 3.

Па дарозе я думаў, што арышт відавочна не ініцыятыва маёра Прузана ці начальніка Цэнтральнага РАУС. «Аперацыя па захопе» распрацоўвалася ў нейкіх вышэйшых колах.

У гэты самы час праходзіў саміт у Стамбуле, куды Лукашэнка паехаў «рубіць акно ў Еўропу», але ягоныя папіхачы тут на месцы не вытрымалі. Атрымлівалася, што я сам ішоў да іх у рукі, а яны ж, мабыць, былі злыя на мяне за тое, што першыя два тыдні пасьля шэсьця 17 кастрычніка ніяк не маглі злавіць. Вось жа зараз вырашылі адыграцца.

У Савецкім РАУСе мяне зарэгістраваў нейкі здаровы, конепадобны старшы лейтэнант. Ягоны сусед, чарнявы капітан, пазнаў мяне.

— Штосьці ўсіх да нас звозяць, — зазначыў ён.

— Бо іншыя РАУСы не хочуць зьвязвацца, — адказаў я.

— Мы ж не вінаватыя, — не хаваючыся, пачаў апраўдвацца ён.

Я шчыра паківаў галавою. Гэта ўжо дакладна, загад пра маё затрыманьне аддавалі пэўна не супрацоўнікі гэтага РАУСа. Мяне пасадзілі спачатку на крэсла ў дзяжурцы. Побач сядзела нейкая кабета, якая бесьперастанку гаварыла. Я прыслухаўся і зразумеў, што яна ціхая вар'ятка. Кабета нібыта камусьці тлумачыла пра сапраўднае лінгвістычнае значэньне расейскіх матаў. Затым мяне адсадзілі ў «абязьяньнік» — закратаваную камеру з вузкімі цэментовымі лаўкамі, якія былі халодныя і на якіх нельга было ніяк прыладкавацца. Разам са мною сядзеў вусаты мужычок у шапцы-«пеўніку», які, як высьветлілася, атрымаў 15 сутак за тое, што паганяў суседку. «Абязьяньнік» лепшы за закрытую камеру тым, што ён праветрываецца і ў ім не так сумна. Можна назіраць за тым, што адбываецца ў дзяжурнай частцы.

Цэлы калейдаскоп асобаў прайшоў перад маімі вачыма. Вось прывялі здаровага, пад два метры, з чырвоным насатым тварам хлопца. Атрымаў сем сутак за парушэньне адміністрацыйнага нагляду пасьля зоны. У скураной кароткай куртцы, у стыльных туфлях, хаця на вуліцы ўжо сьнег. Праз гадзіну прыйшла яго жонка — высокая і вялізная маладая кабета. Прынесла паесьці. Ён стаіць, скардзіцца ёй, што зусім не чакаў такога павароту, лепш бы зусім не пайшоў адзначацца.

— У мяне ў машыне тавару на дзьве тысячы марак, а хто справаздачу складаць будзе? Дакладна з працы пагоняць, — па-сапраўднаму плачацца ён.

А я гляджу на ягоныя вялізныя кулакі, накачаныя вазелінам. Жонка абняла яго, сама сьлязу пусьціла, суцяшае. Хлопец спрабуе патлумачыць усю несправядлівасьць дзяжурнаму міліцыянту.

— А я што? — кажа той. — Мая справа маленькая, не я ж вам суткі даваў.

Затым прывялі трох азербайджанцаў. Гэтых, хутчэй за ўсё, затрымалі за парушэньне пашпартнага рэжыму. Дробныя, порсткія, яны жыва абмяркоўваюць штосьці па-свойму. Неўзабаве да аднаго зь іх прыходзіць жанчына — маладая мажная бялявая кабета. Прынесла паесьці.

— Ну што, — жартуюць дзяжурныя, — калі да мужа паедзеш жыць?

— Ні за што, — адказвае яна, — у іх там вайна.

— Едзь, едзь, — працягвае старшы лейтэнант, — будзеш умацоўваць іхні род.

— Не, хай лепей ён мой умацоўвае, — адказвае кабета.

— А колькі вы знаёмыя? — пытаецца міліцыянт.

— Тры гады, — адказвае кабета, — ужо пажаніліся б, але праз Маскву ніяк пашпарт атрымаць не можам.

У дзяжурку прыводзяць маленькага кашлаценькага мужчыну. Той адразу пачынае грукаць у дзьверы, нечага дабівацца.

— Васілеўскі, чаго ты хочаш? — пытаецца дзяжурны.

— У прыбіральню трэба, старшой, пусьці! — крычыць мужчына.

Дзяжурны адводзіць яго. Празь пятнаццаць хвілінаў зноў чуецца грукат у дзьверы камеры.

— Старшой, адчыні!

— Васілеўскі, не бычыся! — у адказ крычыць дзяжурны.

— Вядзіце мяне да маёра Белага! — патрабуе Васілеўскі.

— Ён ужо два гады як на пенсіі, — адказвае дзяжурны, — будзеш шумець, пастаўку зраблю.

Васілеўскі «пастаўку» баіцца, і таму адразу супакойваецца.

А вось прывялі п’янага хлопца гадоў трыццаці. Ён хутка прыходзіць у сябе і пачынае «касіць».

— Начальнік, жывот рэжа, не магу, язва ў мяне.

— Косіш, — робіць заўвагу дзяжурны, — не плач. Зараз выклічу «хуткую», яны табе таблетку дадуць.

Прыязджае «хуткая».

— Кладзіцеся, — загадвае доктарка.

Хлопец павольна, скрывіўшыся, кладзецца. Задзірае куртку — увесь ягоны жывот расьпісаны мастацкімі татуіроўкамі.

— Моцна баліць, — скардзіцца хлопец.

— Ну і дух ад цябе ідзе, — заўважае доктарка, — меней гарэлку жлукціць трэба. Я калі вып'ю, у мяне таксама галава баліць.

Яна мацае хлопцу жывот.

— Во, якая карцінка, — заўважае дзяжурны, — ану, пакажы, што там вышэй.

— Потым, — адказвае той.

— Дайце яму ўкольчык, — просіць дзяжурны ў доктаркі.

— Не маю права, — адказвае яны, — мы жываты не абязбольваем.

Хлопец чуйна прыслухоўваецца да таго, як вырашаецца ягоны лёс.

— Я б яго не забірала, — кажа доктарка медсястры, — але адказнасьць на сябе браць не хачу, калі раптам што здарыцца, таму павязём.

Дзяжурны яўна здзіўлены такім паваротам. А хлопец працягвае «касіць» — зь цяжкасьцю спаўзае з лавы. Яму даюць у суправаджэньне двух апяроў — у скуранцы і вязаных шапках.

— Прывезяце, — аддае загад дзяжурны, — руку да біла ложка, а нагу да батарэі прышпіліце, — і дае ім дзьве пары кайданкоў. «Касцу», мабыць, пагражае крымінальны артыкул.

Невысокі чарнявы капітан час ад часу падбягае да мяне і пытаецца:

— Ну што, ці ж гэта не дурдом?

— А чаго ж, — адказваю я, — хто на што вучыўся.

Час ад часу прыходзяць зьмены міліцыянтаў, здаюць зброю ці, наадварот, узбройваюцца. Іх на дзіва шмат. На вуліцы ідзе сьнег. У міліцыянтаў засьнежаныя шапкі і боты.

Мяне вядуць да начальніка райадзьдзела. Гэта невысокі, таўставаты вусаты мужчына. Сядзіць за сталом, на якім

маленькі чырвона-зялёны сьцяжок. На сьцяне вісіць глянцавы, бліскучы Лукашэнка. Жоўтае сьвятло адбіваецца акурат ад ягонае лысіны. Начальнік апрануты ў цывільнае. Зь цікавасьцю разглядае мяне і падпісвае складзеныя пратаколы.

— Ці ёсьць якія пытаньні? — зьвяртаецца ён.

— Ёсьць просьба, — адказваю, — выпішыце позву і адпусьціце мяне дадому.

— А вы зноў будзеце ад нас хавацца, — пасьміхаецца начальнік, — не, не магу.

— А хіба я ад вас хаваўся? Хіба вы мне хоць адну позву прысылалі, перадавалі ці што? — пытаюся я.

Начальнік недаверліва круціць галавой, і мяне зноў адводзяць у «абязьяньнік».

Дзяжурныя нешта ажыўлена абмяркоўваюць.

— Трупавозка не хоча забіраць, — абураецца старшы лейтэнант, — кажуць, па ім паразіты так і скачуць... Маўляў, пакуль не прадэзынфікуеце, браць не будзем. А ён ужо тры гадзіны ў пад’езьдзе ляжыць.

Я зразумеў, што размова ідзе пра нейкага памерлага бамжа. Урэшце дзяжурныя выклікалі двух маладых аператыўнікаў і паслалі іх на машыне на санэпідэмстанцыю па дыхлафос.

У гэты час у дзяжурцы зьявіўся малады мент. З хлопцамздаравяком. Хлопца пасадзілі недалёка ад мяне, а мент перадаў пратакол дзяжурнаму. Той аднекваўся, не хацеў браць.

— Нашто мне пратакол, я яго пад запіс прыму.

Мент настойваў, а затым сышоў.

— За што ён цябе затрымаў? — спытаўся старшы лейтэнант.

— А я ведаю? — адказаў хлопец. — Напэўна, на глебе асабістай непрыязьні. Я студэнт, вучуся на пятым курсе, а ён сямейны курсант, жыве ў нашым інтэрнаце. Зраніцы мы зь сябрамі выпілі на дваіх дзесяць пляшак піва, бо ўчора быў дзень студэнта, пахмяліліся, але ж гэта было даўно. Цяпер я цьвярозы. А ён са сваім братам завёў мяне ў спартзалу і

пачаў біць. Я не адказваў. Хаця калі б мазануў, дык абодвух бы там вырубіў. А ён выклікаў міліцыю і прывёў мяне сюды.

— Добра, студэнт, — старшы лейтэнант падышоў да хлопца. — За столькі гадоў я п'янага ад цьвярозага адрозьніваць навучыўся. Нешта ты сапраўды на п'янага не падобны.

— А я не п'яны, таварыш палкоўнік, — горача падтрымаў яго студэнт.

— Ды не палкоўнік я, — засаромеўся дзяжурны.

— Дык будзеце ім, — адказаў студэнт, — а я — дружыньнік вашага раёна, вось мае корачкі, — студэнт палез у кішэню і дастаў нейкую паперчыну.

Тыльныя дзьверы ў дзяжурцы адчыніліся, адтуль выйшаў чарнявы капітан.

— Дэзынфекцыя зачыненая, дыхлафосу не дасталі, — паскардзіўся ён, — паеду дамоў, у мяне недзе балончык ёсьць.

— Зайдзіце ў райадзьдзел, вазьміце мех заадно, — параіў старшы лейтэнант.

Капітан выйшаў.

Па рацыі перадалі, што на плошчы Якуба Коласа сабраліся дзьве групы, паміж якімі ідзе бойка. Дзяжурны паслаў туды машыну. Неўзабаве прывезьлі аднаго маладзёна, п'янага, з разьбітымі вуснамі.

— Ну, а ты як сюды патрапіў?

— Дык дзень студэнта ж, — адказаў той.

— Дзень студэнта ўчора быў, — паправіў яго міліцыянт.

— Так, — пагадзіўся студэнт.

— На якім ты курсе? — дзяжурны пачаў запісваць у сваю кнігу

— На пятым, — адказваў хлопец, зь цяжкасьцю варочаючы языком.

— Часова прапісаны? — працягваў задаваць пытаньні міліцыянт.

— Так, а жыву ў Пінску. Прозьвішча маё Палішчук.

Хлопец сядзеў хістаючыся, да яго паступова даходзіла, куды ён патрапіў. Ён пачаў плакаць і прасіцца:

— Айцы дарагія, выпусьціце мяне!

— Сядзі, цьверазей, — адказаў яму дзяжурны, — выпусьціш цябе, дык ты яшчэ ўвалішся куды і замерзьнеш.

Хлопец настойліва прасіўся:

— Я вам манітор камп'ютарны адрамантую. Дзень — і манітор гатовы. Дайце мне якую-небудзь работу, толькі выпусьціце мяне.

Дзяжурны пісаў, не зьвяртаючы на яго ўвагі.

— Хадзі сюды, — паклікаў дзяжурны першага студэнта, — расьпішыся вось тут. Заўтра прыйдзеш зраніцы, пойдзеш да начальніка і патлумачыш яму, як ты сюды трапіў. Што рабіць з табою, вырашаць будзе ён, а я напісаў, што стан ап'яненьня ў цябе не прасочваецца.

Шчасьлівы студэнт вылецеў зь дзяжуркі, затое другі заплакаў яшчэ мацней.

— Чаго равеш? — запытаўся ў яго міліцыянт.

— Я ж у КДБ думаў ісьці працаваць, — румзаў студэнт.

— Трэба было спачатку ісьці, а пасля гарэлку піць, — стаў павучаць яго дзяжурны.

— Мяне б туды па блаце ўладкавалі, — спрабаваў растлумачыць яму хлопец.

— Толькі нас, бедных міліцыянтаў, нікуды па блаце не бяруць, — заўважыў сам сабе дзяжурны.

Неўзабаве зьявіўся чарнявы капітан, які езьдзіў дадому па дыхлафос.

— Усё пуцём, — сказаў, струшваючы зь сябе вільготны сьнег. Амаль адразу за ім ішлі два сяржанты — канвой.

Нас вывелі па два чалавекі і рассадзілі ў розныя адзьдзяленьні аўтазэка. Я са сваім сукамернікам трапіў у так званы «стакан». Маленькае агароджанае адзьдзяленьне на два месцы. Вакол нас была суцэльная настылая — не прытуліцца — бляха. Мы паехалі «катацца» па Менску і зьбіраць іншых небаракаў. Бензіну ў міліцыі не хапала, і ўсіх «сутачнікаў» ды «іваэсьнікаў з розных раённых адзьдзяленьняў зьбіраў адзін вячэрні аўтазэк.

У Першамайскім РАУСе ў наш «стакан» падсадзілі худога невысокага хлопчыка, які сеў да нас на калені.

— А цябе за што? — спытаўся мой сусед.

— За грабёж, — адказаў той.

— А колькі ж табе гадоў? — зьдзівіўся сусед.

— Чатырнаццаць, — адказаў хлопец.

Выглядаў ён гадоў на дванаццаць, не болей.

Потым мы заехалі на Дабрамысьленскую, да ізалятара часовага ўтрыманьня, дзе прастаялі больш за гадзіну і задубелі канчаткова.

Калі аўтазэк пасьля чатырох гадзін язды па горадзе дабраўся да акрэсьцінскага ізалятара, мы заходзілі туды амаль як у родны дом. Наперадзе нас чакала цёплая камера і драўляныя нары, на якіх ўрэшце можна было выспацца.

Мяне пасялілі асобна, выдзеліўшы чацьвёртую «хату», дзе я вольна разьмясьціўся і з асалодаю заснуў.

Я праспаў праверку, адно толькі чуў, як у камеру зазірнуў дзяжурны. Варухнуў нагою, каб паказаць, што жывы, і працягваў спаць далей. Разбудзілі мяне а дзясятай гадзіне. Зайшоў мардаты прапаршчык, які загадаў хутка зьбірацца, бо ўжо чакала машына. Гэта быў іншы аўтазэк. Мяне не зачынілі, а пасадзілі на асобнае крэсла паміж закратаванымі катухамі.

— За што гэта вас? — запытаўся прапаршчык.

— За 17 кастрычніка, — адказаў я.

— Відаць, вы там вялікі бугор, — пасміхаючыся, працягваў міліцыянт гаворку.

— Не тое каб надта, — адказаў я.

— Ну, і што толку, чаго вы дабіваецеся? — не змаўкаў ён. — Былі б вы пры ўладзе, і пры вас было б тое самае.

— Наўрад ці, — адказаў я, — прынамсі, саюза з Расіяй не было б дакладна.

— А што Саюз? — працягваў прапаршчык. — За Саюзам я сто сорак рублёў атрымліваў, і мне хапала.

— Пра той Саюз можаце забыцца, — цьвёрда адказаў я, ведаючы, што бессэнсоўна пераконваць яго ў наканаванасьці на пагібель той дзяржавы: не зразумее і не захоча разумець. — Два разы ў адну і тую ж ваду не ўвойдзеш...

Трэба думаць пра будучыню. А я не хачу, каб мае дзеці ваявалі ў Чачні.

— І я не хачу, — падтрымаў мяне прапаршчык.

«Значыць, не ўсё так кепска», — падумаў я.

У Савецкім РАУСе мяне ўжо чакалі, амаль адразу капітан Лявановіч пераняў мяне, і мы пайшлі, вось дык нечаканасьць, у міліцэйскі «форд», на якім і паехалі ў апорны пункт на Камароўку, дзе таксама знаходзіўся кабінет судзьдзі. Пасьля настылага бляшанага аўтазэка мяккі «форд» зь цёплым паветрам. Занадта вялікі кантраст, каб не заўважыць пераменаў, што адбыліся за лічаныя хвіліны.

У апорным пункце мяне завялі ў адзін зь міліцэйскіх кабінетаў, дзе пратрымалі хвілінаў дзесяць, а потым паведамілі, што судзьдзя занятая, таму сёньня суд адкладаецца, і мне выпішуць позву на аўторак. Я адчуваў, што гэта будзе лепей, хаця не зусім разумеў, чаму яны мяне выпускаюць. І толькі праз некалькі дзён мне распавялі, што размова пра маё затрыманьне была з Латыпавым (міністр замежных справаў Рэспублікі Беларусь) у Стамбуле, дзе тады праходзіў стамбульскі саміт краінаў АБСЕ. Гаварыў пра гэта нехта з даволі адказных асобаў, і менавіта адтуль, з акружэньня Лукашэнкі, паляцеў сігнал у Менск: выпусьціце! Ад граху падалей!

Ускосна гэта пацьвердзіла і судзьдзя, якая на званок адвакатцы сказала, што маю справу яна і ў вочы не бачыла. Значыць, міліцыянты яе проста не перадавалі, а, завёўшы мяне ў свой кабінет, вытрымалі дзеля прыліку некалькі хвілінаў і адпусьцілі, каб разабрацца са мною пасьля заканчэньня саміту ў Стамбуле.

Я прайшоў праз людную Камароўку, праз рады, заваленыя яблыкамі і хурмой, па прасьпекце Скарыны да ўправы Беларускага народнага фронту, і так прыемна было адчуваць сябе вольным. Не менш прыемна, чым было папярэдне два разы за гэты год, калі сядзець даводзілася па дзесяць сутак.

Суткі, усяго толькі суткі пратрымала мяне ў сваіх абдымках карная машына нашай хворай дзяржавы. У хворай дзяр-

жавы не можа быць здаровая міліцыя, пракуратура, суд, прыёмнікі-разьмеркавальнікі і турмы.

Тут усё праіржавела і разьедзена іржой. І гэта ўсё, прыйдзе час, нам трэба будзе зьмяняць як найхутчэй. Бо існаваньне чалавека ў падобных умовах — гэта ганьба для дзяржавы, гэта сорам для ўсіх нас.

Я часта думаю пра тое, што ўсё, што ў нас адбываецца зараз, — гэта толькі прэлюдыя, гэта толькі запеў, ён часовы, а сапраўдная наша праца, сапраўднае змаганьне за чалавечую годнасьць, за Беларусь, пачнецца пасьля. Пасьля таго, як... І тады нам давядзецца па-сапраўднаму даказваць, чаго мы вартыя. Дэмакратычныя зьмены ў грамадстве, незалежная Беларусь — вось тое поле, дзе пачнецца праўдзівая работа, і дай нам Бог розуму зрабіць ўсё па-людску, як належыць.

*Бюлетэнь «Права на Волю», № 22–24, 1999 год.*

# 15 ГАДОЎ «ВЯСЬНЕ» — 15 ГАДОЎ ЭКСТРЫМУ

Вясна 1996 года запомніцца назаўсёды шэрагам буйных спантанных акцыяў, якія прайшлі ў «сьведамым» Менску, бунтам вольнасьці незадаволеных менчукоў саўгаснай палітыкай маладога тады яшчэ, але па-савецку дрымучага Лукашэнкі. Сёньня цяжка паверыць, але за тры-чатыры гады — з 1990 па 1994 — людзі адчулі смак свабоды. І ў 1994-м я быў перакананы, што адваротнага шляху ўжо няма, што немагчыма ізноў заклеіць людзям рты, прымусіць баяцца, замоўкнуць і пакорліва схіліць голаў, як гэта было пры саветах.

Цяпер ужо, ацэньваючы той час, прыходзіш да высновы, што, сапраўды, каштоўнасьці свабоды, дэмакратыі былі прышчапіліся, можа, да траціны грамадства. У Менску было яшчэ весялей, а дзесьці — пагорай. Большасьць жа людзей яшчэ знаходзіліся ў палоне савецкіх стэрэатыпаў. Як пісаў некалі Янка Купала, «Пакрыўленыя колісь нашы душы Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ». Саветы семдзесят гадоў агнём і жалезам выхоўвалі зь беларуса новага савецкага чалавека. І шмат што ім у гэтым удалося. Таму і Лукашэнка са сваімі непрыхаванымі савецкімі папулісцкімі лозунгамі шмат каму прыйшоўся да душы.

Падтрыманы на выбарах у 1994-м, Лукашэнка быў не ўспрыняты маладой беларускай палітычнай элітай. Ужо былі праведзеныя ганебныя рэферэндумы, была адноўленая савецкая сімволіка, былі зьбітыя дэпутаты, якія спрабавалі стрымаць яго, хутка выбудоўвалася прэзідэнцкая «вертыкаль».

Абраны ў 1995-м новы склад Вярхоўнага Савета, здаецца, без фракцыі БНФ павінен быў бы быць больш згаворлівым, але ж не. Незалежную пазіцыю, адмяняючы лукашэнкаўскія ўказы адзін за другім, заняў Канстытуцыйны Суд. У паветры ўжо пахла адкрытым супрацьстаяньнем. Вялізнае абурэньне выклікалі ў актыўнай частцы грамадства падпісаныя саюзныя дамовы і заявы Лукашэнкі пра аб'ядканьне Беларусі з Расіяй.

5 красавіка 1996 года за свой эпатажны перформансны вершык «Убей президента», напісаны сьпецыяльна па-расійску, у форме гратэскнай агіткі, за краты патрапіў паэт Славамір Адамовіч. Улады і КДБ успрынялі гэта сур'ёзна і паказалі поўную адсутнасьць гумару. Мала што арыштавалі Славаміра, дык яшчэ 24 красавіка правяліператрус у «Нашай Ніве». Паэт сатырычна заклікаў:

Убей эту мразь авторучкою,
иль зонтиком, или «пером»,
иль вовсе ма-аленькой штучкою,
подброшенной в терпкий ром.

Хаця зараз, перачытваючы гэты верш, разумею, што там былі і прароцкія радкі:

Убей же врага, чтобы молодость
твоя не осталась в дерьме,
чтоб Край наш
воспрянул с гордостью
во славе, а не в ярме!

Такім чынам заклікаў Славамір да актыўнага грамадзянскага супраціву, у іншым выпадку прарочачы «молодость в дерьме».

Хто ж тады мог уявіць, што гэты старшыня саўгаса зь сіпатым голасам, які так любіў выступаць у Вярхоўным Савеце па справе і безь яе, учэпіцца за ўладу рукамі ды нагамі, ды так надоўга...

І яшчэ адступленьне: пасьля 19 сьнежня і гэтай ганебнай справы супраць кандыдатаў у прэзідэнты і сотні пeратрусаў у офісах грамадскіх актывістаў, праваабаронцаў і журналістаў, і ў той самай рэдакцыі «Нашай Нівы» — почырк КДБ за гэтыя пятнаццаць гадоў так і не зьмяніўся... але абшар узрос, які абшар!!! Сядзелі гаўнюкі, якія на пачатку дзевяностых заціхарыліся, схаваўшыся ў кабінетах, затым вылезьлі і нарасьцілі новых такіх самых.

Ад самага пачатку 1996 года мы, дэпутаты Менскага гарадскога Савета, якія зьяўляліся актывістамі БНФ, неаднаразова заяўлялі пікеты, мітынгі, дэманстрацыі, акцэнтуючы ўвагу ў заяўках на парушэньнях уладамі грамадзянскіх і палітычных свабодаў. Прычым рабілі гэта ў тэрміновым парадку. Зараз цяжка згадаць дакладныя матывы кожнай з гэтых акцыяў, на жаль, тэксты заявак у мяне не захаваліся. Даволі часта іх падпісваў я, бо ў мяне, у адрозьненьне ад дэпутатаў-фронтаўцаў Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня, яшчэ захоўвалася дэпутацкая недатыкальнасьць і судзіць мяне ў адміністрацыйным парадку, як і іншых дэпутатаў-фронтаўцаў, можна было толькі з дазволу сесіі Менгарсавета. Таму ў 1995 і першай палове 1996 года я падпісваў як арганізатар і браў удзел у дзясятках пікетаў. І нягледзячы на тое, што пасьля акцыяў неаднаразова затрымліваўся, ніводнага разу Менгарсавет не даваў дазволу на прыцягненьне мяне за арганізацыю «несанкцыянаванага мерапрыемства» да суду.

Але захаваліся некаторыя адказы гарвыканкама. Так, 22 лютага 1996 года дэпутату Менгарсавета А. Бяляцкаму і грамадзяніну А. Чахольскаму (і я, і Алесь Чахольскі былі на той час сакратарамі Управы БНФ) за подпісам старшыні Менгарвыканкама У. Ярмошына было адмоўлена ў правядзеньні «22 лютага з 11.00 да 13.00 на плошчы Незалежнасьці пікетаваньня ў форме дэманстрацыі» з прычыны парушэньня парадку падачы заяўкі. Ужо і не памятаю, зь якой нагоды мы зьбіраліся пікетаваць.

Набліжалася вясна, і палітычны клімат у краіне гарачэў. Вясной 1996-га Лукашэнка вырашыў даць бой вулічнай дэ-

макратыі. І калі акцыі 15 сакавіка (дзень Канстытуцыі), 24 сакавіка (сьвяткаваньне дня Незалежнасьці) і 2 красавіка (дэманстрацыя пратэсту супраць саюзнай дамовы) прайшлі адносна спакойна, дык 26 красавіка на Чарнобыльскі шлях міліцыя атрымала дазвол на гвалт.

24 сакавіка было шматлюднае шэсьце з плошчы Незалежнасьці да Опернага тэатра, дзе адбыўся мітынг. Сяргей Антончык абвясьціў збор грошай Лукашэнку на білет да Масквы. Затым маніфестацыя перамясьцілася да будынка тэлерадыёкампаніі на вуліцы Чырвонай з патрабаваньнем прадастаўленьня адкрытага тэлеэфіру. Прэса і тэлевізія браліся Лукашэнкам пад кантроль, і Дзень Незалежнасьці сумясьцілі з асноўным пасылам — свабоду прэсе! З той акцыі захаваўся здымак, дзе мы стаім каля тэлерадыёкампаніі з паэтамі Эдуардам Акуліным і Міхасём Скоблам і нашай сяброўкаю Натальляй Кавалеўскай. Маладыя, пад бел-чырвона-белым сьцягам. Тэлеэфір тады, вядома ж, не далі, а пачалі пошук і перасьлед Зянона Пазьняка, які тады выступаў на мітынгу з патрабаваньнямі доступу да тэлеэфіру. Ён мусіў зьехаць зь Беларусі і распачаць міжнародную кампанію інфармаваньня пра падзеі, што адбываліся ў Беларусі.

Зноў жа ў мяне захавалася позва суда Маскоўскага раёна, дзе мяне 26 сакавіка 1996 года выклікалі ў суд па справе «аб парушэньні Бяляцкім арт. 167 КаАП РБ». Мабыць, гэта была спроба прыцягнуць мяне да адказнасьці за дэманстрацыю і мітынг 24 сакавіка, якая пачыналася з плошчы Незалежнасьці, што тэрытарыяльна адносіцца да Маскоўскага раёна.

Тады ж, 24 сакавіка, заклікалі ўсіх сабрацца 2 красавіка, каб выступіць супраць меркаванага падпісаньня Лукашэнкам і Ельцыным Дамовы пра ўтварэньне «Супольнасьці Расіі і Беларусі». 1 красавіка на ўправе БНФ гарадская пракуратура правяла ператрус і канфіскавала ўлёткі, якія заклікалі на акцыю 2 красавіка.

На 29 сакавіка, пратэстуючы супраць магчымага падпісаньня Дамовы, я і Лявон Баршчэўскі падалі заяўку на пікет

каля расійскай амбасады. Заява на пікет падавалася менш чым за 10 дзён, бо весткі пра пра пісаньне гэтай ганебнай згоды з Расіяй прыйшлі зусім нечакана і мы мусілі дзейнічаць як найхутчэй. Таму ў правядзеньні пікету нам усё тым жа старшынёй Менгарвыканкама У. Ярмошыным было адмоўлена. Прычым цікавым было абгрунтаваньне гэтай адмовы, у якой прыводзіцца ацэнка ўладамі мітынгу і дэманстрацыі, якія адбыліся 24 сакавіка. Прывяду цалкам яе тэкст:

«На ваш зварот аб правядзеньні 29 сакавіка 1996 года каля будынка амбасады Расіі зь 10.00 да 17.00 пікетаваньня (у форме дэманстрацыі) паведамляецца, што ў адпаведнасьці з Палажэньнем пра парадак арганізацыі і правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і дэманстрацыяў, зацьверджаным Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 04.04.1988 (першыя мітынгі і дэманстрацыі ў 1987 і 1988 гадах тады яшчэ моладзевых нефармальных суполак прымусілі бээсэсэраўскія ўлады прыняць такі Указ, дарэчы, больш ліберальны ў параўнаньні зь сёньняшнім Законам аб парадку правядзеньня мітынгаў. — ***А. Б.***), заява павінна быць пададзеная ў выканаўчы камітэт па ўстаноўленай форме не пазьней чым за 10 дзён да мяркуемай даты правядзеньня мерапрыемства.

Вамі ўстаноўлены парадак аб правядзеньні дэманстрацыі не захаваны. Апроч таго, 24 сакавіка 1996 г. удзельнікамі санкцыянаванага мітынгу былі дапушчаныя факты грубага парушэньня грамадскага парадку — збор на пл. Незалежнасьці і шэсьце па праезджай частцы пр-та Ф. Скарыны, непадпарадкаваньне законным патрабаваньням, супраціў работнікам міліцыі і нават агрэсіўныя дзеяньні ў адносінах да іх, спроба гвалтоўна патрапіць у ахоўваемы будынак тэлецэнтра па вул. Камуністычнай, публічныя зьняважлівыя выказваньні ў адрас вышэйшых службовых асобаў Рэспублікі і заклік да захопу ўлады гвалтоўным шляхам ды інш.

Гэтыя супрацьпраўныя дзеяньні, якія пацягнулі за сабой парушэньне правоў і ахоўваемых законам інтарэсаў грамадзянаў, спыненьне грамадскага транспарту, прынясеньне знач-

най матэрыяльнай шкоды гарадской гаспадарцы, утрымліваюць прыкметы крымінальна каральных дзеяньняў.

У сувязі з гэтым пракуратурай горада 27.03.96 г. узбуджаная крымінальная справа, праводзіцца расьсьледаваньне з мэтаю выяўленьня вінаватых асобаў, прыцягненьне іх і арганізатараў мітынгу да прадугледжанай законам адказнасьці, а таксама спагнаньню зь іх прынесенай гарадской гаспадарцы шкоды.

Згодна з арт. 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаваю гарантуецца свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і дэманстрацыяў, калі пры гэтым не парушаецца правапарадак і правы іншых грамадзянаў Рэспублікі Беларусь.

Паколькі грамадска-палітычныя рухі, да якіх адносіцеся і вы, не толькі не забясьпечваюць падтрыманьне адпаведнага парадку сярод удзельнікаў мітынгу, але і ўцягваюць людзей у супрацьпраўныя дзеяньні, правядзеньне дэманстрацыі (пікетаваньне) каля будынка амбасады Расіі **вам забараняецца**».

Наколькі зараз памятаю, пікет мы ўсё ж правялі. Нас зь Лявонам як арганізатараў адразу ж пацягнулі ў суд Цэнтральнага раёна, які тады знаходзіўся непадалёк ад расійскай амбасады на вуліцы М. Багдановіча, яго асудзілі, а мяне, як дэпутата, вымушаныя былі адпусьціць.

2 красавіка быў не зусім зручны працоўны дзень — аўторак, і я меркаваў што шмат людзей не будзе, але памыліўся. Было адчуваньне роспачы і холаду ў сэрцы. Штосьці падобнае я ўжо перажываў двойчы — падчас рэферэндуму ў 1995 годзе супраць нацыянальнай сімволікі і яшчэ раней — пасьля абвяшчэньня вынікаў першага туру прэзідэнцкіх выбараў у 1994-м, калі стала зразумела, што выйграе Лукашэнка. Страта незалежнасьці адчулася людзьмі як пагроза, таму людзі прыйшлі.

Мы зь Лявонам Баршчэўскім і Анатолем Крываротам спазьняліся і ішлі дзесьці ў канцы людской плыні, якая сьцякалася да галоўпаштамта, дзе было прызначана месца збору дэманстрантаў. Але там міліцыя перашкодзіла выбудове галавы калоны, і плынь нечакана разьвярнулася назад. Арга-

нізатары апынуліся ў канцы, а мы — наперадзе. А ў мяне яшчэ ў торбе быў мегафон. Дастаўшы яго, я і Лявон павялі калону немаведама куды — наперад. Людзей сабралася тысячаў дваццаць — дваццаць пяць. Мы ішлі па прасьпекце, затым пайшлі па Варвашэні, спыніліся за піўным броварам, коратка выступілі я з Антончыкам. Затым гэты момант з дэманстрацыі, дзе я размахваю рукою і штосьці вымаўляю ў мегафон, паказала расійская тэлевізія.

Памятаю, як да мяне падбег начальнік адзьдзела аховы грамадскага парадку Цэнтральнага раёна, някепскі на той час такі капітан, які ўжо прыходзіў да мяне ў музей разьбірацца па фактах майго неаднаразовага затрыманьня на пікетах. Мы зь ім былі мірна размаўлялі, я адбіваўся ад яго сваім дэпутацкім пасьведчаньнем, ён распавядаў, што вычытаў у «Свабодзе», а тут яго, у шлеме і бронекамізэльцы, спатнелага, калаціла буйнымі дрыжыкамі. Я супакойваў яго, сказаў, што нічога страшнага не будзе.

Пастаяўшы крыху і дачакаўшыся, каб калона падцягнулася, мы вырулілі на вуліцу Багдановіча. І тут адбылася сутычка са Статкевічам, які спрабаваў з групаю бэзэвэўцаў, сярод якіх маячыў мой знаёмы Сяржук Чыслаў, перахапіць ініцыятыву па правядзеньні калоны і загадаў ім выхапіць у мяне мегафон, што напачатку ім і ўдалося. Але падчас штурханіны з фронтаўскай дружынаю мегафон мне ўсё ж удалося адбіць, што і вырашала далей, хто і куды павядзе калону. Затым быў другі напад бэзэвоўцаў на мяне і Лявона Баршчэўскага, і мегафон у мяне ўсё ж адабралі.

Перад мостам над Нямігай мы з Баршчэўскім заклікалі ўсіх зьвярнуць направа да Палаца спорту, а Мікола са сваёй групаю махаў рукамі, каб народ ішоў за імі, пад мост, дзе ўжо чакалі ланцугі міліцыянтаў. Страшна было падумаць, што там магло б зрабіцца у гэтай катлавіне з высокімі берагамі, калі б калона пайшла за ім. Але пэўны час павагаўшыся, людзі павярнулі да Палаца спорту, дзе мы і правялі мітынг. Падчас мітынгу я падышоў да Статкевіча і вырваў свой мегафон. Пасьля гэтага мы зь Міколам не размаўлялі гады тры.

Але Марш Свабоды ў 1999 годзе, у арганізатарах якога мы былі, ізноў прымірыў нас.

26 красавіка быў працяг. На плошчы Якуба Коласа сабралася вялізная грамада людзей. Тысячаў сорак-пяцьдзясят. Трэба сказаць, што падчас «адноснай дэмакратыі» ў гадах 1992–1994 вулічныя акцыі пасьля шматтысячных мітынгаў пачатку 1990-х зьмяльчэлі. Ніхто іх не забараняў, палітычныя пытаньні збольшага вырашаліся ў сьценах парламента. Памятаю, як на адзін зь мітынгаў, які праводзіўся ў траўні ці то ў чэрвені ў Курапатах напачатку 90-х, сабралася мо якая тысяча-паўтары людзей. І затым, каб не расчараваць сабраных, арганізатары на чале зь Зянонам Пазьняком павялі калону праз увесь горад да помніка Максіму Багдановічу. Тады прайшлі гэты доўгі шлях пад сьцягамі, з транспарантамі, стаміліся, але людзі былі задаволеныя.

Чарнобыльскі шлях ізноў жа праходзіў пад лозунгамі супраць саюзу з Расіяй. Збор быў абвешчаны на плошчы Якуба Коласа. Сабраліся дзясяткі тысяч людзей. Хтосьці спаліў напачатку расійскі сьцяг. Над грамадою луналі бел-чырвона-белыя сьцягі, было шмат транспарантаў і аздабленьня з чарнобыльскімі матывамі. І вось калі народ рушыў па прасьпекце Францішка Скарыны ў бок плошчы Перамогі, прасьпект перагарадзілі машынамі, а міліцыя пусьціла ў ход дубінкі. Разыгралася сапраўдная бойка. Людзі з голымі рукамі адбіваліся ад міліцыянтаў, перакулілі дзьве міліцэйскія машыны, урэшце прарвалі ланцуг і пайшлі па прасьпекце. Першапачаткова планавалася правесьці мітынг на плошчы Незалежнасьці, але калі мы дайшлі да цырка, да перасячэньня прасьпекта Скарыны з вуліцай Купалы, за ёй, крыху вышэй, прасьпект перагароджваў цэлы натоўп міліцыянтаў у шлемах і са шчытамі. Весьці людзей на іх азначала ўстроіць крывавую бойню. Таму дэманстранты павярнулі па вуліцы Купалы на Нямігу. На ходніках разам з жонкаю стаяў Зянон Пазьняк і вітаў дэманстрантаў. Па ходу жорсткія бойкі зь міліцыяй разгарнуліся за сьвіслацкім мостам, на ўзгорку. Дэманстрацыя дайшла, як і 2 красавіка, да Палаца спорту,

дзе быў праведзены мітынг. Памятаю, як выступіў Зянон. Выступіў хораша, крытыкаваў саюзныя пагадненьні і прапанаваў ушанаваць памяць забітага расіянамі 21 красавіка чачэнскага прэзідэнта Джахара Дудаева. Гэтага яму потым улады не даравалі і доўга прыгадвалі гэтую хвіліну маўчаньня.

Для мяне гэты напад міліцыі на мірных дэманстрантаў быў шокам. З 1988 года, з дня разгону лістападаўскіх «Дзядоў» міліцыя асьцерагалася ўжываць брутальны гвалт супраць дэманстрантаў. Тады людзей шчодра палілі «чаромхай», дасталася ў вочы і мне. Але пасьля разьбіральніцтваў і скандалу ўлады адмовіліся ад гвалтоўных дзеяньняў. У горшым выпадку міліцыя адцясьняла людзей. Як ад помніка Леніну 7 лістапада ў 1990 годзе, калі таму ўсклалі «дары камунізму» — крыж, на які была ўсьцягнута роба зьняволенага ГУЛАГа, падпяразаная калючым дротам. Сур'ёзны званок быў 24 сакавіка, калі частку людзей, якія ўжо разыходзіліся, зьбілі каля будынка КДБ. Тады ж было арыштавана каля 30 асобаў.

І вось яно, пасьля сямі гадоў мараторыю на гвалт — пачалося. Быў зламаны псіхалагічны бар'ер, які ўстрымліваў сілавікоў ад гвалту ўсе гэтыя гады.

26–27 красавіка было арыштавана некалькі сотняў асобаў. Увечары быў чарговы напад на ўправу Фронту. Міліцыя шукала Зянона Пазьняка, быў аддадзены загад на ягонае затрыманьне. Літаральна перад гэтым я знаходзіўся на ўправе, дзе таксама быў і Зянон Пазьняк і, здаецца, Сяргей Навумчык. Калі паведамілі, што ўправа абкладзеная міліцыяй, некалькі чалавек з кіраўніцтва Фронту выйшлі ва ўнутраны двор Управы, у які вялі запасныя дзьверы. Але двор быў глухі, з адным толькі выхадам на вуліцу Варвашэні. Тады я з жонкаю Сяргея Навумчыка Галінай пад ручку прайшлі па гэтым шляху да ўваходу ва ўправу. Падалося, што міліцыя не ведала пра запасны выхад з памяшканьня. Паклікалі шафёра, які вазіў Зянона Пазьняка, і папрасілі, каб ён на машыне заехаў ва ўнутраны дворык і паспрабаваў вывезьці

адтуль Зянона. Яму гэта ўдалося, і Зянон Пазьняк зь Сяргеем Навумчыкам на доўгія гады пакінулі Беларусь.

Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык патрапілі ў СІЗА. Яны абвясьцілі галадоўку, якую трымалі тры тыдні, аж пакуль іх, пад ціскам Ельцына, не выпусьціў Лукашэнка. 27 красавіка было арыштавана амаль усё кіраўніцтва БНФ. За кратамі апынуліся Юрась Хадыка, Вячаслаў Сіўчык, Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч ды іншыя. Памятаю, як мы праводзілі Управу БНФ у двары на прасьпекце Скарыны, насупраць будынка Акадэміі міліцыі. Сабраліся непасаджаныя сябры ўправы і абмяркоўвалі сітуацыю разгрому кіраўніцтва Фронту. Бягучае кіраўніцтва ўправы, а гэта значыць і Фронту, на некалькі дзён усклалася на мяне як на сакратара ўправы. Было адчуваньне, што можа наступіць чарговая хваля рэпрэсіяў і мы пойдзем сьледам за арыштаванымі. Але ўлады праз некалькі дзён адкруцілі назад, і Вячорка з Баршчэўскім былі выпушчаныя.

Для мяне было гранічна зразумела, што праявіўся напоўніцу фірмовы стыль Лукашэнкі і што так яно і будзе надалей. Трэба было штосьці супрацьстаўляць гэтаму дзяржаўнаму гвалту.

Неўзабаве на офісе БНФ па маёй ініцыятыве была сабраная група людзей, у якую ўваходзілі Галіна Вашчанка, Мая Кляшторная ды яшчэ некалькі асобаў, якая распачала тэрміновыя дзеяньні па зборы інфармацыі пра затрыманых, пошук дапамогі сем’ям. Хутка такую дапамогу ў выглядзе харчоў: макароны, алей, крупа — мне перадаў адзін з маіх добрых знаёмых, прозьвішча якога пакуль што яшчэ рана называць. У музеі Багдановіча мы з супрацоўнікамі музея фасавалі гэтыя харчы ў поліэтыленавыя пакеты з фірмовым знакам музея Багдановіча, а затым раздавалі пацярпелым ды іх сем’ям. Так, завезьлі добры ворах харчоў дадому сем’ям Юрася Хадыкі ды Вячаслава Сіўчыка, якія яшчэ знаходзіліся ў вязьніцы.

Акцыі пратэсту на гэтым не спыніліся. 9 траўня калона дэмакратычных ветэранаў разам з дэмакратычнымі актыві-

стамі, нягледзячы на перашкоды ўладаў, усклала кветкі і вянкі да помніка Перамогі на плошчы Перамогі, 30 траўня на прасьпекце адбыўся шматлюдны пікет супраць палітычных рэпрэсіяў, які ізноў жа быў разагнаны міліцыяй. 22 чэрвеня ў 55-я ўгодкі з пачатку вайны ізноў да помніка Перамогі былі ўскладзеныя кветкі ды вянкі і затым каля будынка тэатра оперы і балета быў праведзены жалобны мітынг. З 1996 года ў мяне захавалася копія заяўкі на пікет каля Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, падпісаная мною і яшчэ адным менскім дэпутатам Уладзімірам Несьцерам, дзе мы прасілі дазволіць нам правесьці пікет 28 жніўня з 11.00 да 16.00 з тэмаю «Спыніць перасьледаваньне грамадзян па палітычных матывах». Ужо не памятаю, ці дазволілі нам і ці праводзілі мы гэты пікет.

Напалоханыя грамадскай актыўнасьцю ўлады пачалі перашкаджаць нават у правядзеньні чыста культурніцкіх акцыяў. Так, 25 траўня ў дзень памяці Максіма Багдановіча каля ягонага помніка, дзе традыцыйна зьбіраліся людзі і музей Максіма Багдановіча праводзіў традыцыйную імпрэзу з выступамі і музычнай часткаю, былі затрыманыя некалькі чалавек, а на мяне, на той час яшчэ дырэктара музея Максіма Багдановіча, як на арганізатара «несанкцыянаванай акцыі» склалі пратакол і спрабавалі асудзіць.

Такі быў пачатак дзейнасьці праваабарончага цэнтра «Вясна». Канчаткова рашэньне пра стварэньне самастойнай праваабарончай арганізацыі насьпела неўзабаве, калі на адным зь мітынгаў я падышоў да кіраўнічкі Беларускага Хельсінкскага камітэта Тацьцяны Процькі і спытаўся, чаму яны не дапамагаюць матэрыяльна Славаміру Адамовічу, які на той час сядзеў ужо ў віцебскім СІЗА. Хельсінкскі камітэт быў яшчэ зусім малады. Ён стварыўся ўвосень 1995 года. У Славаміра была адная толькі маці, якая жыла на вёсцы і не мела істотных матэрыяльных даходаў. Натуральна было, што яго трэба было падтрымліваць перадачамі. Тацьцяна адказала, што Хельсінкскі камітэт ставіць больш шырокія задачы і не займаецца індывідуальнай дапамогай сядзельцам.

На гэтым жа мітынгу я пахадзіў сярод удзельнікаў і пазьбіраў грошы на дапамогу Славаміру. Там жа знаходзілася і ягонная маці. Усе сабраныя грошы былі перададзеныя ёй. А я вырашыў, што калі Хельсінкскі камітэт не лічыць патрэбным гэтым займацца, значыць, гэтым будзем займацца мы. Таксама ад самага пачатку я пачаў ствараць хроніку рэпрэсаваных, першы варыянт якой зьявіўся ў кніжцы «Менская Вясна — 96», а затым яна рэгулярна папаўнялася ў «Беларускіх ведамасьцях», якія на эміграцыі пачаў выдаваць Зянон Пазьняк. Фіксацыя парушэньняў правоў чалавека стала адной з галоўных задачаў ПЦ «Вясна».

Пасьля некалькіх месяцаў працы Тацьцяна Працька прапанавала мне ачоліць Менскую гарадскую арганізацыю БХК. Але, параіўшыся зь Вінцуком Вячоркам, я вырашыў не кідаць спробы стварэньня самастойнай праваабарончай арганізацыі. Як паказваюць апошнія пятнаццаць гадоў нашай дзейнасьці, гэта быў правільны шлях.

*Красавік 2011 года.*

## ЁСЬЦЬ ШМАТ ШЛЯХОЎ, ЯКІЯ МОГУЦЬ ПРЫВЕСЬЦІ ДА ПРАВААБАРОНЧАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ

### *(Эсэ, надрукаванае па-шведску ў зборніку, што выйшаў у 2007 годзе ў Стакгольме)*

Маёй марай было правесьці жыцьцё за вывучэньнем беларускай літаратуры. Аднойчы ў 1980-х, седзячы ў закрытых архівах Акадэміі навук у Менску, я склаў сьпіс з соцень імёнаў невядомых грамадству беларускіх пісьменьнікаў, гісторыкаў, мастакоў, публіцыстаў і журналістаў, якія загінулі падчас сталінскіх зачыстак у 1930-я гады і творчасьць якіх старанна хавалася ўладамі, паколькі гэтыя інтэлігенты прытрымліваліся «няправільных» поглядаў на шлях разьвіцьця грамадства або іх працы ўтрымлівалі нешта, на што скоса глядзела цэнзура. Культурная інтэлігенцыя Беларусі была фактычна вынішчаная ў тыя гады.

Гэта адкрыла мне паходжаньне пракаветнай боязі ўсяго, што датычыла Беларусі або дэмакратыі. Людзі добра памятаюць начны шоргат «варанкоў» (адмысловых машын, якія забіралі «ворагаў народа»), масавыя расстрэлы ў прыгарадных лясах, зьнікненьні інтэлігентаў, сялянаў, рэлігійных дзеячаў, прадстаўнікоў нацменшасьцяў — насамрэч любога, хто ўяўляў патэнцыйную пагрозу для пануючай камуністычнай ідэалогіі.

У другой палове 1980-х студэнты пачалі ствараць нефармальныя моладзевыя згуртаваньні. Мы прагнулі свабоды, дэмакратыі і павагі да правоў чалавека (гэтыя прынцыпы былі запісаныя ў нашай падпольнай праграме дзейнасьці). У той час было невядома, што прынясе змаганьне супраць уладаў: больш ганеньняў (што было імаверней) або развал сістэмы, у магчымасьць чаго маглі паверыць толькі юнакі кшталту нас. Мы праводзілі кожную сваю акцыю як апошнюю. У 1987 годзе ў Менску мы правялі мітынг дзеля ўшанаваньня ахвяраў сталінскіх рэпрэсій. Гэта быў адзін зь першых дэмакратычных мітынгаў у Беларусі за 67 гадоў. Я быў адным з арганізатараў. Каля 200 чалавек сабраліся разам 30 кастрычніка, каб адзначыць 50-ю гадавіну масавых расстрэлаў беларускіх пісьменьнікаў. У 1937-м іх расстрэльвалі па некалькі чалавек у дзень пад Менскам, у лесе, абнесеным трохметровым мурам. Парэшткі каля 150 тысячаў людзей, расстраляных камуністамі, пахаваныя тут дагэтуль, непрызнаныя ўладамі і пазбаўленыя пахавальных урачыстасьцяў. У паветры веяла неспакоем і небясьпекай, паколькі мы не ведалі, якіх наступстваў чакаць ад гэтай акцыі. Але ўлады былі ашаломленыя настолькі, што не змаглі ніяк прарэагаваць на наш мітынг, у той час як мы перасягнулі яшчэ адзін парог страху, таго страху, які здаваўся ўбудаваным у нашыя гены, у гены нашага народа.

У 1988 годзе праводзілася мерапрыемства ў гонар дня продкаў, «Дзяды», да якога далучыўся і я. Даволі неспадзявана для нас, арганізатараў, і яшчэ ў большай ступені для ўладаў мітынг прывабіў тысячы беларусаў. Міліцыя выкарыстоўвала сьлезацечны газ ды іншыя гвалтоўныя сродкі для разгону натоўпу. Дзясяткі людзей, уключаючы мяне, былі ўпершыню арыштаваныя і пакараныя. Грамадскае абурэньне зьверствамі, учыненымі з папушчэньня ўладаў, спрычынілася да разьвіцьця шырокага дэмакратычнага руху ў Беларусі.

Першая праваабарончая арганізацыя, «Мартыралог Беларусі», была заснаваная ў 1988 годзе з маім удзелам. Арганізацыя прапанавала дапамогу ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў

1930–1950-х гадоў. Жыцьці гэтых людзей увасаблялі сапраўдную гісторыю маёй краіны, якую не жадалі афішаваць улады. Прызнаць гісторыю такой, якой яна была насамрэч, азначала прызнаць сотні тысячаў ахвяраў сталінізму й тэрору, які ажыцьцяўляўся іхнымі ідэалагічнымі папярэднікамі супраць уласнага народа. Прызнаньне вымагала асуджэньня й пакаяньня, а таксама выбару новага шляху разьвіцьця — усяго таго, чаго зусім не жадалі ўлады.

У 1991 годзе Беларусь стала незалежнай дзяржавай. Хаця й павольна, але адбываліся палітычныя зьмены, разьвіваліся шматпартыйная сістэма й незалежныя медыя, ажылі нацыянальная мова й культура, занядбаныя ў часы савецкай улады, пачалася рэгістрацыя першых недзяржаўных аб’яднаньняў (НДА). Аднак у 1994-м да ўлады прыйшоў былы дробны савецкі функцыянер Аляксандр Лукашэнка, вялікі папуліст і дэмагог. Галоўным рухавіком ягонай праграмы было аднаўленьне Беларусі як часткі Савецкага Саюза.

На працягу апошніх 15 гадоў мы назіралі, як здабыткі дэмакратыі пачатку 1990-х зморшчваліся, бы шчыгрынавая скура, пад уціскам беларускіх уладаў, паколькі дэмакратыя, плюралізм і правы чалавека зьяўляюцца аб’ектыўнай пагрозай для постсавецкай хунты, якая ўзурпавала ўладу з дапамогай ілжывых абяцанак і непрыкрытай хлусьні і валее скарыстаць любыя сродкі для як найдаўжэйшага яе ўтрыманьня.

У 1996 годзе адбыўся канстытуцыйны пераварот, у выніку якога парламент страціў усе паўнамоцтвы. У той жа час судовая ўлада апынулася пад пятой у выканаўчай, і згэтуль усе судзьдзі прызначаліся непасрэдна Лукашэнкам. У красавіку 1996 года новы ўрад упершыню з часоў атрыманьня краінай незалежнасьці ўжыў гвалт, скіраваўшы яго супраць удзельнікаў мірнай дэманстрацыі ў гадавіну чарнобыльскай аварыі. Сотні людзей былі ўвязьненыя, многія не ведалі, дзе знаходзяцца іхныя сябры й родныя, былі праведзеныя першыя палітычна матываваныя суды. Мы стварылі групу добраахвотнікаў для пошуку зьвестак пра ахвяраў ганеньняў і

дапамогі іхным сем’ям. Так быў запачаткаваны праваабарончы цэнтр «Вясна».

Будучы прадстаўнікамі розных прафесіяў — настаўнікі, юрысты, дызайнеры, журналісты — мы спантанна ўзялі на сябе гэтыя абавязкі, паколькі ў гэтым была патрэба і мы адчувалі, што грамадству неабходна самаарганізавацца, каб супраціўляцца гвалту з боку ўладаў.

У будучыні праца для «Вясны» стала маёй дзейнасьцю на многія гады. У 2003 годзе ўлады зачынілі праваабарончы цэнтр «Вясна», а ў 2006 годзе была ўведзеная крымінальная адказнасьць за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Нягледзячы на гэта, мы працягвалі сваю працу, дапамагаючы ахвярам палітычных ганеньняў, зьбіраючы й распаўсюджваючы звесткі пра правы чалавека, праводзячы навучальныя праваабарончыя семінары й незалежнае назіраньне падчас выбараў. Мы верым, што нашая праца зьяўляецца неабходнай і плённай.

На працягу 15 гадоў здавалася, што ў нашай краіне не адбываецца зьменаў да лепшага. Калі я чую крытыку наконт марнасьці нашых намаганьняў ад людзей, якія кажуць, што кожны год — усё тыя ж ганеньні, ахвяры, канфіскацыі, гвалт, звальненьні з працы й выключэньні з ВНУ, я заўжды адказваю: не здавайцеся, супраціўляйцеся як толькі можаце! Укладзіце сябе цалкам у змаганьне супраць наступу гвалту й двудушнасьці, якія сходзяць на нас з калідораў улады.

Калі нам было па дваццаць гадоў і мы распачалі небясьпечную гульню супраць савецкага таталітарнага строю, у Беларусі фактычна не было прэцэдэнтаў. У 1980-я мы былі, я б сказаў, першым пакаленьнем, якое відочна змагалася за дэмакратыю й правы чалавека. Цяпер жа ў нас дзясяткі тысяч юных пасьлядоўнікаў, якім патрэбная дапамога й настава ад старэйшых, больш дасьведчаных. Мы хацелі ўбачыць зьмены ў застойным савецкім грамадстве, мы спрычыніліся іх і мы нясём адказнасьць за тую моладзь, якая паверыла, што нашае грамадства можна зьмяніць, і ўспрыняла нашыя ідэі стварэньня незалежнай дэмакратычнай Беларусі. Гэтае па-

чуцьцё адказнасьці зьяўляецца тым, што дае мне сілы й вымушае мяне працягваць ісьці ў абраным кірунку.

Чаго мы хочам дасягнуць? Нас вядзе сьвятло ідэй, запаленае яшчэ ў далёкіх 1960-ых бясстрашным Андрэем Сахаравым: дэмакратычная выбарчая сістэма, плюралізм меркаваньняў, свабода слова, незалежная судовая ўлада, павага да правоў чалавека. Усё гэта падставовыя рэчы, скажаце вы, але, на жаль, яны адсутнічаюць у сучаснай Беларусі. Быў адноўлены таталітарны строй, улады якога імкнуцца ўсталяваць кантроль над усімі абсягамі грамадскага жыцьця. Тысячы людзей падвяргаюцца палітычна зумоўленым ганеньням, дзясяткі незалежных медыя і сотні НДА былі ліквідаваныя, зачыненыя непрыхільныя каледжы й унівэрсітэты. Пытаньне прысутнасьці таго ці іншага беларускага пісьменьніка ў школьнай праграме вырашаецца цэнзарам з улікам прыхільнасьці апошняга да цяперашняга ўраду. У Беларусі існуе афіцыйная дзяржаўная ідэалогія — яўная адзнака таталітарнага строю, і тысячы дзяржаўных ідэолагаў назіраюць за думкамі й паводзінамі працоўных і студэнтаў. Нават кіраўнік дзяржавы час ад часу прагаворваецца, ухваляючы парадак, усталяваны ў Нямеччыне Гітлерам, або выказваючы нязгоду з гісторыкамі, якія, на ягонае меркаваньне, прымяншаюць веліч Леніна й Сталіна.

Няма незалежных судоў, у той час як міліцыя, пракуратура й перадусім КДБ скіроўваюць усе свае намаганьні на нейтралізацыю грамадскіх і палітычных дзеячаў, якія процістаяць цяперашняму ўраду. Арышты, вобшукі й адміністрацыйныя суды праходзяць штодня, а штрафы й суткі раздаюцца шчодрай рукой. Студэнтаў выключаюць з унівэрсітэтаў, актывісты застаюцца без працы, а іхныя сем'і падвяргаюцца ўціску.

Аднак, нягледзячы на ўсе нягоды, я гляджу ў будучыню з аптымізмам. Я ўпэўнены, што прыйдзе час, калі плаціна страху й хлусьні, з такой цяжкасьцю ўзьведзеная цяперашнім беларускім урадам, здрыганецца й абваліцца, зьнесеная хваляй людской волі да правоў чалавека, дэмакратыі й свабоды.

У гэтым я маю шмат надзеі на беларускую моладзь, якая пабывала за мяжой і можа параўнаць жыцьцёвыя стандарты й стаўленьне да чалавечай годнасьці ў цывілізаваных краінах, якая хоча ўбачыць зьмены ў Беларусі, для якой еўрапейскія каштоўнасьці правоў чалавека й дэмакратыі не пусты гук, якая не настолькі запалоханая, як старэйшае пакаленьне. І такой моладзі ў Беларусі большасьць.

Я ўпэўнены, што мы можам зьмяніць сістэму, але дэмакратычным сілам, якія зараз існуюць у Беларусі й змагаюцца супраць таталітарнага строю, патрэбная маральная й матэрыяльная падтрымка. Нам патрэбная падтрымка дэмакратычных НДА, дэмакратычных палітычных партый, незалежных медыя, незалежных прафсаюзаў, моладзевых і жаночых ініцыятываў. Нам патрэбна прымусіць рэжым усьвядоміць ясна й адназначна, што паляпшэньне эканамічных або любых іншых адносін з цывілізаваным дэмакратычным сьветам немагчымае безь зьменаў унутранага становішча ў краіне.

Калі мяне пытаюць, ці не хацеў бы я зьехаць зь Беларусі, дзе час, здаецца, спыніўся 10 гадоў таму, мой адназначны адказ — «не». Нягледзячы на ўсе цяжкасьці, мне прыемна жыць і працаваць у Беларусі. Многія людзі падтрымліваюць нас і зьвязваюць з намі свае надзеі. Мы распачалі дэмакратычны рух у нашай краіне не для таго, каб спыніцца на паўдарозе да мэты. Мы, беларускія праваабаронцы, ступаем па нашай зямлі з упэўненасьцю. Мы ўпэўненыя ў канчатковым выніку нашай барацьбы. Няма сумневу, што было б немагчыма рабіць усё, што мы робім, без аднадумцаў і саратнікаў.

Што ж мы будзем рабіць апасьля? Як толькі зьменіцца грамадска-палітычнае становішча ў нашай краіне, мы мусім дасягнуць найхутчэйшай, наколькі гэта ў чалавечых сілах, дэлукашызацыі нашага грамадства. Нам спатрэбіцца выкрыць усе злачынствы, зьдзейсьненыя ўладамі, дамагчыся афіцыйнага разьвянчаньня й асуджэньня лукашэнкаўскай ідэалогіі і правядзеньня люстрацыі сярод яе паборнікаў, ідэолагаў, пракурораў, судзьдзяў, чыноўнікаў Міністэрства юстыцыі,

Міністэрства ўнутраных спраў, Камітэта дзяржаўнай бясьпекі ды іншых органаў перасьледу, якія прымалі ўдзел у сістэматычным парушэньні правоў чалавека ў Беларусі. Нам спатрэбіцца неадкладная рэформа турэмнай сістэмы, якая на цяперашні момант стварае бесчалавечныя ўмовы зьняволеньня. Нам трэба будзе ўсталяваць эфектыўнае праваабарончае назіраньне й правесьці адпаведныя зьмены ў беларускім заканадаўстве. Нам трэба будзе ўвесьці такую праваабарончую адукацыю ў школах і ўнівэрсітэтах, якая была б адначасна захапляльнай і дзейнай.

У нас будзе поўна справаў. І нам спатрэбіцца прыкласьці ўсе намаганьні, сілы й практычны досьвед, каб забясьпечыць незваротны адыход эпохі дыктатуры й таталітарызму ў мінулае.

*2007 год.*

*http://spring96.org/be/news/49520*

# РАЗВАГІ ПРА АХВЯРНАСЬЦЬ: АНДРЭЙ ЦІКОТА

У **працяг*** развагаў пра ахвярнасьць хачу закрануць лёс айца **Андрэя Цікоты.** Матэрыялы пра яго былі надрукаваныя дасьледчыкам беларускай літаратуры Юрасём Гарбінскім у часопісе «Наша вера» (№ 1 за 2012 год).

Напачатку — колькі словаў пра жыцьцёвы шлях а. Андрэя Цікоты.

Нарадзіўся Андрэй Цікота 5 сьнежня 1891 года ў Сьвяньцянскім павеце Віленскай губерні. Цяпер гэта тэрыторыя Літвы, зусім недалёка ад мяжы зь Беларусьсю. Хрысьцілі яго ў мястэчку Жодзішкі, якое знаходзіцца сёньня па гэты бок мяжы. У школе Андрэй Цікота вучыўся ў Ашмянах. Каталіцкае насельніцтва Віленшчыны было беларускім па этнічным складзе, але яно безупынна падвяргалася паланізацыі. У царскай Расіі дзейнічаў прынцып: калі ты праваслаўны, значыць рускі, калі каталік, значыць паляк. Маладому беларускаму нацыянальнаму руху, які пачаў актыўна

---

* *Свае развагі пра ахвярнасьць Алесь Бяляцкі напісаў у бабруйскай калоніі ў траўні–чэрвені 2013 года. Але, як высьветлілася пасьля ў ліставаньні з палітвязьнем, не ўсе яго запісы дайшлі на волю. Распачынаўся цыкл з развагаў Алеся Бяляцкага пра цяперашнюю сітуацыю і самаахвярных сучасьнікаў, але гэты нарыс цэнзура не выпусьціла за сьцены калоніі.*

разьвіваецца напачатку XX стагодзьдзя, прыходзілася ламаць гэтыя стэрэатыпы і ідэалагічна супрацьстаяць двум баком — абрусіцелям і паланізатарам беларускага народа.

Андрэй Цікота ўсьвядоміўся яшчэ падчас вучобы ў Віленскай рыма-каталіцкай семінарыі (1909–1913). У семінарыі існаваў беларускі культурна-асьветніцкі гурток, куды ўваходзілі семінарысты родам у асноўным зь бедных сялянскіх сем'яў. Тады семінарысты, мабыць, яшчэ не ведалі, што любоў да беларушчыны стане для іх другім крыжам, які яны будуць ахвярна несьці да канца свайго жыцьця.

У 1913 годзе Андрэй Цікота працягвае навучаньне ў рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. У акадэміі ён працягвае ўдзельнічаць у працы беларускага студэнцкага гуртка.

Дзіўная сітуацыя, але для беларускіх студэнтаў — будучых сьвятароў у царскай Расіі было больш магчымасьцяў для беларускай культурніцкай працы, чым пазьней у Савецкай Беларусі, дзе ксяндзоў лічылі за польскіх шпіёнаў, ці ў Заходняй Беларусі пад Польшчаю, дзе іх падазравалі ў супрацы з камуністамі. Менавіта ў гэтыя перадрэвалюцыйныя гады была падрыхтаваная і высьвецілася цэлая кагорта беларускіх ксяндзоў, якія неўзабаве складуць аснову беларускага хрысьціянска-дэмакратычнага руху і будуць упарта змагацца за нацыянальнае ўсьведамленьне беларусаў. І найперш беларусаў рыма-каталіцкага вызнаньня.

13 чэрвеня 1913 года Андрэй Цікота быў высьвечаны на сьвятара, але працягвае вучобу. Ён скончыў духоўную акадэмію ўжо ў Петраградзе ў 1917 годзе. У гэтым жа годзе ён вяртаецца ў Беларусь, сьвятарыць у Маладзечне, Вілейцы, Будславе. Ён актыўна далучаецца да грамадскага жыцьця, у 1917 годзе ўдзельнічае ў І зьезьдзе беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Менску, зьяўляецца сябрам Саюза ксяндзоў-беларусаў. У 1918 годзе а. Андрэй Цікота працуе прафесарам у Менскай духоўнай семінарыі. У гэтым жа годзе ён абіраецца ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Падчас польска-савецкай вайны бальшавікі бралі а. Андрэя Цікоту

ў закладнікі, але гэтым разам яму пашанцавала, яго выпусьцілі.

У 1920 годзе Андрэй Цікота ўступае ў ордэн айцоў марыянаў. У 1924 годзе ў Друі пры фінансавай дапамозе **Магдалены Радзівіл** ён засноўвае мужчынскі манастыр марыянаў і жаночы манастыр Сясьцёр Служэбніц Езуса ў Эўхарыстыі (эўхарыстак).

Марыяне ўтрымлівалі гімназію, дзе маглі вучыцца дзеці любой нацыянальнасьці. Пры манастыры быў адчынены навіцыят, дзе да сьвятарскага пакліканьня рыхтаваліся ў асноўным юнакі зь беларускіх каталіцкіх сем'яў. Праз гэты навіцыят прайшлі такія выбітныя ў будучым рэлігійныя дзеячы і сьвятары, як біскупы **Часлаў Сіповіч**, перакладчык Бібліі на беларускую мову ксёндз **Уладзіслаў Чарняўскі**.

У 1933 годзе а. Андрэй Цікота быў абраны генеральным суперыёрам ордэна айцоў марыянаў і жыве падчас выкананьня абавязкаў генерала закону ў Рыме. Ён становіцца рэлігійным дзеячам міжнароднага маштабу. Але гэта не ўратавала мужчынскі кляштар марыянаў у Друі ад рэпрэсіяў з боку польскіх уладаў. У 1938 годзе беларускія манахі былі беспадстаўна выселеныя з Друі. Друя была прымежным мястэчкам, а іх палічылі нядобранадзейнымі. Сярод высланых ксяндзоў быў і айцец **Юры Кашыра**, які ў 1943 годзе добраахвотна, як напісала пісьменьніца **Ірына Жарнасек**, «пойдзе ў агонь» разам зь людзьмі, якіх спаляць карнікі ў мястэчку Росіца.

Беларускія ксяндзы за палякамі ў Заходняй Беларусі перасьледаваліся, не маглі атрымаць працу ў парафіях, дзе жылі рыма-каталікі беларусы. Самое іхняе існаваньне пярэчыла афіцыйнай дзяржаўнай палітыцы на Крэсах, накіраванай на апалячваньне беларусаў-каталікаў празь дзяржаўныя інстытуты — школу, войска і праз касьцёл. Таму не дзіва, што айцы-марыяне апынаюцца на місійнай працы аж у Маньчжурыі, дзе яны працуюць у місіі для каталікоў усходняга абраду (уніятаў). У 1939 годзе а. Андрэй Цікота быў прызначаны Апостальскім адміністратарам для ўніятаў Маньчжурыі і выехаў на місію.

Неўзабаве пачнецца Другая сусьветная вайна, і архімандрыт Андрэй Цікота будзе вымушаны застацца ў Харбіне на доўгія 10 гадоў.

Місійная дзейнасьць а. Андрэя Цікоты скончылася трагічна. У 1948 годзе яго разам зь іншымі трыма айцамі марыянамі арыштоўвае кітайская камуністычная міліцыя і перадае савецкім уладам. Пяць месяцаў а. Андрэя Цікоту трымаюць у чыцінскай турме, яго катуюць, спрабуюць схіліць да супрацы, прапаноўваюць ачоліць незалежны ад Ватыкана каталіцкі касьцёл у Беларусі.

Штосьці падобнае зрабілі камуністычныя ўлады ў Кітаі, змусіўшы некаторых каталіцкіх сьвятароў парваць духоўныя і адміністрацыйныя сувязі з Ватыканам і абвясьціць незалежны каталіцкі касьцёл у Кітаі.

Айцец Андрэй Цікота не пагадзіўся з такой прапановай. Ён не ўзяў на сябе грэх рэлігійнага раскольніцтва дзеля яўнага аблягчэньня ўласнага лёсу. За гэта ён быў жорстка пакараны. Праз пяць месяцаў зьняволеньня асобная камісія Міністэрства дзяржаўнай бясьпекі ў Маскве завочна асуджае яго за антысавецкую агітацыю, арганізацыю тэрарыстычнай групоўкі і шпіянаж на карысьць Ватыкана і Японіі да 25 гадоў зьняволеньня ў лагеры.

Архімандрыту Андрэю Цікоту было 58 гадоў. Ён быў асуджаны па артыкуле 58, п. 4, 6, 11 КК РСФСР. Значыць, выйсьці з лагера ён павінен быў у 83 гады, 15 студзеня 1974 года. Гэта ўражвае мяне зь дзьвюх прычынаў. Першая — такі прысуд для а. Андрэя Цікоты азначаў фактычна пажыцьцёвае зьняволеньне. А ўлічваючы нялюдскія ўмовы ўтрыманьня вязьняў у ГУЛАГу — і недалёкую сьмерць. Адмовіўшыся ад спакусьлівых прапановаў уладаў да калабарацыі, а. Андрэй Цікота сьвядома выбраў сьмерць.

А другі момант — магія гэтых лічбаў у артыкулах прысуду і ў сканчэньні тэрміну. І зараз ва ўсіх зонаўскіх дакументах, а таксама ў розных заявах зьняволеных мусяць быць такія самыя дадзеныя. Я пішу: артыкул 243 ч. 2 КК РБ, тэрмін 4 гады 6 месяцаў. Пачатак тэрміну: 04.08.2011. Ка-

нец тэрміну: 04.02.2016. Гэтая ж інфармацыя ёсьць у маёй справе і нават на цэтліку на маёй шконцы. 60 гадоў мінула...

Падавалася, унутраны душэўны стан а. Андрэя Цікоты павінен быць жахлівым. Галоўныя ягоныя пачынаньні — і рэлігійныя, і беларускія — здавалася, што скончыліся паразаю. Кляштар у Друі быў разагнаны палякамі, кітайцы зьнішчылі ўніяцкую місію ў Харбіне, арыштавалі яго і аддалі саветам. Саветы не маглі дараваць яму ні сяброўства ў Радзе БНР, ні рыма-каталіцтва, ні ўніяцкую місійную дзейнасьць. Некаторыя ягоныя браты-марыяне былі забітыя камуністамі, як ягоны папярэднік у кіраўніцтве місіі ў Харбіне архімандрыт **Фабіян Абрантовіч**. Некаторых забілі фашысты, як сьвятароў Юрыя Кашыру і **Антонія Ляшчэвіча**. Паўсюль ляжалі руіны веры і беларушчыны.

Тым не менш а. Андрэй Цікота цярпліва, без скаргаў на лёс, мужна працягваў несьці свой пакутніцкі крыж.

Адзін са сьвятароў, арыштаваны разам з а. Андрэем Цікотам і асуджаны, а. **Язэп Германовіч** дачакаецца сьмерці Сталіна, будзе адпушчаны з лагераў, выедзе на Захад і напіша кніжку пра сваю лагерную эпапею «Кітай — Сібір — Масква». Айца ж Андрэя Цікоту чакаў іншы лёс. Ён адбывае зьняволеньне ў лагерах Іркуцкай вобласьці, цяжка хварэе і 11 лютага 1952 года памірае ў лагернай бальнічцы № 2 «Азёрбуда». Пахаваны архімандрыт Андрэй Цікота на лагерных могілках каля пасёлка Нова-Чунка Шыткінскага раёна Іркуцкай вобласьці. Дзе зараз яго магіла — невядома.

Як я ўжо пісаў, захавалася восем лістоў айца Андрэя Цікоты да сясьцёр-эўхарыстак **Лізаветы Вароны** і **Апалоніі Пяткун**. Лісты зь няволі выклікаюць у мяне асаблівую ўвагу, бо сам іх апошнія 22 месяцы пішу багата. Што яшчэ так, як лісты зь няволі, адбівае стан чалавечае душы?

Лагерная цэнзура змушала айца Андрэя Цікоту маскаваць свае думкі і пачуцьці. Я з усьмешкаю чытаю ў лістах такія сказы, як: *«Начальства адносіцца да нас вельмі добра. Умовы жыцьця не настолькі цяжкія, як магло здавацца напачатку»*. Яны, безумоўна, разьлічаныя на цэнзуру і кадэбістаў.

Зь лістоў мы даведваемся пра цяжкі стан здароўя а. Андрэя Цікоты. Ён часта знаходзіцца ў бальніцы. Хваробы апаноўваюць яго адна за адной. У яго міякардыт (парок сэрца), дыстрафія, пачаткі цынгі, ад якой амаль не засталося зубоў, тромбафлебіт (закупорка венаў на левай назе), адсюль часта высокая тэмпература, ацёк твару і ног. Па стане здароўя а. Андрэй Цікота прызнаны інвалідам. У 1951 годзе да ўсіх хваробаў дадаўся яшчэ радыкуліт, затым быў прыступ рожы і поліеразіт (запальная вадзянка ў кішэчніку). Ад гэтых хваробаў яго, як ён піша ў лісьце, «лечаць па меры магчымасьці». Дыстрафія і цынга кажуць пра тое, што а. Андрэй Цікота ў зьняволеньні галадаў, а тая ежа, якую давалі вязьням, была пазбаўленая вітамінаў. Пра гэта асьцярожна піша ён сам: *«У ежы тут, на жаль, вельмі мала тлушчаў»*. Калі зьявілася магчымасьць перасылаць яму пасылкі, а. Андрэй Цікота піша: *«тлушчы, цукар і часнок патрэбныя насамперш»*.

Нягледзячы на сваё гаротнае становішча, ён клапоціцца пра тое, што сёстры самі могуць цярпець нястачу: *«Яшчэ раз хачу падкрэсьліць — занадта сябе не абцяжарвайце і прысылайце што-кольвек толькі калі будзе магчымасьць»*. Ён яшчэ і яшчэ раз паўтарае: *«я заўсёды баюся, што вы самі сябе не ашчаджаеце і шмат у чым сабе адмаўляеце, каб толькі нам дапамагчы. Будзьце разважлівымі і не крыўдзіце сябе»*.

Тым не менш ні хваробы, ні голад не зламалі дух а. Андрэя Цікоты. Цела адмаўлялася яму служыць, але дух ягоны быў як ніколі моцным. Ён сьцісла піша пра гэта: *«Я дзякую Богу і за тое, што атрымоўваю. Пустэльнікі і таго не мелі, але адчувалі сябе выдатна. Духоўна я адчуваю сябе добра»*. Гэтая спасылка на пустэльнікаў падказвае нам, што прыкладам для сябе ў гэтых найцяжэйшых умовах а. Андрэй Цікота абраў ахвярных людзей, якія сьвядома цярпелі за веру.

У іншым лісьце а. Андрэй Цікота піша: *«Духам я адчуваю сябе добра і ніколі яшчэ не сумаваў і нічым не пераймаўся»*.

Ужо быўшы цяжка хворым ён піша: *«Можна таксама*

*жыць, як жылі айцы ў пустыні. Можна жыць з чорным сухаром (сьвежага хлеба елі вельмі мала) і з вадой».*

Пра што не забываецца прасіць а. Андрэй Цікота ў лістах, дык гэта пра белыя сухары і разынкі. Першыя яму былі патрэбныя для прыгатаваньня аплатак, а другія для вырабу віна. У лагеры ён служыў службу: *«Калі ў вас будзе магчымасьць, прышліце, калі ласка, хоць 300 ці 400 грамаў разынак ды сухароў з сапраўднай пшанічнай мукі. Гэта патрэбна для майго здароўя».* У іншым лісьце ён піша: *«Асабліва я вам удзячны за ягады, якія мне вельмі дапамагаюць. Я карыстаюся імі амаль штодзённа, але вельмі ашчадна».* Ва ўмовах лагернага татальнага кантролю за вязьнямі гэта быў чарговы ахвярны подзьвіг а. Андрэя Цікоты.

Айцец Андрэй Цікота рэальна ацэньвае свае шанцы на жыцьцё. Пішучы пра магчымы зыход з жыцьця, ён паведамляе: *«Я думаю пра яго не толькі спакойна, але нават з радасьцю, і толькі прашу Усёмагутнага, каб гэты зыход быў згодны з Яго воляю».*

Нягледзячы на свой цяжкі фізічны стан, а. Андрэй Цікота ў кожным лісьце цікавіцца сітуацыяй, у якой знаходзяцца айцы марыяне і сёстры эўхарысткі ў Беларусі. У першым лісьце ён піша: *«Не ведаю, хто з вас жыве і дзе знаходзіцца... напішыце, хто жывы з братоў і сясьцёр і дзе знаходзіцца. Прайшло ўжо больш за 12 гадоў з таго часу, калі я быў дома. Але кожны дзень вас згадваю і не забуду да самай сьмерці».*

Вайна, якая пачалася ў 1939 годзе, затым акупацыя Беларусі, затым немагчымасьць трымаць кантакты паміж Кітаем і савецкай Беларусьсю стварылі такую сітуацыю фізічнай адарванасьці і ізаляцыі марыянскіх асяродкаў. Але духоўнай ізаляцыі не было. Айцец Андрэй Цікота як заснавальнік друйскіх кляштараў, як духоўны айцец сясьцёр эўхарыстак адчуваў духоўную лучнасьць з братамі і сёстрамі ў Беларусі. І пэўную адказнасьць за іхняе жыцьцё і лёс. Мяркую, апошні сказ у гэтым урыўку меў вялікае значэньне і для друйскіх сясьцёр, і для самога а. Андрэя Цікоты. Ён даваў сігнал, што

ён працягвае духоўна апекавацца сёстрамі эўхарысткамі нават будучы ў зьняволеньні.

Айцец Андрэй Цікота высока ацэньвае дзейнасьць сясьцёр эўхарыстак, якія, нягледзячы на небясьпеку для іхняй свабоды і фактычна падпольныя ўмовы працы за саветамі, тым не менш засталіся працаваць у Беларусі: *«Я рады, што вы не пакінулі Бацькаўшчыны, што актыўна і дзейсна працуеце для агульнага дабра сваіх братоў».*

Айцец Андрэй Цікота дае духоўныя ўказаньні настаяцельніцы сясьцёр Апалоніі Пяткун: *«Табе хачу парадзіць: не бойся сваёй пасады і сваіх абавязкаў. Выконвай іх стойка зь верай у дапамогу Бога»*. У іншым лісьце ён піша настаяцельніцы сястры Апалоніі: *«Лісты твае адначасна засмуцілі мяне і парадавалі. Засмуцілі... вашыя цяжкасьці. Але мужнасьць і надзея, зь якімі вы ўсё гэта пераносіце, глыбока мяне радуюць»*.

Айцец Андрэй Цікота натхняе і падтрымлівае манашак. Адным з істотных крытэрыяў ацэнкі іхняй дзейнасьці для яго зьяўляецца праца на карысьць Беларусі і беларускага народа. Ён спадзяецца, *«што маладое пакаленьне, якога я ўжо не ведаю, будзе не менш актыўнадзейным і разам з вамі прынясе немалую карысьць Бацькаўшчыне і нашым людзям прыкладам сваёй працалюбівасьці, шчырасьці і вернасьці пры выкананьні сваіх абавязкаў».*

У Беларусі ў гэтыя гады быў трагічны час для веры. Савецкая ўлада працягвала расправу над сьвятарамі. Былі арыштаваныя і асуджаныя на 25 гадоў лагероў сьвятары марыяне **Люцыян Паўлік** і **Юзаф Францкевіч**. Жыў у падпольлі, хаваўся ад уладаў ксёндз **Баляслаў Заяц**. Айцец Андрэй Цікота іншасказальна піша пра гэта: *«Засмуцілі ўчынкі Л., Ю. і Бал.»* Сёстры эўхарысткі таксама ўвесь час працуюць пад пагрозаю арышту і рэпрэсіяў. Айцец Андрэй Цікота цьвёрда падтрымлівае іхнюю ахвярную місію: *«Ты просіш, каб я маліўся за вас. Але ж гэта мой прамы абавязак. Я памятаю пра вас і пра ўсіх маіх друйскіх парафіянаў у часе ўсіх маіх малітваў... Цешуся разам з вамі за вашую моладзь і перака-*

*наны, што старэйшыя не будуць апошнімі. Я захоплены вашай самаахвярнасьцю»*.

У іншым лісьце а. Андрэй Цікота клапоціцца пра бясьпеку настаяцельніцы Апалоніі Пяткун: *«Непакоюся з тае прычыны, што могуць быць непрыемнасьці і з боку айчыма. Беражы здароўе, сядзі больш дома і не пакідай сваіх дзетак»*. Айчым — так айцец Андрэй называў уладу, якая панавала тады ў Беларусі.

Ён ганарыцца адважнай і ахвярнай дзейнасьцю сясьцёр: *«Не магу не радавацца, што яны ўсе такія бадзёрыя і сьмела крочаць па жыцьці»*. Айцец Андрэй Цікота яшчэ раз ухваляе выбар і рашэньне сясьцёр не зьязджаць ад небясьпекі ў Польшчу, а застацца працаваць у Беларусі: *«Але вы вельмі добра зрабілі, што засталіся на Бацькаўшчыне і працуеце сярод сваіх братоў і для сваіх братоў. Місіі Яна і Веранікі вельмі высокія, і Усёмагутны дапаможа вам іх выканаць. І будзьце ўпэўнены, што ён вас ніколі не пакіне і будзе вам найлепшым настаўнікам. Хто драбнее, а хто расьце, цяпер сказаць цяжка. Важна, каб добра выканаць той абавязак, які нам дадзены»*.

Мы пераконваемся, што ніякія пакуты і цярпеньні не маглі зламаць магутны духоўны стрыжань а. Андрэя Цікоты. Знаходзячыся за тысячы кіламетраў ад Беларусі, балансуючы на мяжы жыцьця і сьмерці, церпячы ад хваробаў і голаду, ён, наколькі гэта было магчыма пад наглядам цэнзуры, кіруе дзейнасьцю сясьцёр эўхарыстак, заахвочвае іх да працы, умацоўвае іхнюю веру і дух. Ён мудра перакананы, што іхняя праца будзе недарэмнаю. Айцец Андрэй Цікота ўпэўнены, што «працалюбівасьць, шчырасьць, вернасьць» дапамогуць сёстрам выканаць абавязак служэньня Богу і Бацькаўшчыне.

Вера а. Андрэя Цікоты ў Бога, у гуманізм, у дабро, у слушнасьць сваёй жыцьцёвай пазіцыі надала яму бясстрашша. Сіла духу ў айца Андрэя Цікоты была такая вялікая, што, падаецца, ён вызваліўся ад сваёй цялеснай абалонкі і зусім не залежаў ад яе.

Глыбокая перакананасьць у сваёй праваце ў айца Андрэя

Цікоты была ўнутранай, не на паказ. Пра свой стан духу ён піша ў лістах толькі з тае прычыны, каб супакоіць сясьцёр, якія хваляваліся за яго. Гэта значыць, тое, як сябе паводзіў а. Андрэй Цікота, ён рабіў дзеля сваіх рэлігійных перакананьняў і гуманных поглядаў на жыцьцё. У гэтым зямным попеле, які ўчыніла яму нялюдская ўлада, ён захаваў сваё «я», свой унутраны гонар і годнасьць найперш для сябе. Ягоны жыцьцёвы шлях быў лагічны і зразумелы.

Сваім жыцьцём, грамадскімі і духонымі ідэаламі, пакутніцкай сьмерцю а. Андрэй Цікота міжволі паказаў усім нам велізарны і яскравы прыклад няўтомнай працы, слушнай жыцьцёвай пазіцыі, ахвярнасьці, прынесенай дзеля веры і Бацькаўшчыны.

*http://spring96.org/be/news/65946*

# РАЗВАГІ ПРА АХВЯРНАСЬЦЬ: ЛЕАНІД ФЁДАРАЎ

Развважаючы пра ахвярнасьць, не магу не згадаць яшчэ адну асобу, жыцьцё і лёс якой моцна закранулі мяне сваёй незвычайнасьцю і ў той жа час тыповасьцю, традыцыйнасьцю. Незвычайнымі і, здаецца, недасягальнымі былі мэты, якія ставіў перад сабой гэты чалавек. І, на жаль, сумна і традыцыйна для нашых шыротаў склаўся ягоны лёс. Гаворка ідзе пра расійскага архімандрыта **Леаніда Фёдарава**. Кніжку пра яго разам зь іншымі кнігамі, цэлую пасылку, даслаў мне ксёндз **Казімір Жыліс**, які сьвятарыць у Гродзенскім катэдральным касьцёле і апекуецца зьняволенымі ў гарадзенскіх турмах. Прадмову ж да кнігі **Аляксея Юдзіна** «Леанід Фёдараў» (Масква, 2002) напісаў арцыбіскуп **Тадэвуш Кандрусевіч**, які быў тады пастарам для ўсіх католікаў Расіі. Арцыбіскуп Т. Кандрусевіч піша, што «для самога айца Леаніда Фёдарава сутнасьць ягонай хрысьціянскай і сьвятарскай місіі ўспрымалася перш за ўсё праз тэрмін «ахвяры», які, у сваю чаргу, не меў нічога агульнага з пачуцьцём асуджанасьці і фаталізму».

Леанід Фёдараў быў рускім, нарадзіўся ў 1879 годзе ў Пецярбургу, скончыў гімназію з залатым медалём і паступіў у Пецярбургскую праваслаўную духоўную акадэмію, не дзеля кар'еры духоўніка, а дзеля сваіх глыбокіх рэлігійных пераканаsuccession.

Ужо ў 20 гадоў Леанід Фёдараў, вывучаючы гісторыю

хрысьціянскай царквы і патрыстыку, быў апанаваны ідэяй Сусьветнай хрысьціянскай царквы, якая, на ягоную думку, жыла ў праваслаўнай і каталіцкай цэрквах. Высновы ягоных роздумаў, здавалася б, былі простымі і лагічнымі. Дзеля таго, каб заіснавала Сусьветная царква, трэба выправіць трагічную памылку тысячагодзьдзя і аб'яднаць Усходнюю праваслаўную царкву і Заходні рымскі каталіцкі касьцёл. Гэтай ідэі Леанід Фёдараў вырашыў прысьвяціць сваё жыцьцё.

Да сваіх рэлігійных поглядаў Леанід Фёдараў прыходзіць самастойна, хаця яны тоесныя з поглядамі вядомага расійскага рэлігійнага філосафа **Уладзіміра Салаўёва**, які лічыў, што *«кожную зь дзьвюх гістарычных паловаў Цэрквы належна прызнаць паасобку за частку Царквы, а за цэлую, ці Сусьветную, царкву можна прызнаць яе толькі ў злучэньні зь іншаю паловаю — злучэньні, якое не парушалася ў частцы чыста рэлігійнай, у частцы ж грамадскай і гістарычнай яно парушана і павінна быць аднаўлена»*.

У 1902 годзе Леанід Фёдараў пакідае вучобу ў праваслаўнай духоўнай акадэміі і выязджае ў Італію. Ягоны шлях ляжыць праз Заходнюю Украіну, дзе ён знаёміцца з уніяцкім мітрапалітам Галіцыі **Андрэем Шаптыцкім**.

Спроба аб'яднаць праваслаўе і каталіцтва была зьдзейсьненая на землях Беларусі і Заходняй Украіны яшчэ ў 1596 годзе. Брэсцкая унія прывяла да ўнікальнага выніку, калі Усходняя праваслаўная царква на нашых землях фармальна перайшла пад зьвярхніцтва першага намесьніка сьвятога Пятра на зямлі — Рымскага Папы, але захавала ўсходнюю праваслаўную абраднасьць. Я не буду аналізаваць вытокі і гісторыю Брэсцкай уніі, яе рэлігійныя і палітычныя прычыны. Адзначу толькі яе палітычны і нацыянальна-культурніцкі складнік, які стаў надзвычай важным у працэсе кшталтаваньня нацыянальнай сьвядомасьці заходніх украінцаў. Адрозная ад еўрапейскага рыма-каталіцтва і ўсходняга праваслаўя, унія стала натуральнай нацыянальнай рэлігіяй заходніх украінцаў.

Выглядае, што вось гэтую ўнікальнасьць уніі для кштал-

таваньня нацыянальнай сьвядомасьці, сваёй адметнасьці ад іншых добра разумелі кіраўнікі паўстаньня 1863 года ў Беларусі. Менавіта таму пра яе як пра беларускую рэлігію, толькі нашую, пісалася ў «Мужыцкай праўдзе». Нагадаю таксама, што унія ў Беларусі была канчаткова скасаваная царскімі акупацыйнымі ўладамі ў 1840 годзе, у той час, калі, па сьведчаньнях гісторыкаў, 80 працэнтаў беларусаў былі ўніятамі — католікамі ўсходняга абраду.

У Заходняй Украіне унія захавалася, бо ў выніку падзелу Рэчы Паспалітай яна ўвайшла ў Аўстра-Венгерскую імперыю.

Вось жа, у Рыме Леанід Фёдараў прымае каталіцкі хрост і паступае вучыцца ў каталіцкую семінарыю ў Ананы, непадалёк ад Рыма. Вучоба ў семінарыі дала Леаніду Фёдараву веды, але не адвярнула ад сваіх каранёў. Пазьней ён напіша: *«Тут я палка палюбіў не ўвогуле народ, але ў прыватнасьці наш рускі народ»*. У семінарыі Леанід Фёдараў дамагаецца таго, што яго прызнаюць усходнім католікам.

У 1907 годзе Леанід Фёдараў працягвае навучаньне ў калегіі кангрэгацыі Прапаганды ў Рыме. Тут зь ім адбыўся цікавы выпадак, які мае дачыненьне да Беларусі. Кіраўнік Рускай імператарскай місіі пры Сьвятым Пасадзе прапанаваў маладому расійскаму студэнту-семінарысту дапамагчы зрабіць бліскучую рэлігійную кар’еру ў заходніх губернях імперыі — у Беларусі. Леаніду Фёдараву прапанавалі ўзяць удзел у абрушэньні каталіцкага касьцёла ў Беларусі, разьвіваць увядзеньне рускай мовы як дадатковай у касьцёле. Наўзамен яму гарантавалі месца ў каталіцкім прыходзе, а зь цягам часу і пасаду каталіцкага біскупа.

Руская мова разумелася расійскім урадам як інструмент і зброя ў барацьбе зь сепаратызмам у Беларусі. Расійскія ўлады дзейнічалі пасьлядоўна і метадычна. Напачатку была зьнішчаная унія і ўніяты былі пераведзеныя ў праваслаўе. Затым праз дзяржаўныя ўстановы, школы, праваслаўную царкву праводзілася русіфікацыя беларускага народа. І на-

ват касьцёл паспрабавалі ўцягнуць у гэтую бітву за душу беларуса.

Леанід Фёдараў адмовіўся ад прапановы расійскага пасла. Ён не шукаў лёгкіх шляхоў у сваім жыцьці, кар'ера мала цікавіла яго. Гэты ж амбасадар, які стаў потым міністрам замежных спраў Расійскай імперыі, сказаў аднойчы французскаму амбасадару: *«Я паважаю католікаў, хаця і шкадую, што яны памыляюцца, але я ненавіджу і пагарджаю ўніятамі, бо яны рэнегаты»*.

Такія адносіны да ўніятаў з боку расійскай улады змусілі Леаніда Фёдарава пакінуць Рым і працягнуць сваё навучаньне ва ўнівэрсітэце ў Фрыбургу. Цікава, што ў гэтым жа Фрыбургу ў доме састарэлых пры кляштары сясьцёр дамініканак будзе дажываць свае апошнія гады знакамітая беларуска, мецэнатка беларускага адраджэнскага руху **Магдалена Радзівіл**.

У 1909 годзе Леанід Фёдараў сканчае багаслоўе ў Фрыбургскім універсітэце і пэўны час працуе ва ўніяцкім навуковым інстытуце «Студыён», заснаваным мітрапалітам **Андрэем Шаптыцкім** у Галіцыі.

На гэты ж час прыпадае самастойнае стварэньне першых рускіх уніяцкіх абшчын у Пецярбургу і Маскве. У Пецярбургу ўніятам нават удалося адчыніць сваю царкву. Зьявіліся і першыя рускія ўніяцкія сьвятары, якія апекаваліся гэтымі абшчынамі.

У 1911 годзе Леанід Фёдараў быў высьвечаны ў сьвятары балгарскім каталіцкім біскупам у Галаце. За гэты час Леанід Фёдараў некалькі разоў наведвае Расію. Але нецярпімае стаўленьне расійскіх уладаў да ўніяцтва і асабліва да ўніяцкіх сьвятароў, якіх лічылі за здраднікаў праваслаўя, змушае яго раз за разам выязджаць за мяжу.

У гэты ж час а. Леанід Фёдараў глыбока абдумвае сваю жыцьцёвую місію. Ён разумее ўсю складанасьць ускладзенай на сябе задачы: *«Каб быць уніятам, трэба часта граць глупую, недарэчную, сьмешную ролю, увесь час лавіраваць паміж сваімі і чужымі, увесь час бачыць крах сваіх планаў»*. Але

ўласная ахвярнасьць, усьведамленьне таго, што «*мы* (уніяты. — ***А. Б.***) — *ахвяры за схізму Усходу і Захаду*», прымушаюць яго адкінуць усе сумненьні і рухацца далей.

У лісьце да мітрапаліта А. Шаптыцкага айцец Андрэй Фёдараў абгрунтоўвае існаваньне розных формаў хрысьціянства ў адзінай Царкве: «*Трэба заўсёды адрозьніваць сусьветную ідэю Царквы ад яе формы. Дух Хрыстовы, дух чыстага каталіцызму не толькі не патрабуе адной пэўнай формы, а нават можа ісьці па розных накірунках*».

У 1914 годзе пачынаецца Першая сусьветная вайна. Айцец Леанід Фёдараў вяртаецца ў Расію, і яго вельмі хутка, як уніяцкага сьвятара, «агента метрапаліта А. Шаптыцкага», ссылаюць у Табольск. У гэтым жа годзе рускія войскі захапілі Львоў. Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі быў таксама высланы ў глыб Расіі. Камісар Галіцыі і Букавіны **Д. Дарашэнка** напісаў пра планы расійскай улады на захопленых землях: «*Меркавалася не толькі поўнае "зьліцьцё" акупаванай вобласьці зь іншымі расійскімі губернямі, але і аб'яднаньне яе насельніцтва з насельніцтвам Расіі на глебе рэлігійнай. Унія павінна была быць зьнішчана, уніяты павернутыя ў праваслаўе*».

У лютым 1917 года ў Расійскай імперыі адбылася дэмакратычная рэвалюцыя. Была абвешчаная амністыя для ўсіх палітычных зьняволеных. Са ссылкі былі вызваленыя і айцец Леанід Фёдараў і мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі. У чэрвені 1917 года быў праведзены першы епархіяльны сабор грэка-каталіцкай царквы ў Расіі, у якім удзельнічалі восем рускіх па нацыянальнасьці сьвятароў-уніятаў. Былі прынятыя праграма і статутныя нормы рускай уніяцкай царквы. Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі прызначыў айца Леаніда Фёдарава экзархам католікаў усходняга абраду Расіі. Неўзабаве расійская каталіцкая царква ўсходняга абраду была зацьверджаная Часовым урадам. Расійскі ўрад таксама прызнаў паўнамоцтвы экзарха Леаніда Фёдарава.

Разам з дэмакратычнай рэвалюцыяй да рэлігійных меншасьцяў прыйшла доўгачаканая свабода. Ідэя экзарха Леаніда

Фёдарава, ды і іншых расійскіх уніятаў заключалася ў стварэнні атмасферы даверу паміж праваслаўнымі і рыма-каталікамі, каб максімальна зблізіць дзьве вялікія хрысьціянскія царквы. Вось чаму айцец Леанід Фёдараў пасьлядоўна выступаў супраць празелетызму. Яму было важна не лоўля асобных душаў, а паступовае збліжэньне і ўрэшце аб'яднаньне ўсёй праваслаўнай і ўсёй каталіцкай цэркваў у адную Сусьветную царкву. Дзеля гэтага айцец Леанід Фёдараў лічыў надзвычай важнымі згоду і добрую волю кіраўнікоў Рускай праваслаўнай царквы і праваслаўнага кліру. Менавіта праваслаўныя сьвятары, лічыў айцец Леанід Фёдараў, маглі б узначаліць гэты аб'яднаўчы рух і правесьці яго ў жыцьці. Таму айцец Леанід Фёдараў шукае прыхільнікаў аб'яднаньня цэркваў сярод праваслаўнага духавенства, бярэ ўдзел у стварэньні Таварыства прыхільнікаў узьяднаньня цэркваў. У Таварыства ўваходзяць каталіцкія біскупы і сьвятары, уніяты і праваслаўныя епіскапы і сьвятары і нават стараабрадцы, якія таксама зацікавіліся ідэяй аб'яднаньня цэркваў.

Можна меркаваць, што айцец Леанід Фёдараў у тыя месяцы вольнай рэлігійнай дзейнасьці, накіраванай на зьдзяйсьненьне ягонай найвялікшай мары, адчуваў сябе і патрэбным і шчасьлівым. Але хутка перыяд дэмакратыі ў Расіі скончыўся. 7 лістапада 1917 года ў Расіі адбыўся бальшавіцкі пераварот. У адным зь лістоў да мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага айцец Леанід Фёдараў пісаў: *«Мы думалі, што ўздыхнем свабодна, але 25 кастрычніка* (старога стылю. — ***А. Б.***) *усё паляцела дагары нагамі, і мы засталіся каля разьбітых начовак»*. Але айцец Леанід Фёдараў яшчэ не ведаў, якія выпрабаваньні яму давядзецца пражыць.

Практычна адразу з захопам улады бальшавікі пачалі масавыя ганеньні найперш на праваслаўную царкву і сьвятароў. Але рэпрэсіі зачапілі і ўсе іншыя веравызнаньні. Была нацыяналізаваная царкоўная ўласнасьць, рэлігія выкінутая з навучаньня, у прыходах ствараліся «дваццаткі», якія мусілі кіраваць прыходам.

У гэтай цяжкай сітуацыі рускія ўніяты выступалі сапраўд-

ымі носьбітамі сваёй галоўнай аб'яднаўчай місіі. Айцец Леанід Фёдараў пісаў: *«Не актыўная прапаганда, не націск місіянера неабходны ў Расіі, а зблiжэньне на глебе агульна-хрысьціянскіх інтарэсаў супраць растучага нявер'я і ваяўнічага камунізму. На гэтай глебе ў 1918–1919 гадах я дасягнуў таго, што каталіцкія і праваслаўныя сьвятары зьбіраліся разам для барацьбы супраць бальшавікоў, калі тыя ў сваіх перасьледаваньнях сьвятароў і Царквы пераходзілі ўсялякія межы. Мы падпісваліся на агульных пратэстах. Праваслаўныя, пазбаўленыя царскай апекі, адчувалі сябе як дзеці на вуліцы, якія згубілі бацькоў, і дзеля адсутнасьці паліцыянтаў не ведалі, як абараніць сябе ад насядаючага сектанцтва. Таму іх страшна кранула, што ў самую цяжкую для іх хвіліну тыя самыя каталікі, якіх яны звыкліся лічыць сваімі найгоршымі ворагамі, зараз дапамагаюць ім і змагаюцца разам зь імі»*.

Савецкая ўлада паставіла сабе за мэту праз масавыя рэпрэсіі супраць духавенства аслабіць царкву ў Расіі, бо палітычная дактрына бальшавікоў была антырэлігійнай па сваёй сутнасьці. Дзеля правядзеньня рэпрэсіяў быў выкарыстаны голад, вынік іхняга гаспадараньня, які ахапіў Паволжа ды іншыя расійскія рэгіёны. У 1922 годзе правадыр бальшавікоў **У. Ленін** пісаў: *«Я прыходжу да безумоўнай высновы, што мы павінны менавіта зараз даць самую рашучую і бязьлітасную бойку чарнасоценнаму духавенству і падавіць яго супраціўленьне з такой жорсткасьцю, каб яны не забылі гэтага на працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў»*. Была распачатая кампанія па гвалтоўным забраньні царкоўных каштоўнасьцяў, як быццам бы дзеля дапамогі галадаючым.

У гэтым жа 1922 годзе айцец Леанід Фёдараў піша мітрапаліту А. Шаптыцкаму: *«Метад, прыняты савецкай уладаю для "правядзеньня сваіх ідэй", уяўляе сабой суцэльны гвалт над сумленьнем. Усе прыёмы царскага рэжыму здаюцца зараз вяршыняю свабоды ў параўнаньні з тым, што мы адчуваем на саміх сабе»*. За правядзеньне катэхізацыі дзя-

цей і адмову ў падпісаньні дамовы з уладамі айцу Леаніду Фёдараву пагражаюць турмою і нават расстрэлам.

Урэшце ў канцы 1922 года ў Петраградзе былі зачыненыя ўсе 16 каталіцкіх касьцёлаў, у тым ліку і ўніяцкая царква, дзе служыў айцец Леанід Фёдараў, а 15 сьвятароў былі абвінавачаныя ў антырэвалюцыйнай дзейнасьці і стварэньні змоўніцкай антысавецкай арганізацыі.

Паказальны судовы працэс над каталіцкімі сьвятарамі праходзіў увесну 1923 года ў Вярхоўным Судзе ў Маскве. Пракурор **Крыленка** падчас працэсу заявіў: *«Вашая рэлігія — я плюю на яе, як я плюю на ўсе рэлігіі: праваслаўную, яўрэйскую, магаметанскую ды іншыя»*.

У сваім апошнім слове айцец Леанід Фёдараў сказаў, што ён выконваў савецкае заканадаўства роўна настолькі, наколькі яно не супярэчыла кананічнаму праву каталіцкай царквы. Ён таксама заявіў, што савецкая ўлада «мабыць, пасланая нам за грахі». Гэтыя сьмелыя словы айца Леаніда Фёдарава выклікалі фурор у судовай зале.

Цікава, што тыя ж аргументы ўжываў на судзе праз 19 гадоў галандскі рыма-каталіцкі сьвятар **Цітус Брандсма**. У акупаванай Галандыі ён забараніў у каталіцкіх газетах друкаваць інфармацыю галандскага нацыянал-сацыялістычнага руху, быў арыштаваны і заявіў: *«Каталіцкі касьцёл выконвае распараджэньні акупацыйных сіл і галандскіх уладаў датуль, дакуль яны не пярэчаць асновам яго веры»*. Яго трымалі ў турме, а затым забілі ў канцлагеры ў Дахаў.

У выніку суду над сьвятарамі ксёндз **Канстанцін Будкевіч** быў расстраляны, арцыбіскуп **Ян Цяпляк** і экзарх Леанід Фёдараў былі асуджаныя на дзесяць гадоў турмы, іншыя сьвятары дасталі ад трох да дзесяці гадоў зьняволеньня.

У сваім чарговым лісьце з турмы да мітрапаліта А. Шаптыцкага айцец Леанід Фёдараў так тлумачыў жорсткі прысуд у дачыненьні да сябе: *«Высьветліліся іхныя* (уладаў. — ***А. Б.***) *адносіны да ідэі аб'яднаньня Цэркваў: яны баяцца яго як чорт ладану. Яна ўяўляецца ім толькі як агульны палітычны фронт супраць бальшавізму. Мае дзесяць гадоў турмы я*

*атрымаў менавіта за гэта. Пракурор ахарактарызаваў мяне як ідучага напралом супраць савецкай улады, заявіў, што мой фанатызм не можа аблегчыць маю долю. “Гэта ён, — закрычаў ён, паказваючы на мяне патэтычным рухам, — сабраў разам праваслаўных і католікаў для супрацьдзеяньня ўладзе. Гэта ён арганізаваў агульны фронт супраць камунізму... Царква і савецкая ўлада — гэта антыподы і разам ужыцца не могуць. Усялякая пропаведзь з царкоўнай кафедры супраць атэізму ўжо ёсьць палітычная контррэвалюцыйная агітацыя...” Так з сатанінскай злобаю, захлёбваючыся ад шаленства, крычаў на судзе пракурор»*.

Айца Леаніда Фёдарава не пакідае вера ў ахвярнасьць сваёй жыцьцёвай місіі. Ён перакананы, што судовы працэс «будзе служыць толькі для большай славы сьвятой Царквы». Ён хацеў бы прыняць пакутніцкую сьмерць за веру: *«Я толькі шкадую, што не патрапіў пад сьмяротны прысуд і што мне не ўдалося разьдзяліць славутага лёсу беднага, а з гэтага часу бласлаўлёнага а. Будкевіча»*.

Умовы ўтрыманьня ў турме былі цяжкія. З турмы айцец Леанід Фёдараў піша мітрапаліту А. Шаптыцкаму: *«Бедны Эйсмант звар'яцеў, а Францішак Руткоўскі яўна тупее і ператвараецца ў дзіцёнка»*.

Ведаючы, што большасьць каталіцкіх сьвятароў, якія працавалі ў Петраградзе, маглі быць зь Беларусі, бо Магілёўская дыяцэзія апроч Магілёўшчыны ахоплівала і ўсю тэрыторыю Расіі, у тым ліку і Петраград, можна дапусьціць, што ксёндз **Эйсмант** быў тым самым ксяндзом-беларусам, пра якога ў 1913 годзе ў адным са сваіх лістоў згадвала княгіня Магдалена Радзівіл. Яна скардзілася расійскаму міністру на праблемы ў пабудове новага касьцёла, якім займаўся ў Анопалі ксёндз **Аляксандр Астрамовіч** (беларускі паэт **Андрэй Зязюля**), і саркастычна дадавала: *«гісторыя ксяндза Эйсманта, іншага беларуса, будзе не менш забаўнай...»* Але гэтая інфармацыя патрабуе ўдакладненьня. Урэшце ўвесь вышэйзгаданы працэс над петраградскімі ксяндзамі мае несумненны інтарэс і для беларускай гісторыі.

Між тым у турме айцец Леанід Фёдараў працягвае свае намаганьні па ўсталяваньні кантактаў і працы з праваслаўнымі сьвятарамі. У Сакольнічай турме, дзе ён адбывае тэрмін, сядзяць таксама зьняволеныя два праваслаўныя епіскапы і каля 20 сьвятароў. Айцец Леанід Фёдараў піша: «*Адносіны ў нас зь імі самыя добрыя... Я ўвесь час спускаюся да іх на першы паверх, і яны мяне прымаюць як свайго. Асабліва епіскап Барыс* (Сакалоў, епіскап Рабінскі. — ***А. Б.***) *схільны да аб'яднаньня. Думаю, што ўдасца пасеяць не адную жменю добрага насеньня*».

У 1923 годзе зачыненыя ўладамі касьцёлы ў Петраградзе часова адчынілі, але не ўніяцкую царкву, будынак якой і маёмасьць былі канфіскаваныя. Айцец Леанід Фёдараў апісвае ў лісьце з турмы тую драматычную сітуацыю, у якой апынуліся рускія ўніяты: «*Здань аб'яднаньня Цэркваў нямала палохае іх: яны разумеюць, што каталіцтва — гэта вялізная сіла, змагацца зь якой нялёгка. З гэтага пункту погляду мы заўсёды зьяўляемся адыёзнай велічынёй у цяперашняга ўрада, і, калі мы будзем мець посьпехі больш ці менш буйнога характару, нашае перасьледаваньне непазьбежнае*».

Прадбачаньні айца Леаніда Фёдарава неўзабаве пачалі збывацца. У канцы 1923 года супольнасьці каталікоў усходняга абраду ў Маскве і Петраградзе былі разгромленыя, арыштаваныя тры сьвятары, 25 манашак, прыхажане, усяго 62 асобы.

На працягу наступных трох гадоў рыма-каталіцкія сьвятары, асуджаныя па адной справе з айцом Леанідам Фёдаравым, пад ціскам міжнароднай супольнасьці былі вызваленыя і высланыя за мяжу. У турме заставаўся толькі экзарх Леанід Фёдараў. Урэшце ў красавіку 1926 года за паручальніцтвам кіраўніцы Чырвонага Крыжа ў Расіі **Кацярыны Пешкавай**, жонкі **Максіма Горкага**, айцец Леанід Фёдараў выходзіць на волю. Як ён пісаў: «*Выпусьцілі ўрэшце і мяне... выпусьцілі, вядома, з скрыгатам зубоў*».

Асоба Кацярыны Пешкавай не чужая для беларусаў. Яе

родная сястра **Аляксандра** была другой жонкаю **Адама Ягоравіча Багдановіча**, бацькі **Максіма Багдановіча**. На жаль, яна памерла зусім маладой пры першых родах. Сьмерць мачахі моцна ўразіла Максіма Багдановіча і знайшла адбітак у ягоных вершах. Доўгія гады захоўваліся добрыя адносіны паміж Адамам Багдановічам і Кацярынай Пешкавай. Яна, добрая душой, дапамагала ў цяжкія часы Адаму Багдановічу грашыма.

Тым не менш свабода айца Леаніда Фёдарава не была доўгай. Ён пасяляецца ў Калузе, яго прытуляе літоўскі ксёндз **Ян Паўловіч**. А ў ліпені 1926 года айцец Леанід Фёдараў наведвае магілёўскага дэкана **Язэпа Белагаловага**. Яшчэ ў 1923 годзе мітрапаліт А. Шаптыцкі пашырыў паўнамоцтвы экзарха Леаніда Фёдарава таксама і на тую частку Беларусі, якая была пад саветамі. Айцец Леанід Фёдараў бываў двойчы ў Магілёве ў 1922 годзе. Новы візіт у Магілёў экзарха Ланіда Фёдарава быў патрактаваны АГПУ як распаўсюд рэлігійнай прапаганды, забароненай савецкай уладай. 10 ліпеня 1926 года ён быў арыштаваны, а 18 верасьня асуджаны асобай нарадай пры калегіі АГПУ да трох гадоў канцлагера. Яго чакаў савецкі канвеер сьмерці — Салавецкі лагер асобага прызначэньня.

Ягоны прыяцель магілёўскі дэкан Язэп Белагаловы неўзабаве быў асуджаны магілёўскім АГПУ да пяці гадоў канцлагера, ён адбываў зьняволеньне на Салаўках, а праз два гады, у 1928 годзе, яго перавезьлі ў Лубянскую турму ў Маскву, дзе ён быў забіты «пры спробе ўцёкаў».

Агульную сітуацыю айцец Леанід Фёдараў ацэньваў як *«расійскі жах, у якім мы мучаемся за грахі нашыя і нашых бацькоў»*.

Падрабязнае апісаньне нораваў і парадкаў у Салавецкім лагеры мы можам прачытаць у кнізе беларускага драматурга і пісьменьніка **Францішка Аляхновіча** «У кіпцюрох ГПУ», ён таксама патрапіў на Салаўкі ў 1926 годзе і прабыў там шэсьць гадоў. А я, пішучы гэтыя радкі, узяў з паліцы ПВРа кнігу «Айцец Арсені» (М., 2003) і чытаю ўспаміны аднаго з

манахаў-скітнікаў Салавецкага манастыра, які да 1923 года быў манахам, а потым — зьняволеным і адсядзеў у турме 28 гадоў. Вось жа айцец **Серафім** піша пра першы свой Салавецкі лагер: «*Калі ва ўсіх лагерах зьняволеныя былі бяспраўныя, дык у Салаўках яны былі тройчы бяспраўныя. Цябе маглі завесьці за кут храма і без прысуду, а можа быць, і дзеля “забавы”, на краі ямы выстраліць у патыліцу ці, павярнуўшы да сябе тварам і адышоўшы на пяць-шэсьць крокаў, каб ты не вырваў накіраваны на цябе наган, выстраліць у твар ці ў сэрца і яшчэ паўжывога закапаць у зямлю. Бачыў сказанае на свае вочы*».

Падчас прыезду айца Леаніда Фёдарава на Салаўкі там у лагеры ўжо былі рускія ўніяты, знаёмыя экзарха. Па нядзелях яны служылі ўніяцкія службы. Айцец Леанід Фёдараў далучаецца да братоў па няволі, бярэ ўдзел у богаслужэньнях. Ён імкнецца служыць штодзень, піша багаслоўскія працы, якія ў яго рэгулярна канфіскоўвае лагерная адміністрацыя. Нават у гэтых жахлівых умовах існаваньня ён працягвае сваю працу па пошуку аб’яднаўчых шляхоў паміж каталікамі і праваслаўнымі. У той час на Салаўках у лагеры ўтрымліваліся больш за сто праваслаўных сьвятароў і дваццаць епіскапаў. Яны запрашалі айца Леаніда Фёдарава на свае сустрэчы. Двойчы ён выступаў на іх з багаслоўскімі дакладамі. Каталіцкі біскуп **Баляслаў Слоскан**, які ў той час таксама адбываў пакараньне на Салаўках, так пісаў пра гэта: «*Айцец экзарх імкнуўся ўвайсьці ў кантакт з праваслаўнымі. Ён сумовіўся з праваслаўнымі манахамі Салавецкага манастыра, якія падзялялі ў зьняволеньні той самы, што і мы, лёс, а таксама з праваслаўнымі сьвятарамі і епіскапамі — салавецкімі вязьнямі. У асабліва шчыльным кантакце а. экзарх знаходзіўся з прывялейным архіепіскапам Іларыёнам (Троіцкім), былым рэктарам Маскоўскай духоўнай акадэміі і правай рукой патрыярха Ціхана. Яны заўсёды размаўлялі на апалагетычныя тэмы, якія датычыліся Цэрквы: Усходняй праваслаўнай і Заходняй каталіцкай*». Іларыён (Троіцкі), архіепіскап Вярэйскі, двойчы быў у Сала-

вецкім лагеры і ў 1929 годзе памёр у турэмнай бальніцы ў «Крастах» у Ленінградзе.

Фізічныя цяжкасьці айца Леаніда Фёдарава былі ўскладненыя пакутамі духоўнымі. У 1928 годзе там, на Салаўках, біскуп Б. Слоскан абвясьціў яму пра тое, што расійскі экзархат усходняй царквы па рашэньні Ватыкана скасаваны, а айцец Леанід Фёдараў пазбаўлены пасады экзарха. Як успамінаў біскуп Б. Слоскан: *«Фёдараў апусьціў галаву і доўга маўчаў. Потым спытаў: "І што ж, гэта назаўсёды?" — "Не, — адказаў я, — часова". — "Ну, тады яшчэ не ўсё страчана"»*.

Уніяцкая манашка **Ю. Данзас**, якая ў той час таксама адбывала зьняволеньне на Салаўках, распавядала, што айцец Леанід Фёдараў цяжка перажываў разгром уніяцкага руху ў Расіі. Ён успрымаў гэта як асабістую катастрофу, разбурэньне сэнсу і мэты свайго жыцьця і вініў у няўдачах уніяцкага руху Расіі сябе: *«Я не змог выканаць ускладзенай на мяне місіі. На маёй працы не было бласлаўленьня, і, такім чынам, я не здолеў яго заслужыць... Так, вінаваты ўсё ж такі я. Адказнасьць ляжала на мне, а не на кім-небудзь іншым. Мае малітвы былі не ўгодныя Богу»*. Ю. Данзас супакойвала яго, разважаючы: *«Айцец Леанід, ці мне вам указваць, што вашыя цярпеньні — вянец нашага подзьвігу і залог нашай будучыні»*. Айцец Леанід супакойваецца і працягвае: *«Мала яшчэ хто зразумеў, што месіянізм у Расіі — менавіта ў яе цярпеньні. Таму ўся гісторыя рускай Царквы склалася так дзіўна, так нязграбна, што тут маецца нейкая таямніца выкупленьня... Для нас "перамога, якая перамагла сьвет" — гэта Крыж, узьнесены над сьветам не для пакланеньня яму, а для расьпяцьця на ім... Гэтае расьпяцьце трэба разумець не толькі ў сэнсе фізічных цярпеньняў, але значна глыбей: у маральных цярпеньнях і нават у пакутлівых сумненьнях»*.

Відавочна, што свой лёс айцец Леанід Фёдараў не адзьдзяляў ад лёсу расійскай царквы, расьпятай, на ягоную думку, у тыя гады на Хрыстовым крыжы.

У 1929 годзе пасьля сканчэньня тэрміну зьняволеньня

айца Леаніда Фёдарава адпраўляюць у ссылку ў Карэлію. У 1931 годзе за адмову ад фізічнай працы ён на паўгода трапляе ў архангельскую турму. Затым ізноў была ссылка на поўначы Расіі ў Котласе. Айцец Леанід Фёдараў працягвае рэгулярна служыць, пранікае ў перасыльныя баракі, у бальніцу са сьвятымі дарамі для хворых і ссыльных католікаў.

У канцы 1933 года айцец Леанід Фёдараў, ізноў дзякуючы дапамозе Кацярыны Пешкавай, быў вызвалены са ссылкі. Ён пераязджае ў Вятку і ў сакавіку 1935 года ва ўзросьце 54 гадоў памірае ў адзіноце.

Да гэтага часу Руская царква ўсходняга абраду практычна перастала існаваць. Сьвятары, манашкі, вернікі былі высланыя, расстраляныя, зьняволеныя ў ГУЛАГу. Ідэя аб'яднаньня праваслаўнай і каталіцкай цэркваў так і засталася нязьдзейсьненай ідэяй летуценьніка і пакутніка айца Леаніда Фёдарава, які ахвяраваў дзеля яе сваім жыцьцём. Ці шкадаваў ён пра сваю ахвяру перад сьмерцю? Думаю, што не.

*1 чэрвеня 2013 года, Бабруйск.*

# НАВЕЯНАЕ «ЖЫЦЬЦЁМ ЛІЛІЯНЫ ЛУНГІНОЙ...»

***«Пераказ ці цытаваньне некаторых эпізодаў з каментаром» — так Алесь Бяляцкі вызначае жанр гэтага тэксту, які стаў водгукам на кнігу «Падрадкоўнік: Жыцьцё Ліліяны Лунгіной, якое яна распавяла ў фільме Алега Дормана» (М., 2010).***

*11 кастрычніка 2013 года, Бабруйск.*

Прачытаў зараз кнігу, якую мне даслала праваабаронца Марына Статкевіч з Барысава. Яна называецца «Падрадкоўнік» і мае падзагаловак: «Жыцьцё Ліліяны Лунгіной, якое яна распавяла ў фільме Алега Дормана» (М., 2010). Фактычна, яна зьяўляецца запісам на паперы вуснага апавяданьня, якое Л. Лунгіна распавяла перад тэлекамерай. Кніга зацікавіла мяне шчырасьцю расповеду і напоўненасьцю жыцьця гэтай жанчыны. Яна — перакладчыца, удзельніца літаратурнага жыцьця ў Маскве ў 40–80-я гады, яна — ліберальная інтэлігентка, сяброўка апальных і ганімых пісьменьнікаў-дысідэнтаў Віктара Някрасава, Леаніда Пінскага, жонка рэжысёра і сцэнарыста Сямёна Лунгіна, якая адкрыла для рускамоўнага чытача Астрыд Ліндгрэн, пераклаўшы расповеды пра Карлсана, Пэпі ды іншыя яе кнігі. Л. Лунгіна ў сваім расповедзе здолела перадаць атмасферу нябачнага супраціву аўтарытарнаму рэжыму, які ахопліваў творчую інтэлігенцыю ў тыя часы.

Ёсьць у яе расповедзе эпізоды, якія асабліва зацікавілі ці закранулі нейкім чынам мяне, чым я і хачу падзяліцца.

Бацька Ліліяны працаваў у замежным гандлёвым прадстаўніцтве СССР у Германіі, таму яе дзяцінства і раньняе юнацтва прайшлі за мяжой. У 1934 годзе яна, 14-гадовай дзяўчынкаю, разам з маці вяртаецца з Парыжа ў Маскву. Едзе цягніком. І вось такую карціну Ліліяна бачыць на мяжы Польшчы і СССР і запамінае яе на ўсё жыцьцё. На ўсялякі выпадак нагадаю, што мяжа тады праходзіла ў 30 кіламетрах ад Менска і першая чыгуначная станцыя на савецкай тэрыторыі была ў мястэчку Негарэлае. Такім чынам Ліліяна апісвае тое, што яна ўбачыла ў тагачаснай савецкай Беларусі: «Тады мяжа з Польшчаю была не Брэст-Літоўск, як зараз, а станцыя Негарэлае. Мама вырашыла паслаць тэлеграму бацьку, і мы выйшлі на перон. Цягнік стаяў у Негарэлым некалькі гадзінаў, а пошта, нам сказалі, — на плошчы. З вакзала выходзіць на перон было нельга, а ўсярэдзіну прайсьці можна. Мы зайшлі ў залу чаканьня, і я ўбачыла страшнае відовішча. Уся падлога была засланая людзьмі, якія ці то спалі, ці то былі хворыя і бясьсільныя, я дрэнна разумела, што зь імі, плакалі дзеці, ну, у агуле, відовішча нейкіх паўжывых людзей. А калі мы выйшлі на плошчу, дык і ўся плошча была засланая імі. Гэта былі людзі, якія спрабавалі зьехаць ад голаду, сапраўды, людзі, якія памiралі з голаду. Я стаяла ў сінім паліто зь нейкімі срэбранымі ці залатымі гузікамі і каракулевым каўняром, а перада мной — усё чорнае, лахманы. І я адчула такі жах і такую сваю непатрэбнасьць... Мне стала вельмі страшна. Я памятаю, як заплакала і сказала: «Мама, я не хачу. Давай вернемся назад, я баюся, я не хачу далей ехаць». І як мама мне адказала: «Усё, дзетка, мы ўжо па гэты бок мяжы, мы ўжо ў Савецкім Саюзе. Назад дарогі няма».

У Маскве ў школе Ліліяна Лунгіна вучылася разам з Дэзікам Каўфманам, будучым вядомым паэтам Давідам Самойлавым, зь якім разам пасьля школы ў 1938 годзе яна паступіла ў Інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры.

Як успамінае Л. Лунгіна, гэта была «такая элітарная ВНУ накшталт пушкінскага ліцэя, створаная савецкай уладаю ў той момант, калі стала зразумела, што патрэбныя высокаадукаваныя людзі, каб мець стасункі з замежнымі дзяржавамі». Конкурс быў «неверагодны», шаснаццаць чалавек на месца. Але, згадвае Ліліяна, «на шчасьце, я скончыла школу з атэстатам выдатніка, што потым стала адпавядаць залатому медалю, таму мне трэба было прайсьці толькі сумоўе». Дзяўчыну ўразіла, што сумоўе праводзілі не выкладчыкі, а начальнік адзьдзела кадраў і начальнік сьпецадзьдзела ІФЛІ: «Сумоўе заключалася не ў высьвятленьні якіх-небудзь ведаў, як я меркавала; галоўнае пытаньне было: навошта мы хочам сюды паступіць».

Чаму мяне зацікавіла гэтая гісторыя з паступленьнем Ліліяны Лунгіной, а тады яшчэ Маркавіч, у гэты ІФЛІ. Ды таму што праз год, у 1939-м, сюды паступіць іншы юнак-выдатнік, пэўна што такім жа чынам, праз сумоўе, а звалі яго Іван Мележ.

У Ліліяны Лунгіной засталіся найлепшыя ўспаміны ад вучобы ў ІФЛІ: «ІФЛІ знаходзіўся ў Сакольніках. Ад метро “Сакольнікі” пяць прыпынкаў на трамваі. Стаяў дом у лесе... І вось зь першага дня пачалося тое, што зьявілася галоўным у ІФЛІ, хаця важнымі былі і лекцыі і прафесура, але галоўнае — пачалося гэтае бясконцае сумоўе, гэта — іншае, чым у школе, але ўсё роўна — адточваньне адзін аб аднаго». Далей ва ўспамінах Ліліяна ўдакладняе: «Іфлійская атмасфера вызначалася няспыннай прагаю ведаў. Гэтае імкненьне глыбока дасьледаваць прадмет, даходзіць да сутнасьці рэчаў было новаю зьяваю для савецкага грамадства. Бо зусім яшчэ нядаўна панавалі лозунгі РАПП і Пралеткульта — “Выкінем класікаў за борт карабля сучаснасьці”. Гэтую прагу ведаў падтрымлівалі нашыя выкладчыкі, пераважна сапраўдныя навукоўцы». У інстытуце студэнтам чыталі лекцыі па антычнай літаратуры і літаратуры эпохі Адраджэньня. Як згадвае Ліліяна: «Хатняга жыцьця амаль не было. Ці мы былі ў ІФЛІ, ці мы гулялі, ці сядзелі ў бібліятэцы. Усе мы чамусьці

хадзілі ў Ленінскую бібліятэку — знакамітую вялікую залу Ленінскай бібліятэкі, якую я пяшчотна люблю, таму што яна зьвязаная з такімі цудоўнымі ўспамінамі. Там па перыметры ідзе балкон, дзе можна было размаўляць, і палова часу праводзілася на гэтай галерэі ці ў курыльні. Ішла бясконцая размова».

Ізноў жа, чытаючы гэтыя ўспаміны Ліліяны, я прымяраю вось гэтую атмасьферу ІФЛІ на 18-гадовага хлопца з далёкіх, неверагодна далёкіх Глінішчаў з забытага Богам краю балатоў, зь мілага майму сэрцу ўсходняга беларускага Палесься. Патрапіць з Глінішчаў у ІФЛІ — гэта на той час было, як зараз пасьля шараговай беларускай школы — у Оксфард ці Сарбону.

Вядома, што Іван Мележ правучыўся ў ІФЛІ зусім нядоўга. Мілітарызацыя краіны ішла поўным ходам. Сталін з Гітлерам заключылі пакт і падзялілі Еўропу. У савецкае войска ішлі вялікія прызывы. Вось жа быў прызваны ў войска і навасьпечаны студэнт ІФЛІ Іван Мележ.

Адсюль мне цяжка даведацца, колькі ўсё ж часу ён пасьпеў правучыцца ў ІФЛІ — тыдзень, месяц ці некалькі месяцаў. Але я па сабе ведаю, наколькі ўражвальнымі і вырашальнымі ў жыцьці могуць быць першыя сустрэчы з сябрамі-творцамі, якія маюць іншы, адметны, большы, чым у цябе, кругагляд, калі адна размова, адна сустрэча можа перавярнуць ці ўмацаваць твае ўяўленьні, калі кожнае пачутае слова падае ў тваю сьвядомасьць, у тваё «я», як зерне, кінутае ў маладую веснавую ральлю. Мы амаль нічога не ведаем пра гэты кароткі перыяд жыцьця геніяльнага Івана Мележа. Але мне чамусьці хочацца верыць, што менавіта там ён асэнсаваў сябе, свае Глінішчы ў часе і прасторы сусьветнай культуры.

Ліліяна так апісвае творчае жыцьцё, якое буяла ў сьценах інстытута: «У ІФЛІ была вельмі моцная група маладых паэтаў. На чале яе стаяў Павел Коган, адзін радок якога выражае ўсю ягоную сутнасьць, а радок такі:

Я с детства не любил овал,
Я с детства угол рисовал.

Ён быў вельмі рэзкі, нязручны, гарачы, палкі, імпэтны і здаваўся нам неверагодна таленавітым. Да гэтай жа групы належаў Сяргей Нараўчатаў, які, на жаль, стаў пасьля вайны казённым, афіцыйным паэтам. А ў той час быў неверагоднай прыгажосьці хлопцам — такі блакітнавокі вікінг — і пісаў вельмі добрыя вершы. Да гэтай жа групы належаў Савік Гудзенка, яшчэ некалькі чалавек. І нашага Дэзіка Каўфмана, у далейшым Самойлава, зь ягонымі «Плотнікамі аб плаху» — гэты знакаміты верш, які ён напісаў яшчэ ў восьмым класе, зараз лічыцца класічным, — яны прынялі з раскрытымі абдымкамі.

Яны супрацьпастаўлялі сябе паэтам старэйшага пакаленьня, якія, на іхнюю думку, пісалі вельмі бытавыя вершы. Мілыя бытавыя вершыкі. У тыя гады не было ніякага напружаньня ў культурным жыцьці. А хлопцы ў нейкім сэнсе адчувалі надыходзячае.

У асьпірантуры ІФЛІ ў той час вучыліся Твардоўскі і Сіманаў. Вакол іх круціўся Далматоўскі.

Вось гэтым паэтам — ну, вядома, у першую чаргу Сіманаву і Далматоўскаму, Твардоўскі стаяў заўсёды асобна — супрацьпаставілі сябе іфлійскія хлопчыкі. Сіманаў са сваімі лірычнымі «Пяцьцю старонкамі» быў тады самым папулярным паэтам. Далматоўскага таксама ўсе ведалі. І нашыя маладыя іфлійцы далі ім бой. І была знакамітая вечарына, чамусьці ў юрыдычным інстытуце, такі як бы двубой паэтаў двух накірункаў, двух пакаленьняў. Поўна было народу, стаялі ва ўсіх праходах. Моладзь адчувала, што гэта штосьці вельмі важнае, што гэта адваяваньне нейкіх уласных, новых пазіцый, што можна ў гэтай сістэме значна сур'ёзьней і глыбей працаваць».

Вось такі накал творчай атмасферы быў у ІФЛІ, калі там вучыўся Іван Мележ. Карані ягонай творчай сьмеласьці (а ён здолеў паказаць цэлы беларускі космас, аграмадныя вяршыні

і пякельныя нізіны чалавечых пачуцьцяў, якія біліся і віравалі пад зрэбнымі сьвіткамі і палатнянымі кашулямі зьнешне ціхмяных і закураных палешукоў) ці не растуць адтуль, з гэтае п’янкое атмасферы ІФЛІ?

Яшчэ адзін эпізод з успамінаў Ліліяны Лунгіной, датычны яе навучаньня ў ІФЛІ, мне хацелася б прывесьці цалкам. І датычыць ён той атмасферы, якая стаяла ў той час у савецкім таталітарным грамадстве:

«Увесь трыццаць восьмы і трыццаць дзявяты год ятрылася хваля сталінскага тэрору. У ІФЛІ пачаліся жахлівыя сходы. Мне памятаецца, што чамусьці для іх здымалі залу кансерваторыі — у ІФЛІ, верагодна, не было дастаткова вялікай аўдыторыі, — і там старшакурсьнікі зь нязвыклым захапленьнем і энтузіязмам займаліся самасьцяганьнем, сьцяганьнем сваіх бацькоў і прамаўлялі страшныя пакаянныя прамовы. Вінаваціліся яны ў тым, што бацька іх арыштаваны, маці арыштаваная, а яны самі вінаватыя перад партыяй і краінай, што ў час не выкрылі бацькоў. Якую ахінею, якую лухту, як быццам пакаянную, вярзьлі гэтыя добрыя, разумныя, інтэлігентныя дзеці, якія чыталі ўжо ўсе заходнія класічныя творы, слухалі таго ж Грыба і Пінскага, у агуле, людзі з пашыраным, культурным поглядам на сьвет, — што яны там вярзьлі, б’ючы сябе ў грудзі і вінавацячыся, што яны не здолелі ў час, першымі, да КДБ, выкрыць сваіх бацькоў...

Я думаю, псіхалагічна гэта было роднаснае чамусьці рэлігійнаму. Пакаяньню, споведзі. Гэта быў абсалютна містычны, па-за логікай, шчыры, але вельмі страшны стан душы. Відаць, наступае нейкі момант, нейкі гіпноз пакаяньня, калі гэта як выпушчаная страла. Спыніць яе нельга. Але, паўтараю, з пункту погляду нармальнага чалавечага розуму, гэта адзін са страшных момантаў масавага засьляпленьня».

Стан грамадства пры таталітарным рэжыме паддаецца экстрапаляцыі з пэўнымі папраўкамі. Ён ірацыянальны, ён усеагульны і захапляльны. У такім стане людзі хочуць «быць як усе». Ён ствараецца паступова і пасьлядоўна. Ён мае пача-

так разьвіцьця, вяршыню і лёгка разбураецца ад унутраных і зьнешніх супярэчнасьцяў. І вось калі людзі выходзяць зь яго, дык яны і самі не могуць дакладна патлумачыць свае ўчынкі і поўную адсутнасьць здольнасьцяў да крытычнага мысьленьня. У чалавеку выразна праяўляюцца жывёльныя інстынкты, інстынкты выжываньня ў крытычных для існаваньня сітуацыях. Калі ты такі «як усе», так лягчэй выжыць. І тады багата чаго ў паводзінах чалавека адбываецца на падсьвядомым узроўні.

Такія думкі прыйшлі мне ў голаў, калі я разважаў над гэтым эпізодам з жыцьця канца 30-х гадоў. І яшчэ хочацца дадаць: чалавек, які не адчуў, не паспытаў смаку свабоды, лёгка паддаецца рабству. Свабода — прыроджаная ўласьцівасьць чалавечай натуры, але ёй неабходна вучыцца і вучыць. Сьвядома ці падсьвядома, любая жорсткая сістэма ў грамадстве імкнецца зьвесьці стан чалавека да біялагічнага існаваньня. Але, і гэта даказвае расповед Ліліяны Лунгіной, такія чалавечыя якасьці, як спачуваньне, суперажываньне, любоў да бліжняга, міласэрнасьць, яны невынішчальныя.

І апошні «беларускі» эпізод, які прыцягнуў маю ўвагу ва ўспамінах Ліліяны Лунгіной, ён адносіцца да рускага паэта Аляксандра Твардоўскага. А. Твардоўскі — прыкметны рускі паэт, найбольш вядомы сваёй «народнай» паэмай «Васілій Цёркін», якую, як я памятаю, мы нават вывучалі ў 70-я гады мінулага стагодзьдзя па школьнай праграме. Але не менш за свой паэтычны талент ён знакаміты тым, што, будучы рэдактарам літаратурнага часопіса «Новый мир», друкаваў творы такіх пісьменьнікаў, як Віктар Някрасаў, Уладзімір Вайновіч, Васіль Быкаў. Знакамітая аповесьць Аляксандра Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», якая адкрыла яго як пісьменьніка, таксама была надрукаваная ў часопісе «Новый мир», што было, як згадвае Ліліяна Лунгіна, «падзеяй надзьвычайнага значэньня. Агульнанацыянальнай». Дык вось, Аляксандр Твардоўскі быў родам зь беларускай часткі Смаленшчыны і лічыў сябе беларусам. Беларускасьць гэтая, мабыць, усьведамлялася ім на этнаграфічным узроўні,

дакладна не ведаю. Для мяне відавочна адное — што беларускім літаратуразнаўцам трэба было б зьвярнуць увагу на творчасьць такіх смаленскіх «беларускіх» пісьменьнікаў, як Аляксандр Твардоўскі, Іван Сокалаў-Мікітаў, Міхаіл Ісакоўскі, можа і яшчэ хто, вызначыць беларускі элемент у іхняй творчасьці і ўлучыць яе ў тканіну гісторыі беларускай літаратуры, так, як мы ўключаем лацінамоўныя, польскамоўныя творы беларускіх пісьменьнікаў, напісаныя ў папярэднія стагодзьдзі. Я недарэмна ўзяў у двукосьсе «беларускія» пісьменьнікі ў дачыненьні да пісьменьнікаў-смаленцаў. Гэтае двукосьсе яшчэ належыць раскрыць.

А пакуль два канкрэтныя факты, якія хочацца прывесьці ў дачыненьні да А. Твардоўскага. Першы я прачытаў у артыкуле, прысьвечаным Сокалаву-Мікітаву. Вось жа, там ёсьць згадка пра тое, што калі А. Твардоўскі сустракаўся з І. Сокалавым-Мікітавым, дык яны любілі сьпяваць разам (можна меркаваць, крыху выпіўшы) свае мясцовыя песьні. Ці трэба тлумачыць, што гэта былі за мясцовыя смаленскія песьні?

А вось другі факт, гэта ўжо з назіраньняў Ліліяны Лунгінай: «У яго была вельмі своеасаблівая манера размаўляць — з асаблівым вымаўленьнем, характэрным для яго родных мясьцінаў». Як добра і як выразна Ліліяна Лунгіна акрэсьліла несумненна беларускі акцэнт у рускай мове Аляксандра Твардоўскага.

Наступныя два эпізоды, пра якія я хачу прыгадаць, маюць іншую пачуцьцёвую афарбоўку. Яны блізкія мне пэўнымі асацыяцыямі, якія былі і ёсьць у маім жыцьці. Першы з іх датычыцца наведваньня Ліліянай Лунгінай Ганны Ахматавай, якая знаходзілася ў няміласьці ўладаў. Гэта быў ужо пасьляваенны час:

«Калі мы адправіліся да Ахматавай, яна хварэла і ляжала ў бальніцы. Бальніца была жахлівай, як і ўсе нашыя бальніцы, але гэтая здалася мне горшай за тыя, якія я ведала. Стары будынак на краі горада, які ніколі не рамантавалі, прымальня — сьмярдзючы пакойчык метраў дванаццаць з брудна-аблупленымі сьценамі. І туды да нас выйшла Ахма-

тава... Для яе знайшлі крэсла, а мы стаялі. Ахматава выбачылася, што прымае нас тут, — у яе палаце яшчэ пятнаццаць хворых, прычым некаторыя бесьперапынна стогнуць. Тым не менш яна працягвала пісаць вершы і артыкулы і закончвала працу пра Пушкіна. Я, не ўтрымаўшыся, спытала: “Як жа вам удаецца працаваць у такіх умовах?” Яна адказала: “Дзетка (мне было за трыццаць пяць), працаваць можна ў любых умовах”».

Я ўсьміхаюся, чытаючы яе адказ, бо і мне ў лістах часта задаюць гэтае пытаньне.

Апошні эпізод з успамінаў Ліліяны Лунгіной, на якім я хацеў бы спыніцца, датычыць акцыі пратэсту ў Маскве супраць арышту пісьменьнікаў Сіняўскага і Даніэля. Гэта быў 1965 год: «У Дзень Канстытуцыі, гэта значыць пятага сьнежня, на Пушкінскай плошчы адбылася першая зь незапамятных часоў, з, мабыць, канца дваццатых гадоў, грамадская дэманстрацыя. Нам патэлефанавалі сябры, паведамілі, калі і дзе яна адбудзецца, мы папярэдзілі па тэлефоне іншых, а тыя — наступных. Казаць пра такія рэчы па тэлефоне раней было неверагодна — і стала гэтак жа неверагодна праз некалькі гадоў.

Мы сустрэліся каля метро “Маякоўская”, чалавек дзесяць, прайшлі па вуліцы Горкага і разам прыйшлі на Пушкінскую плошчу. Было каля шасьці вечара, і, нягледзячы на мароз, плошча кішэла народам. Хто прыйшоў сьпецыяльна, а хто апынуўся тут выпадкова — зразумець было цяжка. Тым не менш было зразумела, што тут штосьці рыхтуецца: міліцыі болей, чым звычайна, чорныя “Волгі” ў рад каля ходнікаў і ў суседніх завулках, і, зразумела, дзясяткі гэбэшнікаў. Мы прыйшлі хутчэй як гледачы, чым як удзельнікі, і стаялі, не ведаючы, што адбудзецца. Раптам пасярод плошчы натоўп неяк згусьціўся, і я ўбачыла разгорнутыя над галовамі транспаранты. Прайшло ўсяго некалькі секунд. Ледзь можна было пасьпець прачытаць: “Паважайце Канстытуцыю!” і “Свабоду Сіняўскаму і Даніэлю!” — і ўсё зьнікла. У тое ж імгненьне пачалася мітусьня, пачуліся галасы пратэсту,

міліцэйскія сьвісткі, уключыліся гучнагаварыльнікі — а можа, гэта былі проста мегафоны: “Разыходзьцеся, разыходзьцеся!” Людзі не сталі сябе ўпрошваць, і імгненна плошча амаль апусьцела. Мы таксама пайшлі адсюль, але я пасьпела заўважыць, як людзі ў цывільным піхалі двух маладых людзей да адной з машынаў, якія прыцягнулі нашую ўвагу. Гэтыя двое былі не адзінымі. Большасьць будучых лідараў дысідэнцкага руху ў той дзень былі затрыманыя».

Пасьля разгону гэтай першай дэманстрацыі, пасьля прэсінгу на падпісантаў ліста ў абарону Сіняўскага і Даніэля, які таксама падпісалі і Ліліяна Лунгіна і яе муж і які не даў ніякіх станоўчых вынікаў, Ліліяна згадвае, што іх ахапіла дэпрэсія і расчараваньне. Здавалася, што ўсё, што рабілася, рабілася не так і надарэмна.

Сімвалічная і ў нечым знаёмая карціна разгону першай у СССР акцыі пратэсту, зразумелыя і зноў жа знаёмыя пачуцьці безвыходнасьці і расчараваньня. А праз дзевятнаццаць гадоў, у 84-м, першая акцыя пратэсту адбудзецца ў Менску, і ў ёй будуць браць удзел з тузін маладзёнаў. А яшчэ праз чатыры гады на «Дзяды» ў Менску выйдзе ўжо некалькі тысячаў чалавек. Не, усё ж нікому ходу гісторыі не спыніць. Проста на ўсё патрэбны час. Час, які можа зьмясьціць цэлае чалавечае жыцьцё.

*http://spring96.org/be/news/66631*

# ПРА КНЯЗЯ АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА

*19 чэрвеня 2013 года, Бабруйск.*

Сярод розных кніжак, якія быў даслаў мне гарадзенскі езуіт айцец Жыліс, ёсьць невялікая кніжка, якая называецца «Сьвяты Аляксандр». Яна прысьвечаная рускаму князю Аляксандру Неўскаму. Я прачытаў яе, бо мае веды пра гэтага князя былі невялікія. Падзеі, у якіх ён браў удзел, сапраўды робяць ягоную асобу даволі цікавай.

Нарадзіўся ён у 1220 годзе ў Перыяслаўлі-Залескім, дзе княжыў ягоны бацька Яраслаў. У 1227 годзе па просьбе вяліканаўгародцаў князь Яраслаў быў пасланы вялікім князем Уладзімірскім Юрыем, ягоным братам, княжыць у Ноўгарад Вялікі. Ён бярэ з сабою і сына Аляксандра. Праз два гады наўгародцы выганяюць Яраслава і 9-гадовага Аляксандра, і тыя вяртаюцца ў Перыяслаўль-Залескі. Праз год іх зноў запрашаюць свабодалюбівыя наўгародцы. Яны ізноў вяртаюцца княжыць у Ноўгарад Вялікі.

Калі Аляксандру было 16 гадоў, ягоны бацька Яраслаў едзе княжыць у Кіеў, пакідаючы на knяскім пасадзе ў Ноўгарадзе Вялікім Аляксандра.

У 19 гадоў, у 1239 годзе, Аляксандр жэніцца, бярэ сабе за жонку полацкую князёўну, дачку Брачыслава, таксама, верагодна, Аляксандру. Саюз з Полацкім княствам быў жыццёва неабходны для Ноўгарада Вялікага, бо з захаду і палачанам, і наўгародцам пагражалі крыжакі, а за два гады пе-

рад гэтым, у 1937 годзе, на Усходнюю Еўропу абрынулася татарская навала. Бацьку Аляксандра князю Яраславу прыйшлося перажыць найвялікшую ганьбу. У 1240 годзе татары захапілі Кіеў. Асноўныя сілы татарскага войска пайшлі далей, поўднем на Захад, у Еўропу, а палачане здолелі адбіцца ад дапаможных татарскіх ордаў. Ноўгарад Вялікі апынуўся на перыферыі татарскай навалы і не пацярпеў.

У гэтым жа 1240 годзе шведскі кароль паслаў залогу ў фінскія землі супраць Ноўгарада Вялікага. Спрэчка вялася за права валоданьня фінскімі землямі, якія знаходзіліся часткова ў залежнасьці ад Ноўгарада Вялікага.

Перад гэтым паходам за тры гады, у 1237 годзе, Рымскі Папа Рыгор IV выдаў булу, у якой заклікаў шведаў правесьці хрысьціянізацыю фінскага паганскага племені ем (*емь*), якія ад XI стагодзьдзя падпарадкоўваліся Ноўгараду Вялікаму. Відаць, тое, што ем былі паганцамі, моцна не хвалявала наўгародцаў. Галоўнае было тое, што ем дазвалялі ім празь Няву, на якой сядзелі фіны, выходзіць у Балтыйскае мора. І гэта быў адзіны выхад наўгародцаў да мора.

20-гадовы князь Аляксандр, даведаўшыся пра шведскі паход, неадкладна выступіў зь невялікім атрадам на Няву і разьбіў шведаў. За гэта ён атрымаў да свайго імя прыдомак Неўскі. У бойцы зь неспадзявана засьпетымі шведамі праславіўся лоўчы князя Аляксандра Якаў Палачанін, які памайстэрску адважна біўся мячом.

Неўзабаве наўгародцы чарговы раз выганяюць маладога князя. Ён вяртаецца на сваю бацькаўшчыну ў Перыяслаўль-Залескі. Але для Наўгародскага княства хутка ўзьнікае пагроза ад крыжакоў, і наўгародцы ў чарговы раз просяць яго заняць княскі пасад.

У 1241 годзе Аляксандр Неўскі вызваляе ад крыжакоў Пскоў. А ўвесну 1242 года адбылася ўсім вядомая бойка з рыцарамі Тэўтонскага ордэна на Чудскім возеры, на землях племя чудзь, якія межаваліся з Пскоўскім княствам. Аляксандр узначальваў наўгародска-пскоўскае войска, узмоцне-

нае вялікім атрадам з Уладзімірска-Суздальскай зямлі на чале зь ягоным братам Андрэем, які даслаў на дапамогу Аляксандру ягоны бацька Яраслаў.

У выніку тактычнага майстэрства Аляксандр Неўскі перамог крыжакоў і атрады залежнай ад іх чудзі. Па летапісных зьвестках, было забіта каля 400–500 рыцараў, частка ўзятая ў палон.

Трэба заўважыць, што ні першая вайна са шведамі на Няве, ні другая з крыжакамі на Чудскім возеры не вызначаліся маштабнасьцю. Паразу шведаў нават не заўважылі і не апісалі шведскія летапісцы, а прыблізна ацэньваемая колькасьць рыцараў-крыжакоў, якія бралі ўдзел у бойцы на Чудскім возеры, робіць яе адынарнай баталіяй. Такія ж па памерах бойкі адбываліся, напрыклад, у гэты час паміж беларуска-літоўскім войскам і атрадамі крыжакоў са зьменным посьпехам амаль кожны год. Яшчэ ж трэба ўлічыць верагодныя прыпіскі па загінулых рыцарах, якія, хутчэй за ўсё, зрабілі рускія летапісцы.

Тым не менш вайсковае майстэрства і подзьвіг рускай зброі на Чудскім возеры былі разьдзьмутыя рускімі летапісцамі. Прыніжаным і патрапіўшым пад татарскае ярмо расіянам патрабаваліся героі. Князь Аляксандр надзяляецца звышчалавечымі магчымасьцямі. У «Аповесьці аб жыцьці Аляксандра» гаворыцца, што ён ворагаў «рубіў, гонячы іх як па паветры» і ягоная слава разышлася, не раўнуючы як у ягонага славутага цёзкі Аляксандра Македонскага «ад мора Ханужскага (Касьпійскага)... і да вялікага Рыма». Гэтыя паўлегендарныя апісаньні даюць падставу сёньняшнім інтэрпрэтатарам расійскай гісторыі, як у кніжцы, якую я прачытаў, казаць пра «сусьветнае гістарычнае значэньне Лядовай бойкі».

Урэшце, я зусім не маю намеру прынізіць славу Аляксандра Неўскага і ягонае значэньне як сімвала барацьбы за родную зямлю супраць чужынцаў для далейшага разьвіцьця расійскай дзяржаўнасьці. Гэтая гісторыя, на маю думку, якраз і зьяўляецца класічнай гісторыяй, калі рэгіянальныя героі і

прыватныя асобы становяцца сімвалічнымі і набываюць вялікую значнасьць для выхаваньня народа. Гэты вопыт гераічнага пераўвасабленьня варты перайманьня і для беларусаў. І ў нашай гісторыі нямала герояў, падобных па вайсковым таленце і ўдачы на Аляксандра Неўскага.

Пасьля бойкі на Чудскім возеры ў Аляксандра Неўскага, як адзначаюць летапісцы, былі сутычкі і зь літоўскімі атрадамі, якія на поўначы намацвалі межы Вялікага Княства Літоўскага. Так, літоўцы захапілі гарадок Тарапец. У той самай «Аповесьці» пра гэты выпадак гаворыцца так: «У той самы час набіраў моц народ літоўскі і пачаў рабаваць уладаньні Аляксандравы. Ён жа выязджаў і забіваў іх. Аднойчы надарылася яму выехаць на ворагаў, і перамог ён сем палкоў за адзін выезд, і многіх князёў перабіў, а іншых узяў у палон; слугі ж ягоныя, насьміхаючыся, прывязвалі іх да хвастоў коняў сваіх. І пачалі яны з таго часу баяцца імя ягонага». А ў «Жыціі сьвятога Аляксандра Неўскага» гаворыцца пра тое, што на працягу некалькіх дзён ён атрымаў над літоўцамі сем перамогаў. Калі адкінуць напаўлегендарнасьць «Аповесьці» і «Жыція», магічную шчасьлівую лічбу пра сем перамогаў, традыцыйнае для летапісаў апісаньне прыніжэньня непрыяцеля і зьвярнуць увагу на тое, што аніводная з гэтых «славутых» перамогаў Аляксандра Неўскага не была апісаная дэтальна, то можна меркаваць, што гэтыя наезды з боку вояў беларуска-літоўскага княства мелі, хутчэй за ўсё, характар ваяўнічых феадальных набегаў. Яны зьдзяйсьняліся з мэтаю ці разьведкі сілаў наўгародскага войска, ці з мэтаю ўзбагачэньня. Аляксандр Неўскі стрымліваў гэты напор.

І калі на заходніх рубяжах Аляксандр Неўскі здабываў славу шляхам вайсковых перамогаў, то на ўсходзе яго чакаў шлях пагарды, сораму і прыніжэньняў. У гэтым жа 1242 годзе князь Аляксандр Неўскі са сваім бацькам князем Яраславам едзе да хана Батыя, у Залатую Арду, на паклон. Як гэта ні парадаксальна гучыць, але ў Залатой Ардзе вялікі князь Яраслаў і ягоны храбры сын Аляксандр Неўскі шукалі саюзьнікаў у сваім жаданьні ўсталяваць і ўтрымліваць уладу

ў той частцы Кіеўскай Русі, якая была падбітая татарамі. Прычым яны ўпарта адмаўляліся ад саюзу з заходнімі еўрапейскімі дзяржавамі.

У 1248 годзе Аляксандр Неўскі адмовіўся ад перамоваў з пасламі Папы. Ідэолагі Рускай праваслаўнай царквы баяліся каталіцкі захад больш за мусульманскі ўсход. У «Жыціі Аляксандра Неўскага» праўсходняя палітыка вялікіх рускіх князёў тлумачылася так: «Гэтыя ворагі былі, можа быць, яшчэ больш небясьпечныя для Русі, чым татары. Татары пасягалі на дзяржаву, на зьнешнюю сілу, а тыя ворагі хацелі скрасьці ў нас саму нашую веру».

Па ярлык вялікага князя рускім князям трэба было ехаць яшчэ далей на ўсход за Залатую Арду, у Манголію. У 1246 годзе, паехаўшы ў сталіцу ўсёй качавой імперыі, у Манголію, бацька Аляксандра вялікі князь Яраслаў быў атручаны. Аляксандр Неўскі ж стаў у Залатой Ардзе, лічы, сваім. Сын Батыя Сартак прыняў хрысьціянства і стаў пабрацімам Аляксандра Неўскага. У выніку сярэдняя і паўднёвая Русь становіцца васалам і даньнікам Залатой Арды. Вялікі князь сядзеў тады на пасадзе ва Уладзіміры.

Калі ў 1252 годзе родны брат Аляксандра Андрэй Яраслававіч узьняў паўстаньне супраць татарскага іга, Аляксандр Неўскі не падтрымаў яго. Андрэй у выніку быў разьбіты, а Аляксандр Неўскі паехаў у Залатую Арду, прысягнуў на вернасьць Батыю і атрымаў ясак на вялікага князя Уладзімірскага, Кіеўскага і Наўгародскага.

У 1256 годзе вялікі князь Аляксандр Неўскі хадзіў з набегам у фінскія землі. Як напісана ў кніжцы «Сьвяты Аляксандр»: «У цемень паганства сьвяты Аляксандр нёс сьвятло евангельскай пропаведзі і праваслаўнай культуры. Усё Памор'е было асьвечана і абжыта рускімі».

Бедныя фіны. Колькі існуе ўсходнеславянская летапісная гісторыя, столькі там ёсьць зьвесткі пра іхнюю паланізацыю ўсходнімі славянамі. І так тысячу гадоў.

Да свайго сораму, трэба сказаць, што і я таксама браў удзел у гэтай паганай справе. Адзінае, што можа быць пры-

знана зьмякчальнымі абставінамі, дык гэта тое, што мой удзел у паланізацыі Карэліі быў абмежаваны двума першымі гадамі майго жыцьця. А затым я, на руках у бацькоў, шчасьліва вярнуўся на Вялікую Радзіму – у Беларусь.

А вось дзьвюм маім родным цёткам пашанцавала меней. Яны павыходзілі там замуж, адная за вепса, другая за памора, і засталіся. І зараз мае стрыечныя карэльскія браты і сёстры, маючы беларускае аблічча, пабліскваюць пранізьлівымі блакітнымі вачыма. І блакіт гэты ўзяўся не ад беларускіх васількоў-валошак, а ад сінечы тысячагадовага фінскага лёду.

Пасьля сьмерці Батыя князь Аляксандр Неўскі ізноў едзе на паклон да новага хана Залатой Арды Берке. За вялікакняскі ярлык Аляксандр Неўскі паабяцаўся абкласьці татарскай данінаю і Вялікі Ноўгарад. Наўгародцы мусілі плаціць даніну пагалоўна.

У 1259 годзе Аляксандр Неўскі разам з татарскімі баскакамі ўязджае ў Вялікі Ноўгарад. Ягоны сын князь Васіль Аляксандравіч, не вытрымаўшы прыніжэньня і сораму, выязджае зь Вялікага Ноўгарада ў Пскоў. Жыхары Вялікага Ноўгарада ўздымаюць супраць князя Аляксандра паўстаньне, забіваюць ягонага намесьніка і адмаўляюцца плаціць даніну. Князь Аляксандр Неўскі загадвае схапіць сына князя Васіля і адпраўляе яго ў бліжэйшую да татараў Суздальскую зямлю. Наўгародцаў князь Аляксандр палохае татарскім войскам хана. Відавочна, што ён вырашыў скарыстаць момант, абмежаваць і зьнішчыць дэмакратычныя свабоды, якія засталіся ў паўночна-заходніх рускіх княствах, не падбітых татарамі. Уласная ўлада была яму даражэйшая за свабоды незалежных наўгародцаў. Тут, мабыць, ён і прыпомніў ім неаднаразовае выгнаньне і яго, і ягонага бацькі зь Вялікага Ноўгарада. Наўгародцы былі ў разгубленасьці. Іхні князь, які мусіў іх бараніць, гразіў гораду татарскім разрабаваньнем.

Тады, як напісана ў «Жыціі Аляксандра Неўскага»: «Народ ізноў не хацеў чуць пра даніну і зьбіраўся вакол Сафій-

скай царквы, абвяшчаючы, што жадае памерці за гонар і свабоду. Урэшце Аляксандр ужыў апошні сродак. Ён выехаў з палаца з татарскімі чыноўнікамі, абвясьціўшы, што перадае збунтавалых гараджанаў гневу хана і назаўсёды пакідае Ноўгарад... Гэта пахіснула народ, і знаць скарыстала гэтую хвіліну, каб угаварыць яго».

Такім чынам князь Аляксандр Неўскі скарыў Вялікі Ноўгарад татарскаму ігу. Тым не менш, незалежна ад волі вялікага князя, у 1262 годзе рускія паўсталі супраць татарскіх зборшчыкаў падаткаў, і тыя былі перабітыя ў сярэдняй Русі, у гарадох Суздальскай і Растоўскай земляў. Вялікі князь Аляксандр Неўскі тэрмінова едзе ў Залатую Арду да хана Беркая, вымольвае і выпрошвае дараваньне. Як напісана ў кніжцы «Сьвяты Аляксандр Неўскі»: «У гэтым вялікім аб’яднаньні рускіх і татарскіх земляў і народаў высьпявала і мацавалася будучая шматнацыянальная Расійская дзяржава».

Падчас вяртаньня з Залатой Арды ў Ніжнім Ноўгарадзе князь Аляксандр захварэў. У Гарадку, па дарозе ва Уладзімір, у манастыры ён памірае, маючы 43 гады. Верагодна, што ён, як і ягоны бацька князь Яраслаў, быў атручаны татарамі.

Так скончылася «ўсходняя палітыка» князя Аляксандра Неўскага. Расія ж зь еўрапейскіх княстваў паступова пераўтварылася ў азіяцкую сатрапію.

# БЕЛАРУСКІЯ СЬЛЯДЫ НА «ВАЖКІМ ПЯСКУ» АНАТОЛЯ РЫБАКОВА

***Алесь Бяляцкі напісаў водгук на кнігу рускага пісьменьніка Анатоля Рыбакова «Важкі пясок» — раман пра каханьне і халакост, што прачытаў у сьценах бабруйскай калоніі.***

**Частка 1**

Ёсьць кнігі большыя чым кнігі. Нечакана яны выклікаюць цэлыя зрухі ў грамадскай сьвядомасьці. Адную з такіх кніг знайшоў я на паліцы ў агульным атрадным пакоі. Гэта раман «Важкі пясок» рускага пісьменьніка Анатоля Рыбакова. Колісь у школьным дзяцінстве я з задавальненьнем чытаў юнацкія аповесьці Анатоля Рыбакова «Корцік» і «Бронзавую птушку». Пазьней, у 1987 годзе, калі падчас «галоснасьці» пачалі зьяўляцца забароненыя ці непрахадныя ў СССР творы пісьменьнікаў, я прачытаў антысталінскі, антытаталітарны раман «Дзеці Арбата». Ён карыстаўся шалёнай папулярнасьцю і выклікаў у грамадстве актыўныя дэбаты і сапраўдны фурор. І гэта быў зусім іншы Анатоль Рыбакоў, зусім не такі, якога я ведаў па прачытаных раней дзіцячых кніжках.

1987 год — гэта год, калі імкліва стала адкрывацца праўда пра сталінскія рэпрэсіі і ў нас, у Беларусі, калі і ў нас пачалі ў друку зьяўляцца творы забароненых і рэпрэсаваных беларускіх пісьменьнікаў. І мы ясна ўбачылі злачынную су-

вязь паміж сталінскім рэжымам і існуючай у 80-я гады сістэмай дзяржаўнага кіраваньня. Яны былі моцна зьвязаныя і гісторыяй, і традыцыяй, і ментальнасьцю. Тагачасная ўлада і не думала адмаўляцца ці неяк пераасэнсоўваць ранейшыя крывавыя і злачынныя «заваёвы». Таму першыя «Дзяды», якія публічна адзначаліся ў 1987 годзе, былі прысьвечаныя расстраляным у 1937 годзе беларускім пісьменьнікам. Яны мелі выразны антытаталітарны, дэмакратычны характар. Праз гэта яны і выклікалі непрыняцьце ў беларускіх уладаў.

Гэтыя два Анатолі Рыбаковы (адзін — аўтар дзіцячых прыгодніцкіх аповесьцяў, другі — майстра забароненага высокамастацкага і надзвычай актуальнага рамана «Дзеці Арбата») існавалі ў маёй сьвядомасьці паасобку. Я доўгі час нават думаў, што гэта два розныя пісьменьнікі. І вось зараз я прачытаў «Важкі пясок», раман, прысьвечаны, як мне падалося, трагедыі яўрэйскага народа падчас Другой сусьветнай вайны. Але для аўтара ён быў «раманам пра каханьне». У нашых, здавалася б, разнаполюсных поглядах на «Важкі пясок» няма супярэчнасьцяў. Гэта сапраўды — раман пра каханьне і пра халакост.

Вось так у маёй галаве паўстаў і трэці Анатоль Рыбакоў, зусім не падобны на тых двух, якія ўжо там існавалі.

Мне было цікава чытаць раман яшчэ з адной прычыны. Бо ў ім прысутнічаюць беларусы і Беларусь.

На жаль, мы неяк амаль не адсочваем, што і як пра нас пішуць пісьменьнікі, якія працуюць у іншых літаратурах. А гэта трэба рабіць. Бо погляд на нас, беларусаў, збоку, сьвежым, так бы мовіць, незамыленым вокам, у розным часе, разнастайных падзеях і жыцьцёвых сітуацыях часам паказвае цікавыя назіраньні і дае пэўныя высновы.

Мне захацелася напісаць пра гэты беларускі элемент у рамане Анатоля Рыбакова «Важкі пясок» крыху падрабязьней і глыбей, таму я папрасіў маю калегу даслаць мне жыцьцяпіс пісьменьніка. Алена Лапцёнак пастаралася, пашукала ў інтэрнэце і жыцьцяпіс Анатоля Рыбакова, і два ягоныя інтэрв'ю. Пачытаўшы гэтыя нарысы, я зразумеў, што толькі

адным «беларускім пытаньнем» у «Важкім пяску» не абысьціся. І сама біяграфія Анатоля Рыбакова, ягоныя погляды на жыцьцё, ягоны лёс выклікалі ў мяне ўвагу і цікавасьць.

Анатоль Рыбакоў нарадзіўся ў 1911 годзе на Чарнігаўшчыне, па суседству зь Беларусьсю, у яўрэйскай сям'і. Бацька пісьменьніка — Навум Аронаў, маці — Дзіна Рыбакова. Прозьвішча маці пісьменьнік будзе выкарыстоўваць як псеўданім. Дзяцінства Анатоля Рыбакова прайшло ў шматнацыянальным мястэчку Сноўск, які стаіць на Лібава-Роменскай чыгунцы ў 40 кіламетрах ад Чарнігава і ў 65 кіламетрах ад Гомеля, паміж імі.

З 1919 года сям'я пісьменьніка жыла ў Маскве. Дзіўнае супадзеньне, я прачытаў, што Анатоль Рыбакоў вучыўся ў адной школе разам зь іншым выдатным пісьменьнікам, які стаў знакамітым у канцы 80-х гадоў, з былым вязьнем сталінскіх лагероў, аўтарам зьдзіўляльных раманаў «Захавальнік старажытнасьцяў» і «Факультэт непатрэбных рэчаў» Юрыем Дамброўскім. І яшчэ адное супадзеньне: дылогію Юрыя Дамброўскага і «Важкі пясок» Анатоля Рыбакова я прачытаў тут, на зоне.

У 1933 годзе Анатоль Рыбакоў быў арыштаваны і асуджаны на тры гады ссылкі за «контррэвалюцыйную агітацыю і прапаганду» па сумнавядомым артыкуле 58.10 Крымінальнага кодэкса. Пасьля ссылкі Анатоль Рыбакоў не меў права жыць у гарадах, дзе існаваў пашпартны рэжым, і працаваў там, дзе бралі на працу без запаўненьня анкеты. Анатоль Рыбакоў ваяваў, прайшоў усю вайну ад Масквы да Берліна, скончыў службу ў званьні маёра на пасадзе начальніка аўтаслужбы корпуса. За гераізм у баях зь немцамі з Анатоля Рыбакова зьнялі судзімасьць.

Пасьля вайны ўжо ў сталым узросьце Анатоль Рыбакоў пачаў пісаць. Да яго хутка прыйшло літаратурнае прызнаньне. За «вытворчы» раман «Кіроўцы» («Водители»), які выйшаў у 1950 годзе, у наступным, 1951 годзе Анатоль Рыбакоў атрымаў Сталінскую прэмію.

Цікавая гэта зьява — пасьляваенныя пісьменьнікі —

лаўрэаты Сталінскай прэміі. Зь беларусаў іх атрымалі, што я ведаю, Іван Шамякін, і Янка Брыль, і Якуб Колас (здаецца, за паэму «Рыбакова хата»), і, здаецца, Максім Танк таксама. Можа, і яшчэ хто, але па памяці я ўжо не ведаю. Багата чаго патрабавалася ад літаратуры ў тыя гады, але мала было створана хоць чаго-небудзь вартага.

Нягледзячы на сталінскую прэмію і на выкупленую крывёю ранейшую судзімасьць, Сталін не давяраў і не любіў Анатоля Рыбакова, называў яго «няшчырым чалавекам» — Анатоль Рыбакоў плаціў той самай манетаю, бо ўсе гады, пражытыя за Сталіным, адчуваў сябе ў шкуры зайца, на якога ішло пастаяннае паляваньне.

Падчас хрушчоўскай адлігі ў канцы 50-х — 60-я гады Анатоль Рыбакоў напісаў свой знакаміты раман «Дзеці Арбата». Антысталінская тэматыка, гады тэрору і прыніжэньняў ізноў хутка сталі забароненай тэмаю.

Няўдалыя спробы апублікаваць «Дзяцей Арбата» не спынілі Анатоля Рыбакова ў спробах выказаць перажытую, адчутую і выпакутаваную ім праўду ў сваёй літаратурнай творчасьці. Гэты дзіўны ўнутраны неспакой, няўрымсьлівасьць і незадаволенасьць даволі пасьпяховага «савецкага» пісьменьніка захапляюць мяне і выклікаюць павагу.

Кнігі Анатоля Рыбакова выходзілі вялікімі накладамі, ён быў папулярным і запатрабаваным пісьменьнікам і сцэнарыстам. Ягоныя аповесьці і раманы экранізаваліся. Я нават з майго раньняга дзяцінства смутна памятаю дзіцячы прыгодніцкі фільм «Корцік», які ў Сьветлагорску мы хадзілі глядзець у Дом культуры энергетыкаў. Але са сваёй цьвёрдай жыцьцёвай пазіцыяй ён проста не мог абмінуць халакост — масавае забойства яўрэяў падчас вайны, бо гэтая трагедыя наўпрост датычылася яго самога, ягоных сваякоў і ягонага народа.

Анатоль Рыбакоў так апісвае задушлівую атмасферу тых гадоў: «Дзяржаўны антысемітызм у брэжнеўскія часы захаваўся, набыўшы аблічча барацьбы зь сіянізмам... Абмежавалі прыём яўрэяў у вышэйшыя навучальныя ўстановы, пе-

рагарадзілі шлях у дзяржаўны, партыйны і вайсковы апараты. Выходзілі шматлікія кнігі і артыкулы ўсялякіх яўсеевых, бегуноў ды іншых чарнасоценцаў таго часу, якія абвінавачвалі сіяністаў у антыкамунізме і контррэвалюцыі... Нават народны мастак Беларусі Савіцкі намаляваў каля ямы, куды скідвалі трупы забітых славянаў, двух катаў: эсэсаўца і яўрэя.

І нідзе ні згадкі пра страшэнную катастрофу еўрапейскага яўрэйства, нават у месцах масавых пахаваньняў забітых яўрэяў на помніках пісалі толькі: ахвяры нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ганеньні на яўрэяў, якія пажадалі выехаць у Ізраіль, знакамітыя "адказьнікі", перасьлед за вывучэньне іўрыту — дадатковыя меткі брэжнеўскага часу».

Цікава, што ў прыведзеных цытатах з інтэрв'ю Анатоля Рыбакова фігуруюць два «барацьбіты зь сіянізмам» зь Беларусі: «навуковец» І. Бягун і мастак Міхаіл Савіцкі. Зусім нядаўна, перад тым як я напісаў гэтыя радкі, прозьвішча І. Бегуна трапілася мне на вочы. Некалькі радкоў пра яго напісаў беларускі пісьменьнік Адам Глобус. Я не ведаў Бегуна, але пару ягоных брашурак ёсьць у маёй бібліятэцы. Я набыў іх яшчэ ў 80-я гады, бо заўсёды цікавіўся міжнацыянальнымі стасункамі ў Беларусі і купляў розныя агітацыйныя брашуры з разьлікам выцягнуць адтуль хоць нейкую фактуру.

І зноў жа, так атрымалася, што зусім нядаўна чытаў нататкі Адама Глобуса ў газеце «Зьвязда» пра Міхаіла Савіцкага, зь якім тады яшчэ малады студэнт-мастак Валодзя Адамчык, як ён піша зараз, нават выпіваў. Не ведаю, ці наліў бы сёньня яму Міхаіл Савіцкі, прачытаўшы гэтыя нататкі. Вось жа, Адам Глобус апісвае Міхаіла Савіцкага як наскрозь дзяржаўнага чалавека і мастака, які ўсю сваю творчую кар'еру выбудаваў на дзяржаўных заказах. Можа, яно і так. Як і расповед іншага майго знаёмага мастака, які няблага ведаў Міхаіла Савіцкага і лічыў таго зацятым прыхільнікам тэорыі сусьветнай сіяністкай змовы.

Самае парадаксальнае для мяне ў гэтым тое, што Міхаіл

Савіцкі ў вайну патрапіў у палон і быў вязьнем канцлагераў, гэтых бязьлітасных фабрык сьмерці, пабудаваных арыйцамі для зьнішчэньня непаўнавартасных народаў. У гэтым сьпісе, апроч яўрэяў, цыганаў, былі таксама і ўсе славянскія народы, у тым ліку і беларусы.

Напісаць раман пра халакост Анатоля Рыбакова падштурхнулі як асабістыя ўражаньні і перажываньні (амаль усе сваякі пісьменьніка, якія жылі на Чарнігаўшчыне, загінулі), так і агульная атмасфера адносінаў да яўрэяў у СССР, якая склалася пасьля вайны. Як пісаў Анатоль Рыбакоў, «я вырас у Маскве, у русіфікаванай сям'і, не ведаў яўрэйскай мовы, жыў, працаваў, бадзяўся па Расіі, ніякага антысемітызму да сябе не адчуваў. Я ваяваў за Расію, у Расіі нарадзіўся, у Расіі і памру. Мне было агідна тое, што творыцца ў маёй краіне».

Анатоль Рыбакоў пачаў зьбіраць матэрыялы, неабходныя для напісаньня рамана. За асобную сюжэтную лінію была ўзятая гісторыя каханьня, якую пісьменьніку распавёў ягоны прыяцель, дзед якога прыехаў са Швейцарыі да сваякоў у адведкі і закахаўся ў прыгожую яўрэйку. Было гэта ў Сімферопалі. Ягоны дзед кінуў дзеля каханьня Цюрых, ажаніўся зь дзяўчынаю і пераехаў жыць у Крым.

Пісьменьнік перанёс гэтую рамантычную любоўную гісторыю ў мястэчка свайго дзяцінства, у Сноўск, і насыціў яе мясцовым каларытам, засяліў сваімі роднымі і знаёмымі. Ён апісаў гісторыю жыцьця яўрэйскай сям'і ад пачатку ХХ стагодзьдзя да трагічных падзеяў масавага зьнішчэньня яўрэяў падчас вайны. Аднавіць сямейную хроніку пісьменьніку дапамагала ягоная цётка Ганна, адзіная зь ягоных сваякоў са Сноўска, якая перажыла вайну.

Трагедыя беларускіх, менскіх, віленскіх, яўрэяў таксама была там фактарам, які паказаў пісьменьніку сапраўдныя маштабы нацыянальнай катастрофы яўрэйства, што зусім не афішавалася ў СССР. Як згадваў Анатоль Рыбакоў: «У сямідзясятых гадах на студыі "Беларусьфільм" здымаліся мае тэлевізійныя фільмы "Корцік", "Бронзавая птушка", "Апош-

няе лета дзяцінства”. Кожны фільм па тры серыі. Здымкі адбываліся ў Беларусі, я езьдзіў у Менск, у іншыя гарады, туды, дзе за немцамі былі гета, дзе зьнішчаліся яўрэі, пазьней мы з Таняй (жонка Анатоля Рыбакова. — ***А. Б.***) пабывалі ў Вільні, у знакамітых Панарах, дзе зьнішчаныя дзясяткі тысячаў яўрэяў. Перада мной паўставала жахлівая карціна яўрэйскай катастрофы. Я прачытаў усё выдадзенае ў нас на гэтую тэму, але, па сутнасьці, акрамя стэнаграмаў Нюрнбергскага працэсу, нічога не было. Сара Бабенышава, літаратурны крытык, мая сяброўка, якая жыла ў Перадзелкіне, адважная жанчына, зьвязаная з дысідэнтамі, забясьпечвала мяне нумарамі падпольнага часопіса “Яўрэі ў СССР”, дзе былі патрэбныя мне матэрыялы».

У іншым інтэрв’ю Анатоль Рыбакоў дадае: «У Шчорсе (так быў пераназваны Сноўск. — ***А. Б.***) не было гета. Але калі я пісаў “Важкі пясок”, то часта езьдзіў у Беларусь: там здымаліся тэлевізійныя фільмы па маіх дзіцячых кнігах. Быў у Менску, у іншых гарадах, дзе пры немцах былі гета».

Такім чынам, напісаньне рамана «Важкі пясок» было пэўным адказам на тыя балючыя пытаньні, якія існавалі ў душы пісьменьніка. Падчас збору матэрыялаў для рамана Анатоль Рыбакоў з «рамана пра любоў», які ён хацеў напісаць, стварыў «раман пра халакост».

Анатоль Рыбакоў едзе ў Сноўск, дзе, як ён згадвае, «ад трохтысячнага яўрэйскага насельніцтва засталося дзьвесьце чалавек». Пісьменьнік пачынае размаўляць з тымі, хто выжыў: «Аднаго са старых, былога мясцовага цырульніка Бярнарда Сямёнавіча, я памятаў па сваіх прыездах у Сноўск у дзяцінстве. Такі быў элегантны, прадстаўнічы пан, яго цырульня была ў свой час накшталт клуба мясцовай інтэлігенцыі. І зараз яшчэ бадзёры, чысьценькі, сівы, добрапрыстойны, ведаў і памятаў усіх, хто тут жыў, загінуў, зьехаў, прыехаў. Падчас вайны быў у эвакуацыі, вярнуўся адразу пасьля вызваленьня горада. Разам зь іншымі старымі хадзілі па дварах, пустках, дарогах, лясах і палях, зьбіралі ў мяхі парэшткі забітых. Трупы сатлелі, але некаторых Бярнард

Сямёнавіч пазнаў па валасах. Парэшткі гэтыя яны пахавалі ў брацкай магіле на могілках, хаця ніякіх яўрэйскіх могілак тады ўжо не было, надмагільныя пліты расьцягнулі, а самі могілкі па загадзе нямецкай камендатуры перааралі. Могілкі аднавілі, яўрэі сталі зноў хаваць сваіх памерлых, але вось бяда — плот паваліўся.

Некалькі дзён Бярнард Сямёнавіч быў са мной, распавядаў пра лёс кожнага жыхара. Пасьля вайны вярнуліся франтавікі, эвакуяваныя, распытвалі мясцовых жыхароў пра сваякоў, блізкіх, зьбіралі крупінкі зьвестак, зерне праўды, знайшліся людзі, якія выратоўваліся цудам ад расстрэлу, якія выпаўзьлі з магілаў, сышлі ў партызаны. Аповеды Бярнард Сямёнавіч запомніў і пераказаў мне, вадзіў да тых, хто застаўся жывы, хто быў сьведкам таго, што адбылося, вадзіў да жанчынаў-паўкровак, якіх не пасьпелі расстраляць, высьвятляючы, які ў іх адсотак яўрэйскай крыві».

Анатоль Рыбакоў, чалавек, які багата што пабачыў і перажыў у сваім жыцьці, быў у ссылцы, ваяваў, атрымлівае ад пачутага і ўбачанага моцны эмацыйны і псіхалагічны стрэс: «Паступова ў мяне склалася карціна таго, што адбывалася ў Шчорсе, я добра памятаў сваіх дзядулю і бабулю, дзядзькоў, ясна ўяўляў сабе Рахіль і Якава (галоўныя героі рамана «Важкі пясок». — ***А. Б.***). І мог ужо дакладна сказаць, як бы кожны зь іх дзейнічаў у гэтых абставінах, што б рабіў і як бы сябе паводзіў».

Адбываецца пранікненьне мінулых падзеяў у сьвядомасьць пісьменьніка. Уява перамешваецца з рэчаіснасьцю: «Усё, што адбывалася з гэтымі людзьмі, адбылося са мной. Над горадам апусьцілася ноч, я блукаў у гэтым змроку па тых самых вуліцах. І цені закатаваных брылі побач са мной ад хаты да хаты».

На помніку на брацкай магіле на яўрэйскіх могілках у Сноўску быў зроблены надпіс па-руску: «Вечная памяць ахвярам нямецка-фашысцкіх захопнікаў».

З надпісамі на помніках над забітымі яўрэямі ў Савецкім Саюзе была асобная гісторыя. Помнікі ўсталёўваліся з неахвотаю, у надпісах не дазвалялася згадваць, што забітыя былі

яўрэямі, паўсюль пісалі «савецкія грамадзяне». Як пісала дасьледчыца халакосту Сімона Вайль, «ускладаньне вянкоў зь яўрэйскай сімволікай да месцаў масавай гібелі яўрэяў (уключаючы Бабін Яр) стала прыраўноўвацца да антысавецкай дзейнасьці... Толькі ў Менску, на пастаўленым у 1947 годзе помніку вязьням гета, яўрэйская сімволіка засталася некранутай».

У Сноўску, як і ў Менску, з надпісам на помніку таксама было не так, як паўсюль. Як згадвае Анатоль Рыбакоў, ён пацікавіўся ў сноўскіх старых яўрэяў: «Скажыце, — спытаўся я, — як вы пераклалі на яўрэйскую мову гэтыя словы: "Вечная памяць ахвярам нямецка-фашысцкіх захопнікаў"?

Бярнард Сямёнавіч усьміхнуўся:

— Як пераклалі? Там напісана зусім іншае.

— Што менавіта?

— Там напісана зь Бібліі: "Венікойсі, домом лой нікойсі..."

— Што гэта значыць?

— Гэта значыць: "Усё даруецца, але тым, хто праліў нявінную кроў, не даруецца ніколі"

Калі я вярнуўся ў Маскву, я сказаў Тані:

— У мяне ёсьць заканчальныя словы рамана».

Вось так першапачатковая задума пісьменьніка напісаць невялікую навелу пра каханьне пераўтварылася ў ідэю стварэньня рамана. І хоць Анатоль Рыбакоў з іранічным сумам заўважае, што «я не ў лепшы час сеў пісаць раман пра яўрэяў», унутрана ён быў свабодным, незапрыгоненым чалавекам, і вонкавыя цяжкасьці не маглі яго спыніць. Раман зь першапачатковай назваю «Рахіль» быў ім напісаны ў 1975–1977 гадах.

Няпростай была гісторыя публікацыі рамана. Яго адмаўляюцца друкаваць у цэнтральных расійскіх літаратурных часопісах — у «Новом мире» і «Дружбе народов». Нечакана пагадзіўся на друк часопіс «Октябрь», рэдактарам якога на той час быў пісьменьнік-франтавік Анатоль Ананьеў. Раман у часопісе быў моцна абскубаны. Анатоль Рыбакоў вымушаны быў пагадзіцца на праўкі, купюры, зьмяніць назву «Ра-

хіль» на «Важкі пясок», узяўшы гэты сімвалічны вобраз зь біблейскай цытаты: «Калі б было ўзважанае гора маё і разам пакуты мае паклалі б на вагі, дык зараз былі б яны больш важкія за пясок марскі: таму адчайныя словы мае».

З рамана таксама былі выразаныя ўсе эпізоды, датычныя рэпрэсіяў 30-х гадоў. Як згадвае Анатоль Рыбакоў: «Антысеміцкія ўлёткі з тэкстам з Дастаеўскага, якія раскідвалі немцы на фронце, я замяніў тэкстамі Кнута Гамсуна. Але ўсё ж такі штосьці ўдасца сказаць. Бо нават саму лічбу зьнішчаных яўрэяў — шэсьць мільёнаў — хавалі, упершыню ў нас яна была названая ў маім рамане».

«Важкі пясок» быў выдрукаваны ў пашкуматаным выглядзе. Але, як заўважаў Анатоль Рыбакоў: «колькі ні выключай з рамана слова “яўрэй”, раман пра яўрэяў, і нікуды ад гэтага не падзенешся».

Публікацыя «Важкага пяску» выклікала моцны эфект. Анатоль Рыбакоў прыгадваў: «Важкі пясок» меў посьпех. Чытачы — яўрэі, рускія, украінцы, беларусы — прыслалі мноства лістоў. Пісалі людзі, якія ацалелі ў лагерах зьнішчэньня, у гета, у палоне, дзеці, якія страцілі бацькоў, бацькі, якія згубілі дзяцей... Лёсы страшныя... «Вы пісалі пра мяне, пра маю сям’ю, пра мой горад...» Але раман не быў ацэнены ў афіцыйным савецкім друку. Яўрэйская тэма, тэма халакосту ў СССР заставалася забароненай. Страх і самацэнзура панавалі ў творчым асяродзьдзі. На ўсё на гэта накладаўся і прыхаваны антысемітызм. Анатоль Рыбакоў апісаў адзін з паказальных выпадкаў: «Спыняе мяне ў Саюзе пісьменьнікаў адзін вядомы крытык:

— Я плакаў, і жонка мая плакала, і маці жонкі ў Менску плакала, а мая маці ў Кіеве проста галасіла, казала, што вы апісалі яе родны горад Сарны, ведаеце, ёсьць такі горад ва Украіне.

— Вось і цудоўна, напішыце пра раман.

— Няёмка. Скажуць, яўрэй хваліць раман пра яўрэяў.

— Я таксама яўрэй, а напісаў, не пасаромеўся.

— Ці надрукуюць... Сумняюся.

— Я таксама не быў упэўнены, што надрукуюць, а пісаў.

— Трэба будзе падумаць... Але раман выдатны. Я плакаў, жонка мая плакала, яе маці ў Менску плакала, а мая маці ў Кіеве проста галасіла, усё згадвала Сарны.

Нічога ён, вядома, не напісаў».

За мяжою раман Анатоля Рыбакова «Важкі пясок» стаў бестселерам. Ён быў выдадзены ў 26 краінах, толькі наклад аднаго выданьня ў Даніі быў 60 тысячаў асобнікаў.

Прыхаваны посьпех рамана ў СССР і гучны за мяжой зусім не дапамог Анатолю Рыбакову ў публікацыі іншага нязручнага для ўладаў рамана — «Дзеці Арбата», які быў напісаны значна раней, у 60-я гады. Асьцерагаючыся за лёс рамана, Анатоль Рыбакоў пераправіў два асобнікі друкапісу за мяжу на захаваньне. Але пісьменьнік хацеў, каб найперш «Дзеці Арбата» выйшлі ў СССР. Анатоль Рыбакоў не сьпяшаўся. Ён спадзяваўся, што прыйдуць лепшыя часы. Не меўшы ніякіх ілюзіяў да сталінскіх часоў, ён гэтак жа цьвяроза ацэньваў і гады «разьвітага сацыялізму»: «За васямнаццаць гадоў кіраваньня Брэжнеў зноў загнаў краіну ў сталінскі хлеў. Ягоная ўласная абмежаванасьць адпавядала абмежаванасьці кіруючай наменклатуры... Гады брэжнеўскага праўленьня называюць “спакойнымі”. Гэта быў спакой асуджаных. Не было трагедый і жахаў сталінскага тэрору, але няўмольна насоўваліся распад і хаос. Маразм лідара распаўсюдзіўся на грамадства, скалечыў цэлыя пакаленьні».

Тым больш важным было для пісьменьніка паказаць карані гэтага цяжкага стану, у якім апынулася нашае грамадства ў постсавецкі перыяд.

Так атрымалася, што ў сваёй літаратурнай дзейнасьці, у сваіх найбольш значных, галоўных літаратурных творах Анатоль Рыбакоў паказаў чалавеканенавісьніцкую сутнасьць дзвюх найстрашнейшых таталітарных палітычных дактрынаў XX стагодзьдзя — камунізму і фашызму. Прычым рабіў ён гэта, зыходзячы са свайго асабістага жыцьцёвага вопыту, трагічнага лёсу сваіх родных і сваякоў, галоўная прыкладная задача якіх заключалася толькі ў адным — як вы-

жыць. Але гэты шанец па волі лёсу быў дадзены далёка не ўсім.

Вяртаючыся да рамана «Важкі пясок», мне хацелася б зьвярнуць увагу на ягоныя «беларускія» старонкі. Як я пісаў ужо раней, Анатоль Рыбакоў згадваў пра тое, што наведваньне Менска ды іншых беларускіх гарадоў, дзе былі гета падчас вайны, дало яму пэўны штуршок для апісаньня падзеяў халакосту ў рамане. Да ўсяго, мястэчка Сноўск, якое апісвае Анатоль Рыбакоў, знаходзіцца непадалёк ад Беларусі, на Лібава-Роменскай чыгунцы, якая зьвязвала Беларусь і Украіну. Таму і асноўныя падзеі ў рамане разьвіваюцца на кавалку гэтай чыгуначнай магістралі — ад Чарнігава і да Гомеля.

Цікавая гісторыя жаніцьбы дзеда галоўнага героя рамана «дзядулі Рахленкі», які быў сынам яўрэйскага карчмара, сышоў з дому ў 15 гадоў і працаваў на будаўніцтве чыгункі, «цягаў шпалы, праца была па ім, бо фізічнай моцы ён быў незвычайнай». Пасьля ён працаваў у Адэсе, вывучыўся на чабатара, затым зьехаў у Аргенціну і ўрэшце вярнуўся на Чарнігаўшчыну, пасяліўся ў Сноўску і заняўся чабатарным рамяством.

Гэтая навела пра жаніцьбу «дзядулі Рахленкі», трэба меркаваць, зьяўлялася гісторыяй сям'і пісьменьніка. Напісаная яна ярка, жыва, каларытна, у стылі сямейных паданьняў і мае дачыненьне да Беларусі. Яна вартая, каб быць тут прыведзенай цалкам. У спадзяваньні, што чытач гэтага артыкула ведае рускую мову, падаю гэтую навелу, як і ўсе астатнія навелы, па-руску, каб не сапсаваць сваім перакладам аўтарскі стыль:

«Жену себе дедушка взял из Гомеля. Он много ездил. Если добрался до Аргентины, о Гомеле и говорить нечего. В Гомеле бабушка работала в парикмахерской, делала парики. В то время набожные женщины носили парики, собственные волосы стригли, не совсем, конечно, не наголо, немного оставляли, чтобы не выглядеть лысой без парика; как вы понимаете, в постель к мужу они ложились без парика, а на

людях снова надевали, привязывали косу. Откуда это взялось, не знаю, так предписывал религиозный обычай.

Итак, бабушка в девушках жила в Гомеле, работала в парикмахерской, где-то они с дедушкой встретились, влюбились друг в друга и решили пожениться. Для дедушки это было совсем не просто: красавец, много разъезжал, привык к холостой жизни, и, понимаете, к *какой* холостой жизни, от женщин у него отбоя не было, и ему было нелегко поставить на этом крест, нелегко было *завязать*, как теперь говорят. Однако он решил поставить крест, завязать, жениться на бабушке. Но и для бабушки выйти замуж за него тоже была проблема, но совсем иная. Ее отец был ломовой извозчик, а в то время цеховые связи были очень крепкими, ремесленники часто жили на одной улице, женили своих сыновей на дочерях соседей, — таким образом, объединялось и укреплялось их дело. К бабушке, как дочери ломового извозчика, сватался тоже сын ломового извозчика, сам ломовой извозчик. И этот ее жених уговорил своих собратьев по цеху отколотить дедушку, чтобы тому неповадно было отбивать чужих невест, тем более из другого города и из другого цеха.

Приехал как-то дедушка в Гомель, зашел к бабушке, посидели, потом бабушка пошла проводить его на вокзал. И вот тут, на вокзале, извозчики набросились на дедушку.

Вы видели когда-нибудь, как дерутся ломовые извозчики? Они бьются насмерть, бьются железными ломами, которыми закручивают веревки на телегах. Сами понимаете: одно дело, если вам звездонут по башке кулаком или даже бутылкой, совсем другое — если железным ломом. Но дедушка сумел выхватить у одного извозчика лом и, отбиваясь, вбежал в вокзал. За ним ворвались извозчики. Женщины кричали, дети ревели, станционное начальство попряталось; станционное начальство храброе, когда перед ним безбилетный пассажир, — но когда перед ним разъяренная толпа ломовых извозчиков с железными ломами в руках, то у этого начальства душа уходит в пятки, и оно прячется. А ни одно начальство в мире не умеет так прятаться, как железнодорожное.

Когда в кассе нет билетов, а вам надо срочно ехать, попробуйте найти не то что начальника вокзала, а хотя бы дежурного — никогда не найдете. Дедушка был один на один с десятком рассвирепевших ломовых извозчиков, которые готовы были своими ломами сделать из него котлету. Но дедушка был не тот человек, из которого можно сделать котлету. С ломом в руках он пробился обратно на площадь, подхватил свою невесту, мою будущую бабушку, обежал с ней вокзал, вскочил в поезд и уехал в свой город. Там они и обвенчались».

Чытаючы гэтую навелу ў рамане «Важкі пясок», разумееш, што, як і ў любым рамантычным паданьні, тут ёсьць і перабольшваньні, і нават пэўная міфалагізацыя фізічных здольнасьцяў маладога «дзядулі Рахленкі», які прыехаў са Сноўска ў Гомель і ў барацьбе з супернікам адбіў і выкраў сваю нявесту. Але асноўны сюжэт навелы не выклікае сумневу. З пераадольваньнем цяжкасьцяў, з асабістай адвагаю і рашучымі дзеяньнямі «дзядулем Рахленкам» было захаванае права на стварэньне сям'і. Я падазраю, што і зараз у кожнай нашай сям'і існуюць свае прыватныя гісторыі са шчасьлівым ці не зусім канцом. Гэтая навела ў рамане Анатоля Рыбакова дае дастаткова поўнае ўяўленьне пра характар і асобу «дзядулі Рахленкі». Для нас таксама цікавым здаецца гэты хуткі зарыс з паўсядзённага жыцьця Гомеля канца XIX стагодзьдзя.

Паказаны ў рамане «Важкі пясок» і Сноўск, што ён зь сябе ўяўляе ў нацыянальных адносінах: «Население нашего города было смешанное, но дружное; жили в мире русские, украинцы, белорусы, евреи; тут же, неподалеку, шесть немецких сел, предки этих немцев, родом из Франкфурта-на-Майне, были поселены здесь Екатериной Второй. До этого, в семнадцатом веке, в здешние леса переселились раскольники-беспоповцы. А на железной дороге, в депо, работали поляки, высланные сюда после восстания 1863 года. В общем, население пестрое, но вражды, национальной розни — никакой! Достаточно сказать, что у нас ни разу не было погрома».

Апісаньне Сноўска, зь невялікімі зьменамі, характэрнае

і для шматлікіх беларускіх мястэчак і гарадоў. Мультыкультурнасьць горада, мястэчка ў Беларусі і Украіне складалася стагодзьдзямі і была нашай адметнай гістарычнай рысай.

## Частка 2

Раман Анатоля Рыбакова «Важкі пясок» зьяўляецца апроч усяго і раманам-успамінам, дзе большая яго частка — гэта ўспаміны галоўнага героя. Ці ўспаміны іншых персанажаў, пераказаныя галоўнаму герою, які, у сваю чаргу, распавядае іх чытачу. Пабудаваны раман у выглядзе доўгага шэрагу невялікіх навелаў, аб'яднаных лёсам адной сям'і Іваноўскіх–Рахленкаў. Апроч сямейнікаў аўтар гэткім жа ж чынам, праз невялікія гісторыі-навелы апісвае суседзяў, знаёмых, іншых людзей, якія жывуць у Сноўску. Распавядаючы пра жыцьцё-быцьцё свайго «дзядулі Рахленкі», аўтар апісвае і кола ягоных суседзяў і знаёмых. Так у рамане зьяўляецца другая «беларуская» навела пра Апанаса Пракопавіча Сташанка:

«Рядом с нами жил шорник Сташенок Афанасий Прокопьевич, белорус, изготовлял то, что положено шорнику: сбрую упряжную, верховую, хомуты, постромки, шлеи, вожжи, седла, даже отделывал экипажи кожей и обивкой. Шорник — профессия родственная сапожной, разница только в игле: шов сапожника должен быть плотный, не пропускать пыли и воды, нитка должна полностью заполнять прокол, а шорник этим не связан и употребляет шило. Но материал у них один — кожа, и потому у дедушки с этим шорником Сташенком была некая кооперация: что не нужно одному, отдавалось другому, тем более — соседи. У дедушки был большой двор и большие сараи, и Сташенок этими сараями пользовался, у него было много кожевенного товара, и он полностью доверял дедушке. Они прожили рядом тридцать лет и за эти тридцать лет не сказали друг другу и тридцати плохих слов.

И вот однажды приезжают два цыгана, один дедушкин знакомый, по имени Никифор, другой незнакомый. Заехали

во двор, поставили телегу, Никифор заказал у дедушки сапоги, взял какой-то товар у Сташенка, погрузил в телегу и выехал со двора. Но тут прибегают сыновья Сташенка и говорят, что цыгане что-то у них украли. Дедушка выходит на улицу, останавливает телегу и под сеном находит ворованное. Собирается толпа, хотят бежать за полицией, но дедушка запрещает: никакой полиции. Он приказывает отнести ворованное на место, потом спрашивает у знакомого цыгана:

— Как рассчитываться будем, Ничипор?

Тот молчит: что ему говорить?

Тогда дедушка ударяет его так, что Никифор летит на землю и изо рта и из носа у него идет кровь.

Второго цыгана, незнакомого, дедушка не тронул. Он бил не за воровство, а за предательство.

Вот такой человек был дедушка Рахленко».

Як мы бачым, гэта пабытовая навела, з тых, пра якія кажуць: «А вось яшчэ быў і такі выпадак...» Яна дае першае ўяўленьне пра Апанаса Сташанка — фактычна такога самага, як і «дзядуля Рахленка», дробнага рамесьніка. Местачковае жыцьцё яўрэяў, беларусаў, украінцаў, цыганаў было цесна пераплеценае, і стасункі паміж імі будаваліся не па нацыянальнай прыкмеце, а па спрадвечных людскіх маральных прынцыпах. Важны для разуменьня ўзаемаадносінаў «дзядулі Рахленкі» і Апанаса Сташанка вось гэты сказ з навелы: «Яны пражылі побач трыццаць гадоў і за гэтыя траццаць гадоў не сказалі адзін аднаму і трыццаці паганых словаў». Ён адразу расстаўляе ўсё на свае месцы. Іваноўскія–Рахленкі і Сташанкі жылі не проста як суседзі, а як дабрэнныя суседзі, гатовыя, калі трэба, заўсёды дапамагчы адзін аднаму. Гэтая карціна, ізноў жа, характэрная і для беларускага мястэчка, дзе беларусы, яўрэі, палякі жылі побач безь вялікіх праблемаў.

Але такое супольнае жыцьцё не азначала сьціраньне культурных і нацыянальных адметнасьцяў паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасьцяў. У рамане падрабязна апісаныя яўрэйскія традыцыі і звычаі, якія захоўваліся яўрэямі Сноў-

ска і сям'ёй «дзядулі Рахленкі». Сам «дзядуля Рахленка» быў старастам у сінагозе. Дзякуючы ягоным намаганьням замест старой сінагогі ў Сноўску была пабудаваная новая.

Наступная «беларуская» навела ў рамане «Важкі пясок», прысьвечаная сям'і Сташанкоў, датычыць якраз апісаньня нацыянальных адметнасьцяў побыту беларускай сям'і. У рускамоўным тэксьце Анатоль Рыбакоў, для перадачы адпаведнай атмасферы, выкарыстоўвае беларусізмы, што надае гэтай навеле непаўторны «беларускі цымус» і гаворыць пра тое, што аўтар пры яе напісаньні актыўна працаваў зь беларускай мовай:

«Вы помните, конечно, дедушкиного соседа шорника Афанасия Прокопьевича Сташенка. Я уже говорил, что это были хорошие, порядочные люди: старик Сташенок, его жена, сыновья Андрей и Петрусь, дочь Олеся, светлокожие, светловолосые, сероглазые, среднего роста, на вид хрупкие, на самом деле физически сильные. Жены молодых Сташенков Ксана и Ирина были такие же белолицые, светловолосые, и дети их, внуки Афанасия Прокопьевича, тоже беленькие, бегали по улице в белых рубахах и белых портках.

Другие белорусы у нас говорили по-русски, одевались по-городскому. Сташенки говорили по-белорусски: галава вместо «голова», сяло — село, мылыдая — молодая, домоу — домой, дзед — дед, пойдзем — пойдем, дзьверы — двери, дзяучына — девушка, ну и так далее, мы их отлично понимали: когда с детства общаешься с людьми, привыкаешь к их речи. И одевались они с некоторой примесью белорусской одежды: под пиджаком рубаха навыпуск с косым вырезом и узким воротником, вышитым красной тесьмой, на женщинах — короткая кофточка со шнуровкой, плотно облегающая грудь, синяя или красная юбка, фартук, на голове платок. Женщины в доме Сташенка были очень красивые, и сам дом был особенный: вышитые рушнички, берестяные кружки, лукошки, деревянные ложки, за иконой пучок травы или вереска, — и уклад их жизни очень отличался от дедушкиного: шумного, деятельного, иногда скандального. Сташенки

жили тихо, спокойно, разговаривали сдержанно, с большим достоинством.

Во время обеда старик Сташенок сидел в углу, рядом — сыновья, по старшинству, на другой стороне женщины, с краю — хозяйка. Крошить хлеб считалось большим грехом, упавшую крошку поднимали — уважали хлеб. Оплеух, которые дедушка Рахленко щедро раздавал своим сыновьям, в доме Сташенков и в помине не было. Сташенки были хорошие мастера, но жили скудно, работали медленно, не торопились, любили добротно и со вкусом сделанную работу. Как я уже рассказывал, до революции Сташенок отделывал экипажи кожей и обивкой. После революции никто в экипажах не ездил, Сташенки изготовляли и починяли упряжную сбрую: хомуты, постромки, шлеи, — а такое мужик и сам починит. Так что доходы, сами понимаете... Дело угасло, старший сын, Андрей, пошел в депо, ремонтировал приводные ремни к станкам, чинил сиденья в вагонах, второй сын, Петрусь, работал на кожзаводе, а старик продолжал кустарничать со своими хомутами. Но жили по-прежнему вместе, семья была дружная, радушная и гостеприимная. Встречали вас словами: “Кали ласка”, не знаю, как это перевести по-русски: “Милости просим!”, “Будьте как дома!”, “Осчастливьте нас своим присутствием”... Обязательно посадят за стол. И хотя главной их пищей была бульба — картофель, но из картофеля они готовили вкуснейшие блюда: бульба со шкварками, бульба с грибами, бульба с кислым молоком... А драники — картофельные оладьи с медом, сметаной или грибами — пальчики оближешь!

Ребенком я приходил в их мастерскую. Пахло сыромятной кожей, скипидаром, купоросом, лаком, уксусом, столярным и рыбным клеем. Сташенки сидели верхом на скамейках, где были укреплены деревянные тиски с зажатой в них очередной поделкой. Когда я приходил, Андрей и Петрусь лукаво переглядывались, и кто-нибудь из них начинал рассказывать о злых духах, обитающих в лесах, реках и болотах, добродушно пугал меня... Лесавик — отвратительное

существо с громовым голосом и страшными, пышущими огнем глазами, сам кашлатый, то есть косматый, нячисцяки — черти, живущие в болоте, охотники до всяких проказ... Сказки, конечно, но Сташенки рассказывали их очень достоверно, с подробностями, а я был маленький, на меня это производило сильное впечатление и связывалось в моем воображении с волшебным, таинственным и фантастическим миром. Дом Сташенков — одно из самых трогательных и поэтических воспоминаний моего детства.

И еще они любили петь. Ни у кого из них, правда, не было такого голоса, как у моей матери Рахили, но пели Сташенки хорошо, особенно когда пели вместе. Мелодия белорусской песни, если вы ее слышали, несколько однообразна, даже, может быть, заунывна, но в ней есть своя особенная грустная прелесть, человечность и доброта.

Песен их я слышал много, не только грустных, но и веселых, даже озорных, но особенно запомнилась мне одна, может быть потому, что ее пела маленькая Олеся, и мне было странно, что такую песню поет девочка. Вот эта песня:

Ой, хацела ж мяне маць
Ды за першага аддаць,
А той першы
За мяне старэйшы,
Ой, не адай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маць
Ды за другага аддаць,
А той другі
Ходзіць да подругі,
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маць
Да за трэцяга аддаць,
А той трэці
Як у полі вецер,
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маць
За чацвертага аддаць,
А той чацверты
Не жывы, не мертвы,
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маць
Ды за пятага аддаць,
А той пяты
П’яніца пракляты,
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маць
Ды за шостага аддаць,
А той шосты
Хворы, недарослы,
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маць
Ды за семага аддаць,
А той семы
Добры ды вяселы,
Ен не схацеу мяне узяць...”

Як мы бачым, Анатоль Рыбакоў не пашкадаваў месца і вырашыў у рамане даць поўны тэкст беларускай народнай песьні. Песьні, якая стварыла адпаведны настрой перад апісаньнем наступнай навелы, зьвязанай з каханьнем. Трэба яшчэ адзначыць, што гэты тэкст песьні ў рамане быў пададзены беларускім правапісам, без рускай транскрыпцыі і амаль без памылак.

Цікава, што ў рамане «Важкі пясок» хоць дзеяньне і адбываецца на Украіне, але ў ім няма апісаньня ўкраінскага побыту. Зразумела, што ўспаміны дзяцінства і раньняга юнацтва, на якія абапіраецца аўтар, абіральныя. Але ўсё роўна ўражвае, зь якой любоўю і сімпатыяй выпісаная беларуская сям’я Сташанкоў. Аўтар дакладны ў дробных побытавых дэ-

талях, у беларусізмах у мове, у этнаграфізме беларускага адзеньня і ежы. Традыцыйнасьць, пэўны здаровы каньсерватызм беларускай сям'і Сташанкоў расцэньваецца і падаецца аўтарам як станоўчая рыса іхняга жыцьця.

У пэўным сэнсе Анатоль Рыбакоў стварае ідэальную карціну беларускай сям'і, якая засталася ў ягоных дзіцячых успамінах. Але ж гэта не толькі некрытычны зарыс дзіцячай памяці. Ідэальная беларуская сям'я яшчэ спатрэбіцца Анатолю Рыбакову ў рамане для далейшага разьвіцьця трагічнага жыцьцёвага сюжэту яўрэйскай сям'і Іваноўскіх–Рахленкаў. Бо раману прысутныя пэўныя рысы сімвалічнасьці і міфалагізацыі. У трагедыі жыцьця яўрэяў Сноўска, сям'і Іваноўскіх–Рахленкаў, дзе было так багата метафізічнага зла, зла ў ягоным чыстым і жахлівым выглядзе, мусіла існаваць і дабро. Бо калі б у сьвеце жыло толькі зло, такое жыцьцё страціла б сэнс. Вось жа роля такога сімвалічнага дабра якраз і адводзілася пісьменьнікам беларускай сям'і Сташанкоў.

Наступная навела разьвівае гісторыю ўзаемаадносінаў сем'яў Іваноўскіх–Рахленкаў і Сташанкоў. Яна датычыць маладога пакаленьня ў гэтых сем'ях. 20-я гады XX стагодзьдзя рашуча сьцёрлі межы паміж рознымі нацыянальнымі супольнасьцямі жыхароў мястэчак і гарадоў. Таму не дзіва, што гэтая навела мае рамантычны настрой, адпаведны апісаньню юнацкага каханьня. Вось як Анатоль Рыбакоў распавядае пра яго:

«Олеся была в семье Сташенков поздним ребенком, на десять лет моложе Петруся, в общем ровесница моему брату Леве, значит, на год старше меня, нежная, прозрачная, гибкая, как веточка, русалочка с льняными волосами. Знаете, когда в соседнем доме, соседнем дворе, рядом с тобой растет такая девочка и ты через низкий забор видишь, как она в саду, под яблоней, плетет венок и детским голосом напевает жалобную белорусскую песню, то, пока ты мальчик, ты не обращаешь на это внимания. Но когда подходит твой возраст и ты вдруг обнаруживаешь, что она уже не девочка, а девуш-

ка с сильными, стройными ногами и молодой грудью, то это переворот в твоей жизни. Но ты для нее всего лишь соседский мальчик, и она относится к тебе, как к мальчику, ласково, но снисходительно называет тебя “мілы хлапчук”, хотя сам для себя ты уже не мальчик и тебе по ночам видится всякое, и то, что тебе видится, связано с этой девушкой... Все остается только при тебе, сначала тайной, потом воспоминанием...

Ну ладно... Олеся была комсомолкой, ей были поручены курсы ликбеза в деревне Тереховка, это от нас в двенадцати километрах, шагать туда и обратно надо пешим порядком. Хотя мы тогда недоедали, но были поразительно выносливы, вышагивали и по двадцать и по тридцать километров и не летом, летом крестьянин в поле, ходили осенью — в грязь, зимой — в снег и мороз. Отправлялись мы в Тереховку вместе, я и Олеся, она, как я уже говорил, на курсы ликбеза, я — для оформления стенгазеты, а вернее, чтобы охранять Олесю, все же девушка, а я, как ни говори, парень, хотя и младше ее, но, надо сказать, крепкий, здоровый; и, сознавая свою ответственность за Олесю, я чувствовал себя богатырем, был готов дать отпор кому угодно. Давать отпор было некому, банды были уже ликвидированы, и мы шлепали с Олесей проселочной дорогой, по осенней грязи, босиком, перекинув через плечо сапоги, связанные за ушки; у Олеси их всего одна пара, и у меня, хотя я и сын сапожника, и внук сапожника, и сам сапожник, тоже одна пара, и мне случалось давать свои сапоги ребятам, у которых их вовсе не было. Перед деревней мы сапоги надевали: босоногий горожанин не имеет авторитета в деревне.

Тем же путем возвращались обратно. Иногда нам давали лошадь, мы ехали в подводе — осенью, а зимой — в санях, в деревенских розвальнях, набитых сеном... Вечер, опушка леса, луна освещает темноватый снег на полях, а белый снег на деревьях освещает милое Олесино лицо, голова ее и грудь крест-накрест перевязаны платком, блестят прекрасные, добрые и веселые глаза... Сено таинственно шуршит, нам тепло в этом сене, но мне кажется, что я чувствую ее, Олесино, теп-

ло... Чего не вообразишь в пятнадцать лет, когда рядом с тобой такая девушка!

Я был тогда влюблен в Олесю, влюблен по-мальчишески, когда тебя будоражит молодая кровь, возраст и возраст же заставляет стыдиться этого чувства. Мне казалось, что все в нее влюблены. Может быть, так оно и было, но все мы знали, все мы видели: Олесе нравится мой старший брат Лева».

Вёска Церахоўка — гэта ўжо сёньняшняя Беларусь, дарэчы, месца нараджэньня сучасных беларускіх сьпявачак Вольгі Цярэшчанкі і Русі. Але ў гады, якія апісвае аўтар, гэтая тэрыторыя адносілася да Расіі. Яе прыяднаюць да Беларусі разам з Гомелем, падчас трэцяга ўзбуйненьня БССР, у 1926 годзе. Хутчэй за ўсё, Сноўск і Церахоўка адносіліся да розных раёнаў і рэспублік, таму для мяне не зусім зразумела, чаму Алеся і галоўны герой рамана «Важкі пясок» Барыс хадзілі з украінскага Сноўска ў беларускую, а тады яшчэ падпарадкаваную Расіі Церахоўку. Можа, так яно і было, а можа, аўтар і дадумаў гэтую гісторыю. Але зьявілася яна ў рамане, як мне падаецца, невыпадкова. Час ужо дазваляў яўрэйскаму юнаку закахацца ў беларусачку, хоць гэта і было першае юнацкае каханьне, каханьне рамантычнае і, калі можна так сказаць, несур'ёзнае. Час дазваляў таксама і беларусцы Алесі закахацца ў яўрэя, і гэта быў не яшчэ хлапчук Барыс, а ягоны старэйшы брат Лёва.

Анатоль Рыбакоў так апісвае іхнія пачуцьці адно да аднаго:

«Олеся смотрела на Леву, как и я, снизу вверх. Она выросла в простой семье, мать ее была домашней хозяйкой, и бабушки ее и золовки тоже были при доме, и Олеся тянулась за Левой, хотела, так сказать, соответствовать ему, хотела учиться, хотела работать, быть самостоятельной...

Но где у нас работать, куда пойти: двадцатые годы, нэп, в стране еще безработица, а о нашем городке и говорить нечего. Как и всюду, у нас была, конечно, бронь подростков на предприятиях, но какие это предприятия? Депо, кожевенный завод, сапожная артель... И все же Олесе удалось устроиться

уборщицей в райисполкоме. Тогда райисполком, райком партии и райком комсомола, вообще все районные учреждения помещались в одном доме, некогда реквизированном у бывшего мучного торговца Фрейдкина. И вот Олеся в синем рабочем халатике и красной косынке стала украшением районной власти.

Нравилась ли она Леве? У такого человека, как Лева, этого не узнаешь, не давал волю чувствам. И все же я убежден: Олеся ему нравилась. Она всем нравилась, все ее любили: и моя мать, и мой отец, и дедушка, и бабушка. И когда они, Лева и Олеся, стояли рядом, от них нельзя было глаз оторвать: Лева высокий, стройный, черный, как цыган, Олеся ему по плечо, белолицая русалочка с льняными волосами...

Но ничего у них не получилось...»

Далей у рамане ідзе наступная навела, у якой аўтар распавядае, чаму так сталася. Як гэта ні парадаксальна, але новы час, які зрабіў магчымым, дазволіў гэтае каханьне, яго і зьнішчыў, забараніў. Лёва быў ідэйным сакратаром райкама камсамола, а Алеся — дачкой дробнабуржуазнага элемента, кустара, бо яе бацька быў адзіным у горадзе шорнікам і ні ў якую наваствораную арцель не пайшоў, застаўся прыватнікам. У выніку «Лёва палічыў сябе абавязаным усё ёй прад’явіць», і на вучобу на рабфак паехала не Алеся, а іншы камсамолец, сын працоўнага:

«И когда Лева произнес последние слова, Олеся встала и начала пробираться к выходу.

— Сташенок! — окликнул ее Лева. — Собрание еще не кончено.

— Мне в деревню, уже поздно, — ответила Олеся.

Я поднялся и пошел вслед за ней.

Лева окликнул и меня:

— Ивановский, а ты куда?

— Туда же, — ответил я.

Все знали, что в Тереховку мы ходим вместе.

В деревню нам надо было идти только через два дня, но я хотел подтвердить Олесины слова, чувствовал себя обязан-

ным выйти вслед за ней, хотя это и было нарушением комсомольской дисциплины.

На улице я сказал Олесе:

— Леву часто заносит, ты не огорчайся.

Я думал, она заплачет. Нет, она не заплакала, она засмеялась... Да, да... Засмеялась. У нее оказался сильный характер. Сташенки вообще оказались людьми с характером, в этом вы еще убедитесь.

Она посмотрела на меня, улыбнулась и тихонько пропела:

Ой, хацела ж мяне маць
Ды за семага аддаць,
А той семы
Добры да вяселы,
Ен не схацеу мяне узяць...

Опять засмеялась, потрепала меня по плечу:

— Мілы ты хлапчук, Боря!

И ушла.

А недельки через две-три уехала в город Томск».

Так час разьвёў Лёву і Алесю, а аўтар падрыхтаваў для іх розныя лёсы.

Пра Алесю Анатоль Рыбакоў коратка напісаў:

«А Олеся поступила в Томский университет, стала инженером-химиком, работала в нефтяной промышленности в Башкирии, на Волге, теперь в Тюмени, доктор наук, дети, внуки... Я ее встречал, она, естественно, приезжала к нам и до войны и после войны. Но все равно в моей памяти она остается такой, какой была тогда, в нашей далекой юности, когда мы ехали в розвальнях, луна освещала ее милое лицо в пуховом платке, мы лежали в сене, и мне казалось, что я чувствую ее тепло».

Лёс Лёвы быў апісаны больш падрабязна. Ён рабіў камсамольскую, а потым партыйную кар’еру, у 30-я гады быў арыштаваны і рэпрэсаваны.

Лёс каханьня Лёвы і Алесі быў першым трывожным, дра-

матычным званком для сем'яў Іваноўскіх–Рахленкаў і Сташанкоў.

Аповед пра гэтае каханьне паміж Лёвам і Алесяю, якое не склалася, таксама ўяўляецца шмат у чым сімвалічным. Рэпрэсіі, раскулачваньне, абвінавачваньні ва ўсялякіх -ізмах, у іншых грахах абваліліся на простых людзей, урэшце — на саміх камуністаў, будаўнікоў і шчырых прыхільнікаў гэтай улады. У гэтым зусім ненадзейным і не прыстасаваным для спакойнага жыцьця сьвеце, дзе агромністыя хвалі людскіх трагедыяў перакатваліся ад адной мяжы да другой, у перадваенныя гады ў СССР проста і не магло ўтварыцца асобнае маленькае шчасьце неардынарнага, разумнага яўрэйскага хлопца і прыгожай беларускай дзяўчыны. Рака часу несла гэты трагічны і зьменлівы сьвет да яшчэ большай для яўрэяў і беларусаў катастрофы, да Вялікай Айчыннай вайны.

Прыкладна траціна рамана «Важкі пясок» прысьвечаная трагічным падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Сям'я Іваноўскіх–Рахленкаў не зьязджае ў эвакуацыю. Яны застаюцца ў акупаваным фашыстамі Сноўску. Іх чакае жахлівы і няўхільны лёс усіх яўрэяў, якія не пасьпелі ўцячы. Бо ў чалавечую галаву не магло ўкласьціся, што ў Еўропе, у ХХ стагодзьдзі цывілізаваныя немцы будуць забіваць людзей толькі за тое, што яны іншай нацыянальнасьці. Забіваць усіх, татальна, без разбору, без шанцаў на выжываньне.

Апісаньне гета, як ужо згадваў пісьменьнік, было ўзята ім з гета, якія існавалі ў Беларусі. У безнадзейнай барацьбе за выжываньне ў гета сям'і Іваноўскіх–Рахленкаў дапамагаюць суседзі-беларусы Сташанкі:

«Главную помощь оказывали Сташенки. Если наша семья и пережила эту страшную зиму, то только благодаря Сташенкам. Они жили в бывшем нашем доме, раньше из него к дедушке мы ходили через сад Ивана Карловича, теперь ходить было нельзя: увидит часовой — пуля! Но у Игоря был лаз в сад Ивана Карловича, а оттуда — другой лаз под забором в наш двор. Игорь ночью прокрадывался к Сташенкам,

они снабжали его чем могли, и тем же путем Игорь возвращался обратно. Кстати, у них в доме встречались и Оля с Анной Егоровной. Узнай об этом полицаи, они расстреляли бы всех Сташенков до единого. Но Сташенки были настоящими людьми, они не согнулись перед немцами, свой человеческий долг поставили выше страха.

Но у Сташенков не было ни продовольственного склада, ни продуктового магазина, они отрывали от себя, делились своей скудостью, снимали с себя последнее, чтобы помочь друзьям, погибающим в гетто».

Гінуць адзін за другім чальцы сям'і Іваноўскіх–Рахленкаў. За дапамогу партызанам гестапа арыштоўвае сям'ю Сташанкоў. Лёс беларускай сям'і сканчаецца трагічна:

«Знаете, что сделали наши садисты-полицаи? Они поставили Сташенков под виселицами так, в том же порядке, в каком те стояли на сцене клуба промкооперации, когда пели свои белорусские песни: с края Афанасий Прокопьевич, за ним его жена, потом Андрей, Ксана, Ирина и дальше дети, все белоголовые, босые, в белых рубахах... И табуретки из-под их ног вышибали по очереди, с паузами, пока не вышибли последний табурет из-под ног десятилетней Тани.

Вечная им память! Вечная слава мужественным сынам и дочерям белорусского народа!»

Анатоль Рыбакоў не дарэмна зводзіць лёсы дзвюх суседніх местачковых сем'яў яўрэяў і беларусаў да агульнай роўніцы. Пры фашыстоўскім рэжыме шанцаў на выжываньне не застаецца не толькі ў яўрэяў, але й у беларусаў. Можа, таму так пафасна гучаць у рамане словы падзякі Анатоля Рыбакова беларусам, якія змагаліся супраць фашыстаў. Асабліва важка гэтыя словы гучаць у кантэксьце трагічнага сюжэта рамана «Важкі пясок», твора пра каханьне, пра халакост.

У сваім трагедыйным пафасе раман «Важкі пясок» наўпрост перагукаецца з аповесьцямі беларускага пісьменьніка Алеся Адамовіча «Хатынская аповесьць» і «Карнікі». Што датычыць псіхалагізму і мастацкай пераканаўчасьці, на мой погляд, аповесьці Алеся Адамовіча зьяўляюцца больш дас-

каналымі. У яго ўсё ж быў уласны вопыт жыцьця ў партызанах пад акупацыяй. Алесь Адамовіч браў удзел у напісаньні і складаньні кнігі выжыўшых ахвяраў генацыду беларусаў «Я з вогненнай вёскі», і аб’ём інфармацыі, якую ён ведаў пра «беларускі халакост», быў вялізны. Затое «Важкі пясок» Анатоля Рыбакова меў большую актуальнасьць і грамадскі рэзананс. Але што яднае пісьменьнікаў, дык гэта агульны погляд і адносіны да таталітарных сістэмаў, да нечалавечых палітычных дактрынаў, якія панавалі ў фашыстоўскай Германіі і камуністычным Савецкім Саюзе. І Анатоль Рыбакоў, і Алесь Адамовіч бачылі, што адбываецца наўкол, аналізавалі мінулае, рабілі высновы і не ўмелі маўчаць. Яны абодва ў сваіх творах пра яўрэйскі халакост і беларускі генацыд здолелі акумуляваць і паказаць трагедыю яўрэйскага і беларускага народаў. Трагедыю, якая аб’яднала нас у роўнасьці. Бо ў сьмерці ўсе роўныя.

*Жнівень 2013 года, Бабруйск.*

*http://spring96.org/be/news/66226*

# ПРАВААБАРОНЧАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ У БЕЛАРУСІ. АД ВЫТОКАЎ ДА АПОШНІХ ДЗЁН

***Тэкст быў напісаны сьпецыяльна для Даклада аб стане незалежнай культуры і НДА ў Беларусі (Польша, 2011), праект падрыхтаваны часопісам «Kultura Enter» сумесна з часопісам «pARTisan» (Беларусь).***

Аб правах чалавека ў Беларусі гавораць ужо не адно стагодзьдзе. Але да сёньняшняга дня праблемы асабістай свабоды й вальнадумства застаюцца актуальнымі для беларусаў. У неспрыяльных, нават небясьпечных умовах беларускія праваабарончыя арганізацыі працягваюць сваю дзейнасьць.

Гісторыя асэнсаваньня правоў чалавека й змаганьня за правы чалавека мае ў Беларусі вельмі даўнюю традыцыю. Першая згадка пра правы чалавека менавіта ў такім спалучэньні словаў гучыць у XVIII ст. у беларускім рукапісным творы полацкага шляхціца **Сямёна Зяновіча «Сапраўдная навука асноў права чалавека ў прыватнасьці і права народаў увогуле»**, у якім аўтар разглядае юрыдычныя перадумовы роўнасьці, разважае пра свабоду й яе якасьці.

Надзвычай важны акт у грамадска-палітычным жыцьці Беларусі зьдзейсьніў кіраўнік паўстаньня 1793 г. у Вялікім Княстве Літоўскім Якуб Ясінскі, які выступаў за скасаваньне манархіі й за адмену прыгону. 23 красавіка 1793 г. у Вільні адбылося паўстаньне і быў захоплены расейскі вайсковы гар-

нізон, а на наступны дзень ужо быў прыняты **Універсал**, у якім абвяшчалася роўнасьць станаў, а сялянам надавалася асабістая вольнасьць. Гэтыя **ідэі роўнасьці людзей, асабістай свабоды й неад'емнасьці правоў чалавека** сталі асноватворнымі на ўсё наступнае стагодзьдзе. Менавіта яны гучалі падчас усіх паўстаньняў супраць расейскага дэспатызму.

Пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. разьвіваць і абараняць грамадска-палітычныя правы ў Савецкай Беларусі стала практычна немагчыма. Дыктатура пралетарыяту, масавыя сталінскія рэпрэсіі прымусілі беларусаў найперш клапаціцца не пра адстойваньне сваіх правоў, а пра элементарнае выжываньне. Пасьля Другой сусьветнай вайны гэтая праблема стала яшчэ больш актуальнай. Тым не менш адразу пасьля вайны, асабліва на тэрыторыі Заходняй Беларусі, пачалі паўставаць маладзёвыя падпольныя арганізацыі: Саюз вызваленьня Беларусі, Саюз беларускіх патрыётаў, «Чайка», «Вольная Беларусь» ды інш., якія ставілі на мэце змаганьне за незалежнасьць Беларусі й аднаўленьне для беларускага народа грамадскіх, палітычных ды сацыяльных правоў. Усе гэтыя арганізацыі былі выкрытыя КДБ, іх удзельнікі рэпрэсаваныя, а некаторыя й расстраляныя.

Сьмерць Сталіна дала новы штуршок барацьбе беларусаў за правы чалавека. З 1953 па 1985 г. па артыкуле «Антысавецкая прапаганда і агітацыя» ў Беларусі было асуджана больш за сто асобаў. Выступалі беларусы й супраць увядзеньня савецкіх войскаў у Чэхаславаччыну ў 1968 г. Так, за антысавецкія выказваньні былі пакараныя журналіст і гісторык Анатоль Сідарэвіч, паэт Фёдар Яфімаў, Мікалай Якімовіч, Міхась Кукабака. Апошні стаў ці не самым вядомым беларускім дысідэнтам. За праваабарончую дзейнасьць — выступы з крытычнымі артыкуламі, распаўсюд Усеагульнай дэкларацыі аб правах чалавека — ён быў неаднаразова арыштаваны, судом накіраваны на прымусовае псіхіятрычнае лячэньне, затым асуджаны за «ганьбаваньне савецкага дзяржаўнага й грамадскага ладу».

Але шырокага дысідэнцкага руху ў Беларусі так і не скла-

лася. Былі асьветніцкія паўлегальныя формы працы, накіраваныя ў асноўным супраць русіфікатарскай палітыкі, якую праводзілі камуністы. Так, напрыклад, браты Белыя ў 1950–1970-я гг. распаўсюджвалі антысавецкія ўлёткі ў Менску, за што былі схопленыя й асуджаныя на вялікія тэрміны зьняволеньня. Таксама быў рэпрэсаваны філосаф і культуролаг Кім Хадзееў, які ачольваў філасофска-літаратурны гурток студэнтаў БДУ. Пры нявысьветленых абставінах быў забіты ў 1972 г. мастак Лявон Баразна, лідар нонканфармісцкага мастацкага руху, які выступаў супраць зьнішчэньня старога Менска. Варта згадаць і Якава Хейфіца, аднаго з габрэйскіх актывістаў, асуджанага за крытыку ўлады па пытаньні культурных правоў габрэйскай меншасьці ў Беларусі.

**Пачатак 1980-х: змаганьне за незалежнасьць**

На пачатку 80-х гг. у Беларусі сфармавалася новая маладзёвая дэмакратычная плынь, якая шукала як легальныя, так і нелегальныя формы працы. Натхнёная падзеямі ў Польшчы, беларуская моладзь паставіла перад сабой задачу змаганьня за нацыянальныя, палітычныя, грамадскія й сацыяльныя правы для беларускага народа.

16–17 сьнежня 1987 г. адбыўся **Першы Вольны Сойм маладзёвых беларускіх суполак**, на якім прысутнічалі прадстаўнікі некалькіх дзясяткаў так званых нефармальных аб'яднаньняў. Быў прыняты шэраг дакументаў, у якіх дэкляраваліся барацьба за стварэньне прававой дзяржавы, неабходнасьць забесьпячэньня ўсіх грамадскіх і палітычных свабодаў, незалежнага суда, кантроль за дзейнасьцю КДБ, за справядлівасьцю правасудзьдзя і г. д. Знакавым стаўся для беларускіх праваабаронцаў 1988 год, калі была абнародаваная праўда аб месцы масавага пахаваньня ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў пад Менскам ва ўрочышчы Курапаты. Пасьля гэтага быў створаны «Камітэт-58» як «напамінак аб адпаведным артыкуле Крымінальнага кодэкса РСФСР, па якім былі несправядліва асуджаныя мільёны людзей ува ўсіх рэспублі-

ках СССР». На базе «Камітэта-58» было ўтворана **Таварыства памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій «Мартыралог Беларусі»**. Гэта першая афіцыйна абвешчаная легальная праваабарончая арганізацыя ў краіне.

Змаганьне са сталінскай спадчынай было надзвычай важным для дэмакратычных зьменаў у беларускім грамадстве. Першыя масавыя акцыі ў Беларусі: «Дзяды-87», дэманстрацыя й мітынг у Курапатах, які адбыўся 19.06.1988, і «Дзяды-88», якія адбыліся 30.10.1988, — мелі выразны антысталінскі, антытаталітарны кірунак. Менавіта таму «Дзяды-88» былі жорстка разагнаныя савецкімі беларускімі ўладамі. Але ўжытыя ўладамі рэпрэсіі не далі чаканага выніку. У адказ на іх у грамадстве ўзьнялася сапраўдная хваля асуджэньня й абурэньня. Тысячы грамадзянаў пайшлі ў толькі што створаны Беларускі народны фронт — першую масавую дэмакратычную грамадска-палітычную арганізацыю, якая ставіла на мэце маштабныя дэмакратычныя пераўтварэньні ў грамадстве й дабівалася іх у наступныя гады палітычнымі й грамадскімі сродкамі. Праблемы дзяржаўнай незалежнасьці, шматпартыйнасьці, свабоды распаўсюду й атрыманьня інфармацыі, свабоды сумленьня, экалогіі, правядзеньня справядлівых выбараў, эканамічнага рэфармаваньня, захаваньня правоў чалавека і г. д. былі галоўнымі пытаньнямі, якія ставіў у сваёй дзейнасьці Беларускі народны фронт. Дзейнасьць БНФ як галоўнай палітычнай і грамадскай сілы ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гг. прывяла да здабыцьця Беларусьсю ў 1991 г. незалежнасьці.

У 1990 г. разьвівалася дзейнасьць **Венскага камітэта**, які, як згадвае адзін зь ягоных заснавальнікаў Валеры Сядоў, «узьнік як адваротная рэакцыя на масавы тэрор камуністычнага рэжыму супраць сяброў БНФ і ўсіх нязгодных». Сябры Венскага камітэта забясьпечвалі юрыдычную дапамогу, выступалі з праваабарончымі ідэямі на мітынгах, у вольнай прэсе, удзельнічалі ў міжнародных праваабарончых канферэнцыях у Маскве, у канферэнцыях паняволеных народаў у Таліне, Тбілісі. 10 сьнежня 1990 г. правялі ў Менску мітынг,

прысьвечаны Дню правоў чалавека, у якім удзельнічалі некалькі тысячаў чалавек. Сам В. Сядоў 7 лістапада 1990 г. браў удзел у антыкамуністычным мітынгу-шэсьці з цэнтра Менска й усклаў да помніка Леніну так званыя «дары» — крыж у вопратцы зьняволенага, абкручаны калючым дротам, — за што 7 траўня 1991 г. пастановаю Пракуратуры БССР быў арыштаваны й зьмешчаны ў сьледчы ізалятар. У ізалятары знаходзіўся больш за два месяцы, зь якіх 32 дні трымаў галадоўку. Неўзабаве дзейнасьць Венскага камітэта спынілася.

Пэўную працу, накіраваную на забесьпячэньне свабоды слова й абарону правоў журналістаў і пісьменьнікаў, праводзіў Беларускі **ПЭН-цэнтр** (першы кіраўнік — Карлас Шэрман), створаны ў лістападзе 1989 г. З 1994 г. Беларускі ПЭН-цэнтр штогод прысуджае дзьве *літаратурныя прэміі* пісьменьнікам з мэтай заахвочваньня іхняй працы на карысьць пашырэньня ідэяў адкрытага грамадства. У 1996 г. Беларускі ПЭН-цэнтр стаў членам Камітэта «Пісьменьнікі ў зьняволеньні», заснаванага ў 1960 г. Асамблеяй дэлегатаў Міжнароднага ПЭН-клуба. Неаднаразова сябры Беларускага ПЭН-цэнтра перасьледаваліся за сваю актыўную грамадзянскую пазіцыю. Так, былы кіраўнік ПЭН-цэнтра, беларускі пісьменьнік Уладзімер Някляеў, які кандыдаваў у прэзыдэнцкіх выбарах у 2010 г., быў моцна зьбіты й арыштаваны КДБ, а затым асуджаны. ПЭН-цэнтр выступае ў абарону рэпрэсаваных беларускіх пісьменьнікаў.

У 1992 г. была створаная **Беларуская ліга правоў чалавека**, якую ўзначаліў на той час дэпутат Вярхоўнага Савета Яўген Новікаў. Напачатку ЛГПЧ займалася праваабарончай працаю, дапамагала людзям, якія падпалі пад рэпрэсіі з боку беларускіх уладаў, выдавала газэту «Правы чалавека», актывісты Лігі дасьледавалі пытаньне выкарыстаньня псіхіятрычнай медыцыны ў мэтах перасьледу іншадумцаў у Беларусі. У 1995 г. Я. Новікаў зьмяніў свае погляды й быў адхілены ад кіраўніцтва ЛГПЧ. Паступова да 2000 г. праца ЛГПЧ спынілася.

## Сярэдзіна 1990-х: новая старонка гісторыі права ў Беларусі

З прыходам да ўлады А. Лукашэнкі сытуацыя з правамі чалавека ў краіне рэзка ўскладнілася. Як рэакцыя на першыя абмежаваньні з боку ўладаў свабоды распаўсюду інфармацыі ўзьнікла Беларуская асацыяцыя журналістаў, асноўнай мэтай якой стала «стварэньне ўмоваў для забесьпячэньня свабоды слова й друку, права на бесьперашкоднае атрыманьне, захоўваньне й распаўсюджваньне інфармацыі».

Адказам на наступ на грамадскія й палітычныя свабоды стала стварэньне 1 лістапада 1995 г. Беларускага Хельсінкскага камітэта **(БХК)**, ганаровым старшынёй якога быў абраны вядомы беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў. Зьдзек з нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцяга з боку вышэйшых беларускіх чыноўнікаў быў штуршком для стварэньня БХК. Камітэт мае прадстаўніцтвы ў 12 гарадах краіны, налічвае каля 350 сяброў. У 1998 г. быў узнагароджаны прэміяй ЭЗ і ЗША. БХК выяўляе выпадкі парушэньня правоў чалавека, забясьпечвае прававую дапамогу канкрэтным людзям (штогод у БХК прыходзіць да 2000 скаргаў), праводзіць праваабарончыя семінары й трэнінгі па навучаньні маладзёвых актывістаў і юрыстаў, выдае сьпецыяльную літаратуру, арганізоўвае разнастайныя мерапрыемствы з мэтай прыцягнуць увагу грамадскасьці да праблемаў парушэньня правоў чалавека ў Беларусі. Камітэт зьяўляецца партнёрам Рады Эўропы, удзельнічае ў Міжнародным Хельсінкскім руху. Зараз БХК ачольвае Алег Гулак.

Увесну 1996 г. у адказ на жорсткі разгон сілавымі структурамі масавай маніфестацыі «Чарнобыльскі шлях», пасьля якога было арыштавана амаль 200 асобаў і ўзбуджаная крымінальная справа супраць арганізатараў, стварылася група падтрымкі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, якая заклала пачатак існаваньню праваабарончага цэнтра «Вясна» (кіраўнік — Алесь Бяляцкі). Прыярытэтамі дзейнасьці Цэнтра, які сёньня прадстаўлены ў 17 найбуйнейшых гарадах Беларусі, за-

стаюцца дапамога ахвярам палітычных рэпрэсіяў, збор і распаўсюд як у краіне, так і за яе межамі, інфармацыі пра парушэньні правоў чалавека ў Беларусі, асьветніцкія й адукацыйныя праваабарончыя праграмы, назіраньне за выбарамі. У 2003 г. Вярхоўны Суд Беларусі па іску Міністэрства юстыцыі скасаваў рэгістрацыю «Вясны». У 2007 г. Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў ліквідацыю незаконнай і абавязаў беларускі ўрад аднавіць рэгістрацыю. Гэтае рашэньне не было выкананае. 6 сакавіка 2004 г. ПЦ «Вясна» быў прыняты ў Міжнародную федэрацыю правоў чалавека (FIDH), а ў 2008 г. А. Бяляцкі быў абраны віцэ-прэзідэнтам FIDH. Вынікі праваабарончай дзейнасьці Цэнтра былі адзначаныя некалькімі міжнароднымі прэміямі Чэхіі, Італіі, Нарвегіі, Швэцыі, ЗША.

У другой палове 1990-х — пачатку 2000-х гг. стварыліся іншыя рэспубліканскія й рэгіянальныя праваабарончыя арганізацыі, такія, як Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі й **«Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў»**. На базе апошняга пасьля яго ліквідацыі ўладамі ў 2003 г. былі створаныя Цэнтр прававой трансфармацыі і Фонд разьвіцьця прававых тэхналогіяў, якія працягнулі дзейнасьць у галіне праваабароны. У кірунку расьсьледаваньняў і прыцягненьня ўвагі да палітычна матываваных выкраданьняў, што адбыліся ў краіне ў 1999–2000 гг., з 1998 г. працуе **Прававая дапамога насельніцтву** (кіраўнік — Алег Волчак).

З 1998 г. працуе рэгіянальная праваабарончая арганізацыя **Магілёўскі праваабарончы цэнтр** (кіраўнік — Уладзімер Краўчанка), якая на рэгіянальным узроўні займаецца правядзеньнем маніторынгу сітуацыі з правамі чалавека, зборам і распаўсюдам інфармацыі, падрыхтоўкай адукацыйных і асьветніцкіх праваабарончых мерапрыемстваў.

Праваабарончай дзейнасьцю ў краіне з пачатку 2000-х гг. таксама займаюцца такія арганізацыі, як **Менскі цэнтр правоў чалавека**, **«Прававая ініцыятыва»** (падрыхтоўка праваабарончых трэнінгаў і семінараў), «Праваабарончы альянс»

(дапамога ахвярам палітычных рэпрэсіяў і іх сем’ям, распаўсюд інфармацыі пра парушэньні правоў чалавека ў краіне). У 2006 г., пасьля масавых рэпрэсіяў падчас і пасьля прэзідэнцкіх выбараў, распачаў працу Камітэт абароны рэпрэсаваных «Салідарнасьць», які ўзначальвае Іна Кулей. Асаблівую ўвагу Камітэт засяроджвае на падтрымцы рэпрэсаваных студэнтаў, сем’яў рэпрэсаваных, на медычнай і псіхалагічнай дапамозе ахвярам палітычных рэпрэсіяў.

З 2007 г. у Вільні запрацаваў як сумесная праваабарончая ініцыятыва некалькіх арганізацыяў **«Дом правоў чалавека ў выгнаньні ў Вільні»**, які зараз выступае як буйны адукацыйны праваабарончы цэнтр, адкрыты дэмакратычны асяродак, дзейнасьць якога накіраваная на дапамогу беларускім НДА, рэалізацыю беларускіх праваабарончых адукацыйных праграмаў, на падтрымку міжнароднага супрацоўніцтва беларускіх і замежных праваабарончых арганізацыяў. Таксама на базе арганізацыі праводзяцца трэнінгі, сустрэчы, культурніцкія акцыі, якія цяжка ажыцьцявіць у Беларусі.

Пасьля падзеяў 19 сьнежня 2010 г. была створаная ініцыятыва сваякоў палітычных вязьняў **Камітэт «Вызваленьне»**, які працуе ў кірунку дапамогі палітычным вязьням, а таксама сем’ям, якім такая падтрымка патрэбная.

З прычыны неспрыяльных умоваў для працы ўсіх праваабаронцаў у Беларусі нашыя праваабарончыя арганізацыі аб’ядноўваюць свае намаганьні ў сумеснай дзейнасьці. У 2004 г. у Менску і 25–26 верасьня 2010 г. у Вільні былі праведзеныя два форумы беларускіх праваабаронцаў, на якіх былі абмеркаваныя шляхі актывізацыі й паляпшэньня праваабарончай работы. На другім форуме, у якім бралі ўдзел прадстаўнікі 18 беларускіх праваабарончых арганізацыяў, было прынятае рашэньне аб распрацоўцы стратэгіі разьвіцьця беларускага праваабарончага руху.

На працягу гэтых гадоў было праведзена некалькі **супольных праваабарончых кампаніяў**, накіраваных на вырашэньне балючых праблемаў у галіне абароны правоў чалавека. Напрыклад, **кампанія «Stop 193.1»**, ініцыяваная Асамблеяй НДА,

была накіраваная на скасаваньне ў Крымінальным кодэксе адказнасьці за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Гэтая кампанія актыўна праводзілася ў 2009–2010 гг. Таксама трэба ўзгадаць ініцыяваную ПЦ «Вясна» й БХК **кампанію «Праваабаронцы супраць сьмяротнага пакараньня»** (распачатая ў 2009 г.); **кампанію за альтэрнатыўную службу**, у правядзеньні якой удзельнічалі Цэнтр прававой трансфармацыі й ПЦ «Вясна»; **кампанію «Праваабаронцы за свабодныя выбары»**, якую ў 2008 і 2010 гг. падчас парламенцкіх і прэзыдэнцкіх выбараў праводзілі ПЦ «Вясна» й БХК. Сумесныя намаганьні праваабарончых арганізацыяў спатрэбіліся для падрыхтоўкі альтэрнатыўнага даклада па UPR у 2009–2010 гг. для ААН, над якім працавалі Асамблея НДА, ПЦ «Вясна», БАЖ і БХК. Таксама каардынацыя адбываецца на ўзроўні працы грамадскіх арганізацыяў у грамадзянскай платформе ва Усходнім партнёрстве ў 2009–2011 гг.

Сур'ёзным выклікам для беларускай праваабарончай супольнасьці сталі падзеі непасрэдна падчас і пасьля прэзідэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010 г. Свае намаганьні беларускія праваабаронцы засяродзілі на дапамозе ахвярам палітычных рэпрэсіяў, выкарыстоўваючы дзеля гэтага як унутраныя, так і міжнародныя магчымасьці й механізмы. Была забясьпечаная сталая дапамога палітычным зьняволеным, а таксама сем'ям пацярпелых. Праўдзівыя зьвесткі пра стан палітвязьняў, пра магчымасьці для абароны палітзьняволеных, пра маштабы рэпрэсіяў, якія закранулі сотні чалавек у Беларусі, маніторынг судовых працэсаў — гэтая інфармацыя з вуснаў праваабаронцаў у 2011 г. неаднаразова гучала ў структурах ААН і АБСЕ, на паседжаньнях Рады Эўропы й Эўрапейскага зьвязу. У сваіх заявах беларускія праваабаронцы жорстка асудзілі тыя рэпрэсіі, якія ўлады абрынулі на палітычных апанентаў. Беларускія праваабаронцы працавалі ў шчыльным кантакце з сваімі замежнымі партнёрамі.

Улады нервова адрэагавалі на справядлівую крытыку праваабаронцаў. КДБ былі праведзеныяператрусы ў офісах вядучых праваабарончых беларускіх арганізацыяў і ў пры-

ватных кватэрах праваабаронцаў, былі канфіскаваныя камп'ютарная тэхніка й носьбіты інфармацыі. Алесь Бяляцкі, старшыня ПЦ «Вясна», атрымаў ад Генеральнай пракуратуры афіцыйнае папярэджаньне за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, БХК атрымаў два папярэджаньні ад Міністэрства юстыцыі. У дзяржаўных СМІ ідзе бесьперапынная кампанія па дыфамацыі й дыскрэдытацыі дзейнасьці беларускіх праваабаронцаў, іх называюць «пятай калёнай», «ворагамі народа».

Тым не менш, адчуваючы вялікую адказнасьць перад беларускім народам і перад тымі, каму патрэбная дапамога праваабаронцаў, атрымліваючы бесьперапынную моцную падтрымку ад людзей, беларускія праваабарончыя арганізацыі працягваюць сваю дзейнасьць.

*Алесь Бяляцкі*

*Пра аўтара*

**Алесь Бяляцкі** скончыў Гомельскі дзяржаўны ўнівэрсытэт і асьпірантуру Інстытута літаратуры АН Беларусі. Адзін са стваральнікаў і старшыня Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» (1986–1989), адзін з заснавальнікаў «Мартыралога Беларусі», сябра Арганізацыйнага камітэта БНФ «Адраджэньне», адзін з арганізатараў Беларускай Каталіцкай Грамады (1990). У 1992–1996 гг. быў дэпутатам Менскага гарадскога Савета. Працаваў дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча (1989–1998). З 1997 г. кіруе праваабарончым цэнтрам «Вясна». Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека.

**Ад рэдакцыі.** Праз пару дзён пасьля напісаньня гэтага артыкулу Алесь Бяляцкі быў арыштаваны. Эўрапейская супольнасьць і праваабаронцы сьвету ўспрынялі гэты крок з боку беларускіх уладаў «як расправу й помсту за ягоную шматгадовую праваабарончую дзейнасьць, а таксама як імкненьне зьнішчыць праваабарончы цэнтар «Вясна» й запалохаць увесь праваабарончы рух у Беларусі».



Алесь Бяляцкі ў Сьветлагорску падчас навучаньня ў сярэдняй школе № 5, 1970-я гады



Алесь Бяляцкі ў Сьветлагорску падчас навучаньня ў сярэдняй школе № 5, 1970-я гады



Алесь Бяляцкі ў Сьветлагорску падчас навучаньня ў сярэдняй школе № 5, 1970-я гады



Алесь Бяляцкі ў Сьветлагорску падчас навучаньня ў сярэдняй школе № 5, 1970-я гады



Алесь Бяляцкі — студэнт Гомельскага дзяржаўнага ўнівэрсітэта, 1980-я гады



Алесь Бяляцкі — студэнт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта, 1980-я гады



Алесь Бяляцкі — студэнт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта, 1980-я гады

Раскопкі ў Мірскім замку



Паэт Анатоль Сыс



Паседжаньне літаратурнага аб’яднаньня «Тутэйшыя» (справа налева): Зьміцер Сідаровіч, Алесь Камоцкі, Анатоль Сыс, Кася Камоцкая, Сьвятлана Раманава. Мінск, канферэнц-зала Дома літаратараў, 1988 год



Алесь Бяляцкі і Сяржук Сыс, перад нарадай Таварыства маладых літаратараў “Тутэйшыя”, якая адбылася 15 траўня 1988 года ў Доме літаратара.
Фота Алеся Аркуша



Затрыманьне Алеся Бяляцкага
падчас мітынгу 30 кастрычніка 1988 года «Дзяды»



«Дзяды». 30 кастрычніка 1988 года



На мітынгу каля Опернага тэатра.
Менск, 1997 год




Падчас акцыі каля помніка Максіму Багдановічу ў Менску



Алесь Бяляцкі — дырэктар музея Максіма Багдановіча ў Менску



Алесь Бяляцкі і Юры Хадыка



На прэзентацыі першага «Агляду-хронікі парушэньня правоў чалавека ў Беларусі». Менск, люты 1999 года. Фота Уладзіміра Сапагова



Алесь Бяляцкі ў рэдакцыі штотыднёвіка беларусаў Польшчы “Ніва”




Адкрыцьцё помніка Адаму Багдановічу. Халапенічы, 1997 год



У вёсцы Ліпа, ліквідаванай пасьля чарнобыльскай аварыі. Гомельская вобласьць, лістапад 1998 года

Алесь Бяляцкі і Валянцін Стэфановіч. Менск, 2001 год



Алесь Бяляцкі і Валянцін Гефтэр



Алесь Бяляцкі
і шведскі
праваабаронца
Марцін Угла



З Вацлавам Гавэлам



З Івонкай Сурвілай



Зь Яўгенам Вапам



На сьвяткаваньні 50-годзьдзя штотыднёвіка беларусаў Польшчы «Ніва»: Барыс Пятровіч, Вінцук Вячорка, Яўген Вапа і Алесь Бяляцкі



Алесь Бяляцкі, паэт Юры Гумянюк, журналістка Гражына Шалкевіч на ганку Гарадзенскага суда падчас працэсу над журналістам Андрэем Пачобутам. Чэрвень 2011 года.
Здымак з архіва Юрыя Гуменюка, прадастаўлены Алесем Аркушам




Пікет супраць сьмяротнага пакараньня ў Менску на прасьпекце Незалежнасьці. 10 кастрычніка 2010 года




Пікет супраць сьмяротнага пакараньня ў Менску
на прасьпекце Незалежнасьці.
10 кастрычніка 2010 года

# АЎТАРСКІЯ КАЛОНКІ Ў ГАЗЕЦЕ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА» (1996 — 1997)

***Гэтыя тэксты напісаныя вясной 1996 года, калі ў Беларусі адбыўся пачатак рэпрэсій, якія працягваюцца да гэта часу. У 1996 годзе галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва» («ЛіМ») быў Мікола Гіль. І ў гэты час, у 1996–1997 гадах, штотыдзень у дзяржаўнай беларускай газеце «Літаратура і мастацтва» («ЛіМ») друкаваліся калонкі Алеся Бяляцкага, які на той час з'яўляўся дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Менску, але ўжо стварыў Праваабарончую ініцыятыву, якая тады назывался «Вясна-96».***

## Пра Чачню

За вас праўда, за вас слава і воля сьвятая!

*Т. Шаўчэнка*
*(з паэмы «Каўказ»)*

Калі я быў малы, я любіў слухаць, як маці распавядала пра тое, як немцы палілі іхнюю вёску.

Спачатку летам была аблава. Але паліцыянт з суседняй вёскі, дзе стаяў гарнізон, падказаў. І вёска пасьпела схавацца — хто ў хмызьняк, а хто ў жыта. Прыехалі немцы, паст-

ралялі хворых і нямоглых, хто не змог ці не захацеў хавацца, і вырашылі на ўсялякі выпадак прачасаць жыта.

Бабуля Соня з чатырма дзецьмі, а было ёй тады трыццаць гадоў, сядзела ў хмызьняку. Зь ёй таксама былі старэйшыя дзеці малодшай сястры Аляксандры. Аляксандра ж з самым меншым немаўлём ляжала ў жыце разам зь іншымі бабамі і дзецьмі. Немцы ішлі, гергаталі, зрэдку пастрэльвалі, і тут заплакаў гэты Аляксандрын Віця. «Прыдушы!» — загадалі ёй старэйшыя аднавяскоўкі.

Яна не адважылася, а папаўзла зь ім падалей ад людзей, у бок да немцаў. Калі тыя наблізіліся, дзіця замоўкла і выратавала сябе і маці.

Што яна, мая стрыечная бабуля Аляксандра, якой было тады 25, перажыла тады?

Бліжэй пад восень немцы канчаткова вырашылі зьнішчыць вёску; але зноў нехта са сваіх паліцаяў падказаў, і людзі зноў на ноч паўсхопліваліся з ложкаў ды палацяў і паўцякалі. Баба Соня зноў ляжала зь дзецьмі ў хмызьняку і глядзела, як немцы падпальваюць хату за хатай. Маці распавядала, што ішоў дождж. Яна, 9-гадовае дзяўчо, у адной кашульцы ляжала ў брудзе і дрыжэла ад холаду. Мокрыя хаты не хацелі гарэць, і немцы расстрэльвалі іх запальнымі кулямі. Нашая хата нарабіла грукату. Яна ўзрывалася, і трасіруючыя кулі ад яе разьляталіся ў розныя бакі. Дзедпартызан хаваў у ёй свае боепрыпасы.

Што думала тады мая бабуля, цяжарная пятым дзіцем і з чатырма на руках, ведаючы, што муж нічым не здолее ёй дапамагчы, што суседнія вёскі гараць зь людзьмі, што наперадзе зіма?

Гэта можна толькі ўявіць. Але пасьля таго, як пачалася вайна ў Чачні, як расейскія войскі зьмялі Грозны, зьнішчылі зь людзьмі Сямашкі і разбамбілі ці не адзін дзясятак чачэнскіх аулаў з жанчынамі і дзецьмі, пасьля таго, як я ўбачыў каменныя твары чачэнскіх «баевікоў», я дакладна ведаю, што думаў тады, у 43-м, мой дзед.

Як ні дзіўна, але ў нас, беларусаў, шмат паралеляў з

гэтым малым, далёкім чачэнскім народам. У дачыненьні да беларусаў у апошнюю вайну акупанты праводзілі планамерны генацыд. Немцы патрабавалі поўнага падпарадкаваньня, інакш — сьмерць. Калі пачалі паліць вёскі і забіваць, ціхмяны і рахманы беларускі народ «азьвярэў» і масава пайшоў у лясы, бараніцца.

Сёньня ў Чачні робіцца тое, што ў нас рабілася пяцьдзясят гадоў таму. Расейскія войскі зараз ужываюць такую ж тактыку «выпаленай зямлі» і наводзяць такі ж, толькі што ўжо «канстытуцыйны», парадак.

І таму, калі я чую па расейскіх сродках інфармацыі тэрмін «баевікі», я аўтаматычна, у галаве перапраўляю — партызаны, і ў мяне адразу цяплее на душы.

*ЛіМ, 1 сакавіка 1996 года.*

## Зноў пра Чачню

Некалькі слоў пра тое, як Расея «ўзьядналася» з Чачнёй у XIX стагодзьдзі. У выніку войнаў з Турцыяй і Персіяй на пачатку XIX стагодзьдзя да Расеі адышло Закаўказьзе, але на шляхах каланізацыі стаяў незалежны Каўказ.

Ва ўрадлівых каўказскіх далінах будуюцца крэпасьці, асяляюцца казацкія станіцы. Так, у 1818 годзе была заснаваная крэпасьць Грозная. На вольных горцаўляглі цяжкія павіннасьці. Як пісаў адзін зь відавочцаў: «павіннасьці так абцяжарваюць народ, што не даюць нават часу ўбраць з поля хлеб, амаль усе мужчыны і жывёлы выключна занятыя імі».

Адразу ж пачаўся збройны супраціў. Вайна мела паўпартызанскі характар. Вайсковы міністр Мікалая I граф Чарнышоў пісаў: «План замірэньня каўказскіх плямёнаў палягае на той галоўнай думцы, што... адзіным сродкам для дасягненьня гэтай мэты прызнаная... моц зброі...» Метады расейцаў былі падступнымі. Спачатку распрацоўваліся планы. Так, памочнік галоўнакамандуючага расейскімі войскамі генера-

ла Ярмолава Вельямінаў прапаноўваў: «Зьнішчэньне іхніх палёў на працягу пяці гадоў запар дасьць мажлівасьць абяззброіць іх і тым самым аблегчыць усе наступныя дзеяньні».

Затым гэтыя планы прыводзіліся ў дзеяньне. Так, у 1882 годзе атаман Уласаў напаў «на землі чаркескія, дзе ён высякаў лясы, паліў засеяныя імі палі і, урэшце, нападаючы на аулы, зьнішчаў іх». Можна прыгадаць карны паход генерала Пестэля на буйное паселішча Башлы. Як згадвае генерал Ярмолаў: «У Башлах не засталося каменя на камені, і прыкметы яго існаваньня цалкам зьнішчаныя». Як звычайны эпізод гэтай вайны чытаюцца словы Л. Талстога з «Каўказскага вязьня» пра старога горца: «У яго было тры жонкі і восем сыноў. Усе жылі ў адной вёсцы. Прыйшлі рускія, вёску разрабавалі і сем сыноў забілі».

Не дарма генерал М. Раеўскі з горыччу зазначаў: «Нашыя дзеяньні на Каўказе нагадваюць усе бедствы першапачатковай заваёвы Амерыкі іспанцамі». А. Пушкін у «Падарожжы ў Арзрум» запісвае: «Чаркесы нас ненавідзяць. Мы выцесьнілі іх з прывольных пашаў; аулы іх разрабаваны, цэлыя плямёны зьнішчаны».

Што сабою ўяўляла расейская адміністрацыя на Каўказе? Не раўнуючы, як на Беларусі пасьля «ўзьяднаньня»: «Каўказ у той час быў прытулкам і зборным пунктам розных прайдзісьветаў і шукальнікаў спосабу вынырнуць з бруду ці зь няёмкага становішча», — згадваў генерал Філіпсон. А. Бястужаў у «Каўказскіх нарысах» заўважае: «Што тут за каменданты, што тут за палкоўнікі! Так рукі апускаюцца!.. Апроч хабару нічога не ведаюць і не жадаюць».

А як жа расейская дэмакратыя? Як заўсёды. Сасланыя на Каўказ дзекабрысты бралі ў бруднай вайне чынны ўдзел і добрасумленна душылі незалежнасьць горцаў.

Тым не менш вайна ішла больш за 50 гадоў. Першы імам Каўказа Газі-Мухамед пачаў з таго, што ў 1831 годзе захапіў крэпасьць Кізьляр. У той час супраць яго ваяваў генерал Паскевіч...

Расейцы аргументоўвалі сваю палітыку на Каўказе «пры-

роднай схільнасьцю да разбою» тубыльцаў. Зусім нядаўна генерал — «замірыцель» Чачні Барсукоў назваў усіх чачэнцаў бандытамі, зладзеямі і рабаўнікамі. Дык што ж зьмянілася за гэты час у псіхалогіі нашых усходніх суседзяў?

*ЛіМ, 8 сакавіка 1996 года.*

### І яшчэ раз пра Чачню

Наши камни, наши кручи!
Русь! Зачем воюешь ты
Вековые высоты? Достанешь ли?..

*А. Грыбаедаў*

Тое, што немцы ў час вайны «спарадзілі» партызаншчыну на Беларусі, — вынік іхняга нежаданьня лічыцца з асаблівасьцямі беларускага характару. Яны прынесьлі свой «новы парадак», сваё пракрустава ложа і адразу ж хацелі перарабіць сьвет на свой капыл. Так было паўсюль, і славянства паўстала. Паўсталі палякі, паўсталі беларусы, сербы, славакі і ўкраінцы. У першых і апошніх былі свае, нацыянальныя формы змаганьня. А ў нас усё перанялі камуністы. Урэшце, без такіх шараговых сялян, як мой дзед Аляксандр, яны нічога б не былі вартыя. І немцы, здаецца, так і не зразумелі, чаму гэтыя беларусы-дзікуны, якія жывуць яшчэ ў хатах з саламянымі стрэхамі і не ведаюць добрых дарог, не паддаюцца цывілізацыі.

Вось так і расейцы ў Чачні. Прыехалі туды на танках, прывезьлі сваю «цывілізацыю». Не дзіва, што яны сустрэлі жорсткі адпор. Неяк заціхлі ў нас у народзе размовы пра аб'яднаньне. Зараз чачэнцы ваююць не толькі за сваю волю, але і за волю Беларусі.

Мы памятаем, чым скончылася ганебная вайна ў Афганістане. Худзенькія, маленькія, слабенькія, калі меркаваць па таджыках, афганцы перамаглі, бо яны не задумваючыся

гінулі за сваю зямлю. А тут — чачэнцы, горцы! Згадваю свайго камандзіра адзьдзяленьня ў войску. Кабардзінец і мусульманін, ён, здаровы і хуткі, як тыгр, за першага паўгода вучэбкі схуднеў на 20 кілаграмаў, бо еў толькі хлеб з гарбатаю. Да астатняй ежы ён не дакранаўся, бо там магла быць сьвініна.

Ісьці да такіх людзей з такой самай меркаю, як да якога-небудзь разанскага Вані, — праўдзівае шаленства.

Тым не менш сярэдні расейскі палітык, таксама як і сярэдні расіянін, упэўнены, што там — расейская зямля. І да тых часоў, пакуль расейцы не зразумеюць ці не адчуюць гэта на сваёй скуры — праз тэракты, праз заложнікаў і яшчэ немаведама праз што — тое, што Чачня — гэта не Расея, іх будуць жорстка вучыць.

Урэшце, Чачня Расеяй ніколі не была. І зараз, калі які-небудзь «белы каўнерык», седзячы ва ўтульным маскоўскім кабінеце, піша і друкуе тое, што трэба там «огнем и мечом...», дык яго апаноўваюць дваістыя пачуцьці. З аднаго боку, ён верыць, што гэта сапраўды «расейская зямля», якую ну ніяк нельга пакінуць на разрабаваньне басурману, а з другога боку, расейскія войскі разглядаюцца там як эксьпедыцыйны корпус. Яны — адважныя жаўнеры і бясстрашныя генералы, недзе там, далёка, прыкладна як у свой час ангельскія войскі ў Індыі. І таму сапраўдны шок выклікаюць у яго зьвесткі пра тое, што вайна часам пераносіцца на тэрыторыю Расеі. Тут цывілізацыя зь яе сродкамі перасоўваньня і метадамі вядзеньня вайны расейцам зусім не на руку.

Шырокія і бяскрайнія расейскія прасторы, і не маюць яны цьвёрдых межаў з Чачнёю. Так што якіх падзей яшчэ можна чакаць ад такога наезду, ведае толькі адзін Бог.

*ЛіМ, 15 сакавіка 1996 года.*

## Добрая вестка

25 сакавіка чатырнаццаць гадоў таму адзначалі мы ў лесе пад Менскам. Ігліца пад хвоямі была вільготная, паветра п’янкое, у лагчынах яшчэ шэрхнуў сьнег. Мы паставілі між хвояў на грудку самаробны бел-чырвона-белы сьцяг, выпілі пляшку гарэлкі, прасьпявалі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Адчуваньне такое, што ў нас была свая, хоць і далёкая незалежнасьць, прыемна хвалявала. У гэты дзень у 1918 годзе беларусы насуперак варожаму сьвету заявілі: «Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай».

Недалёка ад нас трашчала гольле. Няведама чаго ў гэты час бадзяўся па лесе нейкі чалавек. Бярозавік зьбіраць яшчэ рана.

Чатырнаццаць гадоў таму Беларусь была бээсэсэраўскай. Наперадзе не было ніякага прасьвету. Родныя браты-славяне з усходу і захаду зрабілі ўсё, каб нашая незалежнасьць захлынулася ў крыві і згніла ў турмах. Дзякуй ім за гэта.

Там, у лесе, Сокалаў выдурняўся, пачынаючы сьпяваць стары беларускі гімн: «Адвеку мы спалі, і нас разбудзілі», а потым дадаваў, здаецца, сваё: «Пад с... нам далі і спаць палажылі». Але ўсё роўна нашая купка моладзі палка жадала паслужыць Беларусі незалежнай. Што там мы, калі за яе ў апошняе стагодзьдзе ўжо дзясяткі тысяч беларусаў аддалі свае жыцьці.

Прайшоў час, і, дзякуй Богу, гэта ўжо не толькі нашае сьвята.

Я заўсёды з унутраным задавальненьнем і гонарам разглядаю агульнавядомы фотаздымак нашага першага ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзевяць беларускіх апосталаў. Вясёлым аптымізмам праменяць іхнія вочы, бялеюць каўнерыкі ў цывільных, паблісквяюць наваксаваныя боты ў вайскоўцаў. Я ўпэўнены, што даў бы ім Бог гэты саракатысячны беларускі корпус, які быў сфармаваны на Румынскім фронце, і яны пабудавалі б нашую мару — за-

можную незалежную Беларусь! Але корпус да Беларусі не даехаў.

Палова з апосталаў прыняла ад рук камуністаў пакутніцкую сьмерць, другая палова памерла ў выгнаньні. Улада перайшла ў рукі прайдзісьветаў. А тут, на фотаздымку, проста нейкі ідэал. Прыгожыя людзі з чыстымі і прыгожымі думкамі ды памкненьнямі.

25 сакавіка — гэта не толькі беларускае дабравесьце. У гэты дзень анёл Гаўрыіл абвясьціў Марыі пра тое, што яна абраная Богам за маці для Ісуса Хрыста. Не толькі гісторыя Беларусі, але і ўся гісторыя чалавецтва дзеліцца гэтым днём на дзьве часткі. Стары Запавет сустракаецца тут з Новым, старая эра — з новай. Зьдзейсьнілася тое, чаго так доўга чакалі і пра што казалі прарокі ў Старым Запавеце. Чалавек быў узьнесены да вялікай годнасьці, таму што Бог стаўся чалавекам. І тое, што было, здавалася б, недасягальным ідэалам, запаветнаю мараю, — адбылося!

Але доўгі час мала хто ведаў пра гэтую хвіліну і яшчэ менш верылі. 25 сакавіка — Зьвеставаньне, Дабравесьце.

Недарма на мове «обрусителей» гэта — «благая весть». Няхай жа сапраўды для іх яна будзе такой, а нам яна надасьць веры і ўпэўненасьці ў нашую сьветлую будучыню.

*ЛіМ, 22 сакавіка 1996 года.*

**Што пераможа?**

Прызнаюся, дзьве рэчы зьвязваюць мяне і паэта Генадзя Пашкова. Мы абодва любім Пціч і, спадзяюся, беларускую мову.

Пціч натхніла Генадзя Пашкова на дзіцячую кніжку, а ягоная настойлівая беларуская мова даволі дзіўнавата выглядае ў кодле «славянствующих» і рознай іншай «тожебелорусской» інтэлігенцыі.

Бачыў яго неяк па тэлевізары за круглым сталом пасьля

сумнавядомых «Дзяцей ілжы», дзе ён па-беларуску, насуплена «змагаўся» зь беларускім нацыяналізмам.

Цікава мне было паглядзець на чалавека, які гадаваўся ў беларускай вёсцы, які скончыў беларускае адзьдзяленьне філфака, самарэалізаваўся дзякуючы беларускай мове, а цяпер выступаў заадно зь людзьмі, якія надта не любілі беларушчыну. Згадваю 1990 год. Наш сьцяг яшчэ не быў дзяржаўным, але яго ўжо ўздымалі паўсюль. Ля помніка Максіму Багдановічу на дзень яго нараджэньня сабраліся аматары паэзіі вялікага Беларуса. Прыйшоў і Генадзь Пашкоў, які працаваў тады ў ЦК камуністычнай партыі. Над купкаю людзей лунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Гаварылі прамовы, чыталі вершы. Генадзь Пашкоў пад сьцяг не пайшоў. Сьціпленька прастаяў убаку на ходніку. І гэта была пазіцыя.

А вось зараз яго прызначылі рэдактарам «Беларускай энцыклапедыі» на месца заўчасна памерлага Барыса Сачанкі. Барыс Іванавіч быў на сваім месцы, але прабыў на пасадзе нядоўга. Пры ім выйшлі два тамы гістарычнай энцыклапедыі і падрыхтаваны энцыклапедычны аднатомнік «Беларусь», дзе пра сёньняшняга галоўнага рэдактара няма ані радка.

У выдавецтве поўным ходам ідзе падрыхтоўка да другога выданьня шматтомнай Беларускай энцыклапедыі. У такім выданьні звычайна зьбіраюць усё жыцьцё нацыі. Калі адзін мой знаёмы даведаўся, што галоўным рэдактарам энцыклапедыі прызначылі Генадзя Пашкова, дык ён увогуле запытаўся сам у сябе: няўжо прыйдзецца трэці раз энцыклапедыю перапісваць?

І я таксама калі падумаў, што Генадзь Пятровіч раптам захоча ўбачыць у энцыклапедыі ўсе трыццаць з гакам зьездаў сваёй любімай партыі, дык мне стала вельмі сумна.

Было ўжо такое, што іншы знакаміты беларускі панславіст, нядаўна памерлы І. Чыгрынаў таксама ўваходзіў ва ўсялякія сербскія камітэты. Тым не менш за ягонымі шырокімі плячыма спакойна жыла «Спадчына».

Што будзе цяпер выходзіць у энцыклапедыі і ці такія ж шырокія плечы ў Генадзя Пашкова — пабачым.

*P. S.* Насьцярогі аказаліся небеспадстаўнымі. Пасьля напісаньня «Варункаў» стала вядома, што «на дапрацоўку» пры новым рэдактары павернутыя трэці том Энцыклапедыі Гісторыі Беларусі ды першы том Беларускай энцыклапедыі.

*ЛіМ, 29 сакавіка 1996 года.*

**Прыйдзі, праўдзівая вясна...**

Даўно не было такой зімы, як сёлета. Адзін раз мы зь сябрам нават выбраліся на паляваньне. Сьвяціла сонца, аблокі лёталі, як птушынае пер’е, сьнег зіхацеў, як буйная чыстая соль. У лесе было поўна сьлядоў зайцоў, дзікоў, ласёў, а самі яны недзе спакойна качаліся ў сьнезе, пакуль мы, успацелыя, наўздагад тапталі сьнежны цалік — вышэй калень.

Памятаю зь дзяцінства таксама сьнежную зіму. Я, малы, на вёсцы ў бабулі пайшоў калядаваць па хатах сваякоў. У самым апошнім двары я ўшчаміўся ў браму, замеценую сьнегам, і засеў. Наплакаўся, зьмерз, але потым выкараскаўся і сядзеў на печы ў гэтай хаце, у стрыечнай прабабкі, адаграваўся, усьцешна перабіраючы назьбіраныя белыя дзясятачкі ды пятнаццаткі і грызучы салодкія сушаныя грушы.

У 50-х гадах, распавядаў мой знаёмы, калі ён, русак, браў замуж слуцкую дзяўчыну, вясельле спраўлялі ў яе ў вёсцы. Сьнегу было столькі, што да суседзяў у хату хадзілі танчыць проста па сумётах па-над плотам.

Сьнежныя зімы ў нас рэдкія ды прыгожыя. Дзеці добра адчуваюць гэта, з разьбегу, як бы так і трэба, кідаюцца ў сумёты, выкочваюцца ў сьнезе, прамакаюць наскрозь.

Але пасьля кожнай, нават самай працяглай і сьнежнай зімы надыходзіць вясна. Нашыя класікі любілі параўноўваць зь ёй адраджэньне беларускага народа:

*Дык ідзі да нас, жаданая,*
*Ідзі,*

*Раскатурхай нашу дрэму,*
*Абудзі!* —

прасіў вясну Якуб Колас у 1912 годзе.

Прайшло тры пакаленьні, і ў 1988 годзе Алег Мінкін напісаў:

*Прыйдзі, вясна!*
*Вярні нам славу*
*І цеплыню далёкіх дзён!*
*Сарві зь зямлі магільны саван!*
*Здымі са сьпячых душ заклён!*

Вось такая зацяжная ідзе ў беларусаў вясна. Ці гэта яшчэ прадвесьне? Адно, што можна пэўна сказаць, аглядаючы гэтую перманентную вясну народа з працяглымі лютымі прымаразкамі, — спыніць нацыянальнае адраджэньне немагчыма. Яго можна запаволіць, ужыўшы гвалт, яго можна абылгаць, зьняважыць, але чым вышэйшыя лёдавыя заторы, тым з гучнейшым трэскам яны развальваюцца ад веснавой паводкі.

Той-сёй з горыччу гаворыць, што сёньня для беларусаў апошні шанц. Няпраўда. Наш шанц — гэта нашая беларуская праца. Усё залежыць ад таго, наколькі руплівa і пасьлядоўна мы робім яе, ад таго, наколькі стане ў нас духу і цягавітасьці. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

Будзем назапашваць сілы, умацоўваць набытае і з аптымізмам глядзець наперад. Нашая праўдзівая вясна — яшчэ наперадзе.

*ЛіМ, 12 красавіка 1996 года.*

## Унія

«Многа тутака такіх ест, што хоць наша костка, аднак сабачым мясам абрасла і ваняет!»

*З «Прамовы Мялешкі».*

Апантанае жаданьне нашага кіраўніцтва заключыць Саюз з Расеяй і за год-два напоўніць яго зьместам выклікае сумныя развагі, навеяныя гістарычнымі паралелямі. Ужо два разы ў нашай гісторыі такое было. Першая федэрацыя была заключана ў 1385 годзе ў мястэчку Крэва, што каля Смаргоні, пад Ягайлу, нашага вялікага князя, які пасьля шлюбу з польскай каралеўнай Ядвігай станавіўся адначасова і польскім каралём.

Саюз быў як быццам бы і выгодны — разам лягчэй было ваяваць супраць крыжакоў, маскалёў і татар. Прычым, заўважым, у такога роду дакументах была, як аказалася, традыцыйная неразбярыха. Так, у Гарадзельскім прывілеі, падпісаным Ягайлам, з аднаго боку, гаварылася пра ўключэньне Вялікага Княства Літоўскага ў Польшчу, а з другога боку — захоўвалася самастойная ўлада князя і незалежнасьць нашай дзяржавы.

Доўгі час, больш за стагодзьдзе, сьледам за абраньнем нашай шляхтай вялікіх князёў палякі адразу ж абралі іх сваімі каралямі, прывучаючы і беларускую шляхту, і саміх князёў да непазьбежнасьці хай пакуль што і фармальна сумеснага існаваньня. Паралельна ішла паўзучая культурная агрэсія. І ўрэшце нашы наіўныя і даверлівыя продкі дачакаліся такога вялікага князя, як Жыгімонт Аўгуст, які пажадаў узьяднацца назаўсёды і ў 1564 годзе ў дэкларацыі саступіў свае спадчынныя велікакняскія правы Польшчы.

Лічачы гэта недастатковаю юрыдычнаю падставаю, ён праводзіць Варшаўскі сойм са сьпецыяльна падабраных прадстаўнікоў шляхты. Сойм абвяшчае зьліцьцё «двух народаў... у адзін народ, адно цела, а таму целу ўстанаўліва-

ецца адна Галава і адзін гасудар кароль і таксама адна агульная рада».

Тады ў нашай дзяржаве было трагічнае становішча — ішла вайна з шалёным расейскім царом Іванам Жахлівым. Гэта выкарысталі «арганізатары» далучэньня на чале з Жыгімонтам Вазам.

Патрыёты Бацькаўшчыны супраціўляліся, не жадаючы пацьвярджаць ініцыятыву вялікага князя. Падчас зьезда ў Любліне яны заяўлялі палякам: «Калі ж... вы, пане, не пажадаеце з намі ўвайсьці ў братэрства... так, як мы прапаноўваем... але... будзеце цягнуць нас да інкарпарацыі... дык нам не будзе патрэбы тут заставацца».

Жыгімонт супакойваў палякаў, гаворачы, што ім (нашым продкам) «не будзе прапанавана нічога іншага».

Было, як заўсёды, і сакрэтнае пагадненьне: «Каб было ў таямніцы ўсё, што адбываецца паміж імі».

Патрыятычныя сілы былі аслабленыя. Поўным ходам ішла паланізацыя шляхты, а праз гэта і зьнікненьне ўласнай нацыянальнай тоеснасьці. Шмат хто са шляхты пайшоў на згоду: «адны — баючыся што-небудзь страціць, а другія — жадаючы ўбіцца ў ласку». І ўрэшце ў 1569 годзе Люблінская унія была падпісана.

Доктар навук, гісторык права Я. Юхо ўпэўнены, што з боку Жыгімонта Аўгуста адбыўся «акт дзяржаўнай здрады, зьдзейсьненай галавой дзяржавы».

Адзінае, што хоць неяк ратавала нашую тагачасную дзяржаву, — старажытная Канстытуцыя — Статут княства ды патрыёты.

Вынікі уніі вядомыя: магутная хваля паланізацыі, якая прывяла да тэрытарыяльных (Беласточчына, Віленшчына), дзяржаўніцкіх (адсутнасьць беларускага вышэйшага стану на працягу далейшай гісторыі) ды культурных (праца ў польскай культуры шматлікіх беларусаў) стратаў.

Гэта была першая спроба ўзьяднаньня.

*ЛіМ, 3 мая 1996 года.*

## Саюз

«І што старыя нашы князі сабралі, то ўсё немцам раздалі нашы гаспадары».

*З «Прамовы Мялешкі».*

Калі б Алесь Чарвякоў у 1922 годзе ведаў, які Саюз ён замацоўвае сваім подпісам, дык ён, мабыць, застрэліўся б не ў 1937 годзе, а значна раней. Было яму тады трыццаць гадоў, а ў такім узросьце яшчэ хапае залішняй даверлівасьці ды ўпэўненасьці, што можна перавярнуць сьвет.

Алесь Чарвякоў паверыў Леніну, які адводзіў нацыянальнаму пытаньню дзясятае месца і разглядаў яго толькі як інструмент у дасягненьні асноўнае мэты — дыктатуры сваёй партыі. Ленін быццам бы спрабаваў закласьці падваліны раўнапраўнага сацыялістычнага саюза, бо верыў у хуткую сусьветную рэвалюцыю і жадаў сканструяваць штосьці такое, што б не надта палохала народы сьвету. Менавіта тады гэты мінісаюз з чатырох рэспублік мусіў быць раўнапраўным. Менавіта таму наступным артыкулам пасьля абвяшчэньня аб стварэньні Саюза быў артыкул аб вольным выхадзе зь яго.

У 1922 годзе, пры стварэньні СССР, Ленін небеспадстаўна заўважаў, што «свабода выхаду з Саюза, якой мы апраўдваем сябе, акажацца пустою паперкаю, няздольнаю абараніць расейскіх іншародцаў ад нашэсьця таго сапраўднага рускага чалавека, велікароса-шавініста, па сутнасьці падлюгу і гвалтаўніка, якім зьяўляецца тыповы рускі бюракрат».

Напачатку разьвіцьцё новага Саюза ішла неблагім для беларусаў шляхам. Асабліва, калі гэтае супольнае жыцьцё параўноўвалі з жыцьцём беларусаў у Польшчы. Тая ўзяла на сябе абавязкі перад міжнароднай супольнасьцю клапаціцца пра нацыянальныя інтарэсы беларусаў, але цынічна выкарыстоўвала наш народ для свайго ўмацаваньня як «этнаграфічны матэрыял».

Але вось у Саюзе сышоў чалавек, які яго задумваў. На месца кіраўніка прыйшоў іншы «вопытны гулец», які правёў

чыстку нацыяналаў і вылегчаў сутнасьць нацыянальных рэспублік да такой ступені, што беларуская мова, на якой прапаведавалася ўся гэтая камуністычная ідэя на Беларусі, стала сапраўды неістотнай. Мільёны людзей, якім убівалі ў галовы камуністычныя догмы на іхняй роднай мове, былі гатовыя памерці за што хочаш, толькі не за Беларусь.

Камуністычная ідэя ў беларускай упакоўцы не мела нічога агульнага зь беларускай нацыянальнай ідэяй. Яна абяззброіла Беларусь перад паўзучай культурнай агрэсіяй большага колькасна рускага народа. Высакародная ідэя раўнапраўнага Саюза пераўтварылася ў трывіяльны расейскі кацёл.

Як вызначала Канстытуцыя БССР, Беларусь увайшла ў «адзіную саюзную шматнацыянальную дзяржаву» найперш «у мэтах пасьпяховага будаўніцтва камуністычнага грамадства». Дзеля гэтага будаўніцтва мы шчыра ахвяравалі сваёй культурай, сваёй мовай, сваімі этнаграфічнымі землямі — Беласточчынай, Віленшчынай, Смаленшчынай. «Нашыя гаспадары» ахвяравалі жыцьцямі мільёнаў беларусаў. Яны пусьцілі на вецер усё, што ў нас было нашага. Нацыя надарвалася і павольна канала. І гэта быў вынік другога Саюза.

*ЛіМ, 10 мая 1996 года.*

**Супольнасьць**

Проч Жыгімонта караля!

*З «Прамовы Мялешкі»*

Развал Саюза адкрыў перад Беларусьсю бліскучыя магчымасьці. Маючы выдатнае геапалітычнае становішча і высокі эканамічны патэнцыял, мы маглі б даволі хутка справіцца зь цяжкасьцямі рэструктурызацыі нашай прамысловасьці. Ды тысячу разоў быў правы У. Караткевіч, які бедаваў, што такому народу і на такой зямлі былі дадзеныя Богам такія аніякія кіраўнікі!

Тое ж ЦК, якое кіравала пры Саюзе, не пасьпеўшы адчуць смак волі, зноў запрасілася ў агульную клетку і пачало змагацца зь незалежнасьцю. Не важна, што яны схавалі партыйныя білеты. Па сутнасьці, яны заставаліся камуністамі зь іхняй ідэалагічнай устаноўкаю —аднавіць Саюз.

Зь іхняга трэцяга эшалона выйшаў вылучэнец, які пасьля двух гадоў ці не сьвядомага разбурэньня незалежнасьці, змаганьня з моваю, культурай, нацыянальнай сьвядомасьцю беларусаў, пасьля поўнай няздольнасьці паставіць эканоміку на торны шлях урэшце далучыў Беларусь да Супольнасьці. Зьлепліваючы Супольнасьць, ён адкрыта назваў нашую незалежнасьць «гістарычнай памылкаю 1991 года», адначасова заяўляючы: «не верце тым, хто крычыць аб здачы суверэнітэту, гэтага няма і ніколі не будзе».

Ці можна тут адшукаць элементарную логіку? Бо што такое суверэнітэт, як не магчымасьць цалкам вызначаць зьнешнюю і ўнутраную палітыку дзяржавы, як не магчымасьць будаваць на дзяржаўніцкіх падвалінах грамадскую супольнасьць у краіне?

Які ў нас быў суверэнітэт перад «гістарычнай памылкаю», мы добра памятаем. Верагодна, мы па-іншаму разумеем гэтае слова? Добра вядомая псіхалогія зэка-рэцыдывіста, для якога ўвесь нармальны сьвет уяўляецца варожым, але вось турма — так званы суверэнітэт — свая камера.

Довады, якія прыводзяцца ў абарону Супольнасьці, не вартыя крытыкі. Агульная эканамічная прастора з хворай эканомікай Расеі? Гэта не выгода. Неабсяжны рынак? Пачытайце эканамістаў-аналітыкаў. Яго даўно ўжо няма. Танныя энергарэсурсы? У гэтым годзе на іх у Расеі ўводзяцца сусьветныя цэны, а ўсё, што прадавалася раней, ішло з умоваю платнага транзіту праз нашу тэрыторыю і значыць — не дарма. Больш таго, у гэтым натуральным абмене традыцыйна выйграваў мацнейшы — Расея. Сумесныя чарнобыльскія праграмы? Дык яны (гл. «Известия») у Расеі завалены на ўсе сто. Відаць па ўсім, не нам, а ад нас яшчэ пацягнуць. Вайсковае супрацоўніцтва? Пэўна што, яно выгоднае для Расеі зь

ае імперскімі амбіцыямі. А няўжо нашым беларускім коням мала вады ў Дняпры?

Дык што ж за такая маліна — гэтая Супольнасьць? Расейскія палітыкі ўсіх акрасаў непрыхавана гавораць пра стратэгічныя інтарэсы і выгоду для Расеі. А што нам з усяго гэтага?

Дарэмна шукаць чалавечую логіку там, дзе працуе логіка камуністаў — ненавісьнікаў усяго беларускага. Яны ўжо не раз гандлявалі Беларусьсю. Гандлююць і зараз. І калі мы не спынім гэты гандаль, могуць прадаць канчаткова.

Адзінае, што выклікае аптымістычную выснову зь сёньняшняй панылай рэчаіснасьці, дык гэта тое, што ўсе дэмакратычныя сілы на Беларусі сёньня стаяць на незалежніцкіх пазіцыях. Гэта значыць, што нашая незалежнасьць сёньня, як ніколі, зьвязана з дэмакратычным рухам.

*ЛіМ, 17 мая 1996 года.*

**Дзеці нашага часу**

Зь цікавасьцю назіраю я за нашым палітычным бамондам, знаходзячы там шмат чаго павучальнага і праблематычнага. Пагаворым пра другіх асоб. Можа быць, тады стануць больш зразумелымі дзеяньні першых.

З красавіцкага чарнобыльскага камітэта двое прадстаўнікоў Народнага фронту патрапілі ў турму. Гэта — Юры Хадыка, унікальны чалавек, доктар фізіка-матэматычных навук і мастацтвазнаўца — адзін зь нямногіх сьпецыялістаў па беларускім старажытным мастацтве, і Вячаслаў Сіўчык — персьпектыўны біяхімік, эколаг, сьпецыяліст па чарнобыльскай катастрофе. У знак пратэсту супраць непраўамерных дзеяньняў уладаў яны абвясьцілі галадоўку.

Без перабольшваньня, увесь дэмакратычны сьвет з хваляваньнем назіраў за гэтым двубоем — бяздушнай дзяржаўнай машыне супрацьстаяла рашучасьць двух палітзьняволе-

ных. Апошнія перамаглі. Мы ўбачылі, што Народны фронт — гэта не толькі нязломны Пазьняк.

Можна пагаджацца ці не зь дзеяньнямі Народнага фронту, але ступень даверу да слоў актыву гэтай арганізацыі, безумоўна, павялічылася. Мы пераканаліся ў тым, што, прынамсі, гэтыя глыбока інтэлігентныя і культурныя людзі сур'ёзна ставяцца да палітыкі. І гэта павучальна.

А зараз праглядаю я справаздачную публікацыю па сустрэчы з выбаршчыкамі аднаго дэпутата Вярхоўнага Савета. Памятаю, перад выбарамі ён быў шчырым незалежнікам і дэмакратам. І вось памянялася палітычная сітуацыя, а разам зь ёй і наш дэпутат. Ён, дайце веры, галасуе за Супольнасьць і едзе ў Маскву на подпіс гэтага дакумента. Ён апраўдвае дэпартацыю лідараў польскай «Салідарнасьці», чым абурыліся нават нашыя афіцыйныя кішэнныя прафсаюзы.

Ці ёсьць у такога чалавека перакананьні? — думаю я. Ці можа ён хоць дзень прагаладаць за іх ці што там яшчэ зрабіць? — задаю я сабе пытаньне. Можа, ён адносіцца да тых беларусаў, якія любяць паказваць дулю, але толькі ноччу і пад падушкаю? А можа, віною тут — ягонае былое высокае партыйнае мінулае?

У рахунку сумленьня, падрыхтоўцы да споведзі, чорным па белым напісана: «Ці гаварыў праўду? Ці помніў, што Госпад Бог чуе мае словы?» І гэта праблема чалавечай маральнасьці і ступені адказнасьці за свае словы.

Пад канец застаецца прыгадаць мне яшчэ аднаго дэпутата, які, па ягоных словах, не злазіў з джыпа падчас выбарчай кампаніі і ўгаварыў-такі даверлівых вяскоўцаў-беларусаў прагаласаваць за яго, рускага, адстаўнога афіцэра. Не ведаю, што ён ім там абяцаў, не злазячы з джыпа, але ў інтэрв'ю былы палітрук і камсамолец шчыра і нават з гонарам распавядае пра тое, чым ён займаўся ў войску: «Брал, к примеру, 15 летчиков-холостяков и 15 девчонок из одного из минских институтов и вез их в турпоход в Карпаты»...

Сістэма сканала. Але шрубкі гэтай сістэмы яшчэ круцяцца па яе законах. Яны спрабуюць самаарганізоўвацца, яны

шчыра не разумеюць амаральнасьці сваіх дзеяў. Але, я ўпэўнены, час усё расставіць на свае месцы і гнаныя, так, як хрысьціяне ў Старажытным Рыме, стануць сьвятымі.

*ЛіМ, 7 чэрвеня 1996 года.*

**Споведзь**

Я пазнаёміўся з гэтым хлопцам на пачатку чэрвеня. Некалькі дзён пасьля пікета 30 мая ён адлежваўся, ачуньваў. Напішы, папрасіў я яго, што адбылося. І ён напісаў.

«30 мая каля 21 гадзіны (пікет скончыўся прыкладна ў 19 гадзін. — ***А. Б.***) я са сваім знаёмым праходзіў каля ГУМа. У гэты час з-за рога магазіна выскачыла група «людзей» у цывільным. Без прад'яўленьня якіх-небудзь дакументаў і без папярэджаньня яны пачалі нас зьбіваць. Адзін зь іх ударыў мяне нейкім прадметам, мяркую ключом, заціснутым у кулаку, у галаву, у левую скронь і разьбіў мне галаву да крыві. Затым нас запіхнулі ў "Жыгулі" і адвезьлі ў апорны пункт міліцыі, які знаходзіцца на перакрыжаваньні вуліц Маркса і Леніна.

Там ужо нас чакалі такія самыя асобы ў цывільным. Калі нас вывелі з машыны, яны пачалі біць нас па галаве, у жывот і па нырках. Затым мяне завялі ў апорны пункт і нацягнулі на галаву цэлафанавы пакунак, які быў у мяне з сабой. Заціснуўшы такім чынам рот, яны білі мяне пад дых, па пячонцы і нырках. Я на нейкі час страціў прытомнасьць.

Затым мяне апрытомнілі і паведамілі, што на мяне завялі крымінальную справу за тое, што я быццам бы цяжкім прадметам разьбіў галаву міліцыянеру падчас пікета (хаця ў руках у мяне на момант затрыманьня быў цэлафанавы пакунак з джынсавай кашуляю). Адзін з тых, хто мяне затрымліваў у гэты час, дыктаваў супрацоўніку міліцыі, апранутаму па форме, пратакол майго затрыманьня.

Міліцыянер пісаў пад дыктоўку тое, што мяне ўзялі на

мітынгу ў той момант, калі я разьбіў галаву нейкаму міліцыянеру. У гэты ж момант трое другіх, апранутых у цывільнае, прымусілі мяне ўстаць, абаперціся рукамі аб сьцяну і, прыгаворваючы: “дык чым ты ўдарыў міліцыянера”, білі мяне рукамі і нагамі па сьпіне.

Ад маіх апраўданьняў яны яшчэ болей зьвярэлі, зьбівалі больш ярасна, казалі мне, што я баявік УНА-УНСО, і што на мяне даўно палявалі, і што нас “узялі ўжо ўсіх траіх”. Затым прывялі яшчэ аднаго хлопца, які таксама быў моцна зьбіты, і спыталі мяне, ці ведаю я яго. Калі я адказаў адмоўна, мяне паваліліі на падлогу і білі нагамі. Адзін са зьбіваўшых сказаў мне, што я “сур’ёзна ўліп” і што ён асабіста паклапоціцца, каб я “здох у турме”. Калі я губляў прытомнасьць, а затым прыходзіў да памяці, яны казалі, што, калі я буду сімуляваць боль, яны мяне зусім заб’юць. Затым яны прымусілі мяне стаць каля сьцяны. Я папрасіў, каб дазволілі мне сесьці, бо балела галава і займала дыханьне. Мне адмовілі. Толькі пасьля таго, як разышліся ўсе асобы ў цывільным, міліцыянер заўважыў, што я запэцкаў крывёю сьцяну, і дазволіў мне сесьці на лаўку. Я сеў і на нейкі час страціў прытомнасьць.

Супрацоўнік міліцыі апрытомніў мяне і сказаў, каб я зьбіраўся. Мяне завезьлі ў Ленінскае РАУС. Міліцыянеры дазволілі мне легчы на лаўку. Затым яны выклікалі “хуткую дапамогу”. Яшчэ я заўважыў, што міліцыянеры сьмяяліся зь некаторых пратаколаў затрыманьня. Напрыклад, на аднаго глуханямога хлопца быў складзены пратакол, што ён быццам бы “размахваў рукамі і выкрыкваў антыўрадавыя лозунгі”.

Прыехаўшыя лекары ўгаварылі супрацоўнікаў міліцыі адпусьціць мяне ў бальніцу і зафіксавалі пры аглядзе ў РАУСе “чэрапна-мазгавую траўму і расьсячэньне галавы ў раёне скроні”. Міліцыянеры пагадзіліся адпусьціць мяне ў бальніцу, але зьнялі мяне на відэакамеру. У машыне “хуткай” мне ўкалолі абязбольваючае. Дактары спрабавалі дапамагчы мне не толькі фізічна, але і маральна. Ноччу я ўсё ж

такі пайшоў з бальніцы, бо баяўся, што супрацоўнікі міліцыі вернуцца па мяне і даб’юць».

*ЛіМ, 14 чэрвеня 1996 года.*

**Азьвярэньне**

Штосьці няладнае робіцца ў нашай дзяржаве. З 1988 года, з часу разгону «Дзядоў» на Маскоўскіх могілках, Менск яшчэ не бачыў такога. Я бываў не на адной дэманстрацыі і ведаю, наколькі паводзіны міліцыянтаў залежаць ад загадаў іхняга начальства. А тут як быццам бы нехта адпусьціў лейцы і загадаў быць надзвычай жорсткімі.

Лепей за мяне скажуць вытрымкі з заяў ахвяр веснавых падзей, тут мы бачым надзвычайную непавагу да пачуцьцяў людзей, своеасаблівы маральны садызм: «Амонавец выхапіў з рук хлопца наш сьцяг, зламаў дзяржак, спрабаваў разарваць палотнішча, але рукамі гэта зрабіць не ўдалося. Тады ён зубамі надарваў яго і потым ужо парваў на кавалкі», — запісала Н. Балік.

Дзясяткі сьведчаньняў гавораць таксама і пра фізічны садызм. В. Церлюкевіч, пеньсіянерка, 54 гады, піша: «Я ўбачыла, як па-зьверску б’юць маладога мужчыну і жанчыну. Я пачала крычаць: “Што вы робіце? У якой дзяржаве мы жывём?” У гэты момант да мяне падскочыў рыжы, канапаты міліцыянт, крыкнуў: “Заткнись, сука!” і з усяго маху ўдарыў мяне гумовай палкай, ад чаго я паваліласся. Са зьвярыным аскалам на твары ён біў мяне далей. Мусіць, ён там дабіў бы мяне, калі б да яго не падскочыў мужчына і не абараніў мяне».

Нармальная рэакцыя людзей, калі *так* зьбіваюць, — заступіцца. На гэтым «пагарэў» і В. Дзербан: «Каля мяне ўдарамі дубінак звалілі на асфальт школьніка ці студэнта і працягвалі яго зьбіваць. На мой крык: “Што вы робіце! Гэта ж нашы дзеці!” трое амонаўцаў ударамі па сьпіне, шыі, нагах

павалілі мяне на асфальт, затым пацягнулі ў закратаваны грузавік».

Што ж адбывалася пасьля затрыманьня? «Пакольկі ў аўтамабілі сядзела ўжо пяць чалавек і я не памяшчаўся, мяне запіхвалі туды, б'ючы з разгону нагой мне ў бок, хаця ніякага супрацьдзеяньня я не аказваў», — піша В. Каролік. А. Шастакоў працягвае: «Маладыя хлопцы ў цывільным завалаклі мяне ў пад'езд, зьвязалі рукі і павялі ў нейкі падсобны пакой. Там мяне і яшчэ двух незнаёмых хлопцаў зьбівалі кулакамі, галавой аб сьцяну і ўсяляк абражалі».

У заяве П. Карназыцкі піша, што зьдзекі міліцыі працягваліся і ў міліцэйскім участку: «Мяне зацягнулі ў машыну, дзе білі ўсю дарогу да апорнага пункта міліцыі па адрасе: К. Маркса, 30. Там я быў кінуты на падлогу. З дапамогаю кайданкоў мне скруцілі рукі і ногі ў адно месца "ластаўкай". Да пабояў далучыліся людзі ў міліцэйскай форме. Білі і нагамі і галавой аб падлогу».

У міліцыі білі не толькі яго. У. Кобец сьведчыць: «У пастарунку на лесьвіцы я атрымаў удары па нырках і ў патыліцу». Ён таксама бачыў, як «аднаго непаўналетняга хлопца на нашых вачах міліцыянт паставіў на калені пасярод пакоя ў РАУСе і загадаў стаяць, пакуль ён не скажа». В. Дзербан бачыў, як «у двары Цэнтральнага РАУСа затрыманых жорстка зьбівалі людзі ў цывільным». Пенсіянер Г. Пашко быў «жорстка зьбіты і кінуты ў камеру прыёмніка-разьмеркавальніка, дзе суткі знаходзіўся без аказаньня медыцынскай дапамогі, безь ежы і нават безь пітной вады. Ваду прыходзілася піць з трубы для змыву ўнітаза».

Падазраю, што хваля мутнае злобы да інтэлігенцыі, да моладзі ідзе ці не з самага верху.

*ЛіМ, 21 чэрвеня 1996 года.*

## Наша міліцыя

— Запомніце твар гэтага чалавека, — сказаў Кловіс.
— Бандыт? — спытаў я.
— Не, паліцыянт.

*Арманда Сантас*
*«Эскадрон сьмерці».*

Падчас апошняга мітынгу апазіцыі падышоў я да маёра, які адказвае за ахову грамадскага парадку ў Цэнтральным раёне Менска, і запытаў: «Ну дык як жа вы, Яўген Яўгенавіч, дапусьцілі, што 30 мая ў вашым РАУСе зьбівалі людзей?» — «У нас не білі», — адказаў ён. «Што, і ў дворыку вашым не білі?» — перапытаў я. «У нашым адзьдзяленьні не білі», — яшчэ раз сказаў ён і адышоўся, не разьвітаўшыся.

Як гавораць сьведчаньні людзей — білі. У асноўным у пастарунках — людзі ў цывільным. Зараз ужо вядома, хто гэта быў, — звычайныя оперупаўнаважаныя, ці, як іх яшчэ называюць, «оперы» з райадзьдзелаў міліцыі.

Некалі пазьней дасьледчыкам цікава будзе перабіраць пратаколы затрыманьняў пасьля веснавых падзей у Менску, складзеныя як бы над капірку. Бо хлусіць не толькі міліцэйскае начальства. Яно прымушае хлусіць і сваіх падначаленых — Пецяў і Ваняў, сяржантаў і радавых.

Сьведчаньняў гэтаму — дзясяткі. Але паказальны тут выпадак з былым дэпутатам Вярхоўнага Савета, перакладчыкам Л. Баршчэўскім, які на судзе за падзеі 26 красавіка, пры дапамозе адваката, здолеў-такі прымусіць сваіх «сьведкаў» прызнацца, што яны яго там у вочы не бачылі. Праўда, судзьдзя ўсё роўна вырашыў «паверыць» таму, чаго «сьведкі» не пацьвердзілі, і даў, на ўсялякі выпадак, Л. Баршчэўскаму штраф у мільён рублёў. Але гэта ўжо асобная гісторыя. Вернемся да нашых бараноў.

Не менш паказальная нашумелая гісторыя пра хлопцанямка, які, паводле пратакола затрыманьня, крычаў і нецэнзурна выражаўся.

Хто мне растлумачыць, чаго варты міліцыянер, які дае заведама хлусьлівыя сьведчаньні? Хто можа даць гарантыю, што пасьля таго, як гэты сяржант Пеця, які зманіў па ўказцы свайго начальства, заўтра не праявіць ініцыятыву і не зманіць на судзе ў любой іншай сітуацыі, дзе зьняволеньне чалавека будзе вымярацца ўжо не суткамі, а гадамі? А цяпер растлумачце мне, чаго ўвогуле вартая такая праваахоўная сістэма?

Любога з нас могуць прыхапіць «людзі ў цывільным», а то і ў форме, і даць сьведчаньні, што ты, напрыклад, забіў чалавека. Падказаць, які будзе вынік змаганьня простага сьмяротнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь з нашай сістэмай правасудзьдзя? Ці вы сумняваецеся ў здольнасьцях сяржанта Пеці засьведчыць так, як трэба?

І гэта самае брыдкае адкрыцьцё.

Я разумею гэтых «хлопцаў у цывільным». Слабая чалавечая натура. Ім плацяць — і яны адпрацоўваюць. Як тыя лялькі ў батлейцы, якіх тузаюць туды-сюды.

Праўда, для аб’ектыўнага суда такая паслухмянасьць ніколі не была дастатковым апраўданьнем.

Згадаем яшчэ, напрыклад, Польшчу, дзе, як казаў мне адзін знаёмы паляк, таксама напачатку разганялі дэманстрацыі «Салідарнасьці». Дайшло да таго, што ў бок кожнага міліцыянера народ пляваўся. А затым наступіў такі час, што сьледам за галавой калоны з жанчынамі і дзецьмі з кветкамі ішлі рабацягі з манціроўкамі і арматурай. І калі перад імі ўзьнікаў паліцэйскі заслон — жанчыны зь дзецьмі расступаліся, а наперад выходзіў працоўны клас. Пасьля некалькіх такіх дэманстрацый паліцыя стала шоўкавай і кінула біцца.

Ці ведае гэта батлейшчык, які сёньня водзіць Жаўнера і Казу?

*ЛіМ, 28 чэрвеня 1996 года.*

**«Э. М.»**

Калі думаеш пра сёлетнія веснавыя падзеі ў Менску, дык паралелі самі прыходзяць у галаву. Не адзін жа Гаўрыла ў Полацку... Скажам, Бразілія ўвосень 1968 года так нагадвала сёньняшнюю Беларусь.

Ля ўлады стаялі вайскоўцы. З патрабаваньнем аб аднаўленьні дэмакратычных свабод прайшла хваля дэманстрацый у Рыа-дэ-Жанэйра. Пачалі баставаць студэнты. Актыўна запрацавала парламенцкая апазіцыя. Узьнялі галаву здушаныя ўладамі прафсаюзы. Супраць апазіцыі было выкарыстана сьпецпадразьдзяленьне бразільскай авіяцыі ПАРАСАР.

Яго асноўная задача заключалася ў падаўленьні дэманстрацый. Жаўнеры ПАРАСАР, пераапранутыя ў цывільнае, зьмешваліся з дэманстрантамі, выяўлялі і запаміналі актывістаў, каб потым нейтралізаваць іх. Калі ж дэманстрацыі праходзілі спакойна, яны павінны былі ствараць беспарадкі, біць вітрыны, кідаць камяні ў паліцыю, каб даць нагоду для разгону дэманстрацый.

Апошнія бяскрыўдныя, на першы погляд, заявы ўладаў пра недахоп уласнай каталажкі, дзе яны без суду маглі б трымаць крымінальных злачынцаў (ну чаму толькі крымінальных?), таксама мае бразільскую паралель. У 1960 годзе губернатарам Рыа стаў Карлас Ласерада, які цэліў у прэзідэнты і першачарговай задачай для сябе вызначыў навядзеньне парадку на вуліцах сталіцы. Па ягоным загадзе «варанкі» зьбіралі жабракоў, вывозілі іх за горад і там зьнішчалі.

У 1958 годзе ў Бразіліі была створана «Сьпецыяльная паліцыя», якую выкарыстоўвалі для разгону дэманстрацый, арышту палітычнай апазіцыі. У яе адбіраліся лепшыя паліцыянты, падрыхтаваныя для выкананьня любых загадаў. Менавіта зь яе вырасла найбольш злавесная арганізацыя — «Эскадрон сьмерці», які не толькі затрымліваў «дзяржаўных злачынцаў», але й без суда выконваў свае вырокі, пакідаючы на трупах метку зь літарамі «Э. М.» (эскадрон механізаваны, альбо muerte — сьмерці).

Пачаўшы з крымінальных злачынцаў, яны перайшлі на палітычных апанентаў. Гінулі прафсаюзныя дзеячы, апазіцыянеры. Былы дэпутат бразільскага парламента Рубенс Пайене быў арыштаваны ва ўласным доме і зьнік безь сьледу (не толькі на Беларусі не любяць былых дэпутатаў).

Скандал з «Э. М.» разгарэўся толькі тады, калі за адну ноч было забіта 12 чалавек.

Паліцыю «адмазваў» сакратар па бясьпецы. Губернатар Сан-Паўлу заявіў, што «чуткі аб “Эскадроне” зьяўляюцца пустой выдумкай газетчыкаў, якія імкнуцца зьняважыць добрае імя паліцыі, якая ўвесь час клапоціцца аб спакоі бразільскай нацыі».

А што ж грамадства? Восем зь дзесяці паліцыянтаў, як сьведчыць апытаньне, лічылі дзейнасьць «Э. М.» карыснай. Той самай думкі прытрымліваліся 46 працэнтаў грамадзян. Адбылося прывучэньне грамадства да беззаконнасьці, да ігнараваньня суда, да права сілы на хуткую расправу. І гэта самыя прыкрыя вынікі дзейнасьці «Э. М.».

За апошнія некалькі гадоў на Беларусі ўзьнікла дастаткова шмат сакрэтных і напаўсакрэтных груп сьпецпрызначэньня тыпу «Алмаз», «Альфа», не кажучы ўжо пра АМАП, якіх выкарыстоўваюць для разгону дэманстрацый... І вось ужо зьяўляюцца «невядомыя», якія зьбіваюць дэпутатаў, нападаюць на жонку журналіста, а міліцыя страляе па дэпутацкай машыне...

Вельмі ж не хацелася б, каб і ў нас падзеі разьвіваліся па бразільскім варыянце.

*ЛіМ, 5 ліпеня 1996 года.*

## Першы стрэл

На цябе, наша моладзь, надзея
Гэтай сумнай, забранай зямлі.

*Янка Купала*

Выбары прэзідэнта Расеі скончыліся пройгрышам камуністаў. Здаецца, на гэты раз пранесла. Уяўляю, як у адваротным выпадку пачаліся б закручвацца гайкі тут, на Беларусі.

І згадаўся мне чамусьці аповед гісторыка Алега Латышонка пра першы стрэл беларуса супраць гвалту бальшавікоў. Апісаў яго Кастусь Езавітаў у ковенскім «Крывічы». Каб не сапсаваць каларыт гэтага аповеду, я працытую яго:

«З 31 студзеня на 1 лютага (1918 года) на будынак Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады адбыўся новы напад бальшавікоў... Зьявіліся яны, як звычайна, пасьля апоўначы, але на гэты раз не было сярод іх п'яных, ды і самы склад нападаўшых быў іншы, чым заўсёды: на чале з атрада з толькі што сфармаванай чырвонай гвардыі, якая абслугоўвала мясцовую ЧэКа, стаў нарад матросаў, прыбыўшых у Менск з Магілёва.

Загасіўшы пражэктары і схаваўшы за рогам Падгорнай і Паліцэйскай вуліц свае аўтамабілі, нападаўшыя ачапілі будынак Белвайскрады і занялі ўсе хады і выхады...

Варваўшыхся матросаў і членаў менскае ЧэКа спаткаў намесьнік старшыні Белвайскрады гр. К. Езавітаў.

На пытаньне аб мэтах іх паяўленьня кіраўнік атрада, нехта таварыш Ярашэвіч, махаючы перад намесьнікам старшыні Белвайскрады рэвальверам, пачаў крычаць, што яму даручана арыштаваць усіх членаў Рады і што ён вымагае, каб яны ўсе зараз жа апраналіся і "безь лішніх разгавораў" выходзілі на вуліцу да канвою. Апрача ўсіх членаў Белвайскцэнтррады, ён павінен арыштаваць яшчэ і аднаго з пасыльных хлопчыкаў, 14-гадовага Апанаса...

Прачытаўшы ордар і запісаўшы ў сваю памятную кніжку

дату і нумар яго, гр. К. Езавітаў адзначыў, што жаданьне т. Ярашэвіча арыштаваць «усіх членаў» Белвайскрады ніякім чынам споўнена быць не можа, бо, па-першае, іх больш ста чалавек (пры гэтых словах т. Ярашэвіч і матросы палахліва паўзводзілі куркі сваіх рэвальвераў і пачалі азірацца на ўсе дзьверы), а па-другое, тутака начуе 10% зь іх, а рэшта працуе ў Менску, яго ваколіцах і на фронце. Калі ж, для выкананьня ордара, яму ўсё ж такі трэба каго-колечы арыштаваць, дык ён можа гэта зрабіць з намесьнікам старшыні і сакратаром, якія адказваюць за ўсю працу Белвайскцэнтррады.

Ярашэвіч пачаў спрачацца, але гучны стрэл са стрэльбы ў сумежным пакоі страшэнна перапалохаў яго і матросаў, і яны зараз жа згадзіліся з прапазіцыяй намесьніка і толькі пачалі чым хутчэй апранацца. Празь некалькі хвілін высьнілася, што гэта страляў 12-гадовы хлопчык-пасыльны Кастусь, які спаў з братам Апанасам і, калі таго пачалі будзіць матросы, прачнуўся, схапіў са сьцяны набітую жаўнерскую стрэльбу, даручаную яму ўвечары адным з дэлегатаў на сходы, і ўзяўся бараніць брата. Куля нікога не зачапіла...

З па-за вугла адзін за другім выпаўзьлі цёмныя фігуры аўтамабіляў.

Успыхнулі агні пражэктараў, і аўтамабілі шалёна панесьліся па вуліцах Менска да штаба ЧэКа, у гатэль “Еўропа”»...

Такім чынам, першым, хто аказаў узброенае супраціўленьне бальшавікам, быў 12-гадовы хлопчык Кастусь.

*ЛіМ, 12 ліпеня 1996 года.*

**Нашая песьня**

Добра памятаю зь дзяцінства, гадоў дваццаць пяць таму, у вёсцы ў бабулі, летам да суседскай маладой дзяўчыны прыходзіў хлопец зь вёскі за пяць кіламетраў і сьпяваў на ўвесь голас, чакаючы яе на вуліцы: «Ой там у полі, у полі, / Сьцелецца ў полі туман...» Голас у хлопца быў гучны і прыгожы,

маладая суседка не сьпяшалася выскокваць з хаты, трымала характар, і ён цярпліва чакаў яе, праходжваўся, сьпяваючы адную і тую ж, мабыць ягоную любімую, песьню. Неяк жа зьвязвалася яна ў яго з гэтымі спатканьнямі.

Трывожыла яна і маю дзіцячую душу, выклікаючы штосьці нязвыкла хвалюючае. І мне ўяўлялася, што, калі я выраcту, у мяне гэтаксама будзе дзяўчына, да якой я буду вось так хадзіць і сьпяваць пад вокнамі.

Але пакуль я стаў дарослым — так ужо не сьпявалі. Мне ўдалося засьпець, мабыць, апошняе пакаленьне, якое сьпявала яшчэ на вуліцах свае, беларускія песьні. Дзяўчаты — пабраўшыся за рукі й ідучы па вуліцы, хлопцы — пры вогнішчы.

Была ўжо і тады расейская папса, накшталт «Песьні пра Колю-трактарыста»: «Каласілась поле разгустое, / Налівалісь усікі аўса. / Гдзе-та за дзярэўняю далёка / Дзевушак зьвінелі галаса».

Мая бабуля ніколі пры мне не сьпявала. Але калі я папрасіў яе, ужо студэнтам, насьпявала мне на касеты больш за сто песень! І ў яе была адна такая, ейная песьня, пра ўдаву, у якой сьнег ляжыць на пашы, калі ў іншых ён ужо растаў... Яна сьпявала яе і плакала.

А што зараз? Нашае гарадское пакаленьне ўжо амаль не ведае песень сваіх бацькоў і бабуль. Зразумела — калі гэта жніўныя ці вясельныя, бо ўжо не так бяруць шлюб і жыта сярпамі амаль не жнуць. Але вось жа за сталом... Якая ж безьліч гэтых застольных, бяседных, жартаўлівых беларускіх песень! Ведаю, мы іх добра насьпяваліся ў групе, калі былі студэнтамі.

За апошні год разы тры даводзілася мне быць на розных вялікіх застольных бяседах, дзе сядзела ў асноўным моладзь. І калі справа даходзіла да песьні, як на грэх, усюды адзінае, што сьпявалі больш-менш зладжана, была: «Вот кто-то с горочки спустился». Расейская маскультура пышна квітнее на нашых беларускіх палетках.

Хаця зь дзецьмі ўжо ёсьць і па-іншаму. З прыемнасьцю я

сядзеў на калядным канцэрце ў класе свайго сына-першакласьніка. Клас беларускі, і выхавацелька-энтузіястка развучыла на Каляды зь дзясятак разнастайных беларускіх песень. Трэба было бачыць, зь якой цікавасьцю і як нязмушана сьпявалі іх дзеці. Упэўнены, гэтыя песьні яны ўжо не забудуць. Можа, мы і ўбачым калі-небудзь вялікую грамаду беларусаў, якая не будзе стаяць моўчкі, а здолее зладжана прасьпяваць «Магутны Божа» ці «Пагоню». Варта было б, як гэта і робіцца ў нармальных краінах, усё музычнае выхаваньне пабудаваць найперш на сваёй нацыянальнай музыцы, сьпевах. І тады гэта дало б плён, наша песьня не памерла б.

І самае істотнае — лепшую беларускую народную песьню мусіць прапагандаваць радыё і тэлебачаньне, каб яна там заўсёдна гучала і западала ў душу. Ды зараз у пашане ў нас базары, на якіх, мабыць, беларусам, на чале з «усенародна абраным», варта было б зацягнуць:

Ой вы, дзевачкі беларускія,
Не ўлюбляйцесь ў расейскіх рабят,
Бо расейскія ўсе й жанатыя,
У заблужджэньне прыводзят дзяўчат.

*ЛіМ, 26 ліпеня 1996 года.*

### Алкаголь

На мінулым тыдні, ідучы з грыбоў, натрапіў я на ўзьлеску каля вёскі на п’янага Міхайлавіча. Сядзіць ён у цянёчку, лыка не вяжа, а побач — амаль пусты фугас з-пад віна. П’е самотна і не закусваючы, любуецца на прыроду, як ён гаворыць — адпачывае.

Міхайлавіч — былы штурман далёкага плаваньня, з інтэлігентнымі паводзінамі, разьвёўся з жонкаю, пасядзеў у турме. А зараз вярнуўся ў вёску і жыве з маці. Атрымлівае пенсію, пасьвіць зранку карову, прырабляе на будоўлях і — бязбожна п’е.

Калі прыглядзецца да вясковых мужыкоў, дык складаецца такое ўражаньне, што вёска сьпілася ўшчэнт.

Мае дзядзькі, памятаю, таксама выпівалі. Зь іхніх хатаў ніколі не выводзіўся моцны жытнёвы самагон, які выганялі і закопвалі ў малочных бітонах на агародзе — на сьвяты. Але ж гэта была сотка ўвечары, пасьля цяжкай працы ды на сто кіло вагі.

А як зараз п'е вёска? Яна, зьнішчаная дарэшты, сьпілася. Калі і трапляе хто цьвярозы — дык ці з зашытаю ампулай, ці закадзіраваны, ці настаўнік.

У кожнага зь іх — свая матывацыя. Я згадваю, як і мы ў маладосьці, а гадаваўся я ў вельмі дэмакратычным асяродзьдзі, перад тым як ісьці на дыскатэку, выпівалі па пляшцы чарнільца на дваіх, дзеля сьмеласьці. І дзяўчаты тады здаваліся такімі прыгожымі-прыгожымі, хаця яны і так былі не благімі. Але мінуў час, і для таго каб набрацца сьмеласьці і сустрэцца зь дзяўчынаю — не трэба было ўжо піць. Зьнікла матывацыя.

Горад — больш дынамічны. Тут ёсьць чым заняцца і акрамя п'янкі. Таму людзі круцяцца як могуць — зарабляюць грошы. Апошнім часам, бачу, як ні цяжка жыць, але калі зьявілася магчымасьць зарабіць — мае знаёмыя меней гуляюць, а працуюць, працуюць. Праўда, гэта тыя, хто мае магчымасьць. Беспрацоўныя ж мужыкі гуртуюцца каля крамаў, скідаюцца па пяцёрачцы і гасяць, не раўнуючы як у вёсцы.

І вяскоўцаў, і гарадскіх беспрацоўных аб'ядноўвае, мне падаецца, адно: няма мэты, дзеля якой варта жыць і варушыцца. І тут вінаватая — дзяржава. Яна разбэсьціла вёску, адабраўшы ў яе самую галоўную матывацыю для стваральнага чалавечага жыцьця — зямлю. Яна зьнішчыла ў селяніне гаспадара, а выхавала найміта-алкаголіка. І сёньня там існуе ўплывовая праслойка, зацікаўленая ў гэтай сістэме. Бо нават самы лядашчы калгас здольны няблага карміць вярхушку — старшыню, намесьнікаў ды галоўбуха.

Калі б шчырыя нарадавольцы ды сацыялісты мінулага стагодзьдзя паглядзелі, у якую пачварную рэальнасьць пе-

раўтварыліся іхнія сьветлыя мары пра калектыўнае гаспадараньне на зямлі, што сталася ў выніку гэтага зь селянінам, дзеля дабра якога яны ішлі ў турмы і на сьмерць, і хто карыстае зараз з гэтага сацыяльнага эксьпэрыменту, яны б, мне здаецца, заракліся і згадваць пра калектыўную ўласнасьць на зямлю. У іх бы таксама зьнікла матывацыя.

Але пакуль што лад нашага гаспадараньня, становішча ў эканоміцы краіны, духоўная атмасфера ў дзяржаве, якую сьмела можна назваць амаральнай, шалёна спрыяюць алкагалізму, зь якім яшчэ па традыцыі спрабуюць змагацца хіба што толькі адны ксяндзы.

*ЛіМ, 2 жніўня 1996 года.*

**Мова і прэзідэнт**

У нядзелю, вячэраючы на кухні, уключыў я беларускую праграму тэлевізіі і ўбачыў там прэзідэнта. Расказваў ён пра чарговы рэферэндум работнікам солекамбіната ў Мазыры, у нейкім Доме культуры пад чырвона-сінім сьцягам (мой SAMSUNG, мабыць прошукі імперыялістаў, чамусьці адмаўляўся выдаць на сьцягу зялёную паласу), пра 2 мільёны даляраў, якія ён знайшоў на гэта (цікава, дзе гэта «знаходзяць» мільёны даляраў?), і ўсіх — ад камуністаў да нацыяналістаў — запісваў у «ворагі народа».

Зноў А. Лукашэнка, згадваючы мінулы «ганебны» рэферэндум — мабыць, такім ён увойдзе ў гісторыю Беларусі, «прайшоўся» па беларускай мове. Ізноў прагучаў пасаж пра тое, што яна насаджалася. І ў зале, мабыць, камбінацкае начальства ўгодліва адгукнулася: га-га-га!

«Вось вам і га-га-га, — падыграў ім Аляксандр Рыгоравіч, — калі б не ведалі зараз мову — ужо б тут не працавалі».

Вось тут Аляксандр Рыгоравіч, мякка кажучы, перабольшыў. Пэўна, што працаваў бы гэты дырэктар са сваімі на-

месьнікамі і пры беларусізацыі. Іншая справа, што прэзідэнту давялося б частку свайго шалёна каштоўнага часу страціць на авалодваньне беларускай мовай, каб не запінацца на беларускай ламаніне, якую ён часам дэманструе, калі толькі не чытае па паперцы. Заадно давялося б азнаёміцца зь ёй і вернай камандзе — Замяталіну, Посахаву, Ярмошыну і Латыпаву...

Гаворачы пра беларускую мову, Аляксандр Рыгоравіч у чарговы раз не мог утрымацца, каб не перабольшыць. Хоць па дробязі, але ў сваю карысьць, з абурэньнем гаворачы пра дваццаць працэнтаў надбаўкі настаўнікам, якія выкладалі па-беларуску. Хоць тут ужо ён «навёў парадак».

Па-першае, працэнтаў тых было пятнаццаць. А па-другое, мяне асабіста абурае маральны бок стаўленьня да гэтай праблемы. І школьніку зразумела, што закон аб беларускай мове, яе афіцыйны статус, іншыя меры, у тым ліку і гэтая няшчасная настаўніцкая надбаўка, былі ўведзеныя для літаральнага ратаваньня беларускай мовы.

У кожным маральна здаровым грамадстве прынятая і законам замацаваная сацыяльная дапамога хворым і нямоглым. Гэтым і адрозьніваецца маральнае грамадства ад дзікунскага. Тое ж і зь беларускай мовай. Ёй аказвалася неабходная грамадская тэрапія. І гэта было па-людску, па-еўрапейску.

А тут зьяўляецца «гаспадар», які ставіць яе ў «роўныя ўмовы» са здаровай, агрэсіўнай, мускулістай расейскай мовай, якая пасьпела займець на Беларусі значна больш трывалыя пазіцыі. Але ж беларуская яшчэ не ўзьнялася з каленяў!

Ва ўзаемадачыненьнях паміж мовамі не бывае кампрамісаў. Калі паддаецца адна — яе пачынае цясьніць іншая. Тэзіс камуністаў аб нейкай агульнай, зьлітай са шматлікіх моваў супермове на справе прывёў да той брыдкай трасянкі, якую мы чуем, напрыклад, ад Аляксандра Рыгоравіча. Гэткая паўмова непазьбежна вядзе да рэзкага зьніжэньня інтэлектуальных магчымасьцяў яе носьбітаў. Пра гэта не раз пісалі навукоўцы.

Таму, калі я чую ад прэзідэнта, які зьвяртаецца, па ягоных словах, да дэпутатаў Вярхоўнага Савета: «Мужыкі!» — я не зьдзіўляюся. Гэта не чарговая «разборка» каля жоўтай бочкі за кухлем піва. Гэта — беларуская палітыка.

*ЛіМ, 9 жніўня 1996 года.*

**Пераніцаваньне**

Мы ўжо ўсе, здаецца, пераканаліся, што ў беларускай палітыцы няма нічога немагчымага. Своеасаблівым рэкардсьменам выступіў тут прэзідэнт. Ад самага выбраньня яму ўдаюцца, здавалася б, цалкам неверагодныя рэчы.

Памятаю, як пасьля першага агучваньня пытаньняў майскага рэферэндуму не адзін мой знаёмы прыгаломшана казаў: ды не можа такога быць! Рэферэндум супраць нацыянальнай інтэлігенцыі, ды ён жа сам сабе яміну капае!

Наіўныя людзі. Чаму-чаму, а падлікам у саўгасе Аляксандр Рыгоравіч навучыўся. Ён добра ведае, што голас самага лепшага беларускага інтэлігента варты ўсяго толькі голаса Васі са шклоўскай піларамы. Ён даўно падрахаваў, каго болей у нашай дзяржаве — беларускіх інтэлігентаў ці Васяў.

І вось Аляксандрам Рыгоравічам акрэсьленыя чатыры пытаньні да наступнага рэферэндуму. Тое, што даўно вуркацела на нашым палітычным небасхіле, урэшце грымнула. Яшчэ адзін мой знаёмы зусім нядаўна казаў: «Вось зьезьдзіць ён у Маскву да Ельцына, і там ягоныя пытаньні вылягчаюць. Будзе ён як шоўкавы рабіць тое, што ім патрэбна».

«А хіба адное пярэчыць другому? — зьдзівіўся я. — Кепска тады ты ведаеш псіхалогію. Ён зьменіць Канстытуцыю, “зьесьць” гэты Вярхоўны Савет разам з усёй сістэмаю народаўладзьдзя, але ў той жа час дасьць Маскве гарантыі па жыцьцёва важных для яе пытаньнях. Яны дамовяцца. А мы будзем пацепваць плячыма і зьдзіўляцца — як гэта Масква прадала беларускую дэмакратыю».

Масква сьлязам не верыць. Яна верыць толькі сіле. А гэтая сіла, як альтэрнатыва ініцыятыве прэзідэнта, пачала яднацца на «круглым стале» палітычнай «сямёркі».

Склалася парадаксальная сітуацыя. Прэзідэнт здолеў пакрыўдзіць усіх. Нават у камуністаў ён хоча перахапіць ініцыятыву, «забраць» іхняе сьвята перавароту, правёўшы ў гэты дзень рэферэндум і ўчыніўшы сваё маленькае сьвята.

У гэтым сэнсе дастаецца і дэмакратам. Дзень Незалежнасьці, 27 ліпеня, мяркуецца пераніцаваць на Дзень Рэспублікі і прасунуць яго на 3-е ліпеня. Пэўна, надта ўжо не любіць Аляксандр Рыгоравіч нашу незалежнасьць. Мяркую, што трэці рэферэндум, калі, не дай Бог, да яго дойдзе справа, ён прызначыць на 25 сакавіка.

Але гэтае пытаньне, як і два наступныя, — пра ўласнасьць на зямлю і замену сьмяротнай кары — хоць і зьяўляюцца даволі істотнымі, але мізарнеюць перад першым.

Зараз нейкія спадзяваньні ўскладаюцца на Вярхоўны Савет. Спадзяваньні, як падаецца, марныя. Такога Вярхоўнага Савета Аляксандр Рыгоравіч не баіцца. Прэзідэнт, як паказвае аналіз ягоных паводзінаў, паважае толькі сілу. Мабыць, яе паважаюць усе. Толькі яўнае паражэньне, як, напрыклад, правал рэферэндуму, можа псіхалагічна пераканаць у няслушнасьці сваіх дзеяў і спыніць яго.

А гэты Вярхоўны Савет рэферэндум не адменіць. Адзінае спадзяваньне на партыі, якія маюць пэўны ўплыў на нашае грамадства. «Сямёрка», нягледзячы на свой пярэсты склад, можа пазмагацца. Але толькі тады, калі будзе выступаць зладжана і разам.

*ЛіМ, 16 жніўня 1996 года.*

## Жнівень

Ідуць касцы, зьвіняць іх косы...

*Якуб Колас*

Гарачы жнівень стаіць на Беларусі. У Менску зараз цяжка. Смуродам патыхае разамлелы асфальт, задушліва ў бетонных кватэрах. Адзін мой знаёмы паехаў на Кіпр з жонкай і дзіцем. Паездка на месяц абышлася для яго ў тры тысячы даляраў. Другая знаёмая зусім не пайшла ў адпачынак. Сядзіць, парыцца на рабоце, узяла грашовую кампенсацыю за адпачынак, бо мужу на заводзе яшчэ за чэрвень не выплацілі заробак. Трэці, яшчэ вясною кінуўшы дзяржаўную працу, на якой атрымліваў капейкі, зараз перабіваецца на шабашках, а то зьбірае разам з жонкаю ягады, лісічкі. Гэтым жа займаецца і мой сусед Міхайлавіч. Бо пенсіі хапае на пятнаццаць пляшак гарэлкі ў месяц, а трэба грошай — на трыццаць адну. Лета — якраз сезон.

На лецішчах пад Менскам адыходзяць ужо гуркі, сьпеюць памідоры. Сьліў, як казала адна бабулька, — тайга, але на сочыва і кампоты патрэбны цукар, а долар зноў папёр угору...

Лета, а ў грамадстве так шмат незадаволеных. Часам здаецца, што незадаволеныя — усе. Бедныя — таму што бедныя і наперадзе няма прасьвету, багатыя — бо не даюць разгарнуцца, учэпіста трымаюць за крысо і сытны кавалак ад эканамічнай ліхаманкі і круцялёў улады не лезе ў рот.

Моцна незадаволены і прэзідэнт. Яму перашкаджаюць працаваць парламент і палітычныя партыі, і Пазьняк з Навумчыкам за мяжой, і капіталісты, якія нас зусім «не ждут», і Расея, якая надта фрыгідна рэагуе на недвухсэнсоўныя прапановы афіцыйнай Беларусі.

У сваю чаргу парламент незадаволены прэзідэнтам, які зьбіраецца правесьці рэферэндум і распусьціць яго. Ён пакуль што баіцца выказаць сваю нязгоду ў адкрытую і ціха

незадаволены. Праўда, гучнай незадаволенасьці не баяцца палітычныя партыі, якія зьбіраюцца выказаць яе за «круглым сталом».

Расея таксама не надта задаволена беларускім прэзідэнтам. Бачна, што, па іхніх мерках, ён ці не занадта спрытны. А ў іх зараз вайна, і ім не да нас, хай бы хоць сьцішыўся, пачакаў.

Шчыра прызнаюся, незадаволены і я. Лета было дажджыстае і так і не ўдалося сплыць на чаўнах па Пцічы. Бо што гэта за задавальненьне, калі вада з усіх бакоў?

А зараз — задуха. Задуха стаіць у прыродзе і ў грамадстве.

Праўда, неўзабаве — верасень.

І там — 3 верасьня, пачатак парламенцкай сесіі, якая, бываюць жа цуды, можа абярнуцца для «всенародно избранного» імпічментам.

Там — 14 верасьня, 2-і беларускі нацыянальны кангрэс, які хоча сабраць прэзідэнт, каб паднаціснуць і прыпалохаць парламент, і на які мяркуюць прывезьці — небывалая лічба, як у свой час на зьезды КПСС, — аж пяць тысяч «дэлегатаў».

А паміж імі — 8 верасьня, дзень Беларускай вайсковай славы, традыцыйнае сьвята сьвядомых беларусаў, а гэтым разам, можа, і не толькі адных іх.

І гэта ж толькі тыя падзеі, пра якія мы дакладна ведаем. А пра што мы яшчэ можам даведацца?..

Сьпякотны жнівень. А верасень маецца быць не менш сьпякотным. І ў мяне, у сёньняшнюю трыццаціградусную гарачыню, на конт гэтага толькі адзінае пытаньне: ці задаволіць ён каго-небудзь, месяц верасень, ці вырашыцца штонебудзь у нас у лепшы бок ці і надалей мы так і будзем гайдацца паміж небам і зямлёй?

*ЛіМ, 23 жніўня 1996 года.*

## Наша эміграцыя

Вось і зноў у нас зьявілася палітычная эміграцыя. Хоць тут мы ўжо аказаліся першымі з усяго СНД. І калі хада жыцьця будзе ісьці ў тым самым накірунку, як і зараз, дык, пэўна, што гэта паляцелі зь Беларусі яшчэ толькі першыя ластаўкі. А колькі іх ужо было! Як пачынала прыпякаць на Радзіме, беларусы расьсейваліся па ўсім сьвеце, і як выяўлялася пазьней — былі далёка не апошнімі недарэкамі. У нас чамусьці заўсёды выпіхвалі лепшых.

Эміграцыйны набытак беларусаў немалы. Так, згадваю свайго аднафамільца, а верагодна і сваяка, Аляксандра Бяляцкага, які пасьля чарговага паўстаньня апынуўся ў Амерыцы і стаў, як скрозь пісалі пра яго энцыклапедыі, «асабістым сябрам прэзідэнта» Аўрама Лінкальна. Калі пачалася вайна з Поўднем, ён загінуў у першым жа баі, атрымаўшы кулю ў лоб.

Той-сёй зь беларусаў нават сам станавіўся прэзідэнтам, як М. Судзілоўскі, ці нацыянальным героем іншых краін, як І. Дамейка ў Чылі.

Зь беларускай эміграцыі ў людзі выбіваліся таксама іхнія нашчадкі. Тут мы можам прыгадаць на чвэрць беларуса, прэзідэнта Грэцыі Папандрэу. Мне асабіста заўсёды грэла сэрца імя найвялікшага хакеіста стагодзьдзя Грэцкага, які сам шчыра гаворыць пра свае беларускія карані, і заўсёды цікавіла паходжаньне славутага амерыканскага кінарэжысёра Пітэра Багдановіча...

У гісторыі беларускай літаратуры эмігранты-пісьменьнікі таксама займаюць вельмі адметнае месца. Менавіта яны, выкінутыя віхураю апошняй вайны за межы бацькаўшчыны, непадуладныя сталінскаму гіпнозу, працягвалі і разьвівалі традыцыі праўдзівай беларускай літаратуры.

Парадокс: у другой палове 40-х і ў 50-х гадах кветкі прыгожага беларускага пісьменства квітнелі ў Амерыцы, Аўстраліі і Нямеччыне. А тут, пад Саветамі, аж да XX зьезда адно дрынчэлі бляшаныя надмагільныя вянкі.

Зараз, калі разглядаеш вершаваныя зборнічкі, прозу, крытыку, якая павыходзіла *там*, дык разумееш, што нават пісьменьнікі меншага спамеру *там* здолелі раскрыцца напоўніцу. Яны самарэалізаваліся як творцы. Эміграцыя ратавала іх не толькі фізічна, яна выратавала іхнія душы. А гэта для чалавека, як для Боскага стварэньня, хіба што самае істотнае.

Вось жа, зноў надыходзяць суровыя часы. Я ўпэўнены, што раней ці пазьней прэзідэнт захоча і ў культуры «навесьці парадак», так, напрыклад, як з банкамі. І шмат перад кім тады паўстане пытаньне: прыстасоўвацца, угінаць галаву — ці спрабаваць не паддавацца, тут, пакуль гэта магчыма, заступацца за культуру, за мову. А вось калі пачнуць саджаць і зьнішчаць — зьехаць і працягваць бараніць сьвятыні, свой народ, уласную годнасьць на эміграцыі.

Да чаго даводзіць сьвядомы канфармізм — паказваюць вынікі гаспадараньня Саветаў на Беларусі. Інтэлігенцыя, нягледзячы на ўсе «але...», нацыю праспала. Яна, за невялікім выняткам, амаль што і не спрабавала ўпірацца. Але зараз іншыя часы, іншыя пакаленьні, іншыя людзі. Мяркую, цяжка будзе зноў загнаць усіх у агульны хлеў.

*ЛіМ, 6 верасьня 1996 года.*

**Дай сьвіньні рогі...**

Езьдзіў на мінулым тыдні капаць бульбу. Такая доля беларуса. Калі ішоў дождж, слухаў мімволі радыё і быў моцна ўражаны тым навалам бруду і хлусьні, які абвальваецца з прычыны прэзідэнцкага рэферэндуму на галовы бедных беларусаў. Калі раней, на мінулым рэферэндуме, ворагамі былі Фронт і астатнія «нацыянал-экстрэмісты», дык зараз — Вярхоўны Савет са сваім Прэзідыумам і Шарэцкім, Канстытуцыйны Суд і сацыял-дэмакраты з лібераламі, Амерыка і НАТА, жыдамасоны і, як жа безь іх, нацыяналісты.

Вінаватыя ўсе, хто мае хоць трохі адрозную думку ад прэзідэнцкай. У стратэгічным плане народу ў галовы ўбіваецца адно: «яму мяшают». А я чамусьці адразу згадваю добра ўсім знаёмую прыказку пра кепскага танцора.

Мне зразумела, калі прэзідэнту «памагает», выступаючы па радыё, перакананы рускі нацыяналіст са Славянскага сабору. Для яго такі прэзідэнт — гэта магутная падтрымка ягонай рускасьці ў нашай краіне. Хто, як не прэзідэнт, зьяўляецца практычным увасабленьнем пра язык «издревле нам родной»? Хто, як не прэзідэнт, — першы абаронца ягонай ваяўнічай хлусьні? Вядома, усё гэта хаваецца за фальшывай рыторыкай аб славянскім адзінстве. Але ведаем мы такіх славянаў, якія, перафразуючы Маякоўскага, кажуць пра славянства, а маюць на ўвазе Расею.

Мне зразумела, калі «за» рэферэндум выступае «адмарожаны» камуніст, дарэчы таксама рускі, для якога сесьці за «круглы стол» з Фронтам — горай за сьмерць.

Але я ніяк не магу звыкнуцца тым, калі ў гэтай бруднай справе гучыць беларуская мова. Бо апошнім часам так склалася, што на ёй гучыць усё самае лепшае. Ёсьць жа і нейкія плюсы, калі мова — у апазіцыі да *такой* улады. І толькі супакойваюся крыху, калі чую прозьвішчы гэтых хваласьпеўнікаў-беларусаў. Іх няшмат, і ўсё адны і тыя ж асобы.

Вось Генадзь Пашкоў. Так хваліў у сваім выступе «мудрае» рашэньне прэзідэнта перанесьці Дзень Незалежнасьці з 27-га на 3-га ліпеня. І столькі пафасу і прачуласьці было ў голасе, калі згадваўся нягоднік Кубэ, які нібыта штосьці там падпісаў у гэты самы дзень, і той страшны нямецкі фашызм. Паважаю пафас Генадзя Пятровіча, толькі, упэўнены, «лукавіць» ён, «лукавіць». Бо інакш бы барацьбіт з фашызмам не замаўчаў бы агіднае інтэрв'ю свайго патрона, заўважу, зусім сьвежае, не паўвекавой даўнасьці, дзе той так шчыра захапляецца гітлераўскім парадкам. Выбарачнасьць памяці таварыша Пашкова застаецца тлумачыць ягонай новай пасадаю — даводзіцца адпрацоўваць.

А вось выступае па радыё яшчэ адзін белмоўны таварыш

Дашкевіч, вядомы славяналюб, у якога ад аднаго слова «Адраджэньне» голас пачынае рыпець, як у бабы Ягі, калі ёй перакавалі язык.

А вось па тэлевізары паказваюць каманду старцаў-юрыстаў на чале з маладжавым Абрамовічам. У Абрамовіча сядае і дрыжыць голас, старцы жуюць сказы і трымаюць вочы ніц, не глядзяць у экран. Дзякуй Богу, што хоць Абрамовіч апошнім часам «забыўся» на беларускую мову, ёй здаравей.

Так і хочацца спагадна папярэдзіць гэтых «нявінных» дзядоў, агітатараў-пад’ялдычнікаў, якія падкідаюць дровы пад ногі спутанай Канстытуцыі, каб потым не енчылі, што не ведалі, што чынілі. Вас, шаноўныя, наперадзе чакае адказнасьць. Калі не перад людзьмі, дык перад Богам.

*ЛіМ, 20 верасьня 1996 года.*

**Візіцёры**

Памятаю далекаватыя ўжо брэжнеўскія часы. Леанід Ільіч прыязджаў у Менск. З тых тэлерэпартажаў запомнілася мне непадробнае захапленьне, зь якім тутэйшыя князькі сустракалі свайго цэзара, а таксама пацалункі ўзасос.

Вось ужо пяць гадоў, як мы боўтаемся ў сваёй такой дзіўнай незалежнасьці, а нашыя сувязі з Масквою не слабеюць. Для расейскіх палітыкаў Беларусь засталася ці не адзіным любімым замежжам. Можна ехаць і не баяцца, што цябе там падстрэляць ці падарвуць. Такая сёньня рэакцыя ў бліжэйшых суседзяў з былых «брацкіх рэспублік» на расейскіх палітыкаў.

У апошні год сваімі непадрыхтаванымі ваяжамі вызначыўся і беларускі прэзідэнт. Аляксандр Рыгоравіч, як баявы сакратар райкама, прыязджае ў вобласьць выбіваць запчасткі для камбайнаў. Сакратара ў вобласьці не любяць, моршчаць нос, але трываюць, бо надта спрытны.

Такім чынам, расейцы — нашыя самыя блізкія сябры. Аж занадта. Бастуе Яраслаўскі маторны завод — стаіць наш

МАЗ. Я часам думаю: а што калі гэты вялізны расейскі зношаны кацёл не вытрымае і калі-небудзь узарвецца? Зь якім тады грукатам лясьне беларуская эканоміка! Ну, не грузінская ж, да слова, дзе Расея па аб'ёме тавараабароту стаіць на шостым месцы. А тут — толькі высахне труба, па якой з усходу ідзе да нас «сібірскі кактэйль», — і ўсё, прыехалі. Арабская ж нафта для прававерных славян-беларусаў занадта сьмярдзючая.

З хваробаю Барыса Мікалаевіча ўзрасла вага Аляксандра Рыгоравіча, які быў так аканфузіўся падчас прэзідэнцкіх выбараў у Расеі — не на таго паставіў. А зараз зноў, калі расейскія ваўкі грызуцца, адчуваючы верагодны перадзел улады, гэты канфуз можа аказацца выйгрышам. Можа, таму зачасьцілі сюды з таямнічымі візітамі Затуліны і Лебедзі, пасьля якіх раптам аказваецца, што беларуская супрацьпаветраная абарона — гэта ўжо не нашая абарона, а сумесная, як у калгасе. Ідзе нейкі буйны махлярскі гандаль.

Складанай была дыпламатычная місія Зюганава — і сяброў па партыі не пакрыўдзіць, і з Лукашэнкам захаваць добрыя стасункі. І, здаецца, яна ўдалася. Сябры па партыі пацішэлі і антыпрэзідэнцкія артыкулы пісаць кінулі.

І калі выказваньні буйных візіцёраў наконт палітычнага крызісу на Беларусі былі няпэўнымі і абцякальнымі, дык вось мэр Масквы Лужкоў пасьля падоранага яму тралейбуса быў шчырым да непрыстойнасьці. Я дык адразу згадаў агульнавядомы дакумент вертыкалі аб лабіраваньні прэзідэнцкага рэферэндуму за межамі Беларусі і пра тыя мільёны даляраў, выдзеленыя на гэта. Колькі ж каштавала для Беларусі «шчырасьць» Лужкова?

Езьдзіць у Маскву не толькі сп. Лукашэнка. Паехала туды і антыпрэзідэнцкая апазіцыя розных акрасаў. І гэта б усё — нічога. Хай езьдзяць, шукаюць падтрымкі, можа, сьмялейшымі будуць. Галоўнае, каб не забываліся: нашыя справы прыйдзецца вырашаць усё роўна нам самім, і ніякія візіцёры тут не дапамогуць.

*ЛіМ, 4 кастрычніка 1996 года.*

## Нацыянальны рамантызм

Зараз, у цяжкія часы для беларускай нацыі, я ўсё больш задумваюся над лёсам іншых нацыяў, якія мелі ў сваёй гісторыі і нацыянальныя катастрофы, і трагічныя паражэньні, але, нягледзячы ні на што, чароўна паўставалі-адраджаліся, як фенікс з попелу. Адразу ж прыходзяць у галаў яўрэі, армяне, чачэнцы.

Расьцярушаныя па ўсім сьвеце, яны, тым не менш, не зьніклі як народ, пастваралі свае нацыянальныя дыяспары, трымаюцца адзін аднаго, дапамагаюць і жывуць у іншанацыянальным асяродку, як рыба ў вадзе. Менавіта таму некаторыя не любяць ні адных, ні другіх, ні трэціх.

Беларусы да яўрэяў, якіх было некалі шмат на Беларусі, ставіліся спакойна, адно пакепвалі. З гумарам піша пра іх Ф. Багушэвіч:

А што жыд да немец —
дзеці аднэй маткі:
І мова падобна,
і адны ўхваткі.
І абодва ласы
на чужую працу...

Беларускія палітыкі ж ставіліся да іх з павагай. Не дарма міністрам фінансаў у першым урадзе БНР быў Г. Белкінд.

Суровыя ўмовы выжываньня, непрыхільнае асяродзьдзе як бы абвастраюць разумовы патэнцыял такіх нацыяў. Як быццам бы ідзе ўсеагульная каманда на генетычным узроўні: выжыць! І яны мацуюцца, выдаючы безьліч разнастайных талентаў.

Але цікава, што дзелавая жылка ў іх заўсёды зьвязана з нацыянальным рамантызмам. Гэта як два бакі аднаго медаля.

Грандыёзны праект па аднаўленьні зь нічога, сярод пустыні, вярблюдаў і арабаў ізраільскай дзяржавы, а разам зь ёю і рэканструяванай мовы, іўрыту, для абсалютнай боль-

шасьці яўрэяў перапынак ва ўжываньні якой складаў не адну сотню гадоў, — удаўся! І гэта ці не подзьвіг нацыі, падмацаваны ўсеагульным рамантызмам? Тое ж тычыцца і армянаў, якія, ідучы на велізарныя страты, на працягу тысячагодзьдзяў захоўваюць сваю мову, веру, нацыянальную адметнасьць сярод варожага мусульманскага мора. Калі нават невялікі народ зьяднаны ідэяй нацыянальнага рамантызму, як чачэнцы сёньня зьяднаныя ідэяй незалежнасьці, якая ў большай ступені зьяўляецца ідэяй духу, а не страўніка, тады нішто не можа спыніць такі народ, і нават вялікія імперыі падаюць перад імі на калені. Такія народы — вечныя, бо іх можна зьнішчыць толькі вынішчыўшы ўсіх дарэшты.

А той, хто думае адно пра кілбасу (да мне ўсё раўно, на каком языку, только б каўбаса ў халадзільніку была), вельмі часта яе і не мае. І ў гэтым таксама ёсьць пасьлядоўная заканамернасьць.

Той-сёй махнуў на Беларусь рукою. Як сказаў мне адзін знаёмы паляк: заўсёды ў вас будзе *так*. Але ж нам лепей відаць, мы бачым, што ў гэтым нашым сырым тутэйшым цесьце ўжо бродзіць здаровая рошчына нацыянальнага рамантызму. У ім і толькі ў ім — наш паратунак.

*ЛіМ, 11 кастрычніка 1996 года.*

## Нашыя задачы

Неяк размаўляў я са сваімі старымі знаёмымі. Я ведаў іх яшчэ «зафанацелымі» на беларушчыне студэнтамі, калі сам вучыўся ў асьпірантуры. Гаворка зайшла пра нашую беларускамоўнасьць, і я паўтарыў агульнавядомую, як мне здавалася, тэзу пра тое, што калі ты хочаш зьмяніць моўную сітуацыю на Беларусі, дык пачынай найперш зь сябе і будзь пасьлядоўным. Мае суразмоўнікі, і сёньня дастаткова актыўныя ў грамадскім жыцьці людзі, скептычна расьсьмяяліся, сказаўшы, што зараз ужо не «талакоўскія» часы. Я быў не-

прыемна ўражаны і нават крыху прыгаломшаны. А што зьмянілася? — спытаўся я ў сябе. Бясспрэчная, здавалася б, для нас у свой час ісьціна, аказваецца, у іх прайшла рэвізію. Мадэрнізацыя адбылася не на карысьць беларускай мовы.

А потым я згадаў іншых нацыянальна сьвядомых хлапцоў і дзяўчат з майго пакаленьня, якія пасьля актыўнага ўдзелу ў беларускім маладзёжным руху 80-х, пасьля апазіцыйнай партыйнай дзейнасьці адышлі ад палітыкі і кінуліся ў бізьнес. Я паглядаю на тых, якім удалося ўзьняцца, і з сумам адзначаю, што мала хто зь іх захаваў нармальны нацыянальны грунт. Былыя беларускамоўныя фундаменталісты сёньня актыўна карыстаюцца расейскаю моваю, апраўдваючыся для сябе, мабыць, тым, што гэтага патрабуе іхняе асяродзьдзе, іхні бізьнес. Паверыў бы, калі б не было такіх, якія ўсё ж няўхільна не саступаюць, працуюць у беларускамоўным рэжыме, з энтузіязмам засвойваюць гандлёвую тэрміналогію (згадайма тыя ж кампутары і чакалядкі).

І вось пра аднаго распавядаюць мне, што па-беларуску ён цяпер гаворыць толькі на вечарынках сярод бізьнесьменаў, расчуліўшыся пасьля чаркі. А другая, маючы магчымасьць выступаць у беларускамоўнай праграме па тэлевізіі, чэша па-расейску, толькі зубы пабліскваюць. Справа, здаецца, усё ж такі ва ўнутраных установках, а яны паплылі.

Непакоіць мяне трохі і сёньняшняя «залатая» беларуская моладзь. Яны гавораць па-беларуску, для іх гэта нармальна, яны ведаюць, як правіла, замежныя мовы — зьявілася патрэба, не тое, што ў свой час у нас. Але яны лёгка зьбіваюцца зь беларускай на расейскую, не лічаць гэта для сябе істотнай, прынцыповай рэччу. Для іх мова — больш інструмент, паказальнік свайго сацыяльна-палітычнага статуса, а не тая самакаштоўнасьць, якая абавязкова павінна ляжаць у духоўным падмурку кожнага нармальнага беларуса.

«Стомленасьць» таго-сяго са старой гвардыі — як сьпявае А. Мельнікаў, мабыць, усё ж такі не пра сябе: колькі ж можна — мова ды мітынгі, мітынгі ды мова, а таксама «не-

дасьпеласьць» моладзі, якая прыўзьняла голаў у папярэднія гады беларусізацыі, і думалася, што паступова, натуральна яна «дасьпее», не мусяць зьбіваць з тропу астатніх.

Колькі можна пра адно і тое ж? Столькі, колькі трэба! Хоць усё жыцьцё!

*Ты, мой брат,*
*каго зваць беларусам,*
*Роднай мовы сваёй*
*не цурайся, —*

яшчэ некалі ўгаворваў беларусаў Алесь Гарун. Не надта яны яго паслухалі. Значыць, трэба працягваць. Нашая задача, якія б мы ні былі разумныя, вывучаныя і мудрыя, адна — тлумачыць і даказваць сто, тысячу, дзесяць мільёнаў трыста тысяч разоў элементарныя рэчы: мова — вышэй над усім, — і не забывацца пра ўласны прыклад.

*ЛіМ, 18 кастрычніка 1996 года.*

**Дзьве тэмы**

Не так даўно былі мы з жонкаю і сынам у гасьцях у сваіх сяброў. Яна — настаўніца, ён — вайсковец. Размаўлялі аб усім, але мне запомніліся дзьве тэмы.

Яна распавяла, як дапамагала рускай дзяўчынцы-суседцы выканаць практыкаваньне ў падручніку беларускай мовы: скласьці сказ на тэму аб Кастрычніцкай рэвалюцыі. Я гэтага падручніка не гартаў, і мы ўсе дружна сьмяяліся.

Нашая сяброўка — гісторык па адукацыі, і таму сказ у яе атрымаўся такі: «Кастрычніцкая рэвалюцыя адбылася 7 лістапада 1917 года». Калі ж яна папрасіла мужа скласьці свой сказ, той адказаў: «Мой дзядуля быў удзельнікам Кастрычніцкай рэвалюцыі». Я задумаўся і прыйшоў да высновы, што мой адказ быў бы такі: «7 лістапада 1917 года — не самы

лепшы дзень у гісторыі беларусаў». А мая жонка сказала, што яна ўвогуле зьмяніла б гэтае практыкаваньне і не тлуміла дзецям галаву.

Я ніколі не любіў камуністаў. Але апошнім часам мне іх нават шкада. Вось гняўлівы імпэт Аляксандра Рыгоравіча абваліўся на іхнюю партыю, і партыя, як той карабель, які наскочыў на міну, развалілася на два кавалкі. То яны ціхмяна сядзелі і адкрыта паціралі рукі, калі прэзідэнт спрабаваў пракаўтнуць нацыянал-дэмакратыю, а цяпер і самім не соладка.

А вось зараз у Менску ім не дазволілі шэсьце да Леніна. І што яны будуць рабіць — парушаць рашэньне выканкама і ісьці ці слухацца прэзідэнта (не сумняваюся, што гэта ягоная забарона) — не ведаю.

Другая ж тэма, на якую мы паразмаўлялі з сябрам-вайскоўцам, гэта, натуральна, скандальная адстаўка міністра абароны Мальцава. У колах беларускай інтэлігенцыі яго паважалі за тое, што той заўсёды ахвотна размаўляў па-беларуску. Мой сябра крытычна адгукнуўся аб ім як аб міністры — дазволіў скарачэньне войска да такой мяжы, за якой увогуле ці ёсьць мэтазгоднасьць яго трымаць, але, тым не менш, сказаў, што так звальняць міністра — найперш прынізіць самую пасаду.

Аб тым, што яго звальняюць, ведалі ў войску ўжо ўсе. І праблема была толькі — пасьля чаго і калі. Вось, думалі, пасьля ўзрываў на артскладах — не; пасьля аўтакатастрофы з салдатамі — зноў не. І падлавілі-такі на юбілеі мединстытута, да якога міністр ніякіх адносінаў не меў. Можа, яму ўвогуле што-небудзь у шампанскае кінулі, пракаментаваў мой сябра.

Зараз на гэтую пасаду называюць трох верагодных прэтэндэнтаў: двух расейцаў — Чумакова і Паўлоўскага і аднаго беларуса, які праходзіць па крымінальнай справе ў суседняй Літве, — Усхопчыка. Файны выбар.

Я б такое войска, сказаў іншы мой знаёмы, не тое што скараціў, а распусьціў бы і набраў па-новаму.

Ды беларусы стараюцца не прымаць рэзкіх і адназначных рашэньняў. І хоць гэта ўжо не да акрэсьленых тэмаў, але рашэньне Канстытуцыйнага Суда, здаецца, пацьвярджае найноўшыя дасьледаваньні, што асноўны архетып беларусаў як нацыі — гэта багна. Зацягнуць і паступова ўтапіць — выпрабаваная тактыка, якая зусім не да сэрца няўрымсьліваму і гарачаму прэзідэнту.

*ЛіМ, 8 лістапада 1996 года.*

**Рэферэндум**

У панядзелак, 11 лістапада, з раніцы я павёў свайго сына ў школу. Дзеці чамусьці стаялі каля дзьвярэй класа разам з настаўніцай. «Што такое?» — павітаўшыся, спытаў я. Настаўніца моўчкі паказала на сіні плакат на дзьвярах класа, які сьцьвярджаў: «Нам нужен референдум». Я, яшчэ нічога не разумеючы, таргануў за дзьвярную ручку і зазірнуў у клас. Парты былі ссунуты ў два рады і засьцелены абрусамі. На дошцы вісеў вялікі плакат у выглядзе бюлетэня, а пасярэдзіне красаваліся дзьве вялікія чырвоныя скрыні для галасаваньня. Вось гэта дык рэферэндум!

У класе каля цёплых батарэй разьмясьціліся два міліцыянеры з дубінкамі і кінутай рацыяй на настаўніцкім стале. Кабетка, мабыць з участковай камісіі, у момант майго зазіраньня клапатліва папраўляла чырвона-зялёны сьцяг. «Заходзьце!» — з энтузіязмам запрасіла яна мяне. «Не-не-не, — пасьпешліва адмовіўся я, — а што гэта ў вас тут такое?» — «Выбарчыя ўчасткі», — паведаміла яна мне. «Дык галасаваньне ж у буднія дні пачынаецца з 16 гадзін. Чаму б дзецям не даць пазаймацца да абеду?» — пацікавіўся я. «Учора прыйшло распараджэньне раённай адміністрацыі, — адказала яна, — дзяжурства пачынаецца зь дзесяці раніцы. Пусьці гэтых дзяцей сюды, — скрывілася яна, — дык яны яшчэ пячаткі пазрываюць». Я ўявіў сабе, як і на іншых сямі тыся-

чах участкаў нашай роднай Беларусі два тыдні запар будуць сядзець цэлымі днямі і нічога не рабіць сем тысяч жанчын і чатырнаццаць тысяч міліцыянераў.

Стыхійная бацькоўская група, куды прыцягнулі і мяне, пайшла да дырэктара — разьбірацца. «А што я магу зрабіць? — разьвяла яна рукамі. — Загад з выканкама». — «Што, калі адзіны на паралелі беларускі клас, дык можна і кідаць яго з месца на месца?» — спытаўся я, апасаючыся, каб гэта не стала традыцыяй. Дамовіліся ўрэшце, што не толькі наш, але й іншыя класы з паралелі будуць па чарзе займацца ў сталовай і бібліятэцы, саступаючы нашаму свае памяшканьні. Хай і яны паспытаюць прэзідэнцкага рэферэндуму.

Дырэктара можна зразумець. Яна чалавек паднявольны. Які там школьны статут і правы дзяцей? «Нам нужен референдум».

Ідэалагічна-інфармацыйны прэсінг ператварыўся ў суцэльны енк. Слабыя на нервы людзі не вытрымліваюць. Адзін мой знаёмы распавёў, як у ягонай вялікай вёсцы ходзяць актывісты, бы ў трыццатыя гады падчас калектывізацыі, і пагрозьліва пытаюцца, ледзь не сілком цягнуць: «А ты схадзіў на рэферэндум?» Ягоны дзядзька пажартаваў: «Схадзіў, прагаласаваў за Аляксандра Рыгоравіча». — «Цьфу ты, бэнээфавец, — вылаяўся адзін такі актывіст, — за прэзідэнта ж трэба было галасаваць!»

Я асабіста на гэты рэферэндум не пайду. А калі пайшоў бы — дык выкрасьліў бы праект прэзідэнцкай канстытуцыі, пры дапамозе якой сп. Лукашэнка зьбіраецца навесьці ў краіне «свой» парадак, які надта ўжо нешта нагадвае...

*ЛіМ, 15 лістапада 1996 года.*

**Шлях пакручасты**

Не першы раз чую я і чытаю такое выказваньне, што А. Лукашэнка сваімі ваяўнічымі наездамі на беларушчыну

згуртаваў і працягвае гуртаваць нацыю. Тое, што звалілася на беларуса зь неба, — незалежнасьць, сімволіка, нацыянальная адукацыя, — казаў адзін мой знаёмы, не цэніцца. Гэта трэба выпакутаваць, заслужыць. Вось калі канкрэтны Віця атрымае дубінкаю ў плечы за бел-чырвона-белы сьцяг, тады ён будзе яго шанаваць і дзецям сваім гэта перадасьць.

Ваяўнічае невуцтва, працягваў ён, — гэта такі моцны і файны раздражняльнік. Усялякі нармальны чалавек, чуючы вось *такое*, абавязкова ўстрапянецца, будзе варушыць мазгамі, нацыянальна дасьпяваць «ад супрацьлеглага».

І тут ён нагадаў мне вядомую сентэнцыю Аляксандра Рыгоравіча пра таварыша Льва Сапегу, зь якім асабіста прэзідэнт не знаёмы. Калі ўжо дыпламаваныя гісторыкі, як бы яны там ні вучыліся і хто б іх там ні вучыў, выдаюць такое, дык куды ж ты тады коцішся, бедная Беларусь?

Другі мой знаёмы сказаў, што было б, мабыць, някепска, каб ён і гэты свой рэферэндум выйграў зь мінімальнай перавагаю, бо значная частка Беларусі яшчэ не перахварэла на Аляксандра Рыгоравіча. Хай бы ён яшчэ год ці два пакрасаваўся, каб ужо абсалютная большасьць зразумела, чаго ён варты.

Так то яно так, але... Важкія «але» круцяцца ў маёй галаве. Мала якая нацыя гуртуецца дзякуючы разбуральнай энергіі, а тым больш такая, як пасіўныя і асьцярожныя — калі не сказаць баязьлівыя — беларусы.

Яшчэ год-два — і беларуская мова будзе выцесьнена з гарадскіх школ, зьнікнуць беларускія падручнікі па гісторыі, і наступныя пакаленьні дзяцей зноў-такі не ўбачаць у іх імя Льва Сапегі. Зноў пачнецца гадаваньне чарговага зашоранага пакаленьня, якое ж некалі прыйдзецца перавучваць. Вядома, што не ўсіх, але паглядзім на шматлікія мястэчковыя і вясковыя школы, паглядзім на ўсход Беларусі, цяжка ўздыхнём і пагодзімся, што — большасьць.

Кожны дзень гэтага ідэйна-культурнага рэзруху — праўдзівая трагедыя для беларусаў. Як казаў трэці мой знаёмы, калі мы абмяркоўвалі выступ аднаго доктара навук, археола-

га падчас тэлесустрэчы Аляксандра Рыгоравіча са сьпецыяльна падабраным электаратам, у смутныя часы — як у рэчцы, калі пабоўтаеш там баўтухай у глыбіні, — выплывае розная каламуць: паўзгнілыя водарасьці, жукі, кара і пустыя сьлімачыныя хаткі, толькі глядзі і зьдзіўляйся. Гэткага сьмецьця вакол сябе Аляксандр Рыгоравіч назьбіраў зараз нямала.

Калі ж мы не хочам жыць у грамадстве недарэкаў, дык мы павінны ясна зразумець: нягледзячы на любыя палітычныя зьмены, падмуркам для выхаваньня нармальнага беларуса, жыхара не нейкай там метафізічнай супольнасьці, а Еўропы, сьвету, павінна быць патрыятычная сістэма адукацыі плюс абавязковае веданьне нямецкай ці ангельскай мовы і нацыянальная па зьмесьце і мове культура. Толькі тады мы атрымаем шанц на бязьбеднае і годнае жыцьцё.

*ЛіМ, 22 лістапада 1996 года.*

**Асацыяцыі**

Паглядаючы на палітычную драму, якая разыгрываецца на нашых вачах, карысна часам пагартаць кнігі па гісторыі. Прыцягнула маю ўвагу адна цікавая гісторыя, якая здарылася з афінскім герцагам Гацье і якую вядомы сярэдневяковы гісторык і пісьменьнік Макіявелі апісаў у сваёй «Гісторыі Фларэнцыі».

Герцаг Гацье стаў дзяржаўцам Фларэнцыі — горада-рэспублікі — дзякуючы некаторым фларэнтыйскім сем'ям, якія «заблыталіся ў пазыках і не мелі ўжо свайго дабра для расплаты, таму разьлічвалі зараз на чужую маёмасьць і на тое, што, аддаўшы ў няволю сваю айчыну, яны пазбавяцца ад няволі, якой пагражалі ім».

Першае, што ён зрабіў, — пачаў судовы перасьлед тых, каго абвінаваціў у пройгрышы адной з войнаў, якую Фларэнцыя вяла з Пізай. Праз гэта ён набыў папулярнасьць сярод

простага народа. «Калі герцаг праходзіў па вуліцы горада, яго гучна славілі за душэўнае высакародства і кожны публічна заклікаў яго заўсёды такім самым чынам раскрываць злачынствы і караць за іх. Камісія Дваццаці (Кіраўнічы савет Фларэнцыі. — ***А. Б.***) з кожным днём значыла ўсё меней, а ўлада герцага і страх перад ім узмацняліся...

Мяркуючы, што ён можа ўжо без апаскі дабівацца чаго заўгодна, герцаг даў зразумець членам Сеньёрыі, што пераканaны ў неабходнасьці дзеля дабра дзяржавы атрымаць усю паўнату ўлады, і паколькі ўвесь горад з гэтым згодны, ён спадзяецца, што і Сеньёрыя пярэчыць не будзе».

Аднак сеньёры, «нягледзячы на тое, што яны ясна ўсьведамлялі пагрозьлівую для іх небясьпеку, адказалі аднадушнай рашучай адмовай, каб не здрадзіць айчыне».

Тады герцаг загадаў прачытаць паўсюль указ аб загадзе народу заўтра сабрацца на плошчы горада. Сеньёрыя ў адказ зьвярнулася да яго з пасланьнем: «Мы зьявіліся да вас, сеньёр... з-за вашага ўказа пра ўсенародны збор, бо нам здаецца несумненным, што вы імкняцеся надзвычайнымі мерамі дабіцца таго, чаго мы не хацелі вам даць законным парадкам... Нізы, якім вы зараз давяраеце, мяняюцца пры найменшай зьмене абставінаў, так што ў любое імгненьне ўвесь горад можа пераўтварыцца ў вашага ворага. Ніякіх лекаў ад гэтае бяды няма, таму што засьцерагчы сваё панаваньне могуць толькі валадары, у якіх мала ворагаў... Але калі нянавісьць акаляе цябе з усіх бакоў, не можа быць аніякай бясьпекі, бо не ведаеш, адкуль пагражае ўдар, а баючыся ўсіх, нельга давяраць нікому...

Таму ў вас ёсьць толькі адзін выбар: ці кіраваць гэтым горадам, ужываючы самыя крайнія сродкі гвалту, для чаго вельмі часта недастаткова бывае замкаў, узброенай варты, зьнешніх саюзьнікаў, ці задаволіцца той уладаю, якую мы надалі вам, да чаго мы вас і заклікаем, нагадваючы, што адзіная трывалая ўлада — тая, якую людзі прызнаюць па добрай волі».

Але «гэтая прамова ніколькі не кранула ганарлівую душу

герцага». Ён адказаў, што «калі Фларэнцыя пад ягонай ула-даю вызваліцца ад прыгнёту партый... гэта не здыме ў яе волю, а верне яе. Не пыха прымушае яго прыняць на сябе гэты цяжар, а мольбы шматлікіх гараджанаў.

Сіньёры, бачачы, што нічога яны не даб'юцца, дамовіліся назаўтра склікаць увесь народ на нараду перад палацам і зь яго згоды аддаць герцагу вярхоўную ўладу на адзін год».

8 верасьня 1342 года жыхары Фларэнцыі сабраліся на плошчы. «Калі дайшлі да артыкула, па якім вярхоўная ўлада аддавалася герцагу на адзін год, народ узяўся гарлаць: "Пажыцьцёва!"... Так што па жаданьні народа герцаг быў абраны ўладаром Фларэнцыі не на год, а пажыцьцёва. Тут натоўп падхапіў яго, узьняў і з гонарам панёс па плошчы, выгукаючы ягонае імя... Спалоханыя і зганьбаваныя сіньёры разышліся па сваіх дамах. Палац быў разрабаваны герцагскімі слугамі, сьцяг народа разадраны, а на фасадзе палаца прымацаваны герб герцага.

«Маючы вярхоўную ўладу, герцаг, каб пазбавіць усялякай улады людзей, якія заўсёды зьяўляліся абаронцамі свабоды, забараніў членам Сіньёрыі зьбірацца ў палацы і вылучыў ім адзін прыватны дом; ён... адмяніў Статуты справядлівасьці, накіраваныя супраць грандаў, вызваліў зьняволеных... павялічыў былыя падаткі і ўсталяваў новыя; пазбавіў Сіньёрыю ўсялякай улады».

«Ён загадаў утварыць зь нізоў і беднага люду ўзброеныя атрады, якім надаў гучныя назвы, раздаў штандары і грошы. Зь іх адны сьвяточна хадзілі па горадзе, а іншыя прымалі іх зь вялікай раскошаю. Паўсюль разышлася пагалоска пра ўзвышэньне герцага, і да яго сталі прыбівацца французы, а ён раздаваў ім пасады як людзям, якім мог цалкам даверыцца. Так што неўзабаве Фларэнцыя не толькі падпала пад уладу французаў, але стала нават пераймаць іхнія звычкі і ўборы».

«Так і жылі грамадзяне Фларэнцыі, абурана гледзячы на тое, як руйнуецца веліч іхняй дзяржавы, як ганьбяцца ўсе нормы, як зьнішчаецца законнасьць, псуюцца норавы, зьне-

важаецца ўсялякая прыстойнасьць... І для таго, каб яшчэ ясьней усьведамляць сваю ганьбу, яны былі вымушаны аказваць пашану таму, каго сьмяротна ненавідзелі... Абурэньне і страх гараджан былі добра вядомы герцагу, і сам ён таксама баяўся, але тым не менш рабіў выгляд, быццам бы лічыць, што ўсе любяць яго».

«І вось мноства грамадзян усіх станаў задумалі ці аддаць сваё жыцьцё, ці зноў стаць вольнымі... У іх зьявілася думка накінуцца на яго падчас шпацыру па горадзе, але гэта было вельмі няпроста, бо герцаг выязджаў заўсёды добра ўзброены і суправаджаны моцнай аховай, да таго ж заўсёды накіроўваўся ў розныя месцы, так што было невядома, дзе яго падпільноўваць».

Грамадзяне Фларэнцыі вырашылі пачаць паўстаньне. «Да іх не прысталі толькі тыя сем'і, якія садзейнічалі прыходу герцага да ўлады: яны аб'ядналіся зь мясьнікамі ды іншымі зь беднаты, зьбегліся са зброяй на плошчу і сталі на ягоную абарону... Герцаг хістаўся, ці змагацца яму з ворагамі на плошчы, ці абараняцца ў палацы. Але сем'і, якія больш за ўсё пацярпелі ад герцага, са свайго боку, баяліся, што, калі ён зьявіцца на плошчы, шмат хто з тых, хто зараз паўстаў, зноў пераўтворацца ў ягоных прыхільнікаў... Пры іхнім зьяўленьні людзі зь сем'яў, якія сталі на бок герцага, бачачы, што на іх нападаюць без усялякага сораму, а шчасьце адвярнулася ад герцага, таксама зьмянілі свае пачуцьці і прыядналіся да суграмадзян».

Паўстанцы «разграмілі дамы ўпраўляючых і перабілі ўсіх прыслужнікаў герцага, якія трапляліся ім пад руку». Герцаг «усьвядоміў урэшце, што, імкнучыся да занадта вялікага, страціў усё».

*ЛіМ, 6 сьнежня 1996 года.*

## Сумныя сны

Памятаю пачатак сьнежня гадоў пяць таму, як каля Чырвонага касьцёла, тагачаснага Дома кіно, галадалі вернікі. Так яны змагаліся за вяртаньне сьвятыні. Як і цяпер, тады ішоў мокры сьнег, а яны сядзелі ў алюмініевых шэзлонгах, апранутыя ў цёплыя паліто, шапкі і валёнкі, закутаныя ў поліэтылен, каб не прамокнуць: сталая кабета і юнак.

Вернікі тады адваявалі касьцёл. Як добра, думаю я, інакш бы там зараз баляваў Юра Азаронак. А так цяпер вакол касьцёла і ў ім — інакшая аўра. Архангел Міхаіл на цьвінтары, насупраць гарсавета, энергічна таўчэ дзідаю зьмея, на якім паблісквае цяжкая мядзяная луска. Гэтая сімвалічная выява барацьбы Дабрыні са Злом — набалелая тэма ў жыцьці нашай краіны.

Усярэдзіне касьцёла — мармур, ляпніна, надпісы па-беларуску. Я ж спускаюся ў дольную залу, дзе ў тэатры аднаго акцёра з паэтычнаю паганскаю назваю «Зьніч» ставіцца монасьпектакль па вершах Янкі Купалы «Мне сьняцца сны аб Беларусі...».

Цёмна-сінія раскладанкі хаваюць выступоўцаў, якія яшчэ рыхтуюцца. На сцэне — крэсла з кінутым беларускім ручніком і скрыпка без струнаў. Вось спачатку тушаць, а потым зноў запальваюць сьвятло, і на сцэну выходзіць Галіна Дзягілева, бярэ бясструнную скрыпку ў рукі і пачынае гаварыць. Голас акцёрскі — найвялікшы набытак тэатра. Глыбокі і насычаны своеасаблівай трагічнай сілаю, маючы адметную афарбоўку, ён неадольна прыцягвае ўвагу. Я на выбар выпісваю радкі, якія гучаць са сцэны: «ніколі не быў контррэвалюцыянерам і да контррэвалюцыі не імкнуўся», «Залягла як пасьцель лебядзіная бель» — гэта Купала. «Вораг на свабодзе заўсёды небясьпечны» — а вось гэта Берман, наркам унутраных спраў Беларусі ў 30-х гадах.

Монасьпектакль скрозь сплецены зь вершаў, якія гадзіну гучаць бесьперапынна. Гэта складана і для акцёра, і для слухача. Недарма ў «Зьнічы» за яго бярэцца толькі сама спада-

рыня Галіна. Але з такім голасам ёй гэта пад сілу. Слухаючы яе, я пераканаўся, што найвышэйшае майстэрства акцёра-чытальніка палягае не ў тым, каб слушна вытрымаць рытм і інтанацыю. Галоўнае — перадаць жар душы паэта, ажывіць сухія кніжныя радкі. Пацьвярджэньне маіх слоў — поўная цішыня сярод вучняў, якія заварожана назіралі за сцэнаю.

Удала падкрэсьліў майстэрства актрысы цымбаліст Алесь Лявончык, плетучы звонкую, як крынічная вада, нягучную мелодыю.

Сьпектакль упершыню быў пастаўлены ў 1989 годзе. Праз вершы Купалы ў сьпектаклі закранаюцца тэмы адносінаў да беларускай мовы, годнасьці беларуса, любові да Бацькаўшчыны. Падаецца, што ён будзе актуальным яшчэ не адзін год.

*ЛіМ, 13 сьнежня 1996 года.*

**Сьнежань**

Канец года. Зямля акрылася сьнегам. Зацерушыла сівізною лясы. Мяккасьць, паўтанальнасьць беларускай прыроды, пэўна, наклалі свой адбітак і на характар беларуса. Я думаў пра гэта некалі, стоячы на кургане Міцкевіча ў Навaградку і гледзячы на спакойны краявід дагледжанай і заселенай Навaградчыны. І зноў гэтыя думкі вярнуліся да мяне на засьнежаным Мсьціслаўскім замчышчы, гэткім жа стромкім і прыгожым, як і Навaградскае, і амаль з такім жа самым касьцёлам унізе.

Захапляльнае відовішча адкрываецца зь яго. Тут узімку менш разнастайных фарбаў, больш дзікасьці і змрочнасьці ў прыродзе, але няма той рэзкасьці і суровасьці, як, напрыклад, на Урале. Мутнае сьветлае неба павольна пераходзіць на даляглядзе ў мяккую чысьціню засьнежаных палёў. І трывога не ўнутраная, а нібыта вонкавая. Здаецца, не зьдзівіўся б, калі б з насупленых лясоў зараз з гіканьнем выскачыла татарская коньніца...

Я пераканаўся: каб агледзець прыгажосьць нашай зямлі, трэба хоць на трошкі ўзьняцца. І тады як бы яшчэ раз разумееш на відавочным і адначасна эмацыйным узроўні, што гэтая зямля — на дзясяткі кіламетраў наўкол цябе — Айчына.

Менавіта таму, здаецца, а не толькі дзеля абароны, нашыя ранейшыя сталіцы — і Навагрaдак, і Вільня — будаваліся на гарах. Бо зямлю бароняць не толькі таму, што яна твая, але й таму, што яна хвалюе цябе і бярэ за сэрца сваёй прыгажосьцю.

Мсьціслаў, дарэчы, некалі быў буйным ваяводскім горадам. Напамінкам аб гэтым — нейкім цудам захаваныя і не ўзарваныя муры старасьвецкіх камяніцаў, касьцёлаў і цэркваў, большасьць зь якіх яшчэ чакаюць руку выратаваньня. Непадалёк — занядбаны манастырскі комплекс сямнаццатага стагодзьдзя ў Пустынках з цудадзейнаю крыніцай. Менавіта тут, у Мсьціславе, добра разумееш, чаму Максім Багдановіч называў Беларусь фарпостам Заходняй Еўропы.

Дарога з Магілёва на Мсьціслаў ідзе праз Чавусы. Паўсюль у гэтых гарадах, што ўгору, што ўніз на Падняпроўі, адзіны герб — поўная ці «малая» «Пагоня» — рука зь мячом, разьвернутым на ўсход. Бараніліся як маглі, але часам атрымлівалася, як некалі ў тым Магілёве, што браму перад ворагам адчынялі свае ж... Гісторыя мае ўласьцівасьць паўтарацца, толькі ўжо на іншым узроўні.

Канец года. Зямля супакоілася і сьпіць. Здаецца, і краіна выдыхнула зь цяжкім супакоем пасьля бясконцай тузаніны 1996-га. Гэта як трывожны і цяжкі сон-перадых, які хутка павінен перарвацца.

Ёсьць хвіліны, і, мабыць, самы час падводзіць рахункі. Падумаць, паглядзець — што так, а што — не, азірнуцца, перад тым як пайсьці наперад. Сьпіць зацярушаны сьнегам Мсьціслаў, сьпіць уся Беларусь. Сьнежань...

*ЛіМ, 20 сьнежня 1996 года.*

**«Арышт»**

Усім, хто размаўляе па-беларуску, пачынаючы зь вясны гэтага года, не раз даводзілася чуць крыўднае: «Ну что ж ваш Зенон Поздняк, кинул вас, белорусов, а сам в Америку сбежал». — «А што, лепей, каб чалавек сядзеў у турме?» — пытаюся я ў такіх «добразычліўцаў». «Да кому он нужен!» — пырхаюць яны. «Патрэбны, — адказваю я, — патрэбны. Адміністрацыі, напрыклад». І пачынаю распавядаць гісторыю, сьведкам якой быў я сам. Як кажуць, не бачыў бы, дык не гаварыў бы.

Памятнага 26 красавіка, пасьля Чарнобыльскага шляху, Зянон Станіслававіч Пазьняк і Юры Віктаравіч Хадыка знаходзіліся ў памяшканьні Фронту. Сюды, ва ўправу, ішлі трывожныя званкі з усіх куткоў горада аб тым, што пасьля мітынгу, які праходзіў каля Палаца спорту, пачаўся хапун. Людзей жорстка зьбівалі, хапалі ў метро, на прыпынках, на вуліцах. Часта асноўнай прыкметаю, з-за якой забіралі, была беларуская мова.

Ва ўправе знаходзіцца было ўжо небясьпечна, і Зянону Станіслававічу было прапанавана зьехаць, бо хоць неяк перашкодзіць таму, што адбывалася ў горадзе, не было магчыма. Але было ўжо позна. Да галоўнага ўвахода ўправы падкацілі ПАЗік і РАФік, запоўненыя людзьмі ў цывільным. Яны чамусьці не пачалі аперацыю па захопе Пазьняка адразу. Мабыць, не былі ўпэўненыя, што Пазьняк тут, і таму не было адпаведнай каманды.

Маладыя хлопцы, якія былі ў вітальні ўправы і ўбачылі пад'езд аўтобусаў, адразу паведамілі пра гэта. Заставалася адное выйсьце — запасны выхад, які выводзіў у двор дома, праз які і выйшлі спадары Пазьняк і Хадыка і яшчэ некалькі чалавек. Але, як аказалася, дворык быў закрытым і адзіны выхад зь яго быў якраз ля пад'ехаўшых аўтобусаў.

Тады адзін малады чалавек, які таксама выйшаў праз запасны выхад, з маладой дзяўчынаю пад ручку рушыў з дворыка і падышоў да цэнтральнага ўвахода ўправы. Ён ска-

заў аднаму фронтаўцу, які быў тут з машынаю, пра сітуацыю. Гэты спадар сеў у машыну, разьвярнуўся, заехаў у дворык і спакойна вывез Зянона Станіслававіча і Юрыя Віктаравіча і тых, хто быў разам зь імі.

А ў гэтую хвіліну да ўправы ўжо ў поўнай цемры падышоў спадар Баршчэўскі. Доблесная група захопу, прыкінуўшы, што па росьце і па валасяным покрыве на галаве ён падобны на Зянона Пазьняка, кінулася з аўтобусаў і схапіла яго, вынікам чаго і былі трое сутак, праведзеных спадаром Баршчэўскім за кратамі.

Ва ўправу камандас не палезьлі, задаволіліся схопленым «Пазьняком». Калі ж урэшце ў пастарунку разабраліся, што гэта Баршчэўскі, а не Пазьняк, управу штурманулі другі раз, выцягнуўшы адтуль дэпутата Знаўца, але гэта ўсё ж быў не Пазьняк.

Тым, хто яшчэ сумняваецца, ці схапілі б Зянона Станіслававіча, нагадваю, што назаўтра ўжо трое зь пяці намесьнікаў Пазьняка па Фронце сядзелі ў турме. Супраць дваіх зь іх і зараз вядуцца судовыя справы.

Заканчваючы сваю рубрыку, хачу пажадаць чытачам «ЛіМа» і сабе, а таксама ўсім нашым знаёмцам правесьці новы, 1997 год на свабодзе.

*ЛіМ, 27 сьнежня 1996 года.*

## АЎТАРСКІЯ КАЛОНКІ Ў БЮЛЕТЭНІ «ПРАВА НА ВОЛЮ»

### Балканскі крызіс

Крызіс, які стварыўся на Балканах гэтай восеньню, прыцягвае ўвагу ўсяго сьвету.

На пачатку стагодзьдзя менавіта адтуль, з падчарэўя Еўропы, распачалася Першая сусьветная вайна. І зараз вайна

ідзе вельмі блізка ад межаў краінаў, якія пачалі будаваць агульны еўрапейскі дом.

Цывілізаваная Еўропа падаецца не такім ужо вялікім лапікам зямлі, сапраўды, нейкім агульным дворыкам, дзе ўсе суседзі ведаюць адзін аднаго і спрабуюць усталяваць больш-менш прыстойнае жыцьцё па агульных правілах, якія дазваляюць жыць усім. Пасьля таго, як заслона, якая дзяліла Еўропу на дзьве часткі, упала, еўрапейскі дворык павялічыўся на добры тузін знаёмых і не надта знаёмых суседзяў, якія доўгі час жылі па сваіх законах. І, як аказалася, не ўсе зь іх гатовыя прыняць новыя правілы сумеснага жыцьця. Кепскае выхаваньне дарэмна не прайшло. Не будзем цяпер разглядаць, чаму сербы паводзяць сябе так, а не гэтак, і хто больш правы — яны ці косаўскія албанцы, а большую ўвагу зьвернем на пазіцыю прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі, які і тут здолеў прыцягнуць да сябе ўвагу сусьветнай супольнасьці.

Прэзідэнт Беларусі афіцыйна абвясьціў пра збройную падтрымку Сербіі ў гэтым канфлікце і ў момант найбольшага супрацьстаяньня паслаў у Сербію дэлегацыю высокага ўзроўню на чале са старшынёй Савета Бясьпекі. У склад дэлегацыі ўваходзілі дэпутаты зь яго кішэннага парламента і нават прэзідэнцкі сын (!!!). Як гэта ўсё нагадвае старажытныя часы тысячагадовай мінуўшчыны, калі князькі аддавалі сваіх сыноў у заклад як выказ найбольшага даверу і пашаны да саюзьніка. Ці нядаўняе савецкае мінулае, калі сын Сталіна быў пасланы на фронт звычайным лейтэнантам і там загінуў (сын Лукашэнкі такі самы «лейтэнант» у Міністэрстве замежных справаў). Мяркую, што падобныя гераічныя асацыяцыі круціліся ў галаве А. Лукашэнкі.

Якія падставы гэтай рашучай падтрымкі еўрапейскага неслуха? І вось тут мы падыходзім да самага цікавага. Аказваецца, на думку Лукашэнкі, беларусы павінны дапамагаць сербам таму, што сербы, па-першае, славяне, па-другое, праваслаўныя. Не ідзе размова пра прыкметы цывілізаванай палітыкі, пра сутнасць канкрэтных палітычных крокаў Сербіі, а падзел ідзе па рэлігійных і расавых прыкметах.

Менавіта таму больш за ўсё беларускі прэзідэнт пакрыўдзіўся на балгараў, таксама праваслаўных славянаў, якія апынуліся ў антысербскай кааліцыі, і прыгразіў ужыць супраць іх эканамічныя санкцыі. Карціна была б няпоўнай, калі не дадаць, што ў невялічкім еўрапейскім дворыку за сьпінаю гэтага дробнага і хілага задзіракі выразна вымалёўваецца пастава яшчэ аднаго ўсходняга праваслаўнага брата, які за апошнія гады хоць і аслаб і схуднеў, але трымае руку ў кішэні і мае што адтуль паказаць усяму сьвету. Не маючы гэтай падтрымкі, упэўнены, не скакаў бы пеўнікам і беларускі прэзідэнт. Мы ведаем, што такое ісламскі арабскі сьвет. А зараз посткамуністычныя экстрэмісты спрабуюць зьляпіць праваслаўны славянскі сьвет, дзелячы ўсіх на «чыстых» і «нячыстых», выкарыстоўваючы парады свайго духоўнага бацькі Гітлера. Не зразумела толькі, што яны будуць рабіць са славяна-мусульманамі і з праaслаўнымі мурынамі, якіх шмат у Афрыцы і якія аніяк не ўкладаюцца ў гэтую расава-рэлігійную схему.

*Бюлетэнь «Права на Волю», № 19, кастрычнік 1998 г.*

**«Дзяды»**

30 кастрычніка 1988 года — незабыўная дата ў гісторыі Беларусі. У гэты дзень упершыню пасьля доўгага часу савецкай дыктатуры сабраўся шматтысячны мітынг з мэтаю ўшанаваць памяць продкаў, бо Дзяды — гэта Дзень памінаньня продкаў. Ініцыятарам і арганізатарам акцыі была дэмакратычная моладзь, аб’яднаная ў моладзевыя грамадскія суполкі па інтарэсах. Менавіта яны выступалі галоўным каталізатарам падзеяў у тыя гады ў Беларусі.

Улады паспрабавалі жорстка і гвалтоўна адказаць на ініцыятыву аднаўленьня народнай традыцыі. Правядзеньне акцыі было забароненае, а заяўляльнікаў мітынгу гарадская пракуратура афіцыйна папярэдзіла пра крымінальную адказ-

насьць у выпадку якіх-небудзь парушэньняў з боку дэманстрантаў.

Але моладзь не пахіснулася. На рэдкім у тыя часы ксераксе было надрукавана 12 тысячаў улётак-запрашэньняў, і ноччу за два дні да «Дзядоў» імі былі заклееныя пад’езды мінскіх дамоў. У сваю чаргу ўлады зьмясьцілі афіцыйнае папярэджаньне ў прэсе пра забарону акцыі і гэтым самым прыцягнулі яшчэ большую ўвагу гараджанаў. Вырашыў падтрымаць мітынг і толькі што створаны Аргкамітэт Беларускага народнага фронту «Адраджэньне».

На месца правядзеньня мітынгу — да Маскоўскіх могілак — прыйшло некалькі тысячаў мінчукоў. Іх там ужо чакалі тысячы міліцыянтаў, сьцягнутых з усёй Беларусі, пажарныя машыны і «варанкі». Адразу ж перад пачаткам мітынгу пачаўся захоп актывістаў. Міліцыя, ужываючы сьлезацечны газ і гвалт, спрабавала разагнаць людзей. Але большасьць зь іх рушыла на Курапаты, туды, дзе ў трыццатыя гады былі расстраляныя сотні тысяч невінаватых людзей.

Курапаты былі ачэпленыя, і рэдкія адзінкі здолелі туды прайсці, астатнія правялі мітынг у полі, на ўзгорку. Тады ж упершыню быў адкрыта ўзьняты беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, забаронены ўладамі. Гэты сьцяг стаў сімвалам дэмакратыі і антыкамунізму ў Беларусі.

У гэты ж дзень дзясяткі людзей былі асуджаныя за ўдзел у «Дзядах». Абурэньне грамадскасьці неадэкватнай рэакцыяй уладаў было вялікім. У выніку тысячы людей далучыліся да толькі што народжанага дэмакратычнага руху — Арганізацыйнага камітэта БНФ «Адраджэньне». Гэта была ўжо барацьба не дзясяткаў, а сотняў і тысячаў, што і прывяло ў выніку да падзеньня камуністычнага рэжыму.

З тых часоў штогод на «Дзяды» тысячы людзей праходзяць шлях да Курапатаў. Рэвізія дэмакратычных заваёваў, якую праводзіць А. Лукашэнка, датыкнуліся і Курапатаў. У 1997–1998 гадах па заяўцы групы сталіністаў, якія сьцьвярджалі, што ў Курапатах былі расстраляныя гамбургскія габрэі падчас вайны, рэспубліканская пракуратура правяла чарговыя маштабныя дасьледаваньні. У тым ліку былі раскапа-

ныя некалькі пахаваньняў і дасьледаваныя парэшткі 600 чалавек, знойдзеныя ў іх. Нягледзячы на ўсё стараньне пракуратуры ў гэтай заказной справе, аніводнага доказу расстрэлаў падчас вайны знойдзена не было.

У Курапатах перадлукашэнкаўскія ўлады паставілі камень, на якім напісана, што зь цягам часу на гэтым месцы будзе пастаўленая капліца ў памяць забітых тут людзей. Але з пэўнасьцю можна сказаць, што сёньняшнія ўлады ніколі не паставяць гэтую капліцу, бо паводзіны і замашкі прэзідэнта А. Лукашэнкі ідэйна роднасныя замашкам і паводзінам тагачаснага дыктатара І. Сталіна. Прырода дыктатуры аднолькавая, і не мае значэньня, колькі палітычных зьняволеных сядзіць у турме — дзесяць ці дзесяць тысяч.

Паставіць капліцу ў Курапатах — гэта значыць прызнаць памылкі тагачаснага дыктатара і ледзь не ўласныя памылкі, якіх для А. Лукашэнкі не існуе.

*Бюлетэнь «Права на Волю», № 20, кастрычнік 1998 г.*

## З БЛОГА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

### Ерэван-1

Быў не так даўно ў Арменіі. Практычна ў адзін час з Лукашэнкам. Бачыў на лётным полі ягоны самалёт з чырвона-зялёным сьцяжком. Толькі ён з Коленькам, а я з трыма французскімі дзяўчатамі. Дык вось пра прыгоды адной зь іх я і хачу распавесьці. Я ляцеў на іншым самалёце, прылецеў у пяць гадзінаў ранку, і дзяўчаты распавялі мне гэта ўжо за сьняданкам. Жульен, так яе завуць, прыехала ў Ерэван з пратэрмінаваным пашпартам. Французы выпусьцілі і не зьвярнулі ўвагі, а армяне-памежнікі спынілі. Дзяўчаты доўга ўгаворвалі, каб яе прапусьцілі, казалі пра тое, што яны зь Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, што будуць сустракацца

заўтра ў Ерэване з высокімі армянскімі ўрадоўцамі і што, адным словам, не ўпусьціць іх немагчыма. Армянскія памежнікі ўжо завагаліся і гатовыя былі махнуць рукою і прапусьціць, але прыбеглі дзьве расейскія цёткі-памежніцы і ўсчалі гвалт — нельга! Французскім дзяўчатам нічога не заставалася, як у дзесяць гадзінаў вечара тэлефанаваць у французскую амбасаду консулу, які выслухаў іх і адразу ж прыслаў чалавека, і ўгаворваў памежнікаў ужо ён. Але расіянкі стаялі сьцяною: нельга — і ўсё! Урэшце празь дзьве гадзіны перамоваў дамовіліся, што Жульен упусьцяць на тэрыторыю Арменіі, каб яна хаця б пераначавала ў гатэлі, а не на аэравакзале. Гэты ж самы самалёт кампаніі «Франсаэра» адлятаў заўтра ў 11 гадзінаў, і да гэтага часу яна павінна была вырашыць праблемы з пашпартам, а інакш мусіла вылецець назад, у свой Парыж.

У 9 ранку Жульен паехала ў французскую амбасаду, дзе ёй праз паўгадзіны выдалі новы, ужо сапраўдны па тэрмінах пашпарт, зь якім яна вярнулася ў аэрапорт, праштампавала яго і апынулася на армянскай зямлі ўжо на законных падставах. Калі дзяўчаты дзякавалі консулу за хуткую дапамогу, ён супакоіў іх, сказаўшы, што ў год яму прыходзіцца па такіх самых прычынах выдаваць 30–40 пашпартоў, з чаго я зрабіў выснову, што ў Францыі пашпарт зьяўляецца вялікай умоўнасьцю і фармальнасьцю і ніхто да яго не ставіцца такім сур’ёзным чынам, як у нашых былых постсавецкіх краінах, дзе «без бумажкі ты букашка, а з бумажкай — чалавек».

І што мяне яшчэ зьдзівіла, дык гэта тое, што армянская мяжа і надалей працягвае ахоўвацца расейскімі памежнікамі. Я чытаў пра гэта неяк даўно, што ёсьць у Расіі і Арменіі такое пагадненьне, але ж думаў, што яно ўжо даўно скончылася, але ж не... І не толькі на мяжы Арменіі з Іранам, але і ў ерэванскім аэрапорце расійскія памежнікі вартуюць стратэгічныя інтарэсы Расіі, у прыватнасьці не пускаюць у Ерэван легкадумных французскіх дзяўчат...

*27.03.2009*

### Ерэван — помнікі

Сам Ерэван у першай палове сакавіка выглядае даволі смутна. Яшчэ няма зеляніны на вуліцах, сьнег ужо сышоў, і зімовае непрыбранае сьмецьце ляжыць у дварах і на ўзбочынах дарог. Шэрыя каменныя і жоўтыя земляныя ўзгоркі, на якіх стаіць горад, пераходзяць у стромыя безжыцьцёвыя сухія лагчыны, засыпаныя каменнымі восыпамі. Адзінае — Арарат уражвае сваёй веліччу, няўлоўна па-за смугою, на ладны кавалак неба, белы, у сьнягах, праглядаецца ён на гарадскім небасхіле. Архітэктура горада пераважна савецкага стылю — знаёмыя хрушчоўкі і бетонныя шматпавярховікі. Але вось пасярод двара, заціснутага сучаснымі дамамі, стаіць маленькая армянская царкоўка. Я зазіраю і бачу са старых фатаздымкаў на сьценах, што гэта толькі адзін з шасьці нефаў некалі большай царквы, разбуранай у 1960-я гады. А год яе стварэньня — 1260-ы. Каля сьценаў ляжаць кавалкі ад былых калонаў, упрыгожаныя густой армянскай вязьзю, у алтары на ніжным алтарным камені праглядаюцца вырытыя некалі пяцікантовыя зоркі.

Каля французскай амбасады пачынаецца вуліца-сквер зь вялікай скульптурнай кампазіцыяй на самым пачатку. Штосьці ў постаці суровага гранітнага мужыка ў шынялі і вайсковай кепцы, які стаіць на фоне высокіх гранітных стэлаў, мне падаецца знаёмым. Пытаюся ў армянскага калегі-праваабаронцы Артака: «А хто гэта?» — «Мясьнікян»,— кажа. Дык гэта ж той Мясьнікян, у гонар якога ў Менску названа вуліца Мясьнікова, які жалезнаю рукою ўсталёўваў савецкую ўладу ў Беларусі і супраціўляўся ўтварэньню такой дзяржавы — Беларусь! Аказваецца ў 1921 годзе, пасьля таго як Арменія страціла праз бальшавікоў незалежнасьць, Мясьнікян быў пасланы ў Ерэван, дзе ўсталёўваў савецкую ўладу ўжо ў Арменіі. Таму і паставілі яму помнік у Ерэване.

А яшчэ мне запомніўся помнік быку, які стаіць на адной з цэнтральных вуліцаў Ерэвана. Цікавы ён тым, што зроблены з розных машынных дэталяў — розных скобаў, гаек, ка-

валкаў матора ды іншых механічных частак, якімі заваленыя машынныя сьметнікі. Бык у майстры атрымаўся знакаміты. Прысагнутыя ў экспрэсіі ногі, драпежна ўзьняты хвост — вось-вось кінецца біцца!

Высока над Ерэванам стаіць Маці-Арменія з крыжам у руках. Бачная яна хіба з усіх кропак горада. Некалі на гэтым самым пастаменце стаяў Сталін. Затым Сталіна прыбралі, а пастамент ашчадзілі, і на яго паставілі гэтую Маці.

Са сталінскіх часоў засталася і цэнтральная плошча Ерэвана — плошча Рэспублікі, афармленая выгнутымі псеўдакласічнымі будынкамі з чырвонага туфу. На ёй пачуваеш сябе як у Менску на плошчы Перамогі.

На «вуліцы барбекю» — вуліцы, з двух бакоў забудаванай рэстаранамі ды шашлычнымі, выходзім мы з аднаго зь іх, паабедаўшы, і адная з нашых дзяўчатаў-францужанак, гледзячы на бетонны плот зь вітых бетонных вушак, які адзьдзяляе дарогу ад лагчыны, кажа: «Вось некалі някепскі быў горад Ерэван, стары, прыгожы, было што паглядзець, а зараз — вось!» — і паказвае на бетонны плот. Ну што ж, пагаджаюся я, і гэта застанецца тут помнікам савецкага часу.

*27.03.2009*

**Парыж**

Пачатак красавіка. Беларусь яшчэ зацярушаная сьнегам. Гэта добра бачна з ілюмінатара самалёта, калі ўзьлятаем над аэрапортам. Белымі плямамі пад намі ляжаць палі. Чорнымі масівамі раскінуліся ўнізе сасновыя бары. Роўныя шнуры чорных дарогаў і зьвілістыя лініі рэчак. На вадасховішчах і азёрах яшчэ ляжыць зжаўцелы лёд. Лесу шмат. І гэта асноўны прыродны кантраст, які кідаецца ў вочы ў параўнаньні зь еўрапейскімі краінамі. У Франкфурце, дзе перасадка, ужо зялёныя палі, будаўнічыя кар’еры, густыя вёскі з чырвонымі дахамі дамоў. А ў Парыжы ўжо вясна ўваўсю. Зялёная

сакавітая трава, распускаецца лісьце каштанаў. Паўз дарогу з аэрапорта праязджаем стыхійны кемпінг аўтамабільных прычэпаў, закіданы паперай і цэлафанам. Пытаюся, а што гэта такое. Таксіст-в'етнамец адказвае: тут жывуць бедныя людзі, якія не маюць дамоў.

У нядзелю зранку выходжу, каб прабегчыся, і ў лобі гатэля сустракаю чалавек з шэсьць падхорцістых высокіх і худых мужыкоў, узростам каля сарака, апранутых у спартовыя касьцюмы ў абцяжку, з біклажкамі вады на баку і зь сінімі накідкамі ад дажджу. Яны акружаныя дзецьмі і жанчынамі. Думаю, чаго гэта яны ўзьняліся ў такую рань. Нейкія арганізаваныя бегуны. І толькі трухаючы ў бок плошчы Бастыліі, на афішы, прылепленай на тумбу, чытаю, што сёньня, аказваецца, парыжскі марафон. Народ, каб узяць у ім удзел, зьехаўся з усёй Еўропы, і, як відаць, зь сем'ямі і дзецьмі.

А я бягу па сьвежазмытых тратуарах вуліцы Сан-Антуан. Прыбіральшчыкі на вулках Парыжа зранку адчыняюць люкі, пускаюць ваду і проста змываюць шлангамі з ходнікаў накоплены за дзень і за ноч пыл і гарадскі бруд. На плошчы Бастыліі, пад прыступкамі оперы, у спальніках, захінуўшыся з галавой, падсьцяліўшы кардоны, сьпяць бамжы. Прабягаю па беразе воднага канала, пераскокваю праз плот і трапляю ў невялікі гарадскі парк. Парк разьбіты на французскі манер. Усё тут маленькае, калі не мікраскапічнае, але старанна дагледжанае. Ён яшчэ зачынены для наведвальнікаў, і ў ім калупаецца з вазком і рыдлёўкаю толькі садоўнік, і я праходжваюся туды-сюды, пазіраю на ваду, на птушак, якія сьпяваюць па-веснавому, шчодра і голасна, на Апалона, які блішчыць залатымі крыламі, стоячы пасярэдзіне плошчы Бастыліі на трыумфальным слупе.

Пасьля дванаццаці маем вольны час і ідзём прагуляцца па старым Парыжы. Нас трое — расіянка Саша, якая жыве ў Парыжы ўжо пятнаццаць гадоў, армянін Артак і я. «Я б вас павяла на Манмартр, але Мутабар не дойдзе. Туды пойдзем наступным разам, а зараз ідзём непадалёк, у квартал Тамплі-

ераў. Па дарозе заходзім па Мутабар, якая з Узьбекістана і зараз лечыцца ў Парыжы пасьля двух з паловаю гадоў адсідкі ў роднай узьбекскай турме, у якой ледзь не памерла ад катаваньняў і гвалту. Яна за сваю дзейнасьць у абарону правоў працоўных дастала шэсьць гадоў зьняволеньня і была выпушчаная толькі пад міжнародным ціскам. Праз паўгода атрымала французскую візу, выехала, ёй зрабілі аперацыю, зараз прыходзіць у сябе і неўзабаве зьбіраецца вяртацца на радзіму. Але кожную ноч ёй сьняцца жахі, што яна зноў у турме, — распавядае Саша, — і таму яна амаль не сьпіць». Гледзячы на сьмяшлівую, жыцьцярадасную Мутабар, ніколі не скажаш, што яна мае цяжкія праблемы са здароўем.

Бываючы ўжо не аднойчы ў Парыжы, кожны раз заўважаю пэўную аднастайнасьць гэтага горада, збудаванага ў асноўным у XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Рэдкімі зубамі ў шчыльных радах чатырох-шасьціпавярховых камяніцаў з кавярнямі і крамамі на першых паверхах і мансардамі на апошніх трапляюцца старыя касьцёлы, складзеныя з абкурodымленага вапняку. А Нотр-Дам ды некаторыя іншыя старыя храмы пачышчаныя ад нагару стагодзьдзяў і выглядаюць на навабуд. Зараз Парыж — гэта горад турыстаў, а не горад паэтаў ды мастакоў.

Саша распавядае, чаму стаўся гэткім Парыж. У сярэдзіне XIX стагодзьдзя адзін з французскіх каралёў сеў на трон у выніку чарговай рэвалюцыі, узьнятай гарадской беднатою. І каб яго не скінулі падобным чынам, загадаў свайму архітэктару разбурыць вузкія і крывыя сярэднявечныя вулкі Парыжа і пабудаваць шырокія і прамыя бульвары, каб лягчэй было скарыстоўваць артылерыю. Засталіся толькі невялікія лапікі гарадской сярэдневяковай архітэктуры, сярод якіх і квартал Тампліераў, названы так, бо калісьці ў XIII стагодзьдзі ён належаў закону рыцараў Тампліераў. Сумная гісторыя гэтага закону вядомая. Тагачасны французскі кароль напазычаў у іх шмат грошай і, каб не аддаваць пазыку, абвінаваціў іх у сукрыцьці ерасі. І хаця абвінавачваньні былі абсурдныя, напрыклад тое, што яны пакланяюцца кошкам,

тампліераў вывезьлі на маленькую выспу на Сене і спалілі на вачах у радаснага парыжскага народу. А ўся маёмасьць тампліераў, натуральна, дасталася каралю. І хоць прайшло столькі часу, засталіся старажытныя дамы, у якіх яны жылі, з таўшчэзнымі сьценамі, умацаванымі вежамі на кутах і маленькімі вокнамі, якія хутчэй нагадваюць байніцы. Затым у гэтым квартале пасяліліся габрэі, якія паступова зрабілі яго цэнтрам габрэйскага жыцьця ў Францыі. І тут у вайну кароткі час знаходзілася габрэйскае гета. У 1942 годзе усіх габрэяў вывезьлі ў канцэнтрацыйныя лагеры на ўсход, і толькі як памяць пра іх засталіся будынкі дзіўных сінагогаў, пабудаваныя ў мадэрновым стылі. У галоўнай сінагозе квартала перад адпраўкаю ў лагеры зьбіралі габрэйскіх дзяцей, і зараз у ёй адбываюцца штогадовыя памятныя мерапрыемствы ахвяраў халакосту.

Мы праходзім каля гэтай сінагогі, якая па архітэктуры нагадвае вакзал пачатку XX стагодзьдзя, бачым на ёй вясёлкавыя сьцягі, сёньня там праходзіць зьезд людзей нетрадыцыйнай арыентацыі. Саша сьмяецца: вось такі ён, сёньняшні Парыж, у квартале Тампліераў, у галоўнай сінагозе — зьезд гомасэксуалістаў і лесьбіянак, усё перамешана, так проста і не зразумець.

Зараз габрэі зноў вярнуліся ў гэты квартал, працуюць кашэрныя рэстараны, ідзе гандаль, але ў асноўным гэта перасяленцы зь Міжземнамор’я.

Апошняя кропка, дзе мы спыняемся, — палац Рышэльё, вялізны па плошчы чатырохбаковы з закрытым некалі ўнутраным дваром будынак. Зараз гэты ўнутраны двор, па памерах са стадыённае поле, як кажа Саша, — любімае месца спатканьняў закаханых.

Вось і канец нашай экскурсіі па гэтым дзіўным квартале. Саша праводзіць Мутабар дадому, а мы з Артакам кіруем у Луур. Ужо пятая гадзіна, музей хутка зачыніцца, але сёньня дзень бясплатнага наведваньня, які бывае раз у месяц, таму мы вырашаем паспрабаваць патрапіць хаця б ненадоўга. Пакуль мы дабіраемся да Луўра, пакуль трапляем у сярэдзі-

ну шкляной піраміды, зь якой разыходзяцца ўваходы ў розныя залы і луўрскія экспазіцыі, становіцца палова на шостую і наглядчыкі ў музеі пачынаюць перакрываць уваходы. Мы заўважаем яшчэ адзін неперакрыты і спрабуем «прасачыцца». Нам гэта ўдаецца і мы трапляем... у грэцкую залу, залу старажытнай грэцкай скульптуры. Адразу згадаўся Райкін зь ягоным «у грэчаскай зале, у грэчаскай зале...». Вось так і мы, кіруем па ўказальніках адразу да Венеры Мілоскай, каб хоць пасьпець паглядзець на яе. Увогуле сам будынак Луўра ўражвае сваім аб'ёмам. Вялізны палац з двума даўжэзнымі, па некалькі соцень метраў, крыламі, пабудаваны як сімвал велічы французскіх каралёў, жыць у якім было, мабыць, проста немагчыма. Піцерскі зімовы палац расійскіх цароў, вой які немаленькі, выглядае ў параўнаньні з Луўрам на летнюю дачу.

Каля Венеры, як заўсёды, шмат японцаў, якія бесьперастанку фатаграфуюцца. Скульптура насамрэч дасканалая, не верыцца, што яе зрабілі больш за дзьве тысячы гадоў таму. Венера прыгожая, толькі профіль яе выдае велікаваты, на тагачасны густ грэцкіх мужчынаў, нос. Урэшце і адсюль нас просяць наглядчыкі, мы кіруем на выхад праз залу грэцкай скульптуры, і ў нас ёсьць яшчэ паўгадзіны на агляд іншых скульптураў. Грэкі любілі выразаць у мармуры прыгожае чалавечае цела. І гэтая зала зьяўляецца такой мармуровай паэмай у гонар чалавечага цела. Тут і маленькі хлопчык зь лебедзем, падобны на таго, што стаіць у Менску ў Аляксандраўскім скверы, тут і страсная німфа з вакхам у абдымку, тут і ганарлівая велічная Дыяна з аленем, тут і п'яны вакх, тут і скульптура сьпячага гермафрадыта. Мы выходзім з Луўра амаль што апошнімі, але задаволенымі. Бо без сэнсу імкнуцца паглядзець Луўр за адзін дзень. Лепей, калі ёсьць магчымасьць, гэта рабіць невялікімі порцыямі.

*30.06.2009*

**Цыгане**

Учора, 9 красавіка, быў Міжнародны дзень цыганоў. Гэта ўсё да талеранцыі нашага народа. У нас цыганамі палохаюць дзяцей. Памятаю і мяне, пяцігадовага, як мы жылі яшчэ ў Сьветлагорску, толькі вярнуўшыся з Карэліі, ва «ўрамянках», недалёка каля вакзала, учатырох: бацькі, мой старэйшы брат і я — у зьбітым з дошак куране, які складаўся з аднаго цёплага пакоя і халодных сенцаў, сярод такіх самых куранёў, якія былі бязладна раскіданыя сярод сасновага лесу. Дык вось мяне бацькі пакідалі аднаго на цэлы дзень, ішлі працаваць, бо ў дзіцячых садках не хапала вольных месцаў, а брат хадзіў ужо ў школу, і хавалі ад мяне запалкі, каб не спаліў «урамянку», бо была ў мяне невытлумачальная слабасьць да жывога агню і двойчы я ўжо спрабаваў гэта зрабіць (не лічачы тое, што і ў Карэліі, у мястэчку Вяртсіля, дзе мы жылі, маючы паўтара года ад роду я ўхітрыўся падпаліць нашую кухню), і палохалі цыганамі, «якія мяне ўкрадуць», калі буду гойсаць далёка ад дому, бо таксама знаходзілі мяне чужыя людзі пару разоў далёка забрыўшым і заблудзіўшымся ці то ў лесе, ці то па другі бок чыгункі, на вуліцах прывакзальнага пасёлка. Чагосьці шукала маладая душа мая і не магла знайсьці.

Але я пра цыганоў. У Сьветлагорску цыгане жылі на прывакзальных вуліцах. Быў у нас яшчэ сабака Тузік, белы з рудымі плямамі, беларускі вялікаваты дварняк, мой верны сябра, зь якім я гойсаў па ўмоўных вуліцах сярод самаробных халабудаў, хадзіў зьбіраць масьлякі і сыраежкі, а таксама пустыя гільзы ад патронаў, якімі былі засыпаныя навакольныя шматлікія акопы. І Тузік любіў мяне, адзін раз нават у знак любові прыцягнуў зь лесу задушанага зайца. Мне ні кроплі не было шкада гэтага зайца са шклянымі крывавымі вачыма. І вось аднаго разу гулялі мы з Тузікам адныя, каля нашай хаткі, паўзь якую па сьцежцы ішлі ў бок вакзала дзьве цыганкі, чарнявыя, смуглявыя, у стракатых спадніцах, зь нейкімі клункамі ў руках. І я так падумаў, што

гэта яны прыйшлі красьці мяне. Таму ўзяў Тузіка на дзяжку і нацкаваў яго на бедных цыганак. Гналі мы іх метраў сто. Ніякай шкоды ён ім не нарабіў, але брахаў голасна, рады быў даказаць мне сваю адданасьць. Калі бацькі прыйшлі з працы, я ім з гонарам распавёў пра тое, што прыходзілі цыганкі мяне красьці, але я не даўся і мы з Тузікам прагналі іх.

А зараз згадваць пра гэта неяк сорамна. І я быў у свой час далучыўся да дыскрымінацыі цыганаў. Таму ў мінулым годзе, калі надарылася магчымасьць, я ахвотна адкупіў свой грэх. Але пра гэта — у наступнай нататцы.

*10.04.2009*

### Цыгане на вуліцах Ерэвана

Пару тыдняў таму прачытаў у «Камсамолцы» шавіністычны артыкул піцерскага карэспандэнта, накіраваны супраць цыганоў. Не буду казаць пра гэтага журналіста, які некалі быў адзначыўся сваёй любоўю да фашыкаў, не буду казаць пра «Камсамолку», у якой хапае культурнага ўзроўню друкаваць такое, а лепей напішу пра тое, як я бараніў цыганоў у гэтым самым Піцеры.

Пазалетась быў я там. Цікавы такі гарадок. Апошні раз перад гэтым быў я ў канцы 80-х на сходцы «нефармальных арганізацыяў», пад Піцерам, у лесе. Сабіраліся расіяне, літоўцы, беларусы, украінцы, здаецца. Гаварылі пра тое, як можна дэмакратызаваць Савецкі Саюз. Мы ўсе, апроч расіянаў, цягнулі за незалежнасьць. І Піцер мне запомніўся як абадраны, шэры, беднаваты горад. Начавалі мы на раскладушках у нейкай камуналцы — вялізным пакоі з чатырохметровай вышыні столямі, адным з тых, што некалі падзяліў у вялікай панскай кватэры паміж сабой пралетарыят. І есьці асабліва не было чаго.

А вось зараз горад аджыў. Пахарашэў і пабагацеў. Адзін зь дзён нашага праваабарончага візіту прыпадаў на нядзелю.

Каталіся мы на катары па піцерскіх каналах, разглядалі розныя помнікі, хадзілі на экскурсію ў Зімовы палац, які пасьля Луўра здаўся мне душным і невялікім, а ўвечары нават патрапілі на канцэрт «Ролінгаў», якія сьпявалі на плошчы перад Зімовым палацам. У кавярні ў кароткім тулупчыку тусаваўся Макарэвіч, Мік Джагер бегаў па сцэне, як малады. Шматлікія бляшанкі з напітага гледачамі піва зьбіралі дзеці-цыгане. Спрытна душылі-расплюшчвалі іх нагою і ўкідвалі ў вялікія поліэтыленавыя пакеты.

Назаўтра, ідучы ў краму непадалёк ад гатэля, убачыў я, як туды заходзіць чародка цыганскіх дзяўчынак. Чалавек шэсьць, узросту гадоў ад васьмі да дванаццаці. Апранутыя як дзетдомаўцы, старэйшая — падстрыжаная пад хлопчыка зь няўмела нафарбаванымі чырвонымі вуснамі. Паводзілі яны сябе вельмі сьціпла. Адна дзяўчынка ўжо стала ў чаргу, астатнія разглядалі цукеркі, шакаладкі і чыпсы і раіліся паміж сабой па-цыганску — што купляць. Адна з прадаўшчыцаў — здаровая, у целе цётка, выйшла з-за прылаўка і пачала, памахваючы рукамі, зграбаць іх у кучу і выганяць: «Пайшлі адсюль, пайшлі!» Дзеці сумеліся, старэйшая дзяўчынка спыталася на ламанай рускай мове: «А что мы делаем?» Было бачна, што іншыя і гэтага сказаць не маглі. «Не хватало, чтобы вы еще что-то сделалі!» — адказала яна.

«Встаньте на место! — узвысіў голас я на прадаўшчыцу, — они тоже люди! И относитесь к ним, как к людям!» Прагучэла гэта неяк па-дурному. І так зразумела, што яны людзі. Але што было сказана, тое сказана. Урэшце яно спрацавала, як я хацеў. Прадаўшчыца зьдзівілася, але хутка рэтыравалася за прылавак і ўжо адтуль, як з-за барыкады, прабурчэла: «Вот обчистят вам карманы, тогда будут вам люди». Дзяўчаткі купілі свае сьнікерсы, а я задаволены выйшаў з крамы сьледам за імі.

*15.04.2009*

## РУПІЦЦА АБ ЭСТЭТЫЦЫ, КРАСЕ ТАГО, ШТО ІДЗЕ ДА ЛЮДЗЕЙ...

Імпульс для гэтага інтэрв'ю ўзьнік на чыста эстэтычнай глебе: пасьля наведваньня музея Максіма Багдановіча ў Траецкім прадмесьці. Уразіла аздоба экспазіцыі, паэтычная манера правядзеньня экскурсіі. Усё гэта было прыемна і нечакана. Пра тое, як ствараўся музей, якія людзі спрычыніліся да музейнай справы, вырашыў распытаць у дырэктара музея, літаратуразнаўца і дзеяча Беларускай Каталіцкай Грамады **Алеся Бяляцкага**.

***— Можа, крыху наіўнае пытаньне, але чаму ты ў свой час зьмяніў літаратуразнаўчую дзялянку на музейную, так бы мовіць, Слова на Рэч, чысты дух на візуальныя кляйноты Духу?***

— Зараз столькі ўсяго выходзіць, што ты, Юрась, мабыць, проста не заўважаеш, што ўсё ж такі тое-сёе зь літаратурных дасьледаваньняў у мяне зьяўляецца. Так, летась у «Хрысьціянскай думцы» ў другім нумары былі надрукаваныя невядомыя вершы Каруся Каганца, якія, як падаецца, радыкальным чынам мяняюць уяўленьне пра гэтага паэта, а ў «Родным слове» № 6 — артыкул пра Янку Юхнаўца, хіба што першы са спробай даць нейкі аналіз гэтага вялікага, не пабаюся сказаць, паэта, які жыве ў Нью-Ёрку. Сёлета выйшла кніжка яго вершаў «Сны на чужыне» з маім укладаньнем і прадмовай. Думаю, да канца года зьявіцца яшчэ штосьці з апісанага і здадзенага. Хоць у нечым з табой нельга не пагадзіцца. Я не лічу сябе прафесіяналам у літаратуразнаўстве.

Хутчэй, дасьледчыкам-аматарам (як у спорце), які мае такі-сякі густ і «нюх», але не мае дастаткова часу, каб сур'ёзна гэтым займацца. Для літаратуразнаўства неабходныя тры рэчы. Па-першае, адчуваньне літаратуры. Гэта як музычны слых. У нас шмат людзей бяруцца дасьледаваць літаратуру, а не маюць яго. Па-другое, грунтоўная тэарэтычная падрыхтоўка, прафесіяналізм, чаго ў нас амаль ніхто не мае, як не маю і я, нягледзячы на ўніверсітэт і асьпірантуру. І гэта зразумела, бо ў каго ж мы маглі вучыцца? Якія замежныя мовы ведаем? У якіх еўрапейскіх універсітэтах, вядомых літаратуразнаўчых школах праходзілі стажыроўкі? Наша беларуская класічная школа літаратуразнаўства — гэта складовая частка савецкай (чытай — расейскай) школы, якая 50 гадоў, як на абразы, малілася на прынцыпы сацыялістычнага рэалізму. І колькі лёсаў, колькі талентаў, колькі гадоў працы легла ў падмурак гэтага казачнага палаца, які зараз разваліўся, бо, аказваецца, будаваўся на пяску.

Менавіта таму, як мне здаецца, зараз амаль спыніўся ўсялякі працэс асэнсаваньня нашай літаратуры, бо згубілася звыклая сістэма каардынат. Што было забароненым — стала добрым, а што добрым — стала сьмешным. І ўсе аслупянелі. Ніхто не ведае, зь якім багажом і куды далей ісьці. Гэта бачна нават на побытавым, я сказаў бы, на рэцэнзійным узроўні. Кажу шчыра, за апошні год я не прачытаў у «ЛіМе», бадай, ніводнай рэцэнзіі, якая зацікавіла б мяне з прафесійнага боку. Нейкі тон у гэтым спрабуе задаць «Наша Ніва», але і ў іх вельмі часта бракуе прафесіяналізму.

Ні ў якім выпадку не хачу нікога асуджаць ці крытыкаваць. Я толькі канстатую: што маем, тое і маем. У нас ёсьць цудоўныя дасьледчыкі-прыкладнікі. Гэта Адам Мальдзіс, Язэп Янушкевіч, Іван Саверчанка, Сяргей Кавалёў ды іншыя, але няма літаратуразнаўцаў-тэарэтыкаў. Тут можна вылучыць Сяргея Дубаўца, Пятра Васючэнку, Ігара Бабкова, Івана Афанасьева, якія ўсё ж здолелі штосьці адшукаць самі, ператварыць гэтае «штосьці». І больш-менш пасьпяхова спрабуюць прышчапіць свой досьвед на глебу тутэйшага літара-

туразнаўства (хоць апошняму зь іх, на мой погляд, замінае арыентацыя не на Менск, а на Маскву).

І трэцяя рэч — сур'ёзныя адносіны да літаратуразнаўства. Яны мусяць быць на першым месцы. Пісаць трэба ўвесь час. А вось гэтым з тых, у каго штосьці атрымліваецца, не займаецца, бадай, ніхто...

***— ...і лёс распарадзіўся так, што літаратуразнаўца Алесь Бяляцкі ператварыўся ў музейшчыка. Ці стаў ён прафесіяналам у гэтай справе?***

— Што датычыць мяне, то магу сьцьвярджаць пэўна, што зараз я — прафесіянал-музейшчык. Гэта адзінае, што магу сьцьвердзіць пэўна. Нават па старых міністэрскіх мерках чалавек, які прапрацаваў у музеі пяць гадоў, можа займаць там любую пасаду.

Прычына майго захапленьня музеем трывіяльная. Пасьля асьпірантуры ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук па ўказаньні партыйных органаў мяне мусілі разьмеркаваць у Гомель. Надта гэтаму я не пярэчыў, бо Гомель любіў і люблю. І вельмі паважаю загадчыка кафедры беларускай літаратуры Гомельскага ўніверсітэта Івана Штэйнера, але за тры дні да ад'езду Ірына Марачкіна, супрацоўніца музея гісторыі беларускай літаратуры, прапанавала ўладкавацца на працу ў гэты музей. Вядома, спакусы сталічнага палітычнага і культурнага жыцьця пераважылі, тым больш што мне сапраўды падабалася займацца гісторыяй нашай літаратуры. Праз чатыры месяцы адбыліся выбары дырэктара музея Максіма Багдановіча, у будынку якога на той час месьціўся калектыў музея гісторыі беларускай літаратуры, і дзяўчаты-гаспадыні «па сакрэце» сказалі мне, што калі дам згоду і вылучуся, дык выберуць мяне.

Было чатыры прэтэндэнты, і аднагалосна выбралі мяне. У Міністэрстве культуры, якому падпарадкоўваецца музей, думалі цэлы месяц, перш чым зацьвердзілі вынікі выбараў. Але ўрэшце выйшаў загад. І так я стаў самым маладым дырэктарам музея. Нагадаю, кампанія выбараў дырэктараў кацілася тады па ўсім Саюзе, і я проста падпаў пад яе.

З боку міністэрства гэта быў рызыкоўны крок. Пэўна, што яны ведалі мае акадэмічныя «характарыстыкі», але ж праз два гады, да 100-годзьдзя з дня нараджэньня Максіма Багдановіча, мусіў адчыніцца музей, у якім на той час былі толькі голыя сьцены.

Калі б я ведаў, чым мне давядзецца займацца як дырэктару музея, а гэта гады татальнага дэфіцыту, я б яшчэ сто разоў узважыў, перш чым пагадзіцца на гэта.

***— Варта акрэсьліць гісторыю ладкаваньня музея Максіма Багдановіча ў Менску: якія людзі спрычыніліся да гэтай справы больш актыўна і плённа?***

— Калі ў 1981 годзе да 90-х угодкаў паэта была створаная рабочая група па стварэньні музея, то існавала толькі чыстая мара — стварыць музей. Пасьля сьмерці паэта мінула больш за 60 гадоў, і не было ніводнага экспаната, які меў дачыненьне да Максіма Багдановіча. Згадаем, што музеі Янкі Купалы і Якуба Коласа ўтварыліся ледзь не адразу па сьмерці нашых песьняроў. А на сёньня мы маем цэнтральны музей Максіма Багдановіча на Траецкім прадмесьці, філію музея «Беларуская хатка», дзе жыў Максім у 1916–1917 гадах, мемарыяльны музей у Яраслаўлі і філію «Фальварак Ракуцёўшчына» ў Маладзечанскім раёне, дзе паэт адпачываў і плённа працаваў летам 1911 года.

Першай — у 1991 годзе — адчынілася «Беларуская хатка». Гэтаму папярэднічалі 10 гадоў цяжкай і як быццам бы непрыкметнай пошукавай і зьбіральніцкай працы, якія ўрэшце далі процьму матэрыялаў, што тычыліся Максіма, ягонае сям'і, знаёмых, — матэрыялаў, якія перадавалі амасферу таго часу ці па нейкіх параметрах падыходзілі да экспазіцый нашых музеяў.

Дзесяць гадоў, дарэчы, сярэдні тэрмін стварэньня любога нармальнага музея. З музейных працаўнікоў трэба згадаць першага дырэктара музея Міхася Пазьнякова, наступнага — Леаніда Хадкевіча, планы якога па разбудове музея я выконваю дасюль, галоўную захавальніцу фондаў Тамару Кароткую і асабліва цёплым словам — навуковага супрацоўніка

Веру Мікуту, якая больш за дзесяць гадоў была своеасаблівым «рухавіком» музея, ягоным мазгавым цэнтрам і сумленьнем, пры ўдзеле якой ствараліся ўсе нашы экспазіцыі.

Шмат дапамаглі ў зборы матэрыялаў сваякі Максіма, якія столькі гадоў захоўвалі сямейныя памяткі, рэліквіі, лісты, а потым перадалі гэта нам, а таксама дасьледчыкам жыцьця і творчасьці Максіма — Ніне Ватацы, Вячаславу Рагойшу, Сяргею Панізьніку... А таксама шматлікія людзі, якія мелі дачыненьне да сям'і Багдановічаў ці проста любілі творы Максіма Багдановіча і стараліся нам дапамагчы.

Асобна хацеў бы адзначыць працу мастакоў-экспазіцыянераў Эдуарда Агуновіча і Генадзя Чыстага, якія ўклалі душу ў мастацкую арганізацыю таго, што хацелі б бачыць на экспазіцыі. Пэўна, ім гэта ўдалося зрабіць. Бачыў я розныя музеі сьвету і без пахвальбы хачу сказаць, што афармленьне музеяў Максіма Багдановіча, падача матэрыялаў, настрой, які пануе ў залах, іх цэласнасьць і шматпланавасьць — на сусьветным узроўні.

Нашы музеі — не халодныя труны, набітыя пыльнымі косткамі. Гэта жывыя стварэньні, калі хочаш — творы, якія выклікаюць у людзей пэўныя эмоцыі. Вось там трэба шукаць і мае пяць гадоў жыцьця.

***— Дарэчы, наведваючы музей на Траецкім, можна бачыць нямала маладых, сімпатычных супрацоўнікаў. Што вабіць гэтых людзей да такой справы?***

— Зь сёньняшніх супрацоўнікаў не хацеў бы называць нікога, каб не перахваліць ці, наадварот, недахваліць некага. Скажу толькі, што гэта сапраўды прыгожыя людзі, энтузіясты, існыя культурнікі, якія за мізэрную плату, дзякуючы ўласнаму імпэту, працуюць на высокім прафесійным узроўні. Не ведаю, наколькі ім хопіць гэтага імпэту, але на сёньняшні дзень калектыў музея, без перабольшаньня, — адзін зь лепшых зладжаных у рэспубліцы.

***— А чым сёння жывуць «захавальнікі духу Багдановіча», якія клопаты перажываюць?***

— Час адкрыцьця экспазіцый для нас яшчэ не мінуў. Мы

працягваем працу ў фальварку Ракуцёўшчына, хочам стварыць там сапраўдны шляхецкі маёнтак пачатку стагодзьдзя. Менавіта пад гэтую мэту зараз шукаюцца і падбіраюцца экспанаты, ідзе іх закупка і рэстаўрацыя.

Стварэньне любой экспазіцыі для музея можна параўнаць хіба што зь землятрусам. Зрэшты, дакладна ў такіх умовах мы працуем ужо даўно, адкрываючы штогод дзейныя новыя экспазіцыі — пры цяперашнім фінансаваньні культуры справа гэтая вельмі складаная.

Як ні дзіўна, але ў музей штогод прыходзяць матэрыялы, зьвязаныя з Максімам. Так, сёлета мы закупілі некалькі ўжо вядомых, але арыгінальных, цудоўна захаваных фотаздымкаў Максіма, ягонай маці, бацькі, бліжэйшых сваякоў, а таксама аўтографы бацькі паэта — Адама Багдановіча. Музей, як магнэс, прыцягвае да сябе гэтыя надзвычай каштоўныя для нашай культуры рэчы. Натуральна, што мы зьбіраем усё, што адносіцца да Максіма, сям'і Багдановічаў і зьяўляецца ў наш час.

Прыемнай неспадзяванкай для нас, як для аматараў паэзіі Максіма Багдановіча, стаў сёлета выпуск кніжкі-малюткі «Вянок», які ажыцьцявіла выдавецтва «Мастацкая літаратура», яго зараз можна набыць у нашым музеі.

Мы вядзём, па магчымасьці, і навуковую працу. Падрыхтаваныя супрацоўнікамі сёлета выйшлі ў «Нёмане» ўспаміны Адама Багдановіча. Падрыхтаваны і трэці год ляжаць у «Маладосьці» ягоныя менскія ўспаміны. Падрыхтаваны да друку таксама зборнік эпісталярных і дакументальных матэрыялаў, якія датычаць сям'і Багдановічаў, спадзяюся, ён стане ў нас гадавіком. На музейным камп'ютары набіраецца зборнік дакладаў з навуковай канферэнцыі, якая праходзіць у музеі раз у два гады і закранае шырокія пытаньні разьвіцьця беларускай культуры. Рыхтуюцца да друку і «Пережитки древнего миросозерцания у белорусов» — этнаграфічная праца Адама Багдановіча, якая аказала ўплыў на творчасьць Максіма Багдановіча. Стагодзьдзе з часу выхаду яе мы плануем адзначыць у наступным годзе.

Складаецца ў нас традыцыя правядзеньня «спатканьняў на Траецкім», на якія мы запрашаем творцаў, эстэтыка творчасьці якіх перагукаецца з эстэтыкай паэзіі Максіма Багдановіча, ладзім мастацкія выставы. Адным словам, ідзе нармальная стваральная праца.

А клопаты? Чакаем аднаўленьня дома Багдановічаў — дома, дзе нарадзіўся Максім. Праектная дакументацыя для яго гатовая, але няма грошай на адбудову. У ім мы прапанавалі зрабіць рэспубліканскую літаратурную дзіцячую школу, якая, дарэчы, ужо год як працавала пад кіраўніцтвам Адама Глобуса ў будынку музея, а таксама стварыць невялікі дзейсны цэнтр па вывучэньні беларускай культуры канца XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Прынамсі, вопыт Польшчы паказвае, што невялікія даследчыя інстытуты працуюць эфектыўней за традыцыйныя акадэмічныя ці ўніверсітэцкія.

Я ўжо маўчу пра хаціну лесьніка ў Вязьзі Асіповіцкага раёна, дзе пэўны час жыла сям'я Багдановічаў і дзе малы Максім упершыню наслухаўся беларускай мовы. Гэтая хаціна цудам захавалася да нашых дзён, але зараз прападае.

***— Наколькі дзейсная выхаваўчая роля музея ў сучасных варунках, ці ідзе да вас наведвальнік — і які?***

— Выхаваўчая роля музея залежыць ад канцэпцыі, ідэі, якая пакладзеная ў аснову экспазіцыі. Наш музей рабіўся ўжо ў новых умовах нашага жыцьця. Практычна ніхто не ўмешваўся ў канцэпцыю экспазіцыі. Хоць яшчэ да мяне, калі супрацоўнікі з мастаком працавалі над эскізамі, іх «адчытваў» і злаваўся за выяву «Пагоні» ў экспазіцыі тагачасны сакратар па ідэалогіі Менскага гаркама Пётр Кузьміч Краўчанка, які, дарэчы, дапамагаў захаваць «Беларускую хатку», якую давялося пераносіць на іншае месца.

Але, калі наблізіўся час працы над экспазіцыяй, мы і мастак рабілі ўсё так, як лічылі патрэбным. Міністр культуры затэлефанаваў у дзень адкрыцьця зраніцы і спытаўся: ці варта ехаць на адкрыцьцё? Ці ёсьць што глядзець? Я адказаў, што варта, ёсьць.

З таго часу ў музей штомесяц прыходзіць каля тысячы

наведнікаў. Пэўна, не меней бывае і ў «Беларускай хатцы», дзе, апроч экскурсій, гаспадар «Хаткі», паэт Едрусь Акулін па-майстэрску паказвае батлейку. У асноўным гэта вучні мінскіх школаў, студэнты. Нярэдкія і замежныя экскурсіі. Так, нядаўна прыходзіла «палітычная экскурсія» партыі Шахрая, прадстаўнікі якой, між іншым, сказалі, што наш музей зьмяніў у іх уяўленьне пра Беларусь. Былі ў нашым музеі і народныя пісьменьнікі Беларусі Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, старшыня БНФ Зянон Пазьняк, мітрапаліт Беларускай праваслаўнай царквы Мікалай, старшыня Рады БНР Язэп Сажыч ды шмат іншых вядомых людзей, для якіх імя Максіма — не пусты гук.

Экскурсіі праводзяцца ў нас насычана. Мы добра ўсьведамляем, што ў адзін і той жа літаратурны музей звычайна чалавек прыходзіць толькі адзін раз. Амаль заўсёды гэта для яго — падзея. І наступным разам ён можа прывесьці хіба толькі сваіх дзяцей. Але ёсць і выключэньні. Неяк мінулай зімой прыходзіў афрыканец, які прыехаў у Менск на стажыроўку. Я часта бачыў яго ў пачакальні, дзе ён сядзеў у вязаных пальчатках. Прыходзіў, мабыць, бо адчуваў утульнасць і асаблівую атмасферу ў халодным зімовым Менску. Нашы наглядчыцы прызвычаіліся да яго.

Я перакананы, што без нармальнай разьвітай музейнай сістэмы ў краіне немагчыма выхаваць культурнага, паўнавартаснага чалавека. Музей — гэта як школа. Нават самыя зацятыя прагматыкі згодныя з патрэбай школьніцтва. А вось адукаваныя дзядзькі-чыноўнікі патрэбу ў музеях для цывілізаванага грамадства, здаецца, не вельмі адчуваюць.

***— Як бы ты ўвогуле ацаніў прысутнасьць — сімвалічную, маральную — Максіма Багдановіча ў паспалітым жыцьці Беларусі канца XX стагодзьдзя? Што да музейнай справы — ці хопіць музейшчыкам працы па пошуках, фіксаваньні і асьвятленьні спадчыны Песьняра чыстае красы?***

— Як мінімальную, хоць, можа быць, найбольшую з усёй беларускай літаратуры. Беларуская культура, на жаль, мае вельмі малое дачыненьне да паспалітага жыцьця. Трэба па-

чакаць гадоў 10–15, пакуль падрастуць тыя дзеткі, што зараз масава ідуць у беларускія класы. Упэўнены, тады будзе іншая сітуацыя. Але, па маіх назіраньнях, у нашым зрусіфікаваным і пазбаўленым праз гэта культуры грамадстве менавіта паэзія Максіма Багдановіча прымушае не адну чуйную душу наблізіцца да беларушчыны. Вялізнае ўзьдзеяньне яго паэзіі, якая чаруе і прыцягвае. Многія людзі, што не маюць прафесійнага дачыненьня да культуры, з задавальненьнем чытаюць на памяць вершы Максіма, якія памятаюць яшчэ са школьнай праграмы. Хацелася б, каб уся наша культура ўспрымалася, як паэзія Максіма Багдановіча. І тут, лічу, найважнейшая задача тых асоб, якія працуюць у беларускай культуры, адукацыі, сродках масавай інфармацыі, — рупіцца аб эстэтыцы, «красе» таго, што ідзе ад іх да людзей, на працягу доўгага часу адлучаных ад сваёй праўдзівай культуры.

Тое, што прыходзіць з загадамі, імі ж і адмяняецца. Але выкараніць любоў да Бацькаўшчыны, да сваёй культуры, мовы — немагчыма.

Што датычыць нашай работы, — думаю, яна будзе карыснай і патрэбнай аж да таго, пакуль будзе жыць Беларусь.

*Гутарыў Юрась Залоска.*

*«Літаратура і мастацтва», 9 сьнежня 1994 года.*

## МЫ АКАЗВАЕМ РЭАЛЬНУЮ ДАПАМОГУ АХВЯРАМ ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЯЎ

**Праваабарончы цэнтр «Вясна-96» — недзяржаўная грамадская арганізацыя, створаная ў красавіку 1996 года падчас масавых акцыяў пратэсту. Асноўныя намаганьні «Вясны-96» накіраваныя на рэальную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў: перадачы ў месцы зьняволеньня, арганізацыі адвакацкай абароны, матэрыяльная і маральная падтрымка сем'яў палітычных вязьняў. Са студзеня 1998 года цэнтр наладзіў выпуск бюлетэня «Права на Волю», які выходзіць на беларускай, рускай і англійскай мовах. Наш суразмоўца — старшыня праваабарончага цэнтра «Вясна-96» Алесь Бяляцкі.**

***— Чым было выклікана стварэньне цэнтра?***

— Увесну 1996-га пачаліся сур'ёзныя рэпрэсіі супраць палітычных партыяў, пасьля Чарнобыльскага шляху былі затрыманыя шмат людзей. Некаторых зь іх, у прыватнасьці Юрыя Хадыку і Вячаслава Сіўчыка, пасадзілі на доўгі час. Тады ўзьнікла патрэба хутка аказваць магчымую дапамогу і сем'ям, і самім сядзельцам. Напачатку стварылася даволі стыхійная добраахвотная група, і так атрымалася, што каардынацыю яе дзейнасьці ўзяў на сябе я. На тыя часы было нават невядома, хто сядзеў, за што сядзеў, колькі сядзеў, — дакладнай інфармацыі ў поўным аб'ёме не было. А калі і была, то не сьцякалася ў адзін цэнтр, а праходзіла між рукамі людзей, якія займаліся іншым.

***— Ці недастаткова было Хельсінкскага камітэта і тых праваабарончых цэнтраў, якія існавалі ў Беларусі?***

— Аб'ём праваабарончай працы такі вялікі, што адзін Камітэт, які б ён ні быў моцны і вялікі, проста не можа ахапіць усе бакі гэтай працы. Я хацеў бы нагадаць, што на той час ужо сядзеў у турме беларускі паэт за свой верш «Убей президента», і я сутыкнуўся з праблемай: тыя праваабарончыя арганізацыі, якія ўжо існавалі (іх у нас было некалькі), — яны фактычна не займаліся аказаньнем канкрэтнай дапамогі для людзей, якія трапілі ў крытычную сітуацыю. Гэтыя праваабарончыя арганізацыі вялі маніторынг, г. зн. апісвалі падзеі, распаўсюджвалі інфармацыю за мяжой, спрабавалі прыцягнуць увагу грамадскасьці, але, паўтаруся, рэальнай падтрымкі ад іх не было.

Прыгадаю, калі я хадзіў і шукаў хоць нейкую дапамогу для таго паэта, то зь цяжкасцю, толькі праз месяц мне ўдалося знайсьці мінімальныя сродкі для ягонай маці, якая сапраўды мела вялікія выдаткі, бо мусіла перадаваць перадачы і езьдзіць на спатканьні. Тады я зразумеў, што трэба ствараць свой цэнтр на больш сур'ёзнай і грунтоўнай аснове.

***— Вы хочаце сказаць, што калі ў той час чалавека хапалі на мітынгу і садзілі за краты, то гэта была толькі ягоная ўласная праблема і праблема ягоных сваякоў? Ім проста не было куды зьвярнуцца па дапамогу?***

— Так, абсалютна.

***— А цяпер ёсьць?***

— Так. Мы, «Вясна-96», па-першае, імкнемся высьветліць, якія людзі і куды трапілі. Мы спрабуем зьвесьці гэтую інфармацыю ў адно цэлае — і адразу арганізаваць першую, няхай самую элементарную дапамогу. Напрыклад, калі некаму далі «суткі», мы імкнемся, каб у першы ж дзень ён панёс з сабой у камеру перадачу. Працэдура пасадкі такая, што чалавек можа паесьці раз у суткі, а можа і раз у тры дні. Таму мы спрабуем забясьпечыць элементарныя харчы, а пасьля дастаўляем гэтаму чалавеку перадачы ў месца арышту. Калі ж пакараньне — штраф, то спрабуем знайсьці фінансы ці дас-

таткова заможных асобаў, якія маглі б кампенсаваць гэтыя выдаткі. Тое ж датычыцца і крымінальных працэсаў. Я маю на ўвазе не адміністрацыйныя (г.зн. «сутачныя») працэсы, а больш доўгія, якія цягнуцца і тры, і чатыры, і шэсьць месяцаў. Мы дапамагалі і Аляксею Шыдлоўскаму, і Вадзіму Кабанчуку, і Алесю Мухіну, і Паўлу Севярынцу, і іншым. Для нас галоўнае, каб людзі і іх сем'і не апынуліся зь бядой сам-насам.

Варта сказаць, што тым студэнтам, каго выключылі за палітычную актыўнасьць, мы дапамагаем уладкавацца на вучобу за межамі краіны.

***— Вы займаецеся толькі «палітычнымі» справамі?***

— Сфера абароны правоў чалавека значна шырэйшая. Адна са складаных справаў, якая нядаўна трапіла да нас, — гэта зварот асуджанага на сьмерць чалавека, які здолеў перадаць ліст з турмы. Ліст адрасаваны менавіта на наш цэнтр, і ён просіць дапамогі. Яго абвінавачваюць у забойствах, як ён сьцьвярджае, беспадстаўна. Ён прыводзіць аргументацыю, якая патрабуе сур'ёзнага разгляду, і мы, натуральна, будзем зьвяртацца да юрыста, які мог бы прафесійна працаваць з гэтай справай.

***— Цяпер палітычнымі арыштамі на вуліцах Менска нікога не зьдзівіш. Мне ўпершыню давялося ўбачыць такое на «Дзядах» 1988 года, калі на нашых вачах міліцыянты кінулі вас, Алесь, у міліцэйскую машыну.***

— Сапраўды, стаж дачыненьняў зь міліцыяй у мяне даволі вялікі. Гэта пачалося з 1988 года зь «Дзядоў», якія мелі шырокі рэзананс і далі штуршок разьвіцьцю грамадскага руху на Беларусі. Я быў адным з арганізатараў мітынгу. Тады ж я быў арыштаваны і адразу асуджаны. Гэта быў імгненны суд. Мне далі вялікі па тых часах штраф — 200 рублёў, адразу дзьве мае асьпіранцкія стыпендыі. Але мне дапамаглі людзі, праявілі салідарнасьць, сабралі грошы. На працягу наступных дзесяці гадоў мяне затрымлівалі каля дваццаці разоў. Маючы такія шчыльныя адносіны зь міліцыяй, з нашымі судамі, безумоўна, я адчуваў, што патрэбна людзям.

***— Чым «Вясна-96» адрозьніваецца ад іншых праваабарончых арганізацыяў?***

— Мы пабудавалі сістэму абароны тых людзей, якія трапляюць у крытычную сітуацыю. Мы — арганізацыя, якая аказвае канкрэтную, рэальную дапамогу людзям, якія пацярпелі ад палітычных рэпрэсіяў. Паказальны выпадак быў ужо напачатку 1997 года з Алесем Цішуком: ён удзельнічаў у акцыях пратэсту ў лютым, адразу ж быў схоплены і трапіў у турму, праседзеў паўтара месяцы, — а ніхто пра яго нічога не ведаў. Такая сітуацыя абсалютна недапушчальная... На працягу 1997 года пад дахам нашай арганізацыі ўзьнікла структура. Я не скажу, што яна дасканалая, але тым не менш гэта надзейная сістэма дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў.

*Газета «Навіны» («Свабода»), 9 чэрвеня 1998 года.*

## АКЦЫІ, ЯКІЯ МЫ ПРАВОДЗІЛІ, ВЫКЛІКАЛІ МОЦНЫ ГРАМАДСКІ РЭЗАНАНС

**Пра нацыянальныя каштоўнасьці і грамадзянскую супольнасьць карэспандэнт www.euramost.org гутарыць з Алесем Бяляцкім — праваабаронцам, віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH) са штаб-кватэрай у Парыжы.**

**У 80-я гады Алесь Бяляцкі быў адным зь лідараў моладзевага нацыянальнага руху, зьяўляўся старшынёй Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя».**

***— Ці можна сказаць, што ў Беларусі нацыяналізм спрыяў фармаваньню грамадзянскай супольнасьці? Чаму?***

— Нацыяналізм у Беларусі ў апошнія 25 гадоў мае пераважна дэмакратычны характар. Гэта значыць, што нацыянальныя каштоўнасьці ўспрымаюцца ў зьвязку з дэмакратычнымі свабодамі. У тэарэтычным плане дастаткова пачытаць партыйную праграму «Міктарату», нашай моладзевай групоўкі — а гэта сярэдзіна 80-х гадоў, каб пераканацца ў гэтым. Мы бачылі незалежную Беларусь, але й таксама дэмакратычныя свабоды — свабоду слова і сходаў, сацыяльную абароненасьць беларускіх грамадзянаў. А ўсё гэта якраз і мацуе грамадзянскую супольнасьць.

***— Якую грамадзянскую супольнасць можна назваць моцнай?***

— Грамадзянская супольнасьць моцная тады, калі яна структураваная. Калі яна літаральна пранізаная няўрадавымі арганізацыямі, партыямі, групамі па інтарэсах, рухамі, прафсаюзнымі арганізацыямі, вольнай прэсай, якія адстойваюць інтарэсы сваіх сяброў ці групаў перад дзяржаваю.

***— А падмуркам для іх зьяўляецца што?***

— У практычным плане менавіта першыя нацыянальна-дэмакратычныя «нефармальныя» суполкі 80-х гадоў заклалі падмурак партыйнага разьвіцьця, разьвіцьця трэцяга сектара ў Беларусі ў наступным дзесяцігодзьдзі. Гэта, дарэчы, паўплывала на тое, што «сьвядомага» элемента ў сучасных дэмакратычных партыях, прафсаюзах, няўрадавых арганізацыях у Беларусі болей, чым у неструктураваным грамадстве. Было шмат актыўнасьці, пасіянарнасьці, станоўчай энергіі, таму гэты ўплыў неаспрэчны і заўважны. «Сьведамыя» разглядалі свой удзел у грамадскім жыцьці як абавязак, як адзін з інструментаў распаўсюду і ўкараненьня нацыянальнага элемента ў грамадзянскай супольнасьці.

***— Як суадносяцца паміж сабой нацыяналістычныя суполкі 80-х і сучасныя структуры грамадзянскай супольнасьці?***

— Шмат з тых, хто тады працаваў у нацыянальна-дэмакратычным руху, працягвае сваю працу і зараз. Назіраецца пераймальнасьць традыцыяў, назапашанага за 25 гадоў вопыту. Урэшце ў нас пачынае зьяўляцца пераемнасьць пакаленьняў, бо ранейшыя сувязі былі слабымі і жорстка перарываліся рэпрэсіямі ўладаў. Сёньняшняя грамадзянская супольнасьць — гэта ўжо іншы, значна вышэйшы ўзровень. Ёсьць галіновы падзел на палітыкаў, прафсаюзьнікаў, энжэошнікаў, журналістаў. Зьявіліся прызнаныя, аўтарытэтныя асобы. Іншы ўзровень уплыву на ўсё беларускае грамадства. Ён значна больш моцны. Больш трывалыя сувязі зь беларускім грамадствам. Выразна сфармуляваныя базавыя каштоўнасьці — незалежнасьць, дэмакратыя, правы чалавека. Але карані, безумоўна, там — у 70-х і 80-х гадах.

***— Чым ваша пакаленьне актывістаў нацыянальнага***

***руху адрозьнівалася ад папярэднікаў, ад тых, хто ішоў непасрэдна перад вамі?***

— Нацыянальны рух цепліўся на працягу ўсяго XX стагодзьдзя… І напачатку 80-х прыйшло новае пакаленьне. Тыя, хто былі перад намі, нарадзіліся ці адразу пасьля вайны, ці яшчэ перад вайною, ці падчас вайны, — пакаленьне Пазьняка. Гэта былі дзеці вайны і яшчэ, можна сказаць, дзеці сталінскіх рэпрэсій. Гэта моцна паўплывала і на тое асяродзьдзе, у якім яны выхоўваліся. За папярэднія дваццаць гадоў шмат што зьмянілася… Па-першае, выбілі інтэлігенцыю. Падчас вайны пазабівалі габрэяў, а шмат хто са зьехаўшых у эвакуацыю не вярнуліся. Фактычна беларускага насельніцтва як такога не было. Яно пачало ствараццa толькі пасьля вайны. Гэта была сялянская нацыя без усялякіх правадыроў, інтэлігенцыі, як казалі раней — «этнаграфічны матэрыял». І з гэтага «этнаграфічнага матэрыялу» спрабавала Беларусь вырвацца ў 20-я гады, а таксама напачатку ў 10-я гады мінулага стагодзьдзя. Пасьля вайны гэты «этнаграфічны матэрыял» стаў найбольш чыстым. Гарады, прынамсі апошнія трыста гадоў, не былі беларускімі, і яны не сталі беларускімі. Традыцыя русіфікацыі, гэтая «малацілка», якая пасьпяхова рабілася праз горад, яна працягвалася. Адчуваньне было… мёртвай пустыні, дзе ўсё выпалена і ўсе магчымыя гістарычныя сувязі перапыненыя. І гэтыя хлопцы, разважыўшы і прыкінуўшы, заняліся адраджэньнем беларускай культуры. І правільна рабілі, бо іх пакаленьнем закладзеныя падваліны ўсяго, што датычыцца навуковага дасьледніцтва на сур’ёзным узроўні. Яны кінуліся ў навуку, і правільна зрабілі, таму што гэты навуковы перыяд, як паказвае практыка, пераскочыць вельмі цяжка. Трэба мець тэарэтычнае абгрунтаваньне існаваньня народа, ягонай мовы, культуры і гісторыі. Гэта ўсё мусіць быць. Без гэтага вельмі цяжка што-небудзь пабудаваць, усё рассыпаецца, усё не так атрымліваецца.

***— Якім было вашае пакаленьне?***

— Нашае пакаленьне зусім іншае, гэта пакаленьне дзя-

цей, якія ніколі не галадалі. Усе, хто хацеў, мелі магчымасьць атрымаць адукацыю — хто хацеў, той вучыўся, нягледзячы на свой сацыяльны статус. Але нам ужо мала было толькі матэрыяльнага дабрабыту...

***— А захапленьне беларускасьцю?***

— Праз пэўны перыяд захапленьня «чыстай беларускасьцю» мы не пераскочылі. Можа быць, былі людзі, якія прыйшлі да беларускасьці праз палітычныя пераканаваньні, але абсалютная большасьць нашага пакаленьня прыйшлі ці праз захапленьне беларускай літаратурай, ці праз захапленьне беларускай гісторыяй, ці праз захапленьне беларускім фальклорам, этнаграфіяй, мастацтвам, архітэктурай. Пасьля гэта было той легальнай шырмаю, пад якой існавалі моладзевыя групы, рухі 80-х гадоў, аж да 1988 года, бо стварэньне Фронту ў кастрычніку 1988 года — гэта такая мяжа была, калі зьявілася аб'яднаньне, якое выставіла палітычныя мэты, не прыкрываючы іх і не хаваючы за нейкімі іншымі. Яшчэ напачатку 80-х удзельнікамі «Міктарату» (закансьпіраваная група) даволі хутка быў пройдзены этап захапленьня «чыстай беларускасьцю», і мы перад сабою ставілі палітычныя мэты.

***— Як закансьпіраваная група суадносілася з масавымі нефармальнымі арганізацыямі?***

— Нефармальныя арганізацыі існавалі для нас як магчымасьць для легальнай дзейнасьці. Асноўная задача, якую мы апісвалі ў праграме, была пабудова Незалежнай Беларусі. Для мяне было цікавым адкрыцьцём, калі я перачытваў гэтую праграму. Пабачыў, што там згадваюцца таксама і правы чалавека, і сацыяльныя праблемы. Гэта была такая, я б сказаў, сацыял-дэмакратычная праграма, напісаная ў традыцыях той школы, якую мы праходзілі ў межах грамадскіх навук ва ўніверсітэтах. Тады скочыць далёка мы не маглі, таму праграма была хутчэй сацыял-дэмакратычнай. І, безумоўна, найбольшы акцэнт мы ставілі на максімальнай аўтаноміі, максімальнай незалежнасьці. Было зразумела, што падысьці да Незалежнасьці адразу немагчыма, што мусяць

быць нейкія падрыхтоўчыя, пераходныя часы. Мы абмяркоўвалі гэта. Мы зьбіраліся як мінімум раз на месяц, а то і часьцей. Мы скідвалі складкі — па пяць рублёў у месяц мы павінны былі здаваць у партыйную касу. За гэтыя грошы мы набывалі друкавальныя машынкі. Мы займаліся вырабам улётак, часопісаў, рабілі той жа «Бурачок». Вось гэтыя сустрэчы былі вельмі актыўныя. Апрача гэтага, мы ўвесь час тусаваліся паміж сабою на розных імпрэзах, на арганізацыі розных мерапрыемстваў, дзе кола людзей было значна шырэйшае. Там мы кантактавалі і паміж сабой, і зь людзьмі, гэта былі штотыднёвыя паседжаньні «Талакі», гэта былі і выезды па памятных датах, гэта было і ралі па Дзьвіне.

***— З рэгіянальных прадстаўнікоў хто-небудзь уваходзіў у «Міктарат»?***

— Калі я яшчэ быў студэнтам Гомельскага ўніверсітэта, я браў удзел у спатканьнях «Міктарату». Была спроба прыцягнуць і Анатоля Сыса. Ён нават здаваў складкі пэўны час. Але ўбачылі яго анархісцкі склад характару... і вырашылі, што не варта.

***— Ці баяліся вы рэпрэсій?***

— Сітуацыя, калі ўзяць крыху шырэй, была цікавая, бо гэта быў 1983 год, год тэрору, калі разгрмілі ўвесь дысідэнцкі рух у Расіі. Яны крыху дазвалялі ім у 1981, 1982 годзе, а ў 1983 годзе ўсё фактычна было спынена. Частка людзей была выслана з Савецкага Саюза, частка пасаджана. Быў разгромлены Украінскі нацыянальны рух. А ў нас гэта час, калі пайшла нейкая хваля. І дзякаваць Богу, што тады ўлады не прасяклі, што гэта ўсё з аднаго разьліву — з адной бочкі віно, што разьлівалася на Украіне і ў Літве. Бо калі б у 1983-м правялі шэраг рэпрэсій... Прычым тады не трэба было саджаць шмат людзей. Дастакова было проста нейтралізаваць. Набор метадаў быў шырокі — павыганяць з універсітэтаў, пазабіраць у войска. А на той час пасьля гэтага ты не мог бы знайсьці нідзе нармальную працу. Вымушаны быў пераходзіць на нейкі стан качагара — нефармала поўнага. Ці нейкім чынам так выбудоўваць сваё жыцьцё, каб «нідзе ніколі

нічога». Але ў нас рэпрэсій да пэўнага часу не было, і гэта гаворыць пра тое, што мы будавалі працу дастаткова граматна. Бо ўхапіць студэнтаў за тое, што яны сьпяваюць песьні, — гэта не ўкладвалася ні ў якія рамкі. Прасьцей было проста не заўважаць гэта. А тое, што з нашага кола ніхто не «стукануў», гэта дакладна. Бо калі б нехта «стукануў»... Фактычна з 1983 года ў нас былі партыйныя ўстаноўкі, і мы працавалі як падпольная групоўка. Мы былі на раскопках у Міры, і Вінцук Вячорка мне казаў, што «ёсьць хлопцы...». Я тады мала каго ведаў. А Вінцук сказаў: «Ёсьць хлопцы, і мы хочам змагацца за Незалежнасьць Беларусі, але гэта небясьпечна. У нас падпольная структура, і мы ўсё будзем рабіць патаемна. І змагацца за Незалежнасьць».

***— Ці можна сказаць, што да гэтага не было структураў, якія ставілі падобныя мэты?***

— Фармальных не было структур. Былі «тусьнякі». Але такіх структур, якія ствараліся з пэўнымі ўстаноўкамі, праграмамі, — такіх не было. У нас разам з усімі, хто прыйшоў, хто адышоў, гэта было чалавек 15. Тым не менш мы правільна пабудавалі сваю працу, сыходзячы з той сітуацыі, якая была. Не пайшлі на нейкія адзіночныя акты — альбо вывешваньне сьцягоў, альбо вывешваньне плакатаў, правядзеньне дэманстрацый у дзень правоў чалавека. Гэта ўсё можна было рабіць, але асноўную актыўнасьць мы скіравалі на працу ў гэтых паўлегальных, а па сутнасьці, ужо легальных арганізацыях. Хаця што значыць: легальных-нелегальных? Зараз «Вясна» незарэгістраваная, і фармальна яна нелегальная, але гэта рэальная арганізацыя. У нечым падобная сітуацыя тады была. Мы пайшлі на разьвіцьцё сеткі арганізацый, і было прынятае рашэньне, што мы абавязкова павінны ўдзельнічаць у працы гэтых арганізацый і ствараць гэтыя арганізацыі.

***— Так стварыліся і «Тутэйшыя»?***

— Так, мы ўсё гэта абгаворвалі падчас аднаго нашага сходу ў кастрычніку 1986 года — толькі я з войска прыйшоў. У першую чаргу я перагаварыў з Толікам Сысом, а ён жа

шмат каго ведаў і кажа: «Давай спрабаваць!» Нас двое было, і вельмі хутка мы «накруцілі» вакол сябе іншых. На першым паседжаньні было сем чалавек, мы паехалі да Сыса і правялі гэтае паседжаньне ў яго пакоі ў інтэрнаце на Авангарднай. А праз пару месяцаў было рэальна чалавек сорак. Да нас далучылася і групоўка Глобуса ды іншыя... І ўсё пайшло, усё «папёрла»... І такім чынам пёрла не толькі ў нас. Была і «Талака», былі і «лесьнікі» на чале з Алесем Гурковым, была і ў педінстытуце суполачка. У Менску было каля 10 нацыянальна арыентаваных суполак. І ўзьніклі яны рэальна за год, за два. А лік па Беларусі ўжо пайшоў на сотні...

***— А як ствараліся рэгіянальныя арганізацыі?***

— Калі на пачатку 80-х у Менску працавала «Майстроўня», у нас былі ўжо кантакты, і была спроба стварыць такую майстроўню ў Гомелі, якая нічым не скончылася... Але тым не менш мы там «накруцілі» кола, каля нас было рэальна чалавек 20, якія размаўлялі па-беларуску. На пачатку 80-х такія колы былі ў Гародні, бо я езьдзіў туды ў 1983 годзе. Там былі Андрэй Мяцельскі і Семянчук Генік — гісторыкі. Гэта ж была таксама суполка, мы зь імі пазнаёміліся на раскопках у Міры. А да нас у Гомель у 1983-м прыязджалі Мінкін з Мудровым, таксама шукаць студэнтаў, якія беларусы. Яны былі вельмі моцна зьдзіўленыя, калі трапілі ў наш асяродак, яны пачыналі гаварыць пра беларускую мову, пра гісторыю, а мы казалі: «А мы ўсё гэта ведаем. А мы гэта робім...» Так што такія групы на пачатку 80-х былі, але лік іх ішоў на дзясяткі. А з 1986 года лік пайшоў на сотні. Так што даволі хутка разьвівалася. Дынамічна.

***— Як уплывалі тагачасныя нефармальныя арганізацыі на грамадства?***

— Тыя акцыі, якія мы праводзілі, выклікалі моцны грамадскі рэзананс. Яшчэ і час быў такі. І плюс — мы не рабілі дурноты. Тое, што прыдумлялася, тады было геніяльным і для таго часу, і для гэтага. І тыя ж самыя «Дзяды», якія мы распачалі. Не пачалі б мы, ніхто б гэтыя «Дзяды» не сьвяткаваў і не ведаў, што такое ёсьць. Тыя ж самыя экалагічныя

ралі па Дзьвіне і па Прыпяці. Былі вялікія спрэчкі, дыскусіі. Былі артыкулы Васіля Быкава ў абарону нефармальных суполак, быў артыкул «Пена на хвалі перабудовы» — супраць. Усё гэта актыўна абмяркоўвалася. І людзі сепараваліся, людзі сталі шукаць кантактаў і вызначацца. І гэта было вельмі важна, асабліва ў тыя часы, калі было бачна, што Саюз хутка лясьне.

***— Як склаўся далейшы лёс актывістаў?***

— Па маіх падліках, дзесяць працэнтаў актывістаў заўсёды адсыпаецца зь любога набору. Які б набор ні быў... У нас гэтая закваска міктаратаўская засталася. Фактычна ўсе, хто быў у «Міктараце», яны працягваюць дзейнасьць у той галіне — ці ў палітыцы, ці ў гісторыі, ці ў культуры, ці ў праваабароне. За рэдкім выключэньнем...

***— Сучасныя грамадскія арганізацыі... наколькі яны маюць уплыў на грамадства?***

— «Трэці сектар» — гэта хрыбет грамадзянскай супольнасьці. Не было б грамадзянскай супольнасьці, каб не было «трэцяга сектару». Толькі структураваныя арганізацыі, толькі структураваныя элементы ўносяць розум у хаос неасэнсаваных памкненьняў, жаданьняў, якія маюць анархічны характар. Таму структуры, якія аб'ядноўваюць людзей па інтарэсах, парадкуюць гэты беспарадак. Вось чаму ўлады гэтага і не хочуць. Можа быць, чыста інтуітыўна... Але тым не менш улады разумеюць, што са структурызаваным грамадствам цяжэй працаваць, складаней дурыць яго, што зь ім трэба дамаўляцца. Адкуль і гэтае змаганьне з прадпрымальнікамі, якія структурызаваліся, якія трымаюцца адзін за аднаго. Тое самае і зь няўрадавымі араганізацыямі. Людзі ставяць свае мэты, некаторыя больш вострыя, некаторыя больш мяккія. І, разам аб'яднаўшыся, дамагаюцца нейкіх мэтаў. Таму ад гэтага нікуды не падзенешся. Гэта не пераскочыш. Што тычыцца нацыянальнага пытаньня, то яно будзе датуль, дакуль беларусы будуць усьведамляць сябе беларусамі.

*Гутарыла Паліна Сцепаненка.*

## ВЕЛЬМІ ВАЖНА ДЛЯ НАШАГА НАРОДА ВЕДАЦЬ, ШТО МЫ НЕ АДНЫЯ

**Апошнія гады сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі толькі пагаршаецца. Пра адсутнасьць свабоды і дэмакратыі ў краіне сьведчыць і «Агляд-хроніка парушэньняў правоў чалавека», падрыхтаваная ПЦ «Вясна», і заявы міжнародных праваабарончых арганізацыяў і аб'яднаньняў кшталту АБСЕ, Рады Еўропы па канкрэтных выпадках ціску на незалежную прэсу, на грамадскія аб'яднаньні, на грамадскіх і палітычных актывістаў. Пра гэта сьведчыць і міжнароднае ўшанаваньне той дзейнасьці, якую праводзяць беларускія праваабаронцы, якія змагаюцца за дэмакратыю ва ўмовах таталітарнага рэжыму.**

**1 сакавіка старшыня праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі атрымаў у Празе ганаровую прэмію «Чалавек чалавеку» ад чэшскай гуманітарнай і праваабарончай арганізацыі «Чалавек у нядолі», найбольш папулярнай праваабарончай прэміі ў Чэхіі, пра што і распавёў па вяртаньні на радзіму.**

***— На вашую думку, другая атрыманая на працягу месяца прэмія — гэта сьведчаньне той катастрафічнай сітуацыі з правамі чалавека, якая склалася ў нашай краіне, ці сьведчаньне той пільнай увагі, якая расьце з боку міжнароднай грамадскасьці да Беларусі?***

— Сапраўды, на працягу месяца мы, праваабаронцы зь

«Вясны», атрымалі ўжо другую прэмію запар, прысуджаную такой вядомай у Чэхіі гуманітарнай арганізацыяй, якая займаецца абаронай правоў чалавека і гуманітарнымі праектамі, як «Чалавек у нядолі». Гэтай прэміяй мы ўзнагароджаны за працу на працягу 2005 года. Як мне падаецца, гэта адбылося зь дзвюх прычынаў: па-першае, такім чынам чэшская грамадзянская супольнасьць адзначыла актыўнасьць і выніковасьць працы беларускіх праваабаронцаў, а па-другое, натуральна, гэта зьвязана з дастаткова напружаным часам, калі рэзка ўзмацніліся рэпрэсіі беларускіх уладаў супраць грамадскіх і палітычных актывістаў. Такім чынам чэшскія праваабаронцы, чэшскія грамадскія дзеячы і палітыкі зьвяртаюць увагу ўсяго сьвету, а таксама беларускіх уладаў і беларускіх грамадзянаў на тое, што зараз на Беларусі масава і жорстка парушаюцца правы чалавека. І я думаю, што вельмі важна для нашага народа ведаць, што мы не адныя.

***— Раскажыце пра ўражаньні ад самой цырымоніі ўручэньня прэміі.***

— Яна адбывалася ў культурным цэнтры Фонду Вацлава Гавэла, што месьціцца ў будынку касьцёла, які рэстаўруецца, і падчас цырымоніі ўручэньня прэміі прысутнічала амаль тысяча чалавек — гэта былі палітыкі, журналісты, студэнты — людзі, якія цікавяцца сітуацыяй з правамі чалавека, і я меў магчымасьць перад імі выступіць. У сваёй прамове я падкрэсьліў, што ў наш час, калі некаторыя людзі рэстаўруюць храмы, не даведзеныя яшчэ да ладу, іншыя рэстаўруюць таталітарныя рэжымы. Наш народ варты большага, чым тое, што ён мае на сёньняшні дзень. Усё, чаго мы дабіваемся для Беларусі, — гэта свабоды! Свабоды для свайго народа. Пачуцьцё ўласнай годнасьці беларусаў расьце, і мы перакананыя, што ў рэшце рэшт прыйдзе той час, калі нашыя людзі змогуць сапраўды кіраваць сваім лёсам і не будуць цярпець тыя парушэньні, якія зараз дапускае беларуская ўлада ў дачыненьні да правоў чалавека.

***— З кім вы сустракаліся ў часе візіту ў Чэхію?***

— Падчас паездкі ў нас былі спатканьні з чэшскімі пра-

ваабаронцамі, з палітыкамі, у прыватнасьці са старшынёй чэшскага Сената, другой асобай у чэшскай дзяржаве, спадаром Саботкам (P. Sobotka), зь іншымі сенатарамі. Былі сустрэчы ў Міністэрстве замежных справаў, выступы на шматлікіх каналах чэшскай тэлевізіі і радыё. Увогуле цікавасьць да падзей на Беларусі была надзвычай вялікай. Я хачу яшчэ адзначыць, што саму прэмію ўручаў былы чэшскі прэзідэнт, вядомы пісьменьнік і вязень сумленьня, які адседзеў пяць гадоў пры савецка-чэшскай уладзе, Вацлаў Гавэл. У нас зь ім адбылася паўгадзінная сустрэча сам-насам, дзе мы размаўлялі зноў-такі пра Беларусь. Ён дзяліўся сваім вопытам, і для мяне асабіста гэтая сустрэча была найбольш важнай з усіх мерапрыемстваў, бо я вельмі паважаю і шаную Вацлава Гавэла. Ён для мяне зьяўляецца маральным аўтарытэтам, і ў мяне была цудоўная магчымасьць блізка пазнаёміцца зь ім і мець зь ім даволі працяглую гаворку.

***— Вы знаходзіліся ў Чэхіі якраз тады, калі ў Беларусі адбылося зьбіцьцё аднаго з кандыдатаў на прэзідэнта, журналістаў. Як адрэагавала чэшская грамадскасьць на гэтыя падзеі?***

— Усе галоўныя чэшскія СМІ адразу ж далі інфармацыю пра падзеі на Беларусі. Чэхія, безумоўна, вельмі негатыўна адрэагавала на іх, успрыняўшы іх як чарговы доказ ненармальнай сітуацыі з правамі чалавека ў нашай краіне.

***— Наколькі сімвалічна атрыманьне прэміі ў першы дзень вясны?.. Апроч таго не сакрэт, што створаная арганізацыя раней называлася «Вясна-96» і ў гэтым годзе ёй спаўняецца 10 гадоў. Ці падсумоўвае гэтая круглая дата вынікі вашай працы за мінулае дзесяцігодзьдзе?***

— Так. Некалькі разоў нас пазбаўлялі рэгістрацыі, але на сёньняшні дзень хачу паведаміць, што праваабарончы цэнтр «Вясна» атрымаў рэгістрацыю ў Чэшскай Рэспубліцы.

***— Як вы думаеце працаваць далей?***

— Наша галоўная задача была, ёсьць і будзе дапамагаць людзям, якія перасьледуюцца беларускімі ўладамі па палітычна-грамадскіх матывах. Гэтую асноўную сваю работу

мы будзем старацца выконваць усімі сваімі магчымымі намаганьнямі і сіламі.

*07.03.2006*

*http://spring96.org/be/news/3773*

## КАЛІ ЛУКАШЭНКУ НЕ ПАДАБАЮЦЦА ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА — НЯХАЙ ВЫЙДЗЕ З ААН

**Апошнім часам Аляксандр Лукашэнка зрабіў шэраг заяваў адносна сітуацыі з правамі чалавека ў краіне. Да прыкладу, у інтэрв'ю агенцтву «Ройтэрс» ён сказаў, што у адрозьненьне ад еўрапейскіх краінаў не выкарыстоўваў сьлезацечны газ і вадамёты для разгону дэманстрантаў. А падчас паездкі ў Салігорск выказаў меркаваньне, што аснова праграмы «Усходняе партнёрства» — прагматычнае супрацоўніцтва. Маўляў, «прычым тут правы чалавека да нафты і газу». Якія мэты мае такая рыторыка кіраўніка Беларусі? Алесь Дашчынскі гутарыць з праваабаронцам Алесем Бяляцкім.**

**Бяляцкі:** Спадар Лукашэнка хоча чытаць у праграме «Усходняга партнёрства» тое, што хоча там бачыць. Але рамкі, якія зададзены яшчэ перад пачаткам гэтай праграмы, зь якой пагадзіліся ўсе шэсьць краінаў, уключаюць у сябе не толькі паляпшэньне эканамічнага супрацоўніцтва, але паляпшэньне сітуацыі з дэмакратыяй, правамі чалавека канкрэтна ў кожнай з гэтых шасьці краінаў.

Сітуацыя ў гэтых краінах даволі няроўная. Мы бачым: іх страсаюць перманентныя крызісы. І апошнія выбары ў Малдове, якія скончыліся дэманстрацыяй і арыштамі. Дэманстрацыі ў Грузіі — і супраць дэманстрантаў ужываецца сіла.

І гадавой даўнасьці вялікая дэманстрацыя ў Арменіі, якая была гвалтам разагнаная. І ў нас праблемы, якія перманентна працягваюцца, — я маю на ўвазе разгоны пікетаў і рэзкае абмежаваньне мірных дэманстрацый, якое нічым не абгрунтавана.

Сітуацыя з правамі чалавека ў гэтых краінах неадназначная. І таму праграма «Усходняе партнёрства» мае адну з мэтаў — паляпшэньне гэтай сітуацыі. Калі спадару Лукашэнку не падабаюцца правы чалавека ў тым выглядзе, у якім яны прапісаны ў міжнародных дакументах, — няхай ён тады выйдзе з ААН, а не ўваходзіць ва «Усходняе партнёрства».

Наша задача — дамагчыся, каб гэтая праграма не ператварылася ў чыста тэхнічны праект. Таму такая пазіцыя Еўразьвяза, які прапануе супрацоўніцтва і адначасова не пагаджаецца на чыста тэхнічнае супрацоўніцтва, а бачыць гэта ў комплексе, падаецца мне вельмі важнай для ўсёй Беларусі, для беларускіх грамадзянаў.

**Дашчынскі:** А як выглядае сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі на фоне астатніх краінаў, якія далучыліся да праграмы «Усходняе партнёрства»?

**Бяляцкі:** Дзесьці ў вельмі невялікіх выпадах лепш. І гэта датычыцца разьвіцьця інфраструктуры і нейкага агульнага сацыяльнага забесьпячэньня, эканамічнага разьвіцьця, напрыклад параўнальна з Малдовай, Грузіяй ці Арменіяй.

Лукашэнка непасрэдна адказны за грамадскую, палітычную дыскрымінацыю беларускіх грамадзянаў.

Але, у той жа час, з пункту гледжаньня дэмакратычных інстытутаў, Беларусь знаходзіцца ў самым хвасьце. Ну хаця б тое, што Беларусь не зьяўляецца сябрам Рады Еўропы, гаворыць само за сябе. Нават Азербайджан зьяўляецца сябрам Рады Еўропы. І сыходзячы з тых рэкамэндацый і добраахвотных абавязкаў, дарэчы, за апошнія пяць гадоў вельмі праграэсуе ў плане разьвіцьця дэмакратычных інстытутаў. Можна казаць пра значны ўдзел грамадскіх арганізацый у кантролі над выканаўчымі ўладамі. Колькасьць палітычных вязьняў у Азербайджане — а лік ішоў там на сотні — зараз вельмі

хутка зьмяншаецца. І гэтага якраз дабіваюцца прадстаўнікі няўрадавых праваабарончых арганізацый.

Што тычыцца Арменіі, Грузіі, Украіны, Малдовы, то ўзровень дэмакратыі, узровень падзелу ўлады там на галаву вышэйшы. Я быў ва ўсіх гэтых краінах цягам апошніх гадоў. Пару месяцаў таму, калі там быў Лукашэнка, я быў у Арменіі. Рэальна бачна, наколькі там палітычная культура і культура грамадства вышэйшая за тое, што адбываецца ў Беларусі. Гэта ж тычыцца і сродкаў масавай інфармацыі, палітычных партый і грамадскіх арганізацый. Калі казаць пра агульны фон, то Беларусь, насамрэч, пляцецца тут ў хвасьце.

**Дашчынскі:** Дыялог Еўразьвяза з афіцыйным Менскам у сферы правоў чалавека — а на першым этапе зь Міністэрствам замежных спраў Беларусі — не прадугледжвае ўдзелу грамадзянскай супольнасьці. Можна прадбачыць, як будзе ісьці гэты дыялог, калі Лукашэнка цяпер заяўляе: «Хто сёньня ў Беларусі супраць правоў чалавека?»

**Бяляцкі:** Ён непасрэдна адказны за грамадскую, палітычную дыскрымінацыю беларускіх грамадзянаў. Крывадушнічаць не трэба. Я параіў бы яму быць больш шчырым і з сабой, і зь беларускімі грамадзянамі.

Праграма «Усходняе партнёрства» дае вельмі вялікія магчымасьці, але імі трэба яшчэ ўмець скарыстацца. «Усходняе партнёрства» тым для нас і цікавае, што прадугледжвае актыўны ўдзел прадстаўнікоў няўрадавых арганізацый. І я спадзяюся, што гэта дасьць магчымасьць у рэшце рэшт, можа пры ўдзеле Еўразьвяза, сесьці за адзін стол з прадстаўнікамі беларускага ўрада. І назваць адкрыта, вочы ў вочы, тыя праблемы, якія сёньня ёсьць у пытаньнях разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці, дэмакратыі і правоў чалавека.

*11.05.2009*

*Радыё «Свабода»*

# РЭГІСТРАЦЫЯ АЛЬБО НЕРЭГІСТРАЦЫЯ «НАШАЙ ВЯСНЫ» ВЫЗНАЧЫЦЬ ГАТОЎНАСЬЦЬ УЛАДАЎ ДА ЗЬМЕНАЎ У ДАЧЫНЕНЬНІ ДА НЯЎРАДАВЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ

***— Спадар Алесь! У сродках масавай інфармацыі зараз якраз актыўна абмяркоўваецца інфармацыя аб тым, што ў Мінюст пададзеныя дакументы на рэгістрацыю грамадскага праваабарончага аб'яднаньня «Наша Вясна», сярод заснавальнікаў якога — сябры ліквідаванага ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна»...***

— Сапраўды, гэта аснова былога цэнтра «Вясна», праваабаронцы, якія там працавалі і працуюць зараз, паколькі быць праваабаронцам — гэта пэўная місія чалавека, а не толькі пасада. Мы, каля 70 чалавек з усёй Беларусі, правялі ўстаноўчы сход і падалі дакументы на рэгістрацыю «Нашай Вясны», паколькі беларускае заканадаўства патрабуе зьмены назвы арганізацыі, каб яна не супадала з назваю арганізацый, што былі раней зачыненыя. Нагадаю, што «Вясну» ліквідавалі ў кастрычніку 2003 года за яе актыўную пазіцыю, за крытыку ўладаў, абвінавачваньні іх у фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў 2001 года. Гэта была пэўная помста з боку ўлады. Аднак сілавыя захады дзяржавы не прывялі да спыненьня праваабарончай працы, паколькі ніхто не мае права забараніць любому грамадзяніну Беларусі займац-

ца праваабарончай дзейнасьцю ў межах нейкай арганізацыі ці аднаасобна. Увесь гэты час мы не спынялі спробы атрымаць ізноў свой легальны статус і пацьвердзіць сваё імя актыўнай праваабарончай арганізацыі, якой і быў праваабарончы цэнтр «Вясна».

Мы падалі скаргу ў Камітэт ААН і дабіліся таго, што Камітэт па правах чалавека ААН зрабіў выснову, што сваімі дзеяньнямі па ліквідацыі «Вясны» беларускія ўлады парушылі міжнародны Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах. У сваім рашэньні Камітэт пацьвердзіў правы сяброў «Вясны» на сродкі прававой абароны: перарэгістрацыю і кампенсацыю за несправядлівае закрыцьцё. Гэтае рашэньне таксама абавязвала прыняць меры па прадухіленьні падобных дзеяньняў у дачыненьні да іншых няўрадавых арганізацыяў. На жаль, гэтае рашэньне ўлада не выканала і нашая рэгістрацыя не была адноўленая.

У 2007 годзе мы паўтарылі спробу і падалі дакументы на рэгістрацыю новай праваабарончай арганізацыі. Але, на маю думку, было палітычнае рашэньне нас не рэгістраваць. Мы ізноў не атрымалі рэгістрацыі.

Новая спроба, у сёньняшнім кантэксьце, калі лібералізацыі працы няўрадавых арганізацый у Беларусі патрабуе фактычна ўвесь цывілізаваны сьвет, у тым ліку і апошняя рэзалюцыя Парламента Еўразьвяза, дзе канкрэтна стаіць пытаньне ад рэгістрацыі аб'яднаньня «Наша Вясна», мае важнае значэньне. У гэтай сітуацыі, безумоўна, мы патрабуем ад беларускіх уладаў выправіць палітычныя памылкі, зробленыя імі ў дачыненьні да нас, і фактычна аднавіць рэгістрацыю ПЦ «Вясна» вось пад такой крыху зьмененай назвай, якую мы прапануем сёньня. Гэтая рэгістрацыя альбо нерэгістрацыя, як мне падаецца, вызначыць, наколькі ўлады гатовыя да сур'ёзных зьменаў у дачыненьні да няўрадавых арганізацый у Беларусі ў сучасных умовах.

***— Пэўныя спадзяваньні грамадзянская супольнасьць Беларусі ўскладвала на перамовы дырэктара Бюро АБСЕ па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека Янеза Ле-***

***нарчыча з кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімерам Макеем і міністрам замежных справаў Сяргеем Мартынавым, якія адбыліся 23 студзеня. Спадар Ленарчыч таксама сустрэўся з прадстаўнікамі партый, няўрадавых арганізацый і праваабаронцамі і абмеркаваў рэформу беларускай выбарчай сістэмы. Якія галоўныя высновы вы зрабілі пасьля гэтай сустрэчы?***

— Яшчэ некалькі месяцаў таму было дамоўлена, што напрыканцы студзеня распачнуцца кансультацыі наконт зьменаў выбарчага заканадаўства ў Беларусі. Гэтым разам і ўлады, і Цэнтрвыбаркам не адмовіліся ад правядзеньня гэтай сустрэчы, хаця цягам апошніх гадоў яны вельмі пасьлядоўна і ўпарта адмаўляліся ад такіх кантактаў. Трэба нагадаць, што пачынаючы з 1996 года ніводныя выбары ў Беларусі не былі прызнаныя АБСЕ. Пасьля кожнага назіраньня АБСЕ падчас выбараў рабіліся рэкамендацыі па зьмене беларускага заканадаўства, па паляпшэньні самога выбарчага працэсу, але любыя прапановы адхіляліся беларускімі ўладамі.

Сустрэча спадара Ленарчыча мела дыпламатычны, рамачны характар. Яна ставіла на мэце яшчэ раз прагаварыць сам механізм абмеркаваньня эксьпертамі беларускага заканадаўства. Таму падчас сустрэчы Янез Ленарчыч падкрэсьліваў, што задача АБСЕ — не выпраўляць заканадаўства, а менавіта падказаць недахопы і найлепшыя шляхі па іх выпраўленьні. А ўжо справа і ЦВК, і дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў — даводзіць выбарчае заканадаўства да еўрапейскага стандарту.

Падчас сустрэчы, на якой прысутнічалі праваабаронцы з розных арганізацыяў, уздымаўся шэраг пытаньняў, сярод якіх — паляпшэньне беларускага выбарчага заканадаўства, паколькі на гэты конт усе праваабаронцы маюць аднадушную пазіцыю: Закон аб выбарах трэба неадкладна мяняць. Таксама закраналася пытаньне па свабодзе асацыяцыяў, у прыватнасьці па рэгістрацыі няўрадавых арганізацый, і ў тым ліку рэгістрацыі грамадскага праваабарончага аб'яднаньня «Наша Вясна», якая зараз праходзіць. Тут неабходна ад-

значыць, што ў апошні час шмат якія няўрадавыя арганізацыі альбо зьбіраюцца, альбо ўжо падалі дакументы на рэгістрацыю. Гэта, на маю думку, будзе пэўнай праверкай «добрай волі» беларускай улады да зьменаў сваіх, мякка кажучы, непрыхільных адносін да няўрадавых арганізацыяў.

***— Сп. Алесь, зь якой доляй верагоднасьці можна спадзявацца на рэальныя зьмены ў выбарчым заканадаўстве? Гэта будзе «касьметычная чыстка» альбо сапраўды кардынальныя зьмены?***

— Гэты працэс яшчэ толькі акрэсьліваецца. Яшчэ толькі пачнуць працаваць эксьперты БДІПЧ разам зь беларускімі. Апроч таго, мы ўздымалі пытаньне, каб да гэтай працы былі далучаныя прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў і палітычных партыяў як суб’ектаў выбарчага працэсу — тых, хто непасрэдна зацікаўлены ў празрыстасьці, дэмакратычнасьці і справядлівасьці выбараў. Ёсьць пэўны комплекс патрабаваньняў і з боку беларускіх удзельнікаў выбарчага працэсу — палітычных партыяў, грамадскіх аб’яднаньняў, ёсьць заўвагі БДІПЧ, якія, патрэбна адзначыць, на 99% супадаюць. Мы ўсе бачым і слабыя месцы Закона аб выбарах, выбарчага працэсу, і магчымасьці для фальсіфікацыі выбараў у Беларусі, якія зараз існуюць.

***— То бок можна лічыць, што «ахілесавая пята» выбарчага заканадаўства добра вядомая не толькі еўрапейскім эксьпертам, але і праваабаронцам?***

— Так, мы вызначылі слабыя месцы выбарчага працэсу досыць даўно. Гэта тры асноўныя блокі. Першае — фарміраваньне выбарчых камісіяў, якое зараз адбываецца недэмакратычным шляхам. Другі важны момант — правядзеньне папярэдняга галасаваньня, якое патрабуе большай празрыстасьці і кантролю з боку ўдзельнікаў выбараў. Трэці момант — непасрэдна дзень галасаваньня, а менавіта празрыстасьць механізму падліку галасоў.

Зразумела, існуюць і іншыя, не менш важныя неадпаведнасьці. Таму, калі зьявіцца магчымасьць далучыцца да працы над удасканаленьнем выбарчага заканадаўства,

праваабаронцы гатовыя прапанаваць пазітыўныя зьмены ў ім.

***— Сп. Алесь, ці можна неўзабаве чакаць іншых зьменаў у законах, у першую чаргу я маю на ўвазе ганебны артыкул 193[1] Крымінальнага кодэкса?***

— Тут таксама мы маем агульную думку з кіраўніцтвам АБСЕ, гэтае пытаньне падкрэсьліваецца таксама і ў апошняй рэзалюцыі Парламента Еўразьвяза па Беларусі. Мусяць адбыцца зьмены ў заканадаўстве, якое сёньня рэпрэсуе прадстаўнікоў няўрадавых арганізацыяў, і асабліва незарэгістраваных. Увогуле, заканадаўства, якое датычыць свабоды асацыяцыяў, таксама патрабуе перагляду і больш добразычлівага і дакладнага яго выкананьня з боку Міністэрства юстыцыі.

***— Ці можна расцэньваць нядаўняе выказваньне Генеральнага пракурора Беларусі Рыгора Васілевіча аб тым, што «збольшага, адмена сьмяротнага пакараньня магчыма», як рэальнае, асэнсаванае жаданьне ўладаў, альбо гэта чарговая слоўная эквілібрыстыка?***

— Вядома, выказваньне гэтае досыць цікавае, паколькі, на маю думку, на сёньняшні дзень Генеральны пракурор не мае сваёй уласнай пазіцыі, альбо калі яна і ёсьць, дык глыбока схаваная. Так, ён згодны, што пакараньне сьмерцю можна адмяніць. Але «крэхчучы», толькі з тае нагоды, што надта ціснуць еўрапейскія структуры. Аднак у той жа час ён лічыць, што пакуль сьмяротнае пакараньне неабходна дзеля «прафілактычных мэтаў». Але ж што гэта за такая цынічная сярэднявечная «прафілактыка» — пакараньне праз сьмерць? Таму пазіцыю гэтую можна расцаніць як «нашым» і «вашым». Аднак дадам: мне падаецца, што беларускія ўлады псіхалагічна гатовыя да сур'ёзных зьменаў, прынамсі для ўводу мараторыю на такі від пакараньня. З боку ж беларускай грамадскасьці таксама мусіць быць больш выразная і акрэсьленая пазіцыя, якая павінна гучаць, павінен быць грамадскі ціск на ўлады.

Сацыялагічнае апытаньне паказвае, што грамадства фак-

тычна пароўну падзеленае на прыхільнікаў і праціўнікаў сьмяротнага пакараньня. Таму зараз трэба больш актыўна працаваць няўрадавым арганізацыям, уплываць на грамадскую думку, і, безумоўна, мусіць быць палітычная воля дзяржавы.

***— Ці лічыце, што для адмены сьмяротнага пакараньня патрэбна праводзіць рэферэндум, як часта гэтай умовай прыкрываюцца афіцыйныя асобы?***

— Справа ў тым, што для ўвядзеньня маратарыю на сьмяротнае пакараньне аніякіх рэферэндумаў не трэба, заканадаўча гэта можна зрабіць вельмі хутка, а праз пэўны час вярнуцца да канчатковай яго адмены, якраз тады, калі будзе праведзеная адпаведная асьветніцкая тлумачальная праца. Думаю, што беларусы здолеюць даволі хутка разабрацца, што і ў маральным, і ў этычным плане адмена ўзаконенага забойства — для нас рэч неабходная.

*09.02.2009*

*http://spring96.org/be/news/26929*

# У БЕЛАРУСАЎ ІСНУЕ КАЛЕКТЫЎНЫ ІНСТЫНКТ СТРАХУ

**Кіраўнік зачыненага ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі прызнаецца, што ў 1996 годзе не разьлічваў, што «давядзецца так доўга займацца праваабарончай дзейнасьцю». Баюся памыліцца, але выглядае, што ў нашай краіне працы праваабаронцам хопіць надоўга.**

## «УПЕРШЫНЮ Ў ГОМЕЛІ НАПАЧАТКУ 80-Х ЗЬЯВІЛАСЯ ГРУПА СТУДЭНТАЎ, ЯКІЯ СЬВЯДОМА РАЗМАЎЛЯЛІ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ»

**Цыганкоў:** Мне было цікава даведацца, што вы нарадзіліся ў Расеі, у Карэліі. Напэўна, за гэтым стаіць пэўная сямейная гісторыя…

**Бяляцкі:** Напэўна, за лёсам маёй сям'і можна прасачыць лёс цэлага пакаленьня беларусаў, якія вымушаныя былі ад'язджаць зь Беларусі па тых ці іншых прычынах. Сям'я майго бацькі ў 1940 годзе выехала з Рагачоўскага раёна на забраныя Савецкім Саюзам у Фінляндыі карэльскія землі, выехалі, уцякаючы ад калгасаў і калектывізацыі. Тады ў Беларусі не было чаго есьці і дзеці проста пухлі ад голаду. Як распавядаў мой бацька, яны апынуліся ў Карэліі ў такім перадкалгасным раі, іх расьсялілі па хутарах карэлаў, якія

так хутка ўцякалі ад СССР, што пакінулі ўсё, што было ў хаце.

Але нягледзячы на тое, што бацька больш за 20 гадоў жыў у Карэліі, ён і ягоныя сёстры і браты заўсёды марылі вярнуцца ў Беларусь. У 60-я ў Беларусі пачалі будаваць вялікія прамысловыя аб’екты, набіралі працоўных, частка беларусаў вярталася на радзіму. Калі перад маёй сям’ёй у 1964 годзе паўстаў выбар — Сьветлагорск ці Салігорск, — то бацькі выбралі Сьветлагорск, бо ён быў бліжэй да радзімы і бацькі, і маці. Калі мы вярнуліся ў Беларусь, мне было паўтара года.

**Цыганкоў:** У 1986-м вы сталі адным з заснавальнікаў і старшынёй Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Што вас прывяло да «нефармалаў», у беларускую нацыянальную антыкамуністычную дзейнасьць яшчэ да перабудовы?

**Бяляцкі:** Я дастаткова рана пачаў ставіцца крытычна да савецкай рэчаіснасьці. Гэта ішло паступова, пачынаючы ад пытаньняў, зьвязаных з мовай і культурай. Яшчэ ў школе я захапіўся беларускай літаратурай, потым паступіў на гомельскі філфак і сутыкнуўся з рэзкім абмежаваньнем ужываньня мовы, з палітыкай дэбеларусізацыі, якая праводзілася тады (дый праводзіцца і цяпер).

Быў унутраны пратэст, спачатку індывідуальны. Калі ў 1981 годзе я пачаў першым на факультэце паўсюль размаўляць па-беларуску, спачатку зь мяне сьмяяліся, хутка перасталі. Пасьля знайшліся аднадумцы, і мы спрабавалі супрацьстаяць русіфікацыі на сваім узроўні. Упершыню ў Гомелі напачатку 80-х зьявілася група студэнтаў, якія сьвядома размаўлялі на беларускай мове. У 1984 годзе, калі я заканчваў унівэрсітэт, у нас ужо некалькі дзясяткаў чалавек размаўлялі па-беларуску.

Натуральна, што моцны ўплыў на нас аказвалі менскія адраджэнцы, калі я пазнаёміўся зь Вінцуком Вячоркам, Ірынай Вячоркай, Сержуком Сокалавым-Воюшам, Сяргеем Запрудскім, Алесем Сушам. І тады для мяне стала зразумелым, што мы не апошнія з магіканаў, што ў руху ёсьць добрыя персьпектывы. Фактычна, гэта ўжо была падпольная бела-

руская нацыянальна-дэмакратычная праца, якая базавалася на жаданьні бачыць Беларусь незалежнай, дэмакратычнай, з наборам грамадзянскіх і палітычных свабод.

Калі я ўвосень 1986 года прыйшоў з войска, то ідэя стварэньня аб’яднаньня літаратараў ужо лунала ў паветры. За некалькі месяцаў да нас далучылася каля 60 чалавек, практычна ўся найбольш актыўная пішучая моладзь. Мы напісалі маніфест, у якім абвясьцілі, што будзем займацца літаратурай, і будзем рабіць гэта прынцыпова, не паддаючыся на тыя «прыкарытныя» выгоды, якія выдзялялі беларускім пісьменьнікам савецкія ўлады ўзамен за лаяльнасьць. Вядома, маніфест гэты меў эфект бомбы, што разарвалася. «Тутэйшыя» бралі актыўны ўдзел у агульных акцыях, якія тады ладзіліся «нефармальнымі» беларускімі суполкамі: гэта і першыя мітынгі ў Беларусі ў 1987 годзе, гэта і «Дзяды» 1988 года. Мы былі аднымі з ініцыятараў аб’яднаньня беларускай моладзі, якое адбылося ў 1987 годзе на Першым вальным сойме Канфедэрацыі беларускіх суполак, а затым аднымі з ініцыятараў стварэньня БНФ — першага шырокага легальнага дэмакратычнага руху ў савецкай Беларусі, які вельмі шмат зрабіў для незалежнасьці Беларусі.

## «КОЖНАГА З НАС СПРАБАВАЎ ВЕРБАВАЦЬ КДБ»

**Цыганкоў:** Вы разумелі, што за вашай дзейнасьцю пільна сочаць адпаведныя органы? Як вы да гэтага ставіліся тады, у пачатку 80-х, у час самага глыбокага застою? Ці гаварылі вы на сваіх пасяджэньнях усё, што думаеце, ці, вобразна кажучы, прыкладалі палец да вуснаў?

**Бяляцкі:** Наш асяродак быў падзелены на два колы — больш вузкае, нелегальнае, і больш шырокае, адкрытае для ўсіх. Першае — гэта група «Адраджэньне», у якую ўваходзіла не больш за 15 асобаў у розныя часы: Сяргей Дубавец, Алесь Суша, Сяржук Сокалаў-Воюш, Вінцук Вячорка, Віктар і Яўген Івашкевічы, Генадзь Сагановіч, Генадзь Лойка, Алесь Костка. Там, канешне, мы былі вельмі шчырыя і адкрытыя.

Распрацоўка планаў нашых дзеяньняў (а гэта развіцьцё моладзевага дэмакратычнага руху, выпуск нелегальнай друкаванай прадукцыі: мы выдавалі часопіс «Бурачок», праклямацыі, улёткі) адбывалася з прыёмамі сур'ёзнай канспірацыі. Але патрапіць у гэтую групу было зусім не проста, адбор туды з больш шырокага кола ішоў вельмі ўважліва і не сьпяшаючыся. Напрыклад, пасьля майго знаёмства зь менскімі хлопцамі мне прапанавалі ўступіць у гэтую групу толькі праз паўтара года.

Першая палова 80-х была дастаткова суворая. У 1983 годзе адбыўся амаль поўны разгром дысідэнцкіх груповак у Расеі, Украіне, Прыбалтыцы і Закаўказьзі. Тысячы людзей пайшлі ў турмы. Ясна, што КДБ круцілася вакол нашых асяродкаў. Канешне ж, было страшна. Было зразумела, што, ступіўшы на гэтую сьцежку, мы раней ці пазьней сутыкнёмся з машынай падаўленьня іншадумства. Але мы сур'ёзна прадумвалі тыя крокі, якія маглі рабіць, — яны былі на мяжы дазволенага, але фармальна да іх немагчыма было прычапіцца. Калі мы праводзілі Купальле ці Гуканне вясны, сьвяткавалі Каляды, сьпявалі фальклор, езьдзілі на рэстаўрацыю помнікаў, то фармальна да такіх дзеяньняў цяжка было прычапіцца.

Зразумела, што была інфільтрацыя ў тое больш шырокае, «легальнае» кола людзьмі, якія працавалі на КДБ. Дастаткова сказаць, што сярод заснавальнікаў «Тутэйшых» ужо на першым пасяджэньні быў адзін паэт, які напачатку 90-х прызнаўся, што ён супрацоўнічаў з КДБ.

Фактычна органы «пераціралі» кожную творчую асобу, усе мае знаёмыя, з кім я маю шчырыя кантакты, гаварылі, што да кожнага зь іх падыходзілі супрацоўнікі КДБ і спрабавалі вербаваць. Падыходзілі да мяне таксама, калі я ўжо быў старшынёй «Тутэйшых». Але нашы спатканьні скончыліся пасьля першага разу, бо я адмовіўся працягваць нейкія кантакты, хаця мне абяцалі адно-другое-трэцяе. У нас была выпрацавана цьвёрдая пазіцыя, што ні ў якія гульні з гэтай канторай гуляць не пажадана.

## «У 1996 ГОДЗЕ МЫ НЕ ДУМАЛІ, ШТО ДАВЯДЗЕЦЦА ТАК ДОЎГА ЗАЙМАЦЦА ПРАВААБАРОНЧАЙ ДЗЕЙНАСЬЦЮ»

**Цыганкоў:** З 1992 па 1996 год вы былі дэпутатам Менскага гарсавета, таксама ў 90-я вы былі намесьнікам старшыні БНФ. Калі ў вас зьявілася жаданьне ці неабходнасьць ісьці ў праваабарончую дзейнасьць? Дапамог вопыт паўпадпольнага існаваньня?

**Бяляцкі:** У пачатку 90-х мы займаліся праваабарончымі пытаньнямі праз уладныя механізмы. Я сам уваходзіў у камісію гарсавета па рэпрэсаваных у 30–50-я гады, якая займалася рэабілітацыяй рэпрэсаваных. І думалася, што асноўныя грамадскія і палітычныя правы будуць вырашацца ў парламенцкім, заканадаўчым полі. Але пасьля абраньня Лукашэнкі сітуацыя зьмянілася. Калі вясной 1996 года быў з ужываньнем гвалту разгромлены Чарнобыльскі шлях, адбыліся сутычкі зь міліцыяй, то тады ўзьнікла група па хуткім аказаньні дапамогі — затрыманым і іхнім сем’ям.

Але, на жаль, гэтым усё не скончылася — зьявіліся першыя палітзьняволеныя. Нагадаю, ад 1988 года, калі былі разагнаныя «Дзяды», у Беларусі да 1996 года не разганяліся вулічныя дэманстрацыі. Таму ў грамадстве быў пэўны шок, мы адвыклі ад таго, што такое можа адбывацца. Таму не дзіва, што ўзьнікла наша праваабарончая арганізацыя «Вясна-96». Але шчыра скажу, тады мы не думалі, што давядзецца працаваць гэтак доўга.

**Цыганкоў:** Ці адрозьніваюцца беларусы чым-небудзь у галіне правоў чалавека ад іншых нацыяў? Як у гэтай сферы выяўляецца наш менталітэт? Часта кажуць, што для большасьці беларусаў важныя толькі сацыяльныя пытаньні, а правы чалавека і свабода — гэта дастаткова абстрактныя рэчы для вельмі многіх...

**Бяляцкі:** Відаць, сапраўды большасьць беларусаў даволі пасіўна і асьцярожна ставяцца да абароны сваіх грамадскіх і палітычных правоў. Гэта ў крыві са сталінскіх часоў —

боязь і недавер да грамадскай дзейнасьці, бо існуе разуменьне, што ты заўсёды можаш пацярпець за гэта.

**Цыганкоў:** А як вы ставіцеся да наступнай вечнай дылемы: адны кажуць, што спачатку трэба падняць эканоміку, народзіцца сярэдні клас, і ён ужо пачне думаць пра правы і свабоды. Іншыя ж кажуць, што тут няма такой марксісцкай залежнасьці ад эканомікі: маўляў, расьце і багацее Кітай, але правоў там больш не становіцца, а ў багатых арабскіх краінах няма і мовы пра дэмакратыю?

**Бяляцкі:** Натуральна, я шмат разоў думаў пра гэта. Усё ж такі сапраўды, калі грамадства больш заможнае, яно больш мабільнае, гэта дае больш магчымасьцяў для спазнаньня сьвету, сацыяльнага і грамадскага прагрэсу. Хаця я згодны, што гэта не паўсюль так, і часам тут перашкаджаюць нацыянальныя традыцыі.

Але ў нас, у Беларусі, традыцыі змаганьня за свабоду і дэмакратыю маюць вельмі моцныя гістарычныя карані. Залаты век, апошняя траціна XVIII стагодзьдзя, калі ў нас буялі розныя філасофскія школы, калі мысьляры разьвівалі паняцьце правоў чалавека, якое ўпершыню загучала тады на нашых землях, мелі доступ да ўлады і займаліся пераўтварэньнямі ў эканоміцы і адукацыі. Яны ў тыя часы ўжо рыхтавалі адмену прыгону, і сам Ж.-Ж. Русо зьбіраўся пераехаць жыць у Беларусь. Гэта быў вельмі цікавы час, які скончыўся з падзеламі Рэчы Паспалітай і акупацыяй Беларусі дэспатычнай Расейскай імперыяй.

## «ЧАСАМ МОЖНА ПАЧУЦЬ: “ДЫ КІНЬЦЕСЯ ВЫ, ЗАЙМАЕЦЕСЯ АБЫ-ЧЫМ. АБЫ ВАЙНЫ НЕ БЫЛО”»

**Цыганкоў:** Пасьля зьмены рэжыму наўрад ці ў беларускіх праваабаронцаў адразу зьнікне праца?

**Бяляцкі:** Грамадства не мяняецца так хутка. Зьмена любой улады не прыводзіць да структурных зьменаў у галовах, яны не праходзяць за адзін год. Мы яшчэ доўга мусім праца-

ваць над асьветаю нашага грамадства, каб людзі разумелі, што такое правы чалавека...

**Цыганкоў:** Ну вось жыве звычайны беларус, які ходзіць на працу на завод ці ў офіс. Ён усім у прынцыпе задаволены і ні ў чым не бачыць парушэньня сваіх свабод. Як яму даказаць, што ён жыве ў неправавой дзяржаве і што ён павінен выступіць у абарону сваіх правоў?

**Бяляцкі:** Сапраўды, дастаткова часта можна пачуць: «Ды кіньцеся вы, займаецеся абы-чым. Абы вайны не было». Альбо: «Пры Сталіне было лепш, бо быў парадак». Гэта кажуць людзі, выхаваныя ў таталітарнай сістэме, якія не разумеюць, што такое правы чалавека. Наўрад ці ёсьць магчымасьць ім нешта патлумачыць, яны ўжо сфармаваныя і такімі застануцца.

Але людзі вельмі часта мяняюцца, калі сустракаюцца зь несправядлівасьцю, што датычыць менавіта іх. Вось тады зьмены адбываюцца вельмі хутка. І калі раптам яны трапляюць за краты ці сустракаюцца зь бязьлітаснай усёмагутнасьцю дзяржавы, тады яны пачынаюць гаварыць пра правы чалавека, зьвяртаюцца ў праваабарончыя арганізацыі.

Але калі чалавека гэта не датычыць, то ён часта і не жадае расплюшчыць вочы, паглядзець, што робіцца навокал. Бо ёсьць калектыўны інстынкт страху, закладзены яшчэ ў сталінскія часы, — не ўлазіць, не вытыркацца, не фігураваць. І адна з нашых задачаў у працы з грамадствам — пераламаць гэты страх, каб чалавек адчуваў сябе больш годным і вартым павагі.

*01.10.2010*

*«Свободные новости»*

# НА СЁНЬНЯШНІ ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДСТВА СПАВІТАЕ РЭПРЭСІЎНЫМІ ЗАКОНАМІ ПА РУКАХ І НАГАХ

***Адбыўся ўстаноўчы сход грамадскага праваабарончага аб'яднаньня «Наша Вясна», а 27 сакавіка заснавальнікам ГПА «Наша Вясна» зь Вярхоўнага Суда быў дасланы ліст аб тым, што справа па адмове ў рэгістрацыі аб'яднаньня прынятая да разгляду. Ці сапраўды існавала неабходнасьць у трэці раз праводзіць устаноўчы сход, альбо рашэньне Вярхоўнага Суда для вас прагназуемае?***

**А. Б.:** Сапраўды зараз ідзе гэткі бесьперапынны працэс: з аднаго боку, мы яшчэ не скончылі абскарджваць адмову Мінюста ў рэгістрацыі праваабарончаму аб'яднаньню «Наша Вясна», устаноўчы сход якога быў праведзены ў студзені гэтага года. Паралельна, 29 сакавіка мы правялі яшчэ адзін устаноўчы сход праваабаронцаў, з тым каб яшчэ раз падрыхтаваць неабходныя дакументы і падаць іх у Міністэрства юстыцыі. Гэтае рашэньне зьвязанае з тым, што, на жаль, працэнт аб'ектыўных разглядаў у Вярхоўным Судзе па адмовах у Мінюсьце зьяўляецца вельмі нізкім. Літаральна на пальцах можна пералічыць тыя арганізацыі, якія здолелі адстаяць свае права на рэгістрацыю ў Вярхоўным Судзе. Не стану казаць, што Вярхоўны Суд заангажаваны альбо што маюцца нейкія палітычныя ўказаньні, але сама статыстыка сведчыць: разгляд спраў праходзіць часта ў вельмі жорсткай манеры, і часам дастаткова адной коскі альбо кропкі, каб

адмовіць арганізацыі ў рэгістрацыі. Мы з гэтым сутыкнуліся ў 2007 годзе, калі па фармальных падставах не была зарэгістраваная праваабарончая арганізацыя.

***На ўстаноўчым сходзе вы паведамілі, што ў выпадку чарговай адмовы ў рэгістрацыі спыніце спробы атрымаць афіцыйны статус. Гэта часовая тактычная пазіцыя?***

**А. Б.:** Зараз гэта будзе трэцяя, і апошняя, спроба. Мы прыйшлі паміж сабой да такой высновы. Мы паспрабуем абсалютна ідэальна падрыхтаваць пакет дакументаў, які датычыць нашай рэгістрацыі, каб ніводнай кропкі альбо коскі знайсьці не ўдалося. А зь іншага боку, паспрабуем максімальна шырока падключыць міжнародны кантэкст да нашай рэгістрацыі, бо як бы там ні было, у праваабаронцаў, якія складаюць касьцяк заснавальнікаў, за дзесяцігодзьдзі працы наладжаныя добрыя стасункі і кантакты з праваабарончымі арганізацыямі, партнёрамі за мяжой, з тымі, хто зможа паўплываць на гэтую сітуацыю, улічваючы пры гэтым спробы Беларусі палепшыць свой імідж у вачах Еўрапейскага зьвязу. Я думаю, што пытаньне рэгістрацыі «Нашай Вясны» будзе досыць сур'ёзным выпрабаваньнем для беларускіх уладаў у плане выкананьня тых абавязкаў, якія Беларусь зьбіраецца ўзяць на сябе, уступіўшы ва «Усходняе партнёрства». А без абавязкаў там не абыдзецца. Сустракаючыся зь еўрапейскімі чыноўнікамі на многіх самітах, магу зазначыць, што імі неаднаразова заяўлялася аб тым, што не можа быць безумоўным членства ва «Усходнім партнёрстве» без пэўных абавязкаў. Актыўнасьць Беларусі ва «Усходнім партнёртве» будзе вельмі моцна завязана на тым, наколькі Беларусь зьбіраецца выконваць стандарты ў галіне правоў чалавека, ад дэмакратызацыі сітуацыі ў Беларусі.

Мы працягваем руку да супрацоўніцтва беларускім уладам, гэтая рэгістрацыя патрэбна не толькі нам, праваабаронцам, яна патрэбна таксама і ўладам. Мы зьбіраемся працаваць адкрыта, легальна, празрыста, не зьбіраемся хаваць нейкія там патаемныя мэты. Яны дастаткова вядомыя, і мы хочам, каб краіна выконвала тыя абавязкі, у першую чаргу

міжнародныя, у галіне правоў чалавека, якія яна ўзяла на сябе. Каб выконваліся ў рэшце рэшт палажэньні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Многія законы, якія датычаць грамадска-палітычнага жыцьця, на жаль, за апошнія дзесяць гадоў мелі ў асноўным рэпрэсіўны і абмежавальны характар.

***Спадар Алесь, калі раптам і трэцяя спроба рэгістрацыі будзе марнай, якім чынам вы зьбіраецеся надалей працаваць? Гэта не звузіць сферу вашай дзейнасьці?***

**А. Б.:** На маю думку, зараз, калі сучасныя тэхналогіі дазваляюць імгненна распаўсюджваць нейкія факты, калі падзея жыве тады, калі яна выкладзена ў інфармацыі, калі ёсьць камп'ютары, інтэрнэт, мабільная сувязь і ёсьць магчымасьць прадстаўляць інфармацыю ў розныя незалежныя сродкі масавай інфармацыі, не існуе праблемы кантактаваньня праваабаронцаў паміж сабой, з грамадскай супольнасьцю, канкрэтна зь людзьмі. Кожны праваабаронца можа індывідуальна працаваць, што фактычна ў апошні час намі і рабілася. Таксама мы маглі і супольна дабівацца выкананьня нейкіх мэтаў, як праваабаронцы. У любым выпадку праваабарончая работа ў тых накірунках, у якіх мы працавалі раней, будзе працягвацца. Перш за ўсё гэта дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій, збор і распаўсюд праваабарончай інфармацыі, падрыхтоўка тэматычных дакладаў для міжнародных канферэнцый і арганізацый, актыўная праца са сродкамі масавай інфармацыі, навучальныя праваабарончыя праграмы, якія мы праводзім у першую чаргу для моладзі. І, безумоўна, гэта назіраньне за выбарамі, чым мы займаемся ў той альбо іншай ступені больш за 10 гадоў.

Дарэчы, наступны, 2010 год — гэта год прэзідэнцкіх выбараў, і прыйшоў час думаць, якім чынам усё будзе адбывацца, як арганізаваць найбольш эфектыўную работу па назіраньні.

***Вы на працягу многіх гадоў займаецеся зборам і аналізам інфармацыі аб парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі. Якія, на вашу думку, самыя балючыя кропкі можна вылучыць, аналізуючы парушэньні правоў чалавека?***

**А. Б.:** Найперш гэта цэлы комплекс рэпрэсіўных законаў, якія закранаюць грамадска-палітычнае жыцьцё ў Беларусі, тыя правы і абавязкі, якія маюць беларускія грамадзяне. Дастаткова нагадаць некаторыя законы, прынятыя за апошнія дзесяць гадоў: аб сродках масавай інфармацыі, аб супрацьдзеяньні экстрэмізму, аб масавых мерапрыемствах. А яшчэ Закон аб дзейнасьці няўрадавых арганізацый і палітычных партый і тыя зьмены, што былі ўнесены ў крымінальнае заканадаўства ў частцы, якая тычыцца грамадскай дзейнасьці. Усе яны патрабуюць вельмі сур'ёзнага і ўдумлівага перагляду ды і ўвогуле перапісваньня. На сёньняшні дзень беларускае грамадства проста спавітае гэтымі рэпрэсіўнымі законамі па руках і нагах.

Мы павінны дабівацца перагляду гэтах законаў і ўвогуле дэмакратызацыі ўсяго заканадаўства, што дазволіць больш вольна пачувацца беларускім грамадзянам і грамадскім ініцыятывам, прафсаюзам і палітычным партыям — усім тым, хто сёньня фарміруе грамадскае жыцьцё краіны.

*01.04.2009*

## ГЭТА ПАКАЗВАЕ НІЗАСЬЦЬ УЛАДЫ

**Сьпіс асобаў, якія прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці за падзеі 19 сьнежня 2010 года, апублікаваны на сайце праваабарончай арганізацыі «Вясна», мы папрасілі пракаментаваць лідара арганізацыі Алеся Бяляцкага.**

**Бяляцкі:** Мы сабралі гэтыя зьвесткі ад сваякоў затрыманых. Ім званілі з КДБ і паведамілі, што іх родныя знаходзяцца ў сьледчым ізалятары КДБ. Яны самі ці іх знаёмыя пацьвердзілі нам гэтую інфармацыю. Мы сёньня займаліся тым, што забясьпечвалі адвакатаў тым з гэтых людзей, у каго іх няма. Была і яшчэ адна крыніца інфармацыі, якую я не магу назваць.

На ўчора ў сьпісе было 16 чалавек.

**Дракахруст:** У гэтым сьпісе даволі вядомыя людзі. Я не ўбачыў у ім людзей, якія маглі біць шыбы і ламаць дзьверы ў Доме ўрада.

**Бяляцкі:** Тут могуць быць два варыянты. Ці гэта было справакавана сьпецслужбамі, і тады канцоў мы не знойдзем. І другі варыянт — у гэтым маглі ўдзельнічаць гарачыя галовы, якія думалі, што за пяць хвілін можна перакуліць сьвет. І ў такім выпадку гэты сьпіс будзе папаўняцца.

Але я лічу, што вялікага злачынства там не было. Разьбілі шкло. Гэта, безумоўна, правапарушэньне. Але лёгкае. Мы бачым, як ацэньваюцца такія правапарушэньні ў нармальных дэмакратычных краінах. Там гэта адміністрацыйнае

правапарушэньне, і такому правапарушальніку могуць выставіць рахунак за тое, каб ён гэтую шкоду кампенсаваў.

Мы памятаем, як Валер Шчукін біў шкло ў будынку МУС, як Арына Вячорка біла шкло ў міліцэйскім пастарунку, патрабуючы, каб ёй далі інфармацыю пра сына. Шчукін быў пакараны адміністрацыйным арыштам, Вячорка — штрафам.

**Дракахруст:** Як бы вы маглі пракаментаваць пакаяньне былога міліцыянта Аляксандра Класкоўскага, відэаролік зь якім быў вывешаны на сайце менскай міліцыі?

**Бяляцкі:** Гэта ўсё ўкладаецца ў серыю «эфэктыўнай» працы КДБ, якая, я мяркую, такім жа чынам спрацавала і са спадаром Раманчуком, які таксама зьмяніўся на працягу адной ночы. Частка людзей хапаецца за галаву: што ж я нарабіў, я ж за яго галасаваў! Падобная практыка псіхалагічнага ўзьдзеяньня на затрыманых людзей з боку КДБ праяўляецца такім чынам, і не кожны можа гэта вытрымаць, калі ён раней не трапляў у падобныя сітуацыі. Асабліва калі гэта людзі з кабінетных работнікаў, інтэлігенцыя. Прапануюцца розныя варыянты выхаду зь сітуацыі, пагражаюць, што «ты прападзеш канчаткова», і ўсё гэта ідзе на працягу некалькіх гадзінаў. Людзі проста «плывуць». Гэта псіхалагічны ціск, і так яго трэба і ўспрымаць. Сьледчыя КДБ такім чынам паказваюць свой прафесійны ўзровень. Але мне падаецца, што гэта паказвае нізасьць сёньняшняй улады, якая ідзе на такія крокі, каб на вачах усяго грамадства зламаць людзей.

*22.12.2010*

*Радыё «Свабода»*

## ТРЭБА ПРЫНЯЦЬ УСЕ МЕРЫ ДЛЯ СПЫНЕНЬНЯ ЭСКАЛАЦЫІ НАПРУЖАНАСЬЦІ ДЫ ІСТЭРЫІ, СТВАРАЕМАЙ УЛАДАМІ НАПЯРЭДАДНІ ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ

На пачатку года праваабарончы цэнтр «Вясна» прагназаваў узмацненьне хвалі рэпрэсіяў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Але тады яшчэ праваабаронцы не маглі прадбачыць, пойдуць улады на крымінальны перасьлед альбо рэпрэсіі будуць мець прыхаваны характар. У якім рэчышчы разьвіваецца сітуацыя? Сваю ацэнку падзеям апошніх тыдняў дае кіраўнік ПЦ «Вясна», віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі.

Праваабаронца адзначае, што прагнозы наконт таго, што 2010 год будзе складаны ў плане захаваньня правоў чалавека ў Беларусі, спраўджваюцца. І найперш гэта зьвязана зь дзвюма палітычнымі кампаніямі: выбары ў мясцовыя Саветы прайшлі і сітуацыя плаўна перайшла ў рэчышча прэзідэнцкіх выбараў. І так няпростае становішча з правамі чалавека ў краіне пачало ўскладняцца, і праваабаронцы заяўляюць, што зьявіліся падставы сьцьвярджаць: рэпрэсіі да актыўных групаў грамадзянскай супольнасьці Беларусі набылі планавы характар. Алесь Бяляцкі акрэсьліў некалькі накірункаў рэпрэсіўных дзеяньняў уладаў.

## АБЛАВА НА НЕЗАЛЕЖНЫХ ЖУРНАЛІСТАЎ І СМІ

Адна з групаў — актыўныя журналісты, якія працуюць у незалежных СМІ. І нейкім дзіўным зьбегам акалічнасьцяў усе гэтыя журналісты аказаліся жанчынамі — шэф-рэдактар «Народнай волі» Сьвятлана Калінкіна, намесьніца рэдактара «Народнай волі» Марына Коктыш, журналіст «Новай газеты» Ірына Халіп і рэдактар сайта *charter97.org* Натальля Радзіна. Ёсьць у гэтым пэўны сімвалізм: прэзідэнт, прэм’ер, галоўны міліцыцянер, вышэйшы кадэбіст і генеральны пракурор — усе мужчыны — падступна змагаюцца з жанчынамі-журналісткамі, якія сьмела і адчайна адстойваюць права на атрыманьне і распаўсюд інфармацыі. З мэтай ціску на іх, фармальна была скарыстаная так званая «паляўнічая справа». Журналістак перыядычна выклікаюць на допыты ў якасьці сьведак, але ўсё нагадвае якраз тое, што звычайна адбываецца з абвінавачанымі, — вобшукі, канфіскацыя камп’ютарнай тэхнікі, маральна-псіхалагічны ціск. Зьвяртае на сябе ўвагу і той факт, што чалавекам, які сьцьвярджае, што яны зрабілі на яго паклёп, зьяўляецца генерал, былы начальнік упраўлення КДБ. А як вядома, былых кадэбістаў не бывае. Для праваабаронцаў відавочна, што гэта справа высмактаная з пальца і асноўная задача ўладаў — рукамі сілавых структураў разграміць тры надзвычай папулярныя крыніцы інфармацыі Беларусі — сайты «Хартыя’97», «Беларускі партызан» і газету «Народная воля».

Безумоўна, перасьлед незалежных журналістак, высокіх прафесіяналаў сваёй справы, выклікае вялікую заклапочанасьць у праваабаронцаў, мы бачым у гэтым чарговы крок уладаў, накіраваны на абмежаваньне распаўсюду інфармацыі. І гэта зразумелы сігнал для ўсіх незалежных журналістаў — пра тое, што ў любы момант на іх могуць знайсьціся ўяўныя кампраметуючыя матэрыялы і яны могуць аказацца напачатку ў якасьці сьведкаў, а пасьля і ў якасьці абвінавачаных, калі гэтага захочуць улады. Такая персьпектыва вельмі верагодная для гэтых журналістак. Таму я заклікаю беларускае грамадства як мага больш актыўна ўключыцца ў іх абарону.

У гэтую ж схему ўладаў ціску на свабоду слова ўваходзіць прыняцце новага закона аб урэгуляваньні інтэрнэта. Зараз мы ўсе чакаем пастановаў Савета Міністраў, якія канчаткова дазволяць зразумець карціну — што ж мелася на ўвазе, калі прымаўся такі цьмяны ўказ. Ці гэтая пастанова сапраўды нейкім чынам зробіць больш бясьпечнай інтэрнэт-прастору для карыстальнікаў, абароніць нас ад інтэрнэтных злачынстваў, ці, як я моцна падазраю, там закладзеныя падводныя камяні, якія абцяжараць доступ беларускіх грамадзянаў да незалежнай інфармацыі, што зьмяшчаецца на сотнях дэмакратычных сайтаў — праваабарончых, моладзевых, асьветніцкіх, рэгіянальных. Вельмі верагодна, што найперш могуць пацярпець сайты, якія карыстаюцца найбольшай папулярнасьцю, пасьлядоўныя і бескампрамісныя ў дачыненьні да ўладаў па пытаньнях правоў чалавека, дэмакратыі ў Беларусі.

І фактычна ўжо пачаў ужывацца артыкул $369^1$ Крымінальнага кодэкса, які прадугледжвае адказнасьць за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь. Напрыклад, пагрозу патрапіць пад гэты артыкул нядаўна атрымаў адзін зь лідараў прадпрымальнікаў, кіраўнік Брэсцкага адзьдзяленьня БРГА «Перспектыва», якога пракуратура папярэдзіла за «неаб’ектыўныя каментары ў СМІ», у тым ліку і замежных, у сетцы інтэрнэт. У пераліку гэтых СМІ пазначаны якраз сайты racyja.by, perspektiva.org, charter97.org, euromost.org, svaboda.by, zapraudu.info. Гэта ёсьць рэальны ціск на людзей. Існуе небясьпека, што і перад, і падчас, і пасьля прэзідэнцкіх выбараў гэты крымінальны артыкул будзе ўжывацца як у дачыненьні да грамадскіх актывістаў, так і да журналістаў.

## РЭПРЭСІІ СУПРАЦЬ ГРАМАДСКІХ АКТЫВІСТАЎ

Учарашні дзень увойдзе ў гісторыю Беларусі як дзень «зачысткі» грамадскай ініцыятывы «Гавары праўду». Брыдка, што ўлады змагаюцца з падкрэсьлена мірнымі грамадскімі ініцыятывамі на поўным сур’ёзе, з арыштамі, ператрусамі,

канфіскацыямі і допытамі, зноў жа выдумляючы нейкія міфічныя прэтэнзіі. Яшчэ брыдчэй, што быў затрыманы адзін з нашых найлепшых пісьменьнікаў Уладзімір Някляеў. Чалавека, якога любая іншая нармальная краіна аберагала б і ганарылася б, садзяць у турму... Лукашэнка, які неаднаразова пагардліва выказваўся ў адрас беларускай мовы, беларускіх пісьменьнікаў, які, на маю думку, вельмі мала разумее, што такое культура і літаратура, чарговы раз паспрабаваў сцьвердзіць, што ў гэтай краіне няма прарокаў, апрача яго.

Да таго ж мы маем справу віцебскага актывіста Сяргея Каваленкі. Вынесены прысуд: тры гады зьняволеньня ўмоўна. Абмежаванне свабоды, патэнцыйная небясьпека, якая вісіць над ягонай галавой, робіць С. Каваленку палітычна рэпрэсаваным. Ведаючы яго актыўную грамадскую пазіцыю, шчырае рэагаваньне на няпраўду, я баюся, што з умоўна зьняволенага ён у любы момант можа стаць зьняволеным рэальна. Улады пастараліся стварыць пастку для С. Каваленкі, але ў палітычным плане яны стварылі пэўную пастку і для сябе.

Надалей сьпіс асуджаных і зьняволеных па палітычных матывах у краіне (на сёньняшні дзень у нас шэсьць такіх асобаў — Арцём Дубскі, Тарас Сурган, Мікалай Аўтуховіч, Уладзімір Асіпенка, Аляксандр Ларын, Міхаіл Казлоў) можа папоўніцца.

Нядаўна была ўзбуджаная крымінальная справа супраць палітычнага актывіста Алеся Зарэмбюка з Мастоў. Надзвычай актыўнага маладога чалавека, які ствараў палітычную канкурэнцыю і выступаў з лакальнымі грамадскімі ініцыятывамі, што мелі падтрымку ў мясцовага насельніцтва, вырашылі скампраметаваць і абвінавацілі ў махлярстве. Гэтая справа мае відавочна палітычны кантэкст. Алесь Зарэмбюк не новы чалавек у грамадска-палітычнай дзейнасьці. Ён быў актывістам моладзевых арганізацыяў, затым палітычнай партыі, абіраўся дэпутатам раённага Савета, удзельнічаў у сёлетніх мясцовых выбарах у якасьці кандыдата ў дэпутаты. І менавіта падчас выбараў пачалася новая хваля перасьледу ў дачыненьні да яго.

Нельга абысьці ўвагай і тое, што адбылося ў Навапалацку, —ператрус і канфіскацыя аргтэхнікі на офісе праваабаронцы Зьміцера Салаўёва, менавіта на тым офісе, па адрасе якога двойчы за мінулы год спрабавала зарэгістравацца рэспубліканская арганізацыя «Праваабарончы цэнтр “Вясна”». З. Салаўёў назіраў за выбарамі ў мясцовыя Саветы ў Навапалацку.Ператрус нібыта зьвязаны зь верагоднасьцю таго, што моладзь, якая наведвае гэты офіс, рабіла неанацысцкія надпісы ў горадзе. Без сумневу, што дзеяньні ўладаў накіраваныя на спыненьне фактычна адзінай незалежнай ад уладаў кропкі, дзе зьбіраліся грамадскія і палітычныя актывісты, ладзіліся розныя беларускія культурніцкія акцыі. Нагадаю, што гэты офіс абшукваўся таксама ў 2006 годзе. Перад новымі прэзідэнцкімі выбарамі карціна ізноў паўтарылася.

Усе гэтыя наступы на журналістаў, рэгіянальных актывістаў грамадскіх арганізацыяў і палітычных партыяў у Менску, Брэсьце, Гомелі, Віцебску, Мастах, Навапалацку, шматлікіх іншых — яны складаюцца ў адзіную карціну, так бы мовіць, пачатковага этапу выбарчай кампаніі. Я баюся, што мы будзем сутыкацца яшчэ зь дзясяткамі падобных выпадкаў гвалтоўнага спыненьня ўладамі любой грамадскай актыўнасьці. І справы могуць даходзіць да абсурду, як гэта адбылося 17 траўня з групай антыфашыстаў, якія сабраліся ў будынку «Гістарычнай Майстэрні» па вул. Сухой, 25. Прагляд дакументальнага фільма скончыўся затрыманьнем, прычым і грамадзяніна Бельгіі.

Мы бачым, што ўлады напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў распачалі спланаваную і добра падрыхтаваную кампанію па ўдушэньні грамадзянскай актыўнасьці. І гэта яшчэ пачатак. Мы павінны зараз з дапамогай міжнароднай супольнасьці прыкласьці ўсе намаганьні для спыненьня эскалацыі напружанасьці ды істэрыі ў грамадстве, якую ствараюць выканаўчыя ўлады напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў.

## ПРЫНЦЫПОВЫЯ ДЛЯ ЕЎРАПЕЙСКАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ ПЫТАНЬНІ НЕ ВЫРАШАЮЦЦА

Лакмусавай паперкай у стасунках беларускай дзяржавы зь еўрапейскай супольнасьцю зьяўляецца пытаньне сьмяротнага пакараньня. З аднаго боку, яно не аказвае такога вырашальнага ўплыву на стасункі паміж грамадзянскай супольнасьцю і ўладамі краіны, як, напрыклад, выбарчае заканадаўства, і ў той жа час мае вялікі маральны і сімвалічны асьпект. Смяротнае пакараньне ўваходзіць у ідэалагічны набор беларускіх уладаў. Так сталася пасьля рэферэндуму, на які яно выносілася. Але мы ж памятаем сэнс таго рэферэндуму: сьмяротнае пакараньне тады было прычэпным вагончыкам, які фактычна завуаляваў больш істотныя для беларускіх уладаў пытаньні — зьмену Канстытуцыі, якая прывяла да неабмежаванай канцэнтрацыі ўлады ў адных, прэзідэнцкіх руках. Можа, і таму яшчэ яно такое дарагое для прэзідэнцкага сэрца. Ідэалагічны асьпект выкарыстаньня сьмяротнага пакараньня застаецца і да сёньняшняга дня нароўні зь зялёна-чырвоным сьцягам, усімі камсамоламі-БРСМамі-піянерамі і іншай постсавецкай сімволікай — як сімвал «жорсткасьці і справядлівасьці» ўлады. У гэтым якраз і ёсьць праблема — праз свой палітычны кантэкст гэта пытаньне для беларускіх уладаў аказалася даволі значным.

Дзякуючы таму, што апошні год беларускія праваабаронцы актыўна праводзілі кампанію супраць сьмяротнага пакараньня, сама праблема стала больш рэальнай, персаніфікаванай: мы ўбачылі канкрэтных людзей, якія стаяць за ёй, — асуджаных да вышэйшай меры пакарання і расстраляных, іх сваякоў. Праблема стала больш зразумелай для грамадства. І роля дзяржавы ў гэтай сітуацыі стала відавочна нявыйгрышнай. Дзяржава з суровага абаронцы спакою і парадку пераўтвараецца ў помсьлівага ката зь пісталетам у руках.

Праблема сьмяротнага пакараньня выйшла на адно зь першых месцаў у адносінах Беларусі з Радай Еўропы. Для нашых цынікаў, якія сядзяць ва ўрадзе і разважаюць толькі

фінансавымі ці постсавецкімі палітычнымі катэгорыямі для «ўнутранага спажываньня», пытаньне пра статус сьпецыяльна запрошанага ці сяброўства ў Радзе Еўропы доўгі час не было настолькі важным. Але ў рэшце рэшт і яны зразумелі, што міжнародны імідж дзяржавы, сяброўства ў розных міжнародных палітычных клубах — гэта таксама грошы. Але што тут пераможа — невядома.

Адносіны паміж беларускай уладай і грамадзянскай супольнасьцю вельмі пільна і скрупулёзна адсочваюцца структурамі Еўразьвязу. Сёньня Еўразьвяз надзяляе значна больш увагі стасункам зь Беларусьсю, нават у параўнаньні з папярэднімі выбарамі. Еўрачыноўнікі, якія ўжо не першы год займаюцца Беларусьсю, разумеюць, што тут адбываецца. І сітуацыя з правамі чалавека, са сьмяротным пакараньнем, з грамадзянскімі свабодамі, якія так актыўна перасьледуюцца ў Беларусі, не спрыяе паляпшэньню стасункаў Беларусі зь Еўразьвязам.

## СІТУАЦЫЯ ПАТРАБУЕ АКТЫЎНАСЬЦІ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ

— Сёньня ўсім без выключэньняў сегментам беларускай грамадзянскай супольнасьці: журналістам, праваабаронцам, грамадскім, палітычным і прафсаюзным актывістам — неабходна актыўнасьць у адстойваньні сваіх правоў. Нягледзячы на злоснасьць, зацятасьць і падступнасьць беларускіх уладаў, мы можам дасягнуць пэўнага прагрэсу. Ідзе зацятая барацьба, і асноўная мэта выканаўчых уладаў — паралізаваць беларускае грамадства і застацца пры ўладзе яшчэ на доўгі час. Нягледзячы на рэпрэсіі, беларускае грамадства павінна перасіліць складаную сітуацыю праз сваю актыўнасьць і ахвярнасьць. І гэта датычыцца ўсіх нас.

*19.05.2010*

*http://spring96.org/be/news/34171*

## ПРАВААБАРОНЫ НА НАША ЖЫЦЬЦЁ ХОПІЦЬ

## (адказы на пытаньні слухачоў Радыё «Свабода», 2007 і 2010 год)

***Vy pamjatete 1996 god-kali paslja Thernobylskaga Sljaha u Mensku bylo shmat zbityh i aryshtavanyh liudze? U kago uznikla dumka dapamac i stvaryc "Vjasnu"? Ramanau Mikalai. Antwerpen. Belgioe.***

Думка ўзьнікла ў мяне яшчэ трохі раней за вясну 1996-га, калі пачаліся першыя арышты і крымінальныя справы па палітычных матывах у 1995 годзе, калі ў 1996 годзе ў сьледчым ізалятары КДБ за вершык «Убей президента», напісаны ў стылі паэтычнай правакацыі, апынуўся паэт Славамір Адамовіч. Аказалася, што тады не было праваабарончай арганізацыі, якая б у Беларусі займалася практычнай дапамогай ахвярам палітычных рэпрэсіяў. А бачна было, што такая патрэба існуе. Таму адразу пасьля Чарнобыльскага шляху 1996 года, калі беларускія ўлады ўпершыню ўжылі супраць дэманстрантаў гвалт у такіх маштабах, па маёй ініцыятыве і сабралася групка людзей, якія ўзялі на сябе працу па зборы інфармацыі пра пацярпелых і аказаньні дапамогі вязьням ды іхнім сем'ям. Бо тады ж упершыню былі гэтыя масавыя затрыманьні, і людзі не ведалі, што адбываецца з затрыманымі сваякамі і знаёмымі, была сапраўдная інфармацыйная

блакада з боку міліцыі і судоў. Сітуацыя, дарэчы, паўтарылася ўвесну 2006 года, празь дзесяць гадоў.

А тады, у 1996-м, праз пару месяцаў мы назваліся «Вясна-96», а 23 лютага 1997 года былі афіцыйна зарэгістраваныя як менскі праваабарончы цэнтр «Вясна-96». У 1999 годзе арганізацыя атрымала рэспубліканскі статус, ужо як праваабарончы цэнтр «Вясна», а ў 2003-м была ліквідавана Міністэрствам юстыцыі. Калі б хто тады, у 1996 годзе, сказаў, што і сёньня, праз адзінаццаць гадоў я і мае сябры будзем займацца тым самым, не паверыў бы. Але вось так атрымліваецца.

***Ci shkaduece Vy ab chym-nebudz' u svaim gyccі? Z pavagaj, Hryscina***

Шкадую, але не моцна.

***Раскажэце, калі ласка, пра вынікі вашай працы ў 2006 годзе. Дзякуй. Павал. Менск.***

Мне падаецца, што ў 2006 годзе мы зрабілі тое, дзеля чаго рыхтаваліся ўсе папярэднія адзінаццаць гадоў. Мы забясьпечылі дапамогу сотням ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, і зрабілі гэта нармальна. Можна дадаць некаторыя друкаваныя праекты, такія, як кніжка «Верым! Можам! Пераможам!» пра падзеі вясны-2006, якая імгненна разышлася, а таксама дапамога ў падрыхтоўцы фільма Юрыя Хашчавацкага «Плошча». Трэба сказаць і пра шматлікія выступы на міжнародных праваабарончых канфэрэнцыях, працу нашага сайта www.spring96.org, — усяго і не пералічыш.

***Jak tak vyjshla, shto kirauniki pravabaroncy — Procka, Beliacki — ni razu ne patrapili na Akrescina?***

Я там быў пяць разоў. А тое, што там не была Т. Працька, — дык гэта і добра, бо гэта не месца, дзе мусяць быць жанчыны.

***Вы калісьці былі сябрам Беларускай каталіцкай грамады, а зараз пад вашым кіраўніцтвам «Вясна» паступова пераходзіць да абароны правоў сэксуальных меншасьцяў. У вас змяніліся погляды, адносіны да веры? Як гэтыя факты між сабой можна пагадзіць?***

Час ляціць. 20 гадоў таму Беларуская каталіцкая грамада зрабіла моцны штуршок для рэанімацыі рэлігійнага жыцьця ў Беларусі і для ўсталяваньня беларускай мовы ў каталіцкіх касьцёлах. І я прыклаў да гэтага свае намаганьні і душу. Для мяне асабіста рэлігійныя перакананьні, вера ў Бога не пярэчаць талерантнасьці ў шырокім сэнсе гэтага слова, у тым ліку і да прадстаўнікоў сэксуальных меншасьцяў. Быць вернікам у маім разуменьні — гэта значыць мець вялікае цярпеньне і разуменьне іншасьці ў любых ейных праявах. У традыцыйным постсавецкім беларускім грамадстве існуе шмат забабонаў і неадукаванасьці ў пытаньнях, датычных сэксуальных меншасьцяў. Сэксуальная арыентацыя блытаецца з сэксуальнымі паводзінамі і адчуваньнем полавай прыналежнасьці. На ўсё на гэта накладзена нябачнае табу. Урэшце я хацеў бы нагадаць вернікам-традыцыяналістам, што ў савецкія часы аднолькава перасьледаваліся як вернікі, так і прадстаўнікі сэксуальных меншасьцяў. Мы ж не Саветы!

*http://spring96.org/be/news/32142*

***Добры дзень, сп. Алесь. Ведаю вас як добрага эсэіста. Вашая кніга «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера» вельмі лёгкая і цікавая. Таксама ведаю, што вы спрычыніліся да нядаўняга выданьня вершаў А. Сыса, за што вам асобнае вялікае дзякуй. Можа, распаведзяце, ці пішаце вы зараз штосьці і ці не плануеце новых асабістых выданьняў?***

Планую, але часу, на жаль, няшмат. Хаця імкнуся нешта рабіць. Вось зараз толькі як выйшла ў сьвет цудоўная аповесьць Барыса Пятровіча «Плошча», у якой апісваюцца памятныя падзеі пяцігадовай даўнасьці, да якой я таксама спрычыніўся, бо быў яе рэдактарам. Усім ахвотным і тым, хто меў дачыненьне да сакавіцкай Плошчы Каліноўскага ў 2006 годзе, раю пачытаць.

***Ci ne adbila pravaabarona cikavosc’ da litaratury i zhyccia? Pra shto zgadvaecca z najbolshaj pryemnasciu i chago vam ne stae dzelia pounaga shchascia (tolki ne kazhyce — svabody i nezalezhnasci Belarusi)?***

Не, не адбіла, але прафесійна пасунула занятак літарату-

разнаўствам на другі, а можа і на трэці, план. А ток і пульс жыцьця ў праваабароне адчуваецца як нідзе. Ні дня спакою, увесь час нейкія падзеі і прыгоды… Для поўнага шчасьця мне нестае стану нічоганяробленьня. Я вельмі люблю нічога не рабіць.

*11.03.2010*

*Радыё «Свабода»*

# ВЫНІКІ 2010 ГОДА: ПАЛІТЫКА «ЛІБЕРАЛІЗАЦЫІ» ЗАВЯРШЫЛАСЯ НЕБЫВАЛЫМІ РЭПРЭСІЯМІ І МАСАВЫМІ АРЫШТАМІ

***Праваабарончы цэнтр «Вясна» рыхтуе да выданьня традыцыйную гадавую справаздачу «Агляд-хроніка парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі ў 2010 годзе». Пра тое, чым гэты год быў адметным у грамадска-палітычным жыцьці краіны, піша старшыня ПЦ «Вясна», віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі.***

2010 год у жыцьці краіны выдаўся надзвычай напружаным і дынамічным. У студзені ў Беларусі пачалася кампанія выбараў у мясцовыя Саветы (самі выбары былі прызначаныя на 25 красавіка). Яна была цікавай тым, што гэта была першая выбарчая кампанія, якая праходзіла пасьля прыняцьця паправак у выбарчае заканадаўства. Надзвычай важна было прааналізаваць і на практыцы ўбачыць, якім чынам гэтыя зьмены паўплывалі на большую дэмакратычнасьць і празрыстасьць выбарчага заканадаўства, з улікам таго, што ў канцы года намячалася правядзеньне прэзідэнцкіх выбараў. Буйныя праваабарончыя арганізацыі Беларусі ПЦ «Вясна» і БХК ініцыявалі грамадскую ініцыятыву «Праваабаронцы за свабодныя выбары».

Выбары ў мясцовыя Саветы адбыліся ў красавіку, кампанія не выклікала заўважнай грамадскай актыўнасьці. Арга-

нізатары маніторынгу «Праваабаронцы за свабодныя выбары» прыйшлі да высновы, што істотных зьменаў у правядзеньні выбараў, нягледзячы на зьмены выбарчага заканадаўства, не адбылося. Уладамі не былі ўлічаныя рэкамендацыі па ўдасканаленьні выбарчага заканадаўства як з боку беларускіх палітычных партыяў і НДА, так і з боку БДІПЧ АБСЕ. Былі зафіксаваныя масавыя парушэньні дэмакратычных стандартаў правядзеньня выбараў.

Улады працягвалі праводзіць апрабаваную ў 2009 годзе тактыку кропкавага стрымліваньня грамадзянскай ды палітычнай актыўнасьці. Так, новы, 2010 год пачаўся з эскалацыі канфлікту ўладаў зь непрызнаным Саюзам палякаў у Беларусі, які цягнуўся ўжо не першы год. Была ўзбуджаная крымінальная справа супраць рэгіянальнай актывісткі арганізацыі, дырэктаркі Івянецкага польскага дома Тэрэзы Собаль, і ў лютым праз суд Польскі дом у Івянцы перайшоў да праўладнага Саюза палякаў у Беларусі. Усё кіраўніцтва ды некалькі актывістаў «непаслухмянага» Саюза палякаў у Беларусі былі адміністрацыйна пакараныя, і толькі ўмяшальніцтва ўладаў Польшчы замарозіла гэты канфлікт.

Зь мінулага, 2009 года працягвала разгортвацца крымінальная справа супраць ваўкавыскага прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча і ягоных калегаў, якія спрабавалі змагацца з карупцыяй на мясцовым узроўні. Вялікая ўвага міжнароднай супольнасьці, а таксама беларускіх праваабаронцаў змусілі Вярхоўны Суд адмовіцца ад большай часткі абвінавачваньняў, такіх, як наўмыснае зьнішчэньне альбо пашкоджаньне маёмасьці і падрыхтоўка тэрарыстычнага акта. Паводле гэтых правінаў пракуратура патрабавала для М. Аўтуховіча 20 гадоў зьняволеньня. 6 траўня Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь вынес прысуд: трое абвінавачаных былі асуджаныя за незаконныя дзеяньні ў адносінах да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў. М. Аўтуховіч атрымаў пяць гадоў і два месяцы калоніі ўзмоцненага рэжыму, У. Асіпенка і А. Ларын — па тры гады зьняволеньня. Былы міліцыянт Міхаіл Казлоў быў асуджаны на два

гады пазбаўленьня волі. Беларускія праваабаронцы прызналі гэты крымінальны працэс палітычна матываваным.

Гэтаксама ў 2010 годзе перасьледаваліся маладыя людзі, якія адмаўляліся служыць у войску па рэлігійных матывах. Так, са сьнежня 2009 года ў жодзінскім СІЗА ўтрымліваўся вернік адной з пратэстанцкіх абшчынаў Іван Міхайлаў, якога абвінавачвалі па арт. 435 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь («ухіленьне ад прызыву ў войска»). 1 лютага 2010 года ён быў асуджаны да 3 месяцаў арышту. «Amnesty International» прызнала І. Міхайлава «вязьнем сумленьня».

Працягвалася тактыка ўладаў па адмове ў рэгістрацыі новых няўрадавых арганізацыяў, палітычных партыяў, па забароне масавых мерапрыемстваў і па нерэгістрацыі новых СМІ. Так, 3 лютага быў асуджаны на 10 сутак адміністрацыйнага арышту Іван Шульга, сябра грамадскай арганізацыі «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Ён быў затрыманы ў Менску пры спробе міліцыі ўварвацца ў кватэру, дзе на той час знаходзілася прадстаўніцтва незарэгістраванага ўладамі беларускамоўнага спадарожнікавага тэлеканала «Белсат». У лютым 8 незалежных выданьняў мелі адмовы ў рэгістрацыі. Гэтаксама адмовілі ў рэгістрацыі грамадскаму аб'яднаньню «Берасьцейская вясна» і партыі Беларуская хрысьціянская дэмакратыя.

Люты 2010 года быў адметны пасьлядоўна жорсткім разгонам міліцыяй некалькіх публічных акцыяў, якія праходзілі ў Менску 8, 14 і 16 лютага. Удзельнікаў зьбівалі пры затрыманьні, перавозцы ў РУУС і нават у самім пастарунку. Журналістам перашкаджалі здымаць затрыманьні. У выніку беларускія праваабарончыя арганізацыі пайшлі на беспрэцэдэнтны крок, зьвярнуўшыся да сілавых структураў з прапановаю правесьці перамовы па тэме жорсткага абыходжаньня міліцыянтаў з удзельнікамі мірных акцыяў, а таксама наконт неабгрунтаваных рэпрэсіяў супраць актывістаў Саюза палякаў у Беларусі. Праваабаронцамі была прынятая адпаведная заява. З кіраўнікоў МУС, КДБ і пракуратуры на перамовы ніхто не зьявіўся, але крок праваабаронцаў паўплываў

на зьмяншэньне гвалту над мірнымі дэманстрантамі ў наступныя некалькі месяцаў.

Нечаканы ўдар атрымала пратэстанцкая царква «Новае жыцьцё», канфлікт якой з-за царкоўнага будынка зь менскімі гарадскімі ўладамі цягнуўся ўжо некалькі гадоў. Абшчына была аштрафаваная за «шкоду навакольнаму асяродзьдзю» на суму, роўную 90 тысячам даляраў.

У сакавіку 2010 года беларускія ўлады паказалі, наколькі непасьлядоўнай была абвешчаная імі новая палітыка «лібералізацыі». Праваабаронцы праз родных даведаліся, што, нягледзячы на неаднаразовыя звароты міжнароднай супольнасьці і беларускіх праваабаронцаў з патрабаваньнем устрымацца ад прывядзеньня ў выкананьне сьмяротнага пакараньня, два сьмяротныя прысуды (у дачыненьні да Андрэя Жука і Васіля Юзэпчука) былі выкананыя. Таксама была праігнараваная і аналагічная просьба Камітэта ААН па правах чалавека, які прыняў да разгляду скаргі асуджаных. Міжнародныя арганізацыі (Рада Еўропы, Еўрапарламент і Парламенцкая асамблея АБСЕ) былі ўражаныя жорсткасьцю беларускіх уладаў і выказалі сваё абурэньне і шкадаваньне. Камітэт ААН па правах чалавека абвінаваціў беларускія ўлады ў парушэньні міжнародных абавязальніцтваў.

Праз пару месяцаў, 14 траўня, у Беларусі выносяцца чарговыя сьмяротныя прысуды двум жыхарам Гродна Алегу Грышкаўцову і Андрэю Бурдыку. Гэта адбылося літаральна праз два дні пасьля суровай і ўсеагульнай крытыкі ў адрас Беларусі падчас прадстаўленьня ў Жэневе на сесіі Савета правоў чалавека ААН Універсальнага перыядычнага агляду, справаздачы аб становішчы з правамі чалавека ў Беларусі. Урад нашай краіны праігнараваў абсалютную большасьць рэкамендацыяў, выказаных іншымі дэлегацыямі і беларускімі праваабаронцамі. Яшчэ адзін сьмяротны прысуд Магілёўскі абласны суд вынес гомельцу Ігару Мяліку ў верасьні.

Улетку 2010 года Міністэрства інфармацыі шчодра раздавала папярэджаньні незалежным газетам, пагражаючы фактычна закрыцьцём. Так, папярэджаньні атрымалі «На-

родная воля», «Новы час» (двойчы), «Товарищ» і «Наша ніва» (таксама двойчы). За крытыку мясцовых уладаў была ўзбуджана крымінальная справа супраць рэдактара незалежнага бюлетэня «Бойкі Клецак» Сяргея Панамарова, які быў вымушаны эміграваць, калі справа была ўжо перададзеная ў суд.

16 жніўня быў арыштаваны, нібыта за прадастаўленьне падробленай даведкі аб заробку, беларускі паэт і выдавец Міхась Башура. Сапраўдная прычына ягонага арышту была ў тым, што ён, як выдавец, шчыльна супрацоўнічаў з грамадзянскай кампаніяй «Гавары праўду».

14 верасьня Палата прадстаўнікоў абвясьціла аб прызначэньні выбараў прэзідэнта Беларусі на 19 сьнежня. Вылучэньне А. Лукашэнкі ў чацьвёрты раз на пасаду прэзідэнта не выклікала сумненьня. Што тычыцца альтэрнатыўных дэмакратычных кандыдатаў, то стратэгія вылучэньня адзінага кандыдата ад апазіцыі не знайшла падтрымкі ў значнай часткі дэмакратычнага актыву, і яны пайшлі на выбары асобнымі калонамі. Раздробленасьць дэмакратычных сілаў задавальняла аўтарытарныя ўлады, і пры такім сцэнары «лібералізацыі» краіны ім адводзілася роля масоўкі.

У выніку з адзінаццаці прэтэндэнтаў, якія здалі больш за сто тысяч подпісаў, пасьля праверкі гэтых подпісаў напачатку лістапада былі зарэгістраваныя 10 зь іх. І хаця этапы выбарчай кампаніі, якія датычыліся рэгістрацыі ініцыятыўных груп кандыдатаў, а таксама збору подпісаў за іх вылучэньне, праходзілі ў адносна спакойнай абстаноўцы, фармаваньне выбарчых камісіяў адбывалася ў недэмакратычным рэжыме і толькі 0,25% прадстаўнікоў дэмакратычных партыяў здолелі ў іх патрапіць. Такім чынам, магчымыя фальсіфікацыі падчас падліку галасоў, а значыць і самі вынікі выбараў, былі ўжо закладзеныя ў далейшую ходу выбарчай кампаніі. Апроч гэтага, назіральнікі былі пазбаўленыя магчымасьці назіраць за працэсам праверкі сапраўднасьці подпісаў, сабраных у падтрымку прэтэндэнтаў.

Аднак агітацыйная кампанія ўсіх дзевяці альтэрнатыў-

ных кандыдатаў урэшце здолела разбудзіць актыўнасьць беларускага грамадства.

19 сьнежня ўвойдзе ў гісторыю беларускага народа як «крывавая нядзеля». Зусім непадалёк, на Прывакзальнай плошчы, сто пяць гадоў таму, 18 кастрычніка 1905 года па тайным загадзе менскага губернатара Паўла Курлова за патрабаваньне вызваліць палітычных зьняволеных і за антыцарскія лозунгі была расстраляная мірная дэманстрацыя. Загінула каля 80 чалавек і каля 300 было паранена. Пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу. Але расьсьледаваньне прыйшло да высновы, што губернатар Курлоў «меў права прыняць рашучыя меры». Затым у адместку было два пакушэньні на Паўла Курлова, і ён толькі цудам застаўся жывым.

19 сьнежня перакрэсьліла ўсе спадзяваньні аптымістаў на паступовую лібералізацыю і дэмакратызацыю беларускага рэжыму. Аўтарытарная ўлада сказала «не». І закруцілася бяздушнае кола рэпрэсіяў. Дзясяткі грамадскіх актывістаў ды простых удзельнікаў акцыі пратэсту патрапілі ў СІЗА КДБ і МУС. Іх абвінавацілі ў «масавых беспарадках». Ім пагражае шматгадовае (да 15 гадоў) зьняволеньне. Болей за 700 дэманстрантаў прайшлі праз судовы канвеер і былі асуджаныя ў адміністрацыйным парадку, па краіне пракацілася хваля вобшукаў і допытаў, колькасьць якіх пераваліла за дзьве сотні адных і другіх. Вобшукі і допыты гэтаксама закранулі журналістаў і праваабаронцаў. Такога маштабу парушэньняў правоў чалавека ў краіне ў новай гісторыі яшчэ не было.

19 сьнежня дзясяткі тысячаў беларускіх грамадзянаў таксама сказалі сваё рашучае «не» выбарчым фальсіфікацыям і чацьвёртаму запар тэрміну бязьзьменнага прэзідэнта. І жорсткія рэпрэсіі ў дачыненьні да сваіх палітычных апанентаў — гэта лепшы доказ таго, што ўлады іх пачулі.

Так скончыўся 2010 год. Не заўсёды пацярпелыя зьяўляюцца прайграўшымі. І не заўсёды той, хто выйграў, становіцца пераможцам.

# ШТО ДАТЫЧЫЦЦА ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ СЁНЬНЯ, — ТО ГЭТА ПРОСТА КАТАСТРОФА

## Суды

***— Прайшло некалькі судоў над удзельнікамі акцыі 19 сьнежня. Ці можна зь іх ужо зрабіць пэўныя высновы?***

— Па-першае, адразу ж кідаецца ў вочы палітычны падтэкст гэтых працэсаў, а самі суды, на мой погляд, далёкія ад аб’ектыўнага разьбіральніцтва. Прысуды, якія выносяцца, зусім не суадносяцца з тым, што рабілі асуджаныя. Яны абвінавачваюцца ў «масавых беспарадках». На ўсю ж краіну абвясьцілі, што рыхтаваўся «дзяржаўны пераварот». І вынікам такіх гучных і беспадстаўных заяў зьявілася вось гэтая неадпаведная кваліфікацыя падчас працэсаў.

На судах гэта ўсё цудоўным чынам раскрываецца. З аднаго боку, фармальна суды выконваюць усе працэдуры судовага працэсу, але падчас выступаў адвакатаў і абвінавачаных бачна, што, прынамсі, ніхто з тых сямі асоб, якія ўжо асуджаны, не ўдзельнічаў ні ў якім узброеным супраціўленьні, ні ў падпалах, ні ў нейкіх сапраўды масавых беспарадках. Яны былі ўдзельнікамі акцыі пратэсту супраць шматлікіх парушэньняў заканадаўства падчас выбарчай прэзідэнцкай кампаніі, як і дзясяткі тысяч іншых, якія 19 сьнежня прыйшлі на Плошчу. Я сустракаўся з Іванам Гапонавым, якому прысудзілі штраф (раней ён адсядзеў «суткі»), дык ён сказаў, што і 10 сутак

адміністрацыйнага арышту — гэта шмат за тое, што зрабіў. А дакладней — ён не зрабіў нічога. Але відавочна, што на судзьдзяў ціснуць зьверху, не яны вырашаюць, каму і колькі даць, таму, на жаль, асуджаныя атрымліваюць такое несправядлівае пакараньне. Гэта, урэшце, усё роўна не вызваляе судзьдзяў ад маральнай і чалавечай адказнасьці.

***— Самае цікавае, што і міліцыянеры-сьведкі, якія выступалі ў судах і якія быццам бы пацярпелі падчас акцыі, не змаглі даказаць, што канкрэтныя абвінавачаныя аказвалі супраціўленьне...***

— Так, і ў той жа час да нас прыходзяць людзі, якія распавядаюць сапраўды жахлівыя гісторыі зьбіцьця людзей сілавікамі ў той дзень. Чалавек расказаў, як яго зьбівалі некалькі сьпецназаўцаў. Выбілі палову зубоў, зламалі руку... Тады ён адчуваў, што можа проста памерці, і пачаў прасіць міліцыянераў спыніцца. На судзе ён папрасіў, каб яму далі штраф, а не «суткі», бо была неабходна тэрміновая медыцынская дапамога. І судзьдзя дала-такі яму штраф. Дык вось на такія дзеяньні міліцыі, на зламаныя рукі, ногі, разьбітыя галовы ніводная скарга ў пракуратуру, наколькі нам вядома, па сутнасьці не была разгледжана. Гэта нармальна?

Адным словам, уся гэтая «крымінальная» справа, судзьдзі, бок абвінавачваньня знаходзяцца пад пільным кантролем, бо пры нармальным разьвіцьці падзей першае, што павінны былі б зрабіць незалежныя судзьдзі, — паставіць вялікі пытальнік наконт адпаведнасьці кваліфікацыі самой справы. І, калі не выпусьціць людзей на волю, да чаго заклікаем і мы, беларускія праваабаронцы, і міжнародная грамадскасьць, то, прынамсі, перакваліфікаваць справу, і тады пакараньні былі б меншыя.

***— Як вы ацэньваеце першыя прысуды?***

— Самыя першыя былі вельмі жорсткія. Васілю Парфянкову і Аляксандру Атрошчанкаву — па 4 гады зьняволеньня з адбываньнем пакараньня ў калоніях строгага і ўзмоцненага рэжыму, Дзьмітрыю Новіку — тры з паловай, Аляксандру Малчанаву — тры. Атрошчанкаў фактычна без усялякай доказнай базы атрымаў такі тэрмін.

А вось апошнія прысуды расійскім грамадзянам Арцёму Брэусу і Івану Гапонаву (штраф у памеры 300 базавых велічынь) ды Дзьмітрыю Мядзьведзю (3 гады абмежаваньня волі без накіраваньня ва ўстанову адкрытага тыпу) больш мяккія. У наскрозь палітычную справу ўмяшалася іншая палітыка. МЗС Расіі настойвала, каб адпусьцілі іх грамадзян. І Брэуса з Гапонавым адпусьцілі.

У той жа дзень і ў тым самым судзе судзілі і Дзьмітрыя Мядзьведзя з такой самай слабенькай доказнай базай, што была і ў расіян. І судзьдзя была пастаўлена ў такое становішча, што яго трэба таксама было асудзіць палагодней. Інакш розныя па жорсткасьці прысуды выглядалі б вялізным кантрастам.

Але гэта зусім не значыць, што далей усё будзе ісьці па такім жа сцэнарыі. Я тут большы песіміст. Так, магчыма, не ўсе атрымаюць аднолькава суровыя тэрміны, але ў сваёй большасьці прысуды будуць дастаткова строгімі. І самае істотнае, што ўсе яны будуць палітычна матываванымі і несправядлівымі. Гэта зьвязана з жаданьнем уладаў зьбіць грамадска-палітычную актыўнасць народа, якая выразна праявілася ў сьнежні, не дапусьціць раскалыхваньня грамадства.

**Палітзьняволеныя**

— Арцём Брэус, іншыя затрыманыя распавядалі, як іх прымушалі даць паказанні супраць арганізатараў акцыі. Відавочна, што справа мэтанакіравана «пячэцца» супраць экс-кандыдатаў у прэзідэнты, з тым каб на базе такіх вось сумніўных доказаў асудзіць і іх. Зьяўляецца інфармацыя, што многім людзям падчас сьледства пагражаюць, іх шантажыруюць, каб «выціснуць» паказаньні. А таму меркаваць пра аб’ектыўны падыход сьледчых органаў у гэтай справе, на жаль, не даводзіцца. І ў нас ёсьць падставы казаць, што катаваньне і бесчалавечнае абыходжаньне зь вязьнямі, аб чым расказаў экс-кандыдат Алесь Міхалевіч, ужываліся. Хачу адзначыць, што такое ўтрыманьне зьняволеных не ўкладваецца ні ў якія міжнародныя нормы — ёсьць вялізныя пару-

шэньні міжнародных пагадненьняў па ўмовах утрыманьня, якія Беларусь заключала.

**Адвакатура**

— У сувязі з вышэйназванымі падзеямі адчулі беспрэцэдэнтны прэсінг і адвакаты. Такога раней у практыцы палітычных крымінальных спраў не было. Былі выпадкі ціску на пэўных адвакатаў, калі, напрыклад, вымушаны быў сам напісаць заяву і сысьці з адвакатуры той жа Ігар Рынкевіч, адвакат экс-кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2006 года Аляксандра Казуліна. Можна ўзгадаць Веру Страмкоўскую, калі яе хацелі прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці падчас абароны Васіля Старавойтава. Але зараз ужо намалявалася цэлая схема. Мы бачым, што літаральна за тры месяцы шэсьць адвакатаў былі пазбаўлены ліцэнзій. Гродзенскую адвакатку Валянціну Бусько пакаралі такім чынам толькі за ўдзел у акцыі. Але чаму чалавек у вольны ад працы час не можа выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю? Гэта яшчэ раз паказвае механізм масавых затрыманьняў, калі «бралі» ўсіх без разбору. Цяжка сабе ўявіць, што тая ж інтэлігентная Бусько магла неяк супраціўляцца міліцыі ці нават штосьці выкрыкваць. Паўтаруся, чалавек прыйшоў, каб выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю. Акрамя таго, многія адвакаты не маглі ці не могуць у поўнай меры выконваць свае адвакацкія абавязкі. Ім ствараюцца штучныя перашкоды, каб яны не маглі сустрэцца са сваімі падабароннымі. Сёньня можна чуць заявы, што ў сьледчым ізалятары няма свабодных месцаў для сустрэч, але я ўпэўнены, што гэта зроблена наўмысна. Калі б начальнік СІЗА КДБ сапраўды клапаціўся пра сваіх сядзельцаў, дык ён бы выдзеліў для такіх спатканьняў хаця б свой кабінет.

***— Былі яшчэ франтальныя праверкі раённых адвакатур Менска...***

— Пасьля драконаўскіх праверак Мінюстам раённых адвакатур чацьвёра адвакатаў былі пазбаўлены ліцэнзій. І на

гэтым справа не спынілася. Пазбавілі ліцэнзіі Паўла Сапелку, якi бараніў двух чалавек па справе 19 сьнежня і Зьміцера Дашкевіча. Гэта адназначна ясны сігнал усёй адвакатуры, што адвакаты павінны маўчаць ці паводзіць сябе вельмі і вельмі млява. Маўляў, ваша роля на судзе — роля статыстаў. Гэта наогул ставіць пад пытаньне эфектыўнасьць адвакацкай абароны і падчас гэтага працэсу, і па ўсіх іншых справах, дзе ў спрэчку ўступаюць дзяржава і чалавек. Мы зараз бачым, як на нашых вачах Міністэрства юстыцыі ламае сістэму больш-менш незалежнай адвакатуры.

І калі раней мы не маглі казаць, што ў справах, якія маюць палітычны падтэкст, у нас працуюць аб'ектыўныя суды, што ў такіх справах мы маем аб'ектыўнае сьледства, то зараз зьнішчаецца і апошняе, што засталося, — незалежная адвакатура.

**Праваабаронцы**

***— Праваабаронцы таксама адчулі на сабе ціск?***

— Безумоўна. Вобыскі ў памяшканьнях праваабарончых арганізацый і на прыватных кватэрах беларускіх праваабаронцаў сталі ўжо нормай. Падчас вобыскаў забіралася камп'ютарная тэхніка, дыскі, відэакасеты — усё, што мела дачыненьне да інфармацыі. Было папярэджаньне Мінюста рэспубліканскаму грамадскаму аб'яднаньню «Беларускі Хельсінкскі камітэт» за зварот у Камітэт па правах чалавека. Затым Генпракуратура вынесла афіцыйнае папярэджаньне мне за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Ізноў уключылі ў адносінах да мяне працэдуру асабістага дагляду пры перасячэньні мяжы. Шукаюць носьбіты інфармацыі, як быццам бы нешта нельга перадаць па электроннай пошце ці сказаць у інтэрнэце адкрытым тэкстам. На мой погляд, праваабаронцаў проста хочуць прымусіць замаўчаць.

***— Каб спынілі свае ацэнкі па падзеях 19 сьнежня і сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі?***

— Так. На мінулым тыдні я быў у Жэневе, дзе праходзяць пасяджэньні Савета па правах чалавека ААН, і адно з

пытаньняў, якое будзе пастаўлена на адкрытае абмеркаваньне, — крызісная сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Верагодна прыняцьце сьпецыяльнай рэзалюцыі з патрабаваньнем вызваліць палітычных зьняволеных. У нас адбываліся сустрэчы з нацыянальнымі дэлегацыямі, мы тлумачылі сваю пазіцыю, крытыкуючы беларускія ўлады за варварскія паводзіны ў дачыненьні да палітычных апанентаў.

Натуральна, што беларускім уладам гэта не падабаецца. Таму і ідзе такі ціск. Між тым, мы разумеем, што наш голас вельмі важны, трэба даносіць рэальную сітуацыю з правамі чалавека да беларускіх грамадзян і да іншых краін.

Тое, што датычыцца правоў чалавека ў Беларусі сёньня, — гэта проста катастрофа. Мы разумеем, што ў такой складанай сітуацыі спыняць сваю дзейнасьць ці неяк згладжваць нашу прынцыповую пазіцыю — гэта няправільна. І мы заклікаем усіх неабыякавых людзей, грамадзянскія структуры Беларусі, наадварот, узмацніць сваю актыўнасьць у гэтым годзе. У першую чаргу таму, што мы не павінны дапусьціць распаўсюджваньня атмасферы страху сярод шырокіх слаёў беларускага грамадства.

Пэўнае адчуванне свабоды, магчымасьцяў для самавыражэння вельмі выразна адчувалася за некалькі тыдняў да выбараў, калі людзі маглі свабодна маніфеставаць, ладзіць пікеты, удзельнічаць у сустрэчах. Можна было заўважыць, што людзям не хапала гэтай свабоды, і яны сапраўды ацанілі яе. Зараз улады робяць усё, каб зграбці ўзышоўшае цеста свабоды назад у цесную дзежку, а мы не павінны гэтага дапусьціць. Усе мы.

**Што рабіць?**

***— На ваш погляд, як далей улада бачыць выбудоўваньне адносін з грамадзянскай супольнасьцю?***

— Па-першае, улада не ўспрымае грамадзянскую супольнасць як сацыяльнага ці грамадскага партнёра. Любыя незалежныя грамадскія ініцыятывы для яе — «пятая калона». Усе тыя, хто мае іншы погляд на персьпектывы разьвіцьця

краіны, — у стане ворагаў. Няздольнасьць дамаўляцца, ваяўнічае сектанцтва, ізаляцыянізм, агрэсіўная самаўпэўненасьць і пыха — вось толькі некаторыя рысы сёньняшняй беларускай улады.

Падчас цяперашняга супрацьстаяньня ўлада хоча трымаць грамадзянскую супольнасьць у «цуглях» і захаваць сваю постсавецкую мадэль кіраваньня краінай і разьвіцьця грамадства яшчэ на доўгі перыяд. Пры гэтым асноўныя аргументы ў абарону гэтай мадэлі — што такім чынам забясьпечваецца сацыяльная і эканамічная стабільнасьць грамадства, своечасова выплачваюцца пенсіі, павышаюцца заробкі, няма беспрацоўных... Калі ж размова заходзіць пра грамадска-палітычныя правы, то бяздумна паўтараецца, што ў нас усё добра, у нас і так дэмакратыя. Але гэта хлусьня. Мы добра бачым, як «дэмакратычна» ў нас рэгіструюцца няўрадавыя арганізацыі, якая існуе свабода слова, якія «празрыстыя і дэмакратычныя» выбары. Дайшло да таго, што зноў запрацавалі забаронныя сьпісы няўгодных музыкаў і рок-гуртоў.

Палітычны крызіс, які надышоў, здавалася б, так нечакана, падкрэсьліў усю ненадзейнасьць і ўсю ілюзорнасьць той стабільнасьці, якую будуе беларуская ўлада. Гэта ўсё будуецца на пяску.

Дарэчы, падзеі ў Тунісе, Егіпце паказалі, што рэжымы, якія ганарацца так званай сацыяльнай стабільнасьцю пры адсутнасьці грамадска-палітычных пераўтварэньняў, пры адсутнасьці рэальнай дэмакратыі, рана ці позна «ляснуцца». І чым болей яны існуюць, тым большы грукат будзе стаяць наўкол. Зразумела, што ў краінах Паўночнай Афрыкі былі дастаткова вялікія праблемы ў плане сацыяльнага напружаньня, але відавочна, што людзі выйшлі на вуліцы найперш супраць аўтарытарнага рэжыму як формы кіраваньня дзяржавай. Яны выйшлі за дэмакратычныя перамены і свабоду, за права самім уплываць на разьвіцьцё сваіх краін.

А што мы маем сёньня? Міжнародная грамадскасьць спыняе кантакты зь беларускай уладай, пад вялікім пытаньнем прыход інвестыцый у краіну. Дзясяткі эканамічных праек-

таў, якія планавалася ажыцьцявіць, проста спыняюцца ці пераходзяць у замарожаны стан. Мы можам увайсьці ў эканамічны крызіс у любы момант. Паглядзіце, якая ў нас у апошні час інфляцыя, зь якой хуткасцю праядаюцца залаты і валютны запасы. Замежных крэдытаў такім уладам, хутчэй за ўсё, болей ніхто не дасьць. І гэта ўсё адбываецца на фоне павелічэньня эканамічнай залежнасьці ад Расіі.

Уладам неабходна ліхаманкава шукаць магчымасьць для эканамічнага выратаваньня і трывалага разьвіцьця краіны. У гэтай сітуацыі ўлады, наадварот, павінны былі б зрабіць высновы, не закансервавацца, не запалохваць і не абвяшчаць вайну грамадзянскай супольнасьці, а распачаць, як кажуць, перабудову на маршы. Парадаксальна, але ўлады, на мой погляд, сёньня больш зацікаўлены ў перамоўным працэсе з дэмакратычнай грамадзянскай супольнасьцю, чым сама супольнасьць. Умоўна кажучы, на такія зьмены ва ўладаў засталося яшчэ пяць хвілін. А затым — эканамічны калапс.

Той варыянт «жалезнай рукі» ў эканоміцы і грамадска-палітычным жыцьці, што выбрала ўлада, — ён згубны і вядзе найперш да татальнага сацыяльна-эканамічнага і грамадскага крызісу. Таму тэма еўрапейскіх санкцый, пра якія пачынаюць гаварыць палітыкі ў Еўропе, ужо адыходзіць на другі план. Таму што самае крыўднае і самае вялікае, што страчана, — гэта тыя магчымасьці, якія Беларусь магла атрымаць пры нармальных узаемаадносінах зь Еўрасаюзам.

***— Што ў такой сітуацыі рабіць грамадзянскай супольнасьці?***

— Супраціўляцца путаньню па руках і нагах. Зараз патрэбна шырокамаштабная тлумачальная праца, патрэбны актыўныя дзеяньні ў абарону грамадскіх інтарэсаў, у абарону сваіх правоў. Мы мусім спрыяць працэсу абуджэньня нашага грамадства. Калі сёньняшняя беларуская ўлада не думае пра будучыню нашага народа, а толькі пра свае ўласныя інтарэсы, значыць, пра гэта павінны думаць мы.

*http://spring96.org/be/news/41883*

## УЛАДА ПАГЛЫБЛЯЕ ПАЛІТЫЧНЫ І САЦЫЯЛЬНЫ КРЫЗІС, У ЯКІМ ЗНАХОДЗІЦЦА БЕЛАРУСКІ НАРОД

Беларусь праігнаравала большую частку рэкамэндацыяў, адрасаваных краіне пры разглядзе Унівэрсальнага перыядычнага агляду **(УПА)**, Рады па правах чалавека ААН. Гэта стала вядома зь Меркаваньняў і адказаў Рэспублікі Беларусь па вывадах, прынятых для далейшага разгляду кампетэнтнымі органамі ў ходзе УПА 15 траўня 2010 года. Пра зьмест і прынцыповае значэньне для грамадзянскай супольнасьці краіны гэтых рэкамендацый пойдзе гаворка са старшынёй праваабарончага цэнтра «Вясна» **Алесем Бяляцкім.**

***— Спадар Алесь, наколькі адказы беларускіх уладаў на рэкамендацыі, зьмешчаныя ва Унiвэрсальным перыядычным аглядзе, паказваюць імкненьне ўладаў пачаць дыялог зь еўрапейскай супольнасьцю па паляпшэньні сітуацыі з правамі чалавека?***

— Уважліва азнаёміўшыся з адказамі, на жаль, прыходзіш да высновы, што гэта сапраўды ўсяго толькі *меркаваньні* беларускага боку, бо рэальных адказаў, рэальнага жаданьня штосьці зьмяніць, зыходзячы з тых, вельмі сур’ёзных, рэкамендацый, якія былі зробленыя нацыянальнымі дэлегацыямі розных краінаў, няма. Адказы не маюць дакладнага характару і нагадваюць фармальную адпіску, нягледзячы на сур’ёзнасьць пытаньняў.

Відавочна, што беларускія ўлады не зрабілі аніякіх выс-

новаў з жорсткай крытыкі міжнароднай супольнасьці па татальных парушэньнях у галіне грамадзянскіх і палітычных свабодаў у Беларусі, не здолелі па-шчыраму, па-сур'ёзнаму паставіцца да гэтых прапановаў і фактычна ўсё спусьцілі на тармазах.

Больш таго, мне падаецца, што сам дакумент з боку беларускага ўрада, нягледзячы на тое, што ён напісаны стрыманай дыпламатычнай мовай, выяўляе цынічны характар гэтых адказаў, паколькі амаль ні на адно пытаньне, пастаўленае перад беларускім урадам нацыянальнымі дэлегацыямі многіх краінаў, што прымалі ўдзел у абмеркаваньні рэкамендацый, адказу па сутнасьці не было.

Вось, напрыклад, рэкамендацыя 98.4, адносна катаваньняў і гвалту. Улады ў адказе сьцьвярджаюць, што на заканадаўчым узроўні ўсё добра, што дзейнічае шмат інструментаў абароны асобаў ад катаваньняў, гвалту і іншага зьневажаючага чалавечую годнасьць пакараньня. Таму гэтае пытаньне прызнанае непрымальным. Нібыта на самай справе ў Беларусі не існуе катаваньняў ды гвалту і ніякіх дадатковых мераў па іх спыненьні ў месцах утрыманьня зьняволеных і падчас адбываньня пакараньняў не патрабуецца. Але ж факты сьведчаць зусім пра іншае. І гэта зафіксавана ў Альтэрнатыўным дакладзе, прадстаўленым у Раду па правах чалавека ААН праваабаронцамі. Нават само азначэньне катаваньня ў беларускім заканадаўстве дагэтуль не вызначана.

Наступная рэкамендацыя тычыцца сродкаў масавай інфармацыі. Закіды беларускаму ўраду закраналі тэму абмежаваньня распаўсюду і атрыманьня інфармацыі, цяжкасьцяў пры рэгістрацыі новых перыядычных выданьняў, перасьлед журналістаў.

Аднак у абсалютна бюракратычным адказе пералічваецца колькасьць дзяржаўных і прыватных зарэгістраваных СМІ і паведамляецца, што ніякіх абмежаваньняў у распаўсюдзе інфармацыі не існуе. Гэта, маўляў, сьведчыць пра спрыяльныя ўмовы для дзейнасьці сродкаў масавай інфармацыі і свабоды слова ў Беларусі.

Тыя, хто рэальна ведае, што робіцца ў нас са свабодай слова, ведае аб шматлікіх фактах нерэгістрацыі новых выданьняў, няроўных умовах існаваньня для дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, бясконцых фінансавых праверках і папярэджаньнях незалежным выданьням з боку Міністэрства юстыцыі, ведае пра перасьлед і пагрозы ў бок незалежных журналістаў. Такі адказ уладаў трэба лічыць непрыхаванай хлусьнёю і зьдзекамі з рэчаіснасьці.

Тое ж тычыцца і права на свабоду асацыяцый. Беларускія ўлады цалкам адкідаюць рэкамендацыі УПА. Між тым права на стварэньне новых грамадскіх арганізацый паўсюдна абмяжоўваецца, як і дзейнасьць тых, што былі зарэгістраваныя раней. Ізноў жа называецца колькасьць зарэгістраваных грамадскіх арганізацый і палітычных партый і сьцьвярджаецца, што абмежаваньні існуюць толькі для тых грамадскіх арганізацый, якія займаюцца прапагандай вайны, экстрэмісцкай дзейнасьцю альбо распальваньнем сацыяльнай, рэлігійнай ці расавай варажнечы. Але гэта й так наўпрост прапісана ў Канстытуцыі.

А што казаць тады пра сотні і сотні незарэгістраваных грамадзянскіх ініцыятываў, у тым ліку і праваабарончых? Напрыклад, праваабарончы цэнтр «Вясна» тройчы грукаўся ў дзьверы Міністэрства юстыцыі, атрымліваючы адмову за адмовай. А колькі спробаў за плячыма ў «Берасьцейскай Вясны», у «Маладога Фронту» ды іншых арганізацыяў і партыяў? Варта адзначыць залішнюю складанасьць законаў аб дзейнасьці грамадскіх аб'яднаньняў і палітычных партый, якія патрабуюць сьпецыяльных юрыдычных ведаў як пры рэгістрацыі, так і падчас дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў. Заканадаўства многіх краінаў па гэтым пытаньні значна спрошчанае, не такое зафармалізаванае, як у нас, што дазваляе НДА эфектыўна дзейнічаць на карысьць грамадзянскай супольнасьці.

Тое самае і з пытаньнем аб сьмяротным пакараньні, якое Беларусь палічыла непрымальным. Улады спасылаюцца на вынікі рэферэндуму, які быў праведзены ў падтрымку сьмя-

ротнага пакараньня. Але тым не менш ніякіх захадаў да зьмены сітуацыі, якая істотна абмяжоўвае Беларусь у плане далучэньня да міжнароднай супольнасьці, у прыватнасьці ўступленьне ў Раду Еўропы, дзяржава не робіць.

Непрымальным названае і пытаньне гвалтоўнага зьнікненьня грамадзян, хаця размова вялася пра канкрэтных зьніклых асобаў — палітыкаў і журналіста ў 1999–2000 гадах. У адказе гаворыцца пра тое, што ў Беларусі адсутнічаюць сьведчаньні аб тым, што дзяржорганы і чыноўнікі мелі адносіны да падобнай злачыннай дзейнасьці. Аднак і даклад вядомага палітыка Хрыстаса Пургурыдзіса, і шматлікія выступы беларускіх праваабаронцаў утрымлівалі пералік прозьвішчаў і асобаў, якія рэальна маглі мець да гэтага дачыненьне, сур’ёзна пракуратурай успрынятыя не былі. Лепей зрабіць выгляд, што такой праблемы ў Беларусі не існуе.

Сярод непрымальных і рэкамендацыя аб тым, што ў Беларусі да суду прыцягваюць грамадзян па палітычных матывах. Улады безапеляцыйна адказваюць, што падобныя факты не пацьвярджаюцца. Але практыка апошніх шаснаццаці гадоў сьведчыць зусім пра адваротнае. Гэта чарговая хлусьня! Тысячы грамадзянскіх актывістаў, сярод якіх такія вядомыя палітыкі, як Аляксандр Казулін, Павал Севярынец, Мікалай Статкевіч, Андрэй Клімаў, Міхаіл Чыгір, Уладзімір Кудзінаў, былі прыцягнутыя да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасьці за сваю палітычную дзейнасьць, шмат хто зь іх быў прызнаны вязьнямі сумленьня міжнароднай праваабарончай арганізацыяй «Amnesty International». Такая практыка перасьледу палітычных апанентаў з боку беларускіх уладаў, на жаль, працягваецца.

***— Але ж нешта з гэтых рэкамендацый Беларусь усёткі прыняла альбо выконвае?***

— Патрэбна зазначыць, што ўсе адказы на 38 рэкамендацый можна падзяліць на некалькі катэгорый: прымальныя, непрымальныя, якія рэалізаваныя і якія знаходзяцца на стадыі рэалізацыі. Дык вось нават тут узнікае шмат пытаньняў.

Напрыклад, беларускія ўлады сьцьвярджаюць, што рэалізаваныя рэкамендацыі па нацыянальных меншасьцях, ніякай дыскрымінацыі ні грамадзян, ні іхніх арганізацыяў не існуе і дзяржава фінансава садзейнічае іх разьвіцьцю. Ізноў ілгуць. Куды тады падзець грандыёзны скандал з прадстаўнікамі польскай нацыянальнай меншасьці, які адбыўся напачатку гэтага года? Неаднаразова канфіскоўваліся польскамоўныя бюлетэні, часопісы, многіх актывістаў перасьледавалі ў адміністрацыйным парадку, праводзіліся фінансавыя праверкі, шчыравала КДБ.

Таксама ўлады сьцьвярджаюць, што ў грамадстве рэалізаваны прынцып роўнасьці паміж мужчынамі і жанчынамі. Але мы бачым, і гэта пацьвярджае нават афіцыйная статыстыка, што жанчыны не маюць роўнасьці ў аплаце працы, у прафесійнай дзейнасьці, у грамадска-палітычным жыцьці. Гэта праблемы схаванай дыскрымінацыі, схаванай гендарнай няроўнасьці, якія існуюць у многіх краінах, існуюць таксама і ў нас. І тут трэба не трубіць пераможна ў пустыя трубы, а займацца выпраўленьнем сітуацыі пастаянна, з году ў год. А вось Беларусь умомант рэалізавала гэтую праблему «на паперы» ў адказе на рэкамендацыі УПА.

І яшчэ. Даволі актуальная зараз сітуацыя з прэзідэнцкімі выбарамі. У рэкамендацыях сьцьвярджалася, што заканадаўства па выбарах і самі выбарчыя працэдуры зьяўляюцца недэмакратычнымі, непразрыстымі, несвабоднымі. Гэтыя сьцьверджаньні не дарэмныя: усе беларускія выбары за апошнія 10 гадоў праводзіліся з грубымі парушэньнямі і не прызнаваліся міжнароднай супольнасьцю. Аднак улады перакананыя, што ў Беларусі «адсутнічае неабходнасьць у рэфармаваньні выбарчага заканадаўства». Улады спасылаюцца на тое, што такія зьмены адбыліся і яны забясьпечылі большую дэмакратызацыю. На самай справе беларускія праваабарончыя арганізацыі, якія праводзілі назіраньне за выбарамі ў мясцовыя Саветы вясною гэтага года, прыйшлі да адваротнай высновы: зьмены, унесеныя ў выбарчае заканадаўства ў студзені 2010 года, мала што зьмянілі, мелі касьметычны

характар і амаль не паўплывалі на паляпшэньне празрыстасьці і дэмакратычнасьці выбараў.

Падсумоўваючы адказы беларускага боку, зазначу, што 18 рэкамендацый, прапанаваных на разгляд беларускім уладам, цалкам прызнаныя імі непрымальнымі, 12 рэкамендацый нібыта рэалізаваныя, адна знаходзіцца на стадыі рэалізацыі і 3 былі прынятыя да выкананьня. Гэты аналіз паказвае, што, па вялікім рахунку, улады праігнаравалі заўвагі міжнароднай супольнасьці і ніякіх зьменаў у практыцы пашырэньня свабодаў і дэмакратычных прынцыпаў чакаць пакуль не прыходзіцца.

Такія адказы ніякім чынам не могуць задаволіць беларускіх праваабаронцаў. У тым, што праблемы з правамі чалавека маюць у беларускай дзяржаве такія агромністыя памеры і Беларусь на сёньня зьяўляецца фактычна краінай трэцяга гатунку, — у гэтым вінаватыя беларускія ўлады. На жаль, беларускія ўлады не спрыяюць аздараўленьню сітуацыі, а наадварот, паглыбляюць грамадскі, палітычны і сацыяльны крызіс, у якім знаходзіцца беларускі народ.

*13.10.2010*

*http://spring96.org/be/news/35695*

# ПРАКТЫКА КАТАВАНЬНЯЎ, ГВАЛТУ, НЕПРАЎДЗІВЫХ СФАБРЫКАВАНЫХ ПАКАЗАНЬНЯЎ З БОКУ СУПРАЦОЎНІКАЎ МІЛІЦЫІ ЎВАХОДЗІЦЬ У ПАЎСЯДЗЁННЫ ЎЖЫТАК

**Масавыя затрыманьні і арышты прадстаўнікоў непрызнанага Саюза палякаў, нервовае стаўленьне супрацоўнікаў міліцыі да працы журналістаў, суды і абвінавачваньні ў хуліганстве грамадскіх і палітычных актывістаў маюць пад сабой канкрэтныя прычыны, якія ўлада спрабуе прыхаваць за дэмагагічнымі разважаньнямі аб правах і свабодах чалавека. Гэтыя прычыны называе віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, старшыня праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі ў інтэрв'ю з нашым карэспандэнтам.**

**Кар.:** Спадар Алесь! Апошнія падзеі грамадска-палітычнага жыцьця ў Беларусі і рэакцыя на іх уладаў непакояць многіх грамадзян, і, зразумела, найперш праваабаронцаў. Ці праглядаюцца за жорсткімі дзеяньнямі беларускіх сілавікоў нейкія тэндэнцыі альбо гэта проста выпадковыя з'явы?

**А. Б.:** На жаль, песімістычныя прагнозы праваабаронцаў, якія прагучалі напрыканцы мінулага года, рэальна пачынаюць збывацца. Яшчэ два месяцы таму я казаў, што існуе вялікая верагоднасьць пагаршэньня ўзаемаадносінаў паміж грамадзянскай супольнасьцю і беларускімі ўладамі найперш з прычыны дзьвюх вялікіх нацыянальных кампаніяў, якія

прыпадаюць на 2010 год: адна зь іх — выбары ў мясцовыя Саветы, другая — прэзідэнцкія выбары, падрыхтоўка да якіх пачнецца ўжо сёлета.

Як паказвае папярэдні вопыт «падрыхтоўкі» ўладаў да падобных кампаніяў, такія этапы суправаджаюцца шырокамаштабнымі рэпрэсіямі актыўных грамадзянаў па розных накірунках. Становіцца бачна, што існуе пэўны план, згодна зь якім пад жорсткі прэсінг дзяржавы чарговы раз падпадаюць грамадскія арганізацыі, незалежныя прафсаюзы, сродкі масавай інфармацыі.

Напачатку гэтага года мы адзначылі разгон некалькіх мірных нешматлікіх акцый, якія праводзіла моладзь: 14 лютага, Дзень закаханых, і Дзень салідарнасьці 16 лютага. Мы бачым ціск на Саюз палякаў Беларусі, траўля якіх, дарэчы, была распачатая яшчэ перад папярэднімі прэзідэнцкімі выбарамі ў 2005 годзе, калі Саюз палякаў быў штучна расколаты на дзьве арганізацыі. З тых часоў непрызнаная ўладамі частка Саюза палякаў, якая аб’ядноўвае найбольш актыўных і незалежных прадстаўнікоў польскай нацыянальнай меншасьці, спрабуе адстаяць свае правы, сваю годнасьць і тую частку маёмасьці, якая яшчэ засталася за імі. Характэрным выглядае нядаўні скандал вакол Польскага дома ў Івянцы, гвалтам захоплены міліцыяй, які паказаў цалкам варожае стаўленьне беларускіх уладаў да непрызнанай арганізацыі.

Таксама неабходна адзначыць актыўную і пасьлядоўную практыку нерэгістрацыі няўрадавых арганізацый і палітычных партый, якой улады цьвёрда прытрымліваліся ў 2009 годзе. Ужо з пачатку 2010 года атрымалі канчатковую адмову ў рэгістрацыі ў Вярхоўным Судзе Беларуская хрысьціянская дэмакратыя, у Мінюсьце — Асамблея няўрадавых арганізацый і прафсаюз прадпрымальнікаў «Разам».

Мы фіксуем беспрэцэдэнтны ціск на прэсу, на незалежных журналістаў, якія спрабуюць асьвятляць падзеі грамадскага жыцьця ці акцыі, якія адбываюцца ў Беларусі.

Бачна жаданьне ўладаў не дапусьціць правядзеньня мір-

ных маніфестацый і акцый. Апроч разагнаных у Менску акцыяў можна прыгадаць нядаўнія арышты прадстаўнікоў польскай меншасьці ў Гародні — намесьніка старшыні Саюза палякаў, прэс-сакратара і сябра рады гэтай арганізацыі, пакараньне вялікім штрафам старшыні непрызнанага ўладамі Саюза палякаў Анжалікі Борыс за правядзеньне мірнага мітынгу, які адбыўся ў Гародні якраз з прычыны ўціску актывістаў гэтай арганізацыі.

**Кар.:** Але чаму ўлады так жорстка ставяцца да звычайнай недзяржаўнай арганізацыі, пры гэтым выкарыстоўваючы неадэкватныя метады перасьледу яе сябраў? У чым дзяржава бачыць небясьпеку з боку непрызнанага ж імі Саюза палякаў?

**А. Б.:** Што датычыцца пагрозы з боку польскай нацыянальнай меншасьці для дзяржавы — дык не ведаю, якія таемныя разьлікі маюцца ў нашага КДБ, складаецца ўражаньне, што яны паўсюль шукаюць нейкую небясьпеку, але рэальна патрэбна памятаць, што мы жывём зусім у іншым часе, на календары — XXI стагодзьдзе. Сёньня любая разумная і рацыянальная дзяржава стварае спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў, бо гэта такія ж самыя грамадзяне, як і ўсе астатнія, яны плоцяць аднолькавыя падаткі, яны маюць права на культурнае і нацыянальнае разьвіцьцё, на адукацыю на роднай мове, яны зьяўляюцца зарукаю добрых стасункаў зь іхняй роднай краінаю. А ў Беларусі мы бачым адваротны працэс. Адбываецца ўціск не толькі навучаньня на беларускай мове (колькасьць вучняў у беларускіх школах з году ў год няўхільна і імкліва скарачаецца), але гэта датычыць і вывучэньня польскай мовы ў дзяржаўных школах, я ўжо не кажу пра ўкраінскую ды іншыя мовы нацыянальных меншасьцяў у Беларусі.

Напрыклад, у мінулым годзе на Гарадзеншчыне шмат у якіх школах польская мова была пераведзеная з абавязковага прадмета на факультатыўнае навучаньне, што рэзка зьменшыла колькасьць дзяцей, якія наведваюць такія заняткі. Гэта мы лічым няправільным. Па-першае, у сумежным з

Польшчаю рэгіёне вывучэньне польскай мовы было б карысным для ўсіх, а не толькі для дзяцей з польскіх сем'яў. Відавочна, што гэта ў персьпектыве паспрыяла б эканамічнай канкурэнтаздольнасьці ўсяго гарадзенскага рэгіёна. Па-другое, не мусіць дзяржава аніякім чынам ціснуць на меншасьці, наадварот, згодна з усімі міжнароднымі дамоўленасьцямі, падпісанымі Беларусьсю, яна павінна ім дапамагаць.

Але, на жаль, у нас адсутнічае дзяржаўная канцэпцыя ўзаемаадносінаў паміж дзяржавай і нацыянальнымі меншасьцямі. Ёсьць закасьцянелы Камітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў пры Саўміне, які ачольвае таварыш Гуляка зь ягонымі савецкімі метадамі і падыходамі, галоўная задача якога, падаецца, складаецца ў тым, каб «не пушчаць!». Ну і, зразумела, ёсьць КДБ, які спрабуе ўсунуць свае два пальцы ў любыя грамадскія ініцыятывы і, я перакананы, таксама спрычыніўся да расколу Саюза палякаў Беларусі. Вось і ўся нацыянальная палітыка.

Русіфікацыя беларускаў, палякаў, яўрэяў ды іншых адбываецца ў Беларусі вось ужо болей за 200 гадоў. І гэтыя ўлады ў нацыянальным пытаньні такія ж закарэлыя, як былыя царскі і савецкі рэжымы.

**Кар.:** Вяртаючыся да тэмы пальцаў... Абвешчаны прысуд па справе віцебскагага актывіста Алега Сургана, які атрымаў 6 месяцаў турмы і вялікі штраф па абвінавачваньні ў хуліганстве, а менавіта за тое, што нібыта ўкусіў за палец міліцыянта. Ці прысутнічае тут палітычны перасьлед?

**А. Б.:** Увогуле, сітуацыя ў Віцебску дастаткова напружаная, і пачалося гэта ад пачатку года, пасьля таго як Сяргей Каваленка вывесіў нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг на сьвяточнай навагодняй ёлцы. Пасля гэтай падзеі мясцовыя сьпецслужбы і праваахоўныя органы літаральна ашалелі: пачаліся бясконцыя затрыманьні грамадскіх актывістаў, далі ход справе Алега Сургана, якая была ўзбуджаная яшчэ ў мінулым годзе, а затым прыпыненая. Гэта дастаткова брыдкая справа, што тычыцца паводзінаў якраз прадстаўнікоў віцебскіх праваахоўных органаў. Нагадаю, што А. Сургана

затрымалі і моцна зьбілі за вывешваньне нацыянальнага сьцяга, яго падвешвалі за кайданкі і зьбівалі, ужываючы пры гэтым катаваньні і гвалт. А тое, што ён нібыта падчас яго перавозкі, з кайданкамі за сьпінаю, лежачы на падлозе «казла», біўся галавою аб дзьверы і ўкусіў міліцыянта за палец, — дык гэта ж абсалютна непераканаўча. Нават сустрэчны зыск міліцыянты вылучылі толькі пасьля таго, як А. Сурган зьняў пабоі і была пададзеная скарга ў пракуратуру на супрацьпраўныя дзеяньні работнікаў міліцыі. Тады яны заварушыліся, каб замяць гвалт і катаваньні, што самі і ўчынінілі, і падалі сустрэчны зыск.

Трэба сказаць, што справа гэтая вельмі нагадвае справу іншага віцябляніна Сяргея Парсюкевіча, які быццам таксама напаў на міліцыянта ў менскім сьпецпрыёмніку на Акрэсьціна і быў пры гэтым моцна зьбіты.

Мы перакананыя, што і тут бачная падаплёка ўладаў судамі і арыштамі зьбіць актыўнасьць прадстаўнікоў дэмакратычных колаў Віцебска, пастарацца запалохаць людзей, якія маюць права на выказваньне сваёй думкі. А тое, што ў нас такім чынам забараняецца нацыянальны сьцяг, за гэта людзей прыцягваюць да адміністрацыйнай ці вось такім чынам і да крымінальнай адказнасьці, — гэта проста ганьба сёньняшнім беларускім уладам.

**Кар.:** Ці сьведчыць гэты перасьлед аб тым, што Алег Сурган пацярпеў з-за сваёй грамадзянскай пазіцыі і можна казаць пра чарговага палітвязьня на Беларусі?

**А. Б.:** Я асабіста перакананы, што А. Сурган атрымаў свой тэрмін не за хуліганства, а менавіта за палітыку, што б там у міліцыі ні выдумлялі. Ён быў затрыманы за бел-чырвона-белы сьцяг, і жаданьне сьпісаць гэта на хуліганства, на супраціў міліцыі — гэта ўсё не абгрунтавана і мае пэўны горкі трагікамічны прысмак. Я згадваю навелу Чэхава, калі пасярод горада сабачка ўкусіў залатніка Хрукіна за палец і з-за гэтага ўзьнік вялікі скандал.

Сродкі, якія выкарыстоўваюцца зараз міліцыяй супраць грамадскіх актывістаў, непрыстойныя. Гэта спробы абвіна-

ваціць у хуліганстве нават журналістаў, якія выконваюць свой прафесійны абавязак. Нядаўна мы пачулі прамыя пагрозы ў бок кіраўніка АГП Анатоля Лябедзькі, які быў затрыманы ў Валожыне і якому прыгразілі, што супраць яго таксама можа быць узбуджана крымінальная справа. Гэтыя факты складаюць непрывабную карціну. Праваабаронцы не пагаджаюцца з такой тактыкай сілавых структур па навешваньні брудных ярлыкоў на грамадскіх актывістаў, якія адно дабіваюцца сваіх грамадзянскіх і палітычных правоў, прычым легальнымі, мірнымі сродкамі.

**Кар.:** Спадар Алесь! Прадстаўнікі многіх беларускіх праваабарончых арганізацый накіравалі запрашэньні ў Міністэрства ўнутраных спраў, КДБ, іншыя сілавыя ведамствы з прапановай прыняць удзел у перамовах па пытаньнях свабоды сходаў і забесьпячэньня правапарадку пры правядзеньні мірных сходаў. Чаго вы хацелі дамагчыся ў выніку гэтых перамоў?

**А. Б.:** Сапраўды, у тэрміновым парадку прадстаўнікі розных праваабарончых арганізацый сабраліся разам і прапанавалі кіраўніцтву Міністэрства ўнутраных спраў, КДБ, менскаму міліцэйскаму начальству, а таксама дэпутатам, якія, па ідэі, павінны адказваць за гэтую праблематыку, сустрэцца на перамовах. Мне асабіста спадабалася менавіта такая ідэя: не круглага стала, які звычайна ні да чога не прыводзіць, не просьбаў, а менавіта перамоваў.

Мы хацелі б выкласьці тыя прэтэнзіі, якія маем на сёньняшні дзень да прадстаўнікоў праваахоўных органаў. Мы бачым, што практыка ўжываньня катаваньняў, гвалту, няпраўдзівых сфабрыкаваных паказаньняў з боку супрацоўнікаў міліцыі супраць грамадскіх і палітычных актывістаў Беларусі ўваходзіць у паўсядзённы ўжытак.

Я перакананы, што гэта не мясцовая ініцыятыва сяржантаў альбо прапаршчыкаў, што іх адпаведным чынам інструктуюць і скіроўваюць. Пасьля таго, як мы зьбіраем скаргі ад людзей, якіх зьбівалі АМАПаўцы падчас акцый і затрыманьняў, і накіроўваем іх у пракуратуру, дык пракуратура фактычна пакрывае гэтыя злачынствы.

Пры такой сітуацыі кіраўніцтва ўнутраных спраў, сьпецслужбаў павінны задумацца аб тым, што яны робяць, і прыпыніць крымiналізацыю малодшага саставу праваахоўных органаў, які амаль што легальна займаецца такімі бруднымі справамі, як зьбіцьцё, гвалт і катаваньні грамадзянаў, актывістаў грамадзянскай супольнасьці. Пры гэтым людзей часам проста падстаўляюць, як у справе А. Сургана ці А. Лябедзькі.

У дадзеным выпадку даводзіцца канстатаваць, што беларуская міліцыя з органа, які павінен забяспечваць парадак, ахоўваць правы і свабоды грамадзян, паступова ператвараецца ў карны орган, накіраваны на ахову беззаконьня і ўсёдазволенасьці, орган, які сам бесцырымонна парушае і заканадаўства, і Канстытуцыю Беларусі.

Гэтая сустрэча, на жаль, не адбылася, з боку запрошаных не зьявіўся ні адзін чыноўнік, яны нават не прыслалі, вобразна кажучы, сяржанта з гумовым дручком. Ці пабаяліся, ці пасаромеліся, не ведаю.

Але тым не меней зараз праваабаронцы падрыхтавалі афіцыйны зварот да шэрагу прадстаўнікоў сілавых міністэрстваў з прапановай сустрэцца па вызначаных тэмах у любы зручны для іх час. А з другога боку, мы, безумоўна, будзем максімальна прыцягваць да гэтых праблемаў увагу міжнароднай супольнасьці, бо сёньняшняя сітуацыя супярэчыць падпісаным краінай міжнародным дамовам і пагадненьням і ў рамках ААН і АБСЕ, і ў рамках новай праграмы ЕС і Беларусі «Усходняе партнёрства».

*23.02.2010*

*http://spring96.org/be/news/31647*

## ЧАС ЗРАБІЎ НАМ ВЫКЛІК. МЫ ЯГО ПРЫНЯЛІ

**Гэтае інтэрв'ю з Алесем Бяляцкім рыхтавалася да зборніка, прысьвечанага 15-годзьдзю дзейнасьці праваабарончага цэнтра «Вясна», якое адзначаецца сёлета. У гэтым інтэрв'ю Бяляцкі распавядае не толькі пра гісторыю арганізацыі, мэты яе дзейнасьці, калег, але і пра сваё бачаньне значэньня праваабароны ў дэмакратычных пераўтварэньнях, якія, безумоўна, чакаюць Беларусь у найбліжэйшай будучыні.**

**Інтэрв'ю запісвалася за некалькі дзён да арышту Алеся Бяляцкага.**

*— Спадар Алесь, згадайце, з чаго пачыналася «Вясна»? Як узьнікла сама яе ідэя?*

— «Вясна» пачыналася тады, калі цэлую вясну 1996 года ішлі масавыя акцыі, якія адбываліся з розных прычынаў. У красавіку — у сувязі з так званай Саюзнай дамовай з Расіяй, якую Лукашэнка зьбіраўся заключаць зь Ельцыным. Перад гэтым адзначалася 15 сакавіка — Дзень Канстытуцыі, затым 25 сакавіка — Дзень Волі, калі прайшла вялікая дэманстрацыя па прасьпекце Незалежнасьці да Опернага тэатра і будынка Белтэлерадыёкампаніі на Чырвонай, дзе патрабавалі прамога эфіру, бо тады ўжо былі праблемы з інфармацыяй і яе распаўсюдам. Тады была ўзбуджана крымінальная справа за парушэньне парадку, але яна нічым не скончылася. А 26 красавіка на плошчы Якуба Коласа сабралася 40–50

тысяч чалавек, якія пайшлі затым па прасьпекце Незалежнасьці да цырка і па вуліцы Багдановіча да Палаца спорту, дзе былі праведзены мітынгі. Падчас гэтай дэманстрацыі міліцыя перакрыла дарогу машынамі, былі выстаўлены кардоны АМАПа, і ўсё гэта суправаджалася жорсткімі сутычкамі зь людзьмі. У той дзень было арыштавана больш за 200 чалавек, узбуджана чарговая крымінальная справа. У СІЗА апынуліся Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык, як заяўляльнікі акцыі. Востра ўзьнікла пытаньне тэрміновай дапамогі ў зборы інфармацыі і давядзеньні яе да сваякоў затрыманых, бо паніка тады была нават большая, чым мы бачылі ў 2006 і ў 2010 гадах падчас падобных масавых арыштаў. Проста тады гэта было ўпершыню. Я хачу падкрэсьліць, што да гэтага акцыі, за выключэньнем «Дзядоў» 1988 года, у нас фактычна не разганяліся. Так, былі затрыманьні, быў нейкі млявы перасьлед, але так масава, нахабна і жорстка, як гэта адбылося ў красавіку 1996 года, — такога не было. Мне падаецца, менавіта тады Лукашэнка вырашыў жорсткасьцю сілавых дзеяньняў спыніць масавыя акцыі.

У гэтай сітуацыі ўзьнікла група людзей, якая занялася зборам і распаўсюдам інфармацыі, а таксама матэрыяльнай дапамогай: мы шукалі грошы, прадукты харчаваньня для тых, хто сядзеў па крымінальнай справе і на «сутках». У прыватнасьці, адзін чалавек перадаў нам харчы і мы потым іх раздавалі сем'ям рэпрэсаваных. Гэта было не так шмат, але — чым маглі... Гэтая група працавала прыкладна месяц.

«Закручванне гаек» у той час ішло па розных накірунках. Напачатку красавіка быў затрыманы і сядзеў у СІЗА Славамір Адамовіч. Узьнікла патрэба ў дапамозе яму, бо ягоная маці, пеньсіянерка, сама не спраўлялася. На адным зь мітынгаў мы сабралі пэўную суму грошай і перадалі ёй — на перадачы для Славаміра.

***— Сапраўды, я памятаю, у той час на акцыях хадзілі людзі са скрыначкамі і збіралі ахвяраваньні для палітвязьняў...***

— Так. Цэнтральным накірункам нашай працы стала да-

памога ахвярам палітычных рэпрэсій і інфармаваньне грамадскасьці пра гэтыя рэпрэсіі. Усё рабілася на абсалютна добраахвотных пачатках. У той час я працаваў дырэктарам літаратурнага музея Максіма Багдановіча, быў сакратаром Управы БНФ. Улічваючы, што тады Фронт быў асноўнай актыўнай вулічнай сілай, найбольш ахвяраў было якраз сярод сяброў БНФ.

У 1997 годзе да гэтай працы далучыліся некалькі дзяўчат-валаньцёрак зь ліку супрацоўніц музея — напрыклад, Паліна Сьцепаненка. Паступова мы пашыралі сваю працу і пачалі шукаць кантакты ў рэгіёнах, таму што рэпрэсіі разгарнуліся па ўсёй Беларусі. Нам патрэбны былі людзі, гатовыя працаваць у праваабарончым накірунку па ўсёй краіне, і на працягу 1997 года мы фактычна адбудавалі рэспубліканскую структуру. 23 лютага 1998 года мы зарэгістравалі «Вясну-96» як мінскую гарадскую арганізацыю і адначасова рыхтавалі дакументы для стварэньня нацыянальнай. У 1999 годзе «Вясна» была зарэгістравана як арганізацыя рэспубліканская і ў такім статусе існавала да 2003 года, калі рашэньнем Мінюста і Вярхоўнага Суда яна была зачынена за ўдзел у назіраньні за прэзідэнцкімі выбарамі 2001 года. З тых часоў працуем без рэгістрацыі. Мы ўжо тры разы падавалі дакументы на рэгістрацыю «Вясны», але Міністэрства юстыцыі кожны раз адмаўляла — у 2007 годзе і двойчы ў 2009. Пры гэтым у 2007 годзе Камітэт па правах чалавека ААН прыняў рашэньне, згодна зь якім пазбаўленьне рэгістрацыі «Вясны» прызнана парушэньнем права на свабоду асацыяцыі сяброў нашай арганізацыі. Камітэт таксама заклікаў урад Беларусі аднавіць нашы правы, зарэгістраваўшы «Вясну», але гэта рашэньне да сёньняшняга дня не выканана і мы працягваем працаваць у незарэгістраваным статусе.

***— Вы задаволены тым, чаго дасягнулі за паўтара дзясятка гадоў?***

— «Вясна» ўжо пасьля скасаваньня афіцыйнай рэгістрацыі стала сябрам Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH), а мяне абралі віцэ-прэзідэнтам гэтай арганізацыі, і я

ўжо другі тэрмін ім зьяўляюся. За час нашай дзейнасьці мы займелі шмат замежных партнёраў. Варта адзначыць, што наша праца і ўвогуле праваабарончая дзейнасьць ва ўсім сьвеце будуецца на міжнароднай салідарнасьці і супрацоўніцтве. Дзякуючы гэтаму мы павялічылі эфектыўнасьць сваёй працы, маючы сяброў і шматгадовых партнёраў у розных краінах Еўропы і сьвету, якія дапамагаюць нам ставіць пытаньні Беларусі, напрыклад, у такіх інстытуцыях, як ААН, Рада Еўропы, Еўразьвяз. Міжнародная праваабарончая супольнасьць садзейнічае таму, што «Вясна» фігуруе як значная праваабарончая сіла, якая ўспрымаецца вельмі сур'ёзна, што дазваляе нам, у сваю чаргу, уздымаць праблемы Беларусі на розных узроўнях.

За 15 гадоў мы значна пашырылі сваю працу, і, акрамя традыцыйных, у нас зьявіліся новыя накірункі. Сюды трэба аднесьці і назіраньне за выбарамі: з 2000 года мы рэгулярна ажыцьцяўляем маніторынг выбараў у Беларусі, а таксама бяром удзел у міжнародным назіраньні. З 2001 года «Вясна» зьяўляецца сябрам Еўрапейскай сеткі арганізацый па назіраньні за выбарамі — ENEMO, і вясноўцы маюць досьвед назіраньня за выбарамі ў такіх краінах, як Кіргізія, Азербайджан, Украіна, Польшча, Швецыя, Сербія, Косава, Казахстан і іншыя. Вопыт міжнароднага назіраньня, канечне ж, дазваляе нам параўноўваць выбарчыя законы, умовы правядзеньня выбараў у розных краінах і дапамагае праводзіць унутранае назіраньне на больш высокім і прафесійным узроўні.

Яшчэ адзін важны накірунак нашай дзейнасьці — навучаньне правам чалавека. Перш за ўсё нашы адукацыйныя праграмы накіраваны на моладзь, якая найбольш успрымае каштоўнасьці правоў чалавека і імкнецца атрымліваць веды ў гэтай галіне. Мы працуем і над няспынным павышэньнем прафесійных кампетэнцый калег-праваабаронцаў і юрыстаў, а таксама іншых зацікаўленых мэтавых груп — так што аб'ём працы тут даволі вялікі.

Сябры «Вясны» рэгулярна ўдзельнічаюць у міжнародных

праваабарончых канферэнцыях і мерапрыемствах, каб данесьці аб’ектыўную інфармацыю пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Такім шляхам, нават не маючы на сёньняшні дзень ніякіх стасункаў зь беларускай уладай (апроч таго, што яна займаецца дыскрэдытацыяй праваабаронцаў — метадычна і пасьлядоўна), мы адчуваем наш відавочны ўплыў на яе. Напрыклад, заявы ўладаў пра магчымае ўвядзеньне забароны на выезд зь Беларусі для палітычных і грамадскіх апанентаў сведчаць, што нас успрымаюць як рэальную сілу, зь якой немагчыма не лічыцца.

У прынцыпе, я задаволены вынікамі нашай працы за 15 гадоў. Мы шмат зрабілі для разуменьня важнасьці правоў чалавека палітыкамі і грамадскасьцю Беларусі — тых людзей, якія пасьля зьмяненьня сітуацыі будуць арыентавацца на гэтыя правілы і стандарты ў сваёй дзейнасьці, у адрозьненьне ад цяперашняй улады. Гэта вельмі важна. А другі момант — гэта тое, што мы зьяўляемся важным фактарам успрыманьня грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі, бо наша праваабарончая інфармацыя і ацэнкі займаюць годнае месца і ўспрымаюцца вельмі сур’ёзна.

З другога боку, канечне, ёсьць пэўная незадаволенасьць, таму што асноўная мэта, дзеля якой працуе наша арганізацыя, — павага і захаваньне правоў чалавека ў краіне — яшчэ не дасягнута. Наадварот, у апошнія месяцы сітуацыя яшчэ больш ускладнілася і краіна яшчэ далей адышла ад цывілізаваных нормаў, а правы чалавека згадваюцца прадстаўнікамі ўладаў выключна ў нейкім зьдзеклівым сэнсе. Сам Лукашэнка іх разумее выключна як права на працу і права гаварыць на кухні з жонкай. Гэта, канечне, вельмі жахліва і ўвогуле паказвае вельмі нізкі ўзровень — культурны, цывілізацыйны — сёньняшняй беларускай улады. Таму нам трэба яшчэ шмат працаваць.

***— За 15 гадоў мне давялося чуць вельмі шмат словаў удзячнасьці на адрас праваабаронцаў, але ў той жа час я сустракала і такія закіды, што праваабаронцам ніколі не даюць «суткі», іх не караюць так, як тых, каго яны абара-***

***няюць. І што праз гэта праваабаронцы не разумеюць дакладна таго, што насамрэч адбываецца зь людзьмі ў нашай краіне. Як бы вы гэта пракаментавалі? Я ведаю, што вы самі траплялі на Акрэсьціна, як і іншыя сябры «Вясны», а цяпер увогуле фактычна пад пагрозай крымінальнай справы (пасьля папярэджаньня Генпракуратуры) ходзіце. Якая ж рэальна ступень небясьпекі для саміх праваабаронцаў?***

— Небясьпека існуе. Аднак мы не палітычная партыя, мы не ўдзельнічаем у палітычных працэсах наўпрост. Калі, напрыклад, былі выбары, мы не працавалі на карысьць нейкага кандыдата, а ажыцьцяўлялі назіраньне за выбарчым працэсам. Гэта нейтральная дзейнасьць, на якую і арыентаваныя якраз няўрадавыя арганізацыі, у прыватнасьці «Вясна» і Беларускі Хельсінкскі камітэт.

Што датычыцца акцыяў, якія маюць праваабарончы характар, — у іх, вядома, мы бяром актыўны ўдзел. Падкрэсьліваю, не ў палітычных акцыях, а ў праваабарончых. Гэта і Сусьветны дзень супраць сьмяротнага пакараньня, бо мы заўсёды выступалі і выступаем супраць выкарыстаньня гэтага віду пакараньня. 10 сьнежня, у дзень прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, які адзначаецца ва ўсім сьвеце, мы ў Беларусі таксама традыцыйна праводзім розныя мерапрыемствы. А, напрыклад, у 1998 годзе мы правялі вялікую дэманстрацыю, накіраваную супраць неафашызму, бо на той час РНЕ набіраў сілу ў Беларусі і нават былі выпадкі зьбіцьця людзей прыхільнікамі гэтага руху. На гэтую дэманстрацыю сабралася некалькі тысяч чалавек, і ў выніку я атрымаў 10 сутак зьняволеньня як арганізатар. Можна ганарыцца, у прынцыпе, што я атрымаў «суткі» за антыфашысцкую акцыю.

З праблемамі мы сутыкаемся на працягу ўсёй нашай дзейнасьці, а апошнім часам ціск толькі ўзмацняецца. Напрыклад, за пяць месяцаў пасьля выбараў на офісе «Вясны» ўжо тройчы адбываліся ператрусы, канфіскавана ўся камп'ютарная тэхніка. Таксама ператрусы прайшлі ў нашых адзьдзяленьнях — Маладэчне, Гомелі, Горадні, Рэчыцы. Гэта ўсё

гаворыць пра тое, што ўлады вельмі нервова рэагуюць на праваабарончую дзейнасьць і спрабуюць гэткім жа чынам, як палітычным апанентам і журналістам, заткнуць раты і праваабаронцам. Я атрымаў афіцыйнае папярэджаньне ад Генеральнай пракуратуры за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі — гэта ўжо апошні крок перад узбуджэньнем крымінальнай справы па 193-м артыкуле. Але тым не менш мы працягваем працу, улічваючы тое, што яна мае вялікі міжнародны рэзананс і можа вельмі сур'ёзна, найперш праз уплыў і ціск міжнародных арганізацый, паўплываць на сітуацыю ў Беларусі.

Я б не стаў моцна дзяліць праваабаронцаў зь іншымі актывістамі па тым, што мы знаходзімся ў нейкіх больш ільготных умовах. Наадварот, пасьля 19 сьнежня так атрымалася, што калі палітычныя сілы даволі доўгі час заставаліся ў разгубленым стане, калі зьнізілася палітычна актыўная дзейнасьць, менавіта праваабаронцы і журналісты апынуліся на перадавой змаганьня за дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі. Недарэмна завялі крымінальныя справы на Пачобута і Салея, папярэджаньне мне таксама недарэмна было вынесена. Мы проста бачым, што на сёньняшні дзень журналісты і праваабаронцы выконваюць функцыю гэткага грамадзянскага сумленьня і займаюцца надзвычай важнай справай, а менавіта — распаўсюдам інфармацыі: што ж на самай справе адбываецца ў краіне. Улады баяцца гэтай інфармацыі. Нашы негвалтоўныя метады змаганьня за дэмакратыю і правы чалавека зьяўляюцца для ўлады, па ўсім відаць, вельмі небясьпечнымі.

***— Я ведаю, што «Вясна» ў межах сваёй інфармацыйнай дзейнасьці выпускае некалькі друкаваных выданьняў. Распавядзіце, калі ласка, пра іх падрабязьней.***

— Найперш трэба згадаць наш бюлетэнь «Права на Волю», які выходзіць з 1998 года і рэгулярна асьвятляе сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Ён таксама разьмяшчаецца ў нас на сайце *spring96.org*, які на сёньняшні дзень наведваюць некалькі дзясяткаў тысяч чалавек штомесяц — гэта да-

статкова шмат для вузкапрофільнага сайта. Мы таксама пачалі карыстацца новымі магчымасьцямі распаўсюду інфармацыі, стварыўшы свае старонкі ў папулярных сацыяльных сетках — Фэйсбуку і Твітары. Кожны год, пачынаючы з 1998, мы выпускаем перыядычнае выданьне — нашы Агляды-хронікі парушэньняў правоў чалавека і аналітычныя агляды. І калі ў 1998 годзе гэта была невялічкая брашурка прыкладна на 70 старонках, то ў апошнія гады Агляды заўсёды пераваліваюць за 200 старонак дробнага шрыфту і зьяўляюцца дастаткова ўнікальнымі, таму што ніхто з праваабарончых арганізацый больш такога не робіць. Па нашых Аглядах, па тых яго 13 выданьнях, якія выйшлі за гэтыя гады, можна ацаніць і зразумець увесь драматызм той сітуацыі, якую перажывае Беларусь, пачынаючы з прыходу да ўлады Лукашэнкі. Бачна, як ідзе адчайнае змаганьне грамадскіх актывістаў, дэмакратычных палітычных партый, проста неабыякавых людзей з таталітарным рэжымам за свабоду і дэмакратыю. Вал масавых рэпрэсіяў, адлюстраваны на старонках нашых Аглядаў, паказвае, наколькі цяперашняе кіраўніцтва дзяржавы баіцца згубіць уладу і наколькі яно баіцца актыўных людзей. Дзеля гэтага ўлады гатовы ўжываць любыя сродкі. Хаця, як мне падаецца, гэта вельмі неперсьпектыўны і нават небясьпечны шлях...

Мы выдаём таксама розныя іншыя кніжкі: пра лёсы зьняволеных, навучальныя дапаможнікі, праваабарончыя тэматычныя выданьні і дакументы, якія зьяўляюцца актуальнымі сёньня для беларускіх грамадзян.

***— Я ведаю кнігі, выдадзеныя «Вясной», якія датычыліся не толькі непасрэдна правоў чалавека, але і значных для грамадства падзей. Скажам, пра трагедыю на Нямізе...***

— Так, выданьне было падрыхтавана нашымі супрацоўніцамі Палінай Сьцепаненка і Тацьцянай Рэвяка. Кніга прысьвечана трагедыі, якая так і не была, па сутнасьці, расьсьледавана да канца, а вінаватыя так і не былі пакараны — па прамым указаньні Лукашэнкі справа фактычна была спушчана на тармазах. Мы паспрабавалі паглядзець на тое, што

здарылася, з боку чалавечай трагедыі, нечаканай трагедыі, і ў гэтай кніжцы сабраны інтэрв'ю як пра саму падзею, так і расповеды сваякоў загінулых і тых, хто непасрэдна там пацярпеў.

***— Цікавая і важная была праца. І нялёгкая... Хацела яшчэ задаць асабістае пытаньне. Вы нарадзіліся па-за межамі Беларусі, потым доўга жылі на Гомельшчыне, пабачылі не толькі Беларусь у сваім жыцьці. Ваша праваабарончая праца базуецца на агульначалавечых каштоўнасьцях, пры гэтым вакол вас людзі, якія размаўляюць па-беларуску, што даволі рэдкая зьява ў нашай краіне. Што тут усёткі прэвалюе: беларускае альбо агульначалавечае? Для ўлады праваабаронцы, якія размаўляюць па-беларуску, — гэта адназначна «ворагі», апазіцыя.***

— Для нашай улады праваабаронца, які размаўляе і па-руску, таксама зьяўляецца апазіцыяй. Тут, трэба сказаць, розніцы вялікай не робіцца. Я ж сваю грамадскую дзейнасьць пачаў яшчэ ў часы Савецкага Саюза, калі мы стваралі так званыя нефармальныя аб'яднаньні студэнцкай моладзі. Я маю на ўвазе першую і другую палову 80-х. У незалежніцкім падпольным руху я з 1982 года, фактычна з 20 гадоў. Калі праглядаеш нашы праграмныя дакументы, то бачна, што ставілася задача — дабіцца дэмакратычнай незалежнай Беларусі, у якой бы паважаліся правы чалавека. Для мяне вельмі важным ужо тады было разуменьне: не можа быць Беларусі без дэмакратыі і не можа быць правоў чалавека безь незалежнай Беларусі. Гэта для нас моцна зьвязана гістарычна, таму што на працягу апошніх некалькіх сотняў гадоў любыя папярэднія ўлады мэтанакіравана зьнішчалі беларусаў як народ, зьнішчалі беларускую культуру. У нас былі рэдкія перыяды разьвіцьця, і ўвогуле ўсё, што зьвязана зь беларушчынай, разьвівалася вельмі няпроста і ў складаных умовах. Інтэлігенцыя спалячвалася, зрусіфікоўвалася. Мы зараз бачым, што працэс русіфікацыі працягваецца і сёньняшнімі ўладамі як спадчыньнікамі былога савецкага рэжыму, які таксама прыгнятаў усё беларускае. Таму для нас прын-

цыпова важна падтрымліваць беларускую мову і культуру. Гэтым самым мы таксама выказваем свой праваабарончы погляд на права беларусаў мець і разьвіваць сваю культуру і сваю мову, бо тут у нас сітуацыя катастрафічная. Нават датычна толькі нашай працы гэта відавочна: на сёньняшні дзень на беларускую мову не перакладзены ніводзін кодэкс... Гэтых дакументаў, на якіх базуецца судовая вытворчасьць, судовае справаводства, — іх проста няма! І гэта пазіцыя дзяржавы, якая толькі дэкларуе афіцыйна двухмоўнасьць і дзяржаўнасьць беларускай мовы. Дадзеная сітуацыя паказвае грэблівыя адносіны цяперашніх уладаў да беларускай мовы, з чым я абсалютна не згодны.

Маё жыцьцё непарыўна зьвязанае зь беларускай мовай, хаця вучыў я яе пасьля рускай школы, ва ўніверсітэце, але тым не менш загаварыў у 20 гадоў і вось ужо амаль 30 гадоў пасьлядоўна стараюся гаварыць па-беларуску. Фактычна гэта не проста мова, гэта мая грамадзянская пазіцыя, гэта мой погляд на працэсы, зьвязаныя са зьнішчэньнем беларускай мовы і культуры ў Беларусі. Мае жонка і сын гавораць па-беларуску, гэта мова нашай сям’і.

Да таго ж гэта мова і маёй прафесіі: я пачынаў сваю працу ў літаратурным музеі Максіма Багдановіча, а як літаратурны крытык маю літаратурныя, крытычныя артыкулы, эсэ даследчага плана. Я зьяўляюся сябрам Саюза беларускіх пісьменьнікаў і ПЭН-цэнтра, але, на жаль, не маю дастаткова часу, каб займацца асабістай творчасцю... Быў у свой час старшынёй Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», сябры якога зьяўляюцца зараз ядром беларускай літаратуры. Дарэчы, у гэтым годзе будзем святкаваць 25-годзьдзе з дня ўтварэньня «Тутэйшых», якраз у сьнежні 1986 года мы запачаткавалі гэту арганізацыю.

***— Скажыце, калі ласка, ці лёгка знаходзіць аднадумцаў, не толькі ў плане мовы, вядома, але і ў плане разуменьня важнасьці правоў чалавека?***

— Стварэньне «Вясны» было нашым адказам на той выклік, які паставіў перад намі час. Мы гэты выклік пры-

нялі. У нас ёсьць яшчэ некалькі актыўных праваабарончых арганізацый — сама сітуацыя падштурхнула неабыякавых людзей да стварэньня такіх аб'яднаньняў альбо супрацоўніцтва зь імі.

Трэба адзначыць, што першая праваабарончая арганізацыя ўзьнікла ў Беларусі ў 1988 годзе — «Мартыралог Беларусі», якая займалася рэпрэсіямі 1930–1950-х гадоў і тэмай дэкамунізацыі. Я ўдзельнічаў у працы «Мартыралогу», і мы спрабавалі расплюшчыць вочы людзям, каб яны пабачылі, што на самай справе ўяўляе зь сябе савецкі камуністычны рэжым, якія злачынствы ўчынены ім і якія былі ахвяры. На жаль, не да канца гэта зрабіць паспелі, але ў любым выпадку — імкнуліся да гэтага.

Моцны перасьлед грамадзянскай супольнасьці значна абмяжоўвае рост гэтай самай грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. Гэта датычыць і праваабарончых арганізацый. Шмат хто зь людзей асьцерагаецца адкрыта супрацоўнічаць з намі, але ў той жа час нямала актывістаў, якія працуюць ужо не адзін год, — у нас сітуацыя не самая горшая. За гэты час і юрысты, і грамадскія абаронцы, якія не маюць юрыдычнай адукацыі (як я, напрыклад), дасягнулі ўжо дастаткова высокага ўзроўню прафесіяналізму. Мы ўжо ведаем, як вырашаць тыя праблемы, якія паўстаюць перад намі, і яшчэ лепш разумеем, што трэба для таго, каб зьмяніць сітуацыю, каб прынцыпы павагі да правоў чалавека ляглі ў аснову грамадскага жыцця і грамадскага ўладкаваньня ў Беларусі, што вельмі важна на перспектыву.

***— А што для гэтага трэба?***

— Патрэбны комплексныя змены — і ў дзяржаўным ладзе, і ва ўзаемаадносінах дзяржавы зь людзьмі ў Беларусі. У нас ёсьць добрыя прыклады краінаў, якія перайшлі ад таталітарнага ладу да дэмакратычнага, — гэта нашы суседзі Літва і Польшча, Славакія і Чэхія, у пераходным перыядзе знаходзяцца Балканскія краіны. Еўрапейскі зьвяз, напрыклад, распрацаваў дастаткова высокія стандарты, каб павага да правоў чалавека ўвайшла ў юрыдычную базу, ва ўсе існу-

ючыя законы, — нам таксама трэба імкнуцца да гэтага. Тут не трэба нечага выдумляць, а варта карыстацца добрым вопытам: як пераходзіць зь цяжкай сітуацыі ў лепшую, як гэта разьвіваць надалей.

На сёньняшні дзень мы вымушаны даганяць еўрапейскія краіны. Пры гэтым, займаючыся гісторыяй праваабарончага руху ў Беларусі, я дакладна ведаю: былі такія часы ў канцы XVIII стагодзьдзя, калі наша краіна ішла ледзь не наперадзе ўсёй Еўропы па пашане, павазе, разуменьні значэньня правоў чалавека і па ўкараненьні гэтых правоў у рэальнае жыцьцё. Фактычна мы ішлі за Францыяй сьлед у сьлед. Але на той час Францыя была гэткім бастыёнам дэмакратызму, распаўсюду дэмакратычных ідэяў па ўсім сьвеце. А Беларусь, якая ўваходзіла тады ў Рэч Паспалітую і была цэнтральнай часткай, сэрцам Вялікага Княства Літоўскага, зьяўлялася адной зь перадавых краін. Страта нашай незалежнасьці была паказальнікам барацьбы абсалютысцкіх манархій, якія задушылі Рэч Паспалітую менавіта з той прычыны, што баяліся распаўсюду дэмакратычных ідэяў на свае краіны. Але гэта было даўно, зараз сітуацыя іншая, не безнадзейная.

Я вельмі аптымістычна гляджу наперад, і, думаю, штодзённая няпростая праца беларускіх праваабаронцаў будзе значным унёскам у зьмяненьне сітуацыі ў Беларусі — можа быць, і ў самы бліжэйшы час.

***— Ці сустракаюцца сярод беларускіх дзяржслужачых людзі, якія разумеюць важнасьць правоў чалавека?***

— Сустракаюцца, але баяцца асабліва выказваць свой пункт погляду на гэты конт. Такое разуменьне залежыць шмат ад чаго. Напрыклад, ад таго, ці быў чалавек за мяжой і можа параўнаць узровень свабоды ў іншых краінах і Беларусі. Залежыць ад таго, ці мае чалавек вышэйшую адукацыю, малады ці стары, гэта значыць вучыўся ён у савецкай школе яшчэ па савецкіх канонах ці ў больш дэмакратычнай беларускай школе 90-х. Цэлы комплекс складнікаў фармуе пазіцыю чалавека па тым ці іншым пытаньні. Хаця выпадкі бываюць вельмі розныя. Ёсьць людзі, якія чыста інтуітыўна

арыентуюцца на павагу да правоў чалавека, не маючы ніякай адукацыі. А бываюць вельмі адукаваныя людзі, якія сьвядома топчуць гэтыя правы з матэрыяльных ці кар’ерысцкіх прычын, займаюць разбуральную, варожую пазіцыю. Але я б адзначыў, што не толькі сярод палітычна актыўнай праслойкі, але ўвогуле ў грамадстве сітуацыя зьмянілася: людзі больш разумеюць, што такое правы чалавека, і з большай павагай да іх ставяцца. Правы чалавека паступова становяцца адной з жыцьцёвых каштоўнасьцяў, якую б яны хацелі мець, бо кожны хоча жыць бясьпечна, кожны хоча, каб суд судзіў справядліва. Ніхто не выступае за кепскія ўмовы ўтрыманьня ў турмах, бо ўсе ведаюць, што жыцьцё складаецца па-рознаму: ніхто не хацеў бы, каб месцы зьняволеньня нагадвалі канцлагеры. Так што, нягледзячы на супраціў беларускіх уладаў, настрой людзей, сама структура беларускага грамадства зьмяняецца ў лепшы бок.

*Гутарыла Тацьцяна Сьнітко.*

*http://spring96.org/be/news/45838*

# ВЫСТУП АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА Ў СУДЗЕ Ў 2003 ГОДЗЕ (ЛІКВІДАЦЫЯ ПРАВААБАРОНЧАГА ЦЭНТРА «ВЯСНА»)

**«Закрыццё “Вясны” — гэта не звычайная справа па закрыцьці арганізацыі, якая парушае беларускае заканадаўства ці не працуе і не выконвае свой статут. Мы заканадаўства не парушалі. Мы адкрытыя, мы ўвесь час хочам, каб нас пачулі і прыслухаліся да нашага голасу. Мы ўвесь час працягвалі руку да супрацоўніцтва, у якую нам ўсунулі вось гэты зыск. Нашая справа мае палітычны кантэкст», — заявіў падчас судовых спрэчак старшыня Рады праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі (цалкам выступ А. Бяляцкага).**

*28.10.2003*

Высокі Суд!

На маю думку, існуе два ўзроўні ацэнкі зыску Міністэрства юстыцыі. Першую, фактычную ацэнку яму далі мае калегі па «Вясьне».

Я хацеў бы зьвярнуць увагу на тую атмасферу ўзаемаадносінаў Міністэрства юстыцыі і няўрадавых арганізацыяў, якая існуе на сёньня. Няўрадавымі арганізацыямі неаднаразова прапаноўваўся дыялог міністэрству. Былі неаднаразовыя спробы наладзіць нармальныя, дзелавыя кантакты, падчас якіх можна было б высьветліць і ўладзіць спрэчныя моманты. У канцы мінулага года некалькі няўрадавых арганi-

зацыяў выступілі з адкрытым лістом да Міністэрства юстыцыі, дзе выказвалася занепакоенасьць тымі метадамі працы, ды і самім падыходам да існаваньня няўрадавых арганізацыяў з боку міністэрства. А тэндэнцыі такія: амаль поўнае прыпыненьне рэгістрацыі няўрадавых арганізацыяў, нечувана высокі кантроль за справаводствам і, у выніку, сотні папярэджаньняў за коскі, кропкі і двукосьсі, праблемы з атрыманьнем юрыдычных адрасоў няўрадавымі арганізацыямі.

У выніку, на Каляды летась у нас адбылася сустрэча зь міністрам Галаванавым, дзе мы выказалі занепакоенасьць у тым, што Міністэрства юстыцыі паступова пераўтвараецца з пасярэдніка паміж уладамі і няўрадавымі арганізацыямі, які павінен улічваць інтарэсы не толькі ўладаў, але і няўрадавых арганізацыяў таксама, у жандара, прычым далёка не мудрага, зь якога ўжо за гэтыя коскі і кропкі сьмяяўся і працягвае сьмяяцца ўвесь сьвет. Бо нармальнаму замежнаму грамадзяніну, прычым без розьніцы ўжо, адкуль ён — з усходу ці з захаду, не растлумачыш, што «Вясна» атрымала папярэджаньне за тое, што на пячатцы слова «Праваабарончы» было напісана з малой літары. «Ды якая розьніца? — падумае нармальны чалавек. — Ці ад гэтага праца “Вясны” стане больш ці менш дзейснай? Ці гэта такі сур’ёзны праступак, які варты не вуснай заўвагі, а фактычна афіцыйнага пакараньня арганізацыі?» І існаваньне такога папярэджаньня, дарэчы, з боку міністэрства, мы гэта з вамі чулі падчас працэсу, зьяўляецца адным з камянёў, які навесілі «Вясьне» на шыю, каб нас утапіць.

Але пасьля сустрэчы сітуацыя толькі пагоршылася. Прынамсі дзьве з чатырох няўрадавых арганізацыяў, якія сустракаліся зь міністрам, — гэта «Прававая дапамога насельніцтву» і «Вясна» — сёлета атрымалі зыскі ў суд, і «Прававая дапамога» ўжо юрыдычна не існуе. А сьпіс актыўных, рэальна існуючых і працуючых няўрадавых арганізацыяў, зьнішчаных міністэрствам ці абласнымі ўпраўленьнямі юстыцыі. няўхільна расьце.

Не дапамаглі ні адкрытыя звароты некалькіх дзясяткаў

НДА да Міністэрства юстыцыі спыніць фактычны разбой. Не дапамог і круглы стол, праведзены ўлетку па пытаньнях узаемаадносінаў няўрадавых арганізацыяў і Міністэрства юстыцыі, а таксама іншых урадавых органаў, што маюць стасункі зь няўрадавымі арганізацыямі, на якім, дарэчы, прысутнічаў начальнік упраўленьня Міністэрства юстыцыі, начальнік сп. Фішкінай — Сухінін. І арганізацыя вядучай круглага стала Алены Танкачовай «Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў» атрымала тры «чорныя меткі» — тры папярэджаньні і фактычна стала ў чаргу на ліквідацыю.

Недарэмна сярод актывістаў няўрадавых арганізацыяў такі працэс стасункаў міністэрства з НДА атрымаў вядомы з чачэнска-расійскай вайны тэрмін — «зачыстка».

Ужо амаль 10 гадоў таму быў прыняты Закон аб няўрадавых арганізацыях, які ўпарадкоўваў стасункі паміж NGO і ўладамі. Прычым Закон быў прыняты самімі ўладамі, каб ведаць — што робіцца ў трэцім сектары, хто там існуе, якія ёсьць патрэбы. А зараз гэта ўсё бурыцца, нішчыцца, пляжыцца і пляндруецца. І робіць гэта Міністэрства юстыцыі.

Няўрадавыя арганізацыі зноў, як і пры камуністах, заганяюцца ў падпольле, а ўлады бачаць у іх не партнёра ў грамадскіх узаемадачыненьнях, а суперніка і нават ворага, якога неабходна зьнішчыць.

Прыклад «Вясны» тут проста класічны.

Высокі Суд, абвінавачваньні Міністэрства юстыцыі супраць «Вясны» не вытрымліваюць ніякай крытыкі. За апошнія два гады «Вясна» ўмудрылася не атрымаць аніводнага папярэджаньня, дык тады выкарысталі супраць яе Грамадзянскі кодэкс.

Правяраючыя такім чынам прачыталі статут, у частках, датычных сяброўскіх складак і рэгіянальных арганізацыяў, што так і хочацца адразу згадаць «Пінскую шляхту», дзе асэсар, кажучы словамі аднаго з герояў п’есы, «чырвонае ў белае — усё перадзелае».

Згадалі папярэджаньні за ўдзел «Вясны» ў выбарчай кампаніі. Добра, калі ўлады яе так добра правялі, а «Вясна»

была такая кепская, так парушала заканадаўства, дык чаму ж тады гэтыя выбары ніхто не прызнаў? Як так зрабілася, што толькі ў адной Беларусі з больш чым 50 сяброў АБСЕ, цытую са справаздачы місіі АБСЕ па назіраньні за выбарамі, «Прэзідэнцкія выбары 2001 года не адпавядалі абавязкам па АБСЕ адносна дэмакратычнасьці выбараў, сфармуляваных у Капенгагенскім дакуменце 1990 года, і стандартам Рады Эўропы». У гэтай жа справаздачы напісана, што «на апошнім этапе перадвыбарчага перыяду Міністэрства юстыцыі высунула абвінавачваньні ў парушэньні парадку вылучэньня назіральнікаў супраць ПЦ "Вясна", аднаго зь вядучых грамадскіх аб'яднаньняў "Незалежнага назіраньня"». «Вясна» і 7 іншых НДА атрымалі папярэджаньні за такія як быццам бы маючыя месца парушэньні. 8 верасьня за дзень да выбараў на паседжаньні ЦВК, якое разглядала дадзеныя пытаньні. Кіраўнік «Вясны» прапанаваў зьняць праблему да вечара гэтага самага дня, але прапанова была адхіленая. У выніку Цэнтральнай выбарчай камісіяй была ануляваная акрэдытацыя каля 2 тысячаў назіральнікаў да «Вясны».

А тое, што Міністэрства юстыцыі пераблытала паралельны падлік галасоў з апытаньнем на выхадзе (экзітпулам) і зрабіла некалькі публічных заяваў на гэты конт, паказаўшы сваю некампетэнтнасьць? Хто за гэта будзе рабіць вам папярэджаньні, шаноўныя «сьпецыялісты»?

Адна з прычынаў закрыцьця «Вясны», па версіі Міністэрства юстыцыі, — парушэньне заканадаўства падчас выбараў, а тое што сябры «Вясны» ў апошнія гады праводзілі назіраньне падчас выбараў у Сербіі, Швецыі, Польшчы, Эстоніі, Славакіі, Азербайджане (літаральна зараз). Тое, што 6 сяброў «Вясны» былі ў ліку арганізатараў-супервайзераў выбараў у Косаве ў 2001 годзе, тое, што мы маем каштоўны міжнародны вопыт і аўтарытэт у правядзеньні выбараў і назіраньні за выбарамі — гэта Міністэрства юстыцыі робіць выгляд, што не заўважае.

Праз масавае зьняцьце назіральнікаў ад «Вясны» за дзень да выбараў вылезла кепска прыхаванае жаданьне ўладаў сха-

ваць праўду ад беларускіх грамадзянаў, ад міжнароднай супольнасьці, праўду пра масавыя фальсіфікацыі, пра страшна недасканалае заканадаўства, якое дазваляе маніпуляваць галасамі выбаршчыкаў.

Можа, дзеля гэтага: дзеля будучых парламенцкіх выбараў у 2004 годзе і верагоднага рэферэндуму аб зьмене Канстытуцыі ў частцы дзеючага тэрміну прэзідэнцтва; дзеля нашых перыядычных маніторынгаў па парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі; дзеля адкрытай крытыкі «Вясною» беларускіх уладаў у дачыненьні з грамадзянскай супольнасьцю, з СМІ, з рэлігійнымі канфесіямі, правы якіх парушаюцца, — і атрымала міністэрства сацыяльны заказ — зьнішчыць «Вясну»? «Вясну», якая дапамагае людзям і гаворыць людзям праўду?

Хто аддаў загад зьнішчыць «Вясну»?

Адказваць не трэба, сп. Фішкіна, гэта рытарычнае пытаньне, на якое мы маем адказ.

Вядома, крыўдна, што Міністэрства юстыцыі — міністэрства справядлівасьці выступае сьляпой зброяй у руках, мякка кажучы, несумленных людзей і чыніць фактычнае злачынства. І хто аддаў гэты загад персанальна, я ўпэўнены, раней ці пазьней мы даведаемся, але гэта не здымае віну за тое, што зараз творыцца, з чыноўнікаў міністэрства, пачынаючы ад міністра і канчаючы вамі, спадарыня Фішкіна.

Не спыняе ўлады рэзка негатыўная міжнародная рэакцыя.

Беларускія ўлады, у прыватнасьці Міністэрства юстыцыі, ігнаруюць рэзалюцыю Камітэта па правах чалавека ААН, прынятую ўвесну гэтага года, дзе асобна закранаецца пытаньне прэсінгу ўладаў у дачыненьні да НДА ў Беларусі; не заўважаюць рэзалюцыю Рады Эўропы, у якой ад імя краінаў Рады Эўропы выказваецца такі самы клопат. Возьмем толькі апошнія заявы і лісты, якія прыйшлі на імя міністра юстыцыі ці Лукашэнкі. Так, «Amnesty International», адна з найвядомейшых міжнародных праваабарончых арганізацыяў, «надзвычай занепакоеная нядаўнім закрыцьцём некалькіх НДА, якія заангажаваныя ў падтрымцы і абароне правоў

чалавека ў Беларусі. Закрыцьцё гэтых НДА зьяўляецца адкрытым парушэньнем міжнародных абавязкаў Беларусі ў сферы правоў чалавека.

У Міністэрства юстыцыі на мінулым тыдні зьвярнулася шведская найвядомейшая арганізацыя «За мір і арбітраж», якая зьяўляецца двойчы лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру, якая просіць Мінюст адазваць іск супраць «Вясны», заўважаючы, што «няма і не можа быць сумневу, што працэс ліквідацыі "Вясны" палітычна матываваны і зьяўляецца адной з частак шырокамаштабнай кампаніі супраць НДА ў Беларусі. Праваабарончы цэнтр "Вясна" — адна з найважнейшых і найбольш уплывовых праваабарончых арганізацыяў у Беларусі. Ліквідацыя "Вясны" па палітычных прычынах была б вялікай памылкай з доўгатэрміновымі наступствамі, бо грамадскі сектар у цэлым і праваабарончыя арганізацыі ў прыватнасьці ёсьць і заўжды будуць неабходным складнікам любой добраўладкаванай краіны».

У межах сваёй кампетэнцыі пачала дзейнічаць Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека і сьпецыяльны прадстаўнік генеральнага сакратара ААН па праваабаронцах спадарыня Хіна Джылані, якая сочыць за становішчам беларускіх праваабаронцаў і правааабрончых арганізацыяў.

Урэшце, 23 кастрычніка ў Вене на паседжаньні Пастаяннай Рады АБСЕ выступіў амбасадар ЗША ў АБСЕ сп. Стэфан Мінікес, які заклікаў «беларускія ўлады спыніць атаку на НДА і дазволіць ім уносіць свой каштоўны ўклад у разьвіцьцё беларускага грамадства. Беларусь можа зрабіць першы крок, спыніўшы справу ў адносінах "Вясны", — адзначыў сп. Амбасадар Стэфан Мінікес. — Беларусь ізалюе сябе, і гэта не адпавядае нічыім інтарэсам — ні інтарэсам самой Беларусі, ні інтарэсам любой дзяржавы, чые прадстаўнікі сабраліся за гэтым сталом». Ён адзначыў, што «ў 1990 годзе ў Капенгагене дзяржавы-ўдзельніцы замацавалі магчымасьць індывідуумаў карыстацца правам асацыяцыяў, уключаючы права ствараць і браць удзел у дзейнасьці НДА, якія дабіваюцца абароны правоў чалавека і фундаментальных свабодаў. У Хартыі

еўрапейскай бясьпекі, прынятай на саміце ў Стамбуле ў 1999-м, дзяржавы-ўдзельніцы зрабілі яшчэ адзін крок, замацаваўшы за няўрадавымі арганізацыямі права «ўносіць уклад у далейшае разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці, павагу да правоў чалавека і фундаментальных свабодаў». Атака на трэці сектар у Беларусі супярэчыць гэтым пагадненьням». Вось так гэты працэс характарызуюць замежныя дыпламаты: «Атака на трэці сектар»...

Дадамо ад сябе, што гэтая атака, калі міністэрства выкарыстоўвае беларускае заканадаўства замест дубіны, супярэчыць і 21-му, і 22-му міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, якія падпісала Беларусь.

Але ўлады вырашылі ўзяць на ўзбраеньне вядомы сталінскі прынцып: няма чалавека — няма праблемы. Вось гэтак і з арганізацыямі вырашылі: няма арганізацыі — няма праблемы... Але ці так гэта?

Закрыцьцё "Вясны" — гэта не звычайная справа па закрыцьці арганізацыі, якая парушае беларускае заканадаўства ці не працуе і не выконвае свой статут. Мы заканадаўства не парушалі. Мы адкрытыя, мы ўвесь час хочам, каб нас пачулі і прыслухаліся да нашага голасу. Мы ўвесь час працягвалі руку да супрацоўніцтва, у якую нам ўсунулі вось гэты зыск. Нашая справа мае палітычны кантэкст, як і закрыцьцё іншых праваабарончых, моладзевых арганізацыяў, рэгіянальных рэсурсных цэнтраў ды іншых няўрадавых арганізацыяў, лік якіх ужо пайшоў на дзясяткі. Самае брыдкае, што Міністэрства юстыцыі выступае паслухмяным выканаўцам гэтага палітычнага забойства грамадскіх арганізацыяў.

Фактычна, з паданьнем гэтага зыску ў суд адбылося тое, што мы апошні час і чакалі. Зачыняюць самыя актыўныя, самыя дзейсныя і аўтарытэтныя арганізацыі. Праз гэты зыск беларускія ўлады адзначылі актыўную грамадскую дзейнасьць нашай арганізацыі, нашую прынцыповую пазіцыю ў дачыненьні да сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. І зьнішчэньне "Вясны" сёньня — гэта не столькі праблема "Вясны", колькі праблема ўладаў.

Высокі Суд, Беларусь, як гэта ні сумна прызнаваць, усё хутчэй і хутчэй зьязджае ў багну аўтарытарызму і беззаконьня. І зыск аб закрыцьці «Вясны» — яшчэ адное таму пацьвярджэньне. Закон, на жаль, у нашай дзяржаве значыць усё менш і менш. І, на жаль, сваю непрыглядную ролю тут выконвае Міністэрства юстыцыі, якое павінна было б, наадварот, падтрымліваць аўтарытэт і важкасьць беларускага заканадаўства.

*http://spring96.org/be/news/791*

# АПОШНЯЕ СЛОВА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА НА СУДЗЕ 23 ЛІСТАПАДА 2011 ГОДА

Я згодны з кожным словам адваката. Лічу, што тыя аргументы, якія ён прывёў, маюць дастатковае юрыдычнае абгрунтаваньне і дастаткова падставаў для сур'ёзных адносінаў да іх. У той жа ж час я знаходжуся ў даволі складанай сітуацыі, бо выдатна разумею, што гэтая справа ад пачатку да канца мае палітычны падтэкст, і выступленне адваката і маё апошняе слова, на жаль, нагадваюць голас чалавека, які крычыць у пустыні і якому вельмі цяжка дакрычацца. І я сябе адчуваю зараз тым, які крычыць у пустыні, спрабуючы дакрычацца да сонца. Тым не менш я маю што сказаць.

## Пра палітычны кантэкст перасьледу за праваабарончую дзейнасьць

Пачну, мабыць, з таго, што літаральна перад тым, як я патрапіў у зьняволеньне, мой сябра даў мне пачытаць старую савецкую кніжку пра супрацьдзеяньне КДБ праваабаронцам у Савецкім Саюзе. Кніжка напісаная ў 80-я гады. Яна была дастаткова цікавая, таму што вельмі шмат з таго, што апісваецца там, перагукаецца з тым, што адбываецца ў Беларусі ў апошнія гады. І я вызначыў бы асноўныя задачы, якія ставілі тады сьпецслужбы перад сабою. Першая — дыскрэдытаваць праваабаронцаў, абвясьціць іх тунеядцамі, як гэта было ў выпадку з паэтам Іосіфам Бродскім. Ці абліць бру-

дам, паказаць іх несамастойнасьць, як гэта было ў выпадку з Андрэем Сахаравым. Ці абвінаваціць у фінансавых махінацыях, што тычыцца пісьменьніка Васіля Аксёнава. Ці проста зрабіць вар'ятамі, як было ў дачыненьні да беларускага праваабаронцы Міхася Кукабакі, які сядзеў у «псіхушцы» шэсьць гадоў за тое, што распаўсюджваў Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека ў Беларусі. Сорак гадоў прайшло — і неверагодна, але сітуацыя паўтараецца. Я адчуваю сябе гэтыя апошнія тры з паловай месяцы, як быццам бы я вярнуўся ў Савецкі Саюз. І проста на нейкім іншым узроўні адбылася рэінкарнацыя ўсяго таго, што было раней.

Калі 17 студзеня праводзіўся вобшук у Ракаве, дзе ў нас хата знаходзіцца, ехалі мы на машыне з супрацоўнікамі КДБ (маладыя хлопцы гадоў па 35), дарога туды займала дзесьці гадзіну, і я спрабаваў іх разгаварыць. Пытаюся: «А што вы ўсё працуеце нейкімі старымі метадамі — шантажуеце, вярбуеце людзей, вобшукі гэтыя праводзіце? Няўжо не дастаткова вам той інфармацыі, якая ёсць у інтэрнэце зараз, якую мы гаворым?» Таму што як праваабаронцы мы дастаткова адкрытыя. Дастаткова зайсьці на сайт «Вясны» (вось і шаноўны грамадзянін пракурор гэта пацьвердзіў), там дастаткова інфармацыі пра нашую дзейнасьць — чым мы займаемся, якія нашыя задачы, якія метады. За гэты год толькі я даў чатыры вялікія інтэрв'ю, дзясяткі розных каментароў у СМІ, у тым ліку ў інтэрнэце, якія складаюць дастаткова поўную карціну. Прааналізуйце — і вы будзеце ведаць, чым займаюцца праваабаронцы. Ну, яны сумеліся, і кажуць, маўляў, старыя метады таксама добрыя, так што мы працуем так, як нас вучылі. Ну, я не веру ў тое, што КДБ і іншыя дзяржаўныя службы, якія цікавіліся і цікавяцца дзейнасьцю «Вясны», не ведаюць, чым займаецца «Вясна» і ў прыватнасьці я як старшыня арганізацыі. Калі яны сапраўды бачаць у праваабаронцах, у прыватнасьці ў «Вясьне», канал для перапраўкі ў Беларусь фінансавых сродкаў для «фінансаваньня радыкальнай апазіцыі», як пісаў у сваім лісьце генерал Вягера... Цікава толькі, дзе яны знайшлі гэтую радыкальную

апазіцыю ў Беларусі, няхай бы паказалі! У гэтым выпадку я лічу, што гэта іх недапрацоўка, непрафесіяналізм і ўваходзіць у серыю такіх казак-страшылак, якія мы чулі ў 2006 годзе, калі старшыня КДБ Сухарэнка распавядаў пра радыкальную апазіцыю, якая зьбіралася труціць мінскі водазабор кактэйлем з настоеных на вадзе дохлых пацукоў. Я мяркую, што КДБ добра ведае і ўсьведамляе, чым на самай справе займаюцца праваабаронцы ў Беларусі, і я ў прыватнасці, і сьвядома і мэтанакіравана працуе супраць праваабаронцаў, выкарыстоўваючы любыя метады для іх перасьледу. Гэтая траўля добра арганізавана ў межах выбудаванага рэжыму.

І дастаткова паглядзець: у 1998–1999 гадах была першая перарэгістрацыя няўрадавых арганізацый, калі сотні арганізацый не былі зарэгістраваныя. У тым ліку і «Вясна-96» не прайшла перарэгістрацыю, і «заслуга» ў гэтым Міністэрства юстыцыі. Тая грамадзянская супольнасьць, якая толькі пачала станавіцца на ногі ў 90-х гадах, неяк структурыравацца, афармляцца, — яна адчула моцны прэсінг з боку дзяржавы. І тады ж былі выкінутыя зь Беларусі дабрачынныя фонды, рэзка была абмежаваная магчымасьць легальнага фінансаваньня няўрадавых арганізацый. Руку да гэтага прыклала і Адміністрацыя прэзідэнта. У 2003–2004 гадах была праведзена цэлая кампанія па закрыцьці няўрадавых арганізацый: каля 400 арганізацый былі ліквідаваныя, у тым ліку і праваабарончы цэнтр «Вясна» і яшчэ некалькі праваабарончых арганізацый. І нягледзячы на тое, што ў 2007 годзе было прынята рашэньне Камітэта па правах чалавека ААН аб аднаўленьні рэгістрацыі «Вясны», яно было праігнаравана. І руку да гэтага прыклалі і Міністэрства замежных спраў і Міністэрства юстыцыі. Спроба рэгістрацыі ў наступныя гады была адхілена — Мінюст зноў жа не бачыў патрэбы ў існаваньні праваабарончых арганізацый у Беларусі. А ў 2006 годзе быў уведзены 193[1] — крымінальны артыкул, які перасьледуе дзейнасьць незарэгістраваных арганізацый, што зьяўляецца абсалютным нонсэнсам, бо такога ў сьвеце нідзе няма. Ні ў воднай постсавецкай краіне няма крымінальнага пе-

расьледу за дзейнасьць ад імя незарэгістраваных арганізацыяў [кажа гэта, гледзячы на судзьдзю. — ***Рэд.***]. Нагадаю, што гэтыя зьмены ў крымінальнае заканадаўства былі прадстаўленыя зноў жа старшынёй Камітэта дзяржаўнай бясьпекі. Дарэчы, літаральна пару тыдняў таму Венецыянская камісія вынесла рашэньне аб тым, што гэтыя зьмены ў Крымінальным кодэксе Беларусі не адпавядаюць міжнародным пагадненьням [на гэтых словах судзьдзя ці то з інтарэсам, ці то са зьдзіўленьнем прыпадымае бровы, нібыта чуе ўпершыню. — ***Рэд.***], падпісаным Беларусьсю, якія адносяцца да грамадзянскіх і палітычных правоў. 2011 год асаблівы, калі была арганізавана сапраўдная кампанія траўлі і праваабарончага цэнтра «Вясна», і мяне як старшыні. Хацелі таксама, каб за кратамі апынуўся і Валянцін Стэфановіч, але гэта не атрымалася.

Усё гэта, канешне, складае палітычны кантэкст перасьледу мяне за маю праваабарончую дзейнасьць.

### Пра адносіны ўладаў да праваабаронцаў

Не сакрэт, што ў Беларусі склалася аўтарытарная ўлада, якая не бачыць месца для праваабаронцаў у краіне. Нерэгістрацыя праваабарончых арганізацый зьвязаная менавіта з гэтым. Шмат маіх сяброў, калег былі выкінутыя з афіцыйных месцаў працы за гэтыя гады, яны перасьледаваліся ў адміністрацыйным парадку і іншым чынам. На жаль, улада не церпіць канкурэнцыі — перасьледуе палітычных апанентаў, абмяжоўвае грамадзянскія і палітычныя правы і свабоды — правы на сходы, мітынгі, аб’яднаньні, атрыманьне і распаўсюд інфармацыі, свабодныя і справядлівыя выбары. Улада не дазваляе разьвівацца грамадзянскай супольнасьці, разбурае яе. Грамадская воля паралізаваная апошнім часам. І людзі, большасьць зь якіх знаходзіцца на працоўным кантракце, жывуць пад прэсінгам, страхам. Улада не церпіць крытыкі — перасьледуе журналістаў і праваабаронцаў. І сёлетнія судовыя працэсы — над Андрэем Пачобутам, нада

мною — якраз зьяўляюцца пацьверджаньнем гэтаму. Гэта працэсы з адной абоймы, хаця яны маюць быццам бы фармальна розныя крыніцы. І галоўная супярэчнасьць, інтрыга бачыцца мне ў тым, што ўсе гэтыя дзеяньні ўлады ні ў чым не адпавядаюць ні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, ні міжнародным пагадненьням, якія заключыла дзяржава Беларусь, ужо будучы самастойнай і ўзяўшы на сябе па спадчыне тыя абавязкі, якія ў свой час яшчэ браў Савецкі Саюз. І я, і мае калегі пра гэта гаварылі, мы пра гэта гаворым і будзем гаварыць, таму што гэта ёсьць ісьціна.

Я нагадаю, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, артыкул 36, гарантуе права на свабоду аб'яднаньняў, якое парушаецца, артыкул 34 гарантуе права на атрыманьне і распаўсюд інфармацыі, артыкул 33 — на свабоду меркаваньняў, перакананьняў і іх свабоднае выражэньне, артыкул 59 абавязуе дзяржаўныя органы ў межах сваёй кампетэнцыі прымаць неабходныя меры для ажыцьцяўленьня абароны правоў і свабодаў асоб. Таксама артыкул 21 гаворыць пра тое, што дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзянаў, замацаваныя Канстытуцыяй, законам і прадугледжаныя міжнароднымі абавязкамі дзяржавы. Гэтыя міжнародныя абавязкі — Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, артыкул 19, які гаворыць пра тое, што кожны чалавек мае права на свабоду перакананьняў, на свабоднае выражэньне іх, на свабоду бесьперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананьняў і свабоду шукаць, атрымліваць, распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі. А таксама артыкул 20, які сьцьвярджае, што кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый. Міжнародны пакт пра грамадзянскія і палітычныя правы (які Беларусь падпісала і мусіць выконваць), артыкулы 19 і 22 сьцьвярджаюць практычна тое самае. Існуе дакумент, пра які я казаў раней, — Дэкларацыя ААН пра праваабаронцаў, якая датычыцца непасрэдна працы праваабаронцаў і якая сьцьвярджае, што кожны чалавек мае права індывідуальна і сумесна зь іншымі заахвочваць і імкнуцца абараняць і зьдзяйсьняць правы чалавека і асноў-

ныя свабоды. Гэта значыць — праводзіць мірныя сустрэчы і сходы, ствараць няўрадавыя арганізацыі, асацыяцыі, групы, уступаць у іх і ўдзельнічаць у іх дзейнасьці. Маю права ведаць, шукаць, здабываць, атрымліваць, мець у сваім распараджэньні інфармацыю пра ўсе правы чалавека. Маю права свабодна публікаваць, перадаваць, распаўсюджваць меркаваньні, інфармацыю і веды пра ўсе правы чалавека і асноўныя свабоды. Маю права мець рэальны доступ да ўдзелу ў кіраваньні сваёй краінай праз права прадастаўленьня ва ўрадавыя органы, установы заўвагаў, прапановаў адносна паляпшэньня іх дзейнасьці, прыцягваць увагу да любога аспекту іх працы. Маю права прапаноўваць і прадастаўляць прафесійную і кваліфікаваную прававую дапамогу ў справе абароны правоў чалавека. Маю права на бесьперашкодны доступ да міжнародных органаў, якія валодаюць кампетэнцыяй атрымліваць, разглядаць паведамленьні па пытаньнях правоў чалавека. Кожны чалавек мае права ўдзельнічаць у мірнай дзейнасьці, накіраванай супраць парушэньняў правоў чалавека. А пункт 13 сьведчыць пра тое, што кожны мае права індывідуальна і сумесна зь іншымі запрошваць, атрымліваць і выкарыстоўваць рэсурсы сьпецыяльна для мэтаў заахвочваньня абароны правоў чалавека і асноўных свабодаў мірнымі сродкамі.

Дык навошта ж вы гэтую Дэкларацыю падпісвалі? Я да вас зьвяртаюся як да дзяржаўнага чыноўніка, які прадстаўляе дзяржаву [кажа гэта пракурору Сайкоўскаму. — ***Рэд.***]. Не падпісвалі б! Выйдзіце з ААН, выйдзіце з АБСЕ! Усё будзе нармальна тады, будзе зразумела, дзе мы знаходзімся. Згодна з абавязкамі, узятымі ў рамках АБСЕ, Беларусь бралася паважаць правы сваіх грамадзянаў, самастойна ці сумесна зь іншымі ўносіць актыўны ўклад у разьвіцьцё абароны правоў чалавека і асноўных свабодаў і ўжываць неабходныя меры для эфектыўнага забесьпячэньня гэтага права. Гэта Венская, Мадрыдская сустрэчы, прысьвечаныя пытаньням, якія адносяцца да бяспекі Еўропы. Згодна з Капенгагенскай канферэнцыяй па чалавечым вымярэньні, дзяржавы — удзельніцы

АБСЕ пагадзіліся прадастаўляць розныя магчымасьці праваабаронцам і грамадзянскай супольнасьці для ўдзелу ў заахвочваньні і абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў. Відавочна, што дзяржава парушае гэтыя правы грамадзянаў. Відавочна, што працэсы такога кшталту, як нада мной, маюць палітычны характар.

Адносіны ўладаў да праваабаронцаў у розных краінах без выключэньняў — гэта лакмусавая паперка, па якой можна даволі дакладна вызначыць узровень дэмакратычнасьці грамадства. І як правіла, у аўтарытарных рэжымаў дзейнасьць праваабаронцаў выклікае незадавальненьне. У гэтым шэрагу Беларусь не зьяўляецца выключэньнем. Ёсьць такія постсавецкія краіны, як Узьбекістан, дзе дзясяткі праваабаронцаў сядзяць у турме, асуджаныя па артыкулах, якія выглядаюць значна горш за мой. Падкідваюць два патроны, падкідваюць пяць грамаў наркотыкаў — і садзяць на дзесяць гадоў. Восем чалавек з узьбекскай арганізацыі, якая ўваходзіць у Міжнародную федэрацыю за правы чалавека, віцэ-прэзідэнтам якой я зьяўляюся, зараз знаходзяцца ў зьняволеньні. У Расіі ёсьць Паўночны Каўказ, дзе праваабаронцаў проста забіваюць. Так, у Чачні застрэлілі нашую добрую знаёмую Натальлю Эстэміраву. Ёсьць Кіргізія, дзе праваабаронцаў перасьледуюць незразумелыя ваенізаваныя групіроўкі. І ёсьць Беларусь — з «праўдападобнасьцю» вось гэтага перасьледу. Таму я сьцьвярджаю, што гэтае абвінавачаньне ў нейкіх там фінансавых парушэньнях, парушэньнях падаткавага заканадаўства — гэта поўная лухта, і мая справа не зьяўляецца звыклай і звычайнай справаю. Бо інакш бы гэтае абвінавачаньне не падтрымліваў цэлы начальнік адзьдзела гарадской пракуратуры. І сьледчая група не складалася б з чатырох афіцэраў Дэпартамента фінансавых расьсьледаваньняў, якія, дарэчы, сябе вельмі няўтульна адчувалі, ведучы гэтую справу, і відавочна было, што ім гэтая справа сто гадоў была не патрэбная. Таксама не было б такога ажыятажу вакол будынка суда, што мы назіраем падчас усяго гэтага працэсу. І не было б машыны

ДАІ, якая суправаджае мяне кожны раз з Валадаркі. Я выходжу — і ўсе, каго вязуць на суд, сьмяюцца — што, сёньня зноў зь мігалкай паедзем!

**Пра кампанію ў афіцыйных СМІ**

Асобна трэба сказаць пра афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, якія таксама шмат увагі надаюць гэтаму працэсу і непасрэдна мне. «Беларусь сегодня», афіцыйная дзяржаўная газета, якая выдаецца на сродкі ўсіх падаткаплацельшчыкаў, піша 6 жніўня: *«Специализирующиеся на финансовых расследованиях офицеры уже давно располагали информацией, что господин Беляцкий уверенно самостоятельно распоряжается крупными финансовыми средствами. Говорят о миллионах евро. Не исключено, выяснится, что нынешние пылкие правозащитники получали от этой борьбы неплохие личные дивиденды»*. Інфармацыя ад 10 жніўня: *«Беляцкий имеет на счетах в Вильнюсе большие суммы, которые перевозит в Минск, скорее всего, по карточкам. Беляцкий официально числится безработным, не имеющим официально ни копейки дохода. Официально Беляцкий не имеет ни кола ни двора... Он имеет в резерве еще и неплохой земельный участок, тоже в красивом месте»*. Гэты зямельны ўчастак зьяўляецца заліўным лугам, на якім нельга нічога будаваць, таму што ён ахоўваецца як прыродная гаспадарка і знаходзіцца проста каля маёй хаты. Там мой сусед каня пасе, можна яшчэ ў валейбол пагуляць — вось як бы і ўсе выгоды гэтага ўчастка. 17 лістапада: *«Ему нужно объяснить, как удалось приобрести столько дорогой недвижимости и как это соотносится с правозащитной деятельностью»*. А якая гэта *«дорогая недвижимость»*, мы слухаем па беларускім тэлебачаньні. Канал «Беларусь 1» перадае: *«“Сітраен” за восем тысяч даляраў»*, які рэальна каштаваў 2 300 еўра плюс мыта, гэта 3 000 еўра, і быў увезены сюды пабіты. *«Рамонт кватэры за 60 тысяч даляраў»*. Што гэта за кватэра, на якую трэба такія грошы патраціць? Кватэра, у якой

мы з жонкай жывём, мае плошчу ў 61 метр. *«Адпачывае штогод за мяжой, ходзіць у дарагія рэстараны»* — гэта ўсё гавораць афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі. Я не магу не расцэньваць гэтую інфармацыю як прамы ціск на суд і на прыняцьце рашэньня па гэтай справе, які яшчэ раз падкрэсьлівае, што гэтая справа мае палітычны кантэкст.

**Пра праваабарончы цэнтр «Вясна»**

Падчас гэтага працэсу шмат гаварылася пра праваабарончы цэнтр «Вясна». Я рады гэтаму і хацеў бы яшчэ трошкі дадаць пра гэтую арганізацыю, бо без разуменьня працы праваабаронцаў у Беларусі, без разуменьня тых умоваў, у якіх мы працуем, можа быць, Высокаму Суду будуць недастаткова зразумелыя тыя матывы і эпізоды дзейнасьці, якія разглядаліся падчас судовага працэсу. У Статуце «Вясны» (які ўжо не працуе, бо арганізацыя зачынена) напісана, што ў сваёй дзейнасьці арганізацыя кіруецца дзеючай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, міжнароднымі дамовамі, ратыфікаванымі Рэспублікай Беларусь. Фактычна, гэта так і застаецца. І, як мы бачым, міжнародныя пагадненьні, якія падпісала Беларусь, даюць магчымасьць любому грамадзяніну Беларусі выконваць праваабарончыя абавязкі і быць праваабаронцам. І, назваўшыся праваабаронцам, чалавек мусіць быць праваабаронцам, мусіць выконваць праваабарончыя абавязкі. Мы працуем у гэтых легальных рамках.

І сёлета ўжо 15 гадоў як існуе праваабарончы цэнтр «Вясна», які працуе ў вельмі няпростых умовах, асабліва пасля 2006 года. Я нагадаю, што арганізацыя была створана вясною 1996 года, зарэгістраваная ў лютым 1998 года як гарадская арганізацыя, затым у чэрвені 1999 года — як рэспубліканская арганізацыя. І дзейнасьць, якой займалася «Вясна», яе асноўны накірунак — гэта правядзеньне маніторынгу выкананьня беларускімі ўладамі канстытуцыйных і міжнародных абавязкаў у галіне грамадзянскіх правоў і свабодаў. Гэта ўключае ў сябе разнастайныя віды дзейнасьці — правя-

дзеньне маніторынгу ў заканадаўстве і на практыцы (якім чынам гэтае заканадаўства, гэтыя правы і свабоды ў Беларусі выконваюцца). І натуральна, што адной з асноўных задачаў, чым мы займаліся на працягу ўсіх гэтых гадоў, была дапамога ахвярам палітычных рэпрэсіяў. Першыя палітвязьні ў нас зьявіліся ў 1996 годзе, фактычна гэта і паслужыла штуршком для стварэньня праваабарончага цэнтра «Вясна». За гэты час мы дапамаглі тысячам людзей. Тысячам! Часам гэта была дробная дапамога, часам большая. Гэта дапамога рознага кшталту — збор інфармацыі, распаўсюд інфармацыі. І гэта тая праца, якую больш ніякая арганізацыя не рабіла. Таксама мы займаліся адукацыяй і асьветай, у тым ліку і ў рамках сумесных праектаў з іншымі праваабарончымі арганізацыямі. Гэта і стварэньне Беларускага Дома правоў чалавека ў Вільні, і праца па адукацыі найперш моладзі, і аналітычная праца па напісаньні дакладаў па сітуацыі з правамі чалавека, па сітуацыі з умовамі ўтрыманьня ў месцах зьняволеньня (я зараз маю шмат новай інфармацыі і думаю, што гэты даклад у нас адновіцца калі-небудзь), і правядзеньне назіраньня за выбарамі.

Ліквідацыя ў 2003 годзе праваабарончага цэнтра «Вясна» якраз і звязаная з правядзеньнем назіраньня за выбарамі ў 2001 годзе. Тым не менш з 2004 года праваабарончы цэнтр «Вясна» стаў сябрам Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека. З 2007 года я зьяўляюся віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека — і гэта ёсьць сьведчаньне эфектыўнасьці працы як праваабаронцаў у «Вясьне», так і ўвогуле беларускіх праваабаронцаў. Мы маем дастаткова высокі аўтарытэт. І ўсе прэміі і званьні, якія тут пералічаліся, гэта не ёсьць персанальная заслуга Бяляцкага ці «Вясны». Гэта падкрэсьлівае тую драматычную сітуацыю, якая склалася з правамі чалавека ў краіне, міжнародная супольнасьць такім чынам звяртае ўвагу беларускага ўрада на тое, што трэба тут штосьці мяняць. Беларускі ўрад прымае нейкія іншыя рашэньні, і мы бачым, якім чынам — і шляхам гэтага працэсу — рэагуе на падобныя заўвагі.

Тройчы мы спрабавалі зарэгістравацца: у 2007 і двойчы ў 2009 гадах. Кожны раз працэс рэгістрацыі для нас дастаткова складаная працэдура. Гэта падрыхтоўка Статута, гэта прыезд людзей, калі мусяць прыехаць як мінімум 60 чалавек з рэгіёнаў. І вось падчас апошняй рэгістрацыі на ўстаноўчы сход прыязджае больш за 80 чалавек (можаце прыкінуць, што толькі на праезд гэтыя людзі трацяць грошай у агульнай суме каля тысячы даляраў), арэнда памяшканьня — асобнае пытаньне. Мы зьбіраемся, праводзім гэты сход. Міністэрства юстыцыі чытае дакументы: «ага, у вас памылкі. Вось недакладныя дадзеныя: адзін з вашых заснавальнікаў указаў, што ён зьяўляецца супрацоўнікам сярэдняй школы, а трэба было ўказаць — сярэдняй агульнаадукацыйнай школы; яшчэ адзін напісаў, што ён кіраўнік гуртка, а трэба было напісаць, што ён кіраўнік секцыі, бо так указана ў штатным раскладзе...» І гэта ёсьць падставы! Вярхоўны Суд пагаджаецца — фармальная падстава ёсьць. Калі мы просім у Міністэрстве юстыцыі, каб далі нам час выправіць гэтыя заўвагі, міністэрства кажа: «А мы не маем такога права, мы маем права не даваць гэты час». Гэта ёсьць стаўленьне беларускай дзяржавы да сітуацыі з рэгістрацыяй няўрадавых арганізацый.

Усе гэтыя гады, асабліва апошнія, мы праводзілі грамадзянскія кампаніі — гэта і кампанія супраць смяротнага пакарання, гэта і кампанія «Стоп 193-1», у якой мы бралі ўдзел разам зь іншымі праваабарончымі арганізацыямі, гэта і кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Мы назіралі за выбарамі ў 2008, 2010 гадах. Мы рыхтавалі даклады, выступы, агляды, бралі ўдзел у міжнародных канферэнцыях. Асобна трэба адзначыць міжнародную дзейнасьць праваабарончага цэнтра «Вясна». Мы ўдзельнічалі ў праваабарончых місіях па даследаваньні сітуацыі з правамі чалавека ў іншых краінах. Мы неаднойчы бралі ўдзел у міжнародным назіраньні за выбарамі, сябры арганізацыі маюць сур’ёзны вопыт па правядзеньні выбараў, ведаюць, як праводзяцца выбары ў іншых краінах — ва Украіне, Кіргізіі, Таджыкістане, Расіі, еўрапейскіх краінах. Мы бралі ўдзел у канфе-

рэнцыях, арганізаваных АБСЕ, Радай Еўропы, Еўрапейскім саюзам, Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў, розных форумах і фестывалях, дзе, як я мяркую, дастаткова годна прадстаўлялі Беларусь. І значэньне праваабаронцаў у гэтай сітуацыі, калі рэпутацыя Беларусі за мяжой, у цывілізаваных краінах, гранічна кепская, яно дастаткова вялікае. Таму што мы паказваем, што ў Беларусі ёсьць нармальныя людзі, людзі, якія разумеюць, што такое правы чалавека, што такое дэмакратыя. І ў будучыні, я думаю, ніхто не зможа сказаць, што ў гэтыя складаныя для Беларусі часы ніхто ў краіне нічога не рабіў. Я мяркую, што мы шмат у чым ратуем гонар беларусаў на сёньняшні дзень і надалей будзем рабіць гэта ў любых умовах, дзе б мы ні знаходзіліся — на волі ці ў турме.

**Пра 2010 год як год «паляваньня» на «Вясну»**

Можна меркаваць, што ўвесь 2010 год праходзіла незаконнае патаемнае адсочваньне дзейнасьці праваабарончага цэнтра «Вясна». Пра гэта сьведчаць так званыя дакументы, прадстаўленыя КДБ, якія леглі ў аснову праверкі дзейнасьці маёй і Стэфановіча. Ну і папярэднія гады. Гэта пацьвярджае праца Дома правоў чалавека. У нас ёсьць як мінімум некалькі прызнаньняў пра тое, што сьпецслужбамі туды засылаліся маладыя людзі, студэнты, якія потым як бы прызнаваліся ў тым, што яны давалі зьвесткі пра працу, пра гэтыя навучальныя школы па правах чалавека, якія мы праводзілі. І невядома, якія высновы з гэтага зрабілі зноў жа органы КДБ, але такія факты мелі месца.

І тое, што прадстаўленыя ананімныя дакументы, якія зьявіліся на пачатку ўсяго гэтага расьсьледаваньня, яны былі, як выглядае, здабытыя напачатку 2010 года. Пра гэта сьведчыць дата дакументаў: канец 2009 — пачатак 2010 года. Але хаду ім далі толькі ў канцы кастрычніка 2010 года. Чаму? Я, канешне, відавочна гэта зьвязваю з выбарамі. Таму што ў верасьні былі абвешчаныя прэзідэнцкія выбары 2010 года, і мы, прадстаўнікі розных праваабарончых арганізацый, аб-

вясьцілі правядзеньне кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Гэтая кампанія ставіла за мэту маніторынг усіх этапаў выбараў на адпаведнасьць міжнародным выбарчым нормам і ўнутранаму выбарчаму заканадаўству. Была праведзена адкрытая прэс-канферэнцыя, дзе была дастаткова падрабязна апісана структура гэтага назіраньня, расказана пра тое, колькі людзей будзе ўдзельнічаць, якім чынам будзе адбывацца гэтае назіраньне. Мы былі максімальна і гранічна адкрытыя — бясконца ішлі інтэрв'ю, каментары, ішоў вал інфармацыі пра тое, што бачылі нашыя назіральнікі падчас гэтых выбараў. Трэба сказаць, што склалася ўнікальная сітуацыя, таму што Цэнтральная выбарчая камісія, а таксама тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі рэагавалі на гэтую нашую інфармацыю. Мы маем дзясяткі пацьверджаньняў такіх рэагаванняў. Яны выпраўлялі тыя недахопы, на якія ўказвалі нашыя назіральнікі. Але, тым не менш, актыўнасць праваабаронцаў, як я мяркую, відавочна выклікала вось гэтую праверку і 3 лістапада 2010 года, а гэта яшчэ разгар выбарчай кампаніі і разгар нашага назіраньня, зьявіўся гэты ліст генерал-маёра Вягеры Шведу. І я нагадаю гэтую перапіску, яна дастаткова цікавая.

У гэтым лісьце намесьнік старшыні КДБ зьвярнуўся да намесьніка Генеральнага пракурора Шведа з тым, што *«паступіла ананімная заява... прадстаўнікамі незарэгістраванай арганізацыі ПЦ "Вясна" ў мэтах фінансаваньня радыкальнай апазіцыі выкарыстоўваюцца грашовыя сродкі, якія паступаюць з-за мяжы... яны выкарыстоўваюцца ў супрацьпраўных мэтах, а таксама на асабістыя патрэбы Бяляцкага і Стэфановіча...»* Была просьба аформіць міжнароднае сьледчае даручэньне і накіраваць яго ў кампетэнтныя органы Літвы для праверкі гэтай інфармацыі. У сваю чаргу 15 лістапада 2010 года намесьнік Генеральнага пракурора Швед зьвярнуўся да намесьніка старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Вяромкі, перанакіраваўшы гэты зварот Камітэта дзяржаўнай бясьпекі, з даручэньнем *«правесьці праверку ў дачыненьні кіраўнікоў ПЦ "Вясна" сумесна з супрацоўнікамі*

*КДБ»*. Што такое *«сумесна з супрацоўнікамі КДБ»* — дагэтуль для мяне зьяўляецца вялікай таямніцай. Што там было — ці яны нас на праслушку паставілі, ці яшчэ што — не зразумела. Ну і падзеі 19 сьнежня, канешне, яшчэ больш інтэнсіфікавалі гэтую сітуацыю. Я нагадаю, што ў ноч зь 19 на 20 сьнежня супрацоўнікамі Першамайскага РУУС быў праведзены агляд у маёй кватэры, імі было канфіскавана 17 камп'ютараў, затрымана 12 чалавек, якія займаліся правядзеньнем назіраньня на выбарах. І цікава, што ні паперы, ні дакументы, ні інфармацыя з гэтых камп'ютараў у гэтай справе так і не ўзьнікла, хаця старшыня КДБ Зайцаў зьвяртаўся да Зянона Ломаця з тым, што *«ў выніку канфіскавана аргтэхніка, дакументацыя, якая мае дачыненьне да матэрыялаў праверкі, праведзенай у дачыненьні да кіраўнікоў ПЦ "Вясна", і агляд канфіскаваных прадметаў будзе зьяўляцца легалізаванай доказнай базай у дачыненьні да ўказаных асобаў. Аргтэхніка знаходзіцца ў Першамайскім РУУС горада Мінска. Інфармуем для вырашэньня пытаньня пра ўзбуджэньне крымінальнай справы супраць функцыянераў ПЦ «Вясна»*.

Пасьля сітуацыя была нервовая, зразумела. Цікавым у гэтым плане зьяўляецца наступны дакумент, які прасьвятляе — што ж рабілася далей. 24.12.2010 — даклад старшага інсьпектара маёра Кулака, які паведамляе, што *«23.11.2010 ім была праведзена працоўная нарада з прадстаўнікамі КДБ Сінягубам і Мацкевічам»* — гэта, я падазраю, куратары «Вясны» — *«па выніках якой выпрацаваны напрамкі дзейнасьці па ўказаных матэрыялах праверкі»*. Значыць, адбылася гэтая нарада з супрацоўнікамі КДБ, а потым яны пайшлі ў пракуратуру. 25.11.2010 — *«у пракуратуры горада Мінска была праведзена працоўная нарада з начальнікам адзьдзела па наглядзе за выкананьнем падатковага заканадаўства грамадзянінам Сайкоўскім»*. [Наступнае пытаньне Алесь Бяляцкі адрасуе пракурору Сайкоўскаму. — ***Рэд.***] Вось цікава было б, каб вы распавялі, пра што вы там размаўлялі падчас той нарады [тут пракурор, заёрзаўшы на сваім месцы, з ухмыл-

кай усімі спосабамі — жэстамі, позіркам і словамі пачаў перанакіроўваць увагу Бяляцкага ад сябе «да суду» — ***Рэд.***]. Грамадзянін Сайкоўскі сьпецыялізуецца на падатках. У яго ў адной руцэ 203-і, а ў другой — 243-і, ён адной падразае, а другой — па галаве. Адной падразае, а другой — па галаве. Я так мяркую. І гэтыя падыходы, якія выкарыстоўваліся ў дачыненьні да бізнесменаў, былі выкарыстаныя і ў дачыненьні да «Вясны». Маёр Кулак піша, што *«падчас гэтай нарады з грамадзянінам Сайкоўскім у дзеяньнях Бяляцкага і Стэфановіча не ўгледжаны склад злачынства, прадугледжанага артыкулам 233, паколькі адсутнічае факт зьдзяйсьненьня прадпрымальніцкай дзейнасьці і атрыманьня даходу ад гэтай дзейнасьці. Але кваліфікаваць дзеяньні апошніх па артыкуле 243 у частцы атрыманьня даходаў магчыма пасьля атрыманьня інфармацыі ад падразьдзяленьня фінансавай выведкі Літвы, устанаўленьня фактаў аб няспалаце падаходнага падатку па выніках падатковай праверкі ў буйным памеры»*. Фактычна, 25 лістапада 2010 года была вырашана ўся парадыгма і ўсе наступныя дзеяньні ДФР, сьледства на працягу ўсіх гэтых месяцаў. Таму што па 233-м артыкуле далей праверка праводзілася за ўвесь гэты месяц, і ў дакладзе Кулака пра гэта пішацца, што *«падчас працы па матэрыяле ў Дэпартаменце фінансавага маніторынгу выпатрабавана інфармацыя ў дачыненьні да Бяляцкага, Стэфановіча і іх сваякоў, дзейнасьці ПЦ «Вясна» і фінансавых аперацыяў, якія маглі б быць зьвязаныя з атрыманьнем злачынных даходаў ад ажыцьцяўляемай ПЦ «Вясна» дзейнасьці. Згодна з рэсурсамі, гэтая дзейнасьць не ўстаноўленая. Выпатрабаваньне дэкларацыі пра даходы і маёмасьць Бяляцкага і Стэфановіча, а таксама праверка дакладнасьці ўказаных там зьвестак у цяперашні час праводзіцца падатковымі органамі ва ўзаемадзеяньні з супрацоўнікамі КДБ...»* Зноў супрацоўнікі КДБ — яны ўзаемадзейнічалі з ДФР, з падатковымі органамі. Вось чаму я сьцьвярджаю яшчэ раз, што справа гэтая ад пачатку да канца курыравалася КДБ. Праверка па 233-м артыкуле нічога не дала. Адпаведна, пай-

шла праверка празь Міністэрства падаткаў і збораў. Гэтая праверка працягвалася да атрыманьня як быццам бы зьвестак зь Літвы і з Польшчы, што адбылося толькі ў красавіку.

Паралельна, я хацеў бы заўважыць, праходзілі іншыя дзеяньні, якія сьведчаць пра перасьлед праваабаронцаў у Беларусі. 17 студзеня 2011 года — вобшук, праведзены КДБ ва ўсіх маіх памяшканьнях (у кватэрах і ў доме ў Ракаве), падчас якога былі канфіскаваныя пэўныя паперы, ноўтбук. Дзе інфармацыя з гэтых папераў? Там, дарэчы, былі нейкія фінансавыя паперы, якія маглі б быць цікавымі падчас гэтага сьледства. Супрацоўнікі КДБ, мабыць, вырашылі іх не прадстаўляць, таму што, магчыма, яны сьведчылі б якраз супраць той версіі, якую афіцыйна на сёньняшні дзень выкладае спадар Сайкоўскі. 16 лютага 2011 года генпракуратурай было вынесена папярэджаньне мне за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. І з чым яно зьвязана, як не з праваабарончай дзейнасьцю, — патлумачыць немагчыма.

Паралельна праводзілася дыскрэдытацыя ў сродках масавай інфармацыі. Асобна я хачу зьвярнуць увагу на матэрыял, які быў зьмешчаны ў газеце «Беларусь Сегодня» адразу пасьля выбараў, дзе фігуруюць фактычна тыя самыя дакументы, якія былі прадстаўленыя ананімна КДБ для праверкі ў ДФР. Якім чынам «Беларусь Сегодня» атрымала гэтыя дакументы? Можа быць, яна зьяўляецца органам Камітэта дзяржаўнай бясьпекі? Няхай шаноўны, так сказаць, Якубовіч тады падпіша «Беларусь Сегодня. Орган КДБ» і друкуе тады гэтыя дакументы. Тым не менш гэтыя дакументы з'явіліся напачатку студзеня фактычна. Там былі яшчэ фотаздымкі іншых дакументаў. Бачна, што дыскрэдытацыя дзейнасьці праваабаронцаў ішла фактычна паралельна.

### *Пра абвінавачаньне*

Калі паглядзець тыя «банкаўскія раздрукоўкі», якія былі прадстаўлены падчас сьледства, хачу толькі паўтарыць, што яны не выклікаюць у мяне ніякага даверу. Я лічу, што яны

не сапраўдныя. І нават з улікам гэтага, у гэтых радках няма ніводнага пераводу сродкаў без пазнакаў, і ўсе пазнакі сьведчаць пра тое, што існаваў кантроль за сродкамі з боку партнёраў «Вясны», указваліся мэты расходу гэтых сродкаў. Таксама відавочна, што я не распараджаўся гэтымі сродкамі, гэтыя сродкі прызначаліся не для мяне, а для «Вясны». Што датычыцца актаў падатковай інспекцыі, я лічу іх незаконнымі. Гэтыя акты грунтуюцца на несапраўдных зьвестках, на поўным неразуменьні сэнсу гэтых зьвестак супрацоўнікамі Міністэрства па падатках і зборах, якія складалі гэтыя акты.

З 16 чэрвеня, калі такі акт быў прадстаўлены мне, па 4 жніўня, дзень майго арышту, я выязджаў зь Беларусі і вяртаўся ў Беларусь як мінімум шэсьць разоў. Таму ўсе меркаваньні, што я магу зьнікнуць падчас расьсьледаваньня гэтай справы, застацца за мяжой, не маюць ніякіх падставаў. Я адчуваю сябе абсалютна невінаватым. І мяркую, што, наадварот, гэтыя ўмовы свабоднага выезду і ўезду былі прадастаўлены мне для таго, каб, магчыма, я зьехаў і такім чынам ускосна пацьвердзіў сваю віну ва ўтойваньні так званых падаткаў.

**«Праваабарончай дзейнасьцю, і ўвогуле грамадскай дзейнасьцю, я займаюся практычна ўсё маё жыцьцё. У гэтым годзе — 30 гадоў як я займаюся грамадскай дзейнасьцю. І перыяд, калі я адчуваў сябе больш-менш спакойна і свабодна, — гэта з 1991 па 1995 год. Пры такой кепскай сітуацыі, якая склалася ў краіне перманентна на працягу апошніх гадоў, натуральна, што крымінальны перасьлед мог пачацца ў кожную хвіліну, у кожны год. І тое, што магло адбыцца, — адбылося. Таму я не шкадую ні пра адзін свой крок, зроблены за гэтыя 30 гадоў у плане абароны дэмакратыі, правоў чалавека ў Беларусі. Я гэта рабіў сьвядома».**

*Паводле дыктафоннага запісу з судовага паседжаньня.*

# ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ

# ЗЬМЕСТ

